# СВЕТ ЯГО ВАЧЫМА

Раман Сабаленка нарадзіўся 15 кастрычніка 1907 года ў вёсцы Сабалі Брагінскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і селяніна. Яго першыя жыццёвыя універсітэты звязаны з працоўнай дзейнасцю: з паўгода давялося вучыцца кавальскай працы, амаль столькі ж спасцігаў краўцоўства. Не стаўшы ні кавалём, ні краўцом, вывучыўся араць, баранаваць, хадзіць з сярпом і касой. Але больш за ўсё дзіцячая свядомасць цягнулася да святла ведаў, яго душа «некуды рвалася, нечага прагла», ёй «карцела нешта большае». Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя дала магчымасць хлопцу з мнагадзетнай сялянскай сям'і закончыць Гомельскі педтэхнікум, а затым вучыцца ў педінстытуце, стаць журналістам, пісьменнікам, адкрыла перад ім шырокія далягляды.

У творчасці Сабаленкі яскравы адбітак знайшоў даваенны час, перыяд станаўлення новых матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей пад уплывам сацыяльных перамен. Пра гэты час пазней пісьменнік выкажацца так: «То былі гераічныя гады самаахвярнай працы нашага народа, які надгаладзь, не пакладаючы рук, будаваў новае жыццё. Трыццатыя гады — час складаны, суровы і супярэчлівы» («Пяцьдзесят чатыры дарогі». Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменікаў. Мн., 1963, с. 443). Гераічны подых і складанасць перыяду даваенных пяцігодак адчуваецца ва ўсёй непаўторнасці ў многіх Сабаленкавых апавяданнях, якія склалі кніжкі «Жменя зярнят» (1957), «Сустрэчы» (1958), «Блакітнае ззянне» (1959), «З пройдзеных дарог» (1962), «Паляўнічыя боты» (1962), «Пад дажджом і сонцам» (1966), «Спатканне пасля разлукі» (1971), «Роздум у дарозе» (1973), а таксама ў трылогіі «Іду ў жыццё», якая складаецца з аповесцей «Юнацтва ў дарозе» (1958), «Выпрабаванне сталасці» (1960) і «Былое застаецца ў сэрцы» (1961). Многа ўвагі ўдзяляе пісьменнік адлюстраванню сучаснасці, раскрыццю складаных маральнаэтычных праблем (аповесць «Лора», 1966), трэцяя частка трылогіі). Закранаецца Сабаленкам і ленінская тэма (апавяданні «Пад чырвоным сцягам», «Знаходка на гарышчы», аповесць «Незамужняя ўдава»).

У творчасці Сабаленкі пры ўсёй разнастайнасці тэматыкі чытач знойдзе адну паслядоўна вытрыманую асаблівасць — заканамернасць, якая прыводзіць напісанае ў стройную сістэму, надае яму адзнакі стылёвай закончанасці, сістэмнасці: творы пісьменніка поўняцца гуманістычным пафасам, любоўю да чалавека, верай у перамогу сіл гармоніі над змрочным пачаткам, над неарганізава-

насцю, анархіяй. Прычым ідэі гуманізму не ляжаць на паверхні, не дэкларуюцца, а высвечваюцца праз апісанне побыту, грунтоўны паказ абставін, у якіх адбываецца дзеянне, праз партрэтныя характарыстыкі герояў, перадачу іх унутраных перажыванняў, роздумаў.

Ёсць у пісьменніка апавяданне «Апошні след», напісанае яшчэ ў 1955 годзе, калі паспелі ўбачыць свет вершаваныя зборнікі «З родных крыніц» (1950) і «Мая эстафета» (1954). Толькі праз два гады з'явіцца кніжка прозы «Жменя зярнят». Але, чытаючы апавяданне, не скажаш, што яно напісана ў пачатку творчага шляху празаіка. Яно адрозніваецца глыбінёй аналізу псіхалогіі чалавека з нячыстым сумленнем, які вяртаецца да родных дзяцей пасля доўгай разлукі. Аўтар ні на крок не адыходзіць ад перадачы праўды абставін, паводзін героя, строга сістэматызуе факты. Пакуты і перажыванні Міхеда Крыварота ў апавяданні — гэта пакуты чалавека, сумленне якога так позна прачнулася, якому так няўтульна і балюча ў родных мясцінах, сярод людзей, сярод сваіх дзяцей. Міхед стаў такім пакутнікам з-за самога сябе, бо ніколі не задумваўся «над сэнсам жыцця», «адно ведаў: грэбці пад сябе там, дзе грэблася, і абыходзіць заўсёды тое месца, дзе можна патам, каўзнуцца і ўпасці». Ён прызвычаіўся будаваць сваё шчасце на няшчасцях другіх, жывучы на сваім хутары пры паляках і пры Савецкай уладзе, а затым і пры немцах. Больш таго, у вайну ён, таячыся ад людзей, выдаваў гестапаўцам партызанаў і іх сувязных. Па яго даносу загінуў Гарасім Кухаронак, сын якога толькі цудам уратаваўся. І немцам служыў Крыварот з аглядкаю: «недзе ў глыбіні свядомасці варушылася, жыла тая думка, што і гэтыя немцы не на векі вечныя тут». Але ж некалі для любога чалавека наступае суд, суд сумлення, суд памяці. Наступіў ён і для Міхеда... Вось ён вяртаецца дадому са станцыі, баючыся чамусьці сустракацца з людзьмі, сігае не па дарозе, а па цаліку. Вось сустрэча з меншай дачкой Аленай, якая не прызнала яго, адштурхнула ад сябе. І, нарэшце, самы нечаканы ўдар — аказваецца, Алена кахае Віктара Кухаронка, сына партызана, якога некалі выдаў немцам Крыварот. І гэтых пакут было мала: старому давядзецца прысутнічаць на вяселлі Алены і Віктара, піць горкую чарку не віна, а адказнасці за зробленае некалі злачынства, за сваё змрочнае мінулае. Вось як адчувае сябе герой апавядання ў складанай, драматычнай для яго сітуацыі: «Яму здавалася: за тым бяседным сталом ён піў з чаркі не гарэлку, а немаведама што. Перад ім мільганула цень знявечанага Гарасіма Кухаронка, з якога ручаінкай цякла кроў. І колькі ён, Міхед, ні намагаўся пераступіць тую ручаінку, нага не можа перасігнуць яе». Сітуацыя была б меладраматычнай і непраўдападобнай, штучнай, калі б не дакладная перадача

перажыванняў чалавека, якому сорамна глядзець у вочы людзям, балюча прысутнічаць на вяселлі дачкі і чалавека, бацьку якога ён так бязлітасна выдаў фашыстам. Апавяданне заканчваецца тым, што Міхед сыходзіць з дому, пакінуўшы дзецям запіску, напісаную каравым почыркам, падобным на яго каравае жыццё. Так у апавяданні выносіцца прысуд чалавечай жорсткасці і подласці, абараняецца гуманны пачатак у чалавечым жыцці.

Пафасам чалавечнасці і гуманізму прасякнуты і апавяданні Сабаленкі, прысвечаныя сучаснасці. У цэнтры іх — чалавек працы, часцей селянін, які не можа ўрасці карэннем у горадзе, нудзіцца аб пакінутай вёсцы, аб рабоце. У апавяданні «Госць» пісьменнік выбірае менавіта такую выходную сітуацыю, стварае запамінальны характар чалавека, якому ўсё здаецца не так у вялікім горадзе — і людзі бесклапотна гуляюць у парку «ад няма чаго рабіць», і самому яму ў сям'і старэйшага сына Данілы ніякавата, сумна і нудна: «Няма от за што ў цябе рукі зачапіць. Каб якіх дроў накалоць ці вады прынесці, дык яно б і весялей было». Уважліва ставіцца пісьменнік да псіхалогіі такіх герояў, сімпатызуе ім, спачувае, прыходзіць да вываду пра нялёгкі працэс духоўнай перастройкі людзей сталага ўзросту, якія пакінулі вёску на час, не могуць ад яе адарвацца і аказаліся ў індустрыяльных гарадах у сваіх добрых і шчырых дзяцей толькі гасцямі. Апавяданне заканчваецца тым, што стары пакідае сына, едзе ў родныя Перкі да дачкі Мальвіны і зяця, едзе, занепакоены гаспадарскімі клопатамі. У апавяданні Сабаленкі ўзнімаецца важная сацыяльная праблема, паказваецца нялёгкі працэс перастройкі псіхалогіі жыхароў вёскі пад уплывам навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Як і многія іншыя творы пісьменніка, яно выхоўвае ў людзях любоў да роднага бацькоўскага парога, да вясковага ўкладу жыцця, да спрадвечнай мудрай вясковай маралі.

На адным з першых месц у творчасці Сабаленкі-апавядальніка ленінская тэма. У цэнтры твораў на гэту тэму вобраз чалавека, які праз усё жыццё пранёс падзяку правадыру, зведаў на сваім уласным вопыце веліч яго бессмяротных ідэй... Праз многа год расказвае некалі непісьменны селянін, а затым удзельнік Кастрычніцкага штурму Арцём Швайка камсамольцам пра выратаваны ім чырвоны сцяг, пра сваю сустрэчу ў Смольным з Уладзімірам Ільічом Леніным, пра словы яго аб тым, што пасля перамогі рэвалюцыі пабагацее і бедны беларускі край. Запомнілася Швайку і дабрата, спагадлівасць гэтага чалавека, з якім так нечакана звёў яго на некаторы час лёс.

У 1970 годзе Сабаленка напісаў апавяданне «Знаходка на гарышчы», у якім арганічна знітаваў мінулы (гады грамадзянскай вайны) і сённяшні час, яшчэ больш арганічна, псіхалагічна па-

глыблена раскрыў лёс чалавека, якому млынар Нупрэй Кісялеўскі (па клічцы Багалаз) рыхтаваў багатую спадчыну, выхоўваў яго, свайго незаконнага сына, што рана аказаўся без маці, у нянавісці да ўсяго, што перашкаджае чалавеку жыць толькі для сябе, шукаць тое, «што на зямлі блага ляжыць». Але рэвалюцыя памяняла планы старога: пад уплывам чырвонаармейцаў, камісара Казловіча юнак зразумеў, што ёсць на свеце і іншая праўда, адрозная ад праўды Нупрэя Багалаза,— праўда Леніна. Ён малюе партрэт Ільіча. Гэты партрэт праз многа год адшукаў на гарышчы былы парабак Нупрэя Кузёмка, а цяпер — Герой Сацыялістычнай Працы дырэктар саўгаса Шылец Кузьма Іванавіч. Ды і сам апавядальнік цяпер стаў вядомым мастаком, заслужаным чалавекам. Дзеянне ў творы адбываецца ў двух часавых праекцыях. Падзеі наслойваюцца адна на адну і ствараюць шчыльную аснову твора, дзе ўсё становіцца галоўным, істотным: і тое, як адчувае сябе ў родных мясцінах апавядальнік, і як ён адзначае ў свядомасці сустрэчу з землякамі («мужчыны сцішыліся і вычакальна глядзелі на нас»), і такое, здаецца, дробнае, але таксама жыццёвае, рэальнае — дакладная і разам з тым надзвычай вобразная карцінка — у прыёмнай дырэктара саўгаса «клекатала, як бусел, пішучая машынка». Апавядальнік перадае з дапамогай добра падабранага слова і духоўны стан чалавека («Я пастаяў, скінуўшы капялюш, і маўкліва **паклыпаў** далей»), і характарызуе пэўную з'яву (пра Нупрэя, які завалодаў багаццем удавы-латышкі Параскевы сказана, што ён **«асачыў** яе... і прыстаў да яе ў прымы»). Лаканічна, надзвычай вобразна, часам адным тропам, удала знойдзенай мастацкай дэталлю Сабаленка стварае і цэлую карціну, псіхалагічна насычаную, паўнакроўную. І пісьмо ўшчыльняецца, набывае адзнакі сапраўднай эпічнасці, маштабнасці. Так, як у гэтымсама апавяданні. Пра Параскеву завознік, які прывёз збожжа на млын да Нупрэя, маладому хлопцу (ён жа — апавядальнік) гаворыць так: «Бацькі яе памерлі, і сядзела яна адна, **як квактуха на яйках, на грошах»**. Адно трапнае параўнанне — і створана цэласная карціна, нават намаляваны пэўны характар, вынесены прысуд пэўнай з'яве. І так у кожным творы, у кожным апавяданні. Без падобных трапных сродкаў мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, без выразнага, яркага слоўца, падхопленага з жывой народнай мовы, пастаўленага ў сугучны кантэкст мы ўвогуле не ўяўляем творчасці Р. Сабаленкі.

Апавяданні сталі сапраўднай школай майстэрства для пісьменніка. Іменна ў малым празаічным жанры выявілася пісьменніцкая ўвага да чалавечай псіхалогіі, яго ўменне ствараць складаныя характары, яго ўменне насычаць твор паўнакроўнымі дэталямі, майстэрскае карыстанне мовай, без якога ўвогуле не ўяўляецца рэалістычнае мастацтва.

Паяднаць розныя часавыя вымярэнні, выверыць сённяшні дзень днём учарашнім стараецца Сабаленка і ў сваіх аповесцях. Некаторыя з іх прама адрасаваны сучаснасці. У іх паэтызуецца праца людзей вёскі, паказваецца неадольнае імкненне вяскоўцаў да дабра і справядлівасці. Так, гераіня аповесці «Лора» (1966) не можа знайсці сабе шчасця далёка ад дому, у сястрыной кватэры з усімі выгодамі. Яна не выносіць нахабных заляцанняў Расціслава-Роціка і новаспечанага швагра Гаўроша. Ёй карціць як хутчэй вырвацца дадому з гэтага тлуму, у які кінула яе маці, бо не хацела, каб дачка гібела каля кароў, працавала дзень пры дні, устаючы ні свет ні зара. Лора вяртаецца да родных і блізкіх, у сваю вёску Макрацы. У аповесці, як і ў многіх апавяданнях, ставяцца і вырашаюцца вострыя праблемы жыцця сучаснай вёскі, і ў першую чаргу праблема неабходнасці замацавання маладых кадраў на сяле.

Паэтызацыя вясковага жыцця, працы вяскоўцаў набывае вышэйшую ступень у аповесці Г. Сабаленкі «Незамужняя ўдава». Сюжэт яе інтрыгуючы, неардынарны: Галя Заранка пражыла нялёгкае жыццё ў дзяцінстве, гадавалася ў доме на вачах злоснай мачыхі, рана навучылася быць і нянькай, і хатняй гаспадыняй. З малых год дзіця цікавілася жыццём незвычайным, цягнулася да рамантычнага, добра вучылася.

Аповесць удалася аўтару таму, што ў ёй раскрыта духоўная прыгажосць савецкіх людзей, іх вечная прылучанасць дабру і гуманізму. Гуманістычны пачатак яе выяўляецца адкрыта, пафасна, часам публіцыстычна і абагульнена. З першай старонкі, з першай сцэны, раскрываюцца адносіны людзей і перш за ўсё галоўнай гераіні да прыроды: «Галя ўглядаецца ў дрэвы, у кветкі. Бачыць, як ранняя працаўніца пчолка дала нырца ў жоўценькі збаночак кветкі і там хуценька-хуценька заварушыла ножкамі... Асцярожна страсянула сцяблінку кветкі і сагнала пчолку, каб тая не вельмі нагружалася, бо ёй жа ляцець, мабыць, не блізкі свет і крыльцы могуць не вытрымаць». Не менш уражвае сілай гуманістычнага гучання і сцэна ўручэння выпускнікам сярэдняй школы атэстатаў, і апісанне сустрэчы Галі з чалавекам, якога яна пакахала,— Станіславам.

Найбольш значная з напісаных аповесцей — «Каралінцы». У ёй шырока ахопліваюцца падзеі, што адбываюцца на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі ў даверасвёўскі, ваенны і пасляваенны часы.

Асабліва ўдалыя тыя старонкі аповесці, дзе паказана жыццё каралінцаў у даверасвёўскі час і ў першыя дні калектывізацыі. Тут Сабаленка захоўвае пачуццё меры ва ўсім: стварае дакладныя псіхалагічныя характарыстыкі, запамінальныя характары, акцэнтуе ўвагу не на знешніх праявах жыцця, а на іх унутранай псі-

халагічнай сутнасці. Так, напрыклад, запамінаецца сцэна бойкі за мяжу двух братоў — Мікодыма і Рыгора Галезнікаў, за якой назірае Рыгорава дачка Ліпачка. Сварку пачаў Мікодым, звераваты чалавек, які пакутліва перажывае сваю прыналежнасць да чорнай, мужыцкай касты, хоча выбіцца ў паны любой цаной. Гэта сцэна стала вызначальнай у далейшым лёсе братоў, засведчыла рознасць жыццёвых сцежак іх. Мікодым, які толькі што і рабіў у жыцці, як гроб пад сябе, данясе палякам на сувязь свайго брата з падпольшчыкамі, прыбярэ на час братаву зямлю. У гады вайны ён асцярожна будзе дагаджаць нямецкім акупантам, азіраючыся на сваё мінулае і будучыню, будзе спачатку зноў-такі вышукваць лепшага для сябе, а не для народа, для краіны ў цэлым. Яго філасофія ў першыя дні вайны — гэта філасофія індывідуаліста, прыстасаванца: «З дарагой цаной пайшоў бы ім у помач наводзіць новы парадак, але пабойваўся аднаго: а што, калі хто падсуне ім пад нос тую газеціну, на якой ён зняты з бальшавіцкім камандзірам...» Ён служыць любой уладзе, якая дае яму права жыць для сябе, для задавальнення сваіх асабістых патрэб. Для яго не існуе паняцця — Радзіма. Яго, Мікодымава, радзіма,— свая лапіна зямлі, свой хутар, свой дабрабыт. Палітыка такіх людзей — гэта палітыка здрады, гандлярства сумленнем. На працягу многіх старонак аповесці мы бачым, як паступова, крок за крокам, дэградзіруе гэты чалавек. За першай сцэнай, на якой мы ўжо спыняліся, будзе данос на Рыгора ў дэфензіву і «заступніцтва» Мікодыма за братаву сям'ю перад польскімі ўладамі, пасля якога лёгка было завалодаць зямлёй родзічаў. «Дабрата» і спагадлівасць чалавека-ўласніка знешнія, яны выяўляюцца толькі тады, калі ён мае з гэтага пэўную карысць. Гэта і пацвярджаецца многімі фактамі і эпізодамі. Фінал Мікодыма Галезніка заканамерны: ён прабіраецца ў партызанскі атрад як фашысцкі лазутчык і атрымлівае па заслугах — разам з сынам Ясем яго расстрэльваюць партызаны як здрадніка Радзімы. Пісьменнік змог стварыць паўнакроўны чалавечы характар, раскрыць псіхалогію чалавека без народа і Радзімы.

Запамінаецца ў аповесці і вобраз Алімпіі Галезнік — дачкі Рыгора Галезніка. Асабліва ўважлівы да гэтай гераіні празаік у першай частцы аповесці. Тут, у кожным эпізодзе, у кожнай рэпліцы ён праўдзівы, добры знаўца дзіцячай псіхалогіі...

Аповесць «Каралінцы» — твор пра шлях народа ў новае жыццё. І тут запамінаюцца многія сцэны з першай яе часткі. Некалькімі сцэнамі паказвае Сабаленка і першыя крокі станаўлення калгасаў на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі.

Аўтабіяграфічная трылогія Сабаленкі «Іду ў жыццё» складаецца з трох частак — «Юнацтва ў дарозе», «Выпрабаванне сталасці», «Былое застаецца ў сэрцы». Гэта кніга пераважна аднаго лёсу —

лёсу Макара Шыянка, вясковага хлопца, які, дзякуючы Савецкай уладзе, вывучыўся на журналіста, стаў чалавекам, якому партыя даверыла важны ўчастак жыцця — ідэалагічны, выхаваўчы. Сам Шыянок — сын новай, сацыялістычнай эпохі. Яна сфармавала яго сумленным, шчырым, здольным процістаяць нахабству і кар'ерызму Вінцэсяў Барташэвічаў, Пачоскаў і яму падобных. Выхаваны на вернасці высокім камуністычным ідэалам такімі людзьмі, як Пракоп Касянок, вясковы актывіст, першы старшыня калгаса ў Рагазіне, ён не пахіснуўся і ў суровы ваенны час, не збочыў з раз і назаўсёды абранага шляху. Вызвалены з палону па загаду партызанскага камандавання, ён унёс свой дастойны ўклад у перамогу над фашыстамі. Вобраз Шыянка «падсвечваецца» іншымі персанажамі трылогіі — у складаны і драматычны для героя час, калі трэба было растлумачыць Кульбіцкаму, чаму ён аказаўся ў палоне, на яго шляху паўстае камандзір партызанскага атрада Лук'янчык, які верыць чалавеку, падтрымлівае яго; яшчэ раней, падчас работы ў газеце, яго падтрымлівае за справядлівую, вострую пастаноўку праблем у заметках, нарысах рэдактар газеты Завідзюк; з ім побач у цяжкія гадзіны аказваецца і супрацоўніца рэдакцыі цёця Каця. Уся трылогія прасякнута светлай верай у чалавека і чалавечнасць.

У трылогіі вялікая ўвага надаецца выкрыццю адмоўнага, таго, што перашкаджала нам рухацца наперад. Лёс Макара Шыянка па сутнасці складаецца са шматлікіх эпізодаў барацьбы з кар'ерыстамі і прайдзісветамі, перастрахоўшчыкамі і дэмагогамі. Да іх ліку адносіцца самаўпэўнены чалавек у вайсковай вопратцы Вінцэсь Барташэвіч, які адкідае праўдзівасць як крытэрый дзейнасці журналіста, вінаваціць Шыянка ў прыхільным стаўленні да кулацкіх элементаў, а пры немцах становіцца рэдактарам нацыяналістычнай газеты, верным служкай фашыстаў і гіне ад рукі свайго былога калегі па працы. Не менш выразна намалявана постаць Усціма Пачоска, які зрабіўся ў вайну старанным паслугачом заваёўнікаў, бо не меў сталых ідэйных перакананняў, прывык жыць толькі дзеля сябе, карыстаючыся любымі спосабамі. Р. Сабаленка так перадае ўнутраны роздум персанажа пра яго лёс пры немцах: «От жа ўзяць хоць бы яго самога. Хіба ён калі так жыў. Ат гібеў, нават тады, як быў за старшыню калгаса. А цяпер от як жыве. Пакінуў у Рагазіне сваю хату і перабраўся сюды, заняў цэлыя палацы, як у таго калісь пана Кербіча. І ў палацах усяго...» Дзеля ўласнага дабрабыту Пачосак выслужваецца перад новымі «гаспадарамі», «робіць тое, чаго патрабуюць ад яго, і нават тое, чаго не патрабуюць». Праўду высокіх ідэй не носіць у сваім сэрцы і палахлівец Марыніч, які думае толькі пра тое, як уцалець самому ў пякельным агні вайны, і таму становіцца здраднікам. Многа шко-

ды прынеслі народу і звышпільныя Кульбіцкія, дзейнасць якіх засноўвалася на недаверы, падазронасці.

Цікавая кампазіцыя трылогіі: твор складаецца з асобных раздзелаў — даволі самастойных і ідэйна закругленых навел, кожная з якіх мае значнасць мастацкай цэласнасці.

Трылогія Сабаленкі адкрыла нам цудоўны свет сваіх герояў-праўдашукальнікаў, вынесла прысуд прыстасавальніцтву і кар'ерызму, расказвала пра людзей вёскі, якія не могуць ёй здрадзіць, пакінуць яе. Проза пісьменніка — вострасацыяльная, праблемная, нераўнадушная да тых працэсаў, якія адбываліся і адбываюцца ў нашай краіне. У лепшых сваіх творах пісьменнік дасягнуў сапраўдных вышынь псіхалагічнага аналізу, здолеў паяднаць сацыяльны і сямейна-бытавы пачаткі. А пошукі аўтара трылогіі «Іду ў жыццё» ў галіне мастацкай формы, мовы ў многім ідэнтычныя пошукам іншых майстроў беларускай прозы.

М. МІШЧАНЧУК.

# НЕЗАМУЖНЯЯ ЎДАВА

АПОВЕСЦЬ

## Раздзел першы

Гэтага ніхто тут не ведае, апроч самой Галі Заранкі. Ведае і яшчэ адзін чалавек, але яго тут няма, і мы пакуль памаўчым пра таго чалавека.

Галя прахапілася, калі на ўсходзе ледзь-ледзь прасвятлела палоска неба і бліснулі першыя вострыя і трошкі халаднаватыя промні червеньскага сонца. Яна яшчэ молада саскочыла басанож са свайго ложка і ступіла на халаднаватую падлогу. Магла б пакуль і не ўставаць. Вунь жа дзяўчаты, параскідаўшы рукі, спяць. Спяць глыбока, бесклапотна, кожная па-свойму, кожная, мабыць, сніць сон. Марынцы можа сніцца Вадзім. Ён жа, мусіць, запаў ёй не толькі ў памяць, але і ў душу, бо пра каго б яна ні гаварыла, абавязкова перавядзе гаворку на яго.

Галя зайздросціць Марынцы, яе, мусіць, першаму і вернаму каханню. Калісь, ужо вельмі даўно, сама Галя радавалася, сама гэтак узрушалася, сама ўся свяцілася невідочным святлом таго першага незабыўнага пачуцця. Прайшло ўжо колькі часу. Яна магла б і забыцца на ўсё тое, калі б чалавечая памяць не была такая глыбокая і калі б на самым дне яе не захоўвалася толькі тое, чаго чалавеку нельга забыць, як самога жыцця.

Галя падышла да Марынчынага ложка, паўглядалася Марыне ў твар, у нібы трошкі падсіненыя павекі на асмужаным ветрам і сонцам аблічча і ўспомніла сваю маладосць. Колісь яна таксама магла так бесклапотна спаць. Пазайздросціла Марынцы, яе маладосці, і чамусьці захацелася прыпасці да прыгожага дзяўчынінага твару, пацалаваць Марынку як родную дачку. Марынка, мусіць, адчула Галін позірк, бо нешта заварочалася, замармытала спрасоння і павольна, нехаця, быццам яны склеіліся, расплюшчыла павекі.

— Чаго гэта вы, цётка Галя, не спіце?

— Нешта сон не бярэ.

І мо гэтае «цётка Галя» лішне нагадала жанчыне, што яна ўжо немаладзёнка, што на яе плячах цяжар гадоў і, хоць яна яшчэ не сагнулася пад ім, усё роўна яго не скінеш, не ўбавіш.

Цяжар гадоў! Каб жа яго скінуць, усё пайшло б, можа, іначай, можа, лепей і, можа, больш было б ладу ў жыцці. Цяпер вунь Марынцы што абыходзіць. Дармо што, скончыўшы дзесяцігодку, яна не паступіла ў інстытут. Перад ёй, як тады перад Галяй, ніхто не зачыніў дзвярэй у свет. Леташняй восенню Марынка паехала ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і паступіла на завочнае вучэнне. Нядаўна, як тая птушка з выраю, стомленая, але шчаслівая і акрыленая, вярнулася з веснавой сесіі. Там жа вучыцца і Вадзімка, але ён на стацыянары. Праз колькі год кончыць і будзе аграномам.

О, каб людзям расказаць усё пра Вадзіма, каб яны ўведалі ўсё пра яе самую і пра яе хлопчыка, можа б, яны зусім адкасн уліся ад яе самое і ад Вадзімкі. А так от Марынка горнецца сэрцам да Вадзіма, а праз яго, мабыць, і да Галі. Часам так і хочацца, каб з дзявочых вуснаў зляцела не звыклае «цётка Галя», а шчырае, цёплае, лагоднае «мама». А можа б, і не адкасн уліся, можа б, яшчэ бліжэй прыгарнуліся?

Галя носіць сваю таямніцу, як незвычайны цяжар, як нявыказаную радасць і як непадзелены смутак. Гэта вельмі-вельмі цяжка. Чалавечае ж жыццё павінна быць заўсёды на віду ў іншых, тады нават у самыя горкія, часам роспачныя хвіліны яно не бывае такое цяжкае.

Галя стараецца, каб цяперашняе яе жыццё было відно ўсім. Пра яе вунь і газеты колькі разоў пісалі ўжо. Яна двойчы была ў вобласці на нарадах перадавікоў жывёлагадоўлі. У абласной газеце быў нават змешчан яе партрэт. Пасля таго і прыйшло пісьмо ад чалавека, пра якога яна ўжо і забыла. І канчалася тое пісьмо так: «Дарагая, любая мне Галя! Ты, мабыць, і забылася, што я ёсць на свеце. Але я не забыўся! Я праклінаю таго разлучніка, які стаў тады нам упоперак дарогі, як чорны прывід. Можа, цяпер і позна ўжо гаварыць і думаць пра тое, даўно мінулае, але я згодны хоць цяпер займець сабе і даць табе хоць каліва шчасця».

Яна нічога не адказала таму, хто захацеў займець «хоць каліва шчасця». Чамусьці ёй і цяпер стала брыдка,

як пасля таго першага нахабнага пацалунка. Галя пашматала пісьмо на кавалачкі і кінула.

Марынчыны вочы мружыліся. Відно было, як ёй цяжка прачынацца. Галі на момант нават шкада стала Марынку. Успомнілася, як яе самую мачыха будзіла на золку і як не хацелася расплюшчваць вачэй. А сёння Галя надумала была расказаць Марынцы ўсё пра сябе і пра Вадзімку. Хай бы яна хоць адна тут усё ведала! Усё-такі Марынка калі не родны, дык ва ўсякім разе блізкі яе хлопчыку чалавек. Каб яна адразу прачнулася, можа б, Галя і паспавядалася перад ёю. Але тая млявасць, з якой дзяўчына пацягвалася ў пасцелі, расплюшчвала вочы, як халоднаю вадою абліла Галіну рашучасць, і жанчына сказала:

— Паспі яшчэ, дачушка, паспі трошачкі.

Сказала і выйшла з дому, села на прыступку ганка і ўмылася гарачымі і горкімі жаночымі слязьмі. Можа б, яна праплакала да самае тае пары, пакуль з-за суседняга дома, у якім жывуць мужчыны, не выйдзе начны вартавы дзядзька Адам і не падасць трубой-берасцянкаю голас, каб уставалі даяркі, каб падымаўся на ногі ўвесь лагер.

Два дамы летняга жывёлагадоўчага лагера пастаўлены на краі вялікаватай паляны яшчэ ў бытнасць Галі Заранкі старшынёй «Чырвонай нівы». За дамкамі далей лес: дубняк, бярэзнік, альшэўнік, а за ім забалочаныя лугавіны. Зялёны шум ранішняга лесу лагодзіць душу. Недзе на дрэве завінаецца птушка. Галя нават не ведае, як завецца гэтая птушка, але ранішні спеў яе ліецца як гаючы водар, уціхамірвае боль. Жанчына ўстае з прыступкі і ідзе лесам, асцярожна ступаючы. Ёй здаецца, калі яна ступае на маладую траўку, дык і той балюча бывае разгінацца пасля яе нагі.

Галя ўглядаецца ў дрэвы, у кветкі. Бачыць, як ранняя працаўніца пчолка дала нырца ў жоўценькі збаночак кветкі і там хуценька-хуценька заварушыла ножкамі. Прыгледзелася да пчолкі, якая аж пажаўцела ад пылу, і стала радасна за добры пчаліны ўзятак. Асцярожна страсянула сцяблінку кветкі і сагнала пчолку, каб тая не вельмі нагружалася, бо ёй жа ляцець, мабыць, не блізкі свет і крыльцы могуць не вытрымаць. Пчолка паднялася, пагула над кветачкай, пакружыла над Галяю і паляцела. Галя зірнула ёй услед і папраставала лесам да таго балота, дзе надоечы мужчыны пачалі церабіць хмызняччa. Іван Леўчык — старшыня калгаса — даўмеўся: каб тое балота не здратавала жывёла, расцерабіць яго, узараць дзірван і за-

сеяць цімафееўкай. Дык калі нават не касіць, а і скаціпу пусціць, то будзе добры выпас, а то ў тым хмызняччы расце чортведама што.

Старшыня прыслаў мужчын з кавалёўскай брыгады з таго калгаса, які нядаўна далучыўся да іхняй «Чырвонай нівы». Аднойчы Галі закарцела схадзіць туды, паглядзець на іх работу. І яна пайшла. Ужо чуліся глухія ўдары сякер. Калі Галя падышла зусім блізка, сякеры заціхлі. Мабыць, мужчыны паселі на перакур. Яна стаілася побліз за дрэвамі і ўслухалася. Мужчыны рагаталі. Да Галі даляталі словы. Яны былі мужчынскія, скарамнаватыя, нават на адзіноце сорамна было іх слухаць. Галя знарок зашамацела ў кустах вербалоззя, якое падступала да самага чарналесся, і выйшла. Мужчыны, як толькі ўгледзелі Галю, прымоўклі. Вінавата пазіралі адзін на аднаго і як не казалі: чаго цябе сюды прынесла? Наогул, Галя заўважыла: калі паяўлялася дзе ў гурце мужчын, яны пераставалі пацвельвацца пры ёй, як пры іншых жанчынах. Галю гэта і радавала і, калі праўду казаць, трошачкі і непакоіла: мабыць, яшчэ дагэтуль яе тут не лічаць за сваю. А мо яна занадта ганарыстая, мо вельмі высока нясе галаву? Аднак жа гэта жанчыне не замінала, гэта было нечым пабочным і больш радавала, чым засмучала.

— Дзень добры, мужчынкі,— павіталася Галя з нейкай задзёрынкай.

— Дзень-то добры, ды работа не дужа салодкая,— сказаў нехта з гурту, у якім было чалавек пад сорак.

— Чаму? Работка ж такая, што не бі ляжачага. Хоць не ўежна, дык улежна,— намякаючы на тое, што мужчыны лежачы пацвельваліся, сказала Галя.

— Чаму не ўежна? Сала ж з дому панабіралі па паўторбы. А от наконт улежнасці, дык не дужа. Зянон не дае. Ды Леўчык часам як нахопіцца, то і дома ўночы не ўлежыш. Мулка будзе. Гэта ж вот тут меркавалі, што з птахай рабіць.

— З якой птахай?

— Паглядзіце вунь з якой! Хадзем я пакажу,— да Галі падышоў яшчэ не стары, прыгожы з твару мужчына, якога Галя нават не ведала як завуць, бо ён быў з таго кавалёўскага калгаса, які нядаўна далучыўся да «Чырвонай нівы». Мужчына нечым кінуўся Галі ў вочы. Ды і ён неяк асабліва зірнуў на яе. Не зважаючы на ладныя гады, Галя была паглядная: твар яе быў загарэлы і прыгожы, постаць стройная, крамяныя грудзі прывабна выпіналіся з-пад

лёгкай летняй кофтачкі. Асмужаны сонцам і ласкавым ветрам твар з глыбокімі праніклівымі вачыма вабіў, мабыць, не аднаго мужчыну. Галя адразу злавіла дапытлівы брыгадзіраў позірк, але не падала і віду, як гэта рабіла заўсёды, калі заўважала, што ёю хто-небудзь з мужчын цікавіцца. Пайшла следам за ім за зялёны лоўж хмызняку і там угледзела звязаны ў чубок лазняк.

— Зірніце во сюды,— мужчына распрастаў лазнячча.

Галя ўгледзела пасярод яго маленькае гняздзечка. Яно, прымацаванае да трох лазінак, ледзь ліпела. У гняздзечку сядзела шэранькая маленькая птушачка. Мужчына як ні браў яе рукою, а яна хоць бы зварухнулася.

— Яна, мабыць, нежывая?

— Не! Не! Жывая, я ў рукі браў яе,— адказаў мужчына,— пад ёю чатыры маленечкія рабенькія яечкі. Мабыць, хутка выклюнуцца птушаняткі.

— Вы не чапайце яе, няхай сядзіць спакойна. А хто гэтак лазняк звязаў? — спытала Галя.

— Я!

Ніжэй нагнулася да гняздзечка і ўгледзела, як птушчыны крыльцы дробненька калаціліся і сама птаха, мабыць, баючыся зірнуць у вочы небяспецы, заплюшчылася, як нежывая.

— Хадзем адсюль,— сказала Галя,— не будзем яе палохаць.

Яны пайшлі, і толькі тады Галя прыгледзелася да мужчыны.

— Чаму я вас не ведаю? — спытала яна.

— Не магу знаць,— адказаў ён, як салдат начальству.— Не выпала нідзе пазнаёміцца. А я вас трошкі такі ведаю. Колькі разоў бачыў, але блізка, вось гэтак, як сёння, ні разу не даводзілася.

— Давайце пазнаёмімся. Як жа вас хоць завуць? — трошкі мо настырна спытала Галя.

— Маці з бацькам ахрысцілі Зянонам.

Галя яшчэ больш дапытліва зірнула на мужчыну. Угледзела пад доўгімі вейкамі стрыманую цёплую ўсмешку і здагадалася, што гэтая ўсмешка толькі для яе. Чамусьці ёй захацелася адказаць на ўсмешку, але яна стрымала сябе. Калі падышлі да гурту, нехта з дасціпнікаў кінуў:

— Ну як, не аперылі ўдваіх тых птушанятак?

Ні Галя, ні Зянон не адказалі на грубаваты жарт. Галя хуценька развіталася, чамусьці толькі з адным Зянонам, і пашыбавала лесам на кашару. Набліжаўся час дзён-

най дойкі. Пад лёгкім крокам жанчыны патрэсквала шыгаллё, з травы, з дрэваў выпырхвалі птушкі, а яна ішла і нічога гэтага не бачыла і не чула, бо спяшалася. І добра, што спяшалася. Як толькі яна выйшла з лесу, угледзела ля летняй кухні ўсіх даярак, пастухоў, вартаўнікоў. За самаробным сталом у засені дрэваў сядзеў Леўчык, і ўжо здаля было чутно, што ён даймаў жывёлаводаў:

— Мы ж вас сюды не на дачу выправілі, каб вы патроху жываты нагульвалі. Мы абавязаліся сёлета падвоіць надоі, а вы сабе тут раскашуецеся, як гарадскія дачнікі. Кароў выганяеце, баючыся апярэдзіць сонца, і пасяце так, каб ног сабе не натаміць. Затое ўвечары гулі-балі, аж лес разлягаецца.

Галя падышла і ціхенька стала ззаду. Леўчык яе ўгледзеў адразу, бо зірнуў — як стрэліў вачыма. Думала, чакала, што вось-вось возьмецца крытыкаваць яе. Нядаўна на партыйным сходзе ён такі пакрытыкаваў за тое, што марудна павышаюцца надоі. Таму думала, што і зараз не ўтрымаецца. Здалося, што ён нечым узлаваны. Але, прыгледзеўшыся, яна не ўбачыла на яго твары злосці. Пазнала яго звычку: спачатку насварыцца, пакрытыкаваць і, калі ніхто з слухачоў не пачне агрызацца, неяк знянацку падабрэць і далей ужо гаварыць і такое, што можа ўлагодзіць нават чэрствую душу. Была ўдзячна старшыні, што ніколі на людзях не браўся дапякаць яе. Заўсёды з ёю быў лагодны, далікатны і нават трошкі ласкавы. Галя і сама не ведае, адкуль усё гэта: можа, яна і цяпер яшчэ падабаецца яму як жанчына. А мо ён проста шкадуе, бо хоць і не ўсё, але трохі ведае, якая ёй нялёгкая выпала доля.

Леўчык ужо зусім падабрэў і пачаў жартаваць:

— Раскажы, дзядзька Адам, як ты тых ваўкоў да смерці напалохаў?

Твар дзядзькі Адама перасмыкнуўся ўсмешкай, і чалавек ужо, мабыць, быў гатовы пачаць выдуманы ім самім расказ пра тую зграю ваўкоў, якіх нібы ён адагнаў ад кашары. Але ён яшчэ і слова не сказаў, як усе зарагаталі, і дзядзька вымушаны быў прыкусіць язык. Усе ведалі, які баязлівец дзядзька Адам: баяўся не тое што воўка, дык нават плюгавенькага дворнага сабакі. А гісторыю пра тое, як ён адагнаў ад кашары цэлую плойму ваўкоў, чалавек выдумаў для таго, каб выдаваць сябе перад людзьмі калі не харобрым рыцарам, дык ва ўсякім разе і не баязліўцам.

— Дык адкуль яны ішлі, тыя ваўкі? — дапытваўся старшыня.

— Ды вунь адтуль, з шыі, хіба вы не ведаеце, з тых зараснікаў. Там жа такая гушчэча, што не толькі ваўкі — чэрці могуць вывесціся. Сюды, проста на кашару, і перліся, нячысцікі. Мабыць, нюхам вынюхалі, што тут пажытак добры. Я з-за дрэва як бабахнуў адным ствалом, то яны назад. Дык я наўздагон з другога яшчэ грымнуў.

— А колькі ж іх там было, дзядзька Адам? — спытала Марынка.

— Хто іх ведае, хіба я лічыў іх.

— Ён жа заплюшчыўшы вочы страляў.

— А ты б не толькі вочы заплюшчыў, ты б і пяткі падмазаў,— агрызнуўся Адам.

— Давядзецца падумаць праўленню ды прэміраваць вас, дзядзька Адам, хоць бы новаю дубальтоўкаю,— жартам сказаў старшыня.

— Гм,— мармытнуў дзядзька Адам, і твар яго ад куточкаў рота, які патануў у рудой шчэці барады і вусоў, да самых вушэй асвятліла ўсмешка.

Чалавек, мабыць, сапраўды думаў, што ўсе, хто слухае, бяруць на веру сказанае і думаюць пра яго як пра незвычайнага смельчака, тым больш што ніхто з прысутных не запярэчыў, не памкнуўся выкрыць хлусню, хоць усе ведалі — ніякіх ваўкоў нідзе тут і блізка няма. Няхай чалавек цешыцца хоць выдумкай!

Галі чамусьці ўспомнілася тая птушачка. І, можа, не так птушачка, як Зянон з вельмі, як ёй здавалася, добрым-добрым тварам, з чулай і спагадлівай душою, бо хіба чалавек з чэрствай душою так бы клапаціўся пра тую маленькую бездапаможную істоту.

Тугімі струменямі малако біла ў ацынкаваныя вёдры, яны аж звінелі. Леўчык з Галяй стаялі ўзбоч і наглядалі. Асабліва ўвішна даіла Марынка. Рукі яе хадзілі жвава, і калі глядзець збоку, можна было заўважыць нават нейкі рытм у рабоце. Каровы яе былі паслухмяныя, здавалася, аж ласкавыя да сваёй рухавай гаспадынькі. Старшыня залюбаваўся Марынчынай увішнасцю.

— Як у яе надоі? — спытаў у Галі.

— Пакуль што самыя высокія.

— Трэба будзе падумаць ды чым-небудзь заахвоціць дзяўчыну. У яе ж клапот поўны рот: і тут не хібіць, і вучыцца добра,— сказаў Леўчык.— Можа, і на курорт паслаць? Няхай свету пабачыць.

Галя нібы і не чула гэтых старшынёвых слоў. І невыпадкова. Ёй і хацелася, каб Марынка паехала куды пабачыць свету, але больш не хацелася: спадзявалася, верыла, што Марынка вырасла для Вадзіма. А яна ж такая гожая, такая паглядная дзяўчына, што кожны можа залюбавацца ёю. А на тых жа курортах, кажуць, столькі спакус, што хто яго ведае, ці ўберажэ сябе.

— Чаго вы маўчыце? — спытаў Леўчык.

— Га? — ачомалася жанчына ад одуму.— Не ведаю, што і сказаць вам. Можа, яшчэ і ранавата дзеўчыне па курортах ездзіць. Людзі вунь век пражылі і ні разу тых курортаў не бачылі.

— Дык то ж такі век быў. Цяпер жа зусім іншы,— адказаў старшыня.

На гэтым і скончылася размова пра Марынчын курорт: ні старшыня, ні Галя гэтак нічога пэўнага не сказалі, не рашылі.

Надвячоркам, калі каровы яшчэ не вярнуліся з пашы, Галя хуценька пайшла на расцяробы. Ёй чамусьці захацелася паглядзець птушачку. Дарогаю назбірала чарвячкоў, казюрак, мошачак і несла птушцы на ласунак. Мужчын ужо не было. Адно лаўжы, як копы сена, віднеліся на расцяробах. Была такая перадвячэрняя сцішанасць, ад якое, здавалася, можна было аглухнуць. Чуцён быў нават пошум травы пад нагамі. Галя адразу знайшла звязаныя пучком лазінкі. Нагнулася над гняздзечкам і ўгледзела, што птушкі няма. Адно ляжалі чатыры маленечкія яечкі. Яна іх не кранулася рукою. Ведала звычай некаторых птушак: калі пачапаеш яйкі рукамі, птушкі цураюцца іх. А мо і гэтая птушка ўжо адцуралася? Галя асцярожна паклала на край гняздзечка той набытак, які дарогаю ўзапасіла птушцы, адышла ўзбоч за лоўж і стаілася. Неўзабаве прыляцела і птушачка. Зрабіўшы круг над скупенькай жменькай лазняку, яна стрымгалоў кінулася на гняздзечка. Галі чамусьці стала радасна-радасна. Яна як не заспявала і ціхенька, каб не спалохаць птушачку, пайшла на сваю палянку. Дарогаю зноў убіўся ў думкі Зянон.

Галя сядзіць на прыступцы ганка. Сонца ўжо разліло па зямлі ранішняе, яшчэ халаднаватае святло. А ў лесе столькі ціхіх і лагодных птушыных спеваў, што, здаецца, усё б ты слухаў і слухаў іх. Недзе спрабуе свой голас шчыгол. З недалёкай балачыны далятае кнігаўчынае «кігі-кігі». Белагрудая ластаўка, нібы апранутая ў школьную форму з белым фартушком дзяўчынка, вострымі крыльцамі

рэжа ціхае, нібы застойнае паветра і заходзіцца шчэбетам. Галя думае: мабыць, будзе дождж, бо чаго б так расшчабяталася гэтая птушка?

Захопленая гукамі лесу, Галя на момант забылася на ўсё, нават на тое, што яна мелася расказаць Марынцы пра сябе, пра Вадзіма. Доўга б, мабыць, яна сядзела ў такім одуме, калі б знянацку не пачулася берасцяная труба і не падняла на ногі ўвесь лагер. Хапаючыся, спяшаючыся, даяркі беглі кожная да сваіх кароў. Пастухі трошкі павальней выходзілі з свайго дамка. Ляскалі пугамі, рагаталі і нават спявалі. Дзядзьку Адаму, мабыць, прыемна было наглядаць за ўсім гэтым ранішнім вэрхалам. Гэта ж яго, а не чыя іншая, труба-берасцянка абудзіла ўсіх, і ён, стоячы трошкі воддаль ад кашары, пасміхаўся сабе, як чалавек, быццам па загаду якога пачалося ўсё гэта.

А на першым часе колькі Галі давялося пабегаць ад даяркі да даяркі, колькі давялося паспрачацца з людзьмі, пакуль дамаглася гэтай рытмікі. Цяпер, калі паглядзець на тое, што робіць Галя, збоку, дык можна падумаць, што яна не вельмі што і занята тут. Але гэта толькі збоку: у Галі хапае клопату не толькі пра надоі, але і пра кожную з дзяўчат, пра іх думкі. Яна збольшага ведае, чым жыве кожная з іх, стараецца рабіць так, каб ніводная з яе лясных сяброўак не была ў крыўдзе. Калі трэба, дык на каторую і насварыцца, а да каторай падыдзе з такім мацярынскім клопатам, што ў тае душа як не растае.

От толькі са сваімі думкамі Галя ніяк не саўладае. У апошні час яны настырна, неадчэпна ўбіваюцца ў галаву. А што калі ўсё расказаць Вадзіму? Няхай хоць ён ведае! Але як ён паглядзіць тады на яе? Можа, возьме і адкаснецца, як ад чужой? Як жа ёй быць? Нельга ж не расказаць! Цяпер жа ўжо такі час настаў, што не толькі ён, Вадзім, павінен ведаць, але і іншыя людзі. І яна наўрад ці здолее змоўчаць.

«От як прыедзе, скончыўшы акадэмію, вазьму ды ўсё і раскажу. Няхай што хоча думае, няхай што хоча робіць, няхай як хоча абыходзіцца са мной. Цяпер ён ужо чалавек самастойны...» — гэтак думала сама сабе Галіна Заранка. Думала тады, калі дзяўчаты спалі бесклапотным сном. Думала, калі зацята маўчаў лес. Думала, калі трэба было, каб берагчы здароўе, спаць. А яна не спала, яна ніяк не магла змружыць вачэй. Думала і думала.

## Раздзел другі

Хто яго ведае, чым больш дакладна вымяраецца жыццё — пражытым часам ці тым, што перажыта чалавекам. Другі пражыве ўвесь свой век, а ўспомніць можа толькі тое, што, калі і дзе ён смачна з'еў, добрае знасіў.

Галі Заранцы пакуль няма чаго і ўспамінаць: яна ніколі смачна не з'ела, не мела людскай адзежыны. Як цяжкі сон, прыгадвае дзяўчына той дзень, калі на покуце пад абразамі ляжала яе маці. Цяпер, калі б не адзіная, сцьмянелая ўжо ад часу фотакартка, наўрад ці здолела б дзяўчына і ўявіць воблік маці. Адно, што запомнілася, дык гэта спалатнелы, з завостраным носам, з заплюшчанымі вачыма твар. На ўвесь рост маці ляжала ў труне ўся ў намітках, а на грудзях наклеены на намітку чырвона-зеленаваты крыж. Галя глядзела на маці, аж пакуль не затуманіліся вочы.

Больш за ўсё запомніўся ў той дзень бацька. Ён неяк быў згорбіўся і выдаваў старым-старым і зусім нямоглым. З прыплюшчаных сплаканых вачэй яго каціліся слёзы. Яна, здаецца, і цяпер бачыць тыя гарачыя, горкія, як палын, слёзы.

Неўзабаве бацька неяк увачавідкі разагнуўся, павесялеў. Пастрыг галаву, згаліў бараду і вусы і ўжо выдаваў зусім як хлопец.

Галя доўга жыла ў бабулі Арыны — матчынай маці, а калі вярнулася дадому, застала ў хаце незнаёмую жанчыну, якая поралася пры печы і адразу ж падала на стол ёй, Галі, полудзень, сказаўшы:

— Еш, дачушка, еш!

Можа, Галі трэ было падзякаваць за пастаўленае на стол, але ў дзяўчынкі неяк не павярнуўся язык. Яна для прыліку ўкусіла раз-другі, моўчкі высунулася з-за стала, чамусьці пайшла ў куток і адтуль ужо глядзела, як гаспадарыла чужая жанчына. Не магла ніяк зразумець, чаго яна тут, у іхняй хаце, гэтак увіхаецца, як дома.

Бацька скасавурана зірнуў на дачку, нешта памаргаў вачыма, але Галя яго не зразумела. Тады ён сказаў:

— Ты, Галя, глядзі — гэта твая новая мама. Шануй яе і любі. І ты, Параска, не лічы Галю за сваю падчарку, а глядзі як родную...

У Параскі на вочы набегла сляза, у бацькі таксама. Адно Галя стаяла моўчкі, нязрушна, не ведаючы, куды

дзець свае рукі, якія ёй здаліся чамусьці доўгімі-доўгімі і няўклюднымі.

— Ды ўжо ж, Казімірка, як бог даў, так яно і мусіць быць.

А Галя маўчала. Маўчала зацята. Яна нічога і не думала. Яна толькі маўчала, бо язык не паварочваўся сказаць «мама». Бацька палічыў гэта за благі знак і заславаў.

— Чаго ты маўчыш? Хіба яна табе не падабаецца? — паказаў вачыма бацька на жанчыну.

— Падабаецца,— выціснула са слязьмі Галя.

З цягам часу ўсё ўвайшло ў свой звычай. Галя прынаравілася, прыплакалася да новай маткі, а Параска прызвычаілася да чужое дачкі, хоць у адной ды і ў другой у сэрцах было нешта шорсткае і трошкі балючае.

Гады з два ўсё было добра. А потым у хаце павесілі адну калыску, другую, і закугалі маленькія Галіны сястрычкі ды брацік. На мачыху як чорт уссеў. Як Галя ні старалася рабіць, каб усё было добра, усё роўна перападала то горкае слова, а то часам і лупцоўка, і таму дзяўчынка старалася як меней быць дома. Яшчэ на світанку Галя вылазіла з-пад дзяружкі-саматканкі, хуценька надзявала сваю немудрашчую адзежыну і бегла на калгасную работу — вясною перабірала бульбу, падсявала на рэшата насенне лёну, а як пачыналася лета — цэлымі днямі працавала на льняным палетку. Палола гэтак, што старыя не раз казалі:

— Казіміравае дзяўчо шчырue. Не казаў бы то — матчыны і крошкі пабрала. Тая ж, бывала, да работы — як чорны вол. Мо ад яе і богу душу аддала.

Галя як бы і не чула гэтага. На полі сярод людзей, сярод красак, ільноў і жытоў ёй было добра-добра. Тут і ветрык быў лагодны, ласкавы.

Зімою дзяўчына таксама не заседжвалася дома. Параска, праўда, бурчала і дамагалася, каб яна кінула школу, але бацька цыкнуў:

— Цяпер жа свет не той настаў. Хай-то мы з табою невідушчыя асталіся, а ім нельга, ім трэба далёка бачыць. Вучыся, дачушка, вучыся,— казаў ужо да Галі ласкава бацька.— А мы як-кольвек паняньчым і пагадуем гэтых малых.

І Галя яшчэ зацемна першая бегла ў школу, якая была далекавата ад іхняй хаты, амаль у самым канцы Нежыхава. Дзед Дарахвей, які паліў у печах і вартаваў школу,

ужо ведаў Галіны дробненькія тупатлівыя крокі і, як толькі чуў іх пад дзвярыма, асабліва зімою, у маразяку, кідаўся адшчэпліваць зашчапку.

— Сядай, дзетка, сядай от сюды, да цяпельца,— запрашаў ён.— Не вельмі ж, мабыць, сагрэлася ў гэтай сваёй сярмяжцы. Няўжо гэта твой тата не можа табе расстарацца якой цяплейшай адзежыны?

— Грошай няма ў нас, дзедка. Тата адзін на ўсіх не можа нарабіць,— адказвала Галя тое, што чула не раз з мачышыных вуснаў.

— А хіба ж пасля тваёй маткі нічога такі не асталося — ні палатна, ні гатовай якой адзежыны? То няхай бы табе перашылі. Твая ж нябожчыца маці вунь якая гаспадыня была.

Не ад цяпла, якое шчодра струменілася з расчыненых дзверцаў грубкі, а ад тых добрых слоў, што казаў дзед Сопат, цяплела, грэлася, як пры невідочным агні, Галіна душа. Стары так гаварыў пра маці, быццам яна была яго роднаю дачкой і ён ніяк не мог на яе забыцца. Можа, для таго, каб пачуць пра маму, Галя гэтак раненька і спяшалася ў школу.

— Маці твая была гарушчая, ды не даў ёй бог пажыць, пакрасавацца. І ты б параскашавалася пры ёй. А так табе, дзетка, непярэліўкі, я ведаю. Мачысе ўжо рупіць свой боб, якім яна абсыпалася. А ты — як той адарваны стручок, на які і наступіць можна. Дык ты, дзетка мая, вучыся, вучыся, старайся на ўсю сілу. Калі трэба, недаспі і недаеш, а вучыся, як вучыўся калісь мой Стасік. А ён вучыўся так, што настаўнікі не маглі нарадавацца.

— Які Стасік? — не зразумела Галя.— Пры вас жа нікога няма, вы ж адзін, як былінка.

— Не былінка, а добры камлюк. І не адзін. Пры мне, праўда, нікога няма, але ж сын у мяне ёсць, ды яшчэ і які! На от зірні,— і дзед палез за крысо ватоўкі, дастаў нешта загорнутае ў чысценькі паркалёвы лапічак, разгарнуў і падаў Галі.

— На от зірні, які ён бравы ды хупавы.

Чамусьці дрыжачымі рукамі Галя ўзяла ўжо сцьмянелае, не вельмі выразнае фота, зірнула і сумелася: той, каго яна бачыла на фота, быў рыхтык дзед Дарахвей, але толькі што малады і прыгожы.

— Дык гэта ж мо вы, дзед, як маладыя былі? — глядзела на здымак і на дзеда, як бы звяраючы падабенства, Галя.

— Няўжо ж ты, дзеўка, не памятаеш майго Стасіка? Няўжо ж ты нічога і не чула пра яго?

— Нічагусенькі.

— І нябожчыца маці твая табе нічога не расказвала пра яго?

— Не.

— А ён жа табе яшчэ як бы і радня якая. От паслухай.

Галя глядзела як зачараваная, баялася паварушыцца, каб не страціць хоць аднаго слова з таго, што расказваў дзед.

...Было тое акурат перад калядамі. Як і ўсе людзі, Дарахвей збіраўся забіць да свята кабанчыка. Завядзёнка тады яшчэ ў людзей такая была: увесь год можаш пасцічаць, а на каляды ці на вялікдзень абавязкова разгавецца свежыною. Выгадаваў і Дарахвей сабе ладнага япручка. Трэ было ўжо і біць яго. Хапіўся стары ў нежыхаўскую краму па соль, а там яе ні каліва. То ён пазваў хлопца і кажа:

— Схадзі ты, Стасік, у сялявіцкую краму ды купі солі.

Стасік быў паслухмяны, заўсёды ахвочы да работы. Апрануў ён світку і пайшоў напрасткі зімнікам. Тым часам старыя ўходалі таго япручка, выцяглі на вуліцу і ўзяліся смаліць. Толькі гэта стары перавярнуў кабанчыка дагары нагамі, каб добра падсмаліць падчаровак, аж бачыць — Стась бяжыць. Сумеўся, як гэта хлопец так хуценька схадзіў. А калі Стась падбег да агню, стары зірнуў на сына і ледзь не самлеў: світка на ім была як луб і ўвесь ён — як з лёду.

— Тата, я солі не прынёс,— усяго і сказаў хлопец і кінуўся ў хату.

І Дарахвей, кінуўшы смаліць кабанчыка, пабег за сынам: ніяк даўмецца не мог, што з хлопцам.

— Дзе гэта табе, сынку, дало так? — пытаецца.

— Маўчыце, тата,— пачаў апраўдвацца Стась, быццам ён правінку якую зрабіў.

Пераапранулі яго ў сухое і на печ, на самую чарэнь. А ў хлопца зуб на зуб не цаляе. Потым як агнём загарэўся — гарачка такая падкінулася. Бацька ледзь дапытаўся, што з хлопцам сталася.

— Дык а сапраўды што? — не цярпелася Галі.

— А тое, дзетка мая, калі б мой Стась дрыжыкаў тых дадому не прынёс, дык, можа б, ты яшчэ тады сіратою стала.

— Чаму б я сіратою стала? — не магла ўшалопаць Галя.

— А таму, што твая нябожчыца маці, тады яшчэ зусім маладзенькая, вызаліўшы ў жлукце бялізну, панесла паласкаць яе на рэчку. На той самы глыб, дзе ўлетку ўсе плыўцы нежыхаўскія купаюцца. Бацька пешняй прабіў ладную палонку і пайшоў дадому, а яна асталася адна на лёдзе.

Ідзе Стасік і чуе — нехта не сваім голасам крычыць:

— Ратуйце, людзі добрыя, ратуйце!

Стась кінуўся на крык. Бачыць — над лёдам то ўзмахваюць, то зусім рынаюць нечыя рукі. Хлопец ён быў дужы, хоць яшчэ і малы. Падбег да палонкі, схапіў жанчыну за валасы і давай цягнуць. А яна як нежывая ўжо — з сіл выбілася. Сяк-так даў рады. Але ўзяўся адцягваць ад палонкі, неяк пакаўзнуўся нагамі — і сам туды. Ледзьве выкараскаўся. Тыдні два праляжаў у гарачцы.

— А нябожчыца маці твая, можа, з-за тае палонкі гэтак рана і ў магілу сышла. Пасля таго здарэння ўсё хварэла і хварэла.

Галя папрасіла ў дзеда фотакартку, каб яшчэ хоць раз зірнуць на выратавальніка яе маці. Доўга ўглядалася яна ў праніклівыя вочы — відно было і на фота,— у застыглую добразычлівую ўсмешку, як не гладзіла трошкі настабурчаныя, з кучарамі, зачасаныя ўгару валасы. Нібы праз сон, Галя цяпер успаміналa, што бачыла гэтага хлопца. Тады яна на Стася не звярнула ніякай увагі — ведама, малеча была. Цяпер жа нясцерпна захацелася як мага болей уведаць пра хлопца, які выратаваў яе ад ранняга сіроцтва.

— Дык а дзе ж цяпер ваш Стась? — дапытвалася ў дзеда.

— А хто яго ведае, дзетка мая. У яго дарог многа, а ў мяне толькі адзін клопат пра яго.

— Чаму ж ён ніколі не прыедзе?

— Хто яго ведае, можа, нельга яму.

— А мо ён і зусім на вас забыўся?

— О не, дзетка мая, Стась не з таго дзесятка, каб забыцца на бацьку. Ён, мабыць, яшчэ не ведае, што і маці яго на свеце ўжо няма.

— Чаму ж вы яму не паведамілі? — сказала Галя, як бы кінула дакор старому.

— Каб жа можна было...

Галя распытвала ў дзеда пра яго сына, але стары нешта недагаворваў, нешта таіў ад яе, і дзяўчыну гэта злавала і яшчэ больш распальвала яе цікавасць да Стася, да таго, чаму ён выракся бацькі, які на старасць астаўся зусім адзін. Дарахвей, нібы толькі для таго, каб дзяўчына не падумала нічога благога пра яго сына, казаў:

— Мой Стасік — увесь і ва ўсім па мне. Покі тут жыў, у Нежыхаве, дык самым галоўным камсамольцам быў. А потым і ў Мінску, калі яшчэ вучыўся, дык таксама нейкім важнецкім камсамольскім начальнікам быў. А ты дарма думаеш, дзяўчо, што ён на мяне забыўся. Сопаты не такія людзі. Увесь наш род і завод адзін аднаго пільнаваліся. І сын мой тады, як можна было, амаль штотыдня прысылаў пісьмы. Я адпісваць не паспяваў.

— То чаму ён цяпер не піша вам? — як не абуралася Галя паводзінамі Стася.

Дзед Дарахвей кінуў вачыма на яшчэ цемнаваты клас, у якім яны сядзелі, быццам правяраючы, ці не стаіліся дзе лішнія вушы і вочы, па-змоўніцку прыцішыў голас і сказаў:

— Не піша таму, што нельга яму. Гады два назад прыслаў мне ліст, у якім пісаў, каб я хутка не чакаў ад яго весткі, бо выязджае ў нейкую дзяржаўную камандзіроўку. Я смякаю куды,— яшчэ больш сцішыў голас дзед Дарахвей,— мусіць, недзе за мяжу. Табе я гэта толькі адной сказаў. Ты ж глядзі, мая дзетка, не прагаварыся нікому.

— Не прагаваруся, дзедка,— сказала таксама прыцішаным голасам Галя, мо задаволеная тым, што дзед давсрыў ёй сваю таямніцу, хоць яна і не разумела, чаму Стасю нельга нават весткі падаць дадому.

— А вы спрабавалі шукаць Стася? — спытала Галя.

— Чаму ж не. Улетку напісаў быў у Мінск, дык зноў прыйшло, што Стась у нейкай камандзіроўцы. Напісалі, каб я не бедаваў, не трывожыўся, бо ён жывы і дужы. Часам мне і грошай трохі падкідаюць, я сам нават не ведаю адкуль, быццам іх Стась пасылае. Завод наш такі,— сказаў ужо з гонарам дзед Дарахвей,— бацька рэвалюцыю рабіў, і сын пайшоў па яго дарозе.

— Якую рэвалюцыю? — сумелася Галя.

— Кастрычніцкую! Другім разам я табе ўсё раскажу,— паабяцаў стары.

У той дзень Галя, і седзячы на ўроках, і прыйшоўшы дадому, адно толькі і думала пра тое, што расказаў стары.

Дапытвалася ў бацькі, як тапілася ў палонцы матка, але той махнуў рукой і сказаў:

— Ат, што было, тое сплыло.

І ўночы Галі не далі спакою думкі: яны нітаваліся адна з адною, і ўсё больш думалася пра Стася, які выратаваў яе маці, думалася пра дзеда, карцела як хутчэй пачуць пра тое, як ён рабіў рэвалюцыю. Яшчэ на дасвецці Галя выбралася ў школу. Дарахвей паліў ужо грубкі, падкладаў дровы ў зыркае полымя. Яна ціхенька ўвайшла ў клас. Села побліз дзеда і падала голас:

— Я прыйшла ўжо, дзедка.

— Чаго ж ты так заране?

— Дык вы ж абяцалі расказаць.

На ўсё жыццё запомнілася Галі тое, што расказваў дзед Сопат.

Тады ён яшчэ быў не стары і ў войску служыў. На германца, казаў, паходамі хадзіў за веру, цара і айчыну.

— Я ж думаў, цар той — бог на зямлі, дык павер, дзетка, гатовы быў за яго, як казалі, жывот свой палажыць. А потым, як прыгледзеўся ды прыслухаўся, дык няма на каго і плюнуць.

— Хіба ж вы і цара бачылі?

— А чаму ж не, на свае вочы бачыў. Прыгналі нас, як пачалася заварушка, з фронту ў Петраград. Пазаганялі, не раўнуючы, як тых цялят у кашары, у казармы. Кожны дзень швэндаліся да нас папы розныя. А аднаго разу праз усю ноч і на волас нам не далі заснуць. Афіцэры муштравалі, ганялі нас, як чэрці грэшнікаў па пекле. Усім з-пад іголачкі абмундзіроўку выдалі. Нас пападстрыгалі пад машынку, пагалілі, як перад прычасцем якім. А на світанні, ледзь толькі сонейка выбліснула, з песняю «Салавей, салавей, пташачка...» пагналі на Дварцовую плошчу. Глядзім, а там нашага брата-салдата — як бобу насыпана, ды ўсё радкамі. Генералы ды афіцэры пахаджваюць сабе, вачыма нас стрыгуць. А гэтак пад абед ужо бачым — чартапхайка аднекуль выкацілася на плошчу.

— Якая, дзедка, чартапхайка? — не магла даўмецца Галя.

— Ды машына ж! Тадышнія ж машыны былі не тое, што цяперашнія. І царская нарабіла такога смуроду, што хоць ты нос затыкай. А з яе выходзіць рыжанькі, плюгавенькі, не раўнуючы, як наш Хведар Яравец, чалавечак. А за ім цэлая світа генералаў ды svалаты рознай. Усе чыстыя, гладкія, адгадаваныя, як тыя япрукі кормныя. Абы-

шоў ён нас, абгледзеў, а потым узлез на нешта высокае ды як закрычыць:

— Здрасце, браты-салдаты!

— Здраўя жалаем, ваша вялічаства! — гаркнулі мы.

Загралі музыкі, і мы, выструніўшыся, слухаем не дыхаючы «Божа, цара храні». Потым зноў з момант цішыня, а пасля як прарвала таго цара-плюгаўчыка:

— Роднае наша, хрысталюбівае воінства! На цябе толькі спадзяёмся, на цябе ўпаваем, што ты скрышыш не толькі нямецкага супастата, але і сатнеш галаву рознай унутранай нечысці, якая падымаецца, каб нізрынуць трон гасподзен...

Доўга гаварыў цар. Пасля мы на поўныя грудзі крычалі: «Ура!» А я крычу ды і думаю: «А ці варта за такога памазанніка божага галаву злажыць, аддаваць жывот свой? Які ж ён памазаннік? Плюгавец, дый годзе!»

Там, у Піцеры, я яшчэ і пра Распуціна дачуўся ды пра іншых, і ў галаве ў мяне думка, як жылка, забілася: «Ім, канечне, што! Ім нішто не абыходзіць; мы, ваюючы з немцам, сваю кроў льём, а яны тут у тыле п'юць яе, як смаўжы, таму і гладкія такія. Ім добра і крычаць за веру, цара і ацечаства. Іх жытка не тое што наша — ні лыкам не падплецена, ні венікам не падмецена». І от раскінуў я сваёй галавой ды прыкінуў, дык няма мне ніякай рахубы за таго божага памазанніка ваяваць. І калі нас увосень семнаццатага года выгналі зноў на тую Дварцовую плошчу на ўсмірэнне рабочых, дык я сам сабе сказаў: годзе! І не адзін я — бадай усе салдаты так сказалі.

— Дык вы, дзедка, і цара скідалі? — папытала Галя.

— А то як жа! Я ж кажу, зноў нас на тую Дварцовую плошчу выгналі на ўсмірэнне рабочых. Паставілі ў рады. А там людзей-людзей — матрасня, салдаты. Афіцэр крычыць, аж ссінеў, загадвае страляць у рабочых. А мы — хоць бы на згатоўку вінтоўку ўзяў каторы. Тады ён, гад печаны, выхапіў з кабуры рывальверт, пабег і стрэліў у спіну таму рабочаму, які нёс чырвоны сцяг. Што ж гэта, сабе думаю, за такі закон — страляць чалавеку ў спіну? Хуценька выбег са строю, падбег да таго недавярка і на ўсю сілу ўваткнуў яму ў грудзі штых па самую рулю. Афіцэр і не каўкнуў. А сам я падхапіў з рук забітага рабочага той чырвоны сцяг, узмахнуў над галавой.

— Салдаты, браточкі, не дазволім недаваркам, крывасмокам рабочых людзей забіваць! За мною! — крыкнуў я на ўсю сілу. І што ты думаеш, дзетка: салдаты паслухалі

мяне, як генерала. Дык от як мы разам з рабочымі ды з матросамі рэвалюцыю Кастрычніцкую, дзетка, рабілі.

— Дык вы мо і Леніна бачылі?

— А то чаму ж не.

— Раскажыце, раскажыце,— не цярпелася Галі.

— О не, саколка мая, гэта доўгая казань. Няхай як другім разам. Зараз от трэба пазачыняць юшкі. Неўзабаве ж падшывальцы папрыбягаюць.

Галя зірнула на вокны. На дварэ ўжо было віднавата, і вось-вось павінны былі прыйсці вучні, затупацець у калідоры, заляскаць вечкамі парт, загаманіць у класах. Галя хуценька знайшла анучку, вымачыла яе ў тазіку пад бачком, выцерла да бляску класную дошку, паклала крэйду і села на сваё месца — на першай парце. Яна так была захоплена думкамі, асэнсаваннем таго, што ёй расказаў дзед Дарахвей, што не пачула, не заўважыла, калі гаманкі ручай галасоў заліў клас. Толькі тады, як сяброўка па парце лёгка штурханула яе локцем, Галя ўстала. Зайшла настаўніца гісторыі Неаніла Восіпаўна і дала свой «добры дзень».

Якраз тэма ўрока была Кастрычніцкая рэвалюцыя, і тое, што расказвала Неаніла Восіпаўна, Галя ў думках звярала з тым, што нядаўна чула ад дзеда. І дзіва: тое, што расказваў стары Дарахвей, было куды цікавейшае.

Галіна парта стаяла трошкі наўскось ад дзвярэй. Яны былі няшчыльна прычынены, і дзяўчыне відно было, што робіцца на калідоры. Там, праўда, нічога такога і не рабілася. Адно стары Дарахвей Сопат ціхенька, як той кот на кіпціках, таптаўся пад дзвярыма і ўслухоўваўся ў тое, што гаварылася ў класе. Яму, відаць, вельмі хацелася паслухаць настаўніцу. Стары так заслухаўся, што, мабыць, забыўся званіць на перапынак. Настаўніца зірнула на ручны гадзіннік і сказала:

— А цяпер перапынак. Пытаць буду на другім уроку.

Заляскалі вечкі парт. Узнялася гамана, і толькі тады тоненька-тоненька, як бы баючыся парушыць спакой, задзілінькаў званок у руках дзеда Сопата. Выбегшы ў калідор, Галя зірнула на старога, які стаяў непадалёк ад дзвярэй нейкі ссутулены, нібы ён чым правінаваціўся, і весела кінула яму на бягу:

— Усё добра, дзядусь!

— Але ж, добра, добра, дзетка мая,— адказаў ён і зірнуў на насценны гадзіннік: ужо трэба было званіць на

ўрок, хоць вучні толечкі выбеглі з класаў. Стары пабавіўся: хай пагуляюць, пабегаюць.

На другі дзень Галя яшчэ раней прыбегла ў школу, калі на вуліцы было зусім цёмна і вусцішна. Яна нават баялася трошкі, але ішла: вельмі ж ёй карцела тое, што меўся далей расказаць стары Сопат.

Дарахвей толькі распаліў грубкі. У той, ля якой ён стаяў нагнуўшыся, яшчэ сквірчэла бяроста, скручваючыся ў трубкі. Дзед адарваўся ад грубкі і зірнуў на Галю:

— Нешта ж ты раненька сёння прыбегла, дзетка?

— Не спіцца, дзядусь.

— Ну то добра, калі табе карціць. Асабліва табе трэба, каб карцела. Лягчэй пражывеш: смачней з'ясі, дабрэй зносіш.

Дровы-аблетак разгарэліся добра, аж грубка гўла. Дзед прысеў на корпушкі ля дзверцаў, падварушыў дровы, і праз дзірачкі дзверцаў выбліснулі залатыя прамяні. Святла Сопат не запальваў. Пры гэтым таямнічым святле яму мо яшчэ спасабней было: добра думалася, жыва ўспаміналася і наогул усё здавалася трошачкі казачным.

— Дык мо табе, дзетка, і казку якую расказаць, я ж іх процьму назбіраў за ўсё жыццё.

— Не, не, дзедка, не казку,— выказала Галя тую просьбу, дзеля якой яна так заране прыбегла сюды.— Раскажыце тое, што ўчора меліся расказаць.

— Пра што бо то, мая саколка? Стары ўжо, не ўсё ў галаве трымаецца. Забывацца пачаў.

— Пра Леніна! Пра Леніна, дзедка, пра тое, як вы яго бачылі.

— Дык, дзетка мая, бачыў я Ільіча, як от цябе цяпер, а можа, яшчэ і бліжэй.— Галі здалося, што стары на вока прымярае адлегласць ад сябе да яе, і яна бліжэй прысунула свой зэдлік да дзеда.

— От як яно было: паставілі мяне ў калавур. Стаю я сабе, як не драмлю.

— Не ў «калавур», дзедка, а ў каравул,— папраўіла Галя.

— Паставілі, значыцца, у калавур,— настойліва казаў па-свойму Дарахвей,— у Смольным. Гэта ў Петраградзе так дом зваўся.

— Ён і цяпер так завецца,— сказала Галя.

— Паставілі пры такіх шырозных ды высозных дзвярах, што, як бы ні падскокваў, да ўзгалоўя рукою не дастанеш. Паставілі, і калавурны начальнік сказаў, каб у

дзверы без пропуску нават мыш не працячылася. Дзверы філёнчатыя, з чорнага дубу зробленыя. Я нават пазногцем калупнуў, ці цвёрдыя. Дык як з жалеза. Стаю я сабе з вінтоўкаю напагатове. А па даўжэзным калідоры ходзяць сюд-туд, усё больш матрасня ды наш брат салдат. Трапляюцца і цывільныя, але іх меней. А я стаю, не дыхаю. Не жартачкі ж — на такі калавур паставілі. Аж раптам бачу: па калідоры, як не подбегам, чалавек ідзе. У чорным расшпікнутым паліто, пры гальштуку. Ну, думаю, куды ён ідзе? А ён просценька да маіх дзвярэй. І толькі як яму ўзяцца за клямку, ці за ручку, як яго там, я яму наперарэз. Стойце, кажу, сюды не велена без пропуску. Пакажвайце, кажу, пропуск.

Ён запыніўся, паляпаў, пацопаў сябе па кішэнях дый кажа: «Пропуск дома забыўся».

Кажа, а ў роце ў яго быццам якая гарошынка пад языком перакочваецца і не дае яму вымавіць «ры». А я яму яшчэ раз, сур'ёзна ўжо, кажу:

— Схадзіце, таварыш, дадому па пропуск, калі ён у вас ёсць, або ідзіце да начальніка калавура.

Кажу, а сам сабе думаю: «А што, калі ён пойдзе ды прынясе пропуск, дык хіба я ў ім што раскумекаю». Невідушчы я быў, цёмны. То я, перагарадзіўшы перад ім вінтоўкаю дарогу, дамагаюся, каб ён пайшоў да начальніка калавура. І ён такі пайшоў, не дзе дзеўся. Бачу, аж ідуць удвух, і начальнік як бы чаго спалохаўся. Цюпае ззаду і яшчэ здалёк мне ківае і маргае: маўляў, пусці. Ну, тут я не мог не пусціць. Прыняў вінтоўку і дзверы яшчэ прачыніў. Чалавек неяк добра, зычліва ўсміхнуўся, аж на душы ў мяне павесялела. Зачыніліся дзверы, а тады начальнік калавура на мяне, замест таго, каб паспагадаць, ды яшчэ вызверыўся:

— Эх ты, цемната! Хіба ты не бачыш, хто ідзе? Гэта ж Ленін! Сам Ленін, разумееш! Уладзімір Ільіч!

Калі праўду казаць, дык я і ўвамлеў, быццам мяне хто варам абліў. А начальнік той хоць бы памаўчаў, дык ён яшчэ болей разышоўся.

Накрычаўшы на мяне, начальнік пайшоў, а я астаўся пры дзвярах. Дай веры, галубка мая: стаю як на гарачым вуголлі. І, можа, як кару мне за той зявок, доўга-доўга, як не праз усю ноч, не прыходзілі мяне змяняць. Думаю сабе: «Добра ж, калі Ленін не злосны чалавек, дык, можа, і даруе мне маю правінку». І от, можа, ужо за другія пеўні, чую за дзвярыма нечыя крокі. Ну, я і зусім абамлеў.

Сам не ведаю, навошта я тую вінтоўку на калавур узяў. Бачу — ціхенька-ціхенька адчыняюцца дзверы і выходзіць Ленін. Угледзеў я яго і сумеўся: думаў, будзе на мяне сварыцца, а на твары ў яго ўсмешка, як сонейка. Стаю і ног пад сабою не чую: хіба жартачкі — сам галава дзяржавы на мяне глядзіць.

— Ну, як вам тут стаіцца? — пытае Ленін.

— Добра, таварыш Ленін! — хацеў я крыкнуць на ўвесь голас, але крыку не выйшла — сам не ведаю, з якой прычыны асіп, быццам мяне выкупалі ў сцюдзёнай вадзе.

— Як жа ваша прозвішча, чырвонагвардзеец? — пытае ў мяне і ўсміхаецца.

— Сопатам мяне завуць. Дарахвеем.

— Кім служылі ў царскай арміі?

— Ніжнім чынам, ваша...— «высакароддзе» ледзь у мяне не вылецела, ужо на языку вярцелася, але я ўсё-такі сказаў: — ...таварыш Ленін!

— З якіх краёў самі будзеце?

— З Мінскай губерні, з Беларусі.

— З Беларусі? — перапытаў Ленін.— Людзі там, кажуць, у вас добрыя. Пралетарыят гераічны. Ды і сяляне ў шапку не спалі: фальваркоўцам часта чырвоных пеўнікаў пад стрэхі пускалі.

— Пускалі, таварыш Ленін. У нашым Нежыхаве ў пятым годзе такога пеўня падпусцілі, што пан Ендрыхоўскі яшчэ і дагэтуль не адбудаваўся.

— Добра, што на Беларусі ёсць такія людзі, як вы. Яны цяпер нам вельмі патрэбны. Зробім вас рэвалюцыйным начальствам, і будзеце адбудоўваць усё.

— Рад бы, таварыш Ленін, ды сляпы я.

— Як сляпы? — зірнуў у вочы Уладзімір Ільіч.

— Не на вочы сляпы. Невідушчы на літары. Ні чытаць, ні пісаць, ні бэ, ні мэ...

— Не бяда, навучым! Дык як ваша прозвішча, кажаце? — дастаючы з унутранай кішэні алавец, пытае Ленін.

— Дарахвеем Сопатам завуць.

— Абвяшчаю вам, таварыш Сопат, падзяку за бескампрамісную рэвалюцыйную пільнасць. Нам цяпер яна дужа патрэбна,— сказаў Ленін, развітаўся са мною за руку і зноў знік за тымі шырозным і высознымі дзвярыма. Я астаўся зноў адзін стаяць пры іх. Неўзабаве мяне змянілі, і начальнік калавура ўжо ў калавурцы давай мяне прабіраць самымі апошнімі словамі. Зноў мне кажа:

— Мужык ты цёмны, казан нешараваны.

Ну, тут і я ўжо не сцярпеў і ў адказ яму:

— Сам ты казан нешараваны.

— А чаго гэта ты так асмялеў? — здзівіўся калавурны.

— А таго, што з самім Леніным гаварыў, разумееш!

— Дзе ты з ім гаварыў? — здзівіўся ён яшчэ больш.

— От тут, як з табою, толькі ён не сварыўся. Нават падзяку мне абвясціў.

— За што?

— Сам добра не ведаю: за нейкую бескампрамісную рэвалюцыйную пільнасць... От як яно было, мая галубка,— скончыў апавяданне дзед Сопат.

— А вы цяпер у партыі, дзедка? — спытала Галя,

— Не, галубка, у ячэйцы не састаю. Але душа мая партыйная з таго часу, як тады з Уладзімірам Ільічом пагаварыў.

— А, можа, гэта вы казку расказалі, дзядусь?

— Гэта не казка — жывая праўда, дзетка мая.

— А я думала, што Ленін — гэта як бог.

— Які табе бог! Ён вышэй за бога! Бог людзям дулю з неба паказваў, а Ленін усё-ўсё нам даў: і гэтую школу, і навуку, і зямлю, і нетры — усё жыццё наша. То глядзі, дзеўка, пільнуйся гэтага жыцця. Вучыся, старайся, каб не астацца такой невідушчай, як я. Хто яго ведае, кім бы я стаў, каб мне навукай вочы прамылі. А так вот палю грубкі, цяпло вам даю, а калі вам цёпла, дык і мне дабрэй на душы. Толькі глядзі вучыся, каб не схібіла.

— Буду вучыцца, дзедка,— сказала Галя, нібы дала ўрачыстую клятву.

— А цяпер, тым часам, давай юшкі пазачыняем, а то ж хутка зляцяцца птушаняткі нашы,— сказаў дзед і ціха патупаў у калідор.

## Раздзел трэці

Выпускны вечар у Нежыхаўскай дзесяцігодцы быў не які ўжо там незвычайны. Аднак жа гэта было свята, асабліва для тых, у каго паадрасталі крылы для самастойнага лёту.

У Нежыхаве не было духавой музыкі, якая б магла падняць на ногі, узрушыць, усхваляваць і старых і малых. Кожны з выпускнікоў прынёс хто кавалачак сала, хто якую крошку мяса, хто кілбасу, напяклі булак, хрушчы-

каў, нарабілі нейкага трошкі хмельнаватага квасу. Хлопцаў, мабыць, квас не дужа задавальняў, то яны склаліся па рублю ці па колькі і ўзапасілі ўпотай ад дырэктара, ад настаўнікаў і нават ад дзяўчат колькі пляшак гарэлкі ў надзеі хоць трохі падвесяліцца. Адна Галя Заранка нічога не магла дакласці да агульнай кашы. Мачыха гэтак разлютавалася, што нават думаць нельга было, каб папрасіць у яе чаго-кольвек на тую складчыну.

У тую нядзелю на самым світанку Параска ўскатурхала Галю і загадала:

— Ідзі хоць карову падаі. Хіба ж я адна разарвуся на ўсе раты. Ужо ж твая навука, мабыць, кончылася, дык няма чаго гульма гуляючы хлеб есці.

Галя паслухмяна ўстала, хуценька апранулася і, узяўшы даёнку, пабегла з хаты. Пярэстая іхняя карова выйшла ўжо з хлява і лена жавала жвачку ў загарадцы. Галі ўсяго разы два ці тры і даводзілася даіць Пярэстую. Мачыха не вельмі і давярала ёй. Тыя разы яе дома не было, і Галі не трэба было бегчы ў школу. А то часцяком і сам бацька браўся даіць.

Пярэстая нібы і чакала Галю, рахмана стоячы ў куточку загарадкі. Галя села пад карову, і малако заструменіла ў даёнку. Пярэстая лена павярнула галаву, зірнула мутнаватым вокам на Галю. Акурат у гэты час у хлеўчыку замычала цяля. Як нячысцік які ўссеў на Пярэстую: знячэўку яна гэтак стукнула задняй нагою па даёнцы, што ўсё малако расплёскалася шырокай белай лужынай па зямлі, а Галя паляцела дагары нагамі. Акурат і мачыха выйшла даваць свінням. Як угледзела гэта, дык аж вядрышча выпусціла з рук.

— Пустадомка ты,— заекатала Параска,— і карову падаіць не можаш! Рукі ў цябе праўцом стаяць! Хіба ж карова дурная, не бачыць, хто пад ёй сядзіць!

Потым мачыха падбегла да Галі, якая яшчэ не паспела ўстаць, і добра такі тузанула яе. Галі не так было балюча, як крыўдна. Слёзы самі пакаціліся з вачэй, але, каб не паказаць мачысе, яна іх хуценька выцерла і, устаўшы на ногі, не падняўшы даёнкі, ляснула брамкай і выбегла на вуліцу. Села на лавачцы пры паркане і там ужо дала волю слязам. Пачуўшы калатню на падворку, выйшаў з хаты бацька. Угледзеўшы разлітае ў загарадцы малако і перавернутую даёнку, спытаў:

— Што гэта тут такое здарылася?

— Хіба твае вочы павылазілі? Пратры бельмы. Наеліся дзеткі малака. Што я ім пастаўлю? Вады хіба пасалю? Гэта ж твая ўсё донечка любая!

— Прабудуць дзень як і без малака. А то трэ было самой падаіць.

— Усё самой ды самой. А яна ўсё на ласкавым хлебе будзе ў цябе жыць. Уссела ж на мой карак і сядзіць.

— Чаго яна сядзіць! Яна ж вучылася, ды яшчэ і не абы-як вучылася!

— То мне тая навука яе трэба, як той дым, што з коміна ідзе. Пражыла б і без навукі. Мы ж от з табою жывём.

— Жывуць кот і сабака, ды доля не аднака. Ай, ды што з табою гаварыць,— махнуў рукою Казімір.

Ляснулі сенечныя дзверы, і Параска асталася адна на панадворку. Але і адна не змоўкла.

— Дык чаго ты пацёгся ў хату?! — крычала на ўвесь двор Параска.— Хіба ты не чуеш, пастух ужо трубіць.

Здалёку чутны былі прарэзлівыя гукі пастуховага рога і глухаваты гугнявы голас:

— Вы-га-няй! Гэй, выганяй! А хто праспаў, дык даганяй!

Казімір выйшаў на ганак, пастаяў трошкі і паціху патупаў да загарадкі, выцягнуў з варот жэрдкі і выгнаў карову.

— Ну, пайшла, пайшла, разбойніца рагатая,— ласкава падганяў Казімір худобіну.

Забег наперад, адчыніў веснічкі і ўгледзеў, што на лавачцы, стаіўшыся, сядзіць заплаканая дачка.

— А я думаў, што ты пайшла рыхтавацца да выпускнога вечара.

— Дык з чым на той вечар? Няма чаго ні надзець, ні з сабою ўзяць.

— Паглядзі ў матчынай скрыні якую яе сукенку. Можа, што падкароціш, што падшыеш, дык яно і будзе добра. А на вечар трэба ісці. Хіба ты якая нялюдская!

Можа б, яшчэ бацька і больш пагаварыў, што лепшае параіў, калі б Пярэстая пайшла за чарадою.

— А куды цябе панесла нячыстая! — закрычаў Казімір і кінуўся напярэймы.— Каб ты выдахла, даў бог!

Галя зноў асталася адна са сваімі думкамі. Але пасля таго, як перакінулася з бацькам словамі, на душы стала лягчэй, а на вачах прасохлі слёзы. Калі дагэтуль яна гадала надвая: ад'язджаць ёй з дому ці не, а мо памагчы бацьку трошкі аперыць дзяцей, то пасля ўсяго таго, што

пачула сёння з мачышыных вуснаў, у Галі канчаткова выспеў намер: усё тут кінуць-рынуць і паехаць куды вочы глядзяць, знікнуць, як той дзедаў Стась. А каб было з чым і ў чым ехаць, каб не прасіць, не маліць мачыху, наважыла пайсці да старшыні калгаса, дамовіцца, што яна ўсё лета будзе працаваць, хоць на самых цяжкіх работах, толькі хай ён, перад тым як ёй ехаць, аплаціць усю яе працу грашыма.

Выпускны вечар пачаўся на змярканні. З самага прасторнага класа школы, у якім звычайна праводзіліся сходы — у Нежыхаўскай школе адмысловай залы не было,— павыносілі парты, паставілі ўслоны, намасцілі на партах сцэну і на ёй паставілі даўжэзны стол, накрыты чырвоным сукном. На сцяне над сталом праз усю шырыню класа павесілі чырвонае палотнішча са словамі: «Гарачае прывітанне выпускнікам Нежыхаўскай школы».

Галя села на першы ўслон. Яна была ўзрушана, усхвалявана. Гэта ўсе заўважылі. Клас паступова поўніўся выпускнікамі, і не толькі імі. Сярод тых, хто поўніў яго, былі вучні дзевятага класа, якія, мабыць, прыйшоўшы сюды, хацелі паглядзець, як яны будуць сябе адчуваць праз год у такую пару; былі і з малодшых, сустракаліся нават і старыя — бацькі і маткі. Галя глядзела на людзей, і ёй станавілася балюча-балюча: мачыха не пойдзе, хіба ёй у галаве яе, Галіна, радасць. Ды наўрад і бацька ці пойдзе. Мо і праўду кажа народная прымаўка: маці памерла — бацька аслеп. Галя хуценька пастаралася адагнаць гэтую думку: ён жа сёння ўранку вунь як абышоўся з ёю — паспачуваў.

Галя агледзелася, што як не поруч з ёю сядзіць дзед Дарахвей Сопат. Ён у новым чысценькім гарнітуры, на штрыфелі якога на чырвоным адмыслова выразаным шматочку матэрыялу — ордэн Чырвонага Сцяга. Яна ніколі не бачыла ў дзеда гэтага ордэна і таму з цікавасцю разглядала яго. Расчасаныя і дагледжаныя дзедавы рудыя вусы тапырыліся і надавалі твару нейкі асаблівы выгляд.

Поруч з дзедам Сопатам Галя ўгледзела прышлага хлопца. У яго пры боку стаяў на ўслоне гармонік. Галя не ведала, адкуль і хто гэты гарманіст, але добра, што хлопцы даўмеліся запрасіць яго. Што б то быў за выпускны вечар без музыкі? А так хоць і не духавая, як у гарадскіх школах, але ўсё ж музыка.

Выпускнікі займалі першыя некалькі ўслонаў. Сёння яны былі нейкія ўрачыстыя, зусім не такія, як заўсёды.

Ціхі пошапак і пошум стаялі да таго часу, пакуль за чырвоным сталом не паявіўся дырэктар і памаленьку не пазваніў у той самы званок, які столькі год склікаў на ўрокі і абвяшчаў перапынкі.

Школьны званок! Голас яго, мабыць, кожны з нас пранасіць у памяці і ў сэрцы калі не праз усё жыццё, дык больш за палову яго пэўне!

Дырэктар школы абвясціў вечар адкрытым, вычытаў па спісе каму ў прэзідыум. Сярод вычытаных былі прозвішчы Галіны і дзеда Дарахвея. Яны зірнулі адно на аднаго і заўсміхаліся. Пачуліся воплескі. Гарманіст зайграў туш, пад гукі якога і пайшлі ў прэзідыум настаўнікі, вучні, бацькі. Галя з дзедам Дарахвеем і тут селі поруч, на другім услоне.

Як звычайна, дырэктар сказаў невялічкую прамову, а потым пачаў вычытваць, хто сёлета скончыў школу. Кожны, чыё прозвішча называлася, пад воплескі падыходзіў да дырэктара і атрымліваў пасведчанне аб сканчэнні школы. Чамусьці перад тым, як вычытаць Галіна прозвішча, дырэктар запыніўся, быццам у яго не хапіла духу, а потым ужо на поўны голас сказаў:

— Галіне Заранцы за выдатныя поспехі ў вучобе і прыкладныя паводзіны педагагічны савет пастанавіў: выдаць пасведчанне выдатніцы. Дык павіншуем жа, таварышы, нашу выдатніцу!

Галя хуценька падышла да стала, ухапіла, як бы спяшаючыся, сваё пасведчанне.

Гарманіст, мусіць, не ведаючы, што яму ў такім выпадку іграць, на ўвесь мех расцягнуў гармонік, але музыку заглушылі дружныя воплескі. Галя чамусьці зачырванелася і прыгнулася, каб схавацца за спінамі тых, хто сядзеў на першым услоне. Але дзед Дарахвей падхапіў яе пад локаць і зашаптаў:

— Устань, устань, пакланіся людзям, дзетка,— і памог ёй стаць на ногі.

Галя ўстала і тройчы кіўнула галавою. Потым выступалі настаўнікі, і кожны вучыў, настаўляў, як жыць, як быць далей. Дырэктар даў слова бацьку Косціка Стрыжанка, і той сказаў толькі адно:

— Каб жа нам было так, як ім, дык і мы б...

Што яны б — так і асталося невядома, бо Косцікаў бацька адразу ж сеў на месца ў прэзідыуме. Але і вучні, і настаўнікі, і ўсе, хто быў на вечары, пачулі ў словах старога Стрыжанка невымоўную скаргу на той час, калі

праходзіла маладосць такіх, як ён, і зайздрасць маладому цяперашняму пакаленню, перад якім Радзіма шырока развінула ўсе дарогі.

Потым дырэктар сказаў:

— А цяпер, таварышы, слова мае наш заслужаны ардэнаносец Дарахвей Сопат.

Стары неяк вельмі ж павольна ўстаў, трошкі адышоўся ад свайго месца, быццам хацеў, каб яго ўсе ўгледзелі, і не па-старэчы звонкім голасам пачаў:

— Дык што я вам тут маю сказаць. Усе вы ведаеце, што ўзімку я грубкі палю, цяпло вам даю — добра ці блага, але ж вы не мерзнеце, не ляскаеце зубамі. Цяпла вам хопіць, не бойцеся. Мы, старэйшыя людзі, далі вам яго ў Кастрычніку, і далі такога цяпла, якое не растрачваецца, не выдзімаецца ніякімі вятрамі. Дык глядзіце, сакаляткі мае, ідзіце толькі той дарогаю, якую паказаў Ленін, якую тарылі вам мы, і заўсёды вам будзе добра і па-людску. Вось і ўся мая вам казань, дзеткі.

Галя праз увесь час, што гаварыў дзед Дарахвей, заварожана глядзела на яго. І не на яго, а на штрыфель ягонага пінжака, на якім відзён быў ордэн Чырвонага Сцяга. Ёй здавалася, што з дзедавага ордэна выпраменьваліся тоненькія залацістыя нітачкі і, люструючыся ў вачах тых, хто слухаў і глядзеў на дзеда Дарахвея, адбіваліся ў іх і зноў вярталіся ўжо залатым зіхценнем на дзедавы грудзі.

Дзяўчына гэтак была захоплена думкамі, што ледзьве пачула словы дырэктара, быццам ён іх казаў здалёку-здалёку:

— Ад імя выпускнікоў слова мае наша выдатніца Галіна Заранка.

Галя зноў зачырванелася, на момант збянтэжылася, але пайшла на тое самае месца, дзе толькі што стаяў дзед Сопат. І ўжо ў наступны момант авалодала сабою і сказала:

— Ад імя выпускнікоў, ад імя ўсіх маіх таварышаў я выказваю шчырае дзякуй роднай нашай дзяржаве, Камуністычнай партыі, нашаму дырэктару і ўсім настаўнікам за тое, што яны нас вучылі, выхоўвалі, бераглі, як родных дзяцей. А яшчэ маё асабістае шчырае дзякуй нашаму дарагому дзеду Дарахвею.

Прысутныя, мусіць, сумеліся: чаму ні дырэктару, ні катораму з настаўнікаў, а іменна дзеду Дарахвею Заранка выказала асабістую падзяку? Але момант быў такі ўрачы-

сты і незвычайны, што ўсе зрабілі такі выгляд, быццам апошнія Галіны словы яны прапусцілі міма вушэй.

Пасля невялічкага перапынку пачаўся канцэрт школьнай самадзейнасці. Першымі выступілі выпускнікі: спявалі, танцавалі, чыталі вершы. Потым, неўзаметку перамігваючыся, яны адзін за адным павыходзілі з залы. Выйшла і Галя. Яна ў нерашучасці спынілася ў калідоры і не ведала, што ёй рабіць: ісці дадому ці астацца на вечары ды хоць патанцаваць. У тыя дзверы, куды заходзілі выпускнікі, у яе не хапала рашучасці зайсці. У момант такога роспачлівага роздуму акурат і паявіўся перад ёю дзед Дарахвей. Стары спытаў:

— Чаго ты тут стаіш, галубка? Што табе, млосна стала, ці што?

— Дадому зараз пайду.

— Як дадому? — здзівіўся дзед.— А сюды, у гэтыя дзверы? — Ён паказаў на тыя дзверы, у якія заходзілі выпускнікі.

— Я ў тую кашу ні каліва круп не ўсыпала,— намякнула Галя, што яна нічога не прынесла на складчыну,— дык і лыжку не буду даставаць.

— Ат, не кажы ты, от бяда. Я таксама не ўсыпаў, а тым часам лыжачку зачарпну, не збяднеюць гаспадары. Хадзем, хадзем, дзяўчо,— схапіў пад руку Дарахвей Галю і як не сілком павалок у клас.

Там былі пастаўлены ўпрытык адзін да аднаго сталы, засланыя вясковымі саматканымі абрусамі і застаўленыя місамі са студнем, з кілбасамі, закладзеныя спечанымі на бляхах-процвінах булкамі. А сярод усяго гэтага стаялі розных памераў і фасонаў пляшкі і пры іх — шклянкі, чаркі, адкарцы і кубкі. Траплялiся і невялічкія гранёныя, на аднай ножцы чарачкі, з якіх звычайна п'юць жанчыны. Да сталоў былі прыстаўлены ўслоны, а парты і з гэтага класа, як і з таго, дзе адбывалася ўрачыстасць, былі некуды вынесены. Выпускнікі, пападпіраўшы плячыма сцяну, стаялі ў рад. Яны былі нейкія маўклівыя, засяроджаныя і, здавалася, прагавітымі вачыма глядзелі на тое, што ляжала і стаяла на сталах, быццам яны былі галодныя-галодныя, а ім не дазвалялі накінуцца на тое, што бачылі іх вочы. Галі і дырэктар здаўся нейкім вельмі ж маладзенькім і нясмелым, як і ўсе тут. Як толькі Галя з дзедам Дарахвеем прайшлі за сталы, нехта сказаў:

— Ну, ужо можна і пачынаць: галоўныя госці тут.

Галі пачуўся ў гэтых словах схаваны дакор: маўляў, яна тут, як і дзед Дарахвей, збоку прыпёку, і дзяўчына пачырванела. Але доўга чырванець не было як: ужо яе і дзеда Сопата падхапілі пад рукі і павялі туды, на самы відавок, дзе садзіўся дырэктар, мясціліся настаўнікі. З правага боку ў Галі прымасціўся Косцік Стрыжанок. Хлопец заўсёды стараўся падкруціцца так, каб як бліжэй быць да Галі. Яна гэта даўно заўважыла. Косцік сеў так блізенька, што Галя адчувала яго і хацела адсунуцца, але на ўслоне было цесна і не было куды адсоўвацца.

— Ну, таварышы, пачнём нашу таварыскую вячэру,— сказаў дырэктар, калі ўжо ўсе паселі за сталы.— Прашу наліць!

Па шклянках, па кубках, па чарках забулькала з пляшак рудаватая вадкасць. Косцік падставіў Галі не чарку, а гранёную шклянку і наліў як не поўную.

— Ой, што ты робіш, Косцік! — запратэставала Галя.

— Гэта ж квас, як вада. У ім жа мацунку ўсяго, можа, адзін градус,— заспакоіў Косцік.

Дружна чокнуліся за сканчэнне вучобы, за маладосць, за сяброўства і гэтак жа дружна выпілі. Галя і то выпіла. Квас, ці бражка, як яе там, была дужа смачная. Закусь Галі здавалася такой смачнай, што нельга было адарвацца. Можа таму, што Галя з самага ранку, як разліла малако, дык і крупінкі ў рот не ўзяла.

Заранка не заўважыла, калі Косцік наліў ёй і сабе па другой шклянцы. Налілі і ўсе астатнія. Яна ўжо смялей, не баючыся, што гэты квас затлуміць ёй галаву, чокалася з усімі і перш-наперш з дзедам Дарахвеем, потым з настаўнікамі, дырэктарам і на самы паследак з Косцікам.

— За дружбу, Косцік!

— За дружбу, Галя!

Выпіўшы, Галя пераканалася, што Косцік наліў ёй не таго квасу, які яна піла спачатку. Той быў лагодны, мяккі, смачны, а гэты чапляўся за язык і як не застраваў у горле. Паглядзела на дзеда, як той п'е: у таго таксама было нешта мацнейшае за квас.

— Косцік, чаго ты наліў? — спішана спыталася.

— Квасу.

— Таго самага?

— Таго самага.

— Маніш.

— Дзівачка ты, Галя! Дык чаго я табе налью іншага, калі нічога іншага няма.

Косцік зманіў: пад сталамі стаялі пляшкі з маскоўскай, і на гэты раз хлопцы неўзаметку падлілі яе ў некаторыя шклянкі. Падліў Косцік і ў Галіну, як не палавіну на палавіну. Галя адразу адчула не толькі па тым, што пітво не лашчыла, а як бы пакусвала, трошкі пякло ў роце, але і па тым, што пасля другой шклянкі ў цела ўлілася нейкая млявасць і захацелася плакаць. Слёзы самі прасіліся на вочы і, каб не расплакацца, яна сказала Косціку:

— Я выйду, пабуду трошачкі на дварэ, а то мне дрэнна.

Сказала і, не чакаючы, як Косцік паглядзіць на гэта, пераступіла ўслон і пайшла да дзвярэй. Усе паглядзелі на Заранку: што гэта з ёю? Дзед Дарахвей аж прыўстаў.

— Што гэта з ёю? — спытаў стары ў Косціка.

— Кажа, нешта блага ёй зрабілася.

— Дык чаго ты сядзіш, кавалер. Ідзі ды паглядзі, мо сапраўды дзяўчыне што абыходзіць.

Косцік і сам пра гэта думаў, але вагаўся: падумаюць, што ён пацёгся за ёю. Ён як бы і чакаў гэтай дзедавай парады і, хуценька перакінуўшы ногі, пайшоў да дзвярэй. Выдаўся-такі зручны момант адзін на адзін пагаварыць і, можа, нават сказаць тое, што даўно карціць.

Выйшаўшы на двор, Галя пайшла пад яблыню, прыткнулася плечуком да камля дрэва і гэтак стаяла. Толькі падышоўшы да яе зусім блізка, Косцік заўважыў — дзяўчына плача.

— Чаго ты, Галечка, чаго? Мо табе што баліць?

— Нішто мне не баліць. Адно душа толькі,— не сунімаючы слёз, адказала Заранка.— Чаго ты сюды прыйшоў? Хто цябе сюды прасіў? Усе, усе супроць мяне! І ты таксама.

— Што ты кажаш, Галя! Гэта няпраўда. Я заўсёды за цябе.

— Тое, што ведаю. Навошта ты мне нейкай трасцы падмяшаў, каб я ап'янела?

— Галя, любая, што ты кажаш! Я ж хацеў, каб табе хоць трошкі весялей было. Я ж ведаю тваё гора.

— Мала што ты хацеў. Дык я не хацела.

— Я ж хацеў, каб нам дружыць з табою.

— А хіба мы не дружым?

— Дружым, ды не так. Я ж хачу, каб навек. От гэтак! — Косцік кінуўся да Галі, абняў і памкнуўся пацалаваць.

Косцік не спадзяваўся, што так выйдзе: Галіны рукі

на ўсю сілу гэтак яго штурханулі ў грудзі, што ён не ўстояў на нагах, а сама яна пабегла на вуліцу.

Галя не чула больш музыкі, не бачыла, хто з кім танцаваў, хто з кім шукаў патаемнага мясцечка, каб адно аднаму сказаць тое, што карціць маладым. Яна ўсю ноч то плакала ад знявагі, то думала. Чаго толькі не перадумала. Ёй чамусьці стала крыўдна не на Косціка, а на бацьку, які быццам бы павінен быў абараніць яе не толькі ад мачыхі, дык і ад Косціка, ад яго нахабства. Назаўтра села пісаць заяву ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Прыкінула, што без пошуму траў, без шырыні палёў, без красавання жытоў ёй не будзе чым дыхаць, не будзе чаго любіць.

Як і наважыла, увесь час, пакуль не атрымала выклік у акадэмію на гутарку і на заняткі, працавала, часам не чуючы ні рук ні ног. Старшыня, як і абяцаў, у канцы жніўня загадаў зрабіць разлік, усё заробленае на працадні перавесці ў грошы і выдаць дзяўчыне. Грошай атрымалася ладнавата: было не толькі на дарогу, але і на першым часе да атрымання стыпендыі пражыць, ды яшчэ сёе-тое і справіць.

Бацька запрог каня, і Галя, урачыстая і засмучоная, села на воз, намошчаны так, быццам яны ехалі на фэст. Развіталася з усімі сваімі, нават мачыху пацалавала. Дачуўся пра ад'езд Галі і дзед Дарахвей. Прыйшоў развітацца. Ён стаяў пры варотах.

— Шчаслівай дарогі, шчаслівай жыткі табе, мая саколка,— казаў ён.— Не памінай ліхам, калі што не так было.

Галя ўгледзела, як на доўгіх дзедавых вейках затрымцела слязінка, і самой ёй стала чамусьці шкада старога.

Фурманка рушыла ў дарогу, і Галя сказала сама сабе: «Бывай, родны Нежыхаў. Можа, і навек».

## Раздзел чацвёрты

Для Галі першы год вучобы быў як сон. І вялізныя аўдыторыі акадэміі, і прафесары, і актавая зала, і прасторны, як зялёнае мора, гушчэзны акадэмічны парк, і дэндрарый — усё гэта было тое, чаго яна і не спадзявалася ўбачыць. Ды і не дзіва: усе гады дзяцінства і юнацтва дзяўчына пражыла ў Нежыхаве, і жыла толькі яго рада-

сцямі і засмучэннямі. Ёй здавалася, што за Нежыхавам і свету белага больш нідзе няма, што ўсяго тае і красы, што нежыхаўская пакручастая, пятлястая рачулка, ад якое рукой падаць да чарналесся, а пры самым беразе — густыя, не прадрацца, хмызнякі. А вясною краскі — лілеі, лотаць, кураслеп — і шустрыя, здаецца, добрыя-добрыя па натуры, але трошкі плаксы, кнігаўкі.

Усё гэта Галя з маленства ўвабрала ў думкі, у памяць, у сэрца, дык не дзіва, што і забыцца на яго было не так лёгка. І хоць тут, у парку, на прасторах вучэбных палеткаў, было куды прыгажэй, Галі цяжка было асвойтацца з усёй гэтай, як ёй здавалася, нязвыклаю і чужою прыгажосцю. Начамі ёй сніўся Нежыхаў, а ўдзень яна ўжо вярталася да яго ў лятунках, тым больш што дзяўчына наважыла ніколі не вяртацца на бацькаў панадворак — там яе пакрыўдзілі, зняважылі.

Аднак жа, відаць, якія б у чалавека і на каго б з родных ні былі крыўды, усё роўна ён ніколі не вырачацца той хаты, у якой упершыню зірнуў на белы свет, той сцяжынкі, па якой ступіў першы свой крок, таго роднага слова, якое першае вымавіў. І калі чалавек носіць у сэрцы сваю радзіму, дык не ўсю яе шырыню, не ўсю неабсяжнасць — ён носіць той куточак, магчыма, тое дрэўца пад акном хаты ці тую рачулку, якая віднеецца з акна,— і па гэтым уяўляе ўсю шырыню роднае зямлі.

Так і Галя насіла ў сэрцы свой Нежыхаў, як незабыўнасць, і сумавала па ім, па яго людзях, асабліва першы год. І сумавала чамусьці не па сваіх аднагодках — хлопцах і дзяўчатах,— сумавала па бацьку, па дзеду Сопату. Часам успаміналіся няродныя брацік і сястрычкі.

Галі дакучала нязвыклая вучоба ў акадэміі. У школе было вядома — кожны дзень трэба рыхтаваць урокі, і хоць мачыха і перашкаджала сваёй рыпучай буркатнёю, дзяўчына ні разу не прыйшла ў школу, не падрыхтаваўшы іх. А тут, у акадэміі, парадак разлічаны, мабыць, на гультаёў: прафесары, дацэнты, выкладчыкі чытаюць-чытаюць лекцыі, стараюцца ўдзяўбці ў галаву, а каторыя студэнты, здаецца, і не слухаюць тых лекцый. Каторыя пасядуць за заднімі сталамі — тут не так, як у школе, тут сталы, а не парты — і нават у нейкія гульні гуляюць.

Заранка не цярпела такой бесклапотнасці, такой абыякавасці і аднойчы на камсамольскім сходзе не стрымалася, каб не выказаць свайго абурэння. Аднак жа і пасля сходу парадкі не вельмі змяніліся, а яе пачалі зваць выскачкай,

якая хоча кінуцца ў вочы выкладчыкам і заваяваць іх прыхільнасць.

Гарачыя дні ў студэнтаў былі толькі ў час сесій. Для Заранкі сесіі былі не дужа якія цяжкія — яна, як і ў школе, кожны дзень сядзела над падручнікамі ў акадэмічнай бібліятэцы, пісала канспекты, чытала кнігі, рынала з галавою ў пакуль яшчэ не зведаны ёю свет навукі, і таму сесіі для яе былі не дужа і цяжкія. У часе сесіі Галя адчувала нейкі душэўны ўздым, і ёй нават падабалася, калі тыя студэнты, што на лекцыях забаўляліся чортведама чым, калоцячыся пад дзвярыма перад тым, як пайсці выцягваць білет, раз-пораз звярталіся да яе і пыталі адказу то на адно, то на другое пытанне. І яна адказвала. Адказвала так, як бы яна сама была не студэнтка, а выкладчыца, і дамагалася, каб яе тугаватыя на розум вучні ўсё зразумелі і ўцямілі.

Як бы там ні было, а пад канец першага навучальнага года Заранка асвойталася з акадэмічнымі парадкамі і нораваміі ўжо не так сумавала па Нежыхаве. Была ўжо вясна. Шумеў маладою лістотаю парк і вабіў кожнага з аўдыторый і інтэрнатаў на сваё зялёнае ўлонне. А неўзабаве ж і веснавая сесія, пасля якое студэнты раз'едуцца хто куды. Галя пакуль яшчэ не вырашыла: ехаць ёй дадому ці не. І хацелася і не хацелася. І ўсё ж надумала паставіць на сваім. Дачулася, што ў вучэбнай гаспадарцы можна стаць на работу, і, неяк выбраўшы вольную часіну, пайшла туды.

На Галін стук у дзверы пачуўся трошкі басавіты, але прыемны голас:

— Заходзьце, калі ласка, заходзьце!

І вось Галя стаіць перад сталом і ніяк не можа сказаць, чаго яна сюды прыйшла. Малады прыгожы мужчына, якога яна, здаецца, недзе бачыла, дапытліва глядзіць, як бы хоча каго пазнаць у ёй. Яна аж збянтэжылася ад утаропленых на яе праніклівых вачэй. Потым ён устаў з-за стала, падхапіў ля сцяны крэсла, паставіў яго да стала.

— Сядайце, калі ласка! — запрасіў ён.

Галя села. І ці то ад тых вачэй, ці ад чаго іншага адчула сябе ніякавата і не рашалася сказаць, чаго сюды прыйшла.

— Чым магу служыць, грамадзяначка? — надаючы словам афіцыйны тон, спытаў чалавек.

І, можа, гэтая афіцыйнасць тону вывела Галю з утрапення, і яна сказала:

— Я чула, што ў вас на лета можна стаць на работу?

— Чаму ж нельга! А хто вы будзеце? — звонка, неяк напаўафіцыйна спытаў чалавек.

— Студэнтка першага курса.

— Ну, калі студэнтка, дык тым больш можна — гэта і практыка будзе, і працоўнае выхаванне. Але, даруйце, чаго гэта вам на работу закарцела стаць, а не паехаць на канікулы законна адпачыць пасля вучобы?

— Мне няма куды ехаць,— зманіла Галя.

— Як няма! Вы нетутэйшая, не з Беларусі?

— Пра гэта доўга ды і наўрад ці варта гаварыць. Адным словам, мне трэба працаваць.

— Калі ласка, калі ласка,— ветліва гаварыў чалавек.— Толькі дзе б вы хацелі — на полі ці на ферме?

— Мне ўсё роўна: магу і на полі, і на ферме,— быццам дэманструючы сваю абыякавасць, адказала Заранка.

— Не разумею: як гэта ўсё роўна? У кожнага чалавека да нейкай работы ёсць прыхільнасць, ёсць жаданне і спрыт.

— Я ўсе работы люблю і ўмею,— крыху самаўпэўнена адказала Галя і адразу ж прыгадала, як даіла карову; ёй стала ніякавата ад таго, што ў нейкай меры зманіла чалавеку, які, ёй здалося, вельмі шчыра аднёсся да яе. Гэтую шчырасць дзяўчына ўгледзела ў вачах дырэктара вучэбнай гаспадаркі, у нейкім асабліва ласкавым тоне яго гаворкі, у тым, што ён як бы аж цягнуўся цераз стол, каб хоць на трошачкі быць бліжэй да яе.

— А што, калі мы вас паставім на ферму ўчотчыцай?

— Што ж гэта за работа — не бі ляжачага,— як бы запратэставала Заранка.

— Дарма вы так думаеце. Ва ўмовах нашай гаспадаркі гэта вельмі важная, можна сказаць, у нейкай меры нават навуковая работа. Прабачце, на якім вы факультэце вучыцеся?

— На заатэхнічным.

— Ну, дык вам і карты ў рукі. Учотчык на нашай ферме — гэта як навуковы работнік, аналітык.

— Вельмі добра. Згодна!

Сказала і хацела ўжо ўстаць і пайсці, але дырэктар нечага бавіўся, нечага ўглядаўся ў яе, быццам хацеў на свае вочы пабачыць, ці здолее яна рабіць тое, за што ўзялася. Пад яго праніклівым позіркам Галя адчувала сябе ніякавата, аж зачырванелася. Устала і хацела ўжо развітацца, як дырэктар запытаў:

— Дык як жа хоць вас завуць? Трэба ж ведаць, каго мне чакаць на работу.

Заранка назвалася. Дырэктар запісаў у кніжачку і потым, як бы ў адказ, сам адрэкамендаваўся:

— А мяне завуць Station Станіслаў Гарадзюк. Будзем знаёмы,— і ён падаў Галі цераз стол руку.

— Вельмі прыемна,— сказала Галя і памкнулася да дзвярэй.

— То глядзіце ж, адразу пасля сесіі і прыходзьце. Я буду чакаць вас.

— Добра,— адказала Галя і выбегла ў калідор.

Яшчэ трымаючыся рукою за ручку дзвярэй, прыхінулася да іх спіною і застыла. Сама не магла даўмецца, што з ёю сталася. Гэты чалавек не толькі нечым кінуўся ёй у вочы. Сваім праніклівым позіркам, здавалася, ён зірнуў ёй у душу і там усё ўскаламуціў, узрушыў. А калі Галя выбегла на паветра, на поўныя грудзі ўдыхнула яго, ёй здалося, што там, у пакоі, не было чым дыхаць. Дзіва, дый годзе: Галя ніколі сябе так не адчувала. Усю дарогу ад вучэбнай гаспадаркі да інтэрната яна думала пра яго, пра Станіслава Гарадзюка. Ціхенька сама сабе колькі разоў вымавіла: «Стась! Стасік!» Вымавіла і засаромелася: чаго гэта ён убіўся ёй у галаву?..

А Гарадзюк сапраўды ўбіўся Галі ў галаву. Яна ўжо ішла як бы і не адна. Ёй здавалася, што поруч, узяўшы яе пад руку, ідзе ён, высакаваты, ладны, стройны, з трошкі кучаравай, зачасанай угару чупрынай. Стась. Ідзе і расказвае пра сябе, распытвае пра яе. Галі чамусьці нясцерпна захацелася даведацца, што ж ён за такі, і самой паспавядацца перад ім: усё-ўсё расказаць пра сябе. Такога Галя яшчэ ніколі, ні пры адной сустрэчы з хлопцамі не адчувала. Яе гэта неяк аж спалохала, і дзяўчына сама сабе сказала: «Ат, глупства ўсё гэта»,— і махнула рукою, быццам хочучы адагнаць настырныя думкі. Але як Галя ні намагалася, адагнаць іх не магла.

Дома, ужо ў інтэрнаце, калі яна надвячоркам села перад расчыненым акном, ёй здалося, што Станіслаў стаіць пад акном і ўсміхаецца ёй. Зачыніла акно і выйшла на двор, а потым, бавячы крок, сама не заўважыла, як апынулася пад цемнаватымі таямнічымі шатамі парку. Стаяла тая вячэрняя сцішанасць прыроды, калі нават нязначны гук выразна чуцён. Пад таямнічыя шолахі лісця Галя ішла і ішла. На алеі ёй сустрэлася аднакурсніца. Дзяўчы-

на сумелася, мабыць, думаючы: чаго гэта Заранка ходзіць па парку, яна ж ніколі сюды не хадзіла.

— Куды гэта ты проці ночы? — спытала.

— Ды от выйшла праветрыць мазгі трошачкі,— адказала і як бы спахапілася: сапраўды, куды яна і чаго ідзе? Разам з дзяўчынай вярнулася ў інтэрнат. Там ужо былі яе сяброўкі па пакоі. Дзіва, дый годзе: пра што б яна з сяброўкамі ні гаварыла, усё роўна думала пра Станіслава. І нават калі заснула, ён не даў ёй спакою: прытрызнілася, што па нейкім зялёным-зялёным поплаве між траў і красак яны ішлі, ішлі. І яна не чула ніякай стомы. Наадварот, як бы і не ішла, а ляцела, і ёй так лёгка, так прыемна, так хораша было з ім. Прачнуўшыся, папытала сама ў сябе: што гэта са мною робіцца?

Для студэнтаў сесія — як жніво для калгаснікаў: тут ужо не паспіш. Два-тры дні, якія даюцца на падрыхтоўку таго ці іншага прадмета, здаюцца дужа кароткімі, і таму іх надточваюць начамі. А летнія ночы сапраўды кароткія, іх і добра было б надтачыць. А тут па суседству яшчэ гэты парк. Там таксама гарачая пара, але ў птушак. Яны ўсё роўна як выхваляюцца адна перад адной сваімі талентамі і даюць такія канцэрты, што хоць ты не еш, не пі, кідай усё, забірайся куды-небудзь у глухі куточак ды слухай і слухай.

Можа, каму і зусім не ў галаве быў птушыны вясновы грай, але Заранка, мо таму, што яна ведала прадметы і не вельмі баялася экзаменаў і залікаў, выйшла ў парк. Праўда, выйшла не з пустымі рукамі, а захапіла падручнік па заатэхніі.

На пачатку лета змяркаецца вельмі павольна: спачатку трошачкі пасінее наваколле, потым, калі само сонца скаціцца за небасхіл, яно сыпане ўжо трошкі халаднаватыя промні на зямлю і залье яе чырванаватымі бляскамі. Асабліва прыгожа такою парою ў лесе: залатыя сонечныя промні як бы праціскаюцца між дрэў, кладуцца бліскучымі квадратамі і лініямі на зялёны ўбор зямлі. Галя як бы гэтага нічога і не заўважала. Вочы яе былі ў кніжцы, а калі яна адрывала іх ад якой старонкі, то заплюшчвала і задумвалася, нібы правяраючы, што з кніжкі перайшло ў памяць.

Акурат калі Галя, адарваўшы ад кніжкі вочы, прыжмурыла іх, нехта ціхенька сеў на яе лавачку. Яна не ўгледзела, нават не пачула, а хутчэй адчула, што нехта

сеў, і спалохана ўскінула вочы на таго, хто парушыў яе спакой.

— Добры дзень ці вечар, гаротніца,— сказаў лагодны, вельмі ж ласкавы, як гэты летні надвячорак, голас.

Галя страпянулася.

— Гэта вы, Стась? — здзівілася яна.

— Як бачыце.

— А я дык і не думала, што вы сюды ходзіце.

— Прыйшоў праверыць, як вы рыхтуецеся да экзаменаў.

— Рыхтуюся, як і ўсе...

Станіслаў бліжэй падсунуўся да Галі і ўзяў у яе з рук кніжку.

— Мудроная навука гэтая заатэхнія, але вы маладымі зубамі грызяце яе, як той граніт. Глядзіце, каб зубоў не паламалі...

Галя адчула блізкасць Станіслава, і ёй стала так добра, так утульна, што яна нават сама трошкі падсунулася да яго.

— Ды от аднаму сумна і ў парку,— паскардзіўся Станіслаў.

— Дык чаго вы адзін? Хіба няма з кім?

Станіслаў пільна-пільна ўглядаўся ў Галіну, нібы хацеў пазнаць яе і не пазнаваў. Галя аж засаромелася ад таго позірку, хоць добра-добра было адчуваць яго на сабе.

— Каб жа ў вас не гэтая заатэхнія, дык мо б вы за кампанію пагулялі трошкі са мною. Але ведаю, што вам цяпер не да кампаніі — навукай трэба авалодваць.

Галя нічога не адказала. Яна толькі загарнула кніжку, і Станіслаў, мусіць, зразумеў гэта як згоду пахадзіць з ім па парку. Неяк жа вельмі паслухмяна яна ўстала і пайшла крок у крок са Станіславам. Яны ішлі, самі не ведаючы куды і чаго. Ішлі, мабыць, таму, што ім абаім было добра от гэтак ісці, перамаўляцца словамі, можа, часам і нязначнымі. Станіслаў распытваў Галю пра яе вёску, пра бацькоў і як бы між іншым папытаў: чаму яна не хоча ехаць на канікулы? Галя не ўтрымалася, каб не выказаць увесь свой боль, усю сваю крыўду. Выказала, і ёй адразу стала лягчэй, весялей. Станіслаў паспагадаў дзяўчыне. На момант на яго твар узбег цень заклапочанасці, быццам той боль, пра які толькі што расказвала яна, быў і яго болем, быў і яго крыўдай.

— Скажыце, адкуль вы ўсё-такі родам, Галя?

У гэтым Станіслававым запытанні Галя ўлавіла нейкую трывожную здагадку.

— З Нежыхава. Ёсць такая забытая богам і людзьмі вёска на Палессі.

— З Нежыхава? — як здалося Галі, узрушана, устрывожана перапытаў Станіслаў.

— А хіба вы што чулі, што ведаеце пра наш Нежыхаў?

— Дык вы, мабыць, ведаеце і Дарахвея Сопата?

Калі Галя пачула гэтае запытанне, спынілася. Глядзела і глядзела на Станіслава, быццам хочучы ў ім пазнаць каго. І мо толькі таму, што месяц свяціў не вельмі ярка, яна не змагла ўбачыць на хлопцавым твары тых рысаў, якія кінуліся ёй у вочы на той сцьмянелай фотакартцы, што тады ў школе паказваў ёй дзед Сопат.

— Ведаю. Чаму ж не ведаць мне. Ён жа пры нашай школе жыве. А от вы адкуль яго ведаеце?

— О, каб вам усё расказаць, адкуль я ведаю старога, вы б, можа, і не паверылі.

— Дык раскажыце,— загарэлася цікавасцю Галя.

Станіслаў на момант задумаўся, быццам што прыпамінаючы. У гэты час памяць яго да драбніц узнаўляла карціны дзяцінства і юнацтва, прывабныя сваёй непаўторнасцю. Твар яго перасмыкнуўся: на яго набягаў то смутак, то ён азараўся стрыманай усмешкай. Галя, хоць і ў змроку, хутчэй не вачыма, а сэрцам бачыла, чытала ўзрушэнні, вокамгненную радасць, і чамусьці ёй здалося, што з гэтым чалавекам яна знаёма блізка ўжо даўно-даўно. Цюкнула здагадка: а, можа, гэта і ёсць той Дарахвееў сын, якога адправілі ў тую невядомую таямнічую камандзіроўку? Яна ўжо больш настойліва запытала:

— Адкуль вы ўсё-такі ведаеце дзеда Дарахвея? Ці не той вы сын яго, Стась, якога адправілі ў невядомую камандзіроўку?

— Адкуль вы ведаеце пра камандзіроўку?

— Стары мне ўсё расказваў. Я яго любіла, і ён мяне любіў. Ён харошы.

Станіслаў азірнуўся навокал, нібы баючыся, каб іх хто не падслухаў, і паўшэптам сказаў:

— Так, дзяўчынка мая, я той самы блудны сын.

— Чаму блудны?

— Таму што на бацьку, на дамоўку забыўся.

— Чаму ж у вас прозвішча зусім іншае?

— Гэта доўгая гісторыя, дзяўчынка мая.

Галі, як пачула са Станіслававых вуснаў гэтае «дзяўчынка мая», чамусьці крыўдна стала: быццам яна сапраўды які недаростак. Навошта ж яна тады ўсе гэтыя дні думала пра Станіслава, абнадзейвала сябе, што паміж імі працягнулася нейкая невідочная нітка, якою можна звязаць іх думкі, іх пачуцці ў адзін моцны вузельчык.

— Чаму я Гарадзюк, а не Сопат? — перабіў Галін одум Станіслаў.— Я ж кажу, гэта доўгая гісторыя. Там, адкуль я сюды прыйшоў, нельга было мне быць Сопатам, і я стаў Гарадзюком. А пасля, і сюды прыйшоўшы, астаўся ім.

Станіслаў гаварыў неяк так, што Галя не ўсё разумела: дзе гэта і што ён рабіў.

— То чаму ж вы хоць цяпер да бацькі не з'ездзілі? — як дакараючы, спытала Галя.

— Каб жа можна было, я на крылах паляцеў бы паглядзець старога. Але я ўсё пра яго ведаю.

Галя не дапытвалася, адкуль ён ведае. Яна ўсё яшчэ не зусім верыла, што гэта той самы Станіслаў.

— Прыйдзе час, мы з вамі пабудзем яшчэ і ў Нежыхаве, пагасцюем там. А пакуль, мая дзяўчынка, хай гэтая гаворка будзе паміж намі,— сказаў Станіслаў і адразу неяк перайначыўся, быццам яго падмянілі. Раптам, як здалося Галі, хлопец недарэчна запытаў:

— Вы хоць калі-небудзь любілі каго, Галя?

Дзяўчына спалохалася гэтага запытання.

— Маму любіла, як яна была жывая.

— Маму і тату ўсе любяць. А каго-небудзь з маладых людзей?

— Што вы! — як не запратэставала Галя.— Каго гэта я магла любіць?

— Хіба мала добрых людзей на свеце?

Яны дайшлі да невялічкай палянкі, пасярод якой узвышаўся курганок, зарослы травою і лугавымі краскамі. На палянцы было ўкапана некалькі лавачак.

— Давайце пасядзім тут,— прапанаваў Станіслаў.

Галя пайшла да лавачкі, але Станіслаў затрымаў яе руку.

— Пасядзім на траве, на кургане.

Пайшла следам за ім. Яны паселі на траву, блізенька-блізенька адно да аднаго. Гэтак блізенька, што Галя адчула яго, і ёй чамусьці не захацелася адсунуцца, а, наадварот, каб не сорамна было, каб не тое, што толькі даведалася Галя, яна б сама наблізілася да яго. Дзяўчына ў думках нават зазлавала на Станіслава, што ён нейкі

непавароткі, нават баязлівы, не даўмеецца абняць яе. Папытаў толькі:

— Галя, вам не холадна?

А Галю скаланала не ад холаду — ад яго блізкасці, ад утрапёнай радасці, што яна з ім поруч, і калаціў яе не холад, а нейкая нутраная гарачыня, з якой дзяўчына ніяк не магла саўладаць. Станіслаў зняў свой пінжак і накінуў ёй апашкі на плечы. А кароткая ноч была месячная. Яна, не шкадуючы, рассыпала срэбра на паляначку, на курганок.

— А вы, Галя, ведаеце, дзе мы з вамі сядзім?

— Чаму ж не ведаю! На палянцы.

— На палянцы то на палянцы, а на якой?

— На прыгожай.

— А вы не ведаеце, што калісь тут, от на гэтым узгорачку, невядомы аўтар пісаў свайго «Тараса на Парнасе». Гэты грудок яму, мабыць, і ўяўляўся Алімпам, не іначай.

— Адкуль вы ўсё гэта ведаеце?

— Легенда тут такая ходзіць. Дзіўна, што вам ніхто яе не расказаў.

— А што, калі б той невядомы аўтар налучыў на нас, то, можа б, ён і пра нас напісаў?

— Пэўне, што напісаў бы! Вы б, мабыць, былі Вестай.

— А вы Юпітэрам?

— Не! Юпітэрам, мабыць, замнога для мяне. Я хацеў бы быць хоць шаўцом, які такім багіням, як вы, хадакі шыў.

— Вы ўжо, Стась, не прыбядняйцеся. Вы б і за Зеўса маглі сысці,— сказала Галя. Ёй здалося, што Станіславу без пінжака дужа холадна.

— Які з мяне Зеўс! Ну, яшчэ за палясоўшчыка мог бы!

— І то добра. Палясоўшчыкі — людзі простыя, шчырыя, працавітыя!

А месяц усё ліў і ліў срэбра, і такое срэбра, што яго хацелася грэбці рукамі, ссыпаць у казачныя курганы, толькі каб яны і пры сонцы не зніклі, не расталі.

На трошкі ўжо вышчарбleны поўнік напаўзла чарнаватая хмурынка, і Галі здалося, што пахаладнела, быццам месяц, як і сонца, мог грэць. Яна аж страпянулася.

— Стась, вы зусім змерзнеце. Вазьміце свой пінжак.

Немаведама што Станіславу пачулася ў гэтых словах. Можа, дакор, што ён нерашучы. Ужо ў наступны момант

Галя апынулася ў яго дужых абдымках. Яна гэтага хацела, ёй гэта было прыемна, але ўсё ж нечакана.

— Стась, не трэба,— усяго і сказала яна, бо ўжо вусны зліліся з вуснамі, і не было відно ні месячнага срэбра, ні той збродлівай хмурынкі, што, пераплыўшы месяц, падалася немаведама куды. Была толькі гарачыня ў грудзях, слодыч на вуснах, мляўкае тахканне сэрцаў. Загорнутая Галіна кніжка валялася на траве. Туды ж споўз з плеч і Станіславаў пінжак.

Так пачалося яшчэ адно чалавечае каханне, пачатак якога заўсёды бывае шчаслівы...

Галя не дазволіла Станіславу праводзіць яе да інтэрната.

— Стась, не трэба, каб нас хто бачыў. Ідзі адсюль проста дадому, а я хуценька пабягу,— накідваючы Станіславу на плечы пінжак, сказала Галя.

— Я адну цябе не пушчу. Яшчэ ноч. Хто-небудзь напалохае,— затрымліваў дзяўчыну Станіслаў.

— Я не палахлівая. Нічога і ніколі не баюся,— сказала Галя і кінулася да Станіслава, каб яшчэ раз на развітанне адчуць слодыч пацалункаў.

— А калі сустрэнемся? — спытаў Станіслаў, як Галя ўжо адбеглася.

А ўдзень, у самую гарачыню, Заранка стаяла пад дзвярыма ў гурце такіх жа, як і яна, студэнтаў і студэнтак перад аўдыторыяй заатэхніі. І хоць яна ўсю ноч не спала, хоць за ноч не разгарнула падручніка, экзамену не баялася.

Студэнтка першага курса Галіна Заранка была ўпэўнена, што і гэты апошні ў сёлетнім годзе экзамен яна здасць на «выдатна».

## Раздзел пяты

Станіслаў не мог даць рады заснуць. Бывае ж так: набрыдуць у галаву думкі і не даюць чалавеку змружыць вачэй. Часцей за ўсё не даюць заснуць згадкі будучыні. Мабыць, няма на свеце такога чалавека, які б не маляваў сабе зманлівых і прывабных карцін яе. Мусіць, усім яна выдаецца ружова-светлай і трошкі бесклапотнай, ва ўсякім разе такой, якой хочацца яе бачыць.

У Станіслава сёння мяшаліся горкія, як чэмер, успа-

міны з ружовымі надзеямі на будучае. І ўсё гэта, мабыць, праз яе, праз гэтую дзяўчынку, якая, відаць, і не ведае, ды не тое, што не ведае, не можа нават падазраваць, што гэтак узрушыла, гэтак скаланула Станіслававы думкі, пачуцці, надзеі. Перад вачыма ўстаў родны Нежыхаў. Ён, Станіслаў, цыбаваты, ужо ладны падлетак, бяжыць па тую соль у Сялявіцкую краму. Зімнік быў пратораны не цераз мост, а напрасткі цераз канаву. Зімнікі заўсёды пракладаюцца найкарацей — ніпто не замінае іх рабіць там, дзе ўлетку часам і нага чалавечая не можа ступіць. І от бяжыць ён зімнікам і акурат перад тым, як перайсці канаву, чуе несамавіты жаночы крык: «Ратуйце!» Азірнуўся вакол і ўгледзеў на канаве жанчыну. Не яе, адны толькі рукі жанчыны. Яны ўзмахвалі над палонкаю. Станіслаў ведаў тое месца: там акурат быў глыб, на якім хлопцы ўлетку нырцавалі, выхваляючыся адзін перад адным, хто больш прабудзе пад вадою. Яму стала страшна: калі тыя рукі не ўтрымаюцца за слізкі край палонкі, жанчына захлынецца ў халоднай вадзе. Ён і цяпер, здаецца, адчувае, як у яго тады па целе забегалі мурашкі і ён вопрамеццю кінуўся на крык адчаю. Схапіў за рукі жанчыну і што было сілы пачаў выцягваць яе з палонкі. Ён спалохаўся яе вачэй, яе твару. Яны былі нейкія нечалавечыя, вырачаныя, налітыя крывёю, а твар перакошаны. Ён у людзей ніколі не бачыў такіх твараў. Станіслаў на першым часе нават не пазнаў, што то была за цётка. І толькі тады, калі, высільваючыся, выцяг яе на лёд, і сам, пакаўзнуўшыся, боўтнуўся па пахі ў палонку, і ўжо яна пачала аберуч выцягваць яго, яму кінулася ў вочы, што то была цётка Казімірыха. Сам ён тады не дужа спалохаўся, а можа, не паспеў спалохацца — адчуў толькі дрыготкі холад, а потым нібы гарачыню, толькі не пякучую гарачыню, а нейкую такую, што ішла знутры і не абпальвала цела. Холад яны адчулі, калі ўжо беглі да Нежыхава, калі ўжо злубянела на іх вопратка і дрыготка заляскалі зубы.

Станіслаў успамінаў усё тое, нібы бачыў яго зазнятым на невідочную плёнку. Успомніў, як яго абагравалі ў Казіміравай хаце. Цётка Моця хуценька пераапранулася ў сухое і палезла на гарачую чарэнь печы. Адтуль яна, яшчэ ляскаючы зубамі, не сваім голасам прасіла:

— Вазьмі бо, Казімір, пашукай там у скрыні чаго сухога ды дай пераапрануцца хлопцу, а то ж ён зойдзецца.

Малая яшчэ дзяўчынка, якую Стась нават не ведаў, як завуць, глядзела на ўвесь той клопат, што быў у хаце,

спалоханымі, поўнымі слёз вачыма. Трохі замурзаны круглаваты твар дзіцяці быў перакошаны. Дзіця не ведала, што рабіць: яно то кідалася на печ да маці, то бегала за бацькам. Станіслава, як яму тады здалося, дзяўчынка баялася. Яму тады хацелася зрабіць нешта такое, каб заваяваць прыхільнасць дзяўчынкі, але ён не ведаў што. Наогул Станіслаў не ведаў, што ў такіх выпадках рабіць чалавеку: як прымаць людскую ласку і ўдзячнасць, і таму, калі дзядзька Казімір пайшоў шукаць у скрыні чаго сухога, а за бацькам увязалася і дзяўчынка, ён хуценька бразнуў дзвярыма і гэтак, як быў мокры, стрымгалоў пабег дадому. Бег на ўсю сілу, як не выскоквала сэрца, і мо таму не чуў ніякага холаду. Было адно яму няёмка перад бацькам: ён не прынёс солі, і як цяпер будзе разбіраць стары асмаленага япручка? У хаце ж, ён ведае, няма ні шчыпоці солі. Стась баяўся, што бацька насварыцца на яго.

А стары не паспеў яшчэ нават уходаць кабанчыка. Акурат перавярнуў дагары нагамі і дасмальваў падчаровак. Хутка трэба было падлеткам садзіцца, як гэта звычайна бывае, на асмаленага кабанчыка, каб адапрэлі на ім прыгаркі і потым паскрабці нажом, каб шкурка на сале была чыстая, беленькая. Стась, засопшыся, падбег да бацькі. Стары ўгледзеў, што хлопец па вушы мокры, і, не пытаючыся і не дапытваючыся, што з ім сталася, турнуў яго ў хату. У хаце хлопец хуценька пераапрануўся ў сухое і кумільгом на печ. І толькі на гарачай чарэні адчуў, як яго закалаціла. Акрыўся бацькавым кажухом, але ўсё адно зуб на зуб не пападаў. І гэтак у гарачцы хлопец пракідаўся больш за тыдзень.

Дзіва, дый годзе: як толькі Стась змружваў вочы, перад ім паяўлялася дзяўчынка з заплаканым і спалоханым тварам. Аж шкада яму станавілася таго дзяўчаці.

Бывае ж так, што чалавеку западзе нешта ў памяць, і ён яго носіць, як сваю немінучасць, праз доўгія гады жыцця. Потым ужо, калі Станіслава паслалі туды, за мяжу, калі ён ужо страціў сваё сапраўднае прозвішча і займеў пашпарт на імя Гарадзюка, калі ён перастаў ужо быць самім сабою і вымушаны быў туляцца па канспірацыйных кватэрах і яўках у Вільні, Гродна, Брэсце, часта-часта прыходзіла ва ўспаміны і нават у сны тая дзяўчынка Галька, і ён заўсёды чамусьці яе шкадаваў.

Праз доўгія гады падполля Станіслаў нічога не ведаў пра Нежыхаў. Яму нясцерпна хацелася хоць адным во-

кам зірнуць, што там дзеецца. І хоць пра бацьку сяды-таады і даходзілі да яго скупенькія весткі, ён сумаваў па старым. І не толькі па старым. Чамусьці сумаваў і па той малечы. Яму здавалася, што дзяўчынку нехта крыўдзіць, насміхаецца з яе, і яму абавязкова трэ было стаць на абарону. Аднаго разу ў навагрудскім астрозе дзяўчо прыйшло ў сон. Худзенькая і бездапаможная, з поўнымі вачыма слёз, стаяла дзяўчынка перад ім і напрамілы бог прасіла выратаваць яе маму ад нейкіх злыдняў. І ён так узяў да сэрца яе крыўду, што прачнуўся і ніяк не мог ушалопаць, дзе гэта ён. Прывёў да явы стук у сцяну. Стук быў ціхенькі, асцярожны, але ў начной сцішанасці выразны. Стукалася з суседняй камеры Альбіна. Паведамляла рашэнне астрожнага камітэта аб абвяшчэнні з заўтрашняга дня галадоўкі як пратэсту супраць новых парадкаў, паводле якіх палітычныя зняволеныя прыраўноўваліся ва ўсім да крымінальнікаў. Станіслаў адказаў згодай і адабрэннем такога кроку — ён быў заўсёды і ўсюды з калектывам. Услухаўшыся ў турэмную марзянку, ён разабраў яшчэ адно: «Як бы я хацела паглядзець, хоць які вы». На гэта Альбініна жаданне Станіслаў нічога не адказаў. Падумаў толькі: «Не казаў бы то жанчына. Усюды яна астаецца сама сабою». Яму і самому карцела паглядзець на Альбіну, але дзе ты паглядзіш!

Палітычныя вязні астрога галадалі чацвёра сутак, і турэмнае начальства вымушана было лічыцца з некаторымі іх патрабаваннямі: зноў пачалі выводзіць на прагулкі, прымаць перадачы і нават часам даваць у камеры газеты. Усіх палітычных сабралі ў асобныя камеры. Станіслаў з Альбінай ад гэтага нічога не выйгралі: яны як былі ў адзіночках, гэтак і асталіся. Суцяшала адно, што іх арганізаванасць прынесла хоць маленькую, але перамогу.

Усё гэта цяпер прыгадваецца як сон. Станіслаў ляжыць, падклаўшы абедзве рукі пад галаву, і ніяк не можа даць рады заснуць, хоць за вокнамі яго халасцяцкага пакоя снуецца ўжо срабрыстаю пражаю летняя раніца. Павярнуўся на левы бок, падклаў абедзве рукі пад шчаку: на левым баку ён хутчэй засынаў. Гэта было не раз праверана. Але ці таму, што ў пакоі было душнавата, ці таму, што за вокнамі ўсхадзілася птаства, сон ніяк не мог яго адолець. А можа, і не таму? Можа, гэтая сустрэча не давала заснуць? Ды ён і не бедаваў: ішла нядзеля — выхадны дзень, і неабавязкова яму ісці ранічкай на работу.

Можна дазволіць сабе хоць адзін дзень і дома паацірацца трошкі.

Станіслаў да драбніц успомніў усё: як яна, Галя Заранка, па-юначы мажная, загарэлая, пераступіла парог яго дырэктарскага кабінета. Ён, здаецца, не адразу пазнаў яе. Ды дзе ты пазнаеш! Тады ў Нежыхаве яна была зусім малая, бездапаможная. А гэта ж зайшла і адрэкамендавалася: Галіна Заранка. І калі ён угледзеўся ў яе вочы, пазнаў іх. Ён нават спалохаўся: у такіх вачах можна патануць, і ніхто цябе не выцягне з глыбіні іх. Рукі заскакалі на падлакотніках крэсла, але ён стараўся іх стрымаць. Пастараўся нічым не выдаць, што ён усхваляваны, наадварот, стараўся падкрэсліць свае ўраўнаважанасць і спакой. Выслухаў дзяўчыну і, яшчэ раз пераканаўшыся, што яна тая самая, напусціў на сябе афіцыйнасці. Яму карцела, вельмі рупіла аказацца, хто ён такі, але нельга было. На пагранічнай заставе, калі яны з Альбінай перайшлі граніцу, і іх узялі падпіску, што і тут пакуль яны астануцца з тымі імёнамі і прозвішчамі, якія мелі там, за рубяжом, у падполлі, і што ніхто з іх нідзе і ніколі не прагаворыцца, хто яны такія. Станіслаў не разумеў, навошта гэта яму, вярнуўшыся на сваю радзіму, быць як бы чужаком у ёй. Але тым часам парадак ёсць парадак, і не яму яго перайначваць. А хто яго ведае, што з імі яшчэ думаюць рабіць. От мо пабудуць трохі тут, акрыяюць, а тады зноў туды, як у вір. Нічога не папішаш: усё гэта трэба! Шкада толькі, што нельга хоць дзень пабыць дома. Здаецца б, на крылах паляцеў у родны Нежыхаў. Зірнуў бы, здаецца, адным вокам на ўсё роднае, і сэрца б на месца стала.

Але пакуль што ўсё гэта было выключана, і таму, калі Станіслаў угледзеў Галю, яму захацелася пабыць з ёю з вока на вока. Надвячоркам панёс ён у парк сваю надзею сустрэцца з дзяўчынай. Надзея была, вядома, хісткая. Хутчэй не надзея, а нейкае інтуітыўнае невыразнае жаданне. І калі Станіслаў угледзеў Галю на лавачцы, на нейкі момант забыў нават на сябе, на тое, хто ён і што ён. Можа, хутчэй падсвядома, чым з пэўным намерам, ён прысеў на лавачку і загаварыў з Галяй. Ён знарок паказваў сябе гуллівым, бесклапотным кавалерам. Толькі потым, як апынуўся ў палоне пачуццяў, як той п'яны часта апынаецца не там, дзе яму хацелася б, Станіслаў на момант апамятаўся, але яму ўжо не было як станавіцца самім сабой, разважлівым і цвярозым, і хлопец паддаўся спа-

кусліваму пачуццю, даў волю таму, што прыходзіць не часта, асабліва да такога чалавека, як Станіслаў: вопытнага, спрактыкаванага ва ўсім, апроч асабістых пачуццяў. Ён і тут клюнуў, як той верабей на прынаду. Прынада была сапраўды павабная, і калі яны пайшлі на тую палянку, на якой, паводле легенды, пісаўся «Тарас на Парнасе», Станіслаў ужо быў як сам не свой. Ён забыўся на ўсё: на прыстойнасць, на сціпласць, на няпэўнасць свайго становішча і нават на Альбіну, якая з пэўнага часу запаўняла яго халасцяцкі прытулак. Здаецца, увесь свет пахарашэў быў: у ім не асталося ні згрызот, ні турбот, ні трывог.

Здавалася, Альбіна сваімі пяшчотамі, як рукой, здымала ўсё, ачышчала сумленне і душу ад тых напластаванняў, якіх столькі набралася было за ўсе гады беспатольнага цяжкага жыцця.

— Стасік, любы мой,— абнімала яго Альбіна.— Мы з табою будзем ашчасліўлены на ўсё жыццё, як ніхто.

Казала і абпякала пацалункамі твар, шыю, грудзі. Яна была такая гнуткая і падатлівая, як мо ніхто на свеце, і Стась як не раставаў у яе абдымках. А Альбіна не сунімалася:

— Мы з табою прайшлі самае пекла, і нам цяпер астаецца толькі раскашавацца. Мы самі сабе зробім жыццё як рай. Не бойся, што я, як тая Ева, паддамся якой спакусе. Мяне на яблык не купіш. Я ведаю, дзе дабро, а дзе зло. І буду на ўсю сілу старацца, каб нам з табою выпадала толькі дабро.

— Я ведаю, ведаю, што ты толькі дабра прагнеш. І я яго хачу,— паддаваўся Альбініным пяшчотам Станіслаў.

Але дзіва: чым больш Альбіна цалавала яго, асабліва ў вочы, тым нейк не тое што непрыемнымі, а нейкімі халоднымі здаваліся яе пацалункі. Калі Станіслаў у такім выпадку заплюшчваў вочы, ён на момант апыняўся недзе далёка ад свайго пакоя, сам не ведае, дзе і чаму. І мо тады ўжо з'явілася яшчэ не зразумелая ні яму, ні тым больш Альбіне абыякавасць. Альбіна гэтай абыякавасці зусім не заўважала, яна шчабятала, нібы ўпіваючыся сваім грудным, трошкі грубаватым для жанчыны голасам:

— Стасік, любы, а калі знойдзецца ў нас дзіцятка, як мы яго бязмерна любіць будзем. Яно не будзе ведаць ніякай скрухі. Яму не тое што нам будзе.

Станіслаў нібы прачынаўся ад гэтых слоў, нібы вырынаў з нейкага таямнічага, трошкі казачнага свету і

ўспрымаў усю тую бескампрамісную рэальнасць, пра якую гаварыла Альбіна. А яно ж сапраўды можа знайсціся, тое дзіцятка. Чаму ён не падумаў пра гэта, калі Альбіна, распрануўшыся, каўзанулася пад ягоную коўдру і ён на нейкі час забыўся на ўсё на свеце.

Альбіна і раней намёкамі, недвухсэнсоўна, хоць і пакручастымі словамі, выказвала жаданне стаць яму за жонку. Але ён не прымаў намёкаў і, быццам не разумеючы, прапускаў іх міма вушэй. Толькі пасля той ночы, якую Альбіна ўпершыню прабыла з ім, пасля ўжо, як яна выйшла з пакоя, Станіслаў сур'ёзна задумаўся і пачаў дакараць сябе: «Дурань ты, дурань, прайшоў агні і воды, а тут не ўтрымаўся перад прынадаю, кінуўся на яе і, як тая неразумная птушка, трапіў у сіло».

Але пакуль думалася надвая: можа, гэта ўсё не так сур'ёзна, што, як мінулася, так і забудзецца тая неспакойная ноч з яе слодыччу і ўзрушэннямі. Асабліва пасля спаткання з Заранкаю Станіславу хацелася, каб забылася тая ноч. Мімаволі ён параўноўваў Галю з Альбінаю, і чамусьці кожны раз Заранка станавілася наперадзе, а Альбіна адступалася на задні план, адыходзячы ўсё далей і далей у думках і пачуццях. І гэта, мабыць, не толькі таму, што Галя была маладзейшая і прыгажэйшая. Сталы і ўраўнаважаны чалавек, Станіслаў разумеў, што вонкавая прыгажосць чалавека — гэта яшчэ не ўся прыгажосць. Чалавек мусіць быць прыгожым ва ўсім. Станіславу здавалася, што прыгожая ва ўсім Галя. Альбіне ж шмат чаго не стае. Нешта ў яе ёсць такое, што не вабіць, а адштурхоўвае. Можа, яе трошкі мужчынская натура? А можа... хто яе ведае што? Можа, у характары Альбіны не знайшлося нічога сугучнага з яго, Станіслававым, характарам, і тая кропля рознасці, якую ён заўважыў, не тое каб зусім адштурхоўвала яго, а ўсё-такі не давала магчымасці прыкіпець яму ўсім сэрцам да дзяўчыны.

Станіслаў дакараў сябе за нейкую нерашучасць, палавінчатасць характару, асабліва ў інтымных справах. У грамадскіх ён быў рашучы, настойлівы, бескампрамісны, а вось у асабістых часам паддаваўся першаму, можа, мімалётнаму, вокамгненнаму пачуццю. Мабыць, так сталася і з Галяй. Ён жа не меў ніякага намеру заляцацца да яе. Яму проста на той момант захацелася пабыць з ёю і, можа, сёе-тое даведацца пра Нежыхаў, пра бацьку, пра ўсё тое роднае, што цяпер пачало ўжо трошкі забывацца.

Праўда, Галя адразу кінулася яму ў вочы дзявочай прыгажосцю, але яму і ў галаву не прыходзіла што іншае.

Калі яны ішлі алеямі парку,— здаецца, адны на ўвесь белы свет,— дзяўчына, мабыць, знячэўку, блізенька прыхінулася да яго, па целе Станіслава прабегла мяккая дрыготка. Ён зразумеў, што гэта не тое ўжо дзяўчо з вачыма, поўнымі слёз, а дзяўчына, якая можа стаць спакуслівай прынадай для хлопцаў. І тады ён недарэчна запытаў: ці кахала каго калі Галя? Станіслаў не меў нічога такога на ўвазе, ва ўсякім разе не хацеў навесці дзяўчыну на нейкую патаемную думку. Але потым на той палянцы адбылося немаведама што, ва ўсякім разе тое, чаго не чакаў, на што не спадзяваўся Станіслаў. Ды, мусіць, не чакала і не спадзявалася на тое і яна, Галіна Заранка. Ці то таму, што ў дзяўчыны былі яшчэ не растрачаныя пачуцці маладосці, яна іх шчодра абрынула на чалавека, якога яшчэ так мала ведала. Ва ўсякім разе не ведала яго намераў, яго думак. Галя проста паддалася першаму пачуццю і не тое што не супраціўлялася Станіслававым пяшчотам, дык яшчэ сама аддалася ва ўладу сваіх стыхійных пачуццяў маладосці.

Станіслаў ніяк не мог заснуць. Падкладзеныя пад левую шчаку рукі пачалі муліць, і ён перавярнуўся на спіну і ўжо нават не сіліўся змружыць вачэй. Глядзеў і глядзеў у столь, быццам там мог што прачытаць. За вокнамі ўжо чырвоным заравам пафарбавала сонца небакрай. Была ўжо тая пара, калі звычайна Станіслаў уставаў. Сёння ўставаць не хацелася. Не хацелася і спаць, хоць у вачах адчувалася рэзь ад бессані, бы ў іх хто насыпаў дробненькага-дробненькага пяску. Думкі каламуціліся: нібы на экране, узнікалі то Галя, то Альбіна, і ён, здаецца, на іх мог глядзець, як на жывых. І Галя чамусьці ўзнікала большым планам і засланяла сабою Альбіну. Станіслаў ніяк не мог зразумець, чаму гэта. Падумалася, што ў пачуццях, як у наляцелай буры, ёсць стыхія, і калі яе не ўтаймаваць, яна можа кінуць чалавека ў бездань. Галіны ласкі, Галіны абдымкі, Галіны пацалункі былі нейкія гарачэйшыя, больш шчырыя. Хоць бы і хацеў ён ім супраціўляцца, дык не здолеў бы. Станіслаў зразумеў, што ў яго ўваходзіла каханне, уваходзіла настойліва, так, што ад яго цяжка ўжо было адбіцца.

Хлопец разумеў, што Галіна каханне не для яго. Ён звязаны з Альбінаю. І гэтак, мабыць, ужо звязаны, што наўрад ці здолее ён, хоць бы і рад, развязаць невідочны

вузел. І хоць Альбіна ў яго напаўсонных згадках апынулася на другім плане, усё роўна ён не можа сказаць ёй рашучае «не!». Яны разам прайшлі такую цяжкую дарогу, што сказаць ёй «не» — значыла б кінуць чалавека на паўдарозе сама тады, калі ў яго пачалі падбівацца ногі, а гэта ж не што іншае, як здрада. Станіслаў паспрабаваў аднавіць у думках яе любасць, яе пяшчоту, якімі яна, не шкадуючы, шчодра адорвала яго на гэтай жа пасцелі... І дзіва: нават пасцель яму здалася цвёрдай, як камень, халоднай і нібы чужой.

Адбіцца, адбіцца ад усяго гэтага насланння! Заснуць, заснуць, і ўсё! Сілаю волі Станіслаў прымусіў сябе заснуць. Але і ў сне ён не знайшоў жаданага спакою. Ці то таму, што сонца праз акно, якое не было занавешана, свяціла проста яму ў твар, Станіславу прытрызніўся страшэнны пажар. Быццам полымем падняўся ўвесь белы свет і ён у адным нацельным жахаўся, кідаўся па краі яго, не могучы ніяк уратавацца ад нязноснай спякоты. Кінуўся ці то ў акіян, ці то ў мора і паплыў далей ад пякельнай бяды. Адплыў далёка-далёка ад вогненнага берага, і там на яго зрынулася вялізная, з дом, хваля. Станіслаў прахапіўся. Прахапіўся не ад цяжкага страшэннага сну. Прахапіўся ад настырнага стуку ў дзверы. Хуценька накінуў на сябе піжаму і пабег адмыкаць. Пстрыкнуў два разы ключом нутранога замка, і перад ім з'явілася Альбіна. Яна была нечым узрушана, усхвалявана, быццам здарылася якое няшчасце.

— А ты спіш, гаспадар, як пасля вяселля,— кінула з дакорам яна.

— Якога вяселля?! — не ўшалопаў Станіслаў, дзівячыся, адкуль яна ведае пра тое, дзе ён быў гэтай ноччу.

— Чаму ж ты вылежваешся ў пасцелі? Пярэстая ніяк не магла расцяліцца, дык я мо з палавіны ночы таўклася на ферме. Цяля дужа вялікае нарадзілася.

— Ты прыйшла мне пра гэта паведаміць? — паспакайнеў Станіслаў: яна нічога не ведае пра яго начныя прыгоды.— А я сабе надумаў узяць хоць адзін выхадны дзень за ўсе месяцы. Хоць выспацца.

— Дык ты што, адзін будзеш высыпацца? — папытала з намёкам Альбіна.— І табе не холадна аднаму?

— Адкуль той холад, сонца так смаліць,— быццам не зразумеў Альбіну Станіслаў.

Пасля сустрэчы з Галяй Альбіна яму здалася нейкай не такой, якой была яна яшчэ ўчора, пазаўчора. Пільна,

нават дапытліва агледзеў яе постаць і ўбачыў, што яна не такая стройная, стрункая, як Галя. Яму чамусьці захацелася, каб Альбіна зараз жа пакінула пакой, у якім ад яе прысутнасці нібы стала цесна і няўтульна.

— Любы мой,— кінулася з абдымкамі і пацалункамі Альбіна.— Нешта ты не ў гуморы? Можа, сон благі прытрызніўся? Давай пасядзім, я развесялю цябе, любы мой.

— Не трэба мне весялосці. Чалавеку часам трэба пабыць і сумным. Падай мне, калі ласка, маю вопратку. Ды выйдзі на хвілінку.

— Чаго мне выходзіць? — падаючы вопратку, здзівілася Альбіна. Станіслаў заўважыў, што рукаў пінжака ўвесь выкачаны ў пыл. Гэта, відаць, там на палянцы, і хуценька, каб не заўважыла Альбіна, пачаў адціраць яго.

— Дык чаго гэта мне выйсці? — ужо з адценнем угневанасці перапытала Альбіна.

— Саромеюся я цябе.

— Бач ты яго! Калі гэта ты такім сарамяжым стаў?

— Тады ж цёмна было. А цяпер, бач, якая відната!

— Хлопчык мой, падлетачак мой сарамяжы,— пачала гарнуцца да Станіслава Альбіна.

— Я ж цябе прасіў выйсці на хвілінку.

— Не выйду!

Станіслаў і сам не разумеў: чаго яму прыйшло ў галаву саромецца той жанчыны, якая на нейкі час была яму самай блізкай.

— Ты от саромеешся, бо не ведаеш, што ў нас дзіцятка будзе.

— Дзіцятка! Якое дзіцятка?! — спалохаўся Станіслаў.

— Самае звычайнае. Жывенькае.

— Адкуль яно возьмецца?

— Адтуль, адкуль усе дзеці бяруцца. Ты, бачу, спалохаўся? Не палохайся, дурненькі мой. Кожнаму чалавеку, мабыць, страшнавата ўпершыню стаць бацькам. Але як з'явіцца яно на свет, дык ты палюбіш яго. Я цябе ведаю. Ты палюбіш. Ты не той чалавек, каб не палюбіць свайго дзіцяці,— гарнулася да Станіслава Альбіна.

Збянтэжаны такой весткаю, Станіслаў не ведаў, што рабіць, як сябе трымаць у такім разе: надзеўшы адну калашыну штаноў, ён гэтак і застыў у нямым здранцвенні. Альбіна зірнула на яго і не магла зразумець яго стану.

— Не палохайся, не палохайся! Дзіцятка будзе харошае. Мы ж з табою бацькі неблагія. Так што ты цяпер мяне не саромейся. Я твая жонка. А сёння прыйшла ў ця-

бе папытаць,— мусіць, хочучы перавесці гаворку на іншае, працягвала Альбіна,— што гэта за яна прыйшла да нас на ферму? Кажа, што ты яе ўзяў за ўчотчыцу. А ў цябе, як гэта кажуць па-руску, губа не дура... Прыгожая, нічога не скажаш.

— Гэта мая зямлячка, Галіна Заранка,— пачырванеў Станіслаў.

— Зямлячка, кажаш? Добрыя ў цябе зямлячкі! Толькі дзе ты яе выкапаў?

— Яна тут вучыцца.

— А яна ведае, што ты яе зямляк?

— Мабыць, не.

— То глядзі, не прагаварыся. Не забывай, што мы падпіску давалі.

— Не забываю. Не такі я наіўны, як ты думаеш,— сказаў Станіслаў і ўспомніў, што ўчора ён такі прагаварыўся трохі, прызнаўся, што ён той блудны Дарахвееў сын. Каб жа хоць Галя, як сарока на хвасце, не разнесла яго таямніцы. Там жа, на пагранзаставе, як яны перайшлі граніцу, іх дапытваліся, правяралі і папярэдзілі, што ні ў якім разе яны не павінны аказвацца, хто і што яны...

Мабыць, на гэтым яшчэ не ўсё скончана з яго падпольнай дзейнасцю, можа быць, яшчэ давядзецца вярнуцца на тую зямлю, дзе ён вымушаны быў кожны дзень хадзіць, нібы басанож па гарачым прысаку. Ён пашкадаваў ужо, што тады даўно даў згоду паехаць туды. Яго тады пераканалі, што гэта справа вышэйшай дзяржаўнай важнасці, а для роднай дзяржавы ён гатовы быў не пашкадаваць свайго жыцця. І ўсе тыя гады не шкадаваў яго, заўсёды хадзіў, можа, па самым краёчку яго, дзе, ступіўшы адзін неабачлівы крок, можна было сторч галавою паляцець у бездань.

Станіслаў пашкадаваў, што гэтак неасцярожна прагаварыўся Галі, але ён суцяшаў сябе тым, што Заранка дзяўчына сур'ёзная і яна нідзе і нікому не скажа пра тое, што пачула ад яго. Альбіна, не спускаючы вачэй са Станіслава, заўважыла яго клапатлівы роздум, яго несамавітую ўстрывожанасць, кінулася да яго:

— Стасік, што з табою? Чаго ты такі? Мо табе што баліць?

— Які? Звычайны я. Нічога мне не баліць, апроч сэрца.

— А чаго твайму сэрцу балець! Яму ж радавацца трэба.

— Чаго яму радавацца? Хіба таго, што мы з табою самі як гарох пры дарозе, а тут яшчэ дзіцятка.

— Дык вось што цябе турбуе! Не турбуйся. Знойдзецца дзіцятка, знойдзецца і радасць для яго і для нас. Мы ж сярод сваіх, мы ж у сваёй дзяржаве. Табе, мабыць, не гэтае карціць, цябе, мабыць, не гэтае турбуе. Ты, мне здаецца, зусім пра іншае думаеш.

— Пра што іншае?

— Каб жа я ведала, дык знайшла б і раду.

Станіслаў то ведаў, што яго турбуе: з галавы не выходзіла Галя. Ён дакараў і караў сябе за свае неабачлівыя, а можа, непрадбачлівыя адносіны як з Альбінай, гэтак і з Галяй.

У той дзень гэтак і не атрымалася выхаднога ў дырэктара вучэбнай гаспадаркі. Выйшаўшы з кватэры, яны пайшлі з Альбінай на ферму. Станіслаў, мусіць, спадзяваўся, што ў гаспадарскім клопаце адхлынуць трошкі душэўныя турботы, якіх набралася нямала.

## Раздзел шосты

За які тыдзень Заранка асвойталася з абавязкамі ўчотчыцы. Ужо на самым світанку яна была на ферме: правярала надоі, аналізавала малако на тлустасць. Даяркі, нанятыя вясковыя жанчыны, дзівіліся ўвішнасці новай ўчотчыцы. Тая, што была раней, прыйдзе, бывала, на апошнюю дойку, папытае ў даярак, колькі каторая надаіла, запіша і памахае ручкаю: бывайце! А гэтая вунь як стараецца: на кожнай дойцы ходзіць ад даяркі да даяркі, дапытваецца, пабольшала ці паменшала малака. Зазірне вокам у малакамер, у бітон, ці чысты ён. Загадчыца фермы Альбіна Адасюк, і тая не такая дападная, настырная. Раніцою прыйдзе на першую дойку, паглядзіць, параіць штосьвек, пагаворыць з даяркамі і пойдзе сабе са сваім клопатам.

Даяркі, мабыць, і палюбілі Галю за такую яе ўвішнасць. Яны раіліся з учотчыцай, расказвалі свае крыўды і радасці. Галя працавала так, што не лічылася ні з часам, ні з чым: яна была тым чалавекам, для якога рабіць — дык рабіць па-сапраўднаму, як мае быць.

Заранка прыглядалася да жанчын, якія працавалі тут на ферме. Хацелася знайсці такую, з якою можна было б

пасябраваць, выказаць тое, што на душы. Кожны ж чалавек, відаць, мае патрэбу дзяліцца з кім-небудзь сваімі радасцямі і смуткам. Інакш ён не адчуе ўсёй слодычы радасці. Інакш ён ад часовага смутку можа страціць веру ў сябе і людзей. Жанчыны-даяркі амаль усе былі значна старэйшыя за Галю, і, відаць, тое, што носіць яна ў сэрцы, не кранула б іх.

От жа з Альбінай Галі вельмі хочацца пазнаёміцца. Яна тут маладзейшая за ўсіх і, відаць, такая, што можа зразумець яе.

Альбіна яшчэ незамужняя. Апранаецца з густам і трымае сябе так, што ў яе можна павучыцца. У яе паставе, у рухах, нават у манеры апранацца ёсць нешта інтэлігентнае, нешта такое няўлоўнае, чаму Галя часам нават зайздросціць. Альбіна гадоў на чатыры ці на пяць старэйшая за Галю, але выдае дзяўчынкай. Праўда, яна не якая рагатушка, круцёлка — дзяўчына сур'ёзная, і Галя ніяк не можа, каб от так сысціся адразу з ёю на блізкую нагу, і за гэта ў думках дакарае не Альбіну, а сябе за нялюдскасць, за тое, што яна не ўмее наогул не толькі зазірнуць у чужую душу, дык нават не ўмее раскрыць сваю перад тым, перад кім бы і хацелася.

Сённяшняй раніцай пачула прыцішаныя словы: «Ідуць! Ідуць!» Даяркі хутчэй пачалі ўвіхацца ля кароў. Абарваліся размовы, і нават, як здалося Галі, каровы перасталі жаваць сваю жвачку. Альбіна выбегла на праход. За ёю Галя. У абору зайшлі два чалавекі. У адным Галя пазнала Станіслава, а другога не ведала.

— Хто гэта другі? — спытала ў Альбіны.

— Хіба вы не ведаеце? Гэта ж намеснік дырэктара акадэміі па гаспадарчай частцы.

Пасярод аборы Галя з Альбінай спыніліся і як бы чакалі, калі падыдзе начальства. А начальства падыходзіла то да адной, то да другой даяркі, нешта распытвала ў кожнай і нібы знарок бавілася.

Нарэшце падышлі і да іх. Галя не зводзіла вачэй са Станіслава. Яна як бы чаго шукала ў позірку ягоных вачэй, у рухах рук, ва ўсмешцы і нават у хадзе. Шукала і не знаходзіла таго, чаго ёй хацелася, таго, што ёй было люба і жадана. Гэта не той быў Станіслаў, што тады ў парку. Той быў мяккі, ласкавы, лагодны. А гэта — нейкі афіцыйны, надзьмуты, як індык. Хіба можа так чалавек іначыцца? Яна знарок пільна зірнула яму ў вочы, і ён адвёў свой позірк. Галі чамусьці стала сорамна-сорамна, быццам

яна што благое, непрыстойнае зрабіла на віду ва ўсіх людзей. Дзяўчына зачырванелася. Альбіна гэта заўважыла, але спачатку, мусіць, не зразумела ад чаго — ці чырвоны сонечны прамень, які праціснуўся праз шчыліну сцяны, упаў на яе, ці што іншае. Потым яна зірнула на Станіслава, і ў яго позірку заўважыла нешта незвычайнае. Заўважыла і падумала: тут нешта тоіцца! Хто яго ведае, чым бы кончылася гэтая пераглядка, калі б намеснік дырэктара не звярнуўся да Галі:

— Скажыце, калі ласка, а вы кім тут працуеце?

— Гэта наша новая ўчотчыца,— адказаў Станіслаў.— Студэнтка. Для яе тут не толькі работа, але і добрая практыка.

— Дужа добра, што студэнтка пайшла працаваць,— выказаў сваё намеснік, і ўжо да Станіслава: — Трэба толькі ёй халацік.

— Будзе зроблена! — як не адрапартаваў Станіслаў.

— Ну як, надоі павышаюцца? — запытаў ужо ў Галі.

— Павышаюцца, і малако тлусцее,— адказала яна.— У мяне ўсё з дакументаў відаць.

Зарайка памкнулася пабегчы па паперы, але намеснік спыніў яе:

— Не трэба, не трэба! Мы вам і на слова верым. Працуйце, практыкуйцеся. Гэта вам дужа спатрэбіцца, як скончыце акадэмію і пойдзеце на работу. Ну, а вы як? — звярнуўся ён ужо да Альбіны.

— Стараюся. От думаю гэтымі днямі вывесці жывёлу ў летні лагер. Тут пашу павытоўквалі ўжо. Надоі могуць знізіцца.

— Трэба выводзіць на лепшую пашу,— падтрымаў намеснік.— Наша ферма — гэта не толькі крыніца малака. Гэта навуковая лабараторыя, калі хочаце — гэта крыніца вопыту для студэнтаў і для навакольных калгасаў.

— Мы разумеем гэта,— адказала Альбіна.

Начальства пакінула ферму. Але пасля яго наведвання трывога ніяк не магла пакінуць Галіна сэрца: ёй усё больш карцеў абыякавы Станіславаў позірк. Няўжо ж яна памылілася ў першых сваіх пачуццях? Няўжо ён двудушны чалавек? Не верылася гэтаму. Як яна ні перабірала ў памяці тую ноч, калі яны ўсю яе прахадзілі і прасядзелі ў парку, як ні прыгадвала словы, сказаныя ім тады, як ні абдумвала кожны яго рух, ніяк не магла знайсці ва ўсім тым — ні ў словах, ні ў рухах, ні ў паводзінах — фальшу. Усё ёй здавалася натуральным, шчырым, праўдзівым і

прыемным, і таму тая абыякавасць, якую яна сёння ўгледзела на Станіслававым твары, здалася ёй штучнай, напускной для прыліку, каб не паказаць перад усімі сваёй прыхільнасці да яе, і пачуцці зноў узгарэліся ў сэрцы Галі. «Я яго кахаю,— сказала яна сама сабе,— яго і больш нікога, нікога на свеце».

Тады, як прыходзіла начальства, Галя заўважыла нешта незвычайнае і ў Альбіны. Яна дужа дапытліва, дужа зацікаўлена глядзела на Станіслава, і ў позірку яе можна было прачытаць ні то дакор, ні то любасць, але Галя не надала гэтаму значэння; сэрца яе поўнілася ім, і што ёй да таго, як на любага чалавека хто паглядзеў!

Дні праз тры пасля таго, як начальства наведала ферму, пачаліся зборы ў летні лагер — гэта кіламетраў за дзесяць ад акадэміі. Там на паляне быў пабудаваны барак для работнікаў фермы, пароблены кашары для жывёлы. На світанку, як толькі даяркі падаілі кароў, пастухі занялі ўвесь статак і пагналі ў дарогу. Даяркі і ўсе, хто працаваў на ферме, падаліся хто пешшу, а хто і на вазах. Галя з Альбінай таксама прымасціліся на воз.

— От мы і на курорт выбраліся,— пажартавала Альбіна.

— Чаму на курорт? — не зразумела жарту Галя.

— Лес, паветра, як водар, сонца, рэчка, купайся, загарай. Чым гэта не курорт?

— Я ніколі не была на курортах, дык і не ведаю, што гэта такое,— прызналася Галя, быццам паскардзілася на свой лёс.

— Я таксама не была. Навошта нам на тыя курорты ездзіць, калі мы ўсё жыццё на курортах. Адно што толькі мора няма пад бокам.

Галя слухала і гаварыла пра курорты, а самой карцела іншае: ці хоць прыедзе ён які раз сюды, у лес. Няхай бы прыехаў. Яны б адышліся дзе далей ад людскога вока, і яна не пасаромелася б, як тады, той перш раз, і сказала б яму ўсё: сказала б, як яго кахае, як яго начамі сніць, як з ім у думках раіцца. Хай бы ён ведаў усё, хай бы мо і сам сказаў пра свае пачуцці. Яна ж яшчэ вельмі мала ведае пра яго!

Станіслаў не прыязджаў у лес, і Галя на такой выгодзе неяк мізарнела, сохла душою. Альбіна заўважыла: нешта з дзеўкай няладнае. Тут, у лесе, яны блізка сышліся і часцяком хадзілі далёка па гушчэчы. Галі карцела расказаць, паспавядацца ў сваіх пачуццях, бо нераздзеле-

ная радасць — палова радасці, а нераздзелены смутак — глядзі што большы, як у два разы. Але яна ніяк не магла рашыцца на гэтую споведзь і ўсё адкладала і адкладала яе.

Аднаго разу, калі лес таямніча сінеў змярканнем, дзяўчаты пайшлі і пайшлі ўтаптанай сцяжынкай. Ішлі павольна, бавячыся, быццам ім не хацелася, каб і час з імі ішоў, і яны наважылі зусім запыніць яго, толькі самім ледзь перастаўляць ногі і ўдыхаць, убіраць у сябе харавство. Лёталі птушкі, скакалі конікі, а ў высях у гушчэчы ўсё шчабятала, жыло, весялілася. Дайшлі да не вельмі шырокай лясной рачулкі, да таго ясе месца, дзе бераг не зарос хмызнякамі і вербалоззем. Нідзе не было відно ні жывой душы. Распрануліся — і ў ваду. Альбіна з непрытоенай зайздрасцю глядзела на Галю: на яе як вытачаную постаць, на грудзі, на стройныя ногі, на загарэлы твар.

— Якая ты, Галечка, прыгожая! — захаплялася Альбіна, быццам упершыню ўгледзела яе.

— Прыгожая! Прыгожая! — пачырванела Галя.— Ты кажаш — прыгожая, а ён, мабыць, і ў мой бок глядзець не хоча.

— Хто ён?

— Станіслаў!

Галя заўважыла, што, пачуўшы яе прызнанне, Альбіна ўвачавідкі неяк мянялася. Яна то бялела, то чырванела.

— А што ў вас з ім? — без дзявочай чуллівасці ў голасе запыталася Альбіна.

— Нічога асаблівага. Я яго кахаю.

— А ён цябе?

— Хто яго ведае! Хіба мужчынам льга верыць? — выказала сваю безнадзейнасць Галя.

— А чаму ж нельга? Гледзячы якім мужчынам. Такім, як Станіслаў, можна і трэба верыць! Ён — харошы!

— Хто яго ведае, мо і харошы.

— Ты яго так мала ведаеш і пакахала ўжо? Завошта ж ты яго?

— Ёсць за што. Я яго нямала ведаю.

Альбіна дапытвалася ўсё гэта недарма. Дзён колькі назад Станіслаў, нібы жартам, нібы для таго, каб яе трошкі пазлаваць, выклікаць балючае пачуццё рэўнасці, сказаў, што кахае адну дзяўчыну — зямлячку. Тады гэтаму яго прызнанню Альбіна не надала ніякага значэння: яна самаўпэўнена верыла ў сілу сваіх пачуццяў, у тое, што

яны ўзялі верх над Станіславам, запаланілі яго сэрца і не выпусцяць, не аддадуць нікому-нікому. Не надавала значэння мо яшчэ і таму, што верыла Станіславу, верыла ў яго шчырасць, бо ведала, што ён не з тых, хто гатовы заляцацца да кожнай прыгожай дзяўчыны.

Праўда, Станіслаў ні разу не прызнаўся Альбіне ў каханні. Але хіба пра каханне гавораць словамі — каханне носяць у сэрцы, у крыві, ім дыхаюць, як паветрам, і не абавязкова пра яго гаварыць; лепш за ўсё яго адчуваць ва ўсім, і Альбіне здавалася, што яна яго адчувала ва ўсім і на кожным кроку. Але цяпер падумала, што гэта была, можа, проста чалавечая спагадлівасць да яе. Яны ж гэтулькі перажылі, гэтулькі перабачылі разам, прайшлі гэтакія дарогі, і няма ніякага дзіва, што ён проста прывык да яе. Падумала, прыкінула ўсё гэта і спалохалася: значыць, ён казаў праўду. Станіслаў не з тых, хто маніць. Станіслаў шчыры, адкрыты, і двудушнасці ў ім няма ні каліва.

Галя непадалёк ад берага плёскалася ў вадзе, і хоць ужо было на змярканні, угледзела нейкае ўтрапенне на твары сяброўкі. Угледзела і здзівілася: што б гэта магло такое значыць?

Альбіна заспяшалася апранацца і ўжо на беразе вельмі ж пільна глядзела на Галю. І, мабыць, зайздросціла пругкасці яе маладога цела, прыгажосці яе твару, пышнасці яе светлых валасоў, і мо параўноўвала сябе з ёю, злавала, калі рука не пацэльвала ў рукаў, калі сарочка ліпла да мокрага цела і не абцягвалася. Галя ўсё гэта бачыла і не магла даўмецца, чаго зблажэў настрой у сяброўкі, чаму яна неяк прымоўкла.

Апрануўшыся, яны пайшлі назад. Толькі ўжо не той сцежкай, а самым гушчаром. Галя думала, што Альбіна проста хоча павадзіць яе па лесе, паказаць хараство яго. Але Альбіна ішла задумная, маўклівая. Ішла ўперадзе, як следапыт, і не да Галі, а сама сабе гаварыла — Галя ўлавіла, што яна казала:

— Дык ён такі праўду казаў. Гэта яна і ёсць!

— Што ты там кажаш? — спытала Галя.

— Гэта я так сабе. У мяне часам звычка такая: самой з сабой гаварыць. Прывыкла там.

— Дзе?

— У адзіночцы панскага астрога.

— Якога астрога? — сумелася Галя.

— Панскага! Я ж табе кажу.

Альбіна запаволіла крок і, калі падышла Галя, узяла яе пад руку і пачала:

— Дык от як яно было, дзяўчынка мая...

Перад Галіным уяўленнем развіналіся карціны гераічнай барацьбы падпольшчыкаў Заходняй Беларусі. Станіслаў і Альбіна рынуліся ў вір гэтай барацьбы. Альбіна спачатку і не ведала хлопца. Хадзілі яны рознымі сцежкамі. Ён быў у Вільні, яна — у Навагрудку. Пазнаёміліся яны ў навагрудскім астрозе: адзіночкі іх былі поруч, і тоўстая мураваная сцяна не стала перашкодаю для гэтага знаёмства; перастукваючыся, яны даведаліся вельмі многа адно пра аднаго. Альбіна даведалася, што Станіслаў як функцыянер падпольнага Цэнтральнага Камітэта КПЗБ быў пасланы на Навагрудчыну для арганізацыі забастоўкі рабочых фальваркаў. Доўга ён працаваў сярод батракоў і аднаго разу такі не ўпільнаваўся. Дэфензіва высачыла яго і накрыла акурат тады, калі ён на лясной паляне выступаў перад забастоўшчыкамі. Адтуль яго і прывялі ў наручніках у навагрудскі астрог.

Допыты, катаванні. Аднак дэфензіўшчыкі ніяк не маглі дабіцца ад яго прызнання, што ён функцыянер. Станіслаў стаяў на сваім: ён ніякай партыі і ведаць не ведае, ён, проста шукаючы работы на свае рукі, забрыў сюды, на Навагрудчыну, прачуўшы, што тут неблагія заработкі. І забрыў сюды акурат у час забастоўкі.

Дэфензіўшчыкі, вядома, не верылі ніводнаму яго слову і ўсімі спосабамі дамагаліся прызнання: садзілі ў карцэр, білі гумавымі палкамі па пятках так, што здавалася, увесь мозг сатрасаўся. Аднаго разу гэтак спляжылі хлопца, што ён ужо не мог сваімі нагамі прыйсці ў камеру. Яго прынеслі і кінулі на ацэментаваную падлогу. Альбіна чула стук у суседняй камеры, але не думала, што гэта кінулі знявечанага, скатаванага яе суседа. Ён знайшоў у сабе сілы пастукаць і перадаць, што зрабілі з ім. А яна перастукваннем, «грыпсамі» перадала іншым сваім суседзям. Тыя — далей, і гэтак на раніцу ўжо ўся турма ведала, што скатавалі Гарадзюка. Паднялося гэтакае, чаго не чакала турэмнае начальства: была арганізавана галадоўка — палітычныя, тыя, хто быў пад следствам, як адзін не ўзялі яды, не выйшлі на прагулку.

Без малога год цягнулася следства па справе Гарадзюка: дапыталі каля сотні сведак, падсылалі правакатараў. Просьбай і грозьбай, катаваннямі і абяцанкамі хацелі дэфензіўшчыкі зламаць дух вязня. Але ў яго хапіла сілы і

мужнасці выстаяць супроць усяго гэтага, не раскрыць сваіх падпольных сувязей, не раскрыць той сапраўднай мэты, з якой ён і па чыім загадзе прыехаў сюды, у Надняменне. Нічога ў дэфензіўшчыкаў не выйшла са стварэннем масавай крымінальнай справы па абвінавачванню Кампартыі Заходняй Беларусі ў антыдзяржаўнай, антыўрадавай дзейнасці. Станіслава Гарадзюка вымушаны былі выпусціць пад падпіску. Лопнула цэлая справа, і турэмшчыкі вымушаны былі выпусціць не аднаго Гарадзюка. Выпусцілі і яе, Альбіну Адасюк, і яшчэ многіх.

А праз які месяц было прынята рашэнне Цэнтральнага Камітэта: улічваючы небяспечнасць легальнага становішча, перакінуць Станіслава Гарадзюка, Альбіну Адасюк і яшчэ некаторых у Савецкі Саюз.

— От так мы, дзяўчынка, і апынуліся тут,— скончыла сваё апавяданне Альбіна.

Галя нічога гэтага не ведала. Яна нават і падумаць не магла. Ёй Станіслаў спачатку здаваўся звычайным, як і ўсе, і яна пакахала яго звычайнага, нават не ведаючы, што ён зямляк. Тое, што расказала Альбіна, яшчэ больш успалымніла яе сэрца. Яна гатова была от зараз жа ляцець на невідочных крылах туды, дзе ён. Альбіна бачыла гэтую рашучасць дзяўчыны, і ёй станавілася шкада яе. Яна нават зазлавала на Галю, але пастаралася не паказаць гэтага — няхай пакуль што не ведае гэта дзяўчо. Альбіна не збіралася так лёгка аддаць Станіслава. Вельмі ж цяжкімі дарогамі ішлі яны разам, каб лёгка аддаць яго другой.

— Дык вы ўдваіх і граніцу пераходзілі? — раптам спытала Галя.

— Удваіх. Мы адно аднаго ў твар нават не ведалі. Толькі ўжо тут, на пагранічнай заставе, я даведалася, што гэта той таварыш, з якім каля года я перастуквалася. Дзіва: я сабе яго такім і ўяўляла — рашучым, нязломным, смелым.

— От жа як бывае...

— Бывае,— шматзначна сказала Альбіна.— Дык ты яго кахаеш? — спытала яна ў Галі.

— Любая мая, дужа ж кахаю,— аж прыціснулася Галя да Альбіны, быццам трымала яна пад руку не яе, Альбіну, а Станіслава.— Тое, што ты расказала пра яго, душу маю перавярнула. Я сама гатова ўсё гэтае перажыць, абы яму хоць на волас лягчэй было. Пастараюся зрабіць так, каб яму лёгка і хораша жылося на гэтым свеце пасля ўсяго, што ён перажыў.

— Як жа ты пастараешся? — з адценнем нейкай злосці спытала Альбіна.— А можа, і не варта табе старацца. Можа, ён не варты таго? Можа, ты сабе ўбіла ў галаву чортведама што?

Галя слухала Альбіну і не разумела: навошта яна гэтак гаворыць пра чалавека, які, відаць, і ёй нечым блізкі. Зазірнула ў твар сяброўкі, але была ноч, хоць і месячная, але ўсё ж ноч. А калі б Галя зірнула на Альбінін твар пры ясным сонечным святле, яна б не магла не ўгледзець на ім узрушанасці, нейкай нават узлаванасці і намагання не паказаць усяго гэтага ёй, Галі.

— А ты, Галя, кахала ўжо каго-небудзь? — зусім недарэчна, як здалося Галі, спытала Альбіна.

— Не, не, любая! Яго першага і, мабыць, апошняга пакахала,— прызналася Галя.

— А ты ведаеш, дзяўчынка, што першае каханне часам бывае сляпое?

— Не ведаю і ведаць не хачу.

— А ці варта табе яго так кахаць? Мы з ім людзі незвычайныя. І хто яго ведае, што з намі можа здарыцца: от паклічуць і скажуць — ідзіце зноў туды! Дык як ты тады, калі звяжаш сваё жыццё з ім? Ты не ведаеш, як цяжка без любага чалавека.

— Як? Аніяк! Пайду за ім. Калі чалавека кахаеш, можна ўсё за яго аддаць, нават жыццё!

— Гэта, Галечка, рамантычная ўзнёсласць. Жыццё куды прасцейшае. Пройдзе тваё гэтае ап'яненне, зірнеш і ўбачыш, як усё проста і нават сумна. Станіслаў табе не пара і па другім: ён жа гадоў на дзесяць старэйшы за цябе. Ён на цябе, можа, толькі кінуў ласым вокам, а табе здалося немаведама што.

Альбіна старалася на ўсю сілу як адгаварыць, ацверазіць Галю, але што яна ні казала, дзяўчына слухала яе як у сне, не прымала і не разумела таго, што казала Альбіна. Гэта мо і прыспешыла, прымусіла Альбіну пайсці на рашучы крок. Праз тры дні пасля начной гаворкі ў лесе яна паехала з лагера. З тыдзень не паказвалася туды. Даяркі, пастухі і ўсе, хто быў у лагеры, трывожыліся: што здарылася з іхняй загадчыцай? Мо якое няшчасце, мо захварэла? Але, мабыць, больш за ўсіх трывожылася Галя. Сэрца яе як бы што прадчувала: яно нема, але балюча ныла, і дзяўчына хацела ўжо ўсё кінуць і пайсці ў акадэмію.

Была акурат нядзеля, калі на фурманцы, запрэжанай лепшымі стаеннікамі, вярнулася Альбіна. Яна была ўзру-

шана-вясёлая, нейкая ж вельмі ўвішная і гаваркая. З усімі віталася за руку, перакідвалася словамі. Да Галі не падышла, а падбегла. Зірнула неяк незвычайна і сказала з нейкім выклікам.

— Можаш мяне, дзяўчынка, павіншаваць.

— З чым?

— З законным шлюбам!

— З кім?

— З ім!

Галя зразумела ўсё-ўсё. У той жа дзень яна сышла з лагера, з фермы.

## Раздзел сёмы

Пасля ўсяго, што адбылося, Галя як не выцуралася людзей. Да пачатку заняткаў заставалася яшчэ з месяц, і дзяўчына, замкнуўшыся ў чатыры сцяны інтэрнацкага пакоя, сядзела, нідзе і нікому не паказваючыся. Ёй здавалася, што ўвесь свет ведае, як бессардэчна абышліся з яе пачуццямі, насмяяліся з яе дзявочага гонару. Але Галя не злавала на Станіслава. Наадварот, яна яго шкадавала. Аднак дзявочая годнасць не дазваляла ёй несці сваю бяду на паказ чужой радасці. Каб хоць мець якога блізкага чалавека ды хоць выгаварыцца, можа б, яно і лягчэй стала. Такога чалвека Галя пакуль што не мела. Пашкадавала, што за гэты год яна не сышлася наблізка з дзяўчатамі, каб каторай з іх можна было даверыць свае таямніцы.

А быў ужо жнівень. Ужо на палетках чуліся рокат жняярак і песні жней. І Галя не ўседзела: выйшла з сярпом. Працавала гэтак зацята, што не заўважала ні часу, ні гарачыні. Мабыць, у працы заўсёды лягчэй пераносяцца скрухі і няўдачы. Аднак, як Галя ні старалася выкінуць з галавы ўсё, што адбылося, не знайшла ў сабе сілы.

А тут яшчэ і ён, Станіслаў, прыйшоў на поле. Пахадзіў каля жней, пагаварыў. Падышоў, дзе і яна жала ў гурце вясковых жанчын, павітаўся і чамусьці даўжэй, як ля іншых, пастаяў тут. Галя не магла сябе прымусіць разагнуцца і проста, адкрыта зірнуць яму ў вочы. Яна нібы адчувала сябе ў чым вінаватай перад ім і толькі крадком, калі ён не заўважаў, кідала на яго позірк з-пад рукі. На Станіслававым твары дзяўчына не ўгледзела таго, пра што думала, на што спадзявалася. Наадварот, яна ўбачыла на

ім як бы нейкае раскаянне, што так сталася, як бы нейкую спагаду ёй. Праўда, да яе ён не загаварыў, але ці абавязковы словы. Часам адзін позірк можа сказаць усё. Калі Станіслаў, развітаўшыся са жнеямі, адышоўся, адна з іх не стрывала і запыталася:

— Чаго, таечка мая, ён гэтак на цябе глядзеў? Хіба ён табе які знаёмы, ці што?

— Знаёмы, зямляк мой,— адказала Галя.

— Зямляк то зямляк, але ж і ўпадабаў. Ды і чаму цябе не ўпадабаць: ты ж як тая кветачка. А кветачка ж кожнай пчолцы кідаецца ў вочы.

Барзджэй зашасталі сярпы. Галі не хацелася гаварыць пра гэта з незнаёмай жанчынай, і яна моўчкі працавала. А думкі яе былі аб ім: чаму сапраўды ён так глядзеў на яе — спагадаў ёй ці мо... Можа, гэтая Альбіна аказалася вельмі ж настырнай і міма яго волі ажаніла на сабе? Бываюць жа такія жанчыны, што гатовы на ўсё, абы толькі дамагчыся свайго. Галя ў думках нават паспагадала Станіславу. Недзе ў глыбіні душы трапяталася надзея, што яна не назусім яшчэ яго страціла, што ён адумаецца і вернецца да яе. Але гэта было толькі жаданне, толькі дзявочая мара.

Пасля таго як Станіслаў з Альбінай пажаніліся, ім далі невялікі дамок, асабнячок непадалёк ад канторы. Вечарамі ён зырка-зырка свяціўся вокнамі, быццам тыя вокны казалі: глядзіце, людзі, якая ў гэтым дамку маладая радасць! Галя сама не ведала, чаго яна час ад часу праходзіла паўз гэтыя вокны. Чаго яна там шукала, чаго ад іх чакала? Праходзіла і ўзіралася ў іх. Часам у вочы ёй кідаліся два цені, якія, здавалася, бязладна матляліся па хаце. Аднаго разу фіранка была адшморгнута, і Галя ўгледзела, як Станіслаў з Альбінай цалаваліся. Угледзела і як не закрычала сама на сябе: «Чаго ты сюды ходзіш, дурная? На што ты спадзяешся?» Сказала і бегма рынулася ў свой інтэрнацкі пакой, на сваю не вельмі мяккую пасцель.

А тым часам пачалі ўжо з'язджацца на экзамены тыя, хто хацеў паступіць у акадэмію. Гэта ў большасці былі вясковыя хлопцы і дзяўчаты. Галі здаліся яны наіўнымі і даверлівымі. Хіба і яна летась такая была? Мабыць жа! Навічкі рады былі перакінуцца хоць адным словам з сапраўдным студэнтам, і яны акружалі Галю. Распытвалі, расказвалі, і яна ім раіла, настаўляла, як лепш трымаць сябе на экзаменах. Гэта прыносіла ёй нейкае задавальнен-

не і заспакаенне: ва ўсякім разе, адбівала яе ад настырных думак пра Станіслава.

Ідучы па двары акадэміі, яна раптам як не скамянела. Усутыч сустрэлася з Косцікам Стрыжанком.

— Косцік, гэта ты? — як не закрычала.

— Я! Я! — адказаў узрадаваны Косцік і паставіў чамадан.

— Як гэта ты надумаў сюды?

— Я даўно ўжо надумаў.

— А я ж думала, ты ўжо дзе вучышся.

— Дзе ж я вучуся. Прашалапуціў год дома — і от сюды. Летась паехаў у ваеннае вучылішча, але там не прынялі па здароўю.

— Дык хадзем, я цябе завяду туды, дзе размяшчаюцца жаўтароцікі,— прапанавала Галя і схапілася за Косцікаў чамадан. Але Косцік управіўся адабраць яго ў яе з рук.

Дарогаю да інтэрната, у якім размяшчаліся абітурыенты, паміж Галяй і Косцікам ішла мірная, лагодная гаворка, быццам і не было таго выпадку на выпускным вечары. Галя распытвала пра Нежыхаў, пра сваіх.

— А чаму ты ім не пішаш? — спытаў Косцік.— Я колькі разоў пытаўся ў мачыхі, ці ёсць ад цябе лісты. Дык яна сказала: «Адрэзаны і загоены палец ужо не баліць. Так і мы яе адрэзалі». Бацька толькі гневаецца на цябе.

— Чаму не пішу? А што я ім буду пісаць? Што жывадужа, дык яны і так ведаюць. Ды не вельмі, мабыць, і турбуюцца пра маё здароўе.

— Галя, не кажы так. Бацька шкадуе цябе. Як-ніяк, ты ж кроў яго.

— А як там дзед Сопат? — быццам хочучы перавесці гаворку на іншае, спытала Галя.

— А хіба ты не чула?

— Чаго? — спалохалася Галя.

— Што дзеда Дарахвея зімою пахавалі.

— Што з ім?

— Старасць.

— От каго мне шкада...

Галі хацелася адразу ж кінуцца да Станіслававага дамка, адчыніць дзверы і крыкнуць на ўсю сілу: «Бацька твой памёр, а ты тут мілуешся з гэтай краляй!» — але разважлівасць узяла верх над жаданнем, і Галя пайшла з Косцікам у інтэрнат. Яна і Косціку не сказала пра тое, што знайшоўся тут Дарахвееў сынок.

У інтэрнаце было тлумна і бязладна. Косцік паказаў каменданту выклік на экзамены, і той адвёў месца. Хлопцы абступілі Косціка і ўзяліся распытваць, хто ён і адкуль. Косцік увязаўся быў у гаворку з такімі, як ён сам, і як не забыўся, што яго чакае Галя. Потым угледзеў яе ў дзвярах і заспяшаўся.

Пайшлі ў парк. Галі чамусьці захацелася на тую алею, на тую лавачку, на якой яна тады сядзела, калі да яе падышоў Станіслаў. Мяккія перадвячорныя змрокі слаліся на аксаміт траў, на запозненыя ўжо кветкі, якія не скупіліся на водар, што ліўся ў грудзі, і ад яго дыхалася лёгка і добра. Здаецца, аж дужэў чалавек ад гэтага водару. Дайшлі да лавачкі. Галя першая села. Сама села акурат на тое месца, дзе сядзелі са Станіславам тады. Косціку сказала, каб ён трохі адсунуўся. Хлопец не мог даўмецца: навошта гэта? А Галя тым, што прывяла Косціка на тую самую лавачку, загадала адсунуцца на тое самае месца, дзе тады сядзеў Станіслаў, як бы хацела аднавіць не толькі ў памяці, але і ў самой натуры той незабыўны і ўжо як бы далекаваты момант.

Косцік не падсоўваўся да яе, як тады Станіслаў. Можа, ён баяўся, каб не паўтарылася тое, што тады пад яблыняй. Галя зірнула на яго так, што ён мог зразумець: яна хоча, каб падсунуўся да яе блізенька. Знячэўку нешта Косцік хуценька падсунуўся да Галі, абняў яе і давай цалаваць. Яна не адбівалася, як тады пад яблыняй. Наадварот, сама прыпала да яго. Але што за дзіва: у той час, як Косцік аж гарэў, яна як толькі што вырынула з халоднае вады, з астылымі не толькі пачуццямі, але і вуснамі.

— Хадзем адсюль, а то яшчэ хто набрыдзе, сорамна будзе,— сказала Галя і павяла хлопца той дарогай, па якой яны ішлі тады са Станіславам. Дайшлі да той палянкі.

Косцік расказваў пра ўсё, пра вёску, пра школу, пра хлопцаў і дзяўчат. А Галя як бы і не слухала. Заўважыўшы яе абыякавасць, Косцік надумаў сказаць тое, што насіў на душы як сваю таямніцу, хоць гэтая таямніца і была звязана з ёю, з Галяй.

— Ты ведаеш, Галя, я без цябе жыць не магу. Каб ты ведала, як мяне сюды цягнула, нібы магнітам. І от я тут.

— Няўжо ўсё гэта праўда? — здзівілася Галя.

— Праўда, праўда! Чыстая праўда! — як не крыкнуў Косцік і кінуўся зноў цалаваць яе.

— Пачакай, пачакай, Косцік, не трэба так,— сказала

Галя.— А скажы мне, Косцік, ты б пайшоў у турму за людзей?

— За якіх людзей? — не мог зразумець той.

— Ну, за звычайных, працоўных, за тых, каго крыўдзяць. За тое, каб ім лепей жылося.

— Дык чаго я ў тую турму? — усё яшчэ не разумеў Косцік.— Хіба я дурны ў турму ісці. Няхай той, хто нарабіў злачынства, сам ідзе туды.

Галі больш не захацелася дапытвацца: яна зразумела, што гэты не пайшоў бы, як Станіслаў, змагацца за людскую долю, не пайшоў бы на катаванні і пакуты; гэты зашыўся б у шчыліну і перасядзеў небяспеку, і ёй стала балюча, крыўдна. Яна і сама не ведала ад чаго. Ці то ад таго, што тады ў астрозе было балюча Станіславу і яе там не было, а была побліз Альбіна; ці ад таго, што поруч з ёй сядзеў хлопец, ні крошачкі не падобны па Станіслава. Яна і пра турму пыталася недарма: ёй хацелася пачуць, пабачыць у Косціку хоць кропельку таго, чаго так многа было ў Станіслава. Можа б, тады яна сэрцам ірванулася да Косціка. З выгляду ён хлопец прыгожы, можа, пагляднейшы за Станіслава.

— Як скончым акадэмію, дык добра нам будзе,— фантазіраваў Косцік.— Калі б нас паслалі ў які раённы зямельны аддзел — мяне за старшага агранома, а цябе за галоўнага заатэхніка. От бы зажылі.

— А я ніколі пра гэта і не думала,— прызналася Галя.

— Дык трэба ж думаць... Мы ўжо ў тым веку, калі трэба пачынаць думаць. Я ж цябе гэтак кахаю, Галечка мая, што не магу не думаць пра наша шчасце.

— Косцік, а ты ведаеш, што вось на гэтай палянцы, на гэтым самым месцы, дзе мы з табою сядзім, калісь невядомы аўтар пісаў «Тараса на Парнасе»? — зусім нечакана спытала Галя. Косцік аж вочы вытрашчыў: можа, ён шукаў якой сувязі паміж тым, што гаварыў ёй, і тым, што паведаміла Галя, і, не знайшоўшы яе, збянтэжыўся.

— А навошта мне гэта ведаць? Я ж не літаратар, я хачу вучыцца на агранома, а агроному дык гэтыя «Тарасы на Парнасе» і не ў галаве,— адбіў Косцік Галіна жаданне расказаць тое, што яна сама пачула ад Станіслава.

— Як гэта табе не ў галаве! — ледзь не абурылася дзяўчына.— Чалавеку павінна быць усё ў галаве.

— А мне от што цяпер у галаве! — Косцік рашуча памкнуўся да Галі, хочучы зноў, як там на лавачцы, абняць і цалаваць яе.

Галя вёртка выкруцілася з яго абдымкаў, штурхнуўшы яго ў грудзі, як тады пад яблыняй.

— Не трэба, Косцік, не трэба!

— Чаму не трэба? Мы ж не маленькія!

— Вось таму і не трэба, што мы не маленькія. Для маленькіх — гэта забава, а для такіх, як мы з табою,— вельмі сур'ёзна.

— Дык я ж сур'ёзна, Галечка! — зноў памкнуўся да яе Косцік.

— Не трэба! Хадзем адсюль! — Галя ўстала і рашуча пайшла.

Косцік хацеў узяць Галю пад руку, але яна адхапіла сваю, як ад агню, і спорна пайшла сцяжынкаю наперадзе яго. Хлопец ніяк не мог даўмецца, што сталася з дзяўчынай.

Нават не пастаяўшы ля ганка інтэрната, Галя холадна развіталася. Косцік пачакаў, пакуль у акне Галінага пакоя бліснула святло, і панёс сваю скруху ў інтэрнат, дзе хлопцы каторыя спалі, а каторыя спрачаліся, хоць было ўжо нярана.

— Бач, які спрытнюга, не паспеў прыехаць сюды, а ўжо раманчык проста з ходу закруціў.

Косцік не адказаў на колкасць. Моўчкі распрануўся, моўчкі лёг і нават вочы заплюшчыў, але заснуць не мог як не да самага світання: усё думалася пра Галю, чаму яна так з ім абышлася.

Галя таксама не магла заснуць: ёй крыўдна было, што гэты Косцік, якога ведае яна з маленства, нічым, нічым ні кропелькі не падобны на Станіслава. Хай бы хоць штокольвек было ў ім Станіслававага, яна б не адвярнулася, не адхіснулася б ад яго. Наадварот, яна б аддала яму душу, яна б узяла яго ў сваё сэрца.

Галя ўсю ноч думала і перадумвала. І нарэшце вырашыла: калі і сустракацца з Косцікам, дык як з земляком, і толькі, і ніколі-ніколі не дазваляць большага. Вырашыла так, і ёй стала лягчэй. Яна заснула і праспала да добрага сонца, якое заглядвала ў інтэрнацкае акно гэтак гадзін пад адзінаццаць. Нават сны ніякія не набрылі.

Год рэдка калі бывае падобны на год. І гэтая восень была не такая, як летась. Леташняя была — як прыбраная да ўрачыстасцей дзяўчына: не шкадуючы золата, сонца ліло і ліло яго на травы, на дрэвы, дадавала да яго срэбра бабінага лета і гэтак аздабляла ўсё, што часам здавалася — восень самая прыгожая, самая шчаслівая пара

года. А сёлетняя восень была плакса: яна ахінала зямлю туманамі, засланяла сонца густымі хмарамі, якія сеялі і сеялі, як скрозь сіта, надакучлівую імжаку. І Галін настрой быў такі самы, як і гэтая восень: пахмуры, учарнелы.

Косціка прынялі ў акадэмію, але Галю гэта чамусьці ніколечкі не радавала. Яна жыла і сама не ведала чым — то светлай надзеяй, то клопатам пра вучобу. Хіба толькі падвесяліла зіма. Яна прыйшла неяк знянацку: дажджылася, дажджылася, а потым дні за два зямля ўзялася храпаю і паваліў спорны снег. Так зіма і легла. І легла ранавата. Неяк неўзабаве пасля Кастрычніка.

Галя была рада зіме. За гэтым першым снегам пойдуць маразы, завеі. Дзяўчына чамусьці любіла мяцеліцы, завірухі. Любіла выйсці ў поле і ісці дарогаю, якую перамятае, а то і зусім па шэрхлым цаліку, ісці, не бачачы, куды ты ідзеш, давяраючы толькі сваім нагам, свайму адчуванню дарогі. Затое як добра пасля такой дарогі прыйсці на святло акон, расчыніць дзверы і ўваліцца ў цяпло хаты: спачатку пагрэць рукі перад цялеснікамі, потым прыхінуцца спіной да цёплай сцяны, а тады з холаду сесці за стол, зачарпнуць цёплага наварыстага баршчу, абабраць зубамі парэбрынку цёплага саланаватага мяса, якое прэла ў гэтым баршчы з самае раніцы, а закусіць аладкамі, падтрушанымі ў смятане, ці пшоннаю кашаю на малацэ. Як гэта ўсё смачна, як гэта ўсё добра, і ўспамінаецца яно ўсё цяпер Галі як казка.

Цяпер дзяўчыне не даводзілася ні ў завіруху хадзіць, ні садзіцца за сялянскі стол. Цяпер яна калі і выйдзе на холад, дык хіба што перабяжыць з інтэрнацкага пакоя ў акадэмічны корпус і там ужо цалюткі дзень седнем сядзіць над кнігамі, слухае лекцыі, якія не заўсёды лезуць у галаву. Каб жа толькі адзін клопат гэтыя лекцыі, дык, можа б, яны і асядалі ў памяці. Дык не ж: не толькі ў яе, а, мабыць, і ў другіх столькі іншых клопатаў, што немаведама, як яны месцяцца ў галаве. Праўда, і цяпер Галя старалася з усяе сілы адкінуць усялякія іншыя клопаты: хутка зімовая сесія, і трэба яе здаць, каб не сорамна было зірнуць людзям у вочы. А там і зімовыя вакацыі, самая ўрачыстая пара для студэнтаў, асабліва для першакурснікаў, у якіх яшчэ раздвоена душа: адна палавіна прырастае ўжо тут, а другая яшчэ моцнымі карэньчыкамі трымаецца за родны грунт.

Галя рашуча адарвалася ад родных мясцін, і калі Косцік спытаў: «Хутка ў Нежыхаў пададзімся?» — яна адказала: «Я туды не яздок. Мне няма чаго туды падавацца!»

Косцік здзівіўся такому адказу. Яму гэтак карцела зірнуць хоць адным вокам на свой Нежыхаў. І не толькі зірнуць, але і самога сябе паказаць: маўляў, глядзіце, нежыхаўцы, які я! А каб яны яшчэ ўдваіх з Галяю прыехалі туды! Ён уяўляе: ішлі б яны ад шляху нежыхаўскаю вуліцаю, а да школьных акон прыпалі б старшакласнікі, якія іх ведаюць, і адно аднаму казалі б: «Зірні, зірні, вунь Косцік з Галяю прыехалі».

І не толькі са школьных — і з хатніх каторыя б выглядалі. А ён бы ганарыўся, што ўжо студэнт і што прыехаў не адзін, а з Галяй, самай прыгожай нежыхаўскай дзяўчынай.

А Галі карцяць іншыя вокны. Вокны таго дамка-асабнячка. Як ёй хочацца прайсці паўз іх, паўзірацца, а, можа б, і ўгледзела яго.

Заранка доўга не верыла, што ў Станіслава з Альбінаю гэта сур'ёзна, і толькі тады, як у дні вакацый выпадкова сустрэла Альбіну і ўгледзела, што тая загрубела, паверыла, што сур'ёзна і, мабыць, назаўсёды. Станіслаў і выпадкова не трапляўся Галі на дарозе, і сэрца дзяўчыны ныла. Яна і не спадзявалася ні на што. У яе проста было, як і ў кожнага чалавека, прагнае жаданне шчасця, і Галя, мо і марна, а можа, і неразумна, чакала яго. Чакала ўвесь канец лета, усю восень, і от ужо сярэдзіна зімы, але ні час, нішто не неслі ёй патолі. А можа, вясна прынясе? А яна ішла напорна і немінуча, як і належала вясне. Птаства шчабятала ў голым яшчэ голлі парку. Наздрыўся снег, і вось-вось ён возьмецца вадою і сплыве. А там пачнуць прышчыцца пупышкі дрэваў, выклюнуцца маладыя, яшчэ клейкія лісткі, і тады пачнецца ўжо сама вясна.

Вясна — гэта не толькі пара, калі набрыньваюць сокам дрэвы, калі расцвітаюць кветкі і рунеюць палі. Вясна — гэта і час росквіту надзей, асабліва маладых.

Нечым узрушаная, падахвочаная, Заранка выйшла сіняватым надвячоркам з інтэрната і, сама мо не ведае як, апынулася ля таго дамка, у якім жывуць Станіслаў з Альбінай. Пад вокнамі яна ўжо апамяталася і толькі хацела павярнуць, як за акном пачула піскліва-галосае: «Куга-куга!..» Пачула і спалохалася: няўжо гэта дзіця? Чамусьці ёй захацелася зірнуць хоць адным вокам на малое, паглядзець, на каго яно падобнае — на Станіслава ці на

Альбіну. Вельмі ж хацелася, каб яно было хлопчыкам і было падобна на Станіслава.

У нейкай бязвольнай нерашучасці Галя тапталася непадалёк ад акон, пакуль не пачууўся стук дзвярэй. Ён як бы працверазіў яе, вярнуў да прытомнасці, і яна ўжо строілася пабегчы адсюль, ад тых вачэй, з якімі ёй так хацелася сустрэцца і якіх яна баялася. Яна ўжо як не пабегла, але ляпнула брамка, і з двара выйшла старая незнаёмая жанчына. У сінім сутонні вечара яна мо і не ўгледзела Галю. Дзяўчына сама памкнулася да яе.

— Добры вечар вам,— сказала Галя.

— Добры вечар,— углядаючыся ў Галіна аблічча, хочучы пазнаць, хто гэта, адказала жанчына.

— Вы тут жывяце, цётачка, ці ў гасцях былі?

— Каму я ў тыя госці трэба ўжо? Гэта ж во, дзякаваць богу, знайшлося малое, дык за няньку папрасілі.

— А што ў іх знайшлося — хлопчык ці дзяўчынка?

— Хлопчыка даў бог. А ты, дзетка, іх знаёмая, што дапытваешся?

— Знаёмая. Чаму ж не!

— То зайшла б у хату, паглядзела дзіцятка, пагаварыла б.

— Не, не! — як не спалохалася Галя.— Куды ж я пайду з парожнімі рукамі. Да малога ж трэба з падарункамі ісці. А я нават не ведала, што ён знайшоўся. А куды вы сабраліся?

— Ды от жа схадзіць трэба на сваё котлішча, сёе-тое прыгледзець.

— Ну, то я вас правяду трошкі,— набілася Галя.

З кіламетр Галя ішла поплеч са старою і ўсё пыталася, дапытвалася, як жывуць Станіслаў з Альбінаю, ці хоць не сварацца яны.

— Хіба з такім чалавекам, як наш гаспадар, можна сварыцца? Хоць бы і захацеў, дык з ім не пасварышся: у яго ж душа мякенькая-мякенькая. Ён жа нават перада мною лістам сцелецца: бабулька ды бабулька, матулька ды матулька, а ці ела, а ці піла ты што? А хто я яму? Прышлая. Дык хіба ў гаспадыні язык павернецца што благое сказаць яму?

Галя слухала старую, і сэрца поўнілася скрухаю. Ёй чамусьці хацелася, каб Станіслаў з Альбінаю сварыліся, і яна б тады мела хоць маленькае маральнае права на спадзяванак, на тое, каб хоць збоку, хоць думкамі ўмяшацца ў іх жыццё, пашкадаваць, паспагадаць Станіславу, і ад

гэтага ёй самой, можа, хоць трошкі было б лягчэй. Галя ведала, што гэтае «трошкі» бесчалавечнае, эгаістычнае жаданне, але яна не магла адбіцца ад яго. І, мусіць, для таго, каб пазбыцца гэтага жадання, яна спытала ў старой:

— Дык як жа яны хоць хлопчыка назвалі?

— Вадзімам. У нашым Варатцы дык такога і імя я не чула.

— Добрае імя,— ухваліла Галя.— Ну, дык вы ўжо ідзіце адны, цётачка, а мне трэба дадому. Бывайце!

— Дык хто ты такая, дзетка? — хацела дапытацца старая, мусіць, не зразумеўшы, чаго Галя праводзіла яе.

— Я працавала з імі разам на ферме,— адказала Галя і павярнула назад.

## Раздзел восьмы

А час ішоў няўмольна, няспынна, напорна. І ўсё сталела, старэла: і зямля, і людзі, і дрэвы, і нават тое, што ўчора нарадзілася, несла ў сабе пачатак заўтрашняй старасці.

Гэтым летам і Галя адчула, што яна ступіла на нейкі рубеж, з якога відны далёкія прасторы будучых год. Дагэтуль ёй хацелася, каб час бег хуценька-хуценька, каб як скарэй стаць дарослай, сталай, самастойнай. Гэта, мабыць, зусім натуральна, што маладосць ідзе, не азіраючыся назад, толькі наперад і наперад, да будучыні. А вось калі чалавек угледзіць, што ён пераступіў ужо нейкі парог, яму хочацца затрымацца, пабавіцца ў маладосці, нацешыцца яе бесклапотнасцю.

Праўда, у Галі не заўсёды была яснасць: сталася так, што на яе маладыя гады выпала многа крыўд і нягод. Учора прыйшоў доўгачаканы ліст ад бацькі: «Любая, родная дачка мая! Няўжо ты так угневалася на матку, што і на мяне забылася? Хоць бы ты раз паказала вочы на бацькава селішча. Мне ж і перад людзьмі сорамна, што родная дачка выраклася дамоўкі. Пад злосць ды пад гарачую руку, дык яно ўсяляк бывае. А цяпер жа яна мне адно толькі і кажа: пішы ды пішы, няхай прыязджае, няхай не няславіць мяне перад людзьмі. Хіба я ёй што благое зычу. Так што, донечка мая, прыедзь хоць на гэтае лета, хоць вочы свае пакажы мне, малым, якія цябе таксама чакаюць».

Галя чытала слёзны бацькаў ліст, і ў самой нагарнуліся слёзы. Але слёзы слязьмі, а сэрца не рвалася ў Нежыхаў. Ці то час, ці што астудзіла жаданне прайсціся па сцежках дзяцінства. Села пісаць бацьку адказ: «Любы мой, дарагі мой татачка! Я цябе люблю, люблю, і не толькі цябе аднаго, а ўсіх вас — і старых і малых. Але прыехаць не магу, і вы самі, мабыць, ведаеце чаму. На адной стыпендыі, якую мне тут даюць, не вельмі параскашуешся, а мне ж трэба не толькі пракарміцца, але і апрануцца. Я ж не магу на вас паспадзявацца. Вы ж адзін на ўсіх не выстачыце. Дык я і надумала дзе стаць на якую работу і за лета зарабіць грошай. А дома лета марна пройдзе. Так што вы, родны мой татачка, не гневайцеся на мяне. Я яшчэ раз кажу, што я вас люблю, люблю і цалую моцна-моцна. Ваша Галя».

Напісала, прачытала і сама не зусім паверыла ў шчырасць таго, што напісала. Бацьку Галя любіла, але ў думкі кожны раз убівалася мачыха, і тады бацькаў вобраз чамусьці цьмянеў, аддаляўся, і ёй рабілася шкада яго. Да меншых братоў і сясцёр Галя была амаль што зусім абыякавая.

Як толькі пачаліся канікулы, Заранка зноў пайшла на вучэбную гаспадарку, але ўжо не да Станіслава, а на аддзяленне, што было кіламетраў за пяць ад цэнтра, у паляводчую брыгаду, і там стала на работу. Працавала яна на розных работах: і на поліве, і на акучванні бульбы, і сена грэбла, і жала сярпом.

Працавала так, што брыгадзір заўсёды быў задаволены яе працаю, і, мабыць, у гэтай працы знаходзіла сабе ўцеху, знаходзіла забыццё. Пільнавалася аднаго, каб выпадкам не сустрэцца пры людзях са Станіславам. Баялася: угледзіць яго і расплачацца. Сэрца ж дзявочае не з каменю, яно ж чулае, і параніць яго не гэтак ужо цяжка. Галя і жыць перайшла на аддзяленне.

Учора брыгадзір звечара загадаў: заўтра на самым світанку пайсці на пралесную лугавіну, павярнуць рады сена, каб удзень за пагодай схапіць яго і скідаць у стагі.

— Ды глядзіце, каб усё зрабілі як мае быць. Там жа не сена, а чай, і калі яно падмокне, шкада будзе.

— Зробім, зробім,— паабяцала Галя.

— Глядзіце, вы за старшую будзеце.

І от Галя ідзе, і ці таму, што яшчэ не горача — толькі-толькі выбліснула сонца,— Галі вельмі прыемна. Дарога ідзе праўз самы лес, які поўніцца таямнічым шолахам, ад-

мысловым лясным гоманам, які толькі мо і разумее той, хто жыве ў лесе, хто сам поўніцца гэтымі гукамі. Нейкая песенька просіцца ў Галі з грудзей, і яна спявае сама сабе ціхенька. І раптам у гушчары — трэск ламачча. Галя здрыганулася і схапіла з пляча ў рукі граблі, быццам падрыхтавалася адбіць небяспеку. Трэск паўтарыўся яшчэ бліжэй, і праз момант яна ўгледзела чалавека, апяразанага патранташам, у паляўнічых ботах вышэй каленяў і з дубальтоўкай за плячом. Чалавек таксама, мабыць, тут не чакаў ніякай сустрэчы, бо кінуў з-пад нейкай няўклюднай шапкі палахлівы і насцярожаны позірк на яе. Галя пазнала ў паляўнічым Станіслава. Пазнала і яшчэ больш спалохалася. Ногі як прыраслі да зямлі.

— Галя! Добрай раніцы, зямлячка.

— Я! А гэта вы? Вы? — спалохалася Галя.

— Куды гэта ты з граблямі? — папытаў Станіслаў.

— Во туды, сена варочаць,— паказала на далекаватую лугавіну Галя.

Станіслаў падышоў зусім блізка, амаль усутыч, да Галі. Ёй хацелася рванупца да яго, але ж ногі прыраслі да зямлі, і яна не знайшла сілы адарваць іх ад дарогі.

— Дык чаго гэта вы так палюеце, нічога і не забілі?

— Сумна стала, нечага не спалася, дык от і пайшоў праходку па лесе зрабіць, рассеяцца трошкі. Трапляліся на дарозе касавокія, цецерукі, качкі, але навошта іх забіваць.

Галя ўжо ступіла крок, каб хуценька пабегчы ад гэтае сустрэчы, але Станіслаў запыніў яе:

— Куды ж ты?

— А навошта вам на мяне глядзець?

— Галечка, любая, не думай пра мяне, што я які ашуканец несусветны. Зразумей, што часам акалічнасці бываюць вышэй за пачуцці, за жаданні, што, як казаў Маякоўскі, часам трэба станавіцца на горла ўласнай песні.

— Не разумею вас,

— Зразумей. Я цябе кахаў і цяпер кахаю, але ж так сталася, што я іначай не мог! Не мог, зразумей ты мяне!

— Ідзіце, ідзіце ўжо дадому, а то сын прачнецца і хопіцца, што няма бацькі, плакаць будзе. Можа, ён у вас вельмі плаксівы?

Галя сабрала ўсю сваю рашучасць і хуценька пайшла. Ішла яна як не подбегам, крадком азіраючыся. А ён усё стаяў і стаяў, бы прырос да таго зачараванага месца. Стаяў

да тае пары, пакуль на дарозе не паказаліся жанчыны з граблямі.

Хай бы лепш не было гэтай сустрэчы. Хай бы яна, Галя, ці трошкі пазней, ці трошкі раней выйшла, і яны б размінуліся. Так на сэрцы было павесялела, а цяпер зноў камяком засеў смутак...

Лета, як і заўсёды, мінулася хутка. Зноў шум і гоман аўдыторый. Тыя гады Галя слухала лекцыі з нейкай асалодаю. Заўсёды садзілася за першыя сталы, каб не толькі чуць, але і добра бачыць лектара. Ёй здавалася, што так глыбей западае ў памяць тое, што кажа лектар. Цяпер жа яна старалася сесці як далей ад кафедры і ці чытаць што, ці думаць, а то і проста сядзець і не чуць, што гавораць.

Сёння за кафедрай стаяў дужа ж стары прафесар Андрэй Кірылавіч Гарыцвет. На гэты раз ён чытаў лекцыю пра кармленне жывёлы: пра выпасы, пра зялёныя і сакавітыя кармы. Перад тым як вымавіць першы сказ, прафесар неяк доўга мыляў губамі, быццам ён упершыню стаў за кафедру і не мог ніяк сказаць першае слова. Студэнты насцярожыліся: што сталася з прафесарам? Нарэшце ён усё-такі перасіліў часовую ніякаватасць і сказаў:

— Дарагія мае, маладыя калегі, сябры! Я ўвесь час вам гаварыў пра прапашную сістэму земляробства, якая ўдастатку забяспечвала б растучую грамадскую жывёлагадоўлю высокакаларыйнымі сакавітымі кармамі. Я не прызнаваў Вільямса з яго траваполънай сістэмай. Як паказала жыццё, гэты мой погляд быў глыбока памылковы. Ды і не толькі адзін я так глядзеў: былы мой калега прафесар Аніскавец прытрымліваўся такога погляду.

— Чаму былы? Чаму былы? — прайшоў перашэпт па аўдыторыі.

— Дык я кажу,— працягваў прафесар Гарыцвет,— што я цалкам і поўнасцю за сістэму Вільямса як за найбольш прагрэсіўную, што цалкам адпавядае сістэме калектыўнай гаспадаркі. А тыя канспекты маіх лекцый, якія вы пісалі раней, прашу вас, маладыя мае калегі, проста знішчыць.

Галя пашкадавала, што так далёка села.

— З сённяшняга дня, маладыя мае калегі, я цалкам за Вільямса. І вам гэта раю,— скончыў Гарыцвет лекцыю.

А на перапынку ўсё высветлілася: мінулай ноччу арыштавалі прафесара Аніскаўца. Па ўсёй акадэміі пера-

давалася з вуснаў у вусны: прафесар Аніскавец быў замаскіраваны шкоднік. Так і казалі: шкоднік, які шмат чым нашкодзіў сельскагаспадарчай навуцы і нават практыцы.

Увечары па пакоях інтэрната разнеслі шматтыражную газету «Чырвоны аграном». На першай старонцы яе быў надрукаваны пакаянны ліст прафесара Гарыцвета, у якім пісалася амаль тое самае, што ён гаварыў на сённяшняй лекцыі, толькі больш сурова. Былога свайго калегу Гарыцвет называў ворагам народа, шкоднікам, адшчапенцам.

А час быў трывожны. Амаль у кожным нумары газет паведамлялася пра шкодніцтва, пра раскрыццё чорных шпіёнскіх гнёздаў. Галя на ўсё гэтае як бы і не звяртала ўвагі, быццам гэта яе не датычылася, гэта было нейкае далёкае, і яно нічым яе не кранала. Толькі от арышт прафесара Аніскаўца нечым узрушыў яе маладую душу. Яна не раз слухала яго лекцыі і цяпер намагалася прыпомніць усё да драбніц, што ён гаварыў, але так і не магла пераканаць сябе, што ён сапраўды які вораг. А тым часам, хто яго ведае: кожны чалавек — гэта таямніца ў самім сабе. Можа, ён на лекцыях гаварыў адно, а рабіў і думаў зусім іншае. Можа, ён і сапраўды чым шкодзіў навуцы, людзям, краіне, бо недарма ж і Гарыцвет цяпер адмяжоўваецца і адхрышчваецца ад свайго былога калегі. Галя гатова была паверыць, што Аніскавец — сапраўдны вораг, бо органы, якія займаюцца выкрыццём, вынішчэннем розных шкоднікаў ды шпіёнаў, не могуць памыляцца. Справа ж ідзе аб лёсе чалавека! І тут памыляцца нельга.

Гаворкі пра Аніскаўца неяк самі сабою ўлегліся, і жыццё ў акадэміі пайшло па ўезджанай каляіне. З самага ранку студэнты беглі на лекцыі. Вечарамі сядзелі ў чытальнях і бібліятэках.

Мінулі ўжо верасень, кастрычнік, і час увайшоў у першую дэкаду лістапада. У акадэміі ішла падрыхтоўка да Кастрычніцкіх свят: маляваліся лозунгі, вывучаліся вершы, з якімі павінны былі выступаць удзельнікі мастацкай самадзейнасці. Заранка вучыла раздзел з паэмы Маякоўскага «Добра!». Радкі паэмы самі западалі ў памяць:

Я
  земной шар
чуть не весь
          обошел —
и жизнь
          хороша,
и жить
          хорошо...

Словы бадзёрылі, клікалі, узрушалі. Галя іх паўтарала сама сабе, запалялася імі, і так хораша станавілася на душы.

І от акурат калі Галя вымавіла словы «и жить хорошо», у чытальню як апантаны ўляцеў Косцік.

— Ты чула? Ты чытала?

— Што?

— Вось гэта!

Косцік падаў ёй нумар «Чырвонага агранома», паказаў пальцам, што чытаць. Па меры таго, як Заранка чытала, твар яе бялеў. Вусны дробненька калаціліся, усё цела дранцвела.

Кінуўшы томік Маякоўскага на стол, Галя прыпусціла бегчы з газетаю руках.

— Аддай газету! Куды ты, дурная?

Шыбанула газету і ляснула дзвярыма так, што ўсе, хто быў у чытальні, здрыгануліся.

— Што з ёю? — спытаў нехта.

— Палюбоўнічка забралі,— выскаліўся Косцік.— Наце от глядзіце! — І пусціў па руках шматтыражку.

...Галя бегла і сама не ведала, куды яе нясуць ногі. У душы, у галаве была нейкая выпусташанасць. Ачомалася тады, калі ўзялася за клямку брамкі. Сілаю хацела адчыніць яе, але брамка не паддавалася. Мабыць, замкнутая? Галя, можа, без ніякіх думак, можа, без ніякага намеру, азірнулася — нідзе нікога паблізу. Стала на лавачку, ухапілася за паркан, падцягнулася на руках і кульнулася цераз яго на той бок. Паляпала слісаком і пачула за дзвярыма нечыя крокі.

— Хто там? — пачулася з-за дзвярэй.

— Адамкніце, цётачка, гэта я.

— Хто ты?

— Памятаеце — я вас праводзіла да Варатца?

Шарганулася жалезная засаўка, і павольна пачалі адчыняцца дзверы.

— Дык хто ты? — прыслепавата ўглядаючыся ў Галю, дапытвалася старая.

— Хіба вы забыліся, як я вас праводзіла, калі вы ішлі ў Варацец? Я — Галя.

— То што табе, галубка, трэба? — запыталася старая.

— Гэта праўда, цётачка, што іх забралі?

— Праўда, мая нябога. Праўда.

Галя слухала тое, што расказвала старая, і сэрца яе поўнілася гневам, хоць яна і сама не ведала на каго. На

тых, што прыходзілі па Станіслава з Альбінаю, яна гневацца не магла. Вѐдала — іх служба такая: загадалі — ідзі выконвай. Дык на каго ж гневацца? Заранка была перакanana, што Станіслаў ні ў чым не вінаваты. Такі чалавек нават нічога благога падумаць не мог, не тое што зрабіць. Менш ведала яна Альбіну, але верыла — калі б яна была якая благая, калі б у яе была чорная душа, Станіслаў бы ніколі не сышоўся з ёю. Няхай Альбіна многа болю прынесла ёй, няхай параніла яе маладое сэрца, усё роўна Галя не таіла на яе ніякай злосці, асабліва цяпер, калі так сталася.

Галя стаяла ў нерашучасці пасярод хаты і не ведала, што ёй рабіць. Падышла да калыскі, зірнула на хлопчыка, які моцна спаў, і пераканалася, што ён — выліты Станіслаў. Гэтакія ж правільныя рысы трошкі прадаўгаватага тварыка і, галоўнае, кучаркі. Яны такія ж, як у Станіслава, толькі трошкі святлейшыя. Падрасце — пацямнеюць. Мусіць, ад таго, што Галя доўга ўглядалася ў хлопчыкаў тварык, дзіця заварушылася, замармытала і ў сне заўсміхалася. Адышлася ад каляскі, мусіць, баючыся, каб не пабудзіць дзіця. Агледзелася на хату, неяк парывіста нагнулася і давай збіраць з падлогі кніжкі, паперы, усё, што было параскідана ў час вобыску і арышту.

— Цётка Праксэда, давайце хоць збольшага прыбяром.

— Давай, дзетка. То ж рукі мае не падымаліся пасля той калатні.

Праксэда нагнулася і давай прыбіраць параскіданае. Прынесла венік і ўзялася падмятаць хату.

— А ці ёсць у вас чым карміць дзіця? — завіхаючыся, папыталася Галя.

— Малачко ёсць яшчэ. З фермы даюць. Вось гэтак і гадую. Сама не ведаю, што маёй беднай галоўцы рабіць з гэтым дзіцем. Не кінеш жа.

Галя на момант адарвалася ад работы, задумалася. Зірнула на хлопчыка, і ёй стала шкада-шкада яго, як саму сябе. Хлопчык закатурхаўся і падаў голас. Кінулася да калыскі. Узяла дзіця на рукі.

— Цётка, дайце ў што сухое загарнуць яго.

Дзіця, мусіць, адчула маладыя ласкавыя рукі, закруціла галоўкаю і пачало шукаць грудзей.

— Соска ёсць? — запытала Заранка.

— Ёсць, ёсць, мая дзетка.

Галя накарміла хлопчыка, загарнула ў сухое, хуценька раскінула на ложку пасцель, распранулася і легла,

паклаўшы Вадзімку пры боку. Ён тыцкаўся цёплым тварыкам у грудзі, і ад гэтага ёй станавілася невыказна прыемна, хораша. Здалося, што гэты хлопчык не чужое дзіця, а яе, што яна яго вынасіла і выпеставала пад сваім сэрцам. І дзіця, мабыць, адчула ласку — яно патыцкалася, патыцкалася тварыкам у цвёрдыя Галіны грудзі і заснула.

Адно нічога не разумела цётка Праксэда. Яна стаяла і здзіўленымі вачыма глядзела на Галю: ці яна якая несамавітая, ці што? Але было ўжо нярана, і Праксэда паслалася на ляжанцы, легла спаць.

Прачнулася Галя рана, і не сама — яе пабудзіў Вадзімка. Зноў ён пачаў тыцкацца тварыкам у грудзі, мармытаць і кугакаць. Хуценька перапелянала хлопчыка, дала яму соску, а сама пачала апранацца.

Прачнулася і Праксэда. Яе ўсё яшчэ брала дзіва.

— Дык што будзем рабіць з дзіцяткам? — папытала яна.

— Будзем гадаваць,— адказала Галя.

## Раздзел дзевяты

Тыдні два студэнтка Галіна Заранка не паказвала вачэй у акадэміі. Дзяўчаты, якія жылі з ёю ў інтэрнацкім пакоі, падняла трывогу: прапала студэнтка. Дэкан факультэта выклікаў каменданта: дзе Заранка? Той не мог нічога адказаць. Ён, мабыць, і не думаў, што ў яго абавязкі ўваходзіць глядзець за студэнтамі як за малымі і ледзь не вадзіць іх за ручку. А Галя тым часам думала і перадумвала, як не расколвалася галава: што ёй рабіць? Пакінуць дзіця на гэтую бездапаможную старую яна не магла. За дні, якія Галя пражыла тут, Вадзімка гэтак прыпаў ёй да сэрца, што, здаецца, і адарваць нельга было. Насіла яго на руках, галубіла, забаўляла, купала ў начоўках, і сэрца яе млела ад асалоды, калі хлопчык усміхаўся. Яна сама ўсміхалася і цалавала, цалавала яго. Але ж трэба было думаць, як далей быць: пакуль яны праядаюць тыя грошы, што трошкі асталося ад бацькоў, ды тыя, што яна зарабіла за лета і на якія мелася справіць сабе шарсцяную сукенку ды агораць якое паліто,— тое, у якім прыехала вучыцца, ужо данашвалася. І яе грошы пайшлі ўжо ў ход. Ды і з вучобай трэ было нешта думаць. Яна ж цяпер не можа хадзіць на лекцыі. Наважыла і села пісаць

заяву на імя дэкана, каб дазволіў у сувязі з сямейнымі акалічнасцямі на год акадэмічны водпуск. А чаму на год? — падумала. А праз год што? Вадзіку будзе два годзікі. І што з таго? Ён жа не пойдзе на свой хлеб. Вядома, з такім хлопчыкам і старая магла ўправіцца, але ж трэба сродкі на пражытак. Калі яна стане цяпер на работу, дык за зіму і за лета сёе-тое заробіць. Але Галі не хацелася далёка зазіраць уперад: ёй важна было асвойтацца з тым становішчам, у якім яна апынулася цяпер, а потым будзе час, будзе і рада.

Акурат як Галя скончыла пісаць заяву, у дзверы нехта паляпаў.

— Хто там? — папытала цётка Праксэда, якая цяпер баялася кожнага груку ў дзверы.

— Гэта мы! Свае! Адчыніце, цётачка,— пачулася з-за дзвярэй.

— Усе свае дома.

— Мы Галіны сяброўкі.

Заранка пачула знаёмыя галасы дзяўчат, выйшла ў сенцы і сама шмарганула засаўкай.

— Мы так і ведалі, што ты тут,— наперабой загаварылі дзяўчаты.— А цябе там па ўсёй акадэміі шукаюць.

— Навошта я каму? — здзівілася Галя.

— Стрыжанок шукае.

— Што яму трэба ад мяне?

— А ты хіба не ведаеш? Ён жа цяпер сакратар камсамольскага камітэта. На тым тыдні выбралі яго.

Дзяўчаты паглядзелі Вадзімку: пацмокалі языкамі, пазабаўлялі хлопчыка. Ён ім паўсміхаўся, і яны заспяшаліся з хаты.

— Дык ты ж, Галя, прыйдзі а сёмай гадзіне на камітэт,— як не загадалі яны напаследак.

— Прыйду, прыйду, няхай душа не баліць у таго вашага Стрыжанка.

— Які ён наш? Ён жа твой зямляк,— сказалі дзяўчаты і пайшлі.

Галя сама не магла зразумець, чаму з імі так холадна абышлася, чаму ў яе не знайшлося таго дзявочага, што зближае і нават родніць дзяўчат-сябровак? На момант яна зазлавала на самую сябе, на свой нялюдскі характар. А навошта ёй усё гэта? Навошта! навошта! — здавалася, крычала яе сэрца. Яна кінулася да калыскі, і сэрца ўціхамірылася. Узяўшы на рукі хлопчыка,яна галубіла, лашчыла яго, прыгаворваючы:

— Не плач, дзіцятка, не плач! Не плач, мой сынок,— нечакана вырвалася ў яе. Палагаднела, падабрэла на душы. Галі чамусьці вельмі балюча было чуць Вадзімкаў плач, хоць хлопчык плакаў без слёз, без крыўды ні на кога; плакаў, як плачуць усе малыя, бо яны не могуць не плакаць.

Надвячоркам другога дня Заранка доўга і дбайна апраналася, стаяла перад люстэркам, углядалася ў самую сябе. Ёй здалося, што яна схуднела за гэты час — неяк увалілiся вочы, змізарнеў твар, ссутулілася постаць. Можа, гэта ад таго, што на ёй старая суконка? Старое і маладых старыць. У вочы кінулася шафа, якая стаяла пры сцяне, непадалёк ад дзвярэй. Колькі яна тут жыве, ні разу не адчыняла гэтай шафы. Узяла проста цікавасць: што там у ёй ёсць? Адчыніла і ўгледзела навешаныя на плечыкі Альбініны сукенкі, сярод іх цёмна-блакітная, акурат такая, якую ёй хацелася займець. Зазірнула ў пярэдні пакой. Цёткі Праксэды дома не было. Галя хуценька зняла з вешалкі сукенку і памерала на сябе. Зірнула ў люстэрка і ўгледзела, як памаладзела. Колер сукенкі вельмі ж пасаваў да смугласці Галінага твару. Пашыта сукенка была неяк не па-тутэйшаму: з такім дэкальтэ, якое Галя бачыла толькі ў кіно. Прайшлася сюд-туд па пакоі. Раптам рукі самі, як бы ім хто загадаў, схапіліся за падол і пачалі сцягваць адзежыну. Да розуму толькі пасля дайшло: а што калі хто ўгледзіць яе ў гэтай Альбінінай сукенцы, немаведама што падумае пра яе; падумае, што яна пакваплася на чужое дабро, што яна рада чужому гору. Хуценька зачыніла шафу і аж двойчы павярнула ключ, які тырчаў у дзвярах. Цётка Праксэда прынесла бярэмя сухіх дроў і грымнула іх на падлогу ля грубкі.

— Трэба прапаліць, халаднавата ўжо ўночы.

— Прапаліце, цётачка, а мне трэба ісці,— заспяшалася Галя, складаючы ўчацвёра той лісток-заяву, якую напісала на імя дэкана.— Вы ж тут хлопчыка глядзіце, каб ён не сплакаўся,— папрасіла Галя.

— Пагляджу, хіба мне ўпершыньку. Не сплачацца, не бойся,— сказала Праксэда і гэтак зірнула на Галю, што ў яе позірку можна было прачытаць і здзіўленне яе паводзінамі, і недаўменне, і шкадаванне, быццам цётка Праксэда казала: «Навошта табе, галубка, гэты клопат? Навошта ты сябе марнуеш, зводзіш дзеля чужога дзіцяці?»

Пасяджэнні камсамольскага камітэта звычайна праводзіліся ў шостай аўдыторыі, якая па калідоры была самая

канцавая. Галя ўгледзела аб'яву, што сёння а сёмай гадзіне адбудзецца адкрытае пасяджэнне камсамольскага камітэта. На парадку дня: пытанне аб класавай пільнасці камсамольцаў і персанальная справа камсамолкі Галіны Заранкі. Аж пахаладзела ўсярэдзіне, як прачытала. Пайшла ў канец калідора, але ўжо не рашучым шырокім крокам, а вузенькім, віхлястым, быццам яе хто стрыножыў, быццам яна ішла не па калідоры, а па коўзкім лёдзе, баялася паслізнуцца і ўпасці.

У аўдыторыі было поўна людзей. За сталамі, пастаўленымі пад вокнамі і засланымі чырвоным сукном, сядзелі члены камітэта. На самым канцы стала Галя ўгледзела сакратара партыйнай арганізацыі іхняга факультэта дацэнта Галамызу. Як толькі Заранка зайшла ў аўдыторыю, усе, як па камандзе, азірнуліся на яе. У адных позірках яна прачытала спагаду, у другіх здзіўленне, а ў некаторых і пагарду. Хуценька прабегла ў самы кут і там прынішкла. Пачуўся голас Косціка:

— Таварышы, думаю, што мы пачнём пасяджэнне нашага камітэта. Па першаму пытанню слова мае таварыш Галамыза.

Галамыза неяк павольна, як бы яму было вельмі цяжка падымацца, устаў з крэсла і гэтак жа марудна пайшоў да прафесарскай кафедры. Гаварыў ён пра капіталістычнае акружэнне, пра актывізацыю варожых элементаў, цытаваў словы Сталіна пра тое, што па меры нашага руху наперад класавая барацьба ні ў якім разе не будзе затухаць; наадварот, капіталістычныя элементы, прадчуваючы сваю пагібель, будуць актывізавацца, каб як мага больш нам нашкодзіць, затармазіць, затрымаць наша пераможнае шэсце ў будучыню, і што гэта пацвярджаецца жыццём, практыкай. Дакладчык называў прозвішчы, імёны тых, каго ўжо арыштавалі. Сярод іх былі названы былы прафесар Аніскавец, Станіслаў Гарадзюк і яго жонка Альбіна. Дакладчык гаварыў, што Гарадзюкоў быццам заслала сюды польская разведка як шпіёнаў і правакатараў, што яны цалкам прызналіся ў сваёй шпіёнскай дзейнасці і, безумоўна, атрымаюць па заслугах.

Потым Галамыза пачаў гаварыць пра неабходнасць павышэння рэвалюцыйнай пільнасці, пра вынішчэнне палітычнага разявацтва, непатрэбнай у наш час даверлівасці, і тут ён пашукаў вачыма Галю. Знайшоў, утаропіўся на яе і з момант маўчаў, быццам думаў — гаварыць пра яе ці не.

— А от наша камсамолка і добрая студэнтка, і па сацыяльнаму паходжанню наш чалавек...— цягнуў, не называючы прозвішча, Галамыза,— я маю на ўвазе Галіну Заранку... трапіла ў варожае павуцінне і, як тая муха, б'ецца ў ім і, галоўнае, вырывацца з яго не хоча.

Галамыза гаварыў і гаварыў. Галя ўнурыла галаву ў настаўлены каўнер, патупіла вочы, як бы яна не хацела глядзець на кафедру, быццам усё гэтае гаварылася і не пра яе. Адчувала толькі на сабе людскія позіркі і чамусьці баялася іх.

— Пільнасць! І яшчэ раз рэвалюцыйная пільнасць і ніякай спагады, ніякай літасці ворагам народа! — скончыў заклікам свой даклад Галамыза.

Потым Стрыжанок дапытваўся, у каго ёсць якія запытанні да дакладчыка. Пытанняў не было. Пачулася толькі не сказанае, а цяжка выдыхнутае трохі прыглушанымі галасамі:

— Усё ясна! Усё зразумела!

— Дык мо хто ў спрэчках хоча выказацца? — імкнуўся разварушыць актыўнасць Косцік Стрыжанок.

— Што тут выказвацца, калі ўжо ўсё сказана,— пачуўся ў адказ мужчынскі голас.

— Ну, калі не будзе ні пытанняў, ні выказванняў, дазвольце перайсці да другога пытання парадку дня — да персанальнай справы камсамолкі Галіны Заранкі. Я коратка вас праінфармую пра сутнасць справы.

Стрыжанок гаварыў не коратка і не інфармаваў, а быццам распінаў Галю на крыжы. Расказваў пра ўсё: пра яе фанабэрыстасць, пра адрыў ад камсамольскай масы, пра пасіўнасць у камсамольскай рабоце, пра тое, што яна заўсёды адмаўляецца ад грамадскіх і камсамольскіх нагрузак.

— І, галоўнае,— цягнуў Стрыжанок,— Галіна Заранка страціла рэвалюцыйную класавую пільнасць. А такіх, як яна, толькі і шукае розная варожая нечысць. І яе знайшоў і прыбраў да рук хіжы і каварны шпіён Станіслаў Гарадзюк. Ну, часам здараецца з чалавекам, што ён як сослепу не туды падасца. Але ж потым ён агледзіцца і вернецца назад. А Заранка і не збіраецца варочацца...

Галя слухала Стрыжанка, і сэрца яе як не аблівалася крывёю, нянавісць ірвалася з грудзей, але Галя, высільваючыся, каб не закрычаць, маўчала, глытала горкія і гарачыя камякі слёз, баючыся, каб яны не набеглі на вочы і не паказалі, не выявілі яе слабасці. А Стрыжанок тым часам цягнуў:

— Я Галіну Заранку ведаю даўно і хацеў падаць ёй руку, каб выцягнуць з багны, у якой яна сядзіць па вушы. Дык дзе там, ні блізка. Як вы думаеце, таварышы, можам мы цярпець у сваіх радах такога чалавека? Я думаю, што гнілому лібералізму тут няма і не павінна быць месца. Прашу камсамольцаў выказацца. Хто, таварышы, хоча слова?

Гаварыць ніхто не хацеў, і колькі Стрыжанок ні дапытваўся, ні дапрошваўся, усе маўчалі. Пачуўся голас:

— Дык няхай яна хоць сама скажа, як дайшла да такога жыцця.

Стрыжанок нібы толькі гэтага і чакаў.

— Ёсць, таварышы, прапанова выслухаць Заранку.

— Давай, няхай раскажа!

Быццам хто балюча выцяў па галаве Галю, калі яна пачула:

— Слова мае Галіна Заранка.

Галя ўстала. Хацела нешта сказаць, але язык быццам не хацеў яе слухацца, і яна не магла яго павярнуць. З момант стаяла моўчкі. Усе позіркі былі скіраваны ў той бок, дзе яна стаяла. Здавалася, што ўсе казалі: не маўчы, скажы. А яна ўсё не магла вымавіць хоць адно слова. Нарэшце нехта крыкнуў:

— Няхай выйдзе на кафедру! Чаго яна там схавалася?

— Ідзіце, таварыш Заранка, сюды,— як не загадаў Косцік.

І ці тое, што Галя прайшлася з кутка да самай кафедры, ці што іншае вярнула ёй мужнасць і рашучасць. Узышла на кафедру, узлакацілася, нібы збіралася гаварыць гнеўную прамову, пашукала вачыма сваіх аднакурснікаў і вымавіла так, што і сама не пачула сваіх слоў. Але ў зале іх пачулі:

— Я, таварышы, не збіраюся апраўдвацца тут перад вамі, бо мне няма ў чым апраўдвацца і каяцца. Мяне ўсе тут ведаюць, а некаторыя ведаюць і маіх бацькоў і маё вясковае жыццё,— Галя зірнула на Стрыжанка.— Я скажу пра яго.

— Пра каго? — насцярожыўся Стрыжанок, мабыць, думаючы, што Заранка хоча нешта непрыстойнае сказаць пра яго.

— Пра яго. Пра Станіслава Гарадзюка. Я ведаю гэтага чалавека. Яго сумленне чыстае, як у дзіцяці. І што б там благое на яго ці пра яго ні гаварылі, я ніводнаму слову

не дам веры. Ніякі ён не шпіён! Ён ім не можа быць. Ён — барацьбіт за шчасце народнае, ён рэвалюцыянер.

— Рэвалюцыянераў туды не бяруць, куды яго ўзялі,— уставіў Галамыза.

— Я не ведаю, завошта і навошта яго туды ўзялі. Можа, і там памыліліся.

— Там не памыляюцца,— даў гнеўны адпор Стрыжанок.— Вы, грамадзянка, памыляецеся. На вашых вачах бяльмо класавай слепаты. А яна хто?

— Хто яна? — перапытала Галя.

— Пра яе нічога не скажу. Я яе менш ведаю, а за тое, што ён не вораг, ручаюся галавою, сэрцам, усёй сабою.

— Ёсць, таварышы, прапанова больш не выслухоўваць чалавека, які бярэ пад абарону чортведама каго, замест таго, каб прызнаць свае памылкі, пакаяцца,— вёў пасяджэнне Стрыжанок.— Вельмі шкада, што былая камсамолка гэтак аслепла, што не можа адрозніць, дзе чорнае, а дзе белае. Ёсць прапанова выключыць Галіну Заранку з радоў камсамола. Хто за гэта, прашу падняць рукі. Галасуюць члены камітэта,— удакладніў Стрыжанок.— Аднагалосна,— з задавальненнем канстатаваў ён.— А цяпер прагаласуюць усе камсамольцы, якія прысутнічаюць тут... Таксама аднагалосна,— адзначыў Стрыжанок, хоць і не падлічваў, не правяраў, ці ўсе галасавалі.

— А цяпер, таварышы, я хачу сфармуляваць дадатак да пастановы камітэта,— падскочыў Галамыза.

— Які?

— Мне здаецца, мы не можам быць абыякавымі да таго, хто выхоўваецца ў сценах акадэміі. Будучы спецыяліст, які не бачыць, дзе варожае, а дзе сваё,— не наш спецыяліст. Таму прапаную запісаць: «Прасіць дырэкцыю разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці далейшай вучобы грамадзянкі Галіны Заранкі».

— Хто за гэта, прашу галасаваць. Галасуюць толькі члены камітэта,— зноў удакладніў Стрыжанок.— Аднагалосна! Дазвольце на гэтым наша пасяджэнне камітэта камсамола лічыць закрытым. Пытанні ўсе вычарпаны.

Зашоргалі крэслы, затупацелі ногі, загаманілі людзі. Адно Галя як стаяла за кафедрай у часе выступлення, гэтак і не скранулася з месца. На яе быццам забыліся, быццам яна перастала існаваць на гэтым свеце. Тое, што тут адбылося, ёй здавалася нейкім пачварным і страшэнным сном. Ужо ўсталі з-за стала члены камітэта. Яны, як па камандзе, кідалі позіркі на яе. А яна стаяла як нежывая.

Больш за ўсіх затрымаў на ёй свае вочы Косцік. Мусіць, ён хацеў нешта сказаць да яе, але слоў яна не пачула. І толькі тады, калі ўжо з аўдыторыі пачалі выходзіць апошнія людзі, Галя сагнала з сябе здранцвенне, дастала з кішэні тую заяву, якую пісала на імя дэкана, пашматала яе на кавалачкі і сыпанула на падлогу. Потым бегма кінулася з аўдыторыі, быццам ёй хто нараіў: хутчэй, хутчэй на вольнае паветра, набяры яго поўныя грудзі — і табе лягчэй стане.

А на дварэ, як і на сэрцы, была халодная асенняя імжака. Галя выбегла з корпуса і ў нерашучасці спынілася: куды ёй цяпер ісці, што ёй цяпер рабіць? Вечар быў цёмны-цёмны. Усюды было ціха-ціха. Толькі здалёк чуліся галасы тых, хто нядаўна выйшаў з аўдыторыі. Галя надумала не ісці сёння начаваць туды, ў дамок. Ёй не хацелася сваім горам рабіць непрыемнасць старой Праксэдзе, дзіцяці, хоць тое яшчэ нічога і не разумела ў такіх людскіх справах. Пайшла ў інтэрнат: дзяўчаты ўсё ведаюць, і калі яна не ўтрымаецца — расплачацца, дык іх не здзівіць.

Раптам нехта падышоў да яе.

— Гэта ты, Галя? — пазнала яна Косцікаў голас.— Дурная ты, дурная, навошта табе было яго абараняць.

— Каго?

— Ды шпіёна таго.

— Які ён шпіён?

— Я ж кажу, дурная ты. Розуму няма ў цябе ў галаве,— сказаў Косцік.— Каб ты ведала, як мне цябе шкада было.

— Як ваўку тае авечкі, каторую ён рэжа.

— А ты за шпіёнаў ды за іх байструка,— не звярнуўшы ўвагі на Галіны словы, працягваў Стрыжанок,— гатова сама сябе жыцця рашыць. Што ж ты цяпер рабіць будзеш?

— Да цябе не пайду хлеба прасіць,— рэзка адказала Галя.

— Галя! — спрабаваў улагодзіць дзяўчыну Косцік.

— Ідзі прэч! — гнеўна крыкнула Галя і сама пайшла.

— Пачакай, ты мяне яшчэ папомніш,— як не крычаў услед Галі Стрыжанок. Але яна мо і не чула — была далёка ўжо.

Дзяўчаты сустрэлі Галю спагаданнем:

— Ну, што?

— Вы ж самі ўсё чулі, ведаеце,— адказала яна. Хуценька распранулася — і ў пасцель. Легла ніц на падуш-

ку, і дзяўчатам відно было, як уздрыгвалі Галіны вастраватыя плечы. Дзяўчаты чулі, што яна плача. Але яны не чапалі яе, нічога не пыталі, не раілі. Мусіць, думалі: няхай дзяўчына выплачацца. Калі чалавек выплачацца, яму заўсёды лягчэй становіцца. Галя хліпала ў падушку як не праз усю ноч. Спалі ці не спалі дзяўчаты, яна не ведала — ва ўсякім разе, яны ціха ляжалі, і Галя была ўдзячна ім за гэта.

На раніцу, калі трэ было ісці на лекцыі, Заранка зладавала ў чамадан, у клунак усё сваё, што было ў інтэрнаце, і пачала развітвацца з дзяўчатамі.

— Дык куды ты? — дапытваліся яны.— А на лекцыі?

— Хіба вы не чулі? Навошта мне цяпер лекцыі,— з болем казала яна.

— А можа, яшчэ і не выключаць з акадэміі?

— Выключаць. Дзяўчаткі мае, дзівачкі, хіба вы не разумееце!

Дзяўчаты падсабілі Галі ўзяць на плечы клунак, паднеслі трохі чамадан. Яны бачылі, як ёй цяжка было несці не так гэты чамадан з клункам, як сваё гора.

Цётка Праксэда, угледзеўшы Галю, таксама здзівілася:

— Што гэта ты нясеш, галубка?

— Усё сваё нясу, жыць сюды назаўсёды. З вамі, з Вадзімкам.

— А як жа вучыцца?

— А вучыцца буду пасля, як ён падрасце.

— Калі-то ён падрасце. Ты б, дзетка, не калечыла сваёй жыткі. Мо б мы яго куды і аддалі. Кажуць жа, ёсць такія дамы, куды дзяцей бяруць. Я ўжо распытвала.

— Не, не, цётачка. Я яго нікуды і нікому не аддам. А жыццё маё ўжо і так скалечылі,— са слязьмі на вачах сказала Галя.

Яна распакавала чамадан, сяк-так упарадкавала ўвесь свой набытак. Завіхалася яна ўжо тут не як прышлая госця, а як гаспадыня. Прачнуўся Вадзімка і, угледзеўшы Галю, усміхнуўся ёй, а потым заплакаў: мусіць, хлопчыку захацелася на рукі. Галя ўзяла яго і захадзіла па пакоі.

## Раздзел дзесяты

Зіма выдалася лютая: ужо ў канцы лістапада ўдарылі маразы і наваліла снегу па самыя вокны. Галіна галава як не разломвалася ад клопату: канчаліся тыя дровы,

якія назапасіў яшчэ Станіслаў. Колькі разоў хадзіла ўжо да новага дырэктара вучэбнай гаспадаркі, у той самы кабінет, у якім тады ўпершыню ўгледзела Станіслава. Як толькі пераступала парог, бачыла той стол, за якім ён тады сядзеў у крэсле з падлакотнікамі, і сэрца яе ахоплівала роспач. А новы дырэктар зыркаў на яе спадылба і казаў:

— Бачыце, грамадзяначка, у нас цяпер зімой ніякай чыстай работы для вас няма.

— Мне абы-якая, абы работа.

— Навошта гэта вам так. Вы ж тут працавалі за ўчотчыцу, я ведаю.

— Працавала.

— А цяпер, у дадзены момант, такой работы нямашака. А на чорную на якую вы не пойдзеце.

— Я ж кажу — пайду абы на якую,— узрадавалася Галя промню надзеі, што работа будзе.— Я магу і за даярку стаць, я ўсё ўмею рабіць.

— Дык, ведаеце, у нас і такой работы няма. Пачакайце да вясны, мо тады, як пацеляцца каровы, і будзе што.

Па тону размовы, па ўсім Галя адчула няшчырасць гэтага чалавека, нават нейкі здзек з яе гора, і выбегла з кабінета.

Даўно не была ўжо Заранка на акадэмічным двары. Здаецца, ён у нечым нават іншакшы стаў. Карпусы быццам пасуровелі, пастарэлі, і вокны ў іх, здаецца, паменшалі, пацямнелі. Яна ведала, дзе размяшчаецца кіраўніцтва акадэміі, і ішла да дзвярэй намесніка дырэктара па гаспадарчай частцы. Галі не хацелася ні з кім сустракацца, і таму яна выбрала час, калі ішлі лекцыі.

Намеснік дырэктара акадэміі сустрэў Галю больш ветліва, чым дырэктар гаспадаркі.

— Сядайце, сядайце,— запрасіў ён.

— Дзякую,— адказала яна і асталася стаяць.

— Сядайце ж,— запрасіў ён больш настойліва.— Я вас слухаю: па якой прычыне да мяне? — спытаў ён, калі Заранка ўжо села пры стале.

— У мяне цяпер клопат адзін,— абазвалася Галя і ўсё-ўсё расказала, як на споведзі. І хоць тое, што яна расказвала, намеснік дырэктара ведаў, але ж слухаў яе, не перапыняючы, ці з-за далікатнасці, ці мо і сапраўды ён спагадаў яе гору.

Выслухаўшы, ён узяўся за тэлефонную трубку, а яе папрасіў выйсці на хвіліначку за дзверы. Галя выйшла.

Яна баялася аднаго: каб хто з студэнтаў, былых аднакурснікаў, не стрэўся ёй. Гэтак стаяла яна не хвілiначку, а добрых хвілін з дзесяць, пакуль не адчыніліся дзверы і не пачулася:

— Прашу.

Зноў ветлівае запрашэнне:

— Сядайце, таварыш Заранка. Здаецца, ваша прозвішча так?

— Не забыліся,— адказала Галя і хацела падзякаваць чалавеку за тое, што хоць ён не забыўся яе.

— Дык вось, таварыш Заранка, работу мы вам дадзім. Дзе вы хочаце працаваць?

— Мне ўсё роўна дзе: магу на ферме даяркаю ці цялятніцаю. Дзе толькі можна, абы працаваць.

Намеснік дырэктара акінуў вачыма свой кабінет, быццам хацеў пераканацца, што ў ім няма нікога пабочнага, і напаўшэптам запытаў:

— А скажыце, як там дзіцятка Гарадзюковых?

— Харошы хлопчык,— павесялела Галя, аж заўсміхалася.— Увесь у Станіслава. Дужанькі, здаровенькі. Ды от гадаваць яго няма чым, дык трэба зарабляць неяк.

— Дык гэта вы дзеля яго і на работу хочаце стаць?

— Для яго і для сябе — для ўсіх.

— Кажаце, няма зусім грошай? — запытаў намеснік дырэктара і яшчэ раз акінуў вачыма кабінет. Адвярнуўся, паглядзеў нават на акно, ці ніхто там не стаіць пад ім. Потым палез рукою ў патайную кішэню пінжака, дастаў чорны блішчасты партманет, выняў адтуль тры ружовенькія паперкі, кінуў вачыма яшчэ раз ва ўсе куткі і працягнуў да Галі руку.

— Вазьміце гэта, таварыш Заранка.

— Ой, што вы! — як не замахала рукамі Галя.— У мяне яшчэ ёсць трошкі грошай. Хопіць, пакуль зараблю.

— Вазьміце, вазьміце, кажу вам,— наступаў на Галю намеснік.— Пакуль вы заробіце, ды і колькі вы іх там заробіце. А калі праўду вам сказаць, дык я перад самым арыштам пазычаў у Станіслава. Цяпер жа я не магу яму аддаць, дык от вам для яго хлопчыка аддаю.

Галя ўзяла грошы. Яны здаліся ёй гарачымі. Не саромеючыся старога чалавека, сунула іх за пазуху: каб, не давядзі бог, не згубіліся.

— Дзякую, дзякую вам!

— Завошта ж вы мне дзякуеце. Гэта я яму павінен быў падзякаваць, што ён тады мяне выручыў. Але ж яго

4*

няма, дык [illegible] вам дзякую за ўсё. Пацалуйце ягонага сынка і за мяне.

Галя на момант мо забылася, чаго яна і прыйшла сюды,— заспяшала развітвацца. Намеснік ёй нагадаў:

— Чакайце, чакайце, я ж паперку напішу: няхай ён возьме вас учотчыцай ці ў крайнім выпадку — даяркай.

— А я ўжо і забылася пра гэтую паперку,— апамяталася Галя.

З кабінета яна не выйшла — вылецела. Быў акурат перапынак, і яна ў калідоры ледзь не збівала з ног студэнтаў. Ужо чамусьці не баялася сустрэчы з кім-небудзь са знаёмых. Ёй здалося, што ўсе людзі пахарашэлі, падабрэлі. Само яе сэрца як не спявала, і не таму, што за пазухай ляжалі тры паперкі, а ў кішэні — пісулька да дырэктара гаспадаркі. Сэрца яе як не спявала таму, што ёсць яшчэ на свеце добрыя людзі.

Добрых людзей, вядома, на свеце многа. Мабыць, усе людзі толькі і паяўляюцца на гэты белы свет для таго, каб быць добрымі. Вось толькі невядома, для чаго паявіўся на гэты свет дырэктар вучэбнай гаспадаркі Дармідонт Якімавіч Сівалоб. Калі Галя падала яму запіску, ён пашкроб патыліцу і папрасіў Заранку выйсці за дзверы.

Галя выйшла, не вельмі шчыльна прычыніўшы дзверы. Ёй чутно было, што гаварыў па тэлефоне Сівалоб.

— А ці не будзе тут, Антон Пятровіч, аддаваць душком гнілога лібералізму? — пытаў ён.

Потым слухаў трубку. Да Галі зноў даляцелі словы:

— Дык, кажаце, вы званілі, куды трэба? Ну, калі званілі, то я здаюся на вашу і на іх адказнасць.

Галя здагадалася, што Сівалоб званіў намесніку дырэктара акадэміі.

— То я вазьму яе за даярку,— здаўся дырэктар гаспадаркі.— Больш ніякага месца ў мяне няма.

Работы Галя не баялася ніякай.

Кожны дзень Заранка бегла на работу, калі яшчэ і сонца не выплывала з-за небасхілу. Там, на ферме, старых даярак, тых, каторыя працавалі тады, як яна была тут учотчыцай, асталося вельмі мала — дзве-тры, і яе сустрэлі тут як навенькую, і ці мала што гаварылі. Некаторыя, асабліва старэйшыя жанчыны, спагадалі ёй.

Галя ні на што не звяртала ўвагі, быццам нічога і не чула і не бачыла, апроч тых кароў, якіх ёй трэ было даіць. Яна амаль першая прыбягала ў абору, глядзела, ці чыста ў станках, ці накормлена і напоена скаціна. Кароў

ёй далі не дужа шчодрых на малако: пяць першацёлак і шэсць старых немаведама якой пароды, якога заводу. Сярод старых кароў была Ясачка. Быццам чорт у ёй сядзеў. Былі дні, што як запатурыцца, дык можа і зусім не падпусціць даярку, а калі і падпусціць, то нічога не дасць. Тыдні два мучылася з ёю Галя: разы тры Ясачка брыкала і разлівала ўсё малако, а аднойчы ледзь на рогі не падняла яе.

Ясачка любіла піць разварануго макуху. Галя недзе дапала два кругі льняной макухі. Звечара паставіла яе ў печ. За ноч макуха распарылася, і на раніцу Галя прынесла паўвядзерца пойла і паставіла яго пад мысу Ясачцы. Тая піла, а Галя яе гладзіла па шыі, потым садзілася даіць. І ці то ад смачнага пойла-ласунку, ці ад даярчынай ласкі карова падабрэла. Яна ўжо не брыкалася, а паварочвала галаву і ласкава глядзела мутнымі вачыма на Галю. І малака Ясачка пачала даваць столькі, колькі не давала ніводная карова. Неўзабаве карова стала рэкардысткай.

Цікава было і з першацёлкай Бурай. Гэтая самая першацёлка, калі ад яе забралі цялё, не падпускала і блізка даярку. Галя баялася, што карова зусім запусціцца. Тады яна пайшла на хітрасць: ішла ў цялятнік, навязвала на шворачку рыжага, ладнага ўжо бычка і вяла ў абору, ставіла пад мысу Буры. Тая лізала, песціла цяля і дабрэла. Гэтак з цягам часу Галя знайшла спосаб для кожнай са сваіх кароў. На дошчачцы, што вісела пры ўваходзе ў абору і на якую запісвалі штодзённыя надоі, супроць Галінага прозвішча запісвалі самыя большыя лічбы.

Не так даўно ферму наведаў супрацоўнік шматтыражнай газеты «Чырвоны аграном». Ён гутарыў з даяркамі, запісваў лічбы, прыглядаўся да іх работы і меўся пісаць пра Заранку. Аднак перад тым як сесці за стол пісаць, ён зайшоў да дырэктара гаспадаркі параіцца. Сівалоб як пачуў, што журналіст збіраецца пісаць пра Заранку, дык ледзь не самлеў.

— Што вы! Што вы! — замахаў ён рукамі.— Хіба вы не ведаеце, што гэта за цаца. Яе ж з камсамола, з акадэміі выключылі за прытупленне пільнасці, за патуранне ворагам народа, а вы яе — на шчыт славы!

— Я ўсё гэта ведаю, але лічбы — упартая рэч, таварыш дырэктар, і яны сведчаць, што даярка Галіна Заранка дабілася рэкордных у нашых умовах надояў,— пераконваў журналіст.

— Даруйце, таварыш газетчык, але вы галаву маеце на плячах ці не маеце? — запытаў Сівалоб.— Калі маеце, дык навошта вам яе падстаўляць пад удар.

Супрацоўнік газеты пашкроб патыліцу, быццам хацеў праверыць, ці сапраўды ў яго ёсць галава на плячах.

— Дык вы, таварыш Чарналоб, не раіце пісаць пра Заранку? — запытаў журналіст, знарок, а мо і выпадкова пераблытаўшы прозвішча дырэктара. Той, мабыць, падумаў, што знарок, і як не закрычаў:

— Дзе ваша пільнасць! Вы — гнілы ліберал! Лепш зусім нічога не пішыце пра ферму, чым узносіць на шчыт немаведама каго.

Не развітаўшыся з Сівалобам, супрацоўнік газеты пакінуў кабінет.

Па той самай прычыне Галінага імя не занеслі і на Дошку гонару.

А Галя і не дбала ні пра славу, ні пра што іншае. Ёй добра было і так. Працавала яна з ахвотаю, а калі чалавек працуе з ахвотаю, праца ў яго руках спорыцца.

І дома ў Галі было ўсё добра: Вадзімка падрос і надоечы пачаў хадзіць. Другія дзеці, перш чым стаць на ногі, папоўзаюць на азадачку. А Вазімка седнем сядзеў амаль да года. Галя баялася ўжо, што з хлопчыкам мо што здарылася: мо і дзіцячую душу ўвярэдзілі тыя душэўныя згрызоты, якія ўсім ім давялося перажыць. У вольныя хвіліны, якія цяпер выпадалі не так часта, яна ставіла хлопчыка на ножкі і памагала яму хадзіць, падтрымліваючы за ручкі. Вадзімка на ножках стаяў і, як здавалася, трывала. Аднаго разу яна паставіла Вадзімку на ножкі, адпусціла рукі, трошкі адышлася, прысела на корпушкі і папрасіла:

— Вадзічак, хлопчык мой, тэпай да мяне...

Хлопчык страпянуўся, узмахнуў ручаняткамі і затэпаў ножкамі да Галі. І не памаленьку затэпаў, а бяжочкам. Галя, расставіўшы рукі, адыходзіла ад яго, а ён бег і бег да яе праз увесь пакой. Галя не стрымалася і аж закрычала:

— Цётка Праксэда, зірніце! Вадзімка бегае!

Цётка Праксэда, якая поралася ў печы, зазірнула ў дзверы і сказала:

— От дзіва. Хіба не пара яму ўжо.

— Я ж баялася, што ён седнем якім будзе.

Усё ішло добра. Галя пачала ўжо нават трошачкі забывацца па тыя нягоды і скрухі, якія выпала ёй перажыць.

Блізілася ўжо вясна. Думалася — як стане цёпла, от хлопчыку тут добра будзе: двор раскошны, зарослы муравою, а калі дзіцятка выб'ецца з двара за вароты, дык і там мурава, і ні машын, ні фурманак, якіх можна было б баяцца. Але, як той казаў, чалавек спадзяецца, а спадзяванка ад яго ўцякае. Гэтак сталася і з Галяй. Пасля ранішняй дойкі яе выклікаў да сябе ў кабінет Сівалоб. Устрывожаная, яна стаяла перад яго сталом, а ён глядзеў на яе і маўчаў, быццам не знаходзіў тых слоў, якія павінен быў сказаць ёй. Сівалоб закурыў і з дымам выдыхнуў словы:

— Як вы думаеце, мне трэба дзе-небудзь жыць?

— Ну а як жа ж, канечне,— адказала Галя.

— А вы, грамадзяначка харошая, ведаеце, дзе дырэктараў дом?

— Не, не ведаю.

— Як жа вы не ведаеце! Вы ж яго займаеце.

Галя толькі цяпер даўмелася, чаго ў яе дапытваўся Сівалоб. А ён пільна-пільна глядзеў на яе і цягнуў:

— Дык от, пакуль я тут адзін без сям'і быў, дык знаходзіў сабе куток. А ў гэтую нядзелю прыязджае мая сям'я, то вам прыйдзецца гэта ўлічыць.

— Як улічыць? — нібы не зразумела Галя.

— Як улічыць! Выселіцца з таго дома, які належыць дырэктару.

— Дык куды ж я?

— Гэта ўжо не мой клопат. Я і так зрабіў вам ласку, што зімою не выселіў.

З акамянелым сэрцам Заранка бегла дадому і, толькі перасігнуўшы парог, загаласіла:

— А што ж мне цяпер рабіць?..

— Чаго ты, Галя? — не зразумела Галінай трывогі Праксэда.— Усё ж добра.

— З хаты выкідае.

— Хто?

— Ды гэты ж Сівалоб. Сказаў, што гэта яго дом і каб мы да нядзелі выселіліся.

— Не плач, галубка мая, няхай ён выселіцца з свае сарочкі,— суцяшала Праксэда.

— Дык а што ж нам рабіць?

— Пераселімся ў Варацец, у маю старую хату. Агледзім, абладзім яе, дый жыць будзем. Толькі б тае і бяды.

Варацецкая Праксэдзіна хата была і не хата, а так сабе загародка ад ветру, ад сонца ды ад чужога хіжага

вока. Але яны з Праксэдай яе агледзелі, пазатыкалі пакуллем пазы, якія аж свіціліся, паўстаўлялі шыбы, пабялілі сцены, печ, і хатка стала падобна на чалавечае жытло. Адно Вадзімка ніяк не мог прывыкнуць пасля той раскошы да цеснай і панурай Праксэдзінай хаты. Яму тут не было дзе і пабегаць. Толькі разгоніцца, а перад ім лава, ці ўслон, ці палаці. Сама Праксэда не памятае, калі ставілі хату, хоць старой ужо за шэсцьдзесят год. У бярвенні, мабыць, адна абалонка, а стрыжань ужо спарахнеў. Зімою тут наўрад ці ўседзеш. Але цяпер была вясна, і цяпла хапала не толькі ў хаце, але і на двары. Сонца было шчодрае. Галя падмяла двор перад хатаю, сяк-так адрамантавала плот, якім двор быў адгароджаны ад вуліцы. Вадзімка ўжо ступаў цвёрда, упэўнена і надзейна. Галя радавалася гэтаму. Нешта ўжо было відно ад бацькавай натуры. Калі яму трэ было што, ён не адступаўся, а дамагаўся, каб яно было абавязкова зроблена. І галоўнае, што лагодзіла Галіну душу, дык гэта тое, што з твару хлопчык быў выліты бацька.

Галя мала і бачылася з Вадзімкам: зацемна бегла на ферму і вярталася таксама прыцемкам ужо. Адно што толькі паміж дойкамі прыбягала, дык хоць трохі забаўлялася з малым. Пацешны ён станавіўся цяпер. Кожны дзень Галя адкрывала ў ім нешта новае і радавалася яму нават тады, калі яно не вельмі было і даспадобы. А Праксэдзе цяпер стала больш клопату. Гэта не тое, што тады, калі хлопчык яшчэ не станавіўся на ножкі. Цяпер з яго нельга і вока спусціць: то ён не туды затэпае, то ў якую гразь улезе і гэтак вымурзаецца, што страх глядзець, і трэба грэць на сонцы ваду і мыць. Хоць Галя ніколі і закіду ніякага не кінула Праксэдзе за Вадзімку, але ж старая ведае, што калі б яна не дагледзела хлопчыка як мае быць, Галя пэўне што не змоўчала б.

А час ішоў, хоць і павольна, але сваёй няўмольнай хадою: от прайшлі ўжо год, другі, трэці... Улетку Галя рэдка бачылася з хлопчыкам: зноў, як тады пры Альбіне, скаціну выганялі ў летні лагер. Мо таму, што чалавек сам дзіцянё прыроды, ён любіць яе, як маці — жыве, дыхае і радуецца ёю. Галя ж не вельмі цешылася, не вельмі радавалася прыродзе. І купацца яна рэдка калі хадзіла, бо як толькі прыходзіла на тое месца, дзе тады купаліся з Альбінай, сэрца рэзаў, нібы вострым нажом, балючы ўспамін. А пра іх — пра Станіслава і Альбіну — ніякай вестачкі.

Зноў жа такі гэты Вадзімка, хлопчык. Галя ні разу не задумвалася, што з ім будзе. Сэрца тады рванулася да хлопчыка як да жывога ўвасаблення любага ёй чалавека, і яна нават забылася, што хлопчыка трэба гадаваць, выхоўваць, песціць, што перад ім доўгі, а можа, яшчэ і пакручасты жыццёвы шлях. Не заглядаючы далёка ўперад, Галя павяла Вадзімку на сваю дарогу і як бы сказала хлопчыку: «Ідзі, ідзі па ёй, а калі не па ёй, дык хоць поруч, хоць недалёчка. Інакш я не магу».

Тут, у лесе, Галя чамусьці адчула незвычайную адзіноту. Ёй нясцерпна захацелася ў Варацец. Дамовілася з даяркай-сяброўкай, што тая на раніцу падоіць яе кароў, і пабегла ў вёску. Яна так бегла, быццам за ёю хто гнаўся. Бегла і чамусьці не адчувала стомы. На змярканні яна прыйшла ў хату. Вадзімка яшчэ бегаў. Хлопчык, як угледзеў Галю, раскінуў рукі і пабег да яе:

— Мама, мамачка, дзе ты так доўга была?

Галя падхапіла Вадзімку на рукі. Ён быў ужо цяжкаваты. Хлопчык абхапіў ручкамі яе загарэлую, абветраную шыю і пачаў цалаваць.

— Якая ты цёпленькая! Якая ты харошанькая,— казаў Вадзімка.— Я не хачу адзін без цябе быць. Я цябе не пушчу нікуды ад сябе.

Галіна сэрца аж млела ад гэтай цёплай дзіцячай ласкі, і яна таксама цалавала хлопчыка. І ў гэтым разліве пяшчоты, дзіцячай ласкі яна адчула, што ўжо не можа быць без яго, без хлопчыка, які ёй стаў такі родны.

Цэлы вечар Вадзімка не адыходзіў ад Галі. І вячэраць без яе не ўзяў. Папрасіў, каб пакарміла яго. І яна карміла з лыжачкі, як зусім яшчэ маленькага, хоць ён ужо і ладнаваты быў хлопчык: сам ужо мог залезці нават на паліцу і адламаць ад бохана ладны кавалак хлеба, калі Праксэда хавала яго туды, каб хлопчык не глуміўся. І спаць Вадзімка не захацеў без Галі.

— Мамачка, мамачка! Я не лягу без цябе! — заўпарціўся хлопчык, калі Праксэда хацела пакласці яго спаць.

Галя распранулася і легла з хлопчыкам. Вадзімка лашчыўся, гарнуўся да яе, і ад гэтага ёй рабілася добра-добра.

— Спі, сынок, спі! — цалавала Галя хлопчыка.

Вадзімка заснуў неяк знянацку. Сама Галя ніяк не магла заснуць. Думала: а чаму б ім сапраўды не з'ехаць туды, дзе іх ніхто не ведае, з'ехаць ад гэтай паняверкі, ад косых позіркаў. Хіба яна такая ўжо няздатная, што

нідзе сабе і месца добрага не знойдзе? Не канечне ж жыць там, куды цябе, як трэску, прыбіла жыццёвая хваля. Абдумаўшы, Галя амаль ужо вырашыла: на другое лета — тады і Вадзімка яшчэ больш падрасце — яна з'едзе адсюль ці ў горад, ці куды, дзе б ніхто не ведаў, хто яна такая, дзе б ніхто нічым не мог яе папікнуць.

На раніцу Галя вярнулася ў лагер. Каровы яе былі падоены. Але не было звычайнага спакою. Учора ўвечары, як толькі Галя адышла ад лагера, сюды прыехаў Сівалоб. Ох, і паганяў жа ён тут даярак і пастухоў!

— І пра цябе пытаў,— паведаміла даярка, якая даіла Галіных кароў.— Я ёй, кажа, пакажу, як пакідаць рабочае месца. Я ёй не яе палюбоўнік Гарадзюк.

Крыўдна, балюча было слухаць гэтае Галі, і яна канчаткова вырашыла: прабыць яшчэ якое лета, перазімаваць зіму, а на вясну, калі цёпла стане, падацца адсюль. Свет жа вялікі, і ім з Вадзімкам недзе ж знойдзецца месца.

## Раздзел адзінаццаты

Тое, што Галіна Заранка наважыла пакінуць Варацец, прыспешылася вось чым: чэрвеньская ясная раніца падняла на ногі да ўсходу сонца не толькі варатчан. Перш за ўсё яна падняла брастчан. Пякельныя языкі полымя першых пажараў асвятлялі сонны горад, і людзі паўсхопліваліся з пасцеляў хто ў чым. Стралянiна, крыкі, галашэнне і бязладны рух на вуліцах, асабліва на выхадзе з горада. Адно крэпасць на выбухі бомбаў і снарадаў адказвала шквалам агню.

А ўся краіна, апроч прыгранічча ды тых гарадоў, на якія былі скінуты першыя бомбы, яшчэ спала. Толькі калі ўжо добра ўднела, радыё прынесла і ў тыя гарады і вёскі, якія даспалі да самага канца апошнюю мірную ноч, трывожную, страшэнную вестку: «Вайна!»

У Варатцы радыё не было, і Галя, як заўсёды, пайшла на ферму. Падаіла ўжо кароў. І вось калі скончылася ранішняя дойка і пастухі выгналі кароў на пашу, пад абору, туды, дзе сабраліся даяркі перакінуцца словамі, абмяняцца навінамі, і прыбег, як апантаны, Дармідонт Сівалоб. Вытарашчанымі вачыма ён глядзеў на даярак і нічога не разумеў: ці ім гэта не балюча, ці ім гэта ўсё роўна? Прыслухаўся да таго, што гавораць жанчыны. А яны гаварылі

пра ўсё і ні слова пра тое, што ўночы пачалося на граніцы, гаварылі, жартавалі, смяяліся. І Сівалоб, хоць і тугаваты быў на здагадку, усё ж такі здагадаўся: яны яшчэ нічога не ведаюць.

— А вы не ведаеце?

— Чаго?

— А таго, што фашыст напаў на нашу краіну?

— Які фашыст? Дзе? Калі?

Смех, пабочныя гаворкі як абарваліся. Жанчыны нібы панямелі. Потым нехта з даярак загаласіў:

— А божачка мой! Дык мой жа там чалавек служыць... Што ж маёй беднай галоўцы думаць, што ёй рабіць?..

Па адной, па дзве жанчыны разышліся, разбегліся. Адна Галя стаяла, нібы скамянела ад гэтай страшэннай весткі. Сівалоб глянуў, і яму мо на момант стала шкада яе. Спытаў:

— Ну, а ты чаго стаіш?

Галя, панылая, учарнелая ад адной гэтай весткі, пайшла на Варацец. Дарогай думала і думала: а што ёй сапраўды рабіць?..

Аднаго разу ўжо была надумалася здаць Вадзімку ў дзіцячы дом і развязаць сабе рукі. Але потым адмахнулася ад гэтай думкі. Хлопчыка ж цяпер наўрад ці змагла б яна адарваць ад сябе. І от толькі цяпер пашкадавала, што тады не рашылася на гэта. Адной бы ёй што! Куды пайшла — там і дом!

Дні тры ці чатыры тут вайны ніхто не адчуваў: адно толькі неспакойныя, нярадасныя весткі перадаваліся з вуснаў у вусны. А на чацвёрты дзень тутэйшыя людзі на свае вочы пабачылі вайну. З самае раніцы загуло неба, і ў высокім блакіце яго паявіліся чорныя крумкачы.

Хто іх ведае, тых фашыстаў: ці яны думалі, што будынкі акадэміі — ваенныя аб'екты, ці што, а мо і ведалі, што гэта акадэмія, і бамбілі для таго, каб на людзей нагнаць страху, дэмаралізаваць іх. Два акадэмічныя корпусы былі разбіты ўшчэнт. Ва ўсіх астатніх павыляталі вокны. Драўляныя будынкі адразу пагарэлі.

Варатчане глядзелі здалёк на лютую бамбёжку і клялі фашыстаў. Галя схапіла на рукі Вадзімку і гэтак стаяла з ім, калоцячыся і божкаючы. Хлопчык таксама калаціўся.

Самалёты адбамбіліся і адляцелі на захад. А адтуль, дзе нядаўна вухалі бомбы, беглі людзі.

Галя толькі пусціла хлопчыка з рук, як да яе падбег

чалавек. Ён як бы толькі што выскачыў з агню. Яна нават не пазнала, хто гэта, пакуль ён не абазваўся:

— Галя, любая! Давай уцякаць адсюль, з гэтага пекла. Каб ты паглядзела, што там дзеялася. Колькі там людзей загінула!

— Куды ўцякаць? — як здалося Косціку, спытала яна занадта спакойна.

— Нам жа ў адну дарогу. Кідай яго на старую,— паказаў Косцік на Вадзімку,— а самі пойдзем.

— Каго кідаць? — з гневам перапытала Галя.

— Яго! Хлопчыка!

— Не, мне з табою, з такімі, як ты, не па дарозе.

— У Нежыхаў будзем дабірацца,— стаяў на сваім Косцік.

— Дабірайся куды хочаш, толькі без мяне! — сказала Галя і пабегла да Вадзімкі.

Тыдні з два была нейкая няпэўнасць, нейкае трывожнае чаканне: чаго і каго чакалі людзі, яны мо і самі не ведалі. Ужо вунь і ў Варатцы чуваць, як стогне зямля, а ўночы відны і крывавыя бліскавіцы. Каторыя варатчане пакапалі сабе за хлявамі на агародах не вельмі глыбокія акопчыкі, як паграбкі, панакрывалі іх, каб у лютую гадзіну, калі яна надыдзе, перахавацца ад смерці. Папераносілі туды найбольш каштоўныя рэчы. Некаторыя і сала панакладалі ў торбы і пазакопвалі. І Праксэда была ўсхадзілася:

— Давай і мы, Галя, выкапаем якую ямку, каб хоць схавацца, як сюды вайна прыйдзе.

— Я не буду тут перахоўвацца і пазіцыі чакаць,— сказала Галя, як здалося цётцы Праксэдзе, са злосцю.

— А дзе ж ты дзенешся з гэтым малым?

— Свет вялікі, і нам знойдзецца месца.

А калі ўжо выразна сталі чуваць грымоты, калі ўжо і на варацецкіх дарогах паявіліся нашы салдаты, праўда, яшчэ з тылавых часцей, Галя заспяшалася збірацца ў дарогу.

— Я цябе не пушчу нікуды з дзіцём. Ты ж прападзеш. А калі ўжо, не давядзі бог, і немец той прыйдзе, дык што ён табе зробіць? — пераконвала Галю Праксэда.

— Не, не, цётачка, я не магу чакаць тут немца. Сыду, з'еду адсюль куды вочы глядзяць.

Заранка пачала збірацца. Склала і звязала ў дарогу клунак. У ім былі Альбініны сукенкі і адзін Станіслаў гарнітур. Прыкінула, што калі дзе і ў людзей давядзецца

чаго папрасіць, дык яна будзе прасіць не з голымі рукамі. Увязала трохі сухароў, кавалачак сала. Клунак атрымаўся ладнаваты, але калі Галя закінула яго за спіну, ён не здаўся ёй цяжкім.

— Не пушчу я цябе нікуды! — лямантавала Праксэда.— Ты ж мне як родная дачка, а ён як родны ўнучак, дык куды я вас пушчу ад сябе!

— І вы нам як родная, але мы не можам тут больш аставацца, сюды ўжо ідзе вайна.

Як Праксэда ні пераконвала Галю, што збірацца ў такую вялікую і невядомую дарогу, ды яшчэ з дзіцем, небяспечна, рызыкоўна, як яна ні намагалася не пусціць іх, усё роўна на другі дзень ранічкай яны выйшлі на дарогу, якая вяла да чыгуначнай станцыі.

Першыя кіламетры Вадзімка нават рады быў хадзе. Ён жа ніколі яшчэ і нікуды з Варатца не хадзіў і не ездзіў, і хлопчыку цікава было адкрываць перад сабою свет. Дарога ішла між жыта, высокага, густога, як сцяна. Вадзімка збягаў з дарогі ў разоры. Нарваў нават васількоў.

— Мама, глядзі, які прыгожы букет! — захапляўся хлопчык.

— Прыгожы, сынку,— вымавіла Галя.— Табе яшчэ ножкі не забалелі?

— Не, мама, не! Мае ножкі на край свету, вунь аж туды, дзе вунь аж пад неба віднеецца нешта высокае, дойдуць і не забаляць,— падбадзёрваў Галю хлопчык. Яна зірнула туды, куды паказаў Вадзімка, і сапраўды ўгледзела станцыйную вадакачку. Яна яшчэ была далёка.

На станцыю прыйшлі ўжо так пад добры абед. Станцыя была не вельмі вялікая, у мірныя дні ціхая, бязлюдная, але і на ёй цяпер было дужа многа вагонаў, паравозаў. Яны як бы адзін перад адным давалі гудкі, чмыхалі парою, ляскалі буферамі. Вадзімку гэта зацікавіла, і ён павесялеў.

Доўга бегалі яны ад састава да састава, распытваючы, куды і як скора ідзе каторы цягнік. Ні ў кога і нічога не маглі дапытацца. Знясіленая, зняможаная Галя нарэшце ўгледзела платформу, на якой, відаць, яшчэ нядаўна вазілі пясок ды каменне. На платформе было поўна людзей з клункамі, з чамаданамі.

— Куды гэта? — падбегшы, запытала.

— Не пытай, жанчынка, куды ідзе, а сядай хуценька,— адказалі з платформы.

Падхапіла пад пашкі Вадзімку і пасадзіла на плат-

форму. І толькі трэба было самой узлезці, як з-за лесу шуганулі самалёты з чорнымі крыжамі на крылах. Паравоз апантана раўнуў, і заляскалі буферы. Яе нехта схапіў за рукі, але не ўтрымаў, і яна ўпала. Адчула, што нехта яе цягне за клунак па зямлі ўжо.

— Так нядоўга і да бяды, без ног можна астацца...— гаварыў мужчына ў форме чыгуначніка.

Пакуль Галя апамяталася, састаў хутка рвануўся і заляскаў коламі па стыках рэек, пайшоў на ўсю хуткасць. Яна ўсхапілася на ногі і кінулася бегчы наўздагон. Чыгуначнік спыніў:

— Куды ты, дарагая, хіба ты дагоніш?

— Там жа дзіцятка маё! — несамавіта закрычала Галя.— Мой сынок на платформе паехаў!..

— Бяда,— сказаў чыгуначнік,— што гэтыя фашысты з людзьмі робяць!

Дапытваўся, хто яна, адкуль і куды сабралася ехаць. А яна ніяк не магла пракаўтнуць горкі камяк слёз. Нарэшце ўсё-такі Галя знайшла ў сабе сілы расказаць чалавеку пра сябе, пра хлопчыка. Чыгуначнік доўга стаяў у роздуме, а потым сказаў няўпэўнена, мо толькі для таго, каб уцешыць няшчасную жанчыну, каб заранiць у яе душу хоць маленькую надзею:

— А ведаеце што, дарагая мая, паспрабуем памагчы вашаму гору. Хадзем на станцыю,— прапанаваў чыгуначнік.

Ён ішоў наперадзе, пераходзячы пуці праз тамбуры вагонаў, а яна за ім. Галя як бы нічога не чула і не бачыла. Вочы быццам завалакло туманам. Яна толькі глядзела ў спіну чыгуначніку, адно каб яго не згубіць.

На станцыі было столькі мітусні, што Галя сама наўрад ці і дабілася б чаго. Чыгуначнік расхінаў рукамі людзей. А яна ішла за ім, як па працярэбленай сцежцы. Чыгуначнік зайшоў у баковачку, і яна туды. Там пры нейкім апараце сядзеў з навушнікамі чалавек.

— Пятро Свірыдавіч, гору трэба памагчы,— звярнуўся чыгуначнік да таго з навушнікамі.

Чыгуначнік пераказаў дзяжурнаму дыспетчару тое, што нядаўна яму расказала Галя.

— Дык чым жа я магу памагчы?

— Зараз жа пазвані, Пятро Свірыдавіч, у Гаўрылавічы, каб там з платформы знялі хлопчыка і затрымалі, пакуль пад'едзе маці. Як вашага хлопчыка завуць? — спытаў добры чалавек.

— Вадзім Заранка! Вадзім Заранка! — пракаўтнуўшы горкі камяк, вымавіла на ўсю сілу Галя.

— Наўрад ці што выйдзе...— выказаў сумненне чалавек з навушнікамі. — Бачыце, колькі тут людзей. Увесь свет падняўся на ногі...

— Выйдзе не выйдзе, а ты пазвані. Гэта мая просьба.

— Пазваніце, дзядзечка,— вырвалася ў Галі.— Увесь век буду дзякаваць вам.

Дзяжурны ўзяўся круціць ручку, націскаючы нейкія кнопкі, утыкаць штэпселі.

— Гаўрылавічы! Гаўрылавічы! — крычаў ён.— Вы слухаеце мяне? Слухайце ўважліва...

Дзяжурны дыспетчар расказаў у трубку ўсё, што сам нядаўна даведаўся: і як Вадзімку пасадзілі на платформу, і як маці яго не паспела сесці, ледзь не трапіўшы пад колы вагона.

— Дык вы ссадзіце там хлопчыка і патрымайце, пакуль маці прыедзе...

Дзяжурны двойчы ці тройчы паўтарыў у трубку імя і прозвішча хлопчыка. Галі здалося, што ўвесь свет крычаў, што правады, па якіх паляцелі словы дзяжурнага, адно толькі і гулі, паўтараючы: «Вадзім Заранка! Вадзім Заранка!»

— Паабяцалі зрабіць,— адрываючыся ад трубкі, сказаў дзяжурны.

— Дзякую вам, дзякую! Век не забуду вас! — узрадавалася Галя.

— А цяпер хадзем,— сказаў той чыгуначнік, які прывёў яе сюды,— я вас пастараюся пасадзіць на які цягнік.

Галя зноў ішла за той шырокай спіною і больш за ўсё на свеце баялася, каб не згубіць яе.

Вадзімку ссадзілі ў Гаўрылавічах. Яна знайшла яго на прыстанцыйным скверыку. Сплаканы і знясілены, раскінуўшы рукі, хлопчык спаў на зялёнай мураве. У тым скверыку было поўна людзей, і ніхто не звяртаў увагі на дзіця. Галя кінулася да Вадзімкі, узялася будзіць яго. Хлопчык не прачынаўся. Яна ўзяла яго на рукі, цалавала, прыціскала да грудзей і плакала ці то ад радасці, што ён знайшоўся, ці то ад перажытага гора. Нарэшце яна раскатурхала хлопчыка. Павольна-павольна разняў ён павекі, нібы яны былі цяжкія-цяжкія, зірнуў, што ён на руках, пазнаў у каго і закрычаў:

— Мамачка! Мамачка! Гэта ты?

— Я, сынок!

Галя зняла з плячэй клунак, развязала яго, дастала акрайчык хлеба, па скрылёчку сала, і яны ўзяліся падсілкоўвацца. Канчаўся летні дзень, спадала гарачыня. З заходу, куды закацілася сонца, паказаліся тры самалёты. Яны павольна, нібы ім не было куды спяшацца, зрабілі круг над станцыяй і, мусіць, угледзеўшы, што на пуцях многа саставаў, ужо з другога заходу пачалі скідаць бомбы і страчыць з кулямётаў. Галя як сядзела, гэтак ніцма і ўпала на зямлю, прыціснулася да яе, каб мо не бачыць, што там дзеецца, ці мо каб не глядзець смерці ў вочы. Адно Вадзімка не хаваўся. Ён, як толькі гэхнулі бомбы, залапаталі кулямёты, усхапіўся на ножкі.

— Кладзіся! Кладзіся тут пры мне! — цягнула яго за калашыну штонікаў Галя.

Хлопчыку, мабыць, цікава было наглядаць, і ён не хацеў класціся.

— Мама, мама, зірні, зірні, вунь ужо гарыць! — крычаў ён.

— Няхай гарыць, кладзіся!..— Галя сілай паклала хлопчыка пры сабе, і ён адчуў, як яна калоціцца. Запытаў:

— Мама, чаго ў цябе зубы ляскаюць?

— Дурненькі ты мой!..— прыціскала да сябе хлопчыка.— Ты яшчэ нічога не разумееш...

У наступны заход самалёты ўжо не скідалі бомбаў. Яны адно страчылі і страчылі з кулямётаў. Нават чуваць было, як шпокалі аб зямлю разрыўныя кулі. На скверыку пачуліся крыкі, войканні, плач. Галя ўскочыла на ногі, схапіла клунак, узяла за ручку Вадзіма:

— Хадзем адсюль, хадзем!

Павяла хлопчыка да таго лесу, які сінеў не так далёка ад станцыі.

Заначавалі яны ў лесе. Прыціснуўшыся адно да аднаго, укрыўшыся Галіным асеннім паліто, гэтак і заснулі на голай зямлі.

Раней Галя страшэнна баялася адна ў лесе. Ёй здавалася, што за кожным дрэвам яе падцікоўвае небяспека: ці то воўк, ці які яшчэ лясны звер. Цяпер жа яна лесу зусім не баялася. Мабыць, перад вялікім страхам, які яна перажыла на станцыях, той уяўны лясны, які яна часта выдумляла сама сабе, стаў ужо не страхам, а забавай.

Раніцай, трошкі падсілкаваўшыся сухарамі, ягадамі, якіх Галяназбірала побліз таго месца, дзе яны ляжалі, пайшлі лясною, не вельмі ўезджанай дарогай. Заранка не ведала, куды вядзе гэтая дарога, але ёй было ўсё роўна

куды, абы толькі на ўсход, як далей ад таго месца, дзе грымела, вурчала, стагнала, азарала паўнеба бляскамі.

Гэтак пад полудзень дарога іх вывела на шашу-брукаванку. Мабыць, па гэтай шашы ў мірныя дні і машын хадзіла вельмі мала, бо праз каменне бруку сям-там папрабіваліся чэзлыя зялёныя парасткі. Цяпер жа шаша гула, стагнала пад машынамі, якія ішлі ўсё да фронту. А што калі папрасіцца ды сесці на якую спадарожную машыну? Можа б, яна і давезла да нейкага зацішнага месца?

Прыселі на зарослую муравой абочыну і чакалі, пакуль надарыцца машына, якая будзе ісці туды, куды ім трэба. Неўзабаве іх аглушыў лёскат гусеніц танкаў. Яны гэтак прамчаліся паўз іх, што Галя бачыла, як з-пад гусеніц выкрэсваліся іскры. Танкі ішлі на захад, відаць, спяшаліся ў бой. Яшчэ падумалася: «От дадуць фашыстам!..» Вось паказалася калона аўтамашын. Яна ішла на ўсход, і Галя надумала падняць руку і папрасіцца, каб і іх узялі. Але нечакана, неспадзявана з-за лесу шуганулі самалёты. Іх было столькі, што і не злічыць. Завухкалі бомбы, залапаталі кулямёты. Шафёры выкульваліся з кабін і беглі хуценька ў кюветы.

Зноў страх. Зноў смерць над галавою. Праўда, тут ужо Галя не так баялася, як там на станцыі. Лежачы ў кювеце, яна бачыла, як гарэлі машыны, бачыла, як у аднаго салдата, што адбягаў ад машыны, падламаліся ногі, і ён упаў на брук.

Бамбёжка цягнулася не дужа доўга. Як толькі адляцелі самалёты, завурчаліматоры, і калона рушыла, пакінуўшы пасля сябе чатыры вогнішчы на бруку. Падпаленыя машыны дагаралі. Забітых і параненых чырвонаармейцы забралі з сабою. А Галя так і не рашылася падняць руку і папрасіцца на машыну. Падумала: навошта ёй прасіцца на смерць? Вялікі страх смерці канчаткова заглушыў у ёй маленькі, выдуманы яшчэ з дзяцінства лясны страх, і яны, перайшоўшы шашу, апынуліся ў густым пракаветным бары. У такім густым, што цяжка было прадзірацца праз яго.

## Раздзел дванаццаты

Галя з Вадзімкам уцякалі ад вайны, але вайна ішла хутчэй за іх, і яны на сваіх падбітых і стомленых нагах не маглі выперадзіць яе. Калі ў першыя дні іх невядомай і

няпэўнай дарогі толькі ззаду чуліся грымоты, а ўночы віднеліся сполахі кананад ды зыркія прошвы ракет, дык цяпер і з бакоў і нават спераду чулася і бачылася ўсё гэта. Галя ніяк не магла даўмецца: няўжо нават уперадзе іх немцы? Трэ было зайсці некуды ў вёску і хоць даведацца. Ды і хлопчык так падбіўся, што ўжо не мог ісці. Яго даводзілася несці. А ён жа не маленькі. Ды і есці ўжо не было чаго: сухары кончыліся. Перабіваліся ягадамі, якіх у лесе была процьма. Наважылася зайсці ў першую вёску, якая трапіцца па дарозе. І от пад вечар дарога іх вывела на чыстае поле, на якім далекавата ў смузе віднеліся хаты.

Воддаль вёскі пры дарозе на слупе была прыбіта дошчачка. Галя прачытала: «Вёска Бацькавічы. 103 двары». Нечым родным, лагодным дыхнула на яе нават ад гэтае назвы. Падышоўшы да канцавой, невялічкай з прыслепаватымі вокнамі хаты, Галя пастукала ў дзверы.

— Пусціце, як маеце ласку, пераначаваць нас,— папрасілася.

Гаспадыня зірнула на Галю і на хлопчыка:

— Дык куды ж я вас пушчу. Бачыце ж, які ў мяне хорам, няма дзе нават сесці, не тое што легчы.

— Мы і на падлозе пераспім,— азвалася Галя.

— Зноў жа такі, мая галубачка, і на стол няма чаго паставіць. Нават скарыначкі хлеба. Свая чамярва такая, што ўсіх ратоў не пазатыкаеш. А мужыка на вайну забралі, дык і спадзявацца няма на каго. Вы, галубка мая, ідзіце па нашым парадку ў пятую хату. Там жыве цётка Хіма. Яна адна-адзінюсенькая, і хата вялікая, у яе заўсёды людзі начуюць. А ў мяне ж бачыце: дзе сеў, там і лёг,— жанчына паказала на хату, якая сапраўды была цесная і не вельмі чыстая.

Пятая хата была замкнёная. Галя паляпала слісаком, пагрукала нават у сенечныя дзверы, але ніхто не абазваўся. Выйшлі на вуліцу і селі на лавачку пры паркане. Галя агледзела хату знадворку: яна была новая і велікаватая. На чыстых вокнах стаялі вазоны: вогнікі, алеандры і нават фікусы. У Галі на гэты момант у галаве не было ніякіх думак, апроч клопату, як бы чаго пад'есці ды пераначаваць у хаце. Вадзімка, паклаўшы ёй на прыпол галоўку, заснуў ужо. Галя гладзіла яго шорсткія валасы.

«Хлопчык мой бедненькі. Дзіцятка маё няшчаснենькае, хай то ў цябе ні маткі, ні бацькі няма, дык яшчэ вунь якое гора зрынулася на тваю галоўку...»

Галя ўгледзела, што з хаты, якая стаяла на другім баку, наўскось ад Хімінай, выйшла жанчына і гэтак жа наўскось ідзе сюды.

— А што гэта за госці ў мяне тут сядзяць? — падышоўшы, спытала яна.

— Нечаканыя і няпрошаныя,— адказала Галя.

— Бачу, што няпрошаныя. Ды ўжо і спаць пакляліся?

— Здарожылася беднае дзіцятка.

— Адкуль жа і куды вы?

— А мы і самі не ведаем куды. Можа, гэта вы і будзеце цётка Хіма?

— Я! А скуль ты ведаеш, як мяне завуць?

— Мне параілі да вас папрасіцца нанач.

— Гэта, мабыць, тая канцавая, Гарпінка? Яна, дзякаваць ёй, заўсёды клапоціцца, каб мая хата не запуставала без начлежнікаў.

Цётка Хіма гаварыла так і такім тонам, што Галі падумалася: і тут нічога не выйдзе з начлегам, і тут ім не выпадзе пад'есці. Хіма пайшла ў двор, нешта пашкрабалася ў дзверы, а потым выйшла і сказала:

— Дык заходзьце ў хату, няпрошаныя госці. Не будзеце ж начаваць тут на лавачцы.

Галя ўзяла соннага Вадзімку на рукі і прынесла ў чыстую, прасторную, на дзве палавіны хату.

— От сюды пакладзі яго,— паказала на ложак Хіма. Гаспадыня адкінула чыстую ў клетачку посцілку. Галя паклала хлопчыка, а сама, знясіленая, змяжаная, села пры стале на лаву. Села на самы краёчак і з баязлівай надзеяй пачала ўзірацца на цётку Хіму.

— Дык хіба гэта вы так адны і жывяце? — папытала Галя.

— Як бачыш, маладзічка, от як стаю адна.

— Дык а дзе ж вашы?

— Бог даў, бог і пабраў. Старога летась пахавала. А сыны яшчэ да тэтае калатні павывучваліся і параз'язджаліся каторы куды. Цяпер жа ўсе ў горад глядзелі. Мабыць жа, і сама ты з горада?

— Ды не, цётачка, я не з горада. Я вучылася.

— А куды ж ты цяпер ідзеш? — дапытвалася цётка Хіма.

— Хто яго ведае. Ад немцаў хочам уцячы, дык от ідзём куды вочы глядзяць.

— То-та ж, куды вочы глядзяць. А куды ж яны глядзяць? Каб яны добра глядзелі, дык угледзелі б, што ўжо

немцы ўсюды і ты ад іх нікуды не ўцячэш. Надоечы ж і ў нас тут на матацыклетах былі. А вунь Міход Мацюк — гэта у нас тут ёсць такі — казаў, што немцы ў нейкія баноклі ўжо Маскву бачаць. Дык куды ж ты ад іх уцячэш?

— Гэта няпраўда, цётка Хіма, што яны Маскву бачаць. Гэта ўсё брахня.

— А хто яго ведае. Канечне, добра было б, каб яны не ўбачылі яе. А тым часам я за што купіла, за тое і прадаю. Дык а куды ж ты думаеш кіравацца з гэтым дзіцяткам? Дзе твае бацькі жывуць, маладзічка?

— І сама не ведаю куды. А бацькоў у мяне зусім няма. Я сірата,— сказала няпоўную праўду Галя.

— Бедненькая маладзічка,— паспачувала Хіма,— ды яшчэ гэтае дзіцятка на твае рукі і на твой клопат. А дзе ж хлопчыкаў бацька?

— Там, дзе і ўсе цяпер мужчыны.

Галя не магла прызнацца гэтай чужой жанчыне, што ў яе ёсць бацька. Ёй і самой цяпер часам здавалася, што бацькі ў яе няма. Хіба яна можа цяпер паказацца перад бацькам і перад мачыхай з Вадзімкам? Ёй і адной там было цесна, а з хлопчыкам — як бацька паглядзіць? Скажа: «Байструка прывяла, ды ўсё на маю шыю...» Дык лепш няхай ні яны нічога не ведаюць пра яе, ні яна пра іх.

— Дык мо, маладзічка, вы нічога і не елі дарогаю? — спахапілася цётка Хіма.

— Чаму ж не елі! Елі шчаўе, ягады,— прызналася Галя.

— Наедак з таго шчаўя ды ягад. А я, як дурная, стаю ды языком мялю.— Цётка Хіма адчыніла засланку ў печы, зірнула туды.

— Варанага нічога няма. Адна ж я, дык варэечку з кулачок прыставіш — і мне хапае. Я пашукаю чаго-кольвек так.

Хіма выбегла ў камору і вярнулася адтуль з добрым кавалкам сала, з гарлачом малака. Заслала настольнік і паставіла на яго паліваную місу. У талерку нарэзала скрылёчкамі сала, накроіла з круглага бохана хлеба. Малако выліла ў місу і накрышыла ў яго хлеба. Галя глядзела на яду, і вочы яе, мабыць, гарэлі, бо цётка Хіма заўважыла нават у вячэрніх прыцемках яе прагавіты позірк. Заўважыла і яшчэ шпарчэй забегалася.

— О, дык ты, маладзічка, і вельмі ж галодная. Бачу. Чаму ж ты адразу не сказала мне? Цяпер час такі, што

саромецца няма чаго. Пасаромеешся, дык і чарвячка не заморыш. Будзі хлопчыка. Ён жа, мабыць, таксама галодны?

Галя катурхала Вадзімку і не магла ніяк узбудзіць. Здаецца, ён і прачынаўся ўжо, але адразу ж, як Галя адымала рукі, ён зноў падаў.

— Ты вазьмі, маладзічка, ды от тут над цэбрыкам спаласні яму халодненькай вадзічкай тварык, дык ён і прачнецца. Гэта ж часам і да старога як прычэпіцца сон, дык, здаецца б, не еў, не піў, а толькі б спаў.

Галя абхапіла рукамі Вадзімку, паднесла да цэбра, які стаяў пры дзвярах. Цётка Хіма паднесла карэц вады, лінула ў жменю працягнутай над цэбрам Галінай рукі, і тая спаласнула хлопчыкаў умурзаны ў чарніцы твар. Вадзімка расплюшчыў вочы і запытаў:

— Мама, дзе гэта мы?

— Дома, дзетка, дома,— адказала цётка Хіма.

— Дома, сынок,— пацвердзіла Галя.— От умыйся ды павячэраем.

За сталом Вадзімкавы вочы зусім расплюшчыліся: яны здзіўлена глядзелі на сала, на накроены лустамі хлеб, на малако. Ручкі хуценька-хуценька завіхаліся. Галі аж сорамна было перад цёткай Хімай, якая, успёршыся локцямі на стол і падпёршы падбародак, глядзела, як яны ядуць. Сама Галя ела павольна, нібы яна была не галодная і адбывала толькі спрадвечны вячэрні абавязак. Хлеб, сала і малако, здаецца, былі такія смачныя, якіх яна ніколі і не ела.

Цётка Хіма ўсё глядзела, не спускаючы вачэй з іх. Аж сляза затрымцела на вейках, і жанчына як не прасіла прабачэння:

— Дык вы ўжо, госцейкі мае няпрошаныя, не гневайцеся, што нічога гарачага не маю вам паставіць. Я ж кажу: на адну сваю душу трошкі звару, і мне хапае.

— Што вы! Што вы, цётка Хіма! Дык за што гэта мы будзем на вас гневацца! Калі праўду вам сказаць, дык мы ж з ім цэлы тыдзень на адных ягадах ды на шчаўі і жылі ды часам грыб які пяклі,— прызналася Галя.

— То чэрпайце яшчэ малачко. Чым хата багата, тым яна і рада.

Пад'еўшы, Галя адчула, што і свет пахарашэў, і Вадзімка пажвавеў. Аднак сон ад яго не адчэпліваўся: сляпіцаю лез, і не толькі да яго, але і да Галі. Цётка Хіма

заўважыла гэта і хуценька ўзялася слаць ім пасцель у другім пакоі на шырокім драўляным ложку пад фікусамі.

— Нам можна і на падлозе пераспаць,— прапанавала Галя.

— Дык чаго гэта на падлозе, калі ложак гуляе. Ён жа ў мяне толькі для красы і стаіць. Хіба калі хто прыязджаў, ці свой, ці чужы, дык спалі на ім.

Пасцель сапраўды была мяккая. Здаецца, аж атуляла ласкаю. Галя з Вадзімкам леглі і як не забыліся на тыя скрухі, што выпалі ім на доўгай дарозе з Варатца да Бацькавіч. Вочы самі заплюшчваліся. Галя ўжо скрозь сон пачула Хіміны словы:

— Спіце, спіце, дзеткі мае, а заўтра будзе дзень, будзе і рада.

У Бацькавічах жыццё ішло як і ў мірны час. На світанку пастух выганяў кароў, склікаючы іх трубой-берасцянкаю; нехта некуды ехаў калясьмі, і на вуліцы сакаталі колы. Можа, гэтыя гукі, а можа, тое, што ў пярэдняй хаце прачнулася ўжо цётка Хіма, абудзілі Галю. Сон быў моцны, нават ніякіх сноў не снілася. Галя прачнулася, а разам з ёю прачнуўся і яе клопат: што ж ёй рабіць, куды і да каго ісці? Неяк у горы, у турботах яна тыя дні і не думала, куды ідзе. Ішла — дый годзе: абы далей ад вайны. Але ад немцаў яна не ўцякла. Як кажа цётка Хіма, яны ўжо ўсюды. Не хацелася гэтаму верыць.

А хлопчык усё спаў. Спаў бесклапотным дзіцячым салодкім сном. Галя і сама хацела яшчэ заснуць, але дзе там! Думалася пра ўсё, пра ўсё. Думалася і пра цётку Хіму: што яна за чалавек. Спачатку гаспадыня здалася Галі суровай і нялюдскай. А потым — бач, як павярнулася: і накарміла, і спаць паклала. Галя ўжо думала, чым і як аддзячыць жанчыне: можа, дастаць з клуначка каторую Альбініну сукенку і падараваць ёй? А можа...

Ляпнулі дзверы ў хату. Увайшла Хіма. Паставіла на ўслон даёнку. Падышла, прачыніла дзверы ў другі пакой, дзе яны спалі. Галя заплюшчыла вочы, але так, каб праз шчэлачкі іх хоць трошкі бачыць. Гаспадыня падышла да ложка і разбожкалася:

— Гэта ж жытка настала, не давядзі бог. Каб на тых немцаў халера якая. Людзей па ўсім свеце пусцілі. Дзе ж яны ўсе той прытулак знойдуць? Бедненькія, страх на вас глядзець,— паспачувала Хіма.— А куды і да каго яны пойдуць? — папытала сама ў сябе і выйшла ў першы па-

кой. Чутно было, як цадзіла сырадой, як бразгацела ці то вёдрамі, ці чым.

Галя пачула — зноў адчыніліся дзверы, і пад цяжарам нечых ног рыпнулі маснічыны.

— Дзень добры ў хату, цётка Хіма,— пачуўся мужчынскі, трошкі асіплы, як з перапою, голас.

— Дзень добры, Міходка! Дзень добры,— ветла адказала Хіма.

— То як вы тут пажываеце?

— Эт, як цяпер жывеш. Як той гарох пры дарозе: хто ідзе, той цябе і скубяне. То нашы адступалі, дык забягалі ў хату: давай ім есці. А то от надоечы ўжо гэтыя нячысцікі зайшлі ў двор ды курэй палавілі. Ды: «Матка, яйкі». Дык аддала ім усё, каб не гнявіць нячысцікаў, бо горш, кажуць, няма, як угневаеш іх. Лютыя, кажуць, вельмі, не адступяцца. Смалу на табе вазіць будуць. А ты чаго бо так заране, Міходка?

— Мне цяпер не спіцца, цётка Хіма. Я ж цяпер начальства.

— Якое ж бо ты начальства, галубок мой?

— А от як участковы быў тут пры Саветах.

— Дык ты, значыцца, міліцыянер?

— Не, не міліцыянер. Я — паліцыя.

— Дык гэта, значыцца, як пры цару было, пры старым рэжыме?

— Пры цару я не ведаю. А цяпер, пры немцах, дык от я — паліцыя.

— Дык хто бо гэта цябе, Міходка, выбраў?

— Ніхто не выбраў. Нямецкі камендант назначыў.

— Дык а чаго ты хочаш, Міходка?

— Нічога я не хачу. От правяраю сваю парахвію, каб нідзе ніякая чырвоная мыш...

Галя чула ўсю гэтую размову Хімы з паліцаем і як не калацілася. Варочаўся ўжо і Вадзімка, і ад яго варочання трошкі парыпваў ложак.

— А ў вас нікога чужога няма? — папытаў паліцай.

— Чужога няма, а свае ёсць,— адказала Хіма.

— Хто свае? Якія свае? Адкуль свае? — насцярожыўся паліцай.

— Як з таго свету прыйшлі.

Міход зашарыў вачыма, шукаючы, дзе тыя, што з таго свету прыйшлі. Прачыніў дзверы ў другі пакой і ўглядзеў. Галя шчыльней заплюшчыла вочы, намагаючыся ўняць дрыжыкі, якія дробненька калацілі ўсю яе. А палі-

цай ціхенька падышоў блізка да ложка, паглядзеў на сонных, чамусьці аблізаўся і гэтак жа ціхенька выйшаў у першы пакой.

— Дык хто яна такая? — запытаў.

— Ды гэта ж ятроўкі мае, Насціна, нявестка з горада з сынам.

— А я не ведаў, што ў вас якое свойства ёсць, апроч вашых хлопцаў.

— Дзіва што не ведаў. Я і сама як не забылася на гэтае свойства. Яно ж так, калі людзям добра жывецца, дык і свойства не заўсёды прызнаецца. А як надыдзе якая ліхая гадзіна, дык знойдуць цябе як не пад зямлёю.

— А чаго ж яны з горада ўцяклі?

— Дзівак чалавек! Што ж яны там з гэтым хлопчыкам — каменне будуць грызці ці жалязачча якое? Тут, як ні кажы, то бульбіна якая, то на агародзе што вырасце, а ўсё ж чалавек кішку напхне і трываць будзе. Ды і страхоцце там. Хіба ж ты не бачыў, аж адсюль відно, як той горад гарыць начамі. І іхняя хата згарэла, кажа.

— А мужык яе дзе? — папытаў Міход.— Мо бальшавік які?

— Эт, бальшавік. Яго чатыры гады назад як забралі, дык ні чуткі, ні пагалоскі, як скрозь зямлю праваліўся.

— Куды забралі?

— Туды, куды і твайго бацьку. Хіба ж я ведаю, кудысьці іх пазабіралі.

— Туды? — Міход паказаў рукою туды, дзе, на яго думку, павінна быць поўнач.

— Мабыць, туды.

— У яжовыя рукавіцы?

— Не ведаю ў якія — у яжовыя ці ў пуховыя.

Галя адчула, што тон гаворкі паліцая неяк памякчэў, і ў ім ужо можна было нават адчуць ноткі спачування. Але ўсё ж яна баялася яго і таму ўсё яшчэ плюшчыла вочы, прытваралася, што спіць. Але ў гэты самы момант прачнуўся Вадзімка. Ён як не закрычаў:

— Мама, дзе гэта мы?

— Ціха, ціха, дурненькі. У бабы Хімы. Я ж табе расказвала пра яе. Хіба ты забыўся?

Пачуўшы голас, Міход адчыніў дзверы і ўвайшоў у пакой, але цяпер не крадучыся, а ўжо на ўсю ступу, аж маснічыны ўгіналіся. Галя, якая была села ўжо на пасцелі, строячыся апранацца, хуценька нацягнула на сябе посцілку і легла.

— Ой, ой! Чаго ж гэта вы так?

Зацепліліся Міходавы чарнявыя маленькія вочкі, і ён выскаліўся:

— У вайну ды яшчэ і саромецца... Чаго ж вы так позна спіце? Папрывыкалі, мабыць, у горадзе смачна есці і позна спаць.

— Каб вы столькі прайшлі, як мы з ім, дык вас бы таксама, мабыць, не дабудзіўся б.

А пранозлівы Міходаў позірк быў утароплены на Галю. Здаецца, ён свідраваў яе навылет. Ёй аж ніякавата стала ад таго позірку.

— Я вас папрашу выйсці на хвіліначку. Мы будзем апранацца,— як мага ласкавей папрасіла Галя.

— Я ж кажу, у вайну няма чаго саромецца,— выскаліўся зноў Міход.

— У нас тут вайны няма, дык я вас прашу.

Паліцай усё-такі паслухаўся і выйшаў у пярэдні пакой, зачыніўшы за сабою дзверы. Галя хуценька, похапкам надзела сукенку, прышпіліла як папала косы і выйшла ў першы пакой.

— Дзеткі мае, здарожыліся, дык як спалі. Я ўжо думала, што вы да абеду не папрачынаецеся. Думала, што і вячэру праспіце.

Галя з Вадзімкам умываліся над цэбрам. Паліцай сядзеў на ўслоне пры стале і не спускаў з Галі вачэй. Прыгожая, зграбная нават пасля такой дарогі, яна, мабыць, яму спадабалася.

— Дык вы надоўга да нас? — запытаў Міход.

— Не ведаю,— адказала Галя.— Мабыць, пакуль калатня не пройдзе. А там трэба ж недзе і прыстанку шукаць.

— А чым вам тут, у цёткі Хімы, благі прыстанак? Хата вялікая. Гаспадарка добрая. Жывіце сабе анігадкі, памагайце цётцы. А што вам у тым горадзе? У нас тут штошто, а хлеб будзе. Ды яшчэ цётка Хіма як раскашэліцца, то і да хлеба сёе-тое знойдзе дзеля такой сваячкі, як вы. Як вы, цётка Хіма, думаеце?

— Не ведаю,— адказала тая.

— А там паглядзім, можа, дзе і на якую работу прыстроім. Вы ж, мабыць, граматная? Гэта ж не наш брат — мужык.

— Гарадская, ды будзе няграматная,— уставіла сваё цётка Хіма.

— Вы б, можа, цётка, з таго выпадку, што ў вас такая госця, і пашукалі б чаго,— пстрыкнуў Міход пальцамі сабе па шыі.

— Дзе ж яе пашукаю, хіба я калі гнала?

— Пашукайце, пашукайце, не агінайцеся,— настойваў паліцай.

Хіма нарэзала сала на патэльню, паставіла яго на трыножніку перад чалеснікамі, дастала з падпечча сухіх трэсачак, паклала чатыры яечкі на стол і сказала:

— Ты тут, Галя, падсмаж, а я пайду ды пашукаю. Няхай яе чэрці б шукалі.

Неўзабаве на стале стаяла патэльня з яечняю, міса з маласольнымі гуркамі і пляшка мутнае самагонкі. Чарак не было. Хіма паставіла тры гранёныя шклянкі. Міход сабе наліў поўную, Галі палавіну і гаспадыні капнуў у дно. Пачокаліся.

— Дык за гасцей, каб ім тут добра жылося і гасцявалася,— не спускаючы вачэй з Галі, сказаў Міход і адразу ж кульнуў поўную шклянку.

Галя памачыла губы і адставіла.

— Што гэта вы — і за сябе не хочаце выпіць?

— Я яе не п'ю, нават «маскоўскай», не толькі гэтай,— адказала Галя.

Бутэльку спаражніў адзін паліцай. Нават дапіў тое, чаго не выпіла Галя, і заспяшаўся.

— Засядзеўся я тут у вас. Бывайце, да пабачэння,— развітаўся паліцай з Галяй і гаспадыняй.— Мы яшчэ будзем бачыцца, будзем сустракацца,— абнадзеіў ён.

— Цётачка, што гэта за ён? — спытала Галя, калі Міход выйшаў з хаты.

— Гэта ж той Мацюк, пра якога я табе казала. Люты, як цігра.

— Адкуль вы ўзялі, цётка Хіма, усё тое, што пра мяне расказвалі яму?

— Нічога я пра цябе, галубка мая, не ведаю. Я ўсё выдумляла, брахала яму пад нораў.

— Дык навошта вы? А калі я пайду, а ён спахопіцца, што мяне няма, то што ён вам скажа?

— Нікуды вы, дзеткі мае, не пойдзеце. Вунь сядзіце тут, у зацішку. Куды ж вы проці вайны! Хіба на смерць! Хіба ўжо ў мяне хата цесная! Зноў жа такі — і не дарма хлеб будзеце есці. Паможаце сёе-тое па гаспадарцы.

Галя мо толькі цяпер сур'ёзна падумала: а і сапраўды, куды і да каго яна пойдзе з дзіцем? Падумала і сказала:

— Дзякую, цётачка, дзякую за ўсё, за ўсё — за ласку, за шчырасць. Мы астанёмся тут, у вас, няхай што будзе, тое і будзе.

— Будзе ўсё добра, дзетка мая.

## Раздзел трынаццаты

Час поўз павольна-павольна. Прайшло лета, прайшла восень. І вось зіма. Лютая, марозная, бязлітасная першая ваенная зіма. Добра, што Галя з Вадзімкам атайбаваліся тут, у Бацькавічах. Было што есці. Знайшлося што і знасіць. Цётка Хіма аддала Галі яшчэ свой дзявочы бурнос. Праўда, ён быў старасвецкі, але цёплы. А хто цяпер на тую моду глядзіць? І Вадзімку Галя сама пашыла з таго Станіслававага гарнітура, які яна прынесла ў клунку, цёплае паліто, хоць не на ваце, дык на пакуллі. Абы цяпло трымалася.

Усё лета і ўсю восень Галя разам з цёткай Хімай працавалі на агародзе. Ды калгаснае поле параздавалі таму, хто хацеў, і яны нажалі коп з дзесяць жыта, накапалі колькі вазоў бульбы і прысыпалі ў капец. Хіма дзівілася, як Галя можа рабіць усю сялянскую работу, і радавалася, што трапілася такая пастаялка.

— Ты ў мяне хібетная на ўсё,— казала Хіма да Галі.— Дзе ты толькі наўчылася?

— Як дзе наўчылася? У бацькі!

— Дык ты ж сірата круглая.

— Калі яшчэ не была сіратою. З самага малку.

— Хібетная, я ж кажу, на ўсё,— падхвальвала Хіма.

І Вадзімка не гуляў: то ён гусей ганяў на балота, то карову пераймаў з чарады, то свінням зелле якое збіраў. Адным словам, і Галя і Вадзімка хлеб елі недарма. І зімою Галя не гуляла: то пойдзе карове дасць, то вынесе свінням, то дроў унясе ў хату, а то і шыць прылаўчылася. Машыны не было, дык яна рукамі. Бацькаўчане нават пачалі ёй заказы прыносіць. Яна шыла кофты, спадніцы, андаракі і нават хлапечыя сарочкі. Галя прыжылася ў Бацькавічах, як тое дрэўца, якое пасадзілі ў добрую зямлю.

Немцы наязджалі ў Бацькавічы не часта. Мабыць, пабойваліся: усё-такі прылесная вёска. А ў лясах было неспакойна. То з аднаго, то з другога месца ішлі весткі: там партызаны знішчылі калону аўтамашын, там спалілі па-

ліцэйскую ўправу, а там паразганялі, як рудых мышэй, паліцаяў. У Бацькавічах было пакуль што ціха. Праўда, цяпер Міход Мацюк не адзін ужо быў тут. Ды ён ужо быў і не радавым паліцаем: ён стаў начальнікам бацькавіцкага паліцэйскага гарнізона, які заняў школу і там атабарыўся. Школа была ў канцы Бацькавіч, непадалёк ад бітага шляху, які праходзіў тут на Гардзеевічы, да якіх ад Бацькавіч было добрых пятнаццаць кіламетраў.

Паліцаі, якіх было цяпер тут чалавек з дваццаць, папалі вакол школы акопы, парабілі бункеры, паставілі ў іх кулямёты і, заняўшы гэтакую кругавую абарону, сядзелі. Праўда, яны не зусім і сядзелі — дзе траплялася, здзекаваліся з людзей, асабліва з тых, хто ў калгасе быў актывістам.

У канцы Бацькавіч пры самым шляху стаяла крытая гонтаю старая-старая ўжо хата. Казалі, што яшчэ пры цару ў гэтай хаце была карчма і трымаў яе стары карчмар Евель Пінхасік. Хто толькі не пабываў у Евелевай хаце! Мужчыны, каторыя ездзілі ў якую вялікую дарогу, асабліва зімою ў мароз, абавязкова спынялі вазы пад Евелевым ганкам і забягалі ў карчму. Адтуль выходзілі павесялелыя, сагрэтыя цяплом Евелевай манапролькі. Дармо што з кішэнь там вытрушвалі грошы. Затое ў грудзях была цеплыня. І не толькі падарожныя заходзілі туды. Заходзілі і каторыя бацькаўчане. Калі не было ў іх чым расплаціцца за гарачую манапольку, Евель даваў напавер. Даваў напавер не на два-тры тыдні, а аж да самай восені. А калі на гумнах ляскалі ўжо цапы, тады гаспадары, якія не міналі Евелевай ласкі, украдне ад жонак насілі ў карчму насыпаныя збажыною торбы, мяшэчкі і нават мяхі, плацячы за манапольку.

Можа, ужо і зямля забылася, што яна гадоў з дваццаць назад прыняла Евеля Пінхасіка. І ў самой хаце, мабыць, пазабываліся, дзе ён любіў сядзець, як сыпаў жартамі. Згубіўся недзе і карчмароў талес. Затое памяць людская не забылася на Евеля. І хоць цяпер у хаце жылі Евелеў сын Мэндаль з жонкаю Ханаю ды з дваімі дзецьмі — Розаю і Хаімкам,— усё роўна хату звалі Евелевай карчмою.

І от у гэтую самую Евелеву карчму яшчэ на самым ранку зайшоў Міход Мацюк. Зайшоў, даў «добры дзень» Мэндалю, Хане і нават дзецям. У Мэндаля душа павесялела: няпраўду плешчуць языкамі, што немцы — звяры, нелюдзі, знішчаюць яўрэяў. От жа зайшоў прадстаўнік іхняй улады, і — бач, які ён! Як шаўковы. А Міход Мацюк

сапраўды быў лагодны. Гаварыў ветліва, спагадліва, ніводнага шурпатага слоўца.

— Ведаеце, дзядзька Мэндаль, што вам трэба будзе зрабіць?

— А што, чалавеча? — затрывожыўся той.

— Ёсць загад гардзеевіцкага каменданта: усім, хто не праваслаўнай веры, асабліва іудзейскай, трэба з'явіцца туды на рэгістрацыю. Немцы — гэта вам не нашы. Гэтыя любяць, каб усё ў іх было цот у цот, каб усё ім знаць ды ведаць.

— Дык а што там будзе, Міходка? — калаціліся вусны ў Ханы, калі яна пыталася.

— Ат, што там будзе! Можа, нічога і не будзе. Запішуць у тоўстую кнігу дый дадому пусцяць.

— Дык гэта што, Міходка, мне аднаму ісці? — пытаў Мэндаль.

— Не, не, усім дазвання — і старым і малым.

— Дык чаго туды ўсім?

— Мала хіба чаго? Камендант, можа, хоча паглядзець на вас.

— Ой, чуе маё сэрца нешта нядобрае,— затрывожылася Хана і пачала апранаць як цяплей дзяцей.

Міход адышоўся з Мэндалем трошкі ўбок і горача зашаптаў яму:

— Калі ты не будзеш дурны, дык будзеш жыць.

— Як гэта, Міходка? Ты скажы, я табе дзякаваць буду ўвесь свой век.

— Калі ў цябе ёсць во...— Міход пацёр пальцам аб палец і тым самым выразна паказаў: калі ў цябе ёсць грошы...

— Якія? — папытаў Мэндаль.— Савецкіх трохі ёсць.

— На чорта тыя савецкія каму. Выкінь іх на сметнік. Немцам трэба тыя, каторых іржа не бярэ. Калі ў цябе ёсць тыя, то і я б табе памог. Я з гэтым камендантам запанібрата. Ужо колькі разоў чарку пілі. Ён хоць і немец, а чалавек харошы. І любіць гэтае во! — Міход зноў пацёр пальцам аб палец.

— Дык як жа мне зрабіць? — амаль што прызнаўся Мэндаль, што ў яго ёсць грошы, каторых іржа не бярэ.

— А ў цябе іх багата? — зноў горача зашаптаў Міход.

— Трохі ёсць.

— То давай палавіну мне. А палавіну яму ў рукі. Як ён цябе выкліча ды будзе адзін на адзін, дык ты і высып перад ім на стол. У яго аж вочы загарацца. І ён табе ска-

жа: «Ідзі, Мэндаль, у свае Бацькавічы, на чорта цябе сюды прыгналі». А тым часам і я на кані туды падскочу ды яму пашапчу трохі.

— От дзякую табе, Міходка, усё ж такі не казаў бы то свой чалавек,— прамовіў Мэндаль і пайшоў у сенцы. Неўзабаве ён прынёс поўную жменю залатовак. І так, каб ніхто нават з сям'і не бачыў, палавіну адсыпаў у Міходаву жменю, а другую палавіну Міход сказаў высыпаць у праву кішэню пінжака, каб там, у каменданта, падхватна было дастаць іх і высыпаць на стол.

Міход высыпаў залатоўкі ў сваю кішэню і ўсё перабіраў пальцамі. Пералічыў іх. Было пятнаццаць штук. Але ён не ведаў, ці там былі чырвонцы, ці пяцёркі. Залатых грошай на сваім вяку не даводзілася бачыць, тым больш трымаць у кішэні. Міход бачыў, што Мэндаль тую палавіну, якая асталася ў яго каменданту, высыпаў, як ён і раіў, у правую кішэню пінжака.

— Хутчэй, хутчэй апранайся,— пачаў прыспешваць Мэндаля, бо Хана з дзецьмі былі ўжо апрануты.

— На чорта вы гэтае новае паапраналі? Старызну пападзявайце якую. Вы ж не на шабас ідзяце.

Хана з дзецьмі пераапрануліся ў старызну. Мэндаль прыкрыў плечы тым кажухом, у якім яшчэ зімою хадзіў у калгасную стальмашню на работу.

— От і добра! — агледзеўшы Пінхасікаў, сказаў Міход.— Не вялікія паны тыя немцы, каб перад імі выфрэнчвацца. І вы, цётка Хана, здыміце гэтую клятчастую хустку. Навошта вам кідацца ў вочы,— параіў Міход.

Хана паслухала парады і абкруціла галаву нечым шэрым, як мех. Выйшлі з хаты. Мэндаль хацеў замкнуць на вісячы вялізны замок дзверы, але Міход і тут падскочыў:

— Давайце, давайце я замкну і ключ з сабою вазьму. Я ж тут, у Бацькавічах, гаспадар усяму, і ў мяне ўсюды павінен быць парадак.

Тры паліцаі праз увесь час, пакуль Міход валаводзіўся, стаялі напагатове на дарозе, як канвойныя.

— Чаго ты там доўга так бавіўся? — спытаў адзін з іх, скачучы з нагі на нагу.— Як не паабмярзалі.

— Ну то ідзіце ўжо,— ні то параіў, ні то загадаў Міход.

Два паліцаі сталі з аўтаматамі спераду, а той, каторы пытаўся, астаўся ззаду.

— Шагам марш! — скамандаваў пярэдні.

Міход на момант затрымаў задняга і зашаптаў яму:

— От чорт — ад смерці хоча адкупіцца. Ты, Пракоп,

не забудзься. У правай кішэні пінжака ў гэтага дурня насыпана залатовак. Каменданту хоча аддаць, каб адкупіцца. Дык ты па дарозе так, каб хлопцы не бачылі, выграбі іх з кішэні, і падзелім напал.

Міход пастаяў яшчэ трошкі, паглядзеў услед, потым плюнуў сабе пад ногі і сказаў:

— Туды ім і дарога...

З двароў — з-за шулаў і з-за парканаў — выглядалі бацькаўчане. Божкалі, спачувалі горкай долі Мэндаля і яго сям'і.

А ў тую ноч у Хімінай хаце вось што адбылося. Толькі гэта яна патушыла святло, пакладіся спаць і нават пазасыналі першым моцным сном, у шыбу нехта пабразгаў.

— Хто там? — усхапілася Хіма.

— Свой, свой, адчыніце.

— Хто ты, свой?

— Адчыніце, пабачыце.

Галя таксама падскочыла з пасцелі. Накінула на сябе адзежыну і стаяла ў чаканні.

Цётка Хіма адамкнула дзверы, і ў хату ўвайшлі два мужчыны з аўтаматамі.

— Дык ці вы мяне не пазналі, цётка Хіма? — запытаўся адзін з іх.

— Дык гэта мо ты, Кадзя?

— Я і ёсць.

— А гэта хто?

— Гэтага вы не ведаеце, ён не бацькавіцкі. У вас у хаце нікога лішняга няма? — запытаў той, каго Хіма назвала Кадзем.

— Лішняга няма. Адны свае.

— Як, хіба вы не адна?

— Не адна, не адна. Тут у мяне... Галя, ты не спіш? Выйдзі бо сюды.

Кадзя ў цемрыве аглядаў Заранку, распытваў, хто яна, адкуль і чаго тут апынулася. Галя ўсё расказала: як яна з сынам уцякала ад немцаў і як яе тут пераняла і запыніла вайна.

— Дык ты не бойся, калі што трэба. Яна свая,— сказала цётка Хіма гэтак, што не паверыць ёй нельга было.

— Дык от, цётка Хіма, і вы, як вас? — не запомніў Заранчынага імя Кадзя.

— Галя.

— І вы, Галя. Выручайце нас. Без хлеба ў лесе сядзім. І муку маем, а спячы няма дзе. Дык мы па сваіх людзях

рашылі развезці і папрасіць, каб панапякалі. Вам два мяшэчкі мукі прывезлі. Мабыць жа, самі ведаеце, як без хлеба ў лесе, ды яшчэ ў такую халадэчу.

— То трэба ж выручаць, мабыць? — зірнула на Галю цётка Хіма.

— Вядома, трэба,— пацвердзіла Галя.

— Мікола, ідзі ды паперанось тыя мяхі ў сенцы,— сказаў як загадаў Кадзя.

За Міколам выйшла і цётка Хіма. Кадзя яшчэ раз паглядзеў дапытліва на Галю і запытаў:

— Дык вы, кажаце, свая, наша?

— Канечне!

— А чым вы гэта дакажаце?

— Чым толькі трэба, тым і дакажу,— выказала сваю рашучасць Галя.

— Вы вот што: увайдзіце як у давер да гэтага галоўнага бацькавіцкага паліцая Мацюка, майго стрыечнага пляменнічка.

— Вашага пляменніка? — здзівілася Галя.

— Так яно і ёсць, пляменнічка, не здзіўляйцеся. Законы класавай барацьбы такія, што бацька з сынам часам могуць загрудкі пабрацца. Дык вось, увайдзіце ў давер да яго і распытвайце ўсё, а потым нам паведамляйце. А от як паведамляць, давайце падумаем.

— Не ведаю як.

— Прыдумаў... Там на ўзлессі ёсць старая дуплянатая асіна, дык вы ў яе дупло і будзеце класці пісулькі. Толькі як гэта вам паказаць яе? — задумліва чухаў патыліцу Кадзя.

— Чакайце, чакайце,— як бы спахапілася Галя і пайшла ў другі пакой. Раскатурхала Вадзімку і загадала яму апрануцца як цяплей.

— Навошта, мама? — прадзіраючы ад сну вочы, не мог даўмецца малы.

— А от паедзеш з гэтым дзядзькам, і ён табе пакажа нешта.

Тым часам цётка Хіма з Міколам перанеслі ў сенцы муку з саней і ўвайшлі ў хату.

— Дык вы, цётка Хіма, спячыце як найбольш хлеба, і — ведаеце што? — там пад плотам намяло гурбу снегу, дык вы і закапайце яго ў снег, а мы прыедзем уночы і забяром.

— Дык ён жа там, дзеткі мае, пазмярзаецца.

— Не бяда. Мёрзлы хлеб ды яшчэ з мёрзлым салам — гэта ж такая смаката, што лепшай і не трэба.

— Хадзем, хадзем, Кадзік,— прыспешваў Мікола,— а то і дзень можа нахапіцца.

— О, яшчэ да дня можна тры разы сюды прыехаць,— супакойваў Кадзя.— Хадзем, хлопчык,— звярнуўся ён ужо да Вадзімкі.— Мы цябе пракатаем і назад прывязём.

З хаты выйшлі ўтрох. Толькі тады як бы спалохалася цётка Хіма.

— Дык а куды ж яны ўзялі Вадзімку?

— Падкатацца хлопец захацеў. Вы ж ведаеце, як ён любіць на санях катацца.

— Любіць-то любіць, але ты, мабыць, матка, не любіш яго. Гэта ж трэба ў такі мароз ды сярод ночы дзіця выправіць катацца. Ды на мяне, дык я б яму пляскачоў дала. Няхай бы тут пакачаўся па хаце.

— Нічога з ім не станецца. Ён жа не маленькі,— старалася як спакайней гаварыць Галя,— хоць у самой сэрца як не разрывалася, як не заходзілася ад балючай трывогі за хлопчыка.

Калі выйшлі ўсе з хаты, цётка Хіма пазавешвала посцілкамі вокны і запаліла газоўку.

— А цяпер давай, мая галубка, хлеб учыняць. Ты ж чула, як ён казаў, што там без хлеба сядзяць. Дзве дзяжы ўчынім. Тая, што я сабе пяку,— маленькая. На гарышчы ў мяне яшчэ ёсць старая дзяжа, большая. А печ у нас вялікая. Калісьці была сямейка ладная.

Крэкчучы і божкаючы, цётка Хіма палезла па драбінках на гарышча. Галя прыняла ў яе з рук старую, ужо счарнелую дзяжу. Гаспадыня дастала з печы чыгун цёплай вады, паставіла на ўслон дзве дзяжы і ўчыніла з тае мукі, якую партызаны скінулі ў сенцах, два печывы хлеба.

— Да снедання ён і падыдзе,— сказала Хіма.— А цяпер давай спаць.

Тым часам вярнуўся і Вадзімка. Ён быў узрушаны і ніяк не мог заснуць.

— Мама, а якое там глыбокае дупло! Ты нават і не бачыла такога.

— Добра, сынку, што глыбокае. Спі, спі, ужо нярана.

Прачнуліся ўсе пазнавата ўжо. На вуліцы было, як звычайна, сонна і ціха. Людзі рэдка з хат выходзілі.

Пасля снедання Хіма ўнесла дроў-аблетку і запаліла ў печы. Удваіх яны гладзілі боханы, падсыпалі на лапату

высевак і садзілі на под. Хіма раз-пораз адчыняла заслонку, ґлядзела, каб, барані божа, не перапёкся хлеб.

І от ужо хлеб спёкся. Хіма павымала боханы і паставіла на ўслоне пры сцяне, каб астывалі. У хаце запахла печаным хлебам. Цётка Хіма, набраўшы ў жменьку з карца вады, абгладжвала кожны бохан, мо для таго, каб блішчала скарынка, а мо каб ён не адсеў, і накрыла доўгім вышываным ручніком, які яна вешала на абразы перад вялікімі святамі.

У той самы час, як запахла печаным хлебам, адчыніліся дзверы і даў свой «добры дзень» Міход.

— Навошта вы столькі гэтага хлеба напяклі? — пытаўся ён.— Гэта ж на траіх вас, можа на паўгода хапіць.

— Гэта ты, Міходка? А я думала — які ліхі чалавек,— залямантавала цётка Хіма.

— Я, я, не бойцеся.

— Цяпер жа такі свет настаў, што і самой сябе часам баішся.

На Міходаў голас і Галя выйшла з другой палавіны.

— Добры дзень, паня,— павітаўся паліцай.

— Дык чаго гэта я паняй ужо стала?

— А хіба мы вам раўня? Мы ж вясковая галытва, абдзіркавая рэспубліка. А вы ўсё ж такі гарадская.

— Цяпер і я не гарадская.

Перакідваліся словамі, якія вязаліся ў нейкую нязладную, пустую гаворку. Потым цётка Хіма запаліла газоўку, і Міход яшчэ раз зірнуў на два рады боханаў.

— Навошта вы гэтага хлеба столькі напяклі? — папытаў другі раз.

— Цяперашнім светам ды цяперашнім часам,— як не прычытала цётка Хіма,— дык і трэба, каб хлеб быў у запасе. Хіба ж ты не чуў: то ў адным, то ў другім баку гараць вёскі. А хіба ж мы застрахаваныя ад гэтакай бяды?

— Дык і хлеб жа ваш згарыць.

— Не згарыць. Мы ведаем, як яго ўхаваць,— у снег пазакопваем, і ён мерзлы там да вясны можа праляжаць.

— Бач, якая вы здагадлівая, цётка Хіма, а я не ведаў.

— Жыццё пражывеш, дык, як той казаў, навучышся па вяку варыць і ў гляку.

— Не бойцеся, не бойцеся, пакуль я тут, нашы Бацькавічы не пойдуць дымам,— заспакоіў Міход.

— То дзякаваць богу, што ён даў нам такога заступніка.

— А цяпер от давайце закусь, цётка Хіма. То я ў вас

прасіў, а сёння прыйшоў са сваёй пляшкай.— Міход дастаў і паставіў на стол заткнутую пакуллем бутэльку.— Урэжце акрайчык свежага хлеба ды пашукайце ў каморы марожанага сальца. Я гэтак яго люблю.

Гаспадыня збегала ў камору і хуценька прынесла брусок марожанага сала. Міход сам узяў з услона свежы бохан і адкроіў сваім складаным пожыкам ладны такі акраец.

— Сядайце, Галя,— запрасіў ён.

— Вы ж ведаеце, які з мяне піток,— адказала яна.

— Ат, не піток, не піток. Няма тут чаго і каго саромецца. Кожная душа прагне выпіць, толькі каторыя чагосьці саромеюцца.

— А мая не прагне.

— Няпраўда, я не паверу, што ёсць такая душа, якая не хоча выпіць.

Памятаючы Кадзеў наказ, Галя села поруч з Міходам. Яна была ласкавая, кідала на яго вачыма. Старая Хіма і тая здзівілася: што гэта стала з жанчынай?

Міход наліў у дзве гранёныя шклянкі — адну поўную сабе, другой палавіну Галі. Чокнуліся.

— Будзем здаровы.

— Дай бог.

З Міходавай шклянкі забулькатала самагонка-пяршак яму ў рот, а Галя крадком выліла сваю за ўслон.

— От, бачыш, і выпіла,— пахваліў Міход,— а казала, што і ў рот не бярэш. Я ж кажу: няма тае душы праведнай, якая б не саграшыла з гэтым зеллем.

— Ды і моцная ж,— нібы пацвердзіла, што яна выпіла, сказала Галя.— Тады ў мяне не было настрою. Выпіць — гэта ж як калі настрой.

Галя адчула, што Міход прысунуўся да яе гэтак блізенька, што дакрануўся да яе нагі.

— Ты ж тут, у гэтай цёткі Хімы, марнееш. Яна, праўда, і добрая цётка. Але чаго табе паневярацца ў яе. Я табе магу такую жытку даць, якая табе і не снілася ніколі.

— Якую? — здзівілася Галя.

— А от якую,— Міход дастаў з кішэні жменю залатовак і перасыпаў іх з аднае рукі ў другую.

— А што гэта такое? Бразготкі нейкія?

— Добрыя бразготкі. Гэта ж золата...

— Якое золата?

— Залатое золата! Самае звычайнае, за якое людзі раскашуюцца.

— Я ніколі не бачыла, якое тое золата.

— Дзе ты яго магла бачыць? У нашага брата яго і звання не было.
— Дык дзе ж вы ўзялі?
— Дзе ўзяў, там больш ніхто не возьме. І яшчэ табе магу от што! — Міхол выняў з кішэні ключ, навязаны на звычайную канапляную шворку.— Ідзі займай сабе хату і раскашуйся як хочаш.
— Якую хату? Чыю хату?
— Евелеву карчму.
— А дзе ж яны?
— Іх заўтра ўжо і на гэтым свеце не будзе.
— А дзе ж яны будуць?
— На тым.
Міход з п'янай галавы прагаварыўся Галі, што заўтра пад вечар у Гардзеевічах будуць расстрэльваць гардзеевіцкіх і сагнаных з навакольных вёсак яўрэяў. Галя слухала яго крывавую споведзь так, быццам яна была заадно з ім.
— Дык пойдзеш у Евелеву карчму? То на ключ. Будзеш сама сабе гаспадыня.
— Не, не пайду, Міходка,— сказала як мага ласкавей Галя.— На чужым няшчасці я не хачу будаваць сваё шчасце.
— Дурная, дый годзе, хоць і гарадская. Хто гэта цяпер глядзіць, на чым няшчасці. Цяпер што запарваў, тое і тваё.
Міход залпам спаражніў пляшку, вылез з-за стала і выцягнуў за руку Галю. Павёў у другі пакой. Абхапіў як мядзведжымі лапамі і задыхаў ёй у твар перагарам.
— Ты стань маёй, дык будзеш жыць як у бога за пазухай: і золата тваё, і ўсё тваё, і я твой. Я цябе ўсё роўна як даўно яшчэ ў сне бачыў.
— Не, не, Міходка. Цяпер не час. Ты ж ведаеш — вайна ўсюды. Усюды толькі адно няшчасце ў людзей, а ты хочаш, каб мы з табою былі адны шчаслівыя.
— Я хачу, каб ты была маёй...
— Не, не, Міходка, не час. От прыйдзе вясна, лета...
Як на тое, у пакой забег Вадзімка. Чагосьці пашукаў пад ложкам і выбег. Галя бачыла, што паліцай як не разарваць гатовы быў хлопчыка.
Міход неяк згорбіўся, абяссілеў і выйшаў у пярэдні пакой.
— Дык я пайду ўжо. Бывайце,— развітаўся ён.— І не бойцеся, не пячыце больш хлеба ў запас. Пакуль я тут, нашых Бацькавіч ніхто не зачэпіць.

— Ну, то дзякуем табе, Міходка,— сказала на развітанне Хіма.— Дык чаго бо то ён да цябе?! — папытала яна ў Галі.

— А ліха яго ведае.

— Ліха-то ліхам, але ты не паддавайся недавярку.

— Не паддамся!

На другі дзень раніцай Вадзімка збегаў да дупла старой ралаватай асіны. Баяўся, што не знойдзе яе. Але знайшоў.

Быў якраз калядны дзень. Набожныя бацькаўчане ішлі ў міцькавіцкую царкву адзначаць дзень нараджэння Хрыста. Між парафіян яны ўгледзелі і Міходаву матку Вару. Яна была ў клятчастай суконнай хустцы, якую добра ведалі ўсе бацькаўчане,— то была хустка Мэндалевай Ханы.

## Раздзел чатырнаццаты

Ніхто — ні гардзеевіцкі камендант, ні бургамістр, ні начальнік паліцыі — не мог даўмецца, адкуль партызаны ўведалі пра іхнюю акцыю. У панядзелак сабралі чалавек пад сотню яўрэяў, гэтак пасля абеду выгналі на вуліцу і пагналі пад канвоем нямецкіх аўтаматчыкаў і паліцаяў у канец гарадка, у былы парк. Там была ўжо загадзя выкапана яма, на дне засланая яловымі лапкамі, быццам хто паклапаціўся, каб і ў яме было мякка ляжаць. Мужчыны, якія капалі яму, не ведалі, навошта яна. Яма ўшыркі была акурат у рост чалавека, а даўжынёй метраў з дзесяць.

— А навошта гэтая яма? — пыталі мужчыны-далакопы ў паліцая, які іх прыганяў і тут пільнаваў.

— А чорт яго ведае. Можа, бульбу якую ссыпаць будуць,— адказаў той.

Даведаліся толькі тады, што «тут будзе», як на край ямы прыгналі яўрэяў: старых, малых, мужчын і жанчын. Прыгналі, паставілі тварамі да ямы, і залапаталі, заклекаталі аўтаматы. Людзі, нібы на што спатыкаючыся, падалі ў яму.

Паявіўся там і Міход Мацюк. Ён прыехаў на кані ў парк. Прывязаўшы гнядога непадалёк да дрэва, сам пайшоў да тых, што стралялі. Спіну Мэндаля Міход пазнаў па кажусе. Пазнаў Хану і дзяцей. Зняў з шыі аўтамат і адзіночнымі стрэламі прашыў навылет Мэндаля, Хану і іх дзяцей. Цяпер ніхто пра тое золата і заікнуцца не зможа. По-

тым ён страляў ужо ў незнаёмых і невядомых. Страляў для таго, каб бачыў камендант, што ён, Міход, не мае ніякай літасці ні да юдаў, ні да чырвоных. Ужо ўсе тыя, што стаялі на краі ямы, нападалі ў яе, каторыя мо і жывыя. Салдатня і паліцаі адразу ж узяліся за рыдлёўкі — завальваць мёрзлым камлыжжам і сыпкім снегам яму.

Акурат тады, калі ўжо яма была завалена, але яшчэ на ёй варушыўся снег, і адбылося тое, чаго не чакалі ні немцы, ні паліцаі.

Быццам пад нечакана наляцелай бурай затрашчалі старыя абымшэлыя дрэвы парку, застагнала зямля: яе і нават неба скаланула магутнае партызанскае «ўра!». З усіх бакоў свісталі кулі, ірваліся гранаты. Немцы і паліцаі падалі на снег, як абмалочаныя снапы.

Міход з усіх ног кінуўся да каня. Ускочыў верхі і апантана пагнаў на ўсю сілу. Калі ад'ехаў як далей ад парку, успомніў, што сярод тых, хто наляцеў на немцаў і паліцаяў, ён бачыў нібы свайго стрыечнага дзядзьку Кадзю. Паспрабаваў адагнаць ад сябе гэты прывід, але ён не адыходзіў. Так, то быў ён, Кадзя: у тым дублёным паўкажушку, які яшчэ пашыў залетась. «Не, не ён!» — стараўся адагнаць ад сябе настырную здань Міход. «Хіба мала ў каго такія кажушкі»,— сказаў ён сам сабе і супакоіўся.

А на другі дзень у тым жа гардзеевіцкім парку хавалі паліцаяў і немцаў. Паліцаяў у агульнай яме. Немцаў — кожнага ў асобнай магіле і пад бярозавым крыжам. Калі хавалі немцаў, граў аркестр, грымеў ружэйны салют. Былі на пахаванні бургамістр і начальнік паліцыі. Каменданта не было. Шукалі і яго сярод забітых, але не знайшлі.

Ні ў той, ні ў другі, ні на трэці вечар Міход не прыйшоў у Хіміну хату. Цяпер яму было не да любошчаў. Хіба ім загадаеш, тым партызанам: от возьмуць ды і павернуць з лесу не на Гардзеевічы, а на Бацькавічы, і тады развітвайся з жыццём. Таму начальнік паліцэйскага гарнізона Бацькавіч Міход Мацюк быў гатовы да ўсяго: накапалі яшчэ акопаў і размеркавалі, каму які акоп займаць на выпадак небяспекі. І сам Міход удзень і ўночы правяраў пасты, ці пільна нясуць варту. Па вёсцы хадзілі парныя патрулі, і сам хадзіў з імі вуліцаю. За прыгуменнямі кінуўся яму ў вочы санны след з лесу да Хімінага агарода. Пастаяў, паглядзеў на след і папытаў у патрульных:

— Як вы думаеце, хлопцы, хто гэта мог тут ездзіць?

— А чарты яго ведаюць. Можа, хто на дровы ў лес ездзіў.

— Дык чаго ён не дарогаю, а напрасткі?

— А чорт яго ведае.

Міходу карцела пабразгаць у вокны Хімінай хаты, зірнуць хоць адным вокам на Галю. Можа б, яна от так з холаду і пусціла б яго да сябе. Пры той жа апошняй сустрэчы яна была вунь якая ласкавая. Але Міход адагнаў ад сябе гэтую спакуслівую думку і вярнуўся з патрульнымі да школы.

А там быў гармідар. Прысоўгаўся, прывалокся ў Бацькавічы сам нямецкі камендант Гардзеевіч пан Штрыпке. У час налёту партызан ён неяк апынуўся ў лесе і блукаў з аўтаматам напагатове некалькі сутак, баючыся вярнуцца ў Гардзеевічы: а раптам там заселі партызаны.

Перад паліцаямі пан камендант не хацеў паказваць, што дужа галодны. Таму ён адвёў Мацюка ў другі пакой і зашаптаў:

— Я очан ест хоча. Чварта суткі ў рот ніхт нішога.

— Пан камендант, я зараз, у адзін мент, хай толькі трошкі развіднее. Цяпер жа ноч, і куды ты пойдзеш шукаць. А тут у нас нічога ніхт.

Яшчэ гадзіны з чатыры пану каменданту давялося падцягваць папружку. Каб яшчэ трошкі, дык не было б як і падцягваць: на папружцы ўжо была апошняя дзірачка.

Міходава матка Вара, як яе тут усе звалі, Мацючыха, бегала, завіхалася. Дзіва што: такі госць! Такі госць! Яна запаліла раней за ўсіх у Бацькавічах у печы, сагрэла поўны чыгун вады. Міход паліваў пану каменданту над цэбрам, а той аж фыркаў ад прыемнасці. Потым Міход дастаў з прыскрынкановенькую брытву, якую ён узяў у Мэндалевай хаце, развёў мыла, паставіў на стол стаячае люстэрка, каб Штрыпке агледзеў сябе.

Штрыпке зірнуў на бліскучае лязо брытвы і аж зацмокаў:

— О, гут, гут, карош «Золінген». Дойчэ цывілізацый...

Пагаліўшыся, пан камендант стаў падобны на самога сябе: адно толькі шчокі прыўпалі.

На стол ставілася варанае, парапае і смажанае. А паміж усяго наедку стала трохчацвяртная цыбатая бутэлька.

— Шнапс? — кінуўшы вачыма на бутэльку, спытаў Штрыпке.

— Шнапс, шнапс! Сваёй работы,— адказаў Міход і наліў поўныя, як вока, грапёныя дзве шклянкі.

Міход панёс сваю шклянку да рота, а Штрыпке бавіўся,

глядзеў, як п'е гаспадар. Толькі тады, як Міход асушыў сваю шклянку, Штрыпке выпіў і аж закашляўся.

— Шнапс гут, гут, моцны.

— Хіба ж для такога госця я квасу якога пастаўлю? У мяне для кожнага госця ёсць свой мацунак.

— О, гут, гут! — хваліў Штрыпке, асушыўшы шклянку.

Камендант еў як не ў сябе. Браў смажанае сала, padчапляў на відэлец яечню, даставаў кілбасу. Неўзабаве давялося адпусціць папружку з апошняй зноў на трэцюю дзірачку. Самагонкі, як ні набіваўся Мацюк, якому не так каменданта хацелася ўчаставаць, як самому выпіць яшчэ, Штрыпке больш не ўзяў.

— Вы піце, піце, пажалуйст,— дазволіў камендант, і Міход кульнуў яшчэ адну гранёную шклянку, крэкнуў, быццам падняў што цяжкае, і заткнуў бутэльку.

А немец, ці то ад яды, ці ад выпітай шклянкі, зусім разамлеў. Замармытаў нейкую сваю мелодыю і высунуўся з-за стала.

— А цяпер шляфен, шляфен, пажалуйст.

Міход маргнуў матцы, каб тая хуценька раскінула на панікеляваным ложку пасцель, і павёў яго туды. Штрыпке ніяк не мог сцягнуць хромавых ботаў. Высільваючыся, іх сцягнуў Міход. Памог зняць мундзір. Сам сцягнуў і штаны. Камендант рынуўся ў пасцель. Пісталет і планшэтку падклаў пад падушку. І адразу захроп.

Міход тым часам узяў камендантавы боты. Выняў з халяў шкарпэткі і анучы, аддаў матцы, каб яна памыла іх і пасушыла перад чалеснікамі. Сам жа ўзяўся мыць цёплаю вадою над цэбрам камендантаў абутак. Вымыў так, што нідзе ні гразінкі, ні плямінкі. Пачакаў, пакуль абсохла вада, і ўзяўся глянцаваць іх крэмам і шчоткай. Неўзабаве боты так блішчалі, што ў іх можна было глядзецца, як у люстэрка. Потым Міход са шчоткай пахадзіў каля шынялья. Доўга адціраў тлусты пот з каўнерыка мундзіра. Загадаў матцы распаліць прас і сваімі рукамі адпрасаваў штаны так, што аж канцікі на іх сталі знаць. Усё акуратненька павесіў на спінку крэсла і пачаў шукаць, што б яшчэ зрабіць для пана каменданта. Але рабіць ужо не было чаго. Паліцай, баючыся пабудзіць пана каменданта, хадзіў па пакоі, як кот на кіпціках. Хацеў збегаць у школу і паглядзець, як там без яго служба ідзе, але прыкінуў: а раптам прачнецца пан камендант, а яго не будзе, дык што ён падумае?

Камендант не прачынаўся, быццам ён хацеў адаспацца за ўсё, чаго недаспаў за трывожныя суткі блукання. Кароткі зімовы дзень здаўся Міходу за год. А камендант хроп, кідаўся ў сне і несамавіта крычаў:

— Хайль Гітлер! Хайль Гітлер!

— Што гэта ён усё «хай Гітлер» ды «хай Гітлер»?

— Ды не «хай», а «хайль».

— А я ніяк не магла ўцяміць.

— Не з тваёю галавой тут уцяміць. Ідзі вунь абед гатуй, а то ж, можа, хутка прачнецца, колькі ж яму спаць,— як не загадаў матцы Міход.

Зноў у печы запалалі дровы. Зноў варылася, смажылася, парылася.

Камендант Штрыпке прачнуўся ўжо на змярканні. Зірнуў на наручны з чорным цыферблатам гадзіннік і сказаў:

— О, шляфен многа, многа. Думаў — цвай, драй, фір час. А многа, многа нельга так. Чаму не разбудзіль?

— Пашкадаваў, паночку. Вы так смачна шляфен, што пашкадаваў.

На твар каменданта ўзбегла задаволеная ўсмешка, тым больш што ён угледзеў наглянцаваныя боты, адпрасаваныя штаны і вычышчаны мундзір.

Зноў селі за стол, на якім тыя ж наедкі, што і раніцай, хіба толькі з той розніцай, што яшчэ была пастаўлена міса з наварыстым баршчом. Зноў стаяла тая ж самая цыбатая бутэлька, напоўненая па самае рыльца. Цяпер ужо, чокнуўшыся, камендант не чакаў, пакуль першы вып'е Міход. Пастараўся апярэдзіць гаспадара і закусваў з большай ахвотай, чым раніцай, хоць тады ён быў дужа галодны. Штрыпке асвойтаўся ў Міходавай хаце і хадзіў па ёй, як сам гаспадар.

Увечары таксама яны нікуды не пайшлі. Штрыпке загадаў пазавешваць вокны і запаліць святло. Дастаўшы з планшэткі аркуш паперы, ён нешта пачаў пісаць. Задумваўся, падпіраў рукою галаву і пісаў. Міход вярцеўся ля яго. Кідаў вачыма на паперу, але нічога не мог зразумець — пісалася па-нямецку.

— Хазарычы адсюль далёк? — дастаўшы з планшэткі і разгарнуўшы на стале палявую карту, папытаў камендант.

— Як вам сказаць, не очан,— падрабляючыся пад каменданта, адказаў Міход.— Кіламетраў якіх дваццаць пяць па бальшаку, а наўпросткі дык і яшчэ менш.

— Наўпросткі,— паглядзеў на заштрыхаваныя зялё-

ным квадраты карты камендант.— Наўпрасткі піхт, піхт. Партызан, бандыт. Павезель данясень дарогай.

— Хто? — тыцнуў сябе ў грудзі пальцам Міход.— Я?

— Так! Так! Веру табе, давераль табе.

Міход аж выскаліўся ўсмешкай задавальнення.

— Я ўсё зраблю, паночку, гер камендант. А што гэта ў ім?

Штрыпке зірнуў на хату, паглядзеў, ці няма лішніх вачэй і вушэй, і зашаптаў:

— Начальнік Хазарыч гарнізон. Там дойчэ зольдат, эсэс.

З таго, што доўга тлумачыў Штрыпке, Мацюк зразумеў: камендант прасіў у начальніка хазарыцкага гарнізона маёра Дзітрыха Грабке падмогі. Прасіў на будучую сераду падаслаць у Гардзеевічы хоць роту эсэсаўцаў з усім узбраеннем і ладункам, а ён тут мабілізуе ўсіх сваіх вайскоўцаў, паліцаяў, і агульнымі сіламі дадуць рады гардзеевіцкім партызанам, якіх па тых вестках, якія мае ён, Штрыпке, не гэтак ужо і многа.

— Ёсць тэрмінова даставіць! — выструніўся па-вайсковаму Міход.— Я на каня — і ў адзін мент.

— Конь, конь, карош, гут,— захапляўся ўвішнасцю і гатоўнасцю начальніка бацькавіцкай паліцыі Штрыпке.— Толькі ў рукі маёру Грабке.

А на раніцу капітана Штрыпке садзілі ў сані з розвальнямі, намошчанымі саломай і сенам. Села з ім і чалавек з пяць паліцаяў з аўтаматамі напагатове. Сані рушылі на Гардзеевічы, у якіх усё яшчэ, як здавалася Штрыпке, гаспадараць партызаны, хоць тыя пасля запозненага налёту адышлі адразу ж у лес.

А ў другі канец бальшака, на Хазарычы, кінуўся конна Міход Мацюк з сакрэтам, які толькі ведалі ён і камендант Штрыпке ды хутка ўведае начальнік хазарыцкага гарнізона маёр Дзітрых Грабке, даўні прыяцель і саслужывец гардзеевіцкага каменданта.

Цётка Хіма і Галя думалі ўжо, што галоўны бацькавіцкі паліцай Міход Мацюк зусім адцураўся іх хаты. Аж не! У нядзелю пад вечар прыйшоў. Настрой у яго быў добры. Жартаваў, смяяўся і як не лістам слаўся перад Галяю. Міход кінуў вачыма па хату, на той услон, дзе тады стаялі боханы хлеба, і запытаў:

— А дзе ж вы той хлеб падзелі?

— Ат, дзетка мая,— азвалася Хіма,— на хлеб заўсёды знойдзецца рот. Што самі паелі, а што і людзям паадда-

лі. У снег не закопвалі. Паслухаліся цябе і не закопвалі. Калісь да вайны дык адно жабракі сляпыя хадзілі ды прасілі міласціну. А цяпер жа ўсе — як жабракі. Цяпер жа вунь колькі іх ходзіць.

— Дзе, хто ходзіць? — насцярожыўся Мацюк.

— То жанчыны, то мужчыны, то дзеці, і ўсе ж яны хлеба хочуць. Дык і параздавалі.

— Дык, можа, не асталося і на закуску нічога? А мне ж сёння вунь як хочацца выпіць. Пашукайце, цётка Хіма.

— То дзе я табе яе пашукаю?

— Пашукайце, пашукайце, не ўгінайцеся.

І цётка Хіма, мусіць, каб адкараскацца ад гэтага чортавага паліцая, пашукала. Селі за стол, пачокаліся. Галя зноў рабіла выгляд, што п'е, а Міход жлукціў, як ваду. Потым зноў, як тады, ён вывеў яе за руку з-за стала і павёў у другі пакой. Пасадзіў на ўслон пры сцяне і сам сеў поруч, блізенька-блізенька. Галя адчувала, што паліцай распаляўся, але сама была спакойная-спакойная.

— Я цябе ашчасліўлю, я цябе азалачу, калі ты станеш маёю...

— Не час, любы, не час. Бач жа, што дзеецца на свеце. Цяпер жа людзі, як мухі, падаюць. Дык а што калі я стану вашай?

— Чаго ты выкаеш? — запратэставаў Мацюк.

— Дык а што калі я стану тваёй? — папраўілася Галя.— Ды ў нас дзіцятка будзе, а цябе дзе куля не міне, то як я тады з дваіма сіратамі?

— Мяне простая куля не возьме. Хіба што толькі бранябойная, дык у партызан іх няма. Дый мы хутка іх уціхамірым.

— Як?

І Міход пад вялікім сакрэтам расказаў Галі тое, што толькі ведалі ён, камендант Гардзеевіч Штрыпке і начальнік хазарыцкага гарнізона маёр Грабке.

— Навошта ж ты мне ўсё гэта расказваеш? — запытала яна.— Ты ж павінен ведаць, што, часам, і сцены вушы маюць.

— Пазатыкаем усім вушы, нават і сценам.

— А можа, я якая шпіёнка, а ты мне ўсё расказваеш?

— Хіба я не ведаю, каму расказваць.

Мядзведжымі лапамі Міход абхапіў Галю, прыціскаў да сябе, цалаваў.

— Не трэба, любы, не трэба! Няхай як трохі ўціхаміруцца...

— Мы іх хутка ўціхамірым. Яны і не пікнуць,— пахваляўся Мацюк.

— То і пачакаем таго часу, калі ўціхамірыцца. Кажуць жа, і чырвоныя вунь як наступаюць.

— Наступаюць то наступаюць, але сюды да нас не дапнуць. Толькі сваіх бандытаў нам трэба вынішчыць. У сераду мы ім дадзім пытлю. Разнясём іхні лагер дазвання, і яны, каторыя астануцца жывыя, самі пачэзнуць ад голаду ды ад холаду. От мне толькі трэба Кадзю злавіць ды сваімі рукамі задушыць. От так! — Міхол абхапіў Галю за шыю, і яна аж закрычала.

— Ды ты не бойся, я толькі паказваю, як Кадзю буду душыць, калі зловім.

— Якога Кадзю? — запытала Галя, быццам яна не ведала.

— Ды таго ж майго дзядзьку стрыечнага.

— Дзядзьку?! — зрабіла здзіўленне на твары Галя.

— А што?! Калі я яго не ўходаю, дык ён мяне ўходае.

— Дык а чаго гэта ў цябе такі зуб на дзядзьку?

— О, гэта доўгая песня. Яшчэ ад дзеда майго ідзе...

Міхол расказаў Галі, што яшчэ даўно, калі яго і на свеце не было, ягоны дзед Аверка дзяліўся з Кадзевым бацькам Нупрэем. Ніяк не маглі падзяліць пляц, асабліва сад. Пачалася сварка, а потым і бойка. Кадзеў бацька быў маладзейшы, дужэйшы, і ён аблажыў дзеда на зямлю і давай перыць нейкай пешняй. Міходаў бацька тады яшчэ хлопцам быў і ніяк не мог стрываць, што падолелі яго бацьку. Пабег, схапіў тыя вілкі, што гной накідваюць, наскочыў знячэўку і праткнуў вілкамі Нупрэю бок. Як не сышоў крывёю Нупрэй. Пачаўраў яшчэ гадоў з пяць і богу душу аддаў. Кадзя быў у той час яшчэ зусім малы. А злосць і гнеў затаіў на ўсё жыццё і на дзеда, і асабліва на Міходавага бацьку...

— Пры Саветах гэты Кадзя вунь як выскачыў: стаў камуністам, брыгадзірам у калгасе. Здаецца, ён ужо і добрым вокам на нас глядзеў, але ў трыццаць сёмым годзе падаў, гад, на бацьку.

— Што падаў? — спытала Галя.

— Падаў, што бацька контррэвалюцыянер, вораг народа.

— Яму і паверылі?

— Чаму ж не паверылі. Парцейпаму ды не паверанць.

— Ну і што?

— А тое, што бацьку забралі.

— Куды?

— Туды, куды і твайго чалавека. Можа, на Салаўкі? А можа, і на Калыму?

— Небарака,— паспачувала Галя.

— Хто небарака?

— Бацька твой.

— Так што ў нас з табою, Галя, ад аднаго кораня боль ідзе. І трэба гэты корань вырваць. І я яго вырву.

— Як?

— Уходаю Кадзю, дый годзе. Калі не ў сераду, то знайду іншы які спосаб. Я яго даўно спаліў бы і котлішча затаптаў бы, калі б нашы хлявы не стаялі страха ў страху. Падпаліш яго, дык і сам згарыш.

— Ну, дык а як ты яго іншым спосабам?

— А так...

Міход расказаў Галі, як ён мае намер зрабіць: забраць Кадзеву жонку з дзецьмі, завезці ў Гардзеевічы і абвясціць заложнікамі. Калі Кадзя не з'явіцца, дык расстраляць іх. А калі ён з'явіцца, дык, зычыць, і яму літасць.

— З'явіцца, не дзе дзенецца,— выказаў упэўненасць Міход,— ён жонку і дзяцей любіць. Не пакіне на смерць свайго...

— Гэта ж бязлітасна, Міходка.

— Хай сабе і бязлітасна. Мне ўсё роўна.

— А я думала, што ў цябе добрая, мяккая душа...

— Гледзячы для каго. Для цябе мая душа — як губка.

— А ты вунь які суровы!

— Я ж кажу, гледзячы для каго. А для цябе — вось я які! — І Міход зноў разняў рукі, абхапіў за плечы Галю і цалаваў, цалаваў. Яна ўпінался, не давалася, а ён цалаваў, прыціскаў да сябе.

— Пачакай, пачакай, Міходка, там жа вунь чуюць,— паказала Галя вачыма на дзверы.— Цётка Хіма чуе, Вадзімка чуе.

І нібы ў пацвярджэнне таго, што там чуюць, цётка Хіма забразгала посудам, а Вадзімка затупаў па хаце так, што былі чутны яго крокі.

— Няхай увесь свет чуе, няхай увесь свет бачыць, мне пляваць на ўсё і на ўсіх!

— Не трэба! Не трэба! Няхай вясна і лета прыйдуць, я ж казала табе...

Заранка знайшла ў сабе сілы, спрыту, як тады пад яблыняй з Касцікам, і гэтак штурханула Міхода ў грудзі, што ён загрымеў на падлогу. На грукат прыбеглі ў пакой

цётка Хіма з Вадзімкам. Яны ўгледзелі, што на падлозе ляжаў абернуты і паламаны самы вялікі фікус.

— От не згарыць яна, гэтая гарэлка, як у ногі дае. Хіба б я цвярозы зачапіўся за ножку ўслона ды гэтак бразнуўся? Усё гарэлка...

У Галі адлегла ад душы: значыць, сапраўды паліцай носіць думку і надзею, што яна будзе яго. Тым часам Міход заспяшаўся развітвацца. Скоса, але, як здалося Галі, не вельмі злосна зірнуў на яе.

— Прабачце, можа, што і не так,— сказала Галя.— Заходзьце да нас.

Як толькі Міход выйшаў, цётка Хіма пачала дапытвацца, як гэта яна дала рады паліцаю.

— Гэта ж ён сам упаў.

— Сам, сам! Хіба я не чула? Я ўсё чула. Толькі, можа, і не трэба было так, а то ўгнявіш чорта лысага, дык ад бяды не адкараскаешся. Ты не ведаеш, які ён ваўкалак.

— Давайце спаць, цётачка, пярэна ўжо,— сказала Галя.

А калі ўсе палеглі, паснулі, яна ўстала і пры мігатлівым святле газоўкі нешта доўга пісала. Раніцаю выправіла Вадзімку да дупляматай асіны, загадаўшы яму ісці не санным следам, а выйсці з вёскі і па цаліку. Дала ножык-складанчык і сказала нарэзаць яловых лапак. І калі хто стрэнецца ды спытае, сказаць, што хадзіў нарэзаць лапак на памяло.

## Раздзел пятнаццаты

У атрадзе Івана Леўчыка, як толькі атрымалі данясенне Галіны Заранкі, парушыўся звыклы рытм жыцця. Усё стала на ногі: пабеглі ў штаб брыгады сувязныя. Увечары Леўчык адправіў у Бацькавічы пяць партызанаў на чале з Кадзем і загадаў ім: як бы там ні было, а вывезці Кадзеву сям'ю і Галіну Заранку з сынам. Хіба ж доўга да бяды, дык навошта рызыкаваць жыццём людзей!

Трывога ў партызанскім лагеры была не марная. Ужо ў аўторак увечары лагер выпусцеў. Зямлянкі былі пакінуты, і неяк шкада было на іх глядзець. Тых, хто не патрэбен быў для бою, хто мог толькі яму замінаць, перабазавалі ў запасны лагер, які загадзя быў абсталяваны кіламетраў за пятнаццаць ва ўрочышчы Сівы Бор. Астатнія,

хто меў і мог насіць зброю, пайшлі па бітыя дарогі, якія вялі сюды з Гардзеевіч. Як і казаў Галі Мацюк, пад абед у сераду на адной з дарог паказаліся немцы і паліцаі. Яны ішлі паходным парадкам. Мо таму, што яшчэ далёка было да партызанскага лагера, гітлераўцы адчувалі сябе так, быццам гэта была мірная пара і яны ішлі на вучэбныя заняткі. Сам маёр Грабке і капітан Штрыпке ішлі наперадзе. Трошкі ззаду ў іх ішоў начальнік гардзеевіцкай паліцыі. Блізка ля яго пакручваўся Міход Мацюк. Шанцавыя мінамёты салдаты неслі на сабе, а міны да іх везлі ззаду калоны на фурманках. Калона расцягнулася мо на якіх метраў дзвесце. Пярэднія бакавыя і тыльныя дазоры таксама не вельмі адыходзілі ад бітай дарогі. Каму гэта прыемна прадзірацца праз гушчар маладога сасонніку. Мароз, праўда, быў не вельмі люты. Адчуваліся ўжо подыхі блізкай вясны, і сонца, кідаючы залатыя блёсткі на выбеленую зямлю, неяк вельмі ж хораша ўсміхалася людзям. Яно ўсміхалася і маёру Грабке, і капітану Штрыпке і мо трохі закалыхала іх пільнасць. Відаць, яны думалі: партызаны нічога не ведаюць, а да лагера яшчэ далёка, то яны на падыходзе да яго прымуць баявыя парадкі і, вядома, зваляцца ім на галаву як снег, толькі не халодны, а гарачы, вогненна-смяртэльны.

Як толькі калона прайшла непралазны гушчар сасонніку, пачуўся адзіночны стрэл. А потым быццам зямля стала на дыбкі. Загаманілі кулямёты, аўтаматы, скаланулі лясную маўклівасць гранатныя выбухі. Гітлераўцы і паліцаі не чакалі гэтага. Яны падалі на дарогу ў снег. Жывыя агрызаліся аўтаматамі і кулямётамі, але агонь іх быў бязладны. Ніхто з іх, мабыць, не ведаў, куды і ў каго страляць. Упаў як падкошаны і маёр Грабке.

Партызаны пад камандаваннем Івана Леўчыка выскачылі з гушчару і адрэзалі абоз. Нажаханыя коні кідаліся з дарогі ў гушчар і там, учапіўшыся санямі, застравалі.

Бой цягнуўся не дужа доўга. За якую гадзіну і адгрымела ўсё. Пачулася партызанскае «ўра!». Гітлераўцы кідаліся наўцёкі, але іх лавілі ці прыстрэльвалі. Паліцаі нікуды не ўцякалі. Яны збіліся ў гурт на дарозе, пакідалі зброю і калаціліся.

— Таварышы, дык мы ж свае людзі! Нас жа сілком сюды пагналі! — лямантавалі яны.

— Паглядзім, якія вы свае,— сказаў сурова Іван Леўчык і загадаў абшукаць кожнага.

Кадзя доўга шукаў сярод забітых і сярод жывых Міхо-

да Мацюка. Але ні яго, ні гардзеевіцкага каменданта не знайшлі. Пасцягвалі з дарогі ў снег забітых. Пазбіралі раскіданую зброю. Мінамёты тырчалі за плячыма ў забітых гітлераўцаў, як старыя самаварныя трубы. Пагрузілі ўсё на фурманкі.

І сярод партызан былі тры параненыя і адзін забіты. Іх беражна паклалі на воз.

Вярнуліся з аперацыі не ў той стары лагер, які пакінулі перад боем, хоць там усё было абжыта і абладжана. Чорт яго ведае: могуць жа гітлераўцы ачомацца і прыслаць яшчэ большыя сілы, каб разграміць лагер. Таму паехалі ў той запасны лагер, у які адправілі Галю Заранку з сынам і Кадзеву сям'ю.

Як толькі прыехалі туды і трохі астылі ад бою, камандзір атрада Іван Леўчык захацеў пабачыць Галіну Заранку. Сувязны знайшоў яе з Вадзімкам у зямлянцы.

— Вас камандзір атрада выклікае. Прашу следаваць за мною,— нібы загадаў сувязны.

Галя з Вадзімкам хуценька апрануліся і крок у крок пашыбавалі за сувязным.

— Таварыш камандзір атрада, па вашаму загаду партызанка Галіна Казіміраўна Заранка з'явілася,— далажыла Галя.

— Сядайце, сядайце ў нас,— падсоўваючы самаробны зэдлік, запрасіў Леўчык.— Дык вось вы якая!

— Якая?

— Не такая, як я вас уяўляў.

— Горшая, мабыць?

— Не, не, што вы! Вы ж адна выйгралі бой.

— Які бой?

— Быццам вы не ведаеце. Што было б, калі б мы не ведалі пра акцыю гітлераўцаў? Наляцелі б знячэўку на лагер і маглі б перабіць усіх нас. Вы проста — гераічная жанчына. Дзякуем вам.

— Няма за што. Кожны савецкі чалавек павінен быў так зрабіць.

— Кожны, ды не ў кожнага хапіла б смеласці.— І Леўчык так зірнуў на Галю, што яна аж сумелася. Не, позірк яго не быў нахабны. Сіняватыя вочы былі такія цёплыя-цёплыя, лагодныя, добрыя. Бывае ж так, што чалавек глядзіць табе ў вочы, а бачыць, здаецца, усю душу. Леўчык перавёў свой позірк на Вадзімку.

— А гэта ваш сынок, а наш сувязны?

— Так, сынок.

— А як яго зваць?
— Вадзім.
— Сядзь, Вадзімка, сядзь от на гэты круглячок,— прапанаваў Леўчык.— Быў і ў мяне такі...— са смуткам вымавіў камандзір атрада.
— А дзе ён цяпер?
— Не трэба пра гэта,— сказаў з болем Леўчык, і Галя заўважыла, што добрыя вочы яго затуманіліся слязой.
— Дык ці елі вы што? — нібы хочучы перавесці гаворку на іншае, запытаў Леўчык і адразу ж пазваў свайго ад'ютанта, высокага, стройнага, маладога яшчэ хлопца.
— Лёня, давай, брат, нямецкія прыпасы сюды. Трэба гасцей накарміць.
Той, каго камандзір назваў Лёнем, у момант наваліў на стол, зроблены на козлах, кансерваў, кілбасы, хлеба.
— Дык мо адкаркаваць і таго?
— Вы рому нямецкага вып'еце глыток для сагрэву? — спытаў камандзір у Галі.— Мабыць, фашысты спадзяваліся разграміць нас і балявадь, дык у запас набралі.
— Не, не, дзякую. Вы самі выпіце, вы ж мужчына.
— А я чуў, што вы з тым здраднікам нават пяршак пілі.
— Дзе я там піла! Прыгубляла для прыліку, а потым неўзаметку на падлогу вылівала.
— Хітрасць разведчыцы? А цяпер можна выпіць без хітрасці трафейнага рому, хоць паспытаць.
— Не, не, дзякую.
— Ну, то бярыце кілбасу, кансервы і ўсё, што тут ёсць.
Галі такі есці хацелася. З таго часу, як забралі іх з Хімінай хаты, яна нічога не ела. І не таму, што не было чаго: Хіма дала ёй на дарогу хлеба і сала, але ў трывозе ў рот нічога не лезла. Галі не хацелася паказваць перад гэтым яшчэ незнаёмым чалавекам, што яна вельмі галодная, таму яна ела як нехаця. Затое Вадзімка не саромеўся. Аж вочкі хлопчыкавы разбягаліся: ён браў то кансервы, то кілбасу, то сыр галандскі, то вяндліну.
— Ты што-небудзь адно еў бы,— сказала Галя хлопчыку.
— Еш усё, Вадзімка, не саромейся, не ў гасцях. Ды салдат, тым больш партызан, і ў гасцях не павінен саромецца,— казаў Леўчык, гладзячы шырокаю далоняй шорсткія Вадзімкавы валасы.
Засядзеліся яны ў камандзірскай зямлянцы доўга. Праводзіў іх ад'ютант Лёня. Завёў аж у самую зямлянку.

— Хоць пагляджу, як вы абжылі гэты дом,— аглядаючы зямлянку, сказаў Лёня.

— Ніяк. Мы нават не прывыклі яшчэ да яе.

— А як вам спадабаўся наш камандзір? — пацікавіўся ад'ютант.

— Я ж першы раз бачу яго,— адказала Галя.

— О, каб вы ведалі, што гэта за чалавек. Другога такога пашукаць трэба. Добрай душы чалавек.

— А што ў яго з сынам? — запытала Галя.

— Маўчыце, няшчасце ў яго не толькі з сынам, але і з жонкаю...

Лёня расказаў, як увосень фашысты забралі Леўчыкаву жонку з сынам. І не толькі яго, а пазабіралі сем'і ўсіх гардзееўіцкіх камуністаў, загналі ў пуню і там жывымі спалілі.

— Які жах! — ледзь выдыхнула Галя.

Як не праз усю ноч Галя не магла заснуць: думала пра тых няшчасных, што згарэлі ў пуні. Думала пра Леўчыка, пра яго мужнасць, пра тую дабрату, якая прамянілася з ягоных вачэй. І чым больш думала, тым усё настойлівей здавалася, што пабачылася яна не з Леўчыкам, а са Станіславам.

За які тыдзень Галя з Вадзімкам і Кадзіха з дзецьмі абжылі зямлянку як родны дом. Праўда, Кадзіха ніяк не магла атупацца ў гэтым нязвыклым для яе жытле: то ёй снілася карова, якая асталася ў Бацькавічах, то чулася рохканне парсюкоў, і яна ўсхоплівалася сярод ночы, будзіла дзяцей. За невялікі час Галя зраднілася з гэтай сям'ёй. Больш за тыдзень ніякай работы ім не давалі. Мабыць, хацелі, каб яны пасля перажытага асвойталіся трохі, увайшлі ў новае жыццё. Галя думала, што на іх ужо і зусім забыліся. Але не! Неяк увечары прыйшлі камандзір з Казем. Леўчык папытаў у Галі, як яна жыве.

— Ведаеце, таварыш камандзір, ад гультайства можна абаспацца і нават апухнуць.

— Мы вам гуляць не дадзім. Сямейка ж, бачыце, наша ладная, а жанчын адна-дзве, дык трэба вам за гаспадынь быць.

Галю з Кадзіхай паслалі ў гаспадарчы ўзвод, і яны адразу адчулі, што патрэбны тут. Гатавалі партызанам ежу, мылі бялізну. Галя бегала ў зямлянку, дзе ляжалі параненыя. Памагала рабіць перавязкі, лячыць. Параненыя чакалі таго часу, калі прыйдзе Галя. Партызанскі доктар

Вежнавец, немалады ўжо чалавек, папрасіў Леўчыка прыкамандзіраваць яе да шпіталя.

— Разумееце, Іван Лявонавіч, у яе гаючыя рукі, дакранецца імі да раны, дык нібы боль сціхае.

— Мабыць, яна вам спадабалася? — пажартаваў Леўчык.

— Што вы! Што вы! Я ж за бацьку ёй магу быць.

— Ну, не кажыце так. Вы ж яшчэ ў нас маладзён.

— Маладзён-то маладзён, але спрыт ужо не відзён. А яна дзеўка, калі праўду казаць, такая, што калі б гадоў пятнаццаць скінуць з рахунку, дык не паручыўся б за сябе, закахаўся б.

Вежнавец хваліў Галю, а Леўчыку гэта падабалася, душа яго лагаднела і трошкі раставала, быццам хвалілі яго самога, і яму было вельмі прыемна.

— А дзе ж ваша хвалёная сястра? — спытаў Леўчык.

— Паслаў у атрад да Сіпака. Там, кажуць, яны недзе ёду многа дасталі, дык пайшла папрасіць.

— Адна? — як не спалохаўся Леўчык.

— З хлопчыкам. Тут недалёчка: кіламетраў якіх з пяць.

— А вы ведаеце, як цяпер недалёчка да смерці? Я вам забараняю рызыкаваць жыццём гэтай жанчыны,— сказаў Леўчык. Сказаў і сам сабе падумаў: «Можа, і дарма я гэтак катэгарычна сказаў, а то яшчэ Вежнавец падумае ліха ведама што».

— Яна ж яшчэ хоча ісці да вас у разведку прасіцца,— паведаміў Вежнавец.

— Ну, у разведку — гэта іншая справа.

Як павольна ідзе час, але адно ўжо добра, што хоць не стаіць на месцы. Вось ужо і на зіму забыліся, на яе халады, сцюжы і завеі. Ужо і вясна мінулася. Надышло лета. Галя з Вадзімкам выбраліся з цвілой зямлянкі. Хлопчык насек лазы, навысякаў колля і змайстраваў гэтакі добры будан, і калі б не вайна, калі б не раненыя ды не гора і боль навокал, можна было б забыцца на неўладкаванасць ляснога быту і падумаць, што яны выехалі на саматужную дачу.

Аднаго разу на змярканні Галя толькі што прыйшла з санітарнай зямлянкі і прылегла на намошчаную Вадзімкам з яловых лапак пасцель, як расхінуліся полкі ўваходу і пачуўся знаёмы прыемны голас:

— Можна да вас?
— Калі ласка,— адказала Галя і ўсхапілася з пасцелі.
— Добры вечар,— павітаўся Леўчык.— Ляжыце, ляжыце, вы ж, мабыць, стаміліся.
— Не вельмі. Прылегла падумаць трошкі.
— Давайце разам падумаем. Давайце на момант уявім, што мы не ў партызанскім лагеры, а ў мірны час сустрэліся.
— Цяжка ўявіць.
— Цяжка, але трэба. Ужо недалёкі той дзень, калі мы станем мірнымі людзьмі.
— Каб вашы словы ды богу ў вушы!
— Навошта богу. Іх трэба людзям увесці ў вушы,— сказаў Леўчык і дастаў з кішэні згорнутую ўчацвёра лістоўку. Галя чытала, і сэрца заходзілася ад радасці. У лістоўцы пісалася пра перамогі Савецкай Арміі.
— Так што мірны дзень ужо не за гарамі,— гаварыў Леўчык,— а недзе тут, за нашым лесам.
Выйшлі з будана і павольна-павольна, быццам сапраўды выйшлі ў парк на мірны шпацыр, пайшлі да недалёкай і невялічкай палянкі, зарослай дзяцельнікам і рэдкай мятліцай.
— Давайце пасядзім трохі,— прапанаваў Леўчык.
— Глядзіце, глядзіце, як шчыруюць,— выказаў захапленне камандзір.
— Хто?
— Пчолкі. Амаль змеркласяўжо, а яны яшчэ не скончылі працы. Вунь бачыце, як п'юць з дзяцельніку нектар.
— У іх мірны час. Яны не ваююць,— сказала Галя.
— Хутка і ў нас будзе мірны. Давайце падумаем, як мы яго сустрэнем.
— Я пра гэта не думала. Мне здаецца, што ніколі гэтая праклятая вайна не скончыцца, што яна век будзе цягнуцца.
— Скончыцца! — сказаў упэўнена Леўчык і бліжэй прысунуўся да Галі.— Скончыцца! Мне б хацелася, каб мы разам сустрэлі перамогу.
— Канечне, разам сустрэнем,— зрабіла выгляд, што не зразумела Леўчыкавых намёкаў, Галя.
— Вядома, увесь народ разам сустрэне, але мне хацелася б, каб між усяго народа мы ўдваіх, і не ўдваіх, а ўтраіх, узяўшыся за рукі, сустрэлі яе, а потым пайшлі па жыцці разам, крок у крок...

Недзе там, на ўсход ад палянкі, пачулася страляніна. Леўчык усхапіўся і, нават не развітаўшыся, пакінуўшы яе адну, пабег туды, дзе стралялі. Галя ўстала і пайшла. Не паспела яна адысці і некалькі крокаў ад палянкі, як з зарасніку нехта выскачыў. Яна як не абамлела.

— Мама, мама, гэта я, не бойся! — разняўшы рукі, бег да яе Вадзімка.

— А чаго ты тут, сынок? — адыходзячы ад перапуду, запыталася Галя.

— Цябе доўга не было, дык я пабег шукаць.

— А як ты мяне знайшоў?

— Сустрэў дзядзю камандзіра, дык ён сказаў, што ты тут...

Страляніна хутка сціхла, і Галя чакала, што мо Леўчык яшчэ прыйдзе. Але ён не прыйшоў...

Галя ніяк не магла заснуць. Набягала думка на думку, і ўсё пра яго, пра тое, што адбылося паміж імі. Галя і сама не ведала, чым Леўчык гэтак прычараваў яе.

І чым больш Галя думала пра Леўчыка, тым больш ён падабаўся ёй, тым больш хацелася, каб ён і зараз быў з ёю тут, побач. Сілілася адбіцца ад думак, змружыць вочы і заснуць, але, як толькі яна шчыльней сплюшчвала павекі, здавалася, што над ёй стаіць Леўчык і яна быццам выразна чуе:

— Галя, давайце будзем разам ісці па жыцці.

Галя і сама не ведала, да чаго б яна дадумалася ў ноч бессані, калі б не заварочаўся, не закідаўся на пасцелі і не закрычаў спрасоння Вадзімка:

— Мама, мама, куды ты? Не ўцякай ад мяне.

Яна падхапілася, падбегла да соннага хлопчыка, абняла яго, і ён расплюшчыў вочы і, не разумеючы, глядзеў на Галю.

— Я ж нікуды ад цябе не ўцякаю, сыночак.

— Дзе мы, мама? — пытаў Вадзімка.

— Дома! Спі, спі, сынок.

— Ой, мама, як я напалохаўся.

— Чаго?

Вадзімка расказаў тое, што яму прытрызнілася. Быццам яны ішлі ўдваіх цёмным-цёмным лесам. Ззаду чулася нямецкая страляніна, і яны ўцякалі ад яе. І раптам яна, Галя, кінулася бегчы не толькі ад стралянiны, але і ўцякаць ад яго, Вадзімкі. Ён на ўсю сілу бег за ёю і не мог ніяк дагнаць. Спалохаўся, што маці пакідае аднаго яго ў лесе, і пачаў крычаць.

— Супакойся, сынку, я ніколі і нікому цябе не аддам, нідзе і ніколі не пакіну аднаго.

І, можа, гэтае соннае трызненне хлопчыка ацверазіла ад думак Галю. А і сапраўды, як жа быць з Вадзімкам? Калі Леўчык даведаецца, што Вадзімка не яе сын, пачне дапытвацца што ды як, і яна вымушана будзе расказаць сваю таямніцу пра Станіслава, пра тое, што адбылося з ёю там, у акадэміі. А гэтае ж таямніцы тут ніхто-ніхто, нават сам Вадзімка, не ведае. Яна нават не прызналася, не раскрыла яе тады, калі на партыйным сходзе атрада яе прымалі ў кандыдаты партыі. А хто ж яго ведае, як ён, Леўчык, паглядзіць на ўсё гэта. Аж ціхенька заплакала сама сабе:

— Хлопчык мой, што ты нарабіў са мною...

Галя стрымлівала плач, але Вадзімка яго пачуў. Падхапіўся на ножкі і, нічога не разумеючы, глядзеў на Галю.

— Мамачка, чаго ты плачаш? — кінуўся суцяшаць хлопчык.

— Думала, як нам жыць з табою, і не стрымалася, расплакалася. У нас жа ні кала ні двара, нічога нідзе нічагусенькі.

— Будзем жыць, мама, як усе людзі. Хай толькі вайна кончыцца.

— Добра, мой хлопчык, добра,— супакойвалася пакрысе Галя.

Але тое супакаенне было толькі вонкавае: сэрца ж яе як не распірала крыўда на самую сябе і нават на Станіслава. Няхай бы яна тады набралася рашучасці, няхай бы адмяла ад сябе ўсё тое, што тады ёй здалося шчасцем, а ў сапраўднасці стала горам. Няхай бы хоць не звязвалася з гэтым дзіцем, то цяпер жыла б за Леўчыкавым клопатам як за мураванай сцяной. Галі на момант становіцца шкада Леўчыка. Хіба ж яна не бачыць, як ён увесь свеціцца радасцю, калі ўгледзіць яе. Як добра было б, калі б яна магла адказаць на ягоную радасць сваёю, яшчэ святлейшаю, чым яго. Яна падумвала ўжо: мо яму ўсё расказаць, ва ўсім прызнацца, ён жа чалавек разумны і не адхінецца ад яе. Але адразу ж, як толькі кідала вокам па Вадзімку, адмаўлялася ад гэтае думкі. Леўчык даведаецца, што Вадзімка не яе сын, дык чаго ён будзе гарнуцца да зусім чужога яму дзіцяці. Калі б хлопчык быў яе родным сынам, дык яна магла б спадзявацца, што нейкай часцінкай ён стане родны і яму.

У гэтыя хвіліны пакутлівага роздуму і надарыўся Леўчык. Зазірнуў у будан, угледзеў Галю і весела сказаў:

— Выходзьце, людзі добрыя, вясну слухаць.

— Якую вясну? — сумелася Галя.

— Першы вясновы гром.

— Дзе ты чуеш гэты гром?

— Прыкладзі вуха да зямлі і пачуеш, як яна стогне. То радасны, то жаданы нам стогн. Мы яго дзень і ноч чакалі.

Вадзімка выбег з будана, прыпаў вухам да зямлі і пачаў слухаць яе.

— Праўда, мама, стогне! Вунь паслухай! — закрычаў.

— Дык як жа, Галіна Казіміраўна, мы цяпер будзем? — запытаў Леўчык.

— Не ведаю, дарагі Іван Лявонавіч, не ведаю. Ты ж чуеш гром, дык, можа, следам за ім вернецца і мой чалавек. Я ж абавязана яго чакаць. Ты ж гэта ведаеш,— сказала Галя.

## Раздзел шаснаццаты

А зямля стагнала-такі недарма — у муках, у болях нараджалася людская радасць. Праз якія тыдні два нашы войскі прарвалі фашысцкую абарону на Дняпры, фарсіравалі раку і з баямі рушылі па беларускай зямлі. Дні тры неба асвятлялася сполахамі выбухаў, а потым у лясах і пералесках, палях і ярах чулася кулямётная і аўтаматная страляніна, і Леўчыкавы партызаны сустрэліся з салдатамі Савецкай Арміі.

«Бывай, родны лес! Ты гэтулькі часу быў нашым прытулкам, нашым жытлом, нашым абаронцам і заступнікам, і мы ўдзячны табе за ўсё, за ўсё. Дык бывай жа...» — здаецца, казалі так партызаны, развітваючыся з абжытымі зямлянкамі, з буданамі, з акопамі і траншэямі.

Галя з Вадзімкам вярнуліся ў Бацькавічы. Вёска ўцалела. Згарэла толькі адна Евелева карчма. Дык па ёй і слязу пусціць не было каму. Цётка Хіма, як угледзела Галю з Вадзімкам, ледзь не загаласіла.

— А родненькія вы мае! А дзетачка ж мая, а ўнучак жа мой, як я вас доўга чакала! І нарэшце такі прычакала,— абдымала і цалавала спачатку Галю, а потым Вадзімку.— А я ж думала, што вы ўжо і не вернецеся.

— От жа вярнуліся, цётачка,— нібы не ведала, што ў такім выпадку казаць, вымавіла Галя.— Дык ці не прымеце зноў нас?

Цётка Хіма пакрыўдзілася на Галю, што яна нават папытала так.

— Унь бо што яна пытае! Душа ж мая збалела па вас.

Цётка Хіма, здаецца, не ведала, дзе пасадзіць Галю з Вадзімкам, што ім даць есці, чым іх прывеціць. Галя пераканалася, што сапраўды цётка Хіма іх чакала. І Вадзімка таксама, нібы вярнуўся з далёкага нейкага падарожжа пад бацькоўскую страху, адразу ж адчуў сябе гаспадаром. Ён скінуў з сябе старую, патрапаную вопратку, знайшоў спраўнейшую, памыўся, хлопчыка як падмянілі. Галя зірнула на яго і сумелася: толькі от цяпер яна заўважыла, што ён выліты бацька — і ў хадзе, і ў рухах, і ва ўсмешцы.

А Хіма падганяла есці. Старой здавалася, што яны там, у лесе, не елі і не пілі.

Цэлы тыдзень раскашаваліся ў Хімінай хаце Галя з Вадзімкам. Спалі, адсыпаліся ў мяккай пасцелі. Здавалася, што ўжо ні вайны, ні гора няма нідзе. А тым часам вайна яшчэ грымела, шалела, адыходзячы на захад. Мабілізавалі ў армію былых партызан. Забралі і Леўчыка з Кадзем. У Бацькавічах асталіся толькі жанчыны, старыя і малыя. Галі прыйшло запрашэнне з'явіцца ў панядзелак у Гардзееўіцкі райком партыі.

У райкоме Галю чакаў першы сакратар, былы камісар іхняй брыгады Павел Анісімавіч Няронскі. Яна гэтага чалавека мала і ведала — разы два ўсяго і бачылася з ім, калі ён прыязджаў у Леўчыкаў атрад. Але ўжо добра было, што хоць трошкі ведала чалавека — усё-такі знаёмы, можна сказаць.

— Заходзьце, заходзьце, Галіна Казіміраўна,— ішоў насустрач сакратар.— Вы, мабыць, і не здагадваецеся, чаго я запрасіў вас?

— Не!

Няронскі пачаў здалёку: з таго, што амаль усіх мужчын, былых партызан, забралі ў армію, што трэба ж некаму аднаўляць калгасы, кіраваць імі і што нам, камуністам, трэба працаваць цяпер, як ніколі.

— Усё, усё трэба,— казаў сакратар,— а нас, камуністаў, жменька асталася ў раёне, дык трэба, каб кожны працаваў на ўсю сілу.

Галі не цярпелася даведацца, чаго Няронскі хоча ад яе. Яна ўжо і рот раскрыла, каб сказаць яму: хутчэй ка-

жыце, чаго вы хочаце ад мяне, як Няронскі сам падышоў ужо да таго.

— Дык от, Галіна Казіміраўна, ёсць у райкоме думка: паставіць вас старшынёй бацькавіцкага калгаса «Чырвоная ніва». Мы мецілі туды Івана Леўчыка, але ж яго, бачыце, у армію забралі. Ва ўсякім разе, вам давядзецца пакіраваць калгасам, пакуль вернецца Леўчык.

— Што вы! Што вы, Павел Анісімавіч,— як не замахала рукамі Галя,— які з мяне старшыня!

— Райком спадзяецца, што будзе добры. Вы ўсё ж такі вучыліся ў сельгасакадэміі.

— Адкуль вы ведаеце? — спалохана запытала Галя. А мо ён ведае і пра Станіслава, і пра Вадзімку, і пра ўсё?

— Я спадзяюся, што вы апраўдаеце давер партыі. Ну, дык як, дамовіліся? — спытаў Няронскі.

— Няхай будзе лічыцца, што дамовіліся,— згадзілася Заранка.

Няронскі доўга тлумачыў Галі, як і што на першым часе трэба рабіць, каб аднавіць калгас. Галя слухала ўважліва, як некалі ў школе ўрокі.

— Ну, а цяпер ідзіце дадому і прыкідвайце там. У сераду я прыеду, правядзём агульны сход калгаснікаў.

Два дні Заранка чакала сходу як нейкага прысуду: усё-такі яна баялася браць на сябе такі цяжар. Цяпер тут трэба добры мужчына, спіна якога б не ўвагнулася пад гэтым неймаверным цяжарам.

Сход прайшоў як і трэба было чакаць. Супроць кандыдатуры Заранкі ніхто не выступаў. Мо таму, што сход праводзіў сам сакратар райкома партыі? А мо таму, што яе мала тут ведалі і кожны спадзяваўся, што з яе выйдзе добры кіраўнік калгаса?

Выбралі і брыгадзіраў. І не брыгадзіраў, а брыгадзірак, бо з мужчын не было каго выбіраць.

З тае серады Галю і дома рэдка калі бачылі. Вадзімка прачынаўся і пытаў у Хімы:

— Бабуся, а дзе мама?

— Пайшла на работу ўжо. У яе ж, дзетка, цяпер дарог і клопатаў многа.

Як бы там ні было — трэба абсеяць азімы кліп. Плугі і бароны пазбіралі па дварах. Не было насення. Праўленне пастанавіла сабраць яго па хатах з тае грамадскае зямлі, з якое бацькаўчане кожны аднаасобна знялі ўраджай. Не хапала цяглавай сілы: коней усяго было якіх з дзесяць. Калі на іх спадзявацца, і да палавіны зімы не пасееш. Га-

ля дачулася, што ў суседнім раёне аруць на каровах, і праўленне пастанавіла: прасіць калгаснікаў, каб яны далі сваіх кароў на ворыва. Дзяды нарабілі ёрмаў, а потым Галя дадумалася, як і хамуты надзяваць на кароў: разразалася хамуціна ўнізе, і хамут надзяваўся не цераз галаву, а проста на шыю. Потым адмысловымі зашчапкамі сашчэплівалася хамуціна, хамут засупоньваўся, і карове спасабней было, чым у ярме,— лямец не рэзаў скуру.

Азіміну сяк-так абсеялі, дзе ў аднавор, а дзе і па бульбянішчы. Агледзелі калгасны сад, які быў занядбаны за гады акупацыі. Галя дамаглася, што агульны сход прыняў рашэнне: усім калгаснікам закантрактаваць цялят-сёлетак і тых, якія зімою прывядуцца, каб на наступны год займець ужо сякую-такую ферму. Ды і поле трэба было ўзараць на зябліва, бо, як кажуць, аднавор выпусташыць і двор. Зноў трэ было запрагаць кароў у плуг. І на гэты раз, калі Галя загаварыла пра гэта на сходзе, жанчыны аж на дыбкі сталі:

— Дык куды я тую бедную кароўку ў плуг дам! — крычала яшчэ нестарая жанчына, якое Галя нават не ведала: яна яшчэ не ўсіх ведала ў Бацькавічах.— Няхай то мы самі цягнем, як тыя коні жылаватыя, дык яшчэ і карову запрагай... А вы ведаеце, што як паходзіць карова ў плузе, дык малако канём пахне? А чым я дзяцей буду гадаваць?!

Заранка слухала жанчыну, і ў яе не павярнуўся язык сказаць на тую што-небудзь благое: сама ведала — карова не для плуга. Але ж поле трэ было араць, і яна як найлагадней пачала ўгаворваць жанчын:

— А што ж нам рабіць, бабачкі? Азіміну сяк-так пасеялі, дзе ў аднавор а дзе і як. Канечне, спадзяванні на добры ўраджай не вельмі вялікія. Дык давайце хоць ярыну пасеем вясною не ў аднавор, а ўзаром зямельку хоць на зябліва. Нічога з каровамі не стане — папрацуюць яшчэ трошкі.

— Не дамо кароў! — закрычалі жанчыны ўжо дружным гуртам.— Табе добра агітаваць, у цябе няма каровы, няма і дзіцяці такога, якое б толькі што і жыло на малацэ.

— Жанчынкі мае любыя, ну дык а што ж нам рабіць? — спрабавала ўзяць шчырасцю Галя.

— Што хочаш, тое і рабі, а кароў не дамо! — закрычалі зноў.

Гэтак Заранка на тым сходзе і не дабілася, каб на каровах араць. Выручыў Няронскі. Неяк яна зайшла да сакратара райкома не так параіцца, як паскардзіцца на сваю

старшынскую долю. Павел Анісімавіч выслухаў яе і як бы спахапіўся:

— А вы ведаеце, паспрабую вас выручыць.

— Чым?

— У МТС трактар яшчэ адзін знайшоўся. Немцы, як адступалі, былі ўтапілі ў рэчцы, а нашы эмтэасаўскія хлопцы выцягнулі яго і адрамантавалі. Ёсць і трактарыст. Танкістам быў, ды пасля ранення яго спісалі з арміі па чыстай. Цяпер ён каля таго трактара ходзіць.

Трактар прыйшоў у Бацькавічы, і жанчыны глядзелі на яго як на нейкі цуд. А трактарыста не ведалі чым і накарміць, дзе выбраць яму наймякчэйшую пасцель, каб чалавеку добра спалася.

Як бы там ні было, а за які год «Чырвоная ніва» стала на ногі. Усю зіму на конях, на трактары, якому Заранка не давала згуляць ні хвіліны, вазілі на поле гной, тралявалі з балота торф, складалі ўсё гэта ў бурты, а калі сышоў снег, поле добра ўрабілі, падмаслілі яго гноем ды торфакампостам, ды яшчэ Заранка выпрасіла мінеральных угнаенняў, і ярына вышугала, як у добрыя даваенныя гады. У раённых зводках «Чырвоная ніва» заўсёды стаяла першым радком. Старшыні калгасаў раёна, калі іх збіралі на які семінар ці на нараду, скасавата пазіралі на Галю, быццам зайздросцілі, раўнавалі.

Галя нібы і не заўважала гэтага.

Неяк улетку паштальён прынёс Галі ліст-трыкутнічак. Заранка ні ад каго не атрымлівала лістоў, і калі брала той трыкутнічак у рукі, яны калаціліся. Па почырку не магла пазнаць ад каго. І чытаць перад людзьмі не выпадала. А можа, там што непрыемнае, горкае?

Раскрыла трыкутнічак дома, пры лямпе. Прачытала і не ведала, што рабіць: радавацца ці плакаць? Ліст быў ад Івана Леўчыка. І вось што ў ім пісалася:

«Дарагая Галіна Казіміраўна! Сам сабе даю маральнае права назваць цябе так. Ты не ведаеш, як мне хочацца ўгледзець цябе і хоць перакінуцца адным слоўцам. Здаецца, весялей стала б на душы, якая занудзілася ад адзіноты. Мне ўспамінаецца і, мабыць, ніколі не забудзецца тая палянка з белым дзяцельнікам, з тымі пчолкамі, якія бралі з кветак нектар. Я спадзяюся, што ты на голас майго сэрца не скажаш «не»! Хутка скончыцца вайна, і мне б хацелася быць з табою разам усюды-ўсюды. І не толькі з табою, а і з Вадзімкам, якога я і цяпер люблю, як сына. Цалую моцна-моцна. З франтавым прывітаннем. Твой Іван».

Галя прачытала ліст і ніяк не магла разабрацца ў сваіх пачуццях: то ёй станавілася радасна, што ёсць на свеце чалавек, якому яна патрэбна, як жыццё. То раптам захлынала яе горыч, што яна не можа ўсім сэрцам адказаць. Успомнілася палянка, і аж кальнула сэрца, і Галя заплакала наўзрыд. У пакой забег басаногі Вадзімка. Ён забег знянацку і нячутна, і яна не паспела сунянь слёзы.

— Мама, чаго ты плачаш?

— Так сабе, сынок. Трэба ж калі-небудзь і паплакаць.

— А што гэта ў цябе? — угледзеўшы аркушок паперы, які трымцеў у Галінай руцэ, спытаў хлопчык.

Галя хуценька схавала ліст, выцерла слёзы.

— Плачу, што мы адны асталіся, таткі твайго няма. І ці прычакаем мы яго.

— Адкуль?

— Адтуль.

Вадзімка гэтак і не зразумеў, калі і адкуль чакаць яму свайго тату.

Галя ўзяла са стала Вадзімкаў сшытак, каб вырваць з яго лісток і напісаць адказ Леўчыку. Разгарнула і сумелася: першая старонка сшытка была ўся ў чарнільных плямах.

— Эх ты! Гэта ты так пішаш? А я ж думала, што ты найлепшы вучань у школе. А ты вунь што!

— Гэта не я сам. Гэта хлопцы мне так запэцкалі,— апраўдваўся Вадзімка.

— А што калі тата прыедзе ды ўгледзіць такі сшытак, дык ён жа цябе любіць не будзе.

— А калі ён прыедзе?

— Не ведаю.

— Чаму ж ён нам хоць ліста не прышле? Я ж таты ніколі не бачыў. Хоць бы мне картку паказала.

— Адраса, мабыць, нашага не ведае. Няма ў мяне і карткі. Ён сам прыедзе,— абнадзейвала хлопчыка Галя.

— Калі-то ён прыедзе. Яшчэ, мабыць, доўга чакаць,— выказаў сваю дзіцячую безнадзейнасць Вадзімка.

— Ідзі, хлопчык мой, пагуляй яшчэ, пабегай па вуліцы,— сказала, як загадала, Вадзімку Галя, і ён аж ляснуў дзвярыма. Галя ўзялася пісаць. Ёй чамусьці здалося, што яна зусім не ўмее пісаць. Літары выходзілі нейкія скасабочаныя. Але ж прачытаць можна было: «Пасля таго, што адбылося паміж намі, мне б хацелася таксама навек назваць цябе дарагім, але сэрца працівіцца... Яно нібы крычыць: не трэба, не трэба! А ўслед за ім, слухаючыся яго,—

бо свайго сэрца трэба кожнаму слухацца,— я пішу табе: нічога таго, што ты надумаў, не трэба. Дарогі нашы не сышліся і не сыдуцца, дык не трэба іх прымусам і злучаць. Прашу цябе не крыўдаваць на мяне. Лепш давай будзем добрымі сябрамі — і не больш.

З павагаю да цябе Галя».

Заранка не хацела гэтага ліста згортваць у трыкутнічак, каб, барані божа, ніхто чужы не прачытаў. Знайшла нейкі даўні канверт з напісаным на ім прыгожым почыркам адрасам цёткі Хімы. Вывернула яго, склеіла размятай бульбінай і напісала адрас палявой пошты.

Раніцай занесла ліст у паштовую скрынку, і на душы нібы палегчала. А можа, і не палегчала? Можа, так толькі здалося?

У рабоце, у штодзённым клопаце Заранка нават часам забывалася на самую сябе. Па рашэнню райвыканкома калгасу далі дзесяць трафейных коней. Коні добрыя, але збруі на іх не было, і яны гулялі. Нехта падказаў Галі, што ў некаторых калгаснікаў прыхаваны яшчэ з часу акупацыі хамуты, сядзёлкі, церассядзельнікі, дугі. Яна надумала ўзяць аднаго ці двух членаў праўлення, конюха і пахадзіць па хатах.

Да першага зайшлі ў хату да дзеда Яўсея. Стары сядзеў на лаве і падплятаў лапаць.

— Добры дзень у хату, дзядуля,— павіталася Галя.

— Дзень добры, дзеткі,— прыслепавата ўглядаўся стары.— Дык сядайце, калі ўжо зайшлі, гасцямі будзеце.

Галя ўгледзела на калку, забітым у вушак, новенькі хамут.

— Дзеду, а чый гэта хамут у вас?

— Свой.

— А дзе ж вы яго ўзялі?

— Яшчэ пры немцах дачка прынесла.

— Дык а чаму вы яго ў калгас не аддалі? Навошта ён вам?

— Не аддалі, дый годзе. Хамут жа, тым часам, есці не просіць. Няхай вісіць. Пры цяперашняй жытцы, калі ўласці мяняюцца, трэба свой хамут мець.

— У вас жа няма на каго яго надзяваць.

— Дык, можа, будзе? От жа людзі языкамі плешчуць, што нейкі Чартыль загадаў Сталіну параскідаць калгасы і даць людзям аднаасобніцкую жытку.

— А ад каго вы гэта чулі?

— Хіба мала языкоў.

— Дык от, дзядзька, таго Чартыля, як вы кажаце, у гэты хамут не запражаце. Хай на яго англічане знойдуць хамут. Няхай ён там хоць на галаву становіцца, а нам тут ён не ўказчык. Калгасы як былі, дык і будуць, і хамут гэты трэба здаць калгасу.

— Калі трэба, то трэба, я ж нічога. А хто вы такія будзеце? — не пазнаў Галю Яўсей.

— Старшыня калгаса,— адказала яна.

— О, дык якая ж бо ты! — выказаў ці то захапленне, ці здзіўленне дзед.

— Я чула, што вы вяроўкі добрыя віць умееце?

— Чаму ж не ўмею.

— Дык от наўяце нам пастронкаў, лейцаў, вяровак. Ёсць у нас трохі канапель, кудзелі. А хамут мы забяром.

— Бярыце! Раз уласці трэба, то бярыце. А вяровак я наўю. Прыйду ды наўю. Можа, і мне, старому, які дзень запішацца.

Збруі і іншага гаспадарчага ладунку назбіралі нямала. Але Яўсееў хамут сярод іншых ведалі ўсе: ён налазіў на самага вялікага трафейнага каня, якому конюхі далі клічку Гітлер.

— Вазьмі там Чартылёў хамут, надзень на Гітлера і запрагай,— часта можна было пачуць, як распараджаўся конюх.

Надоечы Бацькавічы скаланула вестка: Міход Мацюк знайшоўся. Не сам знайшоўся. Яго знайшлі і прывезлі сюды на суд. Бацькаўчане думалі, што пасля таго ляснога бою ён дзе прапаў. Аж знайшоўся недаўярак...

Пасяджэнне ваеннага трыбунала, які судзіў у Гардзеевічах цэлую плойму здраднікаў — былых паліцаяў, старааст, бургамістраў,— было адкрытае. Галя ўсё роўна была б на ім, каб яно было і закрытае,— яе выклікалі ў якасці сведкі абвінавачання па справе Міхода Мацюка.

У бакавым пакоі раённага Дома культуры было паўнютка людзей — гэта наз'язджаліся і насыходзіліся з усяго раёна сведкі. Галю выклікалі ў залу пасяджэнняў амаль апошнюю. Яна ўгледзела за нейкім парканчыкам, які былі адгароджаны злачынцы ад публікі, Міхода. Сустрэлася з ім вачыма. Ён паспрабаваў усміхнуцца ёй, але ўсмешкі не выйшла, толькі перасмыкнуўся зарослы шчаціннем твар. Вочы як не свідравалі яе і нібы прасілі спагады. Мацюк быў у вайсковай форме, на плячах гімнасцёркі

нават былі знаць яшчэ сляды пагонаў. Галі кінулася ў вочы, што з гімнасцёркі павыкручваны гузікі.

А вось ужо Мацюк стаў перад судом. Ён расказвае, што рабіў тут, расказвае, як потым уцёк з паліцыі і перайшоў да Савецкай Арміі, каб крывёю выкупіць віну. Людзі каторыя мо і вераць, што і праўда ён хацеў крывёю змыць віну сваю, але Галя не верыць. Ёй хочацца плюнуць у замурзанае брыдкае мурло. Але вось яна чуе:

— Сведка Галіна Казіміраўна Заранка. Што вы можаце дадаць, паказаць па справе Міхода Мацюка?

Суддзі ў яе пыталі, а яна неяк механічна адказвала. Можа, каторыя падумалі, што яна спагадае, спачувае яму. Нарэшце ў Галі нібы прарэзаўся гнеўны голас, і яна пачала гаварыць не як сведка, а як абвінаваўца.

— Грамадзяне суддзі, я добра ведаю гэтага грамадзяніна, калі яго яшчэ можна так назваць. Я ведаю і тое, што адкрыты вораг страляе ў грудзі, а здраднік — у патыліцу. Дык хто з іх небяспечней? Ад ворага яшчэ можна адбіцца, адбараніцца, можна яго і забіць, а ад здрадніка цяжка: ты яго не бачыш, ён табе страляе ў патыліцу. Значыць, ён небяспечнейшы за адкрытага ворага.

— Я нікому не страляў у патыліцу,— нема зароў Мацюк, відаць, думаючы, што сведка ведае пра той расстрэл у парку.

— І я прашу суд,— працягвала Заранка,— ніякай літасці, ніякай спагады да здрадніка Міхода Мацюка!

Заранка скончыла і азірнулася на публіку. Азірнулася і ўгледзела ў пярэдніх радах Ханіну клятчастую хустку-апінатку. Там сядзела Мацючыха. Хацелася крыкнуць, каб і яе сюды, за гэты паркан, але нешта перахапіла голас, і Галя хуценька выбегла з залы на свежае паветра.

Прыгавор Заранка пачула ўжо ў Бацькавічах на трэці дзень, і не з вуснаў суддзі, а ў перакaзе калгаснікаў: Міходу Мацюку далі пятнаццаць год зняволення.

— Туды яму і дарога,— сказала сама сабе.

А падзеі так ішлі, што нібы хто іх прыспешваў. Ужо нашы былі на Вісле. А пад пачатак вясны — і на Одэры. Потым надышоў і дзень салютаў, дзень усенароднай радасці. У Маскве на Краснай плошчы былі кінуты пад ногі фашысцкія штандары і сцягі.

У Бацькавічах радасць пачалася тыдні праз два-тры, калі пачалі вяртацца дадому франтавікі. Кожны дзень хто-небудзь ды прыходзіў.

Заранка нікога не чакала і ў той жа час чакала. Чака-

ла і сама не ведала каго. Даведалася каго толькі тады, як вярнуўся ў Гардзеевічы Іван Леўчык. Ён і носа не паказваў у Бацькавічы, хоць яна і чакала яго туды. Сама не ведала, чаму чакала. Мо проста хацелася пабачыць, які ён з ордэнамі, медалямі. Але ён не прыйшоў да яе, і яна зразумела, чаму не прыйшоў. Той апошні яе ліст не пусціў яго сюды. Пашкадавала: навошта яна напісала так? Ёй і самой хацелася пабачыць Леўчыка, хоць слоўцам перакінуцца. Колькі разоў была ў райкоме партыі, дзе ён стаў працаваць інструктарам, але ўсё так выпадала, што Леўчык не трапляўся на вочы.

Увосень у Бацькавічы зноў прыйшоў да Галі пакецік. Не службовы — асабісты, у якім паведамлялася: «Галіна Казіміраўна, вельмі шкадую, што так сталася, але я запрашаю цябе, як найлепшую сяброўку, на сваё вяселле». Прачытала запрашэнне і ніцма ўпала на мяккую падушку. Ніхто не бачыў, колькі яна выплакала слёз. Хіба толькі адна падушка, навалачку якое можна было выкручваць.

Зноў у самыя хвіліны роспачы прыбег Вадзімка.

— Мама, чаго ты плачаш? Хутка ж наш татка прыйдзе, дык і мы будзем радавацца.

— Не ведаю, сынку.

Галя на вяселле не пайшла. Увесь той дзень яна праплакала ў падушку. Вадзімка не адыходзіў ад яе. Думаў, што маці захварэла і што ёй, відаць, нешта вельмі баліць. А Галі сапраўды балела сэрца. Балела ад таго, што яна яго ашуквала. Балела ад таго, што яна ашуквала іншых і старалася рабіць выгляд, што Леўчык ёй зусім абыякавы, у той час як гэта было не так, хоць у гэтым ні ў якім разе і нікому, апроч самой сябе, Галя не магла прызнацца.

## Раздзел семнаццаты

На месцы былой Евелевай карчмы ў Бацькавічах паставілі вялікі мураваны будынак з верандай і ганкам. Над ганкам кідалася ўсім у вочы шыльда з залатымі літарамі: «Праўленне калгаса «Чырвоная ніва».

Будынак ужо сцьмянеў, пастарэў, трошкі зліняла ўжо золата літар на шыльдзе.

Калгас «Чырвоная ніва» падужэў, пабольшаў. Да яго далучылі Міцькавіцкі і Кавалёўскі калгасы, і Галя адчула, што ёй цяпер не справіцца, таму яшчэ на сходзе, на

якім аб'ядноўваліся калгасы і які праводзіў Павел Анісімавіч Няронскі, пачала прасіць сакратара вызваліць яе ад абавязкаў старшыні. Выклікалі на бюро райкома, мабыць, думалі яшчэ ўгаварыць, але і там яна заявіла:

— Таварышы, гэта не па маёй жаночай сіле. Пастаўце мужчыну, дый добрага, калі хочаце, каб калгас быў моцны.

— А скажыце, каго б вы прапанавалі замест сябе? — звярнуўся да Галі Няронскі.

Галя акінула вачыма ўсіх, хто быў на бюро. Затрымала позірк на Леўчыку. Той як бы чаго засаромеўся, адвёў свае вочы.

— А хоць бы і таварыша Леўчыка Івана Лявонавіча. Ён добры арганізатар, энергічны і чулы чалавек. Даволі яму тут у райкоме паперкі перакладваць ды правяраць. Няхай з жывымі людзьмі папрацуе. Гэта будзе на карысць не толькі справе, але і яму самому.

Усе зірнулі на Леўчыка, які сядзеў у самым канцы прыстаўнога стала, засланага чырвоным сукном. І ніхто не мог даўмецца, ці рады ён гэтай прапанове, ці наадрэз адхіліць яе. Не магла зразумець і Галя, ці ён на яе злуе, ці прымае яе прапанову як жаданую. Няронскі глядзеў на Леўчыка, і відно было па вачах, што ён у душы згаджаецца з Заранкай, але, мабыць, яму шкадавата было расстацца з Леўчыкам, як з адным з найлепшых работнікаў апарату райкома.

— Ну, дык што, таварышы? Памяркуем. Перш за ўсё хочацца пачуць, як глядзіць на гэта сам таварыш Леўчык. Вам слова, Іван Лявонавіч.

Леўчык устаў, з хвіліну маўчаў, гледзячы на Галю, быццам дакараючы позіркам, што яна ўмяшалася ў яго звыклае, даўно ўсталяванае жыццё. Леўчык маўчаў, і ўсе на яго глядзелі моўчкі, чакалі. І ён парушыў гэтае маўклівае чаканне, бо ўжо не было як маўчаць.

— Я што, таварышы,— сказаў Леўчык,— я радавы партыі, і калі для партыі, для народа трэба, дык я жыцця не пашкадую.

— Навошта жыцця! Ад вас ахвяр ніхто не патрабуе,— умяшаўся Няронскі, відаць, думаючы, што за такімі ўзнёслымі словамі наследуе адмаўленне, як гэта часцяком было на бюро.

— Я ж кажу, калі трэба,— працягваў Леўчык,— дык я вазьму на сябе гэты абавязак, загадзя ведаючы, што ён нялёгкі, хоць і пачэсны.

Галі здалося, што ўсе з палёгкай уздыхнулі. Ва ўсякім разе, яна сама ўздыхнула з палёгкай, відаць, ад таго, што Леўчык згадзіўся стаць на яе месца, а, можа, і ад таго, што ён не злаваў на яе. Адносінамі гэтага чалавека да яе яна чамусьці даражыла і хацела, каб яны былі прыязныя і шчырыя.

— Але і вам, Галіна Казіміраўна, мы не дазволім дэмабілізавацца,— гаварыў Няронскі.— Такога байца, як вы, шкада адпускаць...

— Я не збіраюся дэмабілізоўвацца, Павел Анісімавіч.

— Што вы на сябе возьмеце?

— Я вазьму жывёлагадоўлю. Гэта ў нейкай меры па маёй спецыяльнасці.

Праз тры дні ў нядаўна пабудаваным клубе адбыўся агульны сход узбуйненага калгаса. Бацькаўчане, калі даведаліся, што за сход, сумеліся: навошта здымаць іх Заранку? Для міцькаўчан і кавалёўцаў было ўсё адно: яны не ведалі ні Заранкі, ні Леўчыка. Бацькаўчане ж як не на дыбкі станавіліся: не трэба нам ніхто другі! Толькі пасля таго як выступіла Заранка ды расказала, што за чалавек Леўчык, усе паверылі ёй і аднадушна прагаласавалі за яго кандыдатуру на пасаду старшыні калгаса «Чырвоная ніва».

Ужо колькі год запар калгас «Чырвоная ніва» з самае вясны, як толькі спадзе вада з лясных балотаў, выганяе жывёлу ў летні лагер. Заранка тут скарыстала той даўні вопыт, які яна мела ў вучэбнай гаспадарцы акадэміі. Ва ўрочышчы Плаўе пабудавалі два добрыя дамы для пастухоў і даярак, выгарадзілі жэрдкамі кашары, прасвідравалі артэзіянскую студню, парабілі карыта, паставілі карма-кухню. І некалі закінутая лясная палянка стала падобна на абжыты гарадок. Бярэзнік, альшэўнік, дубняк, якія абступалі палянку, ажылі ад песень і гукаў труб-берасцянак. Бацькаўчане не маглі нарадавацца, што іх старшыня даўмелася да такога: колішняя пустка, па якой ніколі і касой не бразгалі, цяпер стала даваць калгасу вунь якую карысць. Тыя пашы, што ля самых Бацькавіч, запусцілі пад траву і настаўлялі столькі стагоў сена, што яго хапала ўдосталь на зіму.

Ды і людзі, якія абслугоўвалі летні лагер, рады былі сваёй працы. Яны нібы на дачу выязджалі. Галі і самой хацелася пабыць там хоць лета. Але як была старшынёй, яна не магла кінуць-рынуць усё і паехаць.

Пасля таго як Заранка здала сваё старшынства Леў-

чыку, ёй асабліва стала сумна адной у Хімінай хаце. Вадзімка вучыўся ўжо ў сельгасакадэміі на агранамічным факультэце, а цётка Хіма летась памерла. Не хварэла, не кволілася ні на што. Гэтак ціха і памерла старая. Галя прыняла гэтую смерць як трагедыю для сябе.

Так што цяпер Галі адной і сумна было ў хаце, і таму яна была рада магчымасці перабрацца ў лес да людзей, пажыць у гурце.

Даяркі-дзяўчаты, пастухі і даглядчыкі вельмі ўзрадаваліся, калі даведаліся, што да іх прыязджае Галіна Заранка.

У лясным лагеры ўсё пайшло інакш. Заранка разведала выпасы, на якіх яшчэ не пасвілася жывёла. А каб скаціну не ганяць па гарачыні здалёк на вадапой, сабрала ўсіх мужчын — пастухоў, вартаўнікоў, даглядчыкаў,— і непадалёк ад лесу ў нізіне выкапалі ладную такі сажалку. Вада ў ёй была як крынічная. На дзённую дойку кароў больш не заганялі ў кашару. Даяркі настаўлялі на вазы бітоны, бралі вёдры-даёнкі і выязджалі туды, дзе пасвілася скаціна. За які месяц Заранчынага гаспадарання надоі павысіліся як не ў паўтара раза. Павялічылася і прывага маладняку. У зводцы развіцця жывёлагадоўлі, якая друкавалася ў раённай газеце, «Чырвоная ніва» заняла адно з першых месц.

Галі асабліва падабалася Марынка. Гэтую дзяўчыну яна ведала з малых год. Яна вучылася разам з Вадзімкам і не раз была ў іх у хаце. Галя бачыла, як зайздросна гарэлі Марынчыны вочы, калі яна глядзела на Вадзіма. Ды і ён станавіўся нейкі інакшы, калі Марынка была побач. Дзяўчына і ў сельгасакадэмію паступіла завочна мо таму, што там вучыўся Вадзім. Кожны раз на зімовую ці на летнюю сесію Марына збіралася як на свята. Галя ведала, што Вадзім піша Марынцы часцей, чым ёй, і калі прызнацца самой сабе, дык нават трошкі раўнавала. А мо то была і не рэўнасць, мо то проста была зайздрасць іхняй маладосці?

І Марына гарнулася да Галі. Кожны раз так, каб не вельмі кідалася людзям у вочы, яна старалася пагаварыць з Галяй, і калі ў іх заходзіла гаворка пра Вадзіма, Марынка чырванела. Галі гэта нават падабалася. Па адным гэтым можна было здагадацца, што дзяўчына кахае Вадзіма, і кахае моцна-моцна, мо на ўсё жыццё.

Марынка нядаўна вярнулася з летняй сесіі і прывезла Заранцы ад Вадзіма не толькі прывітанне, але і нейкую

вельмі ж модную цёмна-блакітную сукенку, акурат такую, пра якую тады ў маладосці Галя марыла. Дзяўчына паведаміла, што Вадзім хутка скончыць сваю апошнюю практыку і прыедзе ў Бацькавічы.

Калі на Галю вельмі насядалі карэспандэнты, дапытваючыся, хто з яе даярак лепшы, каб напісаць нарыс, яна адказвала, што ўсе даяркі як адна, усе добрыя. Але сёння маладога хлопца з фотаапаратам цераз плячо і з універсітэцкім значком на штрыфлі пінжака паслала да Марынкі. Яна была такая, што самой Галі не трэба было нічога тлумачыць: Марынка сама ніколі не лезла ў чужую кішэню па слова — у сваёй хапала. Пасля пашкадавала: хлопец быў дужа прыгожы, нейкі вельмі ж ветлівы.

Цэлы дзень той карэспандэнт хадзіў па Марынчыных слядах. Глядзеў, як яна даіла кароў, распытваў пра першую дойку, ці не страшна ёй было падыходзіць да каровы. Марынка і сама не ведала, чаму яна сказала, што на першым часе баялася кароў, як чарцей лазатых. Сказала мо для таго, каб пасмяяцца з самога хлопца, з яго гарадской недасведчанасці. Смешна было глядзець, як хлопец адмахваўся ад аваднёў і сляпнёў. Яму здалося, што Марынка нават і вухам не вядзе, калі на яе садзіцца гэтая заедзь. Падумалася, што, можа, у яе цела нейкае адмысловае, якога ніякі сляпень не пратне.

— Як вы тут трываеце? Гэтая ж аваднеча, мабыць, вам быту тут не дае?

— А яны нас не кусаюць,— адказвала Марынка,— у нас кроў, мабыць, нясмачная. Яны любяць белую кроў, такую, як у вас. А наша перамешана з потам і не даспадобы ім.

Потым карэспандэнт фатаграфаваў Марынку пры карове Белцы. Пстрыкаў фотаапаратам тады, калі дзяўчына вылівала малако з даёнкі ў бітон.

На другім тыдні ў газеце быў надрукаваны нарыс пра лепшую даярку калгаса «Чырвоная ніва» Марыну Лысюк. Чыталі ўсе наперабой. Усё-ўсё, што Марына ні казала карэспандэнту, амаль слова ў слова было занатавана ў нарысе.

Марына прачытала і сказала:

— От жа дурны які!

— Чаго?

— А пазапісваў і надрукаваў у газеце нават тое, што я казала на смех. Калі я тых кароў баялася, як чарцей

лазатых? Гэта ён сам, мабыць, баіцца, дык от і мне прыпісаў.

А карэспандэнт сапраўды, мабыць, для канфліктнасці нарыса, намаляваў Марыну спачатку як незвычайную баязліўку, якая не адважвалася і да каровы падысці і толькі потым асмелілася.

Доўга ў лясным лагеры смяяліся з таго нарыса пра Марыну Лысюк. Смяялася і яна сама, але ўжо больш, калі прыязджаў які карэспандэнт, яна, пагаварыўшы з ім, заўсёды пытала:

— Што вы запісалі?

Карэспандэнты дзівіліся з такой Марынінай дапытлівасці.

А Галя і тут нудзілася. Нечага, яна і сама не ведала чаго, ёй не хапала. Можа, Вадзіма? А можа, і каго іншага?

У нядзелю на сваім «казле» ў лагер прыехаў Леўчык. І прыехаў не адзін. Прыехаў са сваімі двума сынамі. Большаму, Валерыку, ішоў пяты гадок, меншаму, Сяргейку, бралася на чацвёрты. Хлопчыкі былі жвавыя, моцныя, загарэлыя, і абодва падобны на бацьку. Як толькі Леўчык ссадзіў іх з машыны, хлопчыкі кінуліся ў лес.

Кожны прыезд старшыні ў лясны лагер быў для яго жыхароў падзеяй. Адразу ж збіраліся даяркі, пастухі, вартаўнікі, і завязвалася гутарка. Даяркі прасілі замяніць халаты, пастухі раілі, як лепш скарыстаць выпасы. А дзядзька Адам папрасіў новую стрэльбу.

— Гэтая ж старая як дасць у плячо, дык як з ног неваліць.

— Дык і добра, што яна так джвагае. Можа, таму так і ваўкі тады напалохаліся. Мабыць, падумалі, што вы, дзядзька, з гарматы па іх б'яце,— сказаў нехта з мужчын.

— Вам смешкі, а мне як? Стрэліш, дык на тры дні плячо нямее.

— Купім, абавязкова купім, дзядзька Адам, новенькую дубальтоўку,— паабяцаў старшыня.

Потым Леўчык пахадзіў па лагеры, паглядзеў, як у кашарах, паспрабаваў пампаваць ваду. Пампаваць цяжка было, і ён паабяцаў прыладзіць невялічкі маторчык. Няхай ён і пампуе. Навошта чалавечую сілу марна траціць? Яна людзям вунь як патрэбна!

У кашарах быў поўны парадак: статак кожнага пастуха стаяў паасобку. Усюды было чыста. Пад жардзяной

агароджай ляжалі ладныя камлыжыны солі, і калі каровам хацелася салёнага, яны лізалі іх.

Зайшлі і ў дамы, дзе жылі лагернікі. У жаночым дамку быў дбайны парадак. Пасцелі пазасціланыя, чысценькія. На вокнах у гарлачыках стаялі лясныя кветкі. Нехта нават два фікусы прывёз. Батарэйны прыёмнічак «Радзіма» працаваў спраўна. Старшыня зірнуў на адтуліны ў прасценку і запытаўся:

— Кіно даўно ўжо ў вас было?

— Нават не памятаем калі. З вясны як было, дык быццам перад ім дарогу размыла,— адказалі жанчыны.

— На наступным тыдні прышлю,— паабяцаў Леўчык.

Затое ў мужчынскай хаце сам чорт нагу мог зламаць.

— Як гэта вы тут жывяце? — запытаў Леўчык са злосцю.

— Як мядзведзі ў бярлозе. А нам што: пераспаць толькі,— апраўдваўся дзядзька Адам.— Ды і то які там сон: пастухам толькі да світання, а мне дык і зусім толькі ўдзень. Дык я больш па кустах туляюся, там здаравей.

— Нельга так, мужчынкі. Гэта ж як дзікуны. Галіна Казіміраўна,— звярнуўся ўжо да Заранкі старшыня.— І вам, жанчынам, не сорамна, што яны так жывуць?

— А мы да іх не ходзім,— паспрабавала апраўдацца Заранка.

— Нам да іх спасабней хадзіць,— выскаліўся нехта з мужчын.

Леўчык не звярнуў ніякай увагі на гэтую рэпліку. Ён казаў да Заранкі:

— Дык от, Галіна Казіміраўна, я папрашу: няхай жанчыны возьмуць шэфства над гэтым домам ды навядуць парадак, а то ж сораму не абярэшся, калі хто чужы сюды загляне.

— Сорам — не дым, вачэй не выесць,— зноў пачуўся той самы пракураны мужчынскі голас.

— Добра, таварыш старшыня! — прамовіла Галя.

Выйшлі з мужчынскай хаты. Сінечу летняга неба плямілі блуклівыя хмаркі. Яны на момант закрывалі сонца, і на лугавіну, на зяляніну лесу наплывалі рухомыя цені і ападаў лагодны, добры, ласкавы халадок.

— А цяпер, Галіна Казіміраўна, давайце праедзем туды, дзе пасвіцца жывёла.

— Калі ласка.

Машына стаяла на краі палянкі ў лясной засені. Калі яны падышлі да яе, Валерка з Сяргейкам ужо былі там.

Хлопчыкі гэтак былі ўмурзаны ў чарніцы, што толькі блішчалі адны вочкі ды бялелі зубкі.

— Дзе гэта вы так, сынкі?

— А тутака ў лесе,— адказаў большы.— Столькі ягад! Столькі ягад! Ды такія спелыя, такія смачныя, што ўсё б ты іх і еў.

— Еў-то еў, а навошта так мурзацца! — дакараў хлопчыкаў Леўчык.

— Хадзіце, дзеткі, сюды, я вас хоць паўмываю трошкі,— азвалася да хлопчыкаў Галя.

— Не трэба, не трэба. Няхай усе людзі бачаць, якія яны ў мяне мурзілы.

Пакуль Леўчык корпаўся нечага ў маторы, Галя пасадзіла хлопчыкаў поруч сябе на заднім сядзенні, абняла іх, і неяк адразу паміж імі завязалася размова.

Леўчык завёў матор, зірнуў на хлопчыкаў, якія сядзелі з Галяй, прыціснуўшыся да яе, усміхнуўся, і машына кранулася. Ехалі ціха. Лясная дарога была няроўная. Леўчык усё азіраўся на Галю с хлопчыкамі.

— Эх, Галіна Казіміраўна, што ты нарабіла?

— Што? — спалохалася Галя, відаць, думаючы, што яна сапраўды чаго благога нарабіла.

— Ты ж от не дачакалася свайго Станіслава. Ды я нешта сумняваюся, ці і быў ён у цябе. Вадзімка, мне здаецца, як няродны табе.

— Што ты! Што ты! — як не замахала рукамі Галя.— Паедзем туды, дзе мы выкапалі сажалку, паглядзіш,— мабыць, хочучы адбіцца ад такой гаворкі, прапанавала Заранка.

— Паедзем усюды. У нас у запасе яшчэ вунь колькі часу. Усюды з'ездзім, усю вашу лясную парафію агледзім,— зразумеў Леўчык, што Галі непрыемна і, мабыць, балюча тая гаворка, якую ён распачаў.

Нейкі момант сядзелі моўчкі. Галя галубіла хлопчыкаў, і ёй так прыемна было адчуваць іх побач сябе.

— Давай на сажалку, паглядзіш, які мы вадапой зрабілі,— прапанавала яшчэ раз Галя.

Сапраўды, вадапой быў добры. Выбралі такое месца, што скаціна, не гразнучы, магла падысці да вады. А вада была чыстая, халодная. Мабыць, з-пад зямлі білі крыніцы. Леўчык спыніў машыну ля самага насыпу. Выйшаў з машыны і пайшоў аглядаць сажалку. Галя павяла хлопчыкаў да вады. Чэрпаючы жменяй ваду, яна пачала ўмываць першага Сяргейку. Хлопчык фыркаў і як не пла-

каў. Увішнымі рукамі Галя хуценька вымыла Сяргейкаў тварык. Ручніка не было. Зняла з галавы паркалёвую хусцінку і выцерла. Прыгладзіла галоўку, і Сяргейка як абнавіўся — стаў чысценькі і прыгожы.

Пакуль Леўчык абышоў, агледзеў сажалку, Галя тое ж самае зрабіла і з Валеркам.

— О, дык ты маіх кавалераў да ладу прывяла. Дзякую. Хлопцы такія сталі, што толькі любавацца на іх.

— Харошыя хлопцы,— сказала Галя.

— Што ты яшчэ пакажаш мне ў сваёй парафіі?

— Паедзем туды, дзе скаціна пасвіцца.

Як не да самага змяркання старшынёў «казёл» скакаў па лясных і перасохлых балотных дарогах. Галя зноў сядзела з хлопчыкамі на заднім сядзенні, і ёй чамусьці прыемна, добра было слухаць іх шчабятанне, адчуваць іх дзіцячую блізкасць. Яна сама не ведала, чым і завошта спадабаліся ёй гэтыя дзеткі.

Старшыні спадабаліся парадкі ў лагеры. Але пры людзях, калі яны сабраліся ля машыны, Леўчык больш гаварыў пра недахопы, якія кінуліся яму ў вочы. Гэткая была ўжо манера ў чалавека. Бацькаўчане гэтага яшчэ, відаць, не ведалі, і ім часам здавалася, што Леўчык ганіць усю іх работу.

Старшыня ўзяўся ўжо за руль машыны, каб ехаць у Бацькавічы, і як бы цяпер толькі ўспомніў:

— Галіна Казіміраўна,— пры людзях ён зноў перайшоў на «вы»,— у панядзелак прыязджайце ў Бацькавічы. Фермы будзем механізаваць. Ужо ўсё начынне і на «карусель» і на ўсё прыйшло. А без гаспадыні нельга пераставўляць мэблю ў хаце. Пакіньце за сябе каго тут, а самі туды, не менш як на тыдзень.

«Казёл» чхнуў дымам і заскакаў па лясной укатанай дарозе.

## Раздзел васемнаццаты

Заранка з месяц не была ў Бацькавічах і от цяпер прыехала на малакавозе, злезла ля свае хаты, і ёй чамусьці здалося, што Бацькавічы неяк пераменіліся, быццам хаты ніжэйшыя сталі, быццам зялёныя сады сцьмянелі. Адным словам, былі нейкія такія няўлоўныя змены, якія і не кідаліся прызвычаенаму воку. Хіміна, цяпер

Галіна, хата таксама нібы паменшала, як печага насупілася, быццам яна злавала, што гаспадыня яе часова выцуралася. Дзіва, дый годзе: хата цэлы месяц была замкнёная, усё было пазачынянае, але адкуль набралася столькі пылу? Гаспадыня хуценька схапіла нейкі трапкачык, намачыла яго і давай перш-наперш сціраць пыл з лапушыстых лістоў фікусаў. Яны, таксама, мабыць, з адзіноты, зблажэлі, паапускалі лісце. Адны вогнікі весела выглядалі праз шыбы акон на вуліцу. Галя хуценька прынесла вады, папалівала вазоны, збольшага сцерла пыл, на скорую руку згатавала сняданак і заспяшалася на ферму.

Новы жывёлагадоўчы гарадок будаваўся ў другім канцы Бацькавіч, наводшыбе ад вуліцы, непадалёк ад шляху. Там ужо былі пастаўлены воданапорная вежа, чатыры новенькія аборы з мураванымі адцэментаванымі шуламі, пад шыфернымі дахамі, цялятнік, свінушнік і кармакухня. Усе ўжо будынкі былі даведзены да ладу. Двор увесь быў застаўлены нейкімі машынамі, рознымі рэчамі, якіх Галя дагэтуль і ў вочы нават не бачыла. Там былі кормазапарнікі, каранярэзкі, абсталяванне для аўтапаілак і «карусель» з даільнымі апаратамі.

Устанаўлялі, ладавалі ўсё гэта нанятыя, не бацькавіцкія, мужчыны. Галя глядзела на іх работу і ніяк не магла зразумець, што да чаго, і яе ахопліваў нейкі неспакой: як жа яна будзе з усім гэтым упраўляцца? Таму і хадзіла яна па аборах, асабліва па вялізнай даільнай зале, як чужая, як лішняя тут, як чалавек, які толькі замінае іншым. Але на трэці дзень Галя адчула, што яна сёе-тое ўжо разумее. Падумала: тое, што зрабіў адзін чалавек, другі абавязкова спазнае. Машыну ж, мабыць, лягчэй вывучыць, чым зрабіць. Пачала ўжо нават сім-тым распараджацца, сёе-тое раіць мужчынам-майстрам.

У добрым настроі на змярканні Галя ішла дадому. Вось-вось, з дня на дзень, павінен прыехаць Вадзім. Яшчэ зімою яна папрасіла старшыню, і той напісаў на імя рэктара акадэміі просьбу прыслаць маладога агранома Вадзіма Заранку на працу ў калгас «Чырвоная ніва». Не можа быць, каб камісія па размеркаванню не прыслухалася да гэтай просьбы.

Галя ішла сярэдзінаю вуліцы. Людзей не было відно. Пасля працоўнага дня яны, мабыць, адпачывалі. Адно зрэдку сям-там пад засенню дрэў чуўся дзявочы смех ды віднелася, як паблісквалі хлапечыя цыгаркі. І раптам насустрач Галі нехта, як прывід, сунецца. Здалёку яна не

пазнала, хто гэта. Хацела размінуцца і пайсці дахаты, але прывід насоўваўся проста на яе, і толькі калі ён быў крокі якія за два-тры, Заранка пазнала Мацючыху.

— Дык гэта бо вы, Галіна Казіміраўна? — папытала тая.— Вочы ўжо не бачаць.

— А куды гэта вы, цётка, процi ночы?

— Ды от іду. Радасць у мяне, дык нясу яе людзям.

— Якая?

— Як вам і сказаць. Скажыце, мая любачка, вы не злуяце на майго Міхода?

Галя сумелася з гэтае «любачкі», з самога запытання.

— А чаго гэта вам прыйшло ў галаву цяпер пытацца? Калі і была злосць, дык перагарэла.

— От то ж бо і я так думаю.

— На нябожчыкаў жа не злуюць, хоць і не забываюць таго, чаго яны нарабілі людзям.

— На якіх нябожчыкаў? — сумелася ўжо Мацючыха.

— На звычайных.

Галя хацела адчапіцца ад Мацючыхі і хутчэй пайсці дадому, але старая не адставала ад яе і, ідучы, бубнела сабе пад нос гэтак, каб і Галя чула:

— Дык, дзякаваць жа богу і Савецкай уласці, ён не нябожчык.

— Як? Ён жывы?

— Жывы, мая любачка, жывы! Ды яшчэ які чалавек! Ён жа мне, дзякаваць богу, і грошы прысылае, і жонку ўжо з дзіцяткам мае. Жывы, жывы! Савецкая ўласць, дзякаваць ёй, усё даравала. Ён цяпер вунь якім чалавекам стаў! На ўсю шахту самы першы ўдарнік.

— Што вы кажаце? — не верыла сваім вушам Галя.— А я думала, што яго ўжо даўно няма.

— Дзякаваць богу і Савецкай уласці, жывы. Савецкая ж уласць — гэта ж не тадышняя нямецкая. Для тае было рашыць чалавека жыцця — раз плюнуць. А Савецкая ж уласць шкадуе сваіх людзей, нават калі яны трохі і прашкапіліся перад ёю.

— Дык ён жывы? — яшчэ раз перапытала Галя.— От чаго не думала, дык не думала.

— Жывы, мая любачка! Жывы! От чакаю, у суботу павінен прыехаць у госці. Якое бо то чысло ў суботу?

Галя палічыла і адказала.

— От то ж бо ў гэтае чысло ён і павінен прыехаць. Кожнаму ж чалавеку, мабыць, карціць паглядзець на тое месца, дзе ён першы раз на свет зірнуў.

— Яно-то, канечне, хочацца. Але лепей было б, каб ён сюды не ехаў. Старыя раны перасталі балець ужо, дык не трэба іх соллю пасыпаць,— сказала Галя.

— Якія бо там раны? Хіба ж ён каму якое зло зрабіў? Хіба ж ён каго ўкрыўдзіў? Быў малады — дурны. А цяпер ён вунь якім чалавекам стаў. Я ж кажу — ударнікам. Яму ж Савецкая ўласць усё даравала, дык і людзі, можа, даруюць? У яго цяпер усё чысценькае, як новенькае. Нявестка вунь піша, што ён там ужо на Дошцы гонару.

— Але лепей было б, каб ён сюды не ехаў,— паўтарыла Галя.

Мацючыха быццам і не чула таго, што казала Галя. Старая, не адстаючы, тупала і тупала ўслед і бубнела сабе пад нос. Заранка прыспешвала крок, хацела як адбіцца ад гугнявага старэчага бубнення, але Мацючыха не адставала.

— Дык хіба ж ён вам што благое зрабіў? Ён жа такі сэрцам да вас гарнуўся. Казаў жа мне тады, што як трохі ўсё ўціхамірыцца, дык ён з вамі пажэніцца. Ён і хлопчыка вашага хацеў за сына ўзяць. І вы ж да яго, мабыць, хоць трохі гарнуліся.

Пачуўшы гэтае, Галя як не закрычала ад знявагі.

— Ведаеце, што я вам скажу, цётка! Хоць вы і кажаце, што ваш вылюдак чысценькі цяпер, я ведаю адно: можна рукі адмыць, калі яны выпацканы, можна вопратку вымыць, калі яна заплямлена, але душу, калі яна чорная, ніколі і нічым не адмыеш.

Гэтыя словы Галя выказала гнеўна і як не на ўсю сілу пабегла ад старой, якая доўга яшчэ стаяла на вуліцы як чорны прывід.

Галя разумела Мацючыху: старой хацелася перад тым, як павінен быў прыехаць яе сын, даведацца, ці будуць людзі спаганяць з яго за сваё гора.

Добры настрой у Галі канчаткова знік, і яна ішла дадому з адчуваннем, быццам босай нагою наступіла на слізкую вужаку.

Мацючыха такі праўду казала, што яе Міход павінен прыехаць у суботу. І ён такі прыехаў, толькі не ў суботу, а ў нядзелю, і не прыехаў, а яго прывезлі.

І вось як усё адбылося.

За тры дні да таго, як выехаць на адпачынак на бацькаўшчыну, Міход Мацюк, як звычайна, спусціўся ў шахту. Да ад'езду было ўжо ўсё падрыхтавана: Мацюк назбіраў ладнавата такі грошай, накупляў падарункаў матцы

і нават Кадзісе і яе дзецям. Яму, мусіць, карцела задобрыць іх, каб яны не помнілі зла. І вось гадзіны за паўтары перад тым, як скончыць змену, у штрэку пачуўся нейкі гул. Потым са столі, патрушчыўшы крапёж, рынулася парода. Мацюк толькі, як сам не свой, закрычаў.

Аварыйная служба выкапала з-пад пароды Мацюка яшчэ жывога, але беспрытомнага. Паднялі на паверхню, і ці то ад свежага паветра, ці ад чаго іншага да яго вярнулася на момант прытомнасць. Каля Міхода ўвіхаліся дактары і галасіла, прычытаючы, маладая жонка Зіна. Як невідушчымі вачыма ён зірнуў на яе, і вельмі ж яму шкада стала развітвацца з белым светам. Стогнучы, ледзь зводзячы голас, ён папрасіў жонку:

— Зіна, праз тры дні мы павінны былі паехаць да маткі. Дык як бы там ні было: ці жывога, ці мёртвага — завязі мяне туды. Гэта мая, мабыць, апошняя просьба да цябе,— сказаў Міход і страціў прытомнасць.

Тое, што сказаў, як запавет, Міход Мацюк, чула не адна толькі жонка. Чулі ўрачы, старшыня шахткома, чулі шахцёры, якія адразу ж сабраліся да месца здарэння.

Зіна гэтак і ўпала грудзьмі на Міхода. Яна адчула, што ён дажывае апошнія хвіліны. Яе ледзьве адцягнулі ад мерцвяка. Шахтком адразу ж прыняў рашэнне: выканаць апошнюю просьбу нябожчыка. Заказалі труну, памылі, апранулі ў апошнюю дарогу труп, і на трэці дзень, акурат тады, калі Мацюк з маладой жонкай і з малым сынам намеліся ад'ехаць на месячны адпачынак у Бацькавічы, занялі таварны вагон, паставілі труну і адправілі ў далёкую дарогу.

На станцыю Хазарычы цягнік прыйшоў у нядзелю на світанні. Гэта была канцавая станцыя — тупік. Вагон адразу ж загналі на запасную каляіну, і Зіна пабегла шукаць дзе якую машыну, каб ехаць у Бацькавічы. І хоць дарога была невялікая, шафёры, як толькі даведваліся, што за груз, наадрэз адмаўляліся. Зіна абяцала вялікія грошы, усё роўна адмаўляліся.

Нарэшце пад абед Зіна знайшла нейкую гарадскую аўтабазаўскую машыну-лесавоз. Пагрузілі ў кузаў труну. Зіна папрасіла шафёра ўзяць хлопчыка да сябе ў кабіну, а сама села ў кузаў. Хацела дзе купіць ці назбіраць якіх кветак, але нідзе не трaплялася. У лесе, дзе расло многа кветак, шафёр не захацеў надоўга спыняцца. Гэтак і прыехалі ў Бацькавічы.

Зіна нават не ведала, дзе жыве яе свякруха, і на шля-

ху ля воданапорнай вежы папрасіла шафёра спыніць машыну, каб распытаць. Нейкая жанчына расказала, як знайсці Мацючышын двор. Да машыны падышлі тым часам мужчыны, і адзін з іх спытаў:

— Дык што бо гэта вы такое везяце?

Замест адказу пачулася галашэнне, прычытанні, і Галя, то ў яе пытала Мацюкова жонка, здагадалася: нешта няладнае з Міходам Мацюком.

Машына ўехала ў двор, які быў чысценька падмецены, дагледжаны. Па самой хаце можна было здагадацца, што тут чакалі нейкага ўрачыстага моманту: вокны былі пазавешаны белымі паркалёвымі з гафтам фіранкамі.

На голас матора з хаты выбегла на ганак старая Мацючыха. З учарашняга дня яна была апранута ў святочнае. Чакала сына. Выбегла — і як не падламаліся ногі.

— Дык што бо гэта такое? — пытала Мацючыха.

— Гэта мы, мамачка,— выплаканымі вачыма зірнула Зіна на свякруху, якую бачыла ўпершыню.

— А дзе ж Міходка?

— А вунь,— паказала яна на труну.

Тым часам з кабіны выскачыў хлопчык і кінуўся да бабулі, якую таксама бачыў упершыню,— кінуўся так, быццам даўно ўжо ведаў.

Вара, як даведалася, што ў той труне ляжыць яе сын, запрычытала на ўвесь голас:

— А я ж цябе не такога чакала, сыночак мой любенькі... А я ж цябе чакала жывенькага, дужанькага... А ты вунь у якой хаце прыехаў да роднай дамоўкі...

На Мацючышына галашэнне, на навіну, якая адразу ж абляцела Бацькавічы, у двор сышлося поўна мужчын і жанчын. Унеслі ў хату труну і паставілі на покуць пад абразы. Мацючыха ўсё парывалася адкрыць дамавіну, але ёй сказалі, што не трэба. З нявесткаю доўга радзіліся, як хаваць: з папом ці з аркестрам. Мацючыха дамагалася, каб прывезці папа, але нявестка стаяла на сваім: з аркестрам, дый годзе. Старая падумала: а мо і праўда лепей з аркестрам. Бач жа, як хавалі старую Хіму, колькі людзей ішло на могілкі.

Паехалі ў Гардзеевічы паймаць аркестр, але там, як даведаліся, каго хаваць, наадрэз адмовіліся. Капельмайстар добра ведаў Міхода. Мацючыха заехала да папа і прывезла яго замест аркестра.

Працэсія выйшла з двара. Уперадзе ішлі поп з дзякам. Два Мацючышыны сваякі неслі пратэсы. А за возам, на

якім стаяла труна, ішлі маці, Зіна, хлопчык, далёкія сваякі і яшчэ колькі старых, якія наогул хадзілі на могілкі за кожнай труной. Гугнявы голас папа — «Са святымі ўпакой» — нік у наструненай летняй цішыні вуліцы. З двароў выходзілі бацькаўчане паглядзець, што там такое. Выйшла і Кадзіха. Яна перахрысцілася, тры разы плюнула і сказала так, каб чутно было тым, хто ішоў за труною:

— Туды табе і дарога.

І не адна Кадзіха сказала такія словы. Бацькаўчане, як толькі набліжалася працэсія да чыйго двара, зірнуўшы на труну, адварочваліся і, як змовіўшыся, казалі:

— Туды табе і дарога.

На могілках поп з дзякам прагугнілі апошнюю малітву, і труна павольна на вяроўках папаўзла ўніз, у зямлю. Здавалася, што і поп з дзякам заспяваюць, расцягваючы: «Туды та-бе і да-ро-га». Далакопы хапіліся ставіць крыж.

Сярод збуцвелых, спарахнелых крыжоў старых могілак завіднеўся новы дубовы крыж на Міходавай магіле.

Галя наглядала за працэсіяй ад воданапорнай вежы, ад якой да могілак было рукой падаць. Ёй чамусьці стала брыдка-брыдка. Яна і сама не ведала, чаго ў яе сапсаваўся настрой. Мо таму, што гэтага здрадніка прывезлі здалёку сюды хаваць? А мо таму, што Вадзімка, якога яна чакала з дня на дзень, недзе забавіўся?

А Вадзім прыехаў. Галя прыйшла з фермы, а ён ужо дома. Спачатку яна і не пазнала хлопца. Ды і не дзіва: гэта быў ужо не хлопчык, а сапраўдны шыракаплечы, мажны мужчына. Галя як зайшла ў хату, зірнула на яго, дык ледзь не абамлела. Ёй здалося, што за сталом сядзеў Station... 

— Дзе ж гэта ты так доўга забавіўся, хлопчык мой?— пытала яна.

— Там, там, мама,— як не паказваў рукою ў той бок, дзе асталася акадэмія.— Я ж ужо туды не вярнуся, я ж ужо назаўсёды да цябе, у нашу «Чырвоную ніву».

— Дык ты мо і галодны? — забегалася Галя збіраць на стол полудзень.

— Не, не, мама.

— Я зараз, сынку,— яшчэ больш заспяшалася Галя.

Дні тры Вадзім не браўся ні за якую працу. Хадзіў па палетках, на ферму разам з Галяй. Усё глядзеў, да ўсяго прыглядаўся. Сустрэўся з Леўчыкам. Дамовіліся, што ты-

дні два Вадзім адпачне пасля вучобы, а там ужо возьмецца і за работу.

Галі здавалася, што хлопцу нечага не хапае, што ён нечага шукае і не знаходзіць. Яна здагадвалася, па кім нудзіцца, каго шукае Вадзім, але маўчала. Нарэшце ён сам запытаў:

— Мама, скажы мне, а дзе гэта Марынка?

— Я ж так і ведала, што ты, сынку, запытаешся,— амаль што ўзрадавалася Галя.

— Адкуль ты ведала? — засаромеўся Вадзім.

— Матчына сэрца ўсё павінна адчуваць і ведаць. Я даўно ўжо бачу, што яна сохне па табе, а ты, мабыць, па ёй.

Вадзім яшчэ больш зачырванеўся, быццам ён зрабіў што недазволенае, непрыстойнае.

— А дзе ўсё-такі яна?

— Яна ў лясным лагеры,— адказала Галя з прыхаванай радасцю. Марынка ёй самой падабалася, і Вадзімаў выбар яна ўхваляла ўсёй душой.— Дык ты, можа, хочаш у лес з'ездзіць? Табе, відаць, трэба і там пазнаёміцца з гаспадаркай. Пакуль у цябе вольны час, дык можаш там пабыць.

— А ты калі збіраешся туды?

— Я, мабыць, яшчэ трохі забаўлюся з гэтым абсталяваннем. Старшыня загадаў мне сачыць за ўсім.

Галі было тут работы яшчэ на які тыдзень, і Вадзіму здалося, што гэты тыдзень будзе дужа доўгі для яго. Таму, неяк прачнуўшыся раней за Галю, хлопец пачаў збірацца ў дарогу.

— Куды ты, сынку? — запытала Галя, быццам і не здагадвалася, куды збіраецца хлопец.

— У лес. Там жа, ты кажаш, як на дачы. То чаму мне, пакуль я ў адпачынку, нічым не заняты, не пабыць на выгодзе?

— Канечне, трэба пабыць. Хадзем, я цябе пасаджу на малакавоз, і паедзеш.

Акурат, калі яны падышлі да малачарні, туды пад'ехаў не малакавоз, а звычайная машына з поўным кузавам бітонаў.

— На гэтай і паедзеш. Яна зноў туды пойдзе,— сказала Галя.

— А мне ўсё роўна на чым, абы ехаць.

Не паспелі Галя з Вадзімам добра агледзецца, як з кабіны выскачыла Марынка. Выскачыла і стала як укапа-

ная. Яна, мабыць, не чакала от гэтак адразу тут сустрэць Вадзіма, і таму не ведала, што ёй рабіць, што ёй казаць.

— Марынка, а чаго ты прыехала? На каго ты там кароў пакінула?

— Я дамовілася з дзяўчатамі, яны падояць маіх кароў і ў абед, і ўвечары, і заўтра раніцай. Трэба ж мне хоць дзень дома пабыць, а то здзічэеш там, у лесе,— апраўдвалася Марынка.

— Трэба, трэба, я ж не кажу, што не трэба.

Марынка глядзела на Вадзіма, Вадзім на яе, і гэтак стаялі ў нерашучасці, чырванеючы і саромеючыся. Галя глядзела на іх і неўзаметку сама сабе ўсміхалася. Першы зрушыўся з месца Вадзім.

— Ну, дык дзень добры, Марынка.

— Добры! Добры! — кінулася яна вітацца да хлопца.

Галя ведала, што дома ў Марынкі не было і няма ніякага клопату, які б паклікаў яе сюды, у Бацькавічы. Яна проста дачулася, што прыехаў Вадзім, і не магла ўтрымацца, каб не пабачыцца з ім.

Машына пайшла згружаць бітоны. Вадзім з Марынаю гэтак і асталіся стаяць, трымаючы адно аднаго за рукі. Галя адчула, што яна тут лішняя, і заспяшалася.

— Я пайду на ферму. А вы, дзеткі, ідзіце дахаты. Не саромейся, Марынка, я ўсё ўжо ведаю.

А ўвечары ўжо і Марына не пасаромелася. Вадзім прывёў яе пад Хіміну хату, і яны паселі на тую лавачку, на якой калісьці, як прыйшлі ў Бацькавічы, сядзелі і чакалі Хімы Галя з Вадзімкам.

Галя расчыніла насцеж вокны. З вуліцы лілася лагодная прахалода. Вогнікі, якія стаялі на падаконніку, здавалася, таксама як не павыскоквалі на вуліцу. Заранка прыселa ля расчыненага акна. У вячэрнім сіняватым мроіве ёй відны былі дзве постаці. І не толькі відны былі. Да яе даляталі і словы. Галя і не хацела падслухоўваць, пра што гавораць хлопец з дзяўчынай, але ў той жа час яе нібы нешта трымала ля гэтага акна. Чула тое, ад чаго сэрца поўнілася радасцю, тое, што ёй хацелася слухаць і слухаць, як песню, як гімн маладосці.

Галі самой чамусьці стала сорамна, што яна апынулася сведкаю радасці маладых людзей. Адышлася ад акна, нечым пагрукала ў глыбіні пакоя, каб на вуліцы пачулі, што яна не пад акном, што яна не падслухоўвае і не падглядвае іх радасць. Хуценька ўзялася смажыць яечню, кроіць хлеб, накрываць стол, засланы чыстым на-

стольнікам. Знайшлася ў запасе і бутэлечка віна. Падрыхтаваўшы ўсё, Галя падышла да акна, высунула галаву паверх вогнікаў і паздала:

— Дзеці мае, ідзіце ў хату. Павячэраем.

— Хадзем,— беручы пад руку, запрасіў Марынку Вадзім.

— Што ты! Што ты! — як не пратэставала Марынка.— Сорамна ж.

— Чаго табе сорамна! Табе ж усё жыццё давядзецца снедаць, абедаць і вячэраць у гэтай хаце.

## Раздзел дзевятнаццаты

На першую нядзелю жніўня ў «Чырвонай ніве» быў намечаны Дзень жывёлавода. У лясным лагеры даяркі, пастухі, вартаўнікі прычапурыліся і чакалі таго незвычайнага свята. Леўчык паабяцаў прэміяваць лепшых работнікаў. А прэміяваць-такі было за што: надоі ў «Чырвонай ніве» былі самыя высокія па ўсім Гардзееўвіцкім раёне. І дзённая прывага цялят была ладная. І з дзяржавай калгас разлічыўся па мясу адным з першых. І механізацыя фермаў была закончана. Заранка хадзіла як імяніінніца. На душы ў яе было добра-добра. У лясны лагер прыехаў Вадзім. Яна глядзела на яго і на Марынку і радавалася, і толькі калі прыгадвала гады свайго юнацтва,— цень нейкага шкадавання, што яны былі нялюдскія, набягаў на сэрца, але яна старалася яго адагнаць. Чалавеку, відаць, трэба больш глядзець у будучыню, чым азірацца на мінулае.

Дзядзька Адам, не расстаючыся з новай дубальтоўкаю, якую яму нядаўна купіў Леўчык, хадзіў па лесе і шукаў прыдатнага месца, дзе б можна, як ён казаў, правесці мітынг. На лагернай палянцы нельга было праводзіць — там столькі аваднёў і сляпнёў, што ад іх кожны міг трэ было адмахвацца. Непадалёк ад лагера ў ляснай гушчэчы Адам такі знайшоў прыдатную невялічкую палянку, густа зарослую дзяцельнікам і мятліцаю. Вынеслі стол. Галя знайшла чырвонай крамніны і заслала яго. Вадзім напісаў на чырвоным палотнішчы заклік: «Таварышы жывёлаводы! Дадзім роднай дзяржаве як найбольш малака і мяса!» Палотнішча расцягнулі і прыбілі да дрэваў над самым сталом так, што яно відно было з усіх бакоў па-

лянкі. На палянцы астаўся толькі дзядзька Адам з дубальтоўкаю. Ён сядзеў за сталом і неяк асабліва задаволена ўсміхаўся. Усе астатнія пайшлі на лагерную палянку — вось-вось павінен быў прыехаць старшыня.

На лагерную палянку выскачыла не адна машына: наперадзе бег старшынёў «козлік», а за ім новенькая кафейна-рычневая «Волга». З яе выйшлі сакратар Гардзееўскага райкома Няронскі і яшчэ два незнаёмыя мужчыны. Угледзеўшы Заранку, Няронскі адразу ж падышоў да яе, павітаўся, узяў пад руку і пайшоў з ёю, як на шпацыр. Калі Марынка прыгледзелася да незнаёмых, у адным з іх яна пазнала таго карэспандэнта, які тады пісаў пра яе нарыс. І карэспандэнт, пашукаўшы вачыма сярод дзяўчат, таксама пазнаў яе, бо кінуўся адразу да іх з Вадзімам.

— А, старая знаёмая,— падаў руку карэспандэнт.

— Знаёмцеся, гэта мой...— паказаўшы позіркам на Вадзіма, недагаварыла дзяўчына.

— Ну, як тады чыталі мой нарыс? Як прынялі? — дапытваўся карэспандэнт.

— Як прынялі, так і правялі,— адказала Марына.

Карэспандэнт насцярожыўся, але ўжо не было як распытваць, бо Леўчык як не на ўсю сілу крычаў:

— Ну, дык прымайце гасцей, гаспадары!

І ўсе гуртам пачалі прадзірацца праз лясную гушчэчу на тую палянку, дзе сядзеў дзядзька Адам з дубальтоўкаю.

— Сядайце, сядайце, дзе хто стаіць,— запрашаў старшыня.

І сапраўды ўсе паселі там, дзе хто стаяў — на духмяную траву, і, здаецца, удыхалі пахі палянкі, быццам упершыню ім давялося дарвацца да такой летняй любаты. Леўчык пашукаў вачыма Няронскага з Галяй. Яны недзе забавіліся. Потым, як бы што ўспомніўшы, старшыня палез у свой старэнькі, яшчэ з вайны, планшэт. Дастаў два канверты і як не паглядзеў іх на прасвет.

Тым часам на палянку выйшлі Няронскі з Галяй. Яны нечага ўсміхаліся.

— Сюды, сюды, таварышы! — махаў рукою Леўчык.

Падышлі да стала. Няронскі адразу сеў за стол. Заранка асталася стаяць. Леўчык зірнуў на яе і сказаў:

— А вы пастойце, Галіна Казіміраўна,— на людзях ён не пасмеў назваць яе на «ты».— Вам яшчэ давядзецца танцаваць.

— Калі музыка будзе, дык мо і з вамі патанцуем.

— Без музыкі давядзецца танцаваць. Аж два лісты я вам прывёз,— і Леўчык падаў Галі цераз стол канверты.

— А можа, такія лісты, што і плакаць давядзецца, а не танцаваць? — нібы што прадчуваючы, сказала Галя.

— Чаго там плакаць!

Заранка аддзірала краёчак канверта, а ўсе глядзелі на яе, быццам чакалі, ці будзе яна плакаць ці танцаваць. Прабегла вачыма няроўныя, відаць, напісаныя дрыжачай рукою радкі:

«Дарагая Галя! Я зноў звяртаюся да цябе з жаданнем і надзеяю. Ты ўжо выгадавала так званага свайго сына. Я гэта ведаю, бо цяпер працую тут, у акадэміі. Я ўжо кандыдат навук,— нібы пахваляўся Канстанцін Стрыжанок.— Мне цяпер усяго тут хапае. Не хапае толькі аднаго — асабістага шчасця. Лёс мяне абдзяліў ім. Дык давай спалім усе тыя масты, што вядуць да мінулага, і пабудуем новыя, якія будуць весці нас з табою толькі і толькі ў шчаслівую будучыню. Я ведаю, што і ты не мела шчасця, дык давай цяпер здабудзем яго разам...»

Галя нават не дачытала Стрыжанковага ліста. Пашматала яго на дробненькія кавалачкі і пусціла па ветры. Узялася распячатваць другі.

Дастала з канверта невялікі белы аркушок. Па меры таго як Галя чытала, ногі яе ўвачавідкі падломваліся, і яна ўпала на зялёную траву, нема закрычаўшы.

— Мама, што з табою? — стараючыся падняць яе, закрычаў спалоханы Вадзім. Марынка хуценька пабегла і прынесла кубак халоднай крынічнай вады.

— Нічога, сынку, нічога,— мармытала праз сцятыя зубы Галя.— Яны невінаватыя! Яны невінаватыя!

— Хто невінаваты?

Вадзім узяў з Галіных рук аркушок, і людзі бачылі, як, чытаючы, ён бялеў, чырванеў, вочы яго напіваліся слязьмі. Хлопец не мог вымавіць ні слова. Марынка, даўшы Галі вады, пачала дапытвацца, што з ім. Ён нічога не адказваў.

Усе, хто быў на палянцы, таксама нічога не разумелі. Паўскоквалі з сваіх месц і акружылі Заранку.

— Ён невінаваты! Ён невінаваты!

Падбеглі да Галі Няронскі, Леўчык, карэспандэнт і той незнаёмы.

Няронскі ўзяў з рук у Вадзіма паперку з чырвоным штампам Вярхоўнага Суда БССР і толькі цяпер зразумеў, у чым справа.

— Таварышы, не разыходзьцеся,— сказаў Няронскі.— Зараз мы ўсё вам скажам.

Ужо ніхто больш не сеў на траву. Усе ў трывожным чаканні сабраліся вакол стала. Працерабіўшы сабе локцямі дарогу, бліжэй за ўсіх стаў дзядзька Адам з новенькай дубальтоўкаю і навастрыў вушы.

— Я вам, таварышы, прачытаю гэтую паперку, і вы самі зразумееце ўсё.

Густы басавіты голас Няронскага пераціналі спазмы, але ён чытаў так, каб усе чулі. І чытаў вось што:

«Паводле дайшоўшых да Вярхоўнага Суда БССР вестак, у Вас, паважаная Галіна Казіміраўна, знаходзіцца на выхаванні сын Станіслава Дарахвеевіча і Альбіны Вікенцьеўны Гарадзюкоў, у свой час беспадстаўна арыштаваных і асуджаных. Паведамляем, што справа Станіслава і Альбіны Гарадзюкоў перагледжана Вярхоўным Судом БССР і яны пасмяротна рэабілітаваны і адноўлены ва ўсіх грамадзянскіх правах».

— Дык Вадзім не яе родны сын? — пачулася з натоўпу.

— Хто б мог гэта падумаць! Яна ж яму ўсю душу аддавала, яна ж яго глядзела лепш, як каторыя сваіх родных. Яна ж яго выняньчыла, выхавала і ў людзі дарогу дала!

— Таварышы! — зноў пачуўся голас Няронскага.— Гэта трагічная і прыемная вестка не можа не расчуліць кожнага з нас, у кім б'ецца сэрца савецкага патрыёта. Добра, што наша зямля мае такіх мужных, нязломных, я сказаў бы, гераічных людзей, як Галіна Казіміраўна Заранка.

На гэтым і скончыўся мітынг. Прэміі Леўчык уручыў ціха, без тых урачыстасцей, якія меліся адбыцца, па спісу, што быў складзены загадзя. Яму карцела хутчэй пабачыць Галю.

Заранка ляжала на ложку. Над ёй стаялі Вадзім з Марынкаю. Галя ўжо выплакалася. Яна чамусьці не магла зірнуць у вочы Вадзіму, быццам у чым вінавата была перад ім. Хлопец гэта заўважыў і, праглынуўшы даўкі камяк у горле, загаварыў:

— Мама! Мама! Ты нічога не думай. Ты лепшая, ты раднейшая мне за ўсіх мам на свеце.

— І мне, і мне самая родная,— падтрымала Вадзіма Марынка.

Удваіх яны кінуліся цалаваць Галю. У гэты самы момант і падышоў да ложка Леўчык. Паглядзеў на Галю. Яна зірнула на яго і адвяла позірк, быццам і перад гэтым чалавекам была ў чым вінавата.

— Эх, Галіна Казіміраўна! Галіна Казіміраўна! Незамужняя ўдава! Я быццам ведаў гэта. Сэрца маё чула. Навошта ж ты адна на свае слабыя плечы ўзваліла гэтакі цяжар? Яго ж можна было б раздзяліць на дваіх, і куды лягчэй было б.

— Не трэба пра гэта! Не трэба, Іван Лявонавіч,— махнуўшы рукою, слаба запратэставала Галя.— Відаць, так і павінна было быць.

Усе гэтыя дні Вадзім з Марынкай не адыходзілі ад Галі. Ім здавалася, што, калі яны адыдуць, яна ў роспачы нечага можа нарабіць. Аднак узрушэнне ўлеглася, і Галя пакрысе пачала супакойвацца. Таго, чаго яна баялася, не здарылася. Ёй здавалася, што як толькі Вадзім даведаецца, што яна яму не маці, то адхінецца, вырачацца яе. Выйшла наадварот: не толькі Вадзім, дык і Марынка як прыкіпелі сэрцамі да яе, і гэта прыносіла заспакаенне і нават радасць.

А жнівень быў гарачы-гарачы. Сонца ў небе, здаецца, плавілася і на зямлю асыпалася пякельна-гарачымі кроплямі. У сярэдзіне тыдня на світанні, калі яшчэ не разлілася спёка, прыехаў старшыня. Усхваляваны Леўчык выбег з машыны і да Галі:

— Дык от, Галіна Казіміраўна, параіўшыся на праўленні, мы вырашылі паслаць цябе на курорт, на Рыжскае ўзбярэжжа. Пасля ўсяго перажытага трэба адпачыць.

— Дзякую вам, Іван Лявонавіч, але мне не трэба ніякія курорты. Як гэта я кіну ўсё і паеду?

— Не адмаўляйся, Галіна Казіміраўна. Гэта ўсё ўзгоднена з райкомам. І Павел Анісімавіч настойваў на гэтым.

— І сама не ведаю,— як бы пачала згаджацца Заранка.— Ніколі я на тым моры не была, дык баюся нават і ехаць на яго.

— А каб не баялася, я спадарожніка добрага знайшоў.

— Каго?

— Пабачыш сама. Збірайся ды паедзем у Бацькавічы. Тут астанецца Марынка. Я ўжо і пуцёўку ўзяў і чыгуначны білет у купейны вагон. Толькі паедзеш не з Хазарыч, а з горада. Туды мая машына завязе. Збірайся хутчэй!

— Дык ужо так і збірацца?

— Трэба ж яшчэ сёе-тое і дома падрыхтаваць: і ўборы, і строі. Жанчыны ж не могуць без гэтага.

І от Заранка заходзіць у вагон. Чамадан яе нясе ззаду сам старшыня. Нясе і чагосьці ўсміхаецца, як бы ён штосьці смешнае падстроіў, што вось зараз саб'е спанталыку пасажырку.

— Галіна Казіміраўна, дык вось жа купэ. Шостае,— сказаў і сам адсунуў дзверы. У купэ пры акне, углядаючыся на перон, стаяў па-святочнаму апрануты чалавек. Стук дзвярэй нібы яго спалохаў, і ён як не падскочыў. Леўчык прапусціў наперадзе сябе Галю. Сам затрымаўся з чамаданам у дзвярах. На яго твары — хітравата-зычлівая ўсмешка. Галя спынілася пасярод купэ, угледзелася ў пасажыра і сумелася. Яна доўга не дае веры сваім вачам і, як не праціраючы іх, глядзіць і глядзіць на чалавека. Той таксама глядзіць, але па твары відаць, што ён чакаў гэтай пасажыркі.

— Зянон Карнеевіч, гэта вы? — адыходзячы ад утрапення, спытала Галя.

— Як бачыце.

— Як гэта вы сюды?

— Раней за вас на аўтобусе прыехаў з Гардзеевіч.

Ад нечаканасці, з-за нейкай разгубленасці Галя так і не павіталася за руку з кавалёўскім брыгадзірам Зянонам.

— Сядайце, уладжвайцеся як дома,— запрашаў Зянон.

Леўчык прайшоў з дзвярэй, падняў века правага палка і паставіў у скрыню Галін чамадан.

— Я ж вам казаў, Галіна Казіміраўна, што добрага спадарожніка знайшоў. Хіба благі?

Галя нібы і не пачула гэтага запытання.

— А куды вы едзеце? — запытала.

— Туды, мабыць, куды і вы,— адказаў брыгадзір.

— Разам пуцёўкі і нават чыгуначныя білеты сам браў,— растлумачыў Леўчык.— Дык вы ж глядзіце адно аднаго. Добра там адпачывайце, набірайцеся сілы і, галоўнае, не сумуйце. А мне трэба яшчэ ў адно месца заскочыць, ды ўжо і нярана. Дык дазвольце пажадаць вам добрага адпачынку і, галоўнае, добрага настрою.

— Дзякуем,— як змовіўшыся, адказалі разам Заранка і Зянон.

Яна ўсё яшчэ ніяк не магла асвойтацца ў гэтым купэ. Не ведала — ці стаяць ёй, ці садзіцца, ці вешаць на кручок летняе паліто, ці гэтак і трымаць яго ў руках.

Было ўжо добрае змярканне. Зянон уключыў верхняе

святло. Яно мякка-мякка разлілося па купэ, і Галя заўважыла, што твар брыгадзіра быў чыста паголены, вымыты, не такі, як тады ў лесе. І па новенькім цёмна-сінім гарнітуры пад гальштукам і па ўсім можна было падумаць, што гэта не калгасны брыгадзір, а нейкі трошкі франтаваты інтэлігент. Адно толькі рукі выдавалі: яны былі жылаватыя і як пафарбаваныя ў карычневы колер.

Галя таксама апранулася не абы-як. Яна надзела тую цёмна-блакітную шарсцяную сукенку, якую прывёз ёй у падарунак Вадзім. Зянон глядзеў на жанчыну, здаецца, не могучы адвесці ад яе позірку.

Заранка засаромелася. Загарэлы, абветраны твар яе зачырванеўся і ад гэтага стаў яшчэ прыгажэйшы.

Тым часам цягнік мякка-мякка крануўся. Яны не пачулі нават стуку колаў, буфераў. Адно вызначылі, што ён крануўся, па тым, што перонныя агеньчыкі пачалі адплываць назад.

— Значыць, у наша купэ нікога больш і не пасадзяць! — канстатаваў Зянон.

— Нам прастарней будзе.

— Пасцелі трэба? Пасцелі трэба? — пытала праваднiца.

— Нясіце,— адказала Галя за дваіх.

Зянон дастаў два пафастрыгаваныя ватныя матрацы. Галя распрастала просціны і па-жаночы дбайна заслала пасцелі. Паселі адно супроць аднаго. Галя бачыла, што Зянону хочацца закурыць. Ён ужо колькі разоў даставаў з кішэні цыгарэты, гуляўся з карабком запалак, але адразу ж усё гэта клаў назад у кішэню.

— Курыце, курыце,— дазволіла Галя.

— Я ведаю, што вы ні дыму, ні агню не баіцеся.

— Адкуль вы ведаеце?

— Я пра вас усё ведаю.

— Затое я, на жаль, пра вас нічога не ведаю,— прызналася Галя. І ад гэтага прызнання на Зянонаў твар набегла пахмурнасць: значыць, яна ім не цікавілася, ні ў кога не пытала пра яго, значыць, яна зусім абыякавая да яго. А ён жа думаў...

— Раскажыце мне пра сябе, Зянон Карнеевіч.

— Навошта? Жыццё кожнага чалавека другім відно, як на далоні, дык навошта пра яго расказваць.

— Раскажыце, раскажыце,— дамагалася Заранка.

Праз усю ноч да самага Мінска пасажыры шостага купэ нават не прылеглі на пасцелі. Зянон уключыў начное

сіняватае святло, і ў купэ запанаваў нейкі казачны паўзмрок. Галя слухала тое, што расказваў Зянон.

Незадоўга да вайны Зянон ажаніўся быў з кавалёўскай дзяўчынай Дусяй. Нарадзілася двое дзетак: сынок Андрэйка і дачка Ніна. Потым неяк так сталася, што яго паслалі вучыцца ў партыйную школу. Адтуль Зянон пайшоў і на вайну. Два разы быў паранены: першую рану атрымаў пад Арлом, другую ў баях за латвійскі горад Елгаву. Пасля вайны Зянона прызначылі брыгадзірам кавалёўскага калгаса. Прыйшоў ён з вайны і не пазнаў ні дзяцей — тыя павырасталі, ні жонкі — Дуся неяк змізарнела. Захварэла на нешта. Куды ён толькі ні вазіў яе: па ўсіх гарадах, па ўсіх дактарах,— нічога не памаглося. Два гады таму назад Дуся памерла. І толькі тады, калі памерла, дактары сказалі, што ў яе быў рак.

— Няшчасная,— паспачувала Галя.— А дзе вашы дзеці цяпер?

— Андрэй служыць у арміі афіцэрам-кадравіком, а Ніна замужам у нашых Кавалях. Вы не думайце, што я так сабе чалавек. Я ўжо — дзед,— нібы пахваліўся Зянон.

— Я таксама, мусіць, хутка бабкай стану,— сказала сваё Галя.

— Маладая прыгожая бабка. Да такой бабкі яшчэ і пазаляцацца не грэх.

— А хіба да такога дзеда, як вы, нельга?

— А вы разумееце, Галіна Казіміраўна, якое гэта пачуццё быць дзедам?

— Якое?

— Мне здаецца, што сваіх родных дзяцей я так не любіў, як унукаў. Ведаеце, не пабачу, не пагуляюся з імі дзень-другі — сэрца ные.

— А вы ведаеце, Зянон Карнеевіч, нашаму пакаленню выпала такая доля, што не было калі і як дзяцей любіць. Трагедыі, якіх мы столькі переражылі, маглі б сэрцы нашы скамяніць. І вельмі добра, што ваша сэрца асталося чулае і трапяткое.

— А ваша?

— А маё? Не ведаю. Будуць унукі, праверу.

— Дык вы хутка збіраецеся стаць з незамужняй удавы незамужняй бабкай?

— Не кажыце так, Зянон Карнеевіч,— спахмурнела Галя.

— Даруйце, Галіна Казіміраўна, што мо зрабіў вам трошкі балюча.

У Мінск цягнік прыйшоў на світанні. Яшчэ не былі патушаны вулічныя агні. Зянон з Галяю выйшлі на перон. Любаваліся горадам, удыхалі халаднаватае чыстае паветра. Хадзілі па пероне, аж пакуль не пачулася:

— Грамадзяне пасажыры! Цягнік адыходзіць праз дзве мінуты. Просім заняць свае месцы.

У сваім купэ яны засталі новых пасажыра і пасажырку. Яны ўладкоўвалі чамаданы і клункі. Гэта былі ўжо стараватыя і таўставатыя людзі. Мужчына, зірнуўшы на сваіх спадарожнікаў, звярнуўся да Зянона:

— Ведаеце што, таварыш, я папрасіў бы вас перасяліцца на верхні палок. Няхай нашы жонкі ўнізе будуць. Ім жа, жанчынам, усё-такі цяжкавата наверх падымацца.

Галя паслала Зянону пасцель на верхнім палку. Як толькі крануўся цягнік, абое, Зянон і Галя, заснулі. Дзіва што: усю ж ноч не спалі. Прачнуліся, пад'язджаючы ўжо да Рыгі. Прачнуліся, і Зянон пашкадаваў:

— Ай-я-яй, Галіна Казіміраўна, гэта ж мы з вамі праспалі. Мне ж хацелася хоць праз акно паглядзець на Латвію. Я ж тут ваяваў. Можна сказаць, сваімі нагамі схадзіў усе дарогі. Хацелася пабачыць, якая яна цяпер, Латвія.

— А мы як-небудзь на экскурсію паедзем. Пагледзіцё яшчэ.

— Хіба што!

У Рызе забавіліся нядоўга. Падземным выхадам выйшлі на пляцоўку электрычкі і неўзабаве былі ўжо ў Булдуры. Галі спадабалася, што тут усё чысценькае, дбайна дагледжана, усё мае нейкі святочны выгляд. І настрой яе сам сабою стаў прыўзнята-святочным.

Зянон схапіў абодва чамаданы — Галін і свой.

— Давайце, давайце, я сама буду несці. Вам жа цяжка.

— Што вы! Я ж мужчына!

Заранка ішла следам за Зянонам, перавесіўшы цераз руку сваё і Зянонава паліто. Санаторый «Беларусь» знайшлі адразу. Адразу ж ім далі месцы ў пакоях. Так пачалося іх курортнае жыццё. Галі хацелася адразу ж пахадзіць, паглядзець на мора, на сосны, на дзюны, але сястра, якая давала ім месцы, папярэдзіла, што ў дзесяць гадзін усе пакоі замыкаюцца і той, хто спозніцца, будзе мець справу з галоўным урачом, вельмі суровым чалавекам, які за парушэнне правілаў унутранага распарадку

можа нават выпісаць з санаторыя. Ні Зянон, ні Галя не захацелі парушаць правілаў унутранага распарадку.

Затое на раніцу, нібы змовіўшыся, яны з ручнікамі выйшлі, можа, самыя першыя на мора. Галя, як зачараваная, упершыню глядзела на бяскрайнасць воднага прастору, і ў яе аж дух займала.

— Пакупаемся, Галіна Казіміраўна,— прапанаваў Зянон.

— Тут жа, мусіць, вельмі глыбока?

— Не, не! Вунь аж да тых тычак можна ісці.

Галя толькі цяпер убачыла, што на ціхай морскай хвалі далекавата ад берага пагойдваліся вешкі.

Хуценька распрануліся, і Зянон першы ступіў у ваду. Галя яшчэ бавілася на мяккім і ласкавым пясочку берага. Ёй цікава было бачыць, як кідаліся ў мора чайкі, нырцавалі, нібы што яны згубілі на дне і даставалі яго адтуль.

Зянон, адышоўшы далекавата ад берага, крычаў:

— Галіна Казіміраўна, давайце сюды!

Нерашуча, павольна-павольна ступіла ў ваду, якая, здалося на першым часе, аж апякала холадам цела.

— Смялей! Смялей! — падбадзёрваў Зянон.

Галя асмелілася — кінулася ў ваду. І адразу вада ёй здалася цёплай, нават ласкавай. Папраставала да Зянона. Той стаяў і чакаў яе. Як толькі Галя падышла зусім блізка, ён кінуўся далей. Галя нават не згледзела, як Зянон даў нырца ў ваду і, як здалося ёй, доўга-доўга не выныраў.

— Зянон Карнеевіч! Зянон! Дзе вы? — закрычала яна.

Зянон вынырнуў зусім блізка ад яе. Спалоханая, яна нібы з дакорам глядзела на яго.

— Навошта вы так робіце, Зянон? Навошта вы палохаеце мяне? Я ж думала, што вы ўтапіліся.

— Тут жа мелка, па пахі толькі.

— І праўда мелка,— радасна заўсміхалася яна.

1963—1964

# АПАВЯДАННІ

## Пад чырвоным сцягам

Усе ў Круплянах ведаюць Арцёма Швайку. Хоць чалавек ён і негаваркі, аднак жа яго любяць паслухаць і старыя і малыя. Стары пражыў такое жыццё, што аб ім і за дзень не перакажаш. Больш сямідзесяці год жыве на свеце Арцём. Вунь ён ідзе па круплянскай вуліцы. Шырокі ў плячах, мажны, Арцём Швайка калі ступае па зямлі, дык яна, здаецца, крышку ўгінаецца пад ім. Чалавек моцнай касці, мужнага цела, жалезнага характару, ён як бы рукой адмахваецца ад старасці, кажучы ёй: «Ты пачакай яшчэ, мне багата чаго трэба зрабіць, мне яшчэ трэба пакрасавацца на свеце». І гэта сапраўды так. Арцёму багата чаго хочацца на свеце.

Ля раённага Дома культуры некалькі дзён ужо вісіць аб'ява аб тым, што ў нядзелю адбудзецца сустрэча моладзі з былым чырвонагвардзейцам Арцёмам Швайкам. Арцём глядзіць на гэтую абвестку, яму робіцца крышку страшнавата. Што гэта ён там будзе казаць? Аднак недзе ў глыбіні душы гарыць і агеньчык радасці: гэта ж яму, былому парабку, такая павага, такі гонар. Няхай ён ужо і зжывае свой век. Але хоць на старасць прыемна адчуць, што чалавек ты не абы-які, а той, з кім хочуць радзіцца, каго хочуць слухаць, у каго хочуць пытаць дарогі. А хіба гэта мала для чалавека! Усе гэтыя дні не было спакою Арцёму. Ён думаў, перадумваў, перабіраў у памяці пражытае жыццё. Яно яму здавалася звычайным, будзённым. Але ж чаго ім цікавяцца людзі? Можа, яно не зусім звычайнае, мо вартае таго, каб быць прыкладам?

Старой яго ўжо даўно няма на свеце: фашысты яе жыўцом спалілі. Сына Макара таксама няма. Ён загінуў на фронце ў часе Вялікай Айчыннай вайны, і цяпер Арцём дажывае век з нявесткай і двума ўнукамі.

— Мар'я, ты мне дай апрануць што-небудзь спраўнейшае.

— Мо ў сваты надумаліся, тата? — жартуе нявестка.

— Важней, чым у сваты,— адказвае стары.— Хіба ты не чула, што камсамольцы мяне просяць, каб я ім расказаў пра сваё жыццё.

— Дык што вы будзеце расказваць? Хіба вы які агітатар? — з любасцю пытаецца Мар'я.

— Бачыш, на старасці год у агітатары падаўся,— усміхаецца Арцём, аж торгаюцца расчэсаныя з гэтага выпадку вусы.

Мар'я адчыняе скрыню, што стаіць у кутку, і дастае Арцёмаў святочны гарнітур, на якім прымацаваны ордэн Чырвонага Сцяга і медаль «Партызану Айчыннай вайны». Арцём апранае гарнітур, глядзіцца ў люстэрка, натапырвае яшчэ больш вусы. Нявестка збоку глядзіць на старога і радасна ўсміхаецца. Яна любіць свёкра сапраўды дачынной любоўю. Бо, каб мо не ён, дык ці жывая была б яна з дзецьмі? Перад тым як немцы рабілі аблаву ў Круплянах, свёкар прыйшоў з лесу і забраў іх. Старая не захацела ісці, пабаялася кінуць гаспадарку. Гэтак і загінула. Праз усе гэтыя гады, пакуль выраслі ўнукі, Арцём быў ёй за роднага бацьку, а дзецям — самым клапатлівым дзедам. Мар'я нават баіцца падумаць, што калі-небудзь не стане на свеце гэтага самага роднага ёй чалавека. Таму яна стараецца заўсёды ўгаварыць яго, каб ён цяжка не рабіў, не ўкідаўся ў вельмі вялікі клопат. Не-не дый скажа яна старому:

— Вы б, тата, пасядзелі дома, адпачылі б. Хіба нам больш за ўсіх трэба? Хопіць і таго, што я зараблю.

— Я табе от што скажу, маладзіца. Нядошлы той чалавек, які баіцца работы. Ад яе людзі не старэюць, а маладзеюць, а я яшчэ хачу пакрасавацца на свеце,— адкажа Арцём і пойдзе з касою ці сякераю. Гэтак за дзень напрацуецца, што дзве нормы выганіць, а ўвечары прыйдзе стомлены і абавязкова скажа нявестцы:

— Я, маладзіца, не прывык на ласкавым хлебе сядзець. Ад яго, кажуць, зубы вывальваюцца, а я хачу сваімі зубамі свой хлеб есці.

Мар'я з ахвотай прыбірала старога. Ёй і самой хацелася паслухаць, што ён там будзе казаць. Толькі от няёмка быць у кампаніі з моладдзю. Яна ж не маладзёнка якая. Свае дзеці камсамольцамі пасталі.

— Вы б калі, тата, і дома расказалі,— просіць Мар'я.

— Ат, што там расказваць, ты ж усё ведаеш.
— Нічога не ведаю, і дзеці не ведаюць.
Тым часам пачуўся лёгкі стук у шыбу вулічнага акна, і стары пазнаў Вацікаў голас:
— Дзеду Арцёму, не баўцеся доўга. Мы ўжо ўсе сабраліся.
Сакратар райкома камсамола Вацік Каленік і надумаў правесці гэтую сустрэчу са старым, таму і непакоіўся.
Перад тым як выйсці з хаты, Арцём чагосьці затрымаўся, нібы ён нешта забыў, нібы нечага не хапала. Пастаяўшы і падумаўшы, ён папрасіў Мар'ю:
— Ты дастань там у скрыні.
— Што дастаць, тата?
— Хіба ты не ведаеш што?
Мар'я пакапалася на дне скрыні між сувояў палатна, дастала нешта загорнутае ў белы паркаль і падала старому. Ён узяў пакунак пад паху і выйшаў на вуліцу.
Вечарэла. Сіняватыя змрокі слаліся па зямлі, засцілаючы далягляд. У паветры стаяла тая перадасенняя сцішанасць цёплага вечара, калі толькі ласкава і санліва шапоча на дрэвах лісце, а ад зямлі, нагрэтай за дзень шчодрым сонцам, падымаецца парнасць і як бы ўсяго цябе агортвае мяккай гаючай цеплынёй.
Вацік стаяў ля брамкі двара, чакаючы Арцёма.
— Куды мы пойдзем? — спытаў Арцём.
— У Дом культуры, там ужо сабраліся.
— Дзівак ты, хто ж гэта ў клубе ўсядзіць такім вечарам. Ідзі заві ўсіх на луг, да рэчкі.
Ваціку не прыйшло ў галаву, што сапраўды няма чаго парыцца ў клубе. Ён прывык праводзіць усё ў Доме культуры, сядзець за сталом, пакрытым чырвоным абрусам. Гэта як бы значней і салідней. А тут на̀ табе — дзед Арцём заве на рэчку... Мусіць, старому ўспомніліся колішнія начлегі, з вогнішчамі, з казкамі.
— Вы пачакайце, дзеду, а я збегаю ды пазаву,— з ахвотай згадзіўся на прапанову старога Вацік.
— Ідзі, а я памалу патупаю пад стары дуб.
Арцём выйшаў на сцяжынку, якая віецца між альшэўніку, што падступае да самых круплянскіх хат. Змярканне нібы сцелецца пад ногі. Далягляд пасінеў, адно ўдалечыні, як жывое срэбра, пераліваецца рэчка. Яна тут робіць вялікую вілюжыну, як бы хочучы ўцячы ад людзей. У гэтай вілюжыне расце сакавітая трава з падсадай дзятлоўніку, не тое што там за рэчкай — адзін сівец. Старому

ўспомнілася, як усе гады круплянцы судзіліся з панам за гэты поплаў. Ён сам колькі разоў ездзіў упаўнаважаным ад грамады па судах. Але гэтак і не адсудзілі да самага трыццаць дзевятага года. Цяпер сэрца старога радуецца: не толькі сенажаць, але і панскае поле за рэчкай і па гэты бок адышло круплянскаму калгасу. Калі Арцём пра гэта думае, хораша робіцца на душы, хоць гэта і не ён зрабіў, не ён дабіўся, хоць гэта ўсё дала сялянам Савецкая ўлада. Але і яго часцінка тут ёсць, бо каб мо ён тады не быў у Петраградзе ды не ўступіўся за бальшавікоў і каб не сотні, тысячы такіх, як ён, дык хто яго ведае, як яно цяпер было б. Можа, і цяпер марнелі б пад буржуямі. А так от жа і сюды, на заходнюю зямлю, прыйшоў Кастрычнік, хоць ён і спазніўся больш як на дваццаць год.

Арцём ішоў і думаў сабе пра ўсё гэта. Дайшоў да дуба, што рос непадалёку ад рэчкі, спыніўся. Хуценька назбіраў ламачча і расклаў цяпельца, акурат гэтак, як калісьці ў маладосці на начлезе. Кволы агеньчык трапятаўся чырвоным полымем, як жывы. Арцём разгарнуў паркаль, дастаў з яго сваё самае дарагое — зліняльі, прабіты кулямі заплямлены крывёй чырвоны сцяг і павесіў яго на галіну дуба. Стары прысеў на пянёчук, закурыў і соладка зацягнуўся дымам. Ён думаў, пра што расказаць камсамольцам. Ціхі пошум дрэў стаяў над наваколлем, ды рэчка шапатліва пляскалася ў бераг, як бы хочучы даць знаць, што яна жывая. Аднак і пад гэты ласкавы вячэрні пошум лісця і плёскат рачных хваль чалавек нічога не мог надумаць... У галаве ўсё перамяшалася, і толькі асобныя карціны, эпізоды вымалёўваліся ў памяці. Нават тады, калі камсамольцы абступілі вогнішча, каторыя паселі, а каторыя палеглі ў траве, падрыхтаваўшыся слухаць Арцёма, ён не ведаў яшчэ, што будзе казаць.

— Пачынайце, дзед Арцём, мы вас слухаем,— гэтак даў слова старому Вацік.

Замест таго каб гаварыць што слушнае, Арцём зусім недарэчы сказаў:

— Пагрэйцеся, сакаляты, каля цяпельніца. Я калісь вельмі любіў пасядзець увечары ля агню, ды от і вас сюды прывёў.

Вацік трывожыўся. Яму здавалася, што дзед Арцём гэтак нічога і не ўспомніць, нічога цікавага не раскажа, і тое, да чаго ён гэтак рыхтаваўся, сарвецца. А стары тым часам яшчэ падмацаваў Вацікаву трывогу:

— Я не ведаю, голубы мае, што мне вам і казаць. Гэ-

тулькі перажыта, гэтулькі перабачана, што ў галаве ўсё намітусь пайшло.

— Што гэта за сцяг вы павесілі, дзеду? — спытала дзяўчына.

— Гэта доўгая гаворка, мая ўнучка,— зірнуўшы на сцяг, сказаў дзед Арцём. У галаве яго нібы ўсё праяснілася, і ён сказаў:

— Дык слухайце, дзеці мае. Я вам раскажу пра аднаго асілка...

Камсамольцы раз-пораз падкладвалі ламачча на агонь, яно патрэсквала і свяціла ў цемрадзі вечара, як паходня...

Высокі афіцэр у залатых пагонах штабс-капітана ўзлез на тумбу, якая немаведама як апынулася пасярод Дварцовай плошчы. Ён крычаў, размахваў рукамі, нібы хацеў сарвацца з гэтай тумбы і паляцець. Добра чуў афіцэравы словы радавы, самы высокі па росту салдат. За гэты рост яго заўсёды ставілі наперадзе — ці ў паходзе, ці нават у баі. За ўсе гады службы ў імператарскім гвардзейскім палку ён быў, бадай, самым дысцыплінаваным. Яго ні разу не ставілі пад ружжо, ніводзін афіцэр не з'ездзіў па патыліцы за якую салдацкую правінку. А сёння штабс-капітану якраз патрэбны былі паслухмяныя, верныя салдаты. Гвардзейскі полк па загаду Стаўкі знялі з Заходняга фронту і спехам перакінулі ў сталіцу. Перад тым як пагрузілі ў эшалон полк, невядома куды зніклі члены палкавога салдацкага камітэта. Мусіць, яны некаму заміналі, дык іх і прыбралі ціхенька. Ніхто не ведаў, навошта прывезлі салдат у сталіцу, і толькі як пачаў гаварыць з тумбы штабс-капітан, можна было зразумець, чаму апынуўся гвардзейскі полк на вуліцах Петраграда.

— Салдаты, браты, таварышы! Вы прысягнулі на вернасць Часоваму ўраду. У вашых руках сіла, якая адна яшчэ здольна скрышыць не толькі ворагаў замежных — немцаў, але і ўнутраных супастатаў — бальшавікоў. Расія ў небяспецы, на вас толькі і надзея, верныя сыны айчыны! — закочваючы пад лоб вочы, ашалела крычаў афіцэр.— Вам давядзецца прыняць бой не на фронце, а тут, у сталіцы, дык не думайце, што вы будзеце страляць у сваіх братоў. Вашы кулі будуць забіваць супастатаў, нехрысцяў-бальшавікоў, якія растапталі не толькі веру ў цара-бацюшку, але і ў бога. Дык няхай не здрыганецца ваша рука, цэлячыся ў самае сэрца супастата.

Салдатава сэрца білася гэтак, што здавалася вось-вось выскачыць з грудзей. Думка нібы апякла мозг. Ён сіліўся зразумець, што тут дзеецца. Не паспеў адумацца, як з бакавой вуліцы, быццам полымя, шугануў чырвоны сцяг. Ён, здаецца, ляцеў на крылах, як вялізны вогненны птах. Людзей спачатку не відаць было, толькі чуўся бязладны тупат ног. Нямоўчныя крыкі далятталі да салдацкіх вушэй:

— Салдаты! Не страляйце ў нас. Вы нашы браты па класу, па мазалю. Вас ашукваюць буржуі, тыя, хто хоча і надалей сядзець на нашым карку, хто хоча набіваць свае кішэні за кошт нашай працы. Не верце ім, салдаты! Далоў буржуазію! Няхай жыве ўлада працоўных! Уся ўлада Саветам! — грымела над Дварцовай плошчай.

На момант афіцэрава каманда перасіліла ўсё:

— Агонь па бунтаўшчыках! Агонь па супастатах!

Салдат не ведаў, каго слухаць. Ягоныя рукі неяк аўтаматычна ўскінулі вінтоўку, і ён стрэліў. Стрэліў, праўда, не ў тых, што беглі па плошчы, а паверх галоў. Адзінокі вінтовачны стрэл аддаўся, як выбух снарада, на момант аглушыўшы салдата. Рукі механічна зноў перазарадзілі вінтоўку. Адно пальцу трэба было націснуць на спускавы кручок і ўжо страліць не паверх галоў, а ва ўпор у таго, хто са сцягам бег проста на салдата. Можа б, палец і націснуў на спуск, калі б сусед не крыкнуў:

— Што ты робіш, дурны, у каго страляеш?

Салдат апамятаўся, нібы адразу з яго вачэй спаў туман. Ён убачыў, як чалавек у матроскай форме падбег да тумбы і на ўсю сілу выцяў яе нагой. Яна павалілася, і штабс-капітан бразнуўся на зямлю. А той, хто нёс сцяг, пераскочыўшы цераз тумбу і цераз афіцэра, наўпрасткі бег да салдат і крычаў:

— Салдаты, браты нашы родныя, не страляйце ў сваю будучыню. Станавіцеся пад гэты чырвоны сцяг, разам будзем змагацца за зямлю, за волю народную.

Высокі салдат апусціў вінтоўку і пільна глядзеў на капітана, нібы чакаючы, што той загадае. Ён бачыў, як афіцэр, апрытомнеўшы ад удару, расшпільваў кабуру, выхаваў рэвальвер і цэліўся ў спіну чалавеку, які бег са сцягам.

Салдат зноў амаль механічна ўскінуў вінтоўку. Пачуліся два стрэлы: адзін рэвальверны, другі вінтовачны. Высока ўзмахнуўся над галовамі тых, што беглі, сцяг і паволька ўпаў на маставую. Гэта ад першага стрэлу, а ад другога — падламіўшы назад ногі, упаў дагары штабс-ка-

пітан. З грудзей яго цурчэла кроў. Стрэл быў трапны. Не паспеў салдат апамятацца ад таго, што тут адбылося, як да яго падбег матрос і схапіў у моцныя абдымкі.

— Ты наш, брацішка! — матрос горача дыхнуў салдату ў твар і пацалаваў, як роднага брата.— Вазьмі гэты сцяг і нясі яго да самай перамогі.

Салдат узяў з матросавых рук шурпатае дрэўка сцяга. Ён не ведаў, што з ім рабіць. У момант яго абступілі сябры па палку. Салдат чуў:

— Так яму і трэба, сволачы той буржуйскай!

— Туды яму і дарога.

Салдат хацеў убачыць таго рабочага, што нёс сцяг. Але яго, параненага, на руках панеслі некуды ў завулак. З момант салдат стаяў у нерашучасці. З людскіх грудзей, як магутны падземны выбух, вырвалася песня:

Смело, товарищи, в ногу,
Духом окрепнем в борьбе.
В царство свободы дорогу
Грудью проложим себе.

Салдат упершыню ў жыцці заспяваў такую песню. Яна яго падганяла, клікала, і ён, узняўшы высока над галавой чырвоны сцяг, пайшоў наперадзе. Грудзі яго раздаліся, ногі чотка выбівалі крок, галава ўзнялася. Ён бачыў, як пад кулямі рабочых, матросаў і салдат падалі юнкеры і афіцэры. Пад вечар усё ўціхамірылася. Толькі недзе наводшыбе ў завулках чуліся рэдкія стрэлы... Ля Смольнага стаялі напагатове кулямёты, пільна неслі варту байцы рэвалюцыі. Калі салдат апынуўся ў калідоры Смольнага, да яго падышоў той жа матрос.

— Бачу, брацішка, што на цябе можна паспадзявацца. Стань ля гэтых дзвярэй на варту.

— Ёсць стаць на варту,— адказаў, як па статуту, салдат.

— А каму мне сцяг перадаць? — спытаў ён.

— Няхай будзе ў цябе. Здымі з дрэўка!

— Ёсць зняць!

Салдат згарнуў сцяг і заткнуў пад крысо шыняля.

Калідор Смольнага доўгі: вунь колькі дзвярэй. А яму, салдату, загадана пільнаваць толькі адны гэтыя. Што там за імі? Праз шчылінку салдат бачыў, што ў пакоі гарыць святло. Стомленасць, дзённая ўзрушанасць давалі аб сабе знаць. Хацелася спаць, аж вочы мімаволі самі зліпаліся. Па доўгім калідоры ляжаць і сядзяць рабочыя, салдаты, матросы, тыя, што ўдзень ішлі на юнкераў. Каторыя з іх

7 Зак. 2495

храпуць. Ад гэтага храпу, ад таго, што ён бачыць, як усе спяць, да яго сляпіцай чэпіцца сон. Раз-пораз ён працірае вочы. Сюд-туд ходзіць ля дзвярэй. Яму ж на пасту нельга ні на хвіліну заснуць. Чулае салдатава вуха ўлавіла, што і за дзвярыма нехта адмервае крокі. Значыць, і там не спяць, хоць на дварэ цёмная глухая асенняя ноч. А чаму ж там нехта не спіць? Хіба яму больш за ўсіх трэба?

Пад самую раніцу, калі праз вокны пачало прабівацца цьмянае святло асенняга світання, ціхенька рыпнулі дзверы і на калідор выйшаў чалавек. Ён быў у цёмным з аксамітавым каўняром незашпіленым паліто, у кепцы, крышку насунутай на вочы. Адразу можна было заўважыць, што чалавек вельмі рухавы, энергічны, хоць і стомлены. Ён зірнуў на салдата, і па твары прабегла лагодная ўсмешка. Салдат не паспеў агледзецца, як чалавек працягнуў яму руку:

— Добрай раніцы, таварыш.

Салдат не ведаў, што рабіць: вартавому нельга вітацца рукою. А перад ім была працягненая рука, і ўсмешка, як цёплы агеньчык, іскрылася ў вачах чалавека. Салдат ужо не мог стрываць.

Пераклаўшы вінтоўку ў левую руку, ён узяў пад казырок:

— Здравія жадаем, таварыш!

— Стаміліся, відаць?

— Так точна!

— Вымуштравалі за вайну... Здорава вымуштравалі.

— Так точна! — амаль механічна выпаліў салдат.

— Адкуль будзеце самі? — запытаў чалавек.

— З Беларусі.

— З беднага краю,— і чалавек на момант задумаўся.— Але нічога. Пераможа рэвалюцыя, тады і ваш край пабагацее... Абавязкова пабагацее...— У словах чалавека адчувалася такая ўпэўненасць, што салдат ужо нібы бачыў свае Крупляны ў цвеце багацця.

Чалавек зірнуў на салдата і толькі, мабыць, цяпер заўважыў, што з-пад крыса шыняля вытыркаўся ражок чырвонай матэрыі.

— А што гэта ў вас такое? — спытаў ён.

— Гэта сцяг.

— Пакажыце, пакажыце.

Салдат дастаў з-пад крыса чырвоны сцяг, разгарнуў перад вачыма чалавека. У ім віднеліся тры дзірачкі, відаць, прабітыя кулямі.

— Гэта, таварыш, рабочы нёс яго. Штабс-капітан стрэліў рабочаму ў спіну. Ён упаў і сцяг выраніў, дык матрос аддаў мне яго, каб я нёс.

Замілаванасць, гонар адлюстраваліся ў вачах чалавека. Салдат гэта заўважыў і адчуў нешта такое, што радніла яго з гэтым незнаёмым, але ўжо блізкім таварышам.

— Дык нясіце гэты сцяг. Далёка нясіце, па ўсім свеце. Пройдзе час, і з ім лёгка будзе жыць працоўным людзям. Нясіце, таварыш,— сказаў гэта чалавек і падаў на развітанне салдату руку.— Прабачце, што я доўга затрымаў вас ля сваіх дзвярэй, цяпер можаце ісці адпачываць.

Салдат не ведаў, ці ісці, ці не ісці з паста. Гэты ж чалавек цывільны, і ці можа ён камандаваць салдатам? Ды і хто ён за такі? Вартавы вырашыў дачакацца матроса, які яго тут паставіў.

Неўзабаве прыбег узрушаны, радасны матрос. Яшчэ здалёк ён крыкнуў салдату:

— Наша ўзяла, таварыш. Рэвалюцыя перамагла. Усіх юнкераў пазаганялі ў норы, а калі каторы высуне галаву, адсячэм.— І ўжо без пафасу спытаў: — Ну, як табе тут стаялася?

— Стаялася добра, зацішна. Але от каго я вартаваў, не ведаю.

— Дзівак чалавек. У гэтым пакоі ўсю ноч працаваў Ленін.

— Ленін? Не можа быць. Няпраўду ты кажаш,— здзівіўся салдат.— Ленін жа, мусіць, не такі. Ён жа, відаць, як асілак. А гэта ж звычайны чалавек. Нават са мной за руку павітаўся.

— У тым-та і сіла, што ён звычайны. Але вось справы незвычайныя робіць... Усім царам і буржуям па баку хоча даць, каб нам, простым людзям, добра на свеце жылося. Сёння ж, брацішка, рэвалюцыя адбылася, а гэта ж усё пад яго кіраўніцтвам зроблена.

Салдат глядзеў на матроса і не зусім разумеў яго ўзрушанасць. А матрос доўга і шчыра тлумачыў салдату, што значыць рэвалюцыя, што яна дасць працоўнаму люду...

— ...Дык вось як яно, дзеткі мае, было тады,— падкладаючы сушняк у агонь, які ледзь ліпеў, бо на яго ўжо забыліся, казаў Арцём Швайка.

7*

— А хто ж той салдат быў? — з нецярплівасцю пыталі камсамольцы.

— Хто той салдат? — перапытаў Арцём і ўсміхнуўся ў вусы.— Хто той салдат, хочаце ведаць?

— Хочам! — амаль хорам адказалі юнакі і дзяўчаты.

— Тым салдатам быў я!

У вачах хлопцаў і дзяўчат Арцём Швайка нібы адразу зрабіўся другім чалавекам. Яны дапытліва на яго глядзелі, як бы хочучы запомніць назаўсёды ягоныя рысы.

— Дык гэта, значыць, вы з Леніным за руку віталіся?

— Так, я,— Арцём зірнуў на правую далонь сваёй старэчай, але яшчэ моцнай рукі, нібы там астаўся след таго даўняга ленінскага поціску.

— А вунь і сцяг той вісіць... Гэта той самы сцяг. Бачыце, тры дзірачкі ўнізе, то прабітыя яшчэ тады, у Петраградзе. На Дварцовай плошчы.

— А вунь жа яшчэ вышэй відаць дзіркі...

— Гэты сцяг, дзеткі, пабачыў на сваім вяку...

Арцём расказваў камсамольцам, як пад гэтым самым сцягам ён ваяваў з Пятлюрам, з Юдзенічам, з белапалякамі, як ён вярнуўся ў Крупляны пасля грамадзянскай вайны. За пазухай прынёс гэты чырвоны сцяг салдат у родную хату. Тут гаспадарылі белапольскія акупанты. Яны, як агню, баяліся чырвонага сцяга...

— А вунь угары яшчэ колькі прабоін,— тлумачыў далей дзед Арцём.— То ў трыццаць пятым годзе мы пад гэтым сцягам наладзілі ў Круплянах першамайскую дэманстрацыю. Паліцыя страляніну адкрыла. Мяне тады ў астрог аж на пяць год запраторылі, а сцяг ухавалі добрыя людзі.

Арцём расказаў камсамольцам, як у верасні 1939 года ён разам з круплянцамі выйшаў пад гэтым сцягам сустракаць воінаў-вызваліцеляў. Ён тады перадаў савецкім танкістам гісторыю гэтага сцяга. Яны прасілі, каб стары аддаў ім сцяг. Аднак ён сказаў танкістам:

— Няхай яшчэ пабудзе са мной. Яшчэ ж не скончана барацьба. Я яго дваццаць год хаваў, як знак Вялікага Кастрычніка. Дык няхай ён будзе развявацца над намі і знакам свабоды. Няхай ён кліча нас на будаўніцтва новага, шчаслівага жыцця.

Ноч ужо даўно запанавала на прасторы. Квола паблісквае пад дубам агеньчык камсамольскага кастра. Усе,

хто сядзеў ля яго, нібы забыліся, што трэба спаць. А Арцём усё гаварыў і гаварыў. Здавалася, канца не будзе яго апавяданню... Нарэшце стары ўстаў, падышоў да дуба, зняў з галіны сцяг. І ён пайшоў па руках. Кожны хацеў патрымаць свяшчэнную рэліквію Кастрычніка. Арцём акінуў позіркам камсамольцаў і сказаў, перадаючы сцяг сакратару райкома камсамола:

— Я ўжо чалавек стары і хачу перадаць вам гэты сцяг. Вазьміце яго, дзеткі мае, і нясіце з гонарам наперад, да яшчэ большага чалавечага шчасця. А цяпер дабранач, дадому пара.

Усім гуртам камсамольцы пайшлі ў напрамку круплянскай вуліцы. Арцём толькі цяпер заўважыў, што сярод тых, хто яго слухаў, была і яго нявестка Мар'я з унукамі.

Пасля таго вечара кожны, хто заходзіў у райком, поруч з шаўковым сцягам раённай камсамольскай арганізацыі бачыў старэнькае, выцвілае чырвонае палотнішча на арэшкавым дрэўку... Яно стаіць на самым покуце, поруч з партрэтам вялікага Леніна... Пад гэтым старым, прабітым кулямі сцягам круплянскія камсамольцы выходзілі на дэманстрацыю ў гонар саракагоддзя Вялікага Кастрычніка.

1957

# ЗНАХОДКА НА ГАРЫШЧЫ

Не гэтак даўно прыйшло да мяне ў Мінск пісьмо ад дырэктара саўгаса «Казлоўшчынскі» Кузьмы Іванавіча Шыльца, у якім ён ледзь не слёзна прасіў, каб я конча прыехаў у Баршчоўку. Шылец аднекуль ведаў, што ў мяне ёсць свая машына. А дарога ад Мінска да Баршчоўкі цяпер такая, што хоць ты па ёй бокам каціся — высыпана гравіем, а некаторыя ўчасткі заасфальтаваны. І от я еду з сваёй Марынкай. Цяпер яна мяне аднаго дык і не пускае, асабліва ў вялікую дарогу. Тлумачыць тым, што баіцца за мяне. Я раблю выгляд, што не задаволены жончынай апекай, аднак у глыбіні душы ёй удзячны. Хто яго ведае, мабыць, многія з нас, мужчын, п'юць поўныя кілішкі жончыных клапот і, дзякуючы ім, радуюцца жыццю і шчасцю.

Аднак жа от мы з Марынкай едзем. Выехалі на світанні, калі яшчэ сонца не люстравалася зайчыкамі на ветравым шкле нашай «Волгі». Марына сядзіць на пярэднім сядзенні разам са мною. Хто яе не ведае, можа падумаць, што жанчына хоча спаць і таму такая негаваркая. А я ведаю, што прычына маўклівасці не ў гэтым. Кожны раз, калі мы з Марынай едзем куды ўдваіх і яна сядзіць поруч са мною, слова з яе абцугамі не выцягнеш, хоць Марына мая гаваркая і ў звычайных абставінах, скажам, дома, сыпле словамі як гарохам. Часам, стоячы ля мальберта, каб не крыўдзіць жонку, я раблю выгляд, што ўважліва слухаю яе, а сам выключаю свой слых, як гэта выключаюць радыё, і думаю сабе, што хачу. Часам толькі не патраплю сказаць тое, што трэба, і Марына здагадаецца, што я яе не слухаю. Пагневаецца, пагневаецца, ды і годзе.

Едзем мы доўга, і, здаецца, канца і краю няма дарозе. У гэтых краях я ўжо і не памятаю, калі быў. Як падаўся з дзяцінства ў свет, дык, скажы ты, ні разу і не заманулася пабыць мне тут. Не вельмі салодкае было дзяцінства, што не хочацца хоць глыток выпіць яго.

Але от жа бязлесіца. Сонца гэтак падсвечвае, што поле далёка-далёка праглядаецца. За купкай цёмнага ад далечыні гаю відны два ветракі. Відно, што адзін з паламанай махай. На другім крылы без ветразей. Марына штурхнула мяне пад локаць і спытала:

— Што гэта, Макар?

— Ты хіба не ведаеш? — спытаў я так, што ў маім запытанні адчувалася кплівая ўтрапёнасць.— От дзівачка, гэта ж ветракі. Ты ж не раз іх на маіх карцінах бачыла.

— Не пазнала! — засаромелася, як пасля дакору, Марына і змоўкла, каб, відаць, больш нічога не пытацца.

А я пазнаваў мясціны майго маленства. Гэта непадалёк ад ветракоў могілкі. Дрэвы расныя, какацістыя. Бярозы, клёны і ясені гэтак разлапушыліся, што пад кронаю кожнага дрэва можна ўхавацца ад самага спорнага дажджу. Могілкі абкапаны глыбокай задзірванелай канавай, праз якую перакінуты новы яшчэ масток.

Чамусьці мне прыйшлі ў галаву пачутыя недзе словы: аб продках, якія адышлі ў нябыт, трэба таксама клапаціцца. Інакш пакрыўдзіш людскую памяць, а яна нікому і нічога не даруе. У Баршчоўцы нехта паклапаціўся.

Адразу за могілкамі пры самым шляху стаяў нізкі прысадзісты мураваны будынак. Мо ён мне здаўся вельмі нізкім таму, што вочы мае прывыклі да гарадскіх высозных будынін, а гэты быццам не стаяў, а ляжаў на зямлі, выцягнуўшыся на ўвесь рост. За сценамі ўнутры будынка нешта рытмічна чахкала, стагнала, як жывое. Насупраць дзвярэй я спыніў машыну і даў доўгі сігнал. Выйшаў абсыпаны мучным пылам чалавек.

— Што ў вас тут такое? — павітаўшыся, спытаў я.

— Ды гэта ж летась пыцель і крупадзёрку зрабілі,— адказаў мне чалавек і павярнуўся назад.

— Навошта ты чалавека адрываеш ад работы! — нібы папракнула мяне Марына.

— Наробіцца яшчэ,— адказаў, мабыць, не тое, што трэба было, я.

Нейкае млоснае пачуццё поўніла мае грудзі. Здавалася, аж распірала іх. Я не мог скрануцца з месца. Марына глядзела на мяне і, мабыць, не разумела, што са мною творыцца. Непадалёк стаялі ветракі, як пасірацелыя. Нікога каля іх не было відно — ні завознікаў, ні млынароў. Хай бы іх зусім разбурылі,— і аж шкода стала мне іх. Яны ж на маіх карцінах. Мо яны там і больш пражывуць, чым тут.

— Далёка нам яшчэ ехаць? — запыталася Марына.

— Мы прыехалі ўжо. Сядай, вядзі памаленьку машыну, а я прайду,— як загадаў я Марыне.— Толькі глядзі, не заедзь у Баравічы. Да Баравіч тут калісь было дванаццаць вярстоў,— знарок назваў я жонцы старую меру адлегласці, быццам тым самым хацеў вярнуць назад час.

Машына кранулася і павольна паехала. Я пайшоў пехам. Думак было гэтулькі, што невядома куды іх дзяваць. Перад самым краем вёскі купка бярэзніку. У сярэдзіне яе мураваны абеліск з чырвонай пяцікутнай зоркай. Абеліск абліцаваны пад мармур. На ім золатам блішчаць словы: «Вечная слава тым, хто аддаў жыццё за народнае шчасце». Трошкі ніжэй на абеліску высечаны словы: «Анань Казловіч, слаўны камісар, герой грамадзянскай вайны». Я пастаяў, скінуўшы капялюш, і маўкліва паклыпаў далей, дзе пры павароце са шляху ў вуліцу стаяла Марына і чакальна глядзела на мой кожны крок.

— Дзе ты там бавішся? — азвалася жонка.

— Хочацца ж усё паглядзець,— сказаў я.

— Добрае ў цябе жаданне. Аднак жа ўсяго не пераглядзіш.

— А як жа от гэтага не паглядзіш,— паказаў я Марыне на будыніну з мураванымі шуламі. Відаць, гараж, які прастакутнікам адмяжоўваў баршчоўскую вуліцу ад шляху. Праз сцены будынка аж на шлях вылятаў рокат матораў. За гаражом віднелася разлегласць вялізнага двара, на якім махаў крыламі ажурны ветрачок, відаць, пампаваў ваду.

На самым відавоку, ганкам на вуліцу, мясціўся двухпавярховы мураваны будынак. Гэта, відаць, тая новая кантора, пра якую мне пісаў Шылец. Насупраць відзён быў чырвоны, мураваны з чатырма вокнамі на вуліцу дом, на ганку была прымацавана шыльда: «Дзіцячыя яслі і сад саўгаса «Казлоўшчынскі». О, я добра ведаў, як сваё жыццё, гэты будынак!

Марына спыніла «Волгу», пад'ехаўшы да ганка саўгаснай канторы. На ганку сядзела поўна мужчын. Яны курылі, рагаталі. У людзей, мабыць, заўсёды, калі яны збяруцца купкай, знойдзецца з чаго парагатаць.

Як толькі падышла машына, мужчыны сцішыліся і выжыкальна глядзелі на нас, быццам хацелі запытаць, што нам тут трэба. Павітаўшыся, я папытаў, дзе можна ўгледзець іхняга дырэктара. Мужчыны наперабой мне хацелі адказаць. Адно я, быццам не хацеў іх слухаць, узнімаўся на ганак.

Прайшоў у будынак. Там, як і ў нашых гарадскіх установах, ляскалі лічыльнікі, гурчалі нязлосна арыфмометры, клекатала, як бусел, пішучая машынка. Я прайшоў сюд-туд па доўгім калідоры і на адных з дзвярэй прачытаў: «Дырэктар саўгаса «Казлоўшчынскі» Герой Сацыялі-

стычнай Працы Шылец Кузьма Іванавіч. Прыём наведвальнікаў з 8 да 10 гадзін раніцы». Я прачытаў і сам сабе ўсміхнуўся з гэтае пунктуальнасці. Тым часам да мяне падбег немалады ўжо мужчына, які, мусіць, сёння забыў пагаліцца, і спытаў:

— Прабачце, вы да Кузьмы Іванавіча?

— Так!

— Ён нядаўна адбыў дадому на снеданне. У нас жа не горад. З сонцам устаём. З сонцам і спаць кладзёмся. Дык калі не падбяжыш днём сёе-тое перахваціць, дык гэтак галодным і прашвэндаешся цэлы дзень,— нібы імкнуўся апраўдаць свайго дырэктара ўвішны чалавек.— Калі ён вам конча трэба, дык вы ж на машыне. Яго хата трэцяя ад краю па правую руку.

Калі я выходзіў з канторы, мужчыны ўсе ўсталі як па камандзе. Мо думалі, што я які начальнік над саўгасамі?

— Марына, паганяй памаленьку,— падаў каманду я жонцы.— Аж туды ў канец. А я пехам прайду.

І от я іду вуліцаю. Яна тая і не тая. Не, гэта не Баршчоўка! Там неяк хаты ціснуліся адна да аднае і ўсе глядзелі на Багалазаву мураванку. А вясною ці ўвосень дык нельга было прайсці вуліцаю. Размешаная, раз'езджаная калясьмі, яна была як бяздонная твань. Таму ранняй вясною і ўвосень усе хадзілі па загуменні. Цяпер жа вуліца была праменькая, чыстая. На кожныя дзве хаты стаяў дубовы слуп, ад якога ішлі два правады, чапляліся за беленькія парцалянавыя чашачкі і прабіваліся ў хату. Пасля таго як Баршчоўку перавялі ў саўгас, туды правялі электраток ад дзяржаўнай лініі.

Вуліцу, мабыць, пастараўся засыпаць гравіем Шылец. Ля кожнае хаты гародчык, у якім растуць, аж буяюць, вяргіні, панічы, бяссмертнікі і лапушыцца мята. Гародчыкі ўсе абгароджаны штыкетнікам і пафарбаваны ў чырванаваты колер. Гэта яго работа. Успамінаю з маленства, як Кузёмка любіў фарбаваць. Нават Багалазаў паркан добра быў вымазаў охрай.

Я іду ўздоўж вуліцы паўз самыя хаты і прыкідваю, дзе ж Шыльцава хата, ці такая яна, як усе. А наша «Волга» ўжо стаіць пад нечай брамаю. Высунуўшы праз адчыненае шкло пярэдніх дзверцаў галаву, Марына глядзіць, дзе я. Памахаў ёй рукою і заспяшаўся да жонкі. За парканам бомкнуў глухі сабачы брэх, слізганула, аж віскнула, па дроце кольца ланцуга, і адчынілася фортка брамы.

Стараваты ўжо мужчына з клінаватай трохі барадою стаяў на парозе форткі і моргаў вачыма. Калі я падышоў, ён аж працёр вочы, гледзячы на мяне. Пабавіўся трохі, быццам думаў, ці трэба яму гэта рабіць, ці не, кінуўся да мяне з абдымкамі.

— Макар, гэта ты?! — дужа ашчаперыў маю шыю.

— Я! Я! — пазнаў я Кузьму.— Знаёмся, гэта мая Марына,— паказаў я на жонку, якая дапытліва глядзела на нашу сустрэчу.

— Ну, то няма чаго тут на вуліцы стаяць! — заганяў у расчыненую фортку мяне і Марыну гаспадар. Сабака быў прыпяты ўжо накароткую да паркана і аж заходзіўся брэхам.

— Ды цыц, Мурза,— тупнуў на сабаку нагою гаспадар. Потым ён нібы спахапіўся.— От жа, аж здурнеў ад радасці. Трэба ж машыну ў двор загнаць, а то вы яшчэ павернеце ды непрэліўкі на Мінск. Ведаем вашага брата! Сорак год не паказваў вачэй сюды, дык і цяпер уцячэш,— зірнуў на мяне нібы з дакорам Кузьма. У наступны момант ён расчыніў вароты і сам сеў за руль заганяць машыну.— Не бойцеся,— крычаў з кабіны Кузьма,— усю вайну вадзіў грузавікі. Пад бомбамі і снарадамі праскокваў, а тут як-небудзь праскочу пад павець. Можаш праверыць, ці ўсё я зрабіў: ці зняў газ, ці паставіў на тормаз.

Зачыніўшы вароты, Кузьма падбег пад акно і як не закрычаў:

— Хіўра! Хіўра! Што ты там робіш? Хіба не бачыш, хто прыехаў?

Выціраючы хвартухом рукі, выбегла з сянец жанчына.

— Гэта маё золата,— адрэкамендаваў нам жонку Кузьма.— Знаёмцеся,— ужо нібы афіцыйна прапанаваў ён.

Жанчыны вельмі хутка паразумеліся: не паспелі зайсці ў хату, разгаварыліся, як старыя знаёмыя. У нас з Кузьмой гаворка неяк не клеілася. Здараецца ж так: людзі не бачацца дзесяцігоддзямі, а сустрэнуцца, не ведаюць, з чаго пачаць. І мы ўзбіваліся то на адно, то на другое і ўсё не на тое. Нарэшце Кузьма нібы напаў на тое, што трэба.

— Хоўра,— ужо з беларускай транскрыпцыяй звярнуўся ён да жонкі.— Салаўёў балачкамі не кормяць. Давай на стол. А вы, госці, рукі мыць. Вунь у сенцах умывальнік. За мною,— перакінуў цераз правае плячо Кузьма ручнік.

— Дык мы таго. Мы ў дарозе перакусвалі,— спрабаваў я ўціхамірыць гаспадароў імпэт.

— От іменна, што ў дарозе не ядуць, а перакусваюць. Давай хутчэй, Хоўра! — падганяў жонку Кузьма.

А на стале ўжо было і прасоленае сала, і сялянская кілбаса, выкапаная са шмальцу, і нейкім цудам уцалелыя дасюль леташнія яблыкі, і наліснікі, і варэнікі.

— Ну, сядайце, госцейкі, будзем грашыцца, чым бог даў, як той казаў. Хоўра, а мядку ты і забыла паставіць.

— У нас на той мядок не вельмі і ласыя ёсць. Хіба калі ўнукі прыедуць, дык тыя і мёду ганьбы не даюць.

— Ты зноў балачкамі пачала частаваць нас,— гнеўна зірнуў на жонку Кузьма.

Тую як ветрам выдзьмула з-за стала. На нейкі час выйшаў і Кузьма. Вярнуўся ён з бутэлькаю ў руках.

— Каб ты ведаў, якую я табе знаходку падрыхтаваў,— наліваючы ў чаркі пітво, гаварыў Кузьма.

— Якую? От гэту?! — здзівіўся я. Няўжо ён думае, што я, гарадскі чалавек, жадзён да чаркі каньяку?

— Барані бог,— па-старому баршчоўскаму выказаў сваё Кузьма.— А калі праўду казаць, дык і гэтага нялёгка дастаць. Ва ўсякім разе ў нашай баршчоўскай краме яго нямашака. Ды і ў Баравічах я ледзьве яго дастаў. Цяпер, брат, пад гэтае пітво ўсялякія здзелкі адбываюцца. Дык чаму вы не выпілі? — накінуўся на нас з Марынай гаспадар.

Тым часам вярнулася са слоікам мёду ў руках гаспадыня.

— Гэтак загус, зацукравеў, што ледзьве накалупала,— старалася апраўдаць сваю доўгую адсутнасць гаспадыня.

— Ды пробуйце бо, госцейкі! — запрашаў Кузьма.

— Мы, браток, благія піткі. І армянскім нас не спакусіш. І ён для нас не знаходка,— сказаў я гаспадару.

— Ды не каньяком я хацеў цябе спакусіць!

— А чым жа?

— Пасля скажу і пакажу тую знаходку.

Да самага вечара мы сядзелі за гасцінным Кузьмовым сталом. Гаспадар расказаў нам усё пра свой саўгас, пра цяжкасці.

— Хто яго ведае, што было б, каб партыя не пайшла нам насустрач і не зрабіла цяперашні наш саўгас! — выказаў думку Кузьма.— А цяпер у нас сталы ломяцца ад наедкаў і напіткаў. Не думайце, што ў аднаго мяне такі стол, у кожнага баршчоўца не горшы.

— Ну, то што ж: будзем віншаваць цябе як дырэктара,— сказаў я.

— Не мяне трэба аднаго. Партыю, наш урад трэба віншаваць. Гэта яны знайшлі дарогу да людскіх сэрцаў,— высакапарна хваліўся Кузьма.— Калі гэта было відана, каб у Баршчоўцы было аж сем Герояў Сацыялістычнай Працы!

А мне ўсё карцела, пра якую знаходку намякнуў Кузьма. Я ўсё думаў і перадумваў і ні да чаго не мог дадумацца.

— А чаму ты ўсё-такі да нас ніколі і вачэй не паказаў? — з дакорам пытаў у мяне гаспадар.— Хіба, я́к той казаў, з вачэй далоў, дык і з сэрца гэць.

Пачуўшы гэтае «гэць», я аж усміхнуўся.

— Ты як украінец. Адкуль гэта ў цябе? — спытаў я, быццам не ведаючы вытокаў гэтых украінізмаў.

— З кім павядзешся, ад таго набярэшся. Неўзабаве пасля таго, як ты выехаў на рабфак, я панадзіўся быў на Украіну. І от аднаго разу ў Паддабранцы — гэта там, адкуль у нашу Баршчоўку паліваныя гаршкі вазілі,— угледзеў я яе. Паверыш, з першага разу як прысох, як прычаравала яна мяне. А чым, дык і сам не ведаю. Праўда, прыгожая яна была: шчыгульненькая, трошкі кірпаносенькая, хоць ты з яе абразы пішы. Толькі, мабыць, не гэтым яна мяне прычаравала. Прысох я да яе за песні. Бывала, як зацягне, дык куды той жаўранак са сваім вясновым ціліўканнем. Бывала, слухаю і думаю: от парвецца нітка песні. А яна цягне і цягне, нібы на клубочак яе матае. І дацягне да канца.

Хоўра слухала мужыкову пахвальбу і кідала вачыма то на мяне, то на Марыну. Мо хацела праверыць, як мы рэагуем на Кузьмовы словы. А ён не мог ніяк суняцца.

— Дык от адкуль у мяне ўкраінскія словы. З песні ж іх не выкінеш! Пасля і я пачаў браць на падгалосак. А Хоўра пачала спяваць не толькі свае ўкраінскія, а і нашы, беларускія. То гэтак мы і сталі інтэрнацыяналістамі,— уставіў Кузьма вучонае, вельмі цяперашняе слоўца.

Марына кідала на мяне позіркі, быццам невымоўна гаварыла: от як людзі пражылі, не тое што мы з табою.

А Кузьма расфіласофстваваўся: яно, брат, так,— чалавеку трэба спяваць толькі вясёлае і ніколі не ліць слёз, як бы ў цябе на сэрцы ні было, бо як папусцішся ім, дык яны цябе могуць захліснуць у балоце безнадзейнасці.

Хацелася мне нечым падтрымаць Кузьму, нечым выка-

заць адабрэнне ягонага жыццёвага шляху, але я не ведаў, чым і як.

— Добра, відаць, пражылі,— сказаў я стандартнае, каб толькі што-небудзь сказаць.

— Цэлы век пражылі. Пусцілі дзяцей не толькі на свет, але і далі ім крылы, і яны разляцеліся. То мы ўдваіх і засталіся. Не ведаю, як вы з Марынай.

— Мы таксама ўдваіх засталіся,— сказала, як паскардзілася, Марына.

— Не ведаю, як вы,— зноў уключыўся ў гаворку гаспадар,— а я лічу, што тыя дзяды і бабулі, якія адбіраюць ад сваіх дачок і сыноў іхніх дзяцей яшчэ немаўляткамі і росцяць іх як не да сівых валасоў, робяць псіхалагічную дыверсію. Яны адвучваюць маладых людзей клапаціцца пра сваю будучыню.

— Вы ўжо, Кузьма Іванавіч, мабыць, занадта,— нібы ацаніла выказванне гаспадара Марына, хоць адчувалася, што яна згодна з ім.

Я не ўмешваўся ў гаворку.

— Вам добра, Кузьма Іванавіч. Калі настрой у вас не дужа добры, папросіце Хоўру, і яна павесяліць вас, паспявае.

— Не, галубка, цяпер ужо не тое, што было. Голас Хоўрын падупаў. Калісь звінеў, як тая паліваная варэйка,— зноў Кузьма ўставіў украінізм. Ён, здаецца, ніяк не мог адсартаваць, дзе ўкраінскае, а дзе беларускае слова, і гаварыў тое, што першае трапляла на чаргу.— Бывала пушачкамі пальцаў куштаеш варэечку, а яна звініць, як песню спявае. Цяпер патрэскалася паліва, і варэйка не звініць, а бразчыць. Так і мы з Хоўрай патрэскаліся ўжо,— па-філасофску заключыў сваё выказванне Кузьма.

Я маўчаў і слухаў Кузьму і жонку. Думаў пра тое, што заўтра з самае раніцы пойдзем у поле і паглядзім, як робяць людзі. Я напомніў Кузьму, што яму трэба з самае раніцы, як напісана на дошчачцы, што вісіць на дзвярах ягонага кабінета, прымаць наведвальнікаў. Ён мнагазначна ўсміхнуўся і сказаў:

— Гэта так, для адводу вачэй прыезджых. Каго трэба, дык я і сярод ночы прыму. Невялікі пан! У нас і на гэтыя прыёмы ніхто не ходзіць. У саўгасе ўсё выверана, падагнана, як у добрым гадзінніку механізм, і я не баюся, што ён спыніцца. Ёсць каму падкруціць спружыну. Дык ты не бойся, што мяне адарвеш ад работы. Ды ты ж не абы-які чалавек. Ты ж прапагандыст, ды яшчэ які! Бачыў я ў

часопісе рэпрадукцыі з тваіх карцін. Глядзіш на іх, дык аж душа замірае. А каб жа яшчэ паглядзеў арыгіналы...

Я здагадаўся, куды меціць дырэктар. Ён, мабыць, хоча, каб я паабяцаў яму наладзіць у саўгасе выстаўку сваіх твораў. Я прыкінуў, што сапраўды можна будзе ці ў глыбокую восень, ці зімою прывезці сюды свае асноўныя карціны, і паабяцаў Кузьму Іванавічу зрабіць гэта. Мне хацелася, каб баршчоўцы паглядзелі даўно мною напісаную карціну «Уручэнне акта на вечнае карыстанне зямлёю». Хоць ён трошкі быў і пампезны, я любіў гэты свой твор.

Як не тыдзень хадзілі мы з Кузьмой Іванавічам ад поля да поля, ад канторы да пытля, ад старых ветракоў да саўгасных абор, ад чарады цялят да статка мерыносаўскіх авечак, ад дойных кароў да нецеляў, якія тут трымаліся асобна. За які тыдзень у саўгасе мо не засталося таго кутка ці закутка, дзе б я не пабываў.

Мы дамовіліся, што я накідаю алоўкам ці вугалем партрэты ўсіх Герояў Сацыялістычнай Працы. Дома давяду іх да ладу, і будзе ў мяне цэлая галерэя людзей працы. Пачаў я з самога Шыльца. Маляваў я яго не з натуры. Нават у гэтым накідзе мне хацелася паказаць, чым жыве, чым дыхае гэты чалавек. Наносячы той ці іншы штрых, я быццам глядзеў у далёкае мінулае, калі яшчэ Кузьма Іванавіч быў хлопцам, а я зусім хлопчыкам. Кузьма Іванавіч глядзеў на маю работу, мыляў вуснамі і нічога не гаварыў. Відно было, што ён не задаволены ёю.

Два дні я не адыходзіў ад табурэткі, на якой стаяў чамадан, што мне служыў за мальберт. Я не дабіваўся партрэтнага падабенства натуры з малюнкам, хоць тут, відаць, і трэ было. Шукаў, як знаходкі, праявы ўнутранага свету чалавека. Мне здаецца, што гэты ўнутраны свет у большасці выпадкаў я намацаў.

На развітальным стале, за якім мы сядзелі праз паўтара тыдня, стаяла пачатая тады бутэлька армянскага каньяку. Нібы для падтрымкі ёй Хоўра паклала з паўдзесятка апельсінаў. Я зірнуў на цытрусы і сказаў:

— Гэта таксама армянскія?

— Добрая краіна, гэтая Арменія,— выказаў сваё пачуццё Кузьма...

Мы глядзелі на бутэльку з каньяком. Кузьма Іванавіч аж зазлаваў:

— Дык чаго ты да мяне ехаў. Аскому толькі наганяць!

— Мне ж машыну весці ў такую далёкую дарогу. Няхай от Марына вып'е з табою чарку.

— Няхай! — згадзіўся Кузьма Іванавіч, бачачы, што мяне ніяк не ўломіць выпіць.

Удваіх з Марынай усё-такі яны дагледзеліся дна ў бутэльцы. Дырэктар трошачкі падсалавеў, і я падумаў, што цяпер акурат час пытаць пра тую навіну, якою ён інтрыгуе мяне от паўтара тыдня.

— Ну, дык ты ўсё-такі скажы, чым ты хочаш інтрыгаваць мяне?

— А от! — і дырэктар саўгаса пайшоў да скрыні. Адчыніў яе і дастаў адтуль папяровы скрутак...

* * *

Я, здаецца, нырaў у стаячую, непраточную ваду, і мне не хапала дыхання. Я жахаўся, кідаўся і апрытомнеў у дзядзькі Нупрэя на руках. Ён насіў мяне, гушкаў, як малога.

— Не плач, дзетка, ужо ўсё мінулася,— казаў ён мне нібы ў самае вуха.— От, небарачка наш, акрыяеш трошкі і станеш на ногі. Гэта ж далося табе так! Ды не бядуй: цяпер гэты тыфус покатам усіх валіць.

Панасіўшы мяне на руках па хаце, дзядзька Нупрэй паклаў пад полаг, зроблены над ложкам, каб туды не залялі мухі. Нупрэй нечага хваляваўся і гаварыў неяк парывіста.

— Параскева, ты глядзі гэтага хлопца. На старасць ён будзе нам як знаходка.

— Ды ўжо ж,— пакорна згадзілася з Нупрэем цётка Параскева.— Нам жа не даў бог і ўжо, мабыць, не дасць сваіх, дык і чужы будзе, можа, лепш за свайго.

— Ды не пляці ты немаведама чаго. Бог табе не даў! Сама нягеглая, а бог вінен,— сказаў гэта Нупрэй так, што здавалася, от ён скажа: я не такі, як ты, я ўсё магу. Ён гэтага не сказаў. Адно што загадаў жонцы:

— Я ж кажу табе: глядзі гэтага хлопца як свайго, і бог табе дасць не толькі спасенне, але і радасць.

— Добра, Нупрэйка, я буду! — выказала Параскева рашучасць.

Гэтыя словы нібы прыглушана далятaлі да мае свядомасці, і я не мог зразумець, што яны гавораць.

— Дзе мая мама? — ледзьве сцёг я голас.

— Супакойся, хлопчык. Мама твая пайшла туды, адкуль ніхто не прыходзіць назад.

— Яна прыйдзе! Яна мяне не кіне аднаго! — крычаў я, колькі меў сілы.

— Не прыйдзе, хлопчык мой,— адхінула полку полага і нахілілася, акрыла мяне цётка Параскева.

Тым часам да адхінутай полкі полага падышоў дзядзька Нупрэй. Ён таксама нахіліўся нада мною і сказаў так, што я аж дыханне яго чуў:

— Няма чаго табе, хлопча, маніць. Чым раней мы табе скажам, тым хутчэй ты супакоішся. Як ты ляжаў у бяспамяцтве, твая маці памерла. Яе закапалі ў зямлю. А адтуль ніхто не вяртаецца.

Нупрэй сказаў гэта і ўтаропіўся вачыма ў мой твар. Ён быў балесны, як вымачаны. У той час я сам адчуваў, як большалі мае вочы, як яны нечым наліваліся, і я не заплакаў, а закрычаў:

— Дзе мая мама? Дзе мая мама?

— Супакойся, хлопчык! Супакойся! Адтуль, куды мама пайшла, ніхто не прыходзіў. І тата не прыйдзе. Ён пайшоў на вайну сабакам сена касіць. Так што цяпер цётка Параскева і я самыя родныя твае бацька і маці.

Я слухаў і не слухаў сваіх новых бацькоў. Я то ўпадаў у бяспамяцтва, то вырынаў з яго. Нупрэй зірнуў на мяне і сказаў:

— Давай, Параскева, пакінем дзіця ў спакоі,— затуліў ён полку полага.— Кожнаму чалавеку трэба выплакацца, а тым больш дзіцяці, тады яму лягчэй становіцца.

Мне не станавілася лягчэй. Лежачы ў полазе, толькі з цягам часу я зразумеў: няма маёй мамы, самай прыгожай, самай добрай на свеце, і ніколі не будзе. Ніхто мяне не прыгорне, не ашчаперыць.

Аднак жа кожная рана на чалавечым целе, нават самая глыбокая, з цягам часу зацягваецца. Сіла жыцця ўсё нішчыць і перамагае. Перакачаўся я тады тыдні два ці тры і стаў на ногі. Я целяпаўся, як хвосцік, за гаспадаром. А ён мяне абвадзіў усюды: хадзілі на цагельню, у млын, пад шопу на малатарню. Мне падабалася малатарня, асабліва прывод. Гэта было вялізнае драўлянае кола, насаджанае на бервяно, што было ўткнута ў зямлю. На самым коле былі зазубні. Запрэжаная ў дышаль парка коней кружыла кола, зазубні якога чапляліся за адмысловую драўляную шасцёрку, у сярэдзіну яе быў уроблен даўжэзны круглы прэнт, пры дапамозе якога круціўся сам барабан малатарні, што стаяла ў гумне. Для баршчоўцаў

і гэтая машына была дзівам. Першы час, як прывёз яе Нупрэй, усе, асабліва мужчыны, хадзілі глядзець на яе.

— Цьфу ты, навыдумлялі,— аглядаючы машыну, казалі каторыя з іх. Мужчыны аглядалі барабан, мацалі, ці вострае на ім зуб'е. А першы час, калі пусцілі машыну, дык хоць адганяй было баршчоўцаў ад яе.

— Эт,— казалі многія,— гэта машына для тых, хто рукамі лянуецца варухнуць. Хіба ж гэта лад: машына пераржуе сноп тым зуб'ем і выплюне салому. А там хто яго ведае, ці чыста яна пераржоўвае.

Нупрэй даўно ўжо ведаў, што машына чыста «пераржоўвае», ні зярнятка не пакідаючы ў саломе. Гаспадар слухаў мужчын і ўсміхаўся сам сабе, быццам хацеў сказаць: эт, цямнеча, што вы разумееце! Аднак ён нічога не казаў, а моўчкі ганарыўся перад людзьмі сам сабою.

— Зноў-такі,— устаўляў нейкі баршчовец,— чым жа мы хаты, хлявы ды гумны крыць будзем, калі гэтая малатарня папераржоўвае ўсю нашу збажыну.

— Эт, ёсць што слухаць! — сказаў Нупрэй і адвярнуўся ад людзей, што азначала: ён не хоча з імі сеймакаваць.

Мужчыны пакрысе паразыходзіліся, а малатарня звінела і звінела ў «Нупрэевыя талеркі». Так баршчоўцы назвалі той гук, які быў чуваць ад малатарні, асабліва на ранку.

Я паганяў гнедага каня, прычэпленага пастромкамі за стальвагі дышля. За другі канец дышля таксама быў прычэплены конь, якога паганяў Кузёмка.

Цікавае адчуванне было ў мяне, калі я як не цэлы дзень хадзіў за канём: здавалася, што я свет прайшоў ужо. Гэта калі я задумваўся і на момант забываўся, дзе я і што я. Малатарня звінела і звінела «Нупрэевымі талеркамі» і прыводзіла мяне ў прытомнасць. Перада мною калыхаўся гнеды крыж каня. Адганяючы мух, ён памахваў хвастом. Я перад сабою бачыў адну і тую ж сцежку. Над сабою — накрытую гонтай павець-шопу. Куды б я дайшоў, мо на край свету, калі б пайшоў сам па дарогах і без дарог, куды папала!

У глыбіні душы я трошкі нават ганарыўся перад такімі, як сам, нават перад большымі баршчоўцамі: бачыце, якія я штукі выраблю, а вы што — у конікі гуляеце!

Ужо колькі летаў і зімаў гаспадар мяне знаёміць з тым, што я, як выраслу, буду мець, на што павінна падаць маё вока як маладога гаспадара.

— Пане-браце, прыглядайся да ўсяго,— казаў мне

гаспадар.— Усё гэта будзе тваё. Не вечна нам з Параскевою жыць, жылле рваць на рабоце. Выстачаць усім. Я ж і на ласкавы хлеб захачу. А ты от усё гэта забярэш, а нам з Параскевай адно ласкавага хлеба не будзеш шкадаваць. Бяззубымі ратамі мы яго будзем есці і хваліць госпада бога і цябе. Такая жытка заўсёды, як свет стаіць, была і будзе. Дык ты вучыся, прыглядайся да ўсяго. От бо хоць бы гэты вятрак, цагельня ды малатарня. Іх жа мне не адзін бог даў, а і сам я ўзяў. Усявышні дае толькі тым, хто сам можа браць. На ўсё ж на гэта я жы́лля папарваў. А табе хачу аддаць усё гэтае ні за панюх табакі. Дзетак у нас з Параскевай не знайшлося. Дык ты нам самы радны. Твая матка ў нас рабіла і працы сваёй не шкадавала.

Я слухаў Нупрэя, і мне шкада станавілася не яго: што от яны з Параскевай састараюцца і stануць нездаляшчымі,— а маці, якой не выпала доўга пажыць, пакрасавацца на гэтым белым свеце.

Кожны раз Нупрэй стараўся да чаго-небудзь мяне прыстроміць. На гэты раз мы пайшлі на цагельню. Печ яе была вымуравана ў канцы агарода. За ёй кар'ер. Там была добрая гліна, і не гліна, а глей, з якога выходзіў жалязняк. Трошкі далей, пры самым плоце, што агароджваў агарод ад выгану, была павець, пад якой ставілі ў невялічкія суслончыкі цэглу-сырэц, і яна на цёплым летнім ветрыку загусала і цвярдзела. Потым куцапалы дзядзька Адам, які служыў у Нупрэя за цагляра, састаўляў яе ў печ. Ставіў на рабро ў елачку, і, калі падпальваў дровы, полымя ахоплівала кожную цагліну. Ён ведаў, колькі дзён трэба паліць, добра шураваць і шураваць, колькі на меншым агні, каб толькі не звялося цяпло. Потым ён зусім закрываў сопуху печы. Зверху цэглу прысыпаў зямлёю, і цэгла нібы даправала, млела. Тады ўжо Адам не так пільна і глядзеў яе: ён нават начаваў дома.

Калі выгружалі з печы гатовую цэглу, тады і ў мяне было нібы свята. І я памагаў састаўляць цэглу ў суслончыкі. На самым нізе ў печы два рады было жалезняку. Гэтую цэглу баршчоўцы ды і сяляне з блізкіх і нават далёкіх вёсак расхоплівалі на пады ў печах. Ды і другая не застойвалася ў суслончыках: як толькі астывала яна, знаходзіліся і пакупнікі.

А дзядзька Адам ужо загружаў другую печ. Ён сам не загружаў, ён толькі камандаваў. Насілі і састаўлялі ў

штабялькі-суслончыкі сырэц хлопцы і дзяўчаты з іншых вёсак. Адам іх набіраў у заработкі да Нупрэя.

Я любіў глядзець, як дзядзька Адам састаўляў у елачку сырэц. Мне нават самому часам хацелася, калі падрасту, стаць цаглярам-абпальшчыкам. Не ведаю чаму, я наогул быў нейкі прагавіты: то мне хацелася быць пры малатарні, то цаглярам-абпальшчыкам. Асабліва я любіў аціраццца ў ветраку. У добры вецер млын малоў на два паставы. Гаспадар, колькі разоў пабыўшы са мною ў ветраку, з цягам часу пакідаў мяне аднаго з завознікамі, і я, як сапраўдны млынар, браў у пальцы мліва і мацаў, ці мякка мелецца мука, ці мо трэба каваць жорны. Нупрэй часам глядзеў на маю млынароўскую руплівасць і задаволена сам сабе ўсміхаўся. Яму, відаць, прыемна было бачыць, што я не ёлуп які, а ўсяму вучуся, усё пераймаю ад яго.

Дні, а то і тыдні, калі ўсходжваўся вецер, я быў млынаром. Пільнаваў, каб завознікі трымаліся чаргі. Браў каўшы. Мужчыны часам скоса на мяне пазіралі. Аднак жа ніводзін з іх не асмеліўся мне што-небудзь пярэчыць — ведалі, за мною стаіць гаспадар, і рабілі мне ўсё пад нораў. Я аж неяк ганарыўся, што людзі так на мяне глядзяць.

— Дык гэта ты што: у Багалаза служыш, дзіцятка? — запытаўся немалады ўжо завознік. Я не ведаў, як завуць таго чалавека, ці ён баршчоўскі, ці з Калінаўкі.

— Ён не служыць. Ён за сына тут умасціўся,— сказаў мужчына з цёмна-карычневай, даўно не голенай барадою.— Яму выпаў добры талан. Калі не будзе дурны, дык жытка яму будзе, як у добрых гасцях.

Расходзіўся вецер. Ляскаталі паставы: рабрыстыя жалезныя верацёны рытмічна білі аб застаўкі каўша. Мне падабаўся гэты лёскат, і я яго слухаў і ўспрымаў як музыку.

Тым часам барадаты завознік выграбаў са скрыні, у якую сыпалася мука, апошні савок яе. Яна была яшчэ цёплая і нечым вельмі прыемным пахла. Я памог барадачу навaліць мяшкі з мукою на воз, які стаяў супраць дзвярэй з падветранага боку. Вакол ветрака спецыяльна былі ўкапаны слупкі, за якія можна было прывязваць коней. Завознік падцягнуў церассядзельнік, падгроб рукамі траву, якая была падкінута каню пад пысу, і колы затарахцелі. Чалавека і след прастыў.

У ветраку мы засталіся ўдвух з калінаўскім завозні-

кам. Ён пасыпаў поўны коўш жытам, збег да скрыні і мацаў пальцамі, ці мяккая мука. Камень даўно каваўся і быў абцёрты ўжо. Мука ішла мяккая.

— Дык ён што, гэты твой Багалаз, цябе сапраўды за сына ўзяў? Не кажы ты, пашэнціла табе — на такое багацце напаў. Век свой пражывеш без гора, без прынукі. Ён, брат, твой гаспадар ці, як ён табе цяпер — бацька, за што як возьмецца аберуч, дык рук не расшчэпіць, не выпусціць таго, што яму трапілася.

— Не ведаю,— нехаця сказаў я, быццам хацеў даць зразумець завозніку, што не вельмі хачу яго слухаць.

— Дык ведай, што ў Нупрэевага дзеда прозвішча было — Кісялеўскі. Гэта было тады, калі твой будучы бацька насіў штонцы на ўчкуры, ягоны дзед — цяпер не ведаю ўжо, як яго і звалі,— на сёмуху палез п'яны на ліпу, наламаць маю. Чалавек любіў выпіць — як была якая нагода, ён не прамінаў чарку. Лезе на самую верхавінку і крычыць — ведама, п'яны: да самага бога далезу. Да самага пана бога. Залез як не на самую вершаліну, стаў на галюку. Яна ўламалася пад ім, і ён паляцеў сторч галавою.

Завознік расказаў мне, што Нупрэеў дзед пасля тае ліпы тыдні два ці тры яшчэ пачаўраў і богу душу аддаў. Баршчоўцы як у званы званілі: гэта яго бог пакараў за тое, што ён хацеў аж да яго, усявышняга, далезці. Гэтак і зачапілася за Кісялеўскімі новае прозшча: Багалаз. Цяпер наўрад ці хто і ведае, што Нупрэева сапраўднае прозвішча Кісялеўскі.

— А твой гэты бацька ці хто ён табе, хітрэйшы за свайго дзеда. Гэты не палезе на скрут галавы. Гэты не глядзіць угару, а шукае, што на зямлі блага ляжыць.

Завознік расказаў мне, што задоўга яшчэ да германскай вайны Нупрэю выпала служыць службу ў Курляндыі. Там ён і асачыў сабе гэтую Параскеву.

— Яна ж латышка. Жыла адна на хутары. У іх там, кажуць, адно ўсё хутары. Бацькі яе памерлі, і сядзела яна адна, як квактуха на яйках, на грошах. Мо хацела, каб што вывелася. А Нупрэй асачыў яе. Хоць яна была і няґеглая, гламаздаватая, ён, відаць, падумаў, што з яе абразоў не маляваць, і прыстаў да яе ў прымы. Гаспадарка была добрая. І хата, і хлявы, і гумно — усё было зроблена са смаловага бярвення, як звон.

Гадоў колькі пражыў там Нупрэй. Бачыць, што Параскева — пустацвет. Пачаў чалавек канькаць, што вельмі

засумаваў па родных мясцінах. Ён, мабыць, быў Параскеве пад пораў, і яны там спрадалі ўсё і пераехалі ў Баршчоўку.

Тут, братка, такая казань: Параскева сядзела на яйках, а куранят вывеў Нупрэй. А ты, калі не будзеш дурны, пакруціш іх ды паясі. Табе будзе гэты вятрак. Табе будзе цагельня. Табе будзе малатарня, і ў хаце будзеш не ў абы-якой жыць, а ў мураванай. Пан-панам будзеш, калі не будзеш дурны! — заключыў мой завознік.

Тое, што ён мне расказаў, я чуў упершыню і ніяк не мог зразумець, чаму на мяне ўпала Нупрэева ласка. Я сапраўды быў шчаслівы.

Другі дзень удаўся бязветраны. На ранку асыпала срэбрам раса траву. Ранавата яшчэ ападаць расе. Быў яшчэ толькі канец чэрвеня. Усталі мы як заўсёды, калі яшчэ толькі сонца выкацілася на небасхіл. Укленчылі перад абразамі. Нупрэй мяне вучыў цяпер маліцца. Ці ён сапраўды верыў, ці прыкідваўся так: што б там ні было, ён павінен быў памаліцца. І мяне прывучыў да такога парадку.

— Бог — вышэй за ўсіх. Перад ім трэба яшчэ ніжэйшым станавіцца — на каленцы,— казаў гаспадар.

«Прачыстая дзева, радуйся!» — цвярдзіў уголас малітву гаспадар. Я паўтараў яе следам, хоць і думаў, чаго той дзеве ні з сяго ні з таго радавацца.

Канчалі мы маленне. Хрысціліся і ўставалі з каленцаў. Тады ішлі ці на работу, ці сядалі на сняданак. На гэты раз гаспадар зірнуў на мяне і сказаў:

— Пойдзем, пане-браце, укосім лашатам і цялятам за гумно канюшыны.

Ішлі цераз вуліцу, праз агарод аж за гумно. Там быў ладны загон канюшыны. У Баршчоўцы ніхто яе не сеяў. Навошта было сеяць — траў тут колькі хочаш. Гэта Нупрэй прывёз з Латвіі і развёў на сядзібе. А цяпер за гумно на добрую паласу выпхнуў яе.

— Зямля з горла прэ, дык не ведае, што сеяць на ёй. Траву нейкую гаціць.

Дык от мы ішлі цераз вуліцу праз сад, цераз прыгуменне касіць тую траву. Калі перайшлі вуліцу, Нупрэй аддаў мне касу, сказаўшы:

— Той, хто ўмее касу насіць, той будзе добра і касіць.

Я нёс касу аж на загуменне. Там яе забраў ад мяне гаспадар, зайшоў упоперак загона і размахнуўся касою. Яна смачна захліпалася ў густым травастоі роснай капю-

шыны. Здавалася, падразала і яшчэ ёй хацелася падразаць. І Нупрэй, трошкі прысядаючы на правую нагу, махаў і махаў касою. Я стаяў непадалёк і глядзеў, як ён косіць.

— На, вазьмі, памахай трошкі,— памянташыўшы касу, сказаў Нупрэй.— Каса вострая, як брытва.

Узяўшы з Нупрэевых рук касу, я стараўся махаць ёю, як гаспадар. Але ў мяне каса не ўточвалася ў гушчыню канюшыннай падсады, а раз-пораз выскаквала напаверх, быццам шукаючы сабе лёгкага хлеба.

Праз некалькі пракосаў каса пачала хоць трошкі мяне слухацца.

— Ну, годзе,— сказаў Нупрэй, калі я сàма ўвайшоў у смак. Я любіў усялякую работу, асабліва новую для мяне, і стараўся рабіць яе з імпэтам, пакуль не авалодваў ёю.

Мы навязалі дзве добрыя вязанкі канюшыны і панеслі яе цялятам і лашатам.

— З цябе выйдзе добры касец,— сказаў мне па дарозе гаспадар.— Ты каранасты, добры мацак, на мяне падобны.

Мне прыемна было слухаць гаспадарову пахвальбу...

Нупрэй тупаў па гаспадарцы як з чужымі вачыма: глядзеў і не глядзеў на тое, што дзеецца навокал, быццам усё было чужое. І мяне перастаў ужо вадзіць з сабою і паказваць работу, нібы даў мне волю: што хочаш, тое і рабі з сабою.

Кузёмка ўлетку ў хаце не спаў. Ці ў клуні на вышках, ці ў свіронку на мучной скрыні выбіраў ён сабе месца. На гэты раз хлопец выбраў сабе лежбішча ў клуні на вышках. Там навалена было яшчэ леташняга сена. Залазіў у яго, як у пярыны, і спаў сабе нігадкі. На ранку гаспадар часам дабудзіцца яго не мог на работу.

— Добры парабак гаспадара павінен будзіць, а гэтага ніяк не ўспораш,— гневаўся Нупрэй у такім выпадку.

Кузёмка лена ўставаў, спаласкваў халоднай вадою твар, каб змыць саплівасць з яго, і ішоў, куды трэ было гаспадару.

Мне вунь як хацелася хоць раз паспаць у Кузёмкавым лежбішчы. Кузёмка быў мо гадоў на дзесяць старэйшы за мяне і мог мне расказаць, што цяпер на свеце дзеецца. Апроч таго, хлопец часта вырываўся пасядзець з хлопцамі і дзяўчатамі на бярвенні пад Яўхімавай ліпай. Часцяком ён і каля мужчынскага гурту аціраўся. Мяне ж Нупрэй

з Параскевай не пускалі на пагулянкі: трымалі пры сабе, як парсюка ў засадзе. Вядома, што Кузёмка шмат чаго чуў і шмат што ведаў пра тое, што адбываецца ў нашай Баршчоўцы, нават пра вайну. «Трэ будзе папытаць у яго, мо ён што чуў пра майго тату»,— падумаў я. «Гэта ж як забралі яго, дык хоць бы які ліст прыслаў»,— гневаўся я на таго, каго ні разу не бачыў, не памятаў. Як жыва была яшчэ маці, дык казала, што я немаўлёначкам быў, калі яго забралі на царскую службу. Потым усчалася вайна, і хто яго ведае, што з чалавекам сталася. Так што я не чуў і не бачыў свайго тату.

І от мы ляжым у Кузёмкавым лежбішчы. Прыціснуліся адзін да аднаго, і нам добра. Кузёмка шэпча мне, быццам баіцца, што нас хто падслухае. Яго вусны амаль кранаюцца майго вуха, і цеплыня, што ідзе з Кузёмкавага рота, быццам пячэ мяне. Мне аж горача становіцца.

— У цябе няма таты! Тата твой не прыйдзе. Гарасім — добры чалавек, але ён не твой тата. Твой тата Нупрэй Багалаз! — выпаліў неяк адным дыхам Кузёмка.

Здалося, што ўвушшу ў мяне зазваніла і заглушыла тыя словы, што я пачуў ад Кузёмкі.

— Што?! Што?!

— Тое, што чуеш,— адказаў мне спакойна хлопец.

Як не да самай раніцы прагаварылі мы. Позна, аж мо пад першыя пеўні, Параскева гукала, галёкала на двары і нават на вуліцы:

— Макарка! Макарка! Дзе ты? Хоць абзавіся.

Мы з Кузёмкам чулі гэтае галёканне і маўчалі як вады ў рот набраўшы.

— Хай крычыць, хоць зойдзецца,— гарачым шэптам, нібы сам сабе, адказваў я на Параскевін покліч.

Пакрычала, пагалёкала гаспадыня, і чутно было, як груккнулі сенечныя дзверы і шмарганулася засаўка. Мы з Кузёмкам загаварылі крыху мацней. Тое, што ён мне расказваў, быццам абухам біла мяне па галаве, і я ледзь не закрычаў страшэнна ад гневу і абурэння.

— Маці твая прыйшла ў парабчанкі да Нупрэя Багалаза яшчэ зусім маладою дзяўчынай. Бацькі яе, твае дзед і баба, памерлі, калі маці было пяць год. Яе ўзялі суседзі. Прыгрэлі і накармілі. Гэтак пры чужых людзях яна і выкачалася. А калі ўжо вырасла, людскі хлеб ёй нібы агорк, і яна пайшла на свой — стала парабчанкаю ў Багалаза. Гэткая прыгожая была мама, што хто ні глядзеў на яе, усміхаўся ад радасці, што на свеце жывуць такія прыго-

жыя людзі. Адзін Багалаз не ўсміхаўся. Ён аблізваў губы, як той памаўзлівы кот. Дзе просьбай, а дзе грозьбай ён падкаціўся да тваёй маці, і ты знайшоўся. Калі твая маці загрубела і ўжо відно было, Нупрэй угаварыў свайго парабка Гарасіма пажаніцца з ёю. У канцы вёскі ён паставіў быў ім хату. Адтуль Гарасім пайшоў на прызыў. А маці твая памерла з тыфусу. Вось уся табе і праўда, хлопча, калі ты хочаш,— закончыў свой расказ Кузёмка.— Хата тая выпусцела: ты ж бачыў, мабыць, Нупрэй замкнуў дзверы на жалезнае пута, нібы баіцца, каб хата нікуды не збегла.

У мяне сціснуліся ад гневу кулакі, і я не ведаў, што мне рабіць.

— Я яго падпалю. Заб'ю! — як не крычаў я.

— Не трэба, хлопча. Іх мо рэвалюцыя ўсіх вынішчыць. Увесь свет стары мо падпаліць,— разважаў Кузёмка.

Рэвалюцыя пакуль што не вынішчала, не падпальвала старога свету. Як было, так амаль што ўсё і засталося. Увосень, гэтак пасля пакровы, Нупрэй запрог стаенніка, і мы паехалі ў Баравічы. Трэ было ў Зуся купіць солі, газы і іншага прыпасу. Неўзабаве румпе зіма, і да яе трэба падрыхтавацца.

Восень была добрая. Дні стаялі цёплыя, ясныя. Здавалася, што сёлета не павінна быць ніякае зімы з яе маразамі, завеямі і адлігамі. Восень яшчэ сям-там снавала кросны павуцінай. Дыхалася лёгка, на поўныя грудзі. У баравых соснах, якія, здаецца, з небам задумліва гамонілі, не было ні вятрынкі, ні смужынкі.

Мы ўехалі ў Баравічы. Я сядзеў у передку і паганяў каня. Гаспадар аж разваліўся быў на заднім сядзенні.

Пад'ехалі пад Зусеву краму. Яна была на замку.

— Што за праява сталася: Зуся няма ў краме! — выказаў здзіўленне і абурэнне гаспадар — як гэта так, яго няма.— Збегай пазаві яго, хлопча. Ты ж ведаеш, дзе ён жыве. А я тут пасяджу на возе.

— Ведаю,— адказаў я і порстка саскочыў з перадка воза.

Зусь жыў на Шырокім базары — гэтак звалі ў Баравічах вуліцу, якая сапраўды была шыракаватая, і на якой адбываліся людныя кірмашы. Дзіва, дый годзе: акурат насупраць Зусевай хаты ішоў, як мне здавалася, незлічоны натоўп людзей. Паперадзе сябе яны неслі нешта чырвонае. Раптам натоўп спыніўся, і нехта ці на воз, ці на што іншае стаў, замахаў рукамі і моцна загаварыў.

— Мы самі ўтрымаем уладу,— крычаў ён.— Рукі ў нас моцныя і ўчэпістыя: таго, што ўзялі, не аддадуць. Мы таму Керанскаму дамо пад зад. З намі Ленін! Ён калі ўзяў у свае рукі нашу рабочую долю, дык не выпусціць.

Чалавек гаварыў доўга. Я не ўсё чуў. Потым пачаў крычаць увесь натоўп «ура», падкідаць угару шапкі.

— Мы за Леніна! Мы за Леніна! — доўга чулася над Шырокім базарам.

Людзі неяк самі сабою выцягнуліся ў калону і рушылі з Шырокага базару на тую вуліцу, дзе стаяў наш воз. Аднекуль узяўся гармонік і запілікаў. Людскі крок стаў цвярдзейшы, і песня самохаць вырвалася з людскіх грудзей. Папередзе калоны, здаецца, сам, ніхто яго не нёс, сваімі нагамі ішоў чырвоны сцяг.

Отречемся от старого мира,
Отряхнем его прах с наших ног...

— А дзе Зусь? — нарэшце ўгледзеў мяне Нупрэй.

— Сказаў, што не пойдзе сюды,— зманіў я.

Нідзе таго Зуся не чуў і не бачыў я.

Нупрэй стаяў, трымаючы рукою за біла воза, быццам баяўся, што забяруць і каня, і ўсё, што на возе. Ніхто яго не чапаў, ніхто на яго не звярнуў увагі.

Нупрэй стаяў ля воза, спалохана і заклапочана чухаў патыліцу і нібы сам з сабою гаварыў:

— Даходзяцца. Даспяваюцца,— нібы папярэджваў тых, што ішлі ў калоне і спявалі «Отречемся». А потым рашуча, са злосцю буркнуў мне:— Сядай, паедзем, а то яшчэ павалачэшся за імі на скрут галавы.

Не ведаю, ці павалокся б я на «скрут галавы», але мне хацелася ведаць, хто і адкуль яны, гэтыя людзі.

— Даспяваліся! Дагуляліся! Цара ўжо і ў галаве ў іх няма. Хутка, мусіць, і бога не будзе,— умошчваючыся на возе, казаў гаспадар.

З парожнім возам, з парожнімі мяхамі: без газы і солі, якое меліся мы набраць у Зуся, гаспадар і я вярнуліся дадому. У Параскевы было яшчэ чым саліць крупнік.

Жыццё ў Баршчоўцы, як, мабыць, і ва ўсім свеце, пайшло намітусь. За зіму разы тры наязджалі з горада людзі і калацілі свірны і засекі. Казалі, што хлеб патрэбен рабочым і салдатам, якія ваююць на фронце і не могуць абысціся без хлеба. Казалі, што баршчоўцам трэба, хто колькі можа, мяшок ці паўмяшка, вынесці і пагрузіць на воз.

Нупрэй з-за шула коса глядзеў па тых мяшочнікаў, на падаянні, якія выносілі на воз баршчоўцы.

— Даскакаліся! Дагуляліся! Скарынцы хлеба жадны таварышыкі,— здавалася, радаваўся гаспадар.

Фурманка пад'язджала да Нупрэевага двара. Гаспадар выйшаў з-за шула на вуліцу. Думаў, што і яго папросяць, каб ён усыпаў які гарнец падаяння. Мужчыны, якія ішлі пры возе, нібы і не заўважылі гаспадара. Яны прайшлі ў двор і адразу да клеці.

— Гаспадар, дзе ключ? — спытаў хударлявы, з чорным, як кропачкі, рабаціннем на твары.

Нупрэй павольнай ступою ішоў за мужчынамі. Ён, пачуўшы словы хударлявага, моўчкі дастаў з узгалоўя дзвярэй даўгі, як шворан, ключ, на канцы якога целяпаўся язычок. Прасадзіў ключ у прасвідраваную ў вушаку дзірку, пакруціў яго трошкі і адсунуў жалезную засаўку. Рабіў ён усё гэта без аднаго слова.

— Калі ласка, таварышы, калаціце, бярыце, калі ваша права,— расчыніў насцеж перад мужчынамі дзверы.

Нупрэй як стаяў пры дзвярах свірна, гэтак і не скрануўся з месца, калі адчынялі скрыні, насыпалі ў мяшкі збажыну, выносілі на фурманку. Быццам то выносілі не яго дабро, а чыё чужое, таго, каго ён хацеў, каб абабралі.

Адно Параскева стаяла ля ганка і галасіла як па нябожчыку.

— А людцы добрыя, навошта вы вымятаеце засекі! Пакіньце хоць на завод нам, хоць на кусень які.

— Цьфу! — тупнуў нагою Нупрэй.— У цара вунь цэлую дзяржаву — трон гасподзен адбіралі, і то не чутно было, каб ён плакаў.

— Дзякуем вам за хлебец,— як на здзек з Нупрэя сказаў той хударлявы ў рабаціnні чалавек.

Нупрэй тады нічога не адказаў на дзякуй. Падумаў толькі: як добра, што ён прыхаваў у ямах на прыгуменні трохі збажыны. Цяпер бы пэўна забралі, каб яна была напаверсе.

— Адальюцца ваўкам авечыя слёзкі,— сказаў сам сабе Нупрэй, калі ўжо фурманка з мяхамі была далекавата.

Угледзеўшы мяне, што я тут аціраюся ля форткі, ён са злосцю тупнуў нагою:

— І ты тут, як хвост. Марш у хату! За свой век яшчэ навучышся, як рабаваць.

Я стаў на ганку. Як з зямлі вырас ля свірна Кузёмка. Ён глядзеў на дзверы і сам сабе нібы з радасцю казаў:

— От калатнулі, дык калатнулі! Малайцы!

Нупрэй, мусіць, чакаў, што хутка прыйдзе ўправа на тых, што скінулі цара, што забралі ў яго збожжа са свірна, на тых барпчоўскіх камітэтчыкаў, якія раз-пораз накладалі на яго то збажыну, то яйкі, то шчаціпне. Усё ён моўчкі аддаваў. Адно дома, калі нікога чужога не было ў хаце, гаспадар нібы скардзіўся:

— Хутка яны з нас усе гізунты выцягнуць.

Зімою была людзям раскоша. Раней, каб якую шурку дроў нарэзаць, трэ было пні адбіваць. Цяпер жа хто дзе хацеў, той там і пляжыў. І мы з Кузёмкам нарэзалі ладнага бярвення на дровы. Як толькі прывозілі мы яго ў двор, гаспадар выходзіў з хаты і, здаецца, сам сабе, але так, каб і мы пачулі, гаварыў:

— Як вернецца пан, дык ён і вам у зубы не паглядзіць.

Вясною, калі ўжо дрэвы накінулі на сябе ліст, у бараціцкіх лясах аб'явілася банда нейкага Галака. У Баравічах яна ўжо выразала некалькі яўрэйскіх сем'яў. Часам наязджала ў лесавыя вёскі, брала ў людзей, што ёй трэба было, і знікала.

У Баршчоўцы, якая была далекавата ад таго месца, дзе аб'явілася банда, закватараваў атрад чырвонаармейцаў. Ніхто не ведаў, чаго яны прыехалі.

У Нупрэевай хаце закватаравалі камандзір Аркадзь Жуковіч і камісар атрада Анань Казловіч. Яны занялі той большы пакой, што на вуліцу вокнамі. Разаслалі на стале карты, планы і газеты. Усе мы баяліся патыкацца ў другі пакой. Нават Нупрэй не паказваў туды носа. Нямала ён быў наслухаўся пра бальшавікоў: і што яны нелюдзі, і што яны ні за панюх табакі могуць чалавека жыцця рашыць, і што яны ні раніцай, ні ўвечары не моляцца богу.

Нупрэй здзівіўся, калі з таго пакоя, у якім закватаравалі таварышы камандзіры, аднаго разу выбег камлюкаваты, у звычайным салдацкім адзенні, у абмотках, з чырвонай зорачкай на рукаве камандзір.

— Ну як, таварышы? Давядзецца нам тут у вас пастаяць трохі. Ды не бяда. Вам будзе весялей. Я — камісар атрада,— адрэкамендаваўся ён.— Спадзяюся, што мы падружым.

— Чаму ж не,— неахвотна, як з-пад прымусу, адказаў Нупрэй.

— На першы раз невялікае трэба,— сказаў вайсковец.— Чайку мы ў вас, гаспадынька, не разжывемся?

— На чорта лысага вам той чай,— асмялеў гаспадар,— калі ў нас малака няма куды дзяваць. Цялятак няма і дзетак таксама. Хоць ты вылівай прадукт. А ён жа дабрэнны,— не супімаўся гаспадар.

— Што вы! Што вы! — адмаўляўся ад гаспадаровай ласкі Казловіч.— Мы па-салдацку: нам абы пачаяваць трошкі.

— Параскева! — гукаў жонку Нупрэй. Яна абзывалася недзе па двары.— Прынясі бо таварышам гладышачку малака. Ведаю, для іх малачко — ласунак. Сам службу нёс у салдатах.

Праз момант у другім пакоі, на тым стале, што быў засланы газетамі і нейкімі іншымі паперамі, стаяла паліваная крынка ранішняга сырадою.

— Даўно забыў, які яго смак,— прабуючы малако, казаў камандзір Жуковіч.— Як пад'ясі хатняй смакаты, дык, здаецца, дома пабываеш.

— Не хутка мы яшчэ дома пабываем,— уставіў сваё Казловіч.— Пакуль бандзюкі па лясах шляюцца, дык нам адно за імі ганяцца.

Гаспадар стаяў у дзвярах пакоя і прыслухоўваўся да таго, што гавораць камандзіры.

— Дык гэта вы Галака лавіць прыехалі? — здагадаўся гаспадар.

— А вы хіба яго ведаеце? — насцярожыўся Жуковіч: спахапіўся, што нечакана выдалі яны ваенную тайну.

— А хто яго не ведае. Бачыць яго не бачыў, а чуць чуў. Аднаго разу ўся наша Баршчоўка трымцела. Казалі, што ўночы Галак па правізію прыедзе. Аднак жа бог мілаваў. Я ж кажу: чуць чуў. Пра такое і самы глухі чалавек можа пачуць. Гэта ж, недаўнечкі, у Баравічах чаго нарабілі: гаспадароў павыразалі. Майго хаўрусніка Зуся ўпляжылі.

— Ведаем, усё ведаем, дзядзька Нупрэй,— па-простаму, па-сялянску ўмяшаўся ў гаворку Казловіч. Калі б да яго хто добра прыгледзеўся, дык пэўне б сказаў, што ён ніякі не вайсковец, што наўрад ці ён можа нават страляць з таго рэвальвера, які ў яго пры боку. Ён хутчэй быў падобны на селяніна, якога на час адарвалі ад бараны і плуга. Гаспадар бачыў гэта па тым, як Казловіч, выпіўшы кубак малака з мяккім свойскім хлебам, збіраў з пастольніка крошкі і кідаў іх у рот.

— Вы мо які тутэйшы? — не ўтрымаўся, спытаў Нупрэй.— Відаць, наш брат — селянін?

— Не, дзядзька Нупрэй. Я — гарадскі. Сам рабочы. А тое, што збіраю крошкі, дык цяпер трэба ўсім хлеб берагчы.

Як не ўсё лета кватараваў атрад Жуковіча ў Баршчоўцы. Сяляне гэтак прывыклі да чырвонаармейцаў, што іх лічылі ўжо як за сваіх хлопцаў. Вечарамі на вуліцы пад чыёй-небудзь брамаю наладжваліся ігрышчы. На гармоніку іграў чырвонаармеец Санька. Іграў ён гэтак прыгожа, што, здавалася, ногі самі ішлі ў танец. Калі ж хто з чырвонаармейцаў часам падмяняў Саньку ў ігры на гармоніку, ён запрашаў самую прыгожую вёрткую дзяўчыну і ішоў з ёю полечку ці кракавяк. Ён выкручваўся, выгепваў гэтак, што баршчоўцы, гледзячы на яго, казалі: «Гэты хлопец без касцей».

Жуковіч з Казловічам гэтак прыняліся ў Нупрэевай хаце, што іх ужо лічылі за сваіх. Як толькі выпадала вольная хвіліна, Нупрэй любіў пасядзець з камандзірамі. Кожны раз пры камандзірах ён называў мяне сынам. Стараўся падкрэсліць, што ён не лічыўся ні з чым: усынавіў мяне.

— Добры хлопец з яго вырасце,— неяк выразна паглядзеўшы на мяне, сказаў Казловіч.— Каб гэта ў спакойны час было, дык я не адмовіўся б ад такога хлапчыны.

Аж радасць падступіла мне пад грудзі, калі я пачуў гэтыя Казловічавы словы.

«От да гэтага я б пайшоў з дарагой душой»,— падумаў я сам сабе. З гэтага часу я неяк асабліва стаў глядзець на Казловіча. Іншы раз ён мне здаваўся бацькам. А мо гэта ён і ёсць? О, не! Таго звалі Гарасімам. А гэта ж Анань...

Аднаго разу мы толькі ўдвух з Казловічам былі ў пакоі. Ён уважліва глядзеў на мяне, мыляў вуснамі, нібы нешта хацеў сказаць і не рашаўся. Нарэшце адважыўся:

— Дык што, Макарка, гэты кулачок добразычліўцам прыкідваецца? Ну што ж, пакуль ён дае табе хлеб, дык ты еш, не глядзі ў зубы ні гаспадару, ні ягонай ласцы. Гэта не ласка, брат. Гэта хітры кулацкі манеўр.

— Дык ён жа, мабыць, мяне любіць? — не зусім упэўнена сказаў я.

— Хіба калі было, каб воўк казу любіў. Адно ён мяса яе любіць. І твой кулацкі воўк не лепшы. Хутка дачакаемся без кулацкай ласкі і табе, і такім, як ты, лепшай долі. У кулакоў прасіць яе не будзем. Ленін нам дасць!

Казловіч пасадзіў мяне поруч сябе. Дастаў з палявое

сумкі чырвоную кніжку. Разгарнуў яе і паказаў мне партрэт.

— Гэта ж сам Ленін. Усе працоўныя людзі павінны ведаць яго. Ён для такіх, як мы з табой, жыве і змагаецца. Яго царскія сабакі па турмах гнаілі.

Як не да самага вечара Казловіч мне расказваў пра Леніна, пра тое, як мы будзем жыць, калі вынішчым усіх крывасмокаў. Я слухаў камісара, і мне хацелася накінуцца перш за ўсё на Нупрэя Багалаза і ўдушыць яго сваімі рукамі. Мне цяпер выразна ўспаміналася тое, як ён пазверску абышоўся з маёй нябожчыцай маці, а цяпер хоча забрытаць і мяне ў кулацкае павуцінне.

— Ты яго не вельмі і слухай. Я ўсё пра цябе ведаю. Мне Кузёмка расказаў. Цябе тут прывучаюць, каб, як прыйдзе час, у аглоблі запрэгчы. Ды ты не давайся.

— Дайце мне гэтую кніжку,— папрасіў я Казловіча.

— Навошта яна табе?

— Я памаракую.

Папрасіў я яшчэ ў Казловіча алоўкаў. У яго была цэлая скрыначка рознакаляровых алоўкаў. І іх не пашкадаваў Казловіч.

Мне закарцела паглядзець лепш на той партрэт, што паказаў у кніжцы мне камісар. Задумаў я перамаляваць яго на большы аркуш паперы і прыбіць на сцяну. Аж пад тую шопу, дзе сох калісь сырэц, забраўся я. Там быў адмысловы стол, на якім фармавалі цэглу. На ім і разаслаў вялізны аркуш паперы. Паклаў перад сабою Казловічаву кніжачку і ўзяўся перамалёўваць. Спачатку ў мяне нічога не выходзіла. Толькі мо на трэці ці на чацвёрты дзень быццам адкрыліся мае вочы, і я ўбачыў перад сабою на чыстай яшчэ паперы намаляваны партрэт. Рука ўпэўнена пачала трымаць аловак, быццам я ўвесь свой век толькі тое і рабіў, што маляваў. Кожную кропачку, кожную рысачку я стараўся перанесці з кніжкі на аркуш паперы. Радасць аж закіпала ў маіх грудзях, соладка замірала сэрца: бачыў я, што ў мяне выходзіць тое, чаго я хацеў.

Дні два ці мо і болей я не стыкаўся ў хаце. Дні былі пагодныя, сонечныя, ласкавыя. На партрэце ў кніжцы на Ленінавым твары была зычлівая ўсмешка. Казловіч мне гаварыў, што гэта яго сфатаграфавалі, калі ён з дзецьмі размаўляў. Я баяўся згубіць хоць кропельку гэтай усмешкі.

Маляваў я чорным, як смоль, алоўкам і стараўся праводзіць лініі так, каб не зачапіць твар Леніна. Я глядзеў

зблізку, здалёку, і зусюль мне здавалася, што намаляваны мною партрэт нават лепшы за той, што быў у кніжцы.

І от акурат, калі ў хаце былі Казловіч і Жуковіч, я прынёс скрутак. Заклаўшы за спіну рукі са скруткам, я нерашуча таптаўся ля дзвярэй пакоя.

— Што ў цябе, Макар? — спытаў Казловіч.

— Нічога! Так сабе,— напалову прызнаўся я, што нешта прынёс.

— Пакажы! Пакажы! — заінтрыгавана ішоў на мяне Казловіч. Забраў з рук скрутак і разгарнуў на стале малюнак. Раз-пораз ён кідаў вачыма то на мяне, то на малюнак, нібы не хацеў даць веры сваім вачам.

— Дык гэта ты намаляваў? — спытаў ён.

— Я! — адказаў я, нібы выказаў спалох.

Казловіч узяў у рукі малюнак, вярцеў і так і гэтак.

— Дык, кажаш, гэта ты?

Упэўнена адказаў, што гэта я і не хто іншы.

— Малайчына! — пахваліў мяне Казловіч і да Жуковіча: — Паглядзі, Аркадзь, які талент!

Жуковіч узяў у рукі мой малюнак і круціў-вярцеў яго, як і Казловіч. Не ўтрымаўся і сказаў:

— Талент! Паклапаціся, камісар, каб ён не прапаў.

— Пастараюся, каб не прапаў! — як прыняў загад Казловіч.

Камісару не давялося старацца, каб мяне паслалі вучыцца. На другі тыдзень ён паехаў з атрадам лавіць Галака. У нейкай сутычцы з бандытамі варожая куля трапіла камісару ў сэрца. Яго пахавалі пры бальшаку ў нашай Баршчоўцы. Вакол магілы сяляне пасадзілі бярозавы гай. Пасля Вялікай Айчыннай вайны змуравалі пры дарозе абеліск-помнік. Ён і цяпер стаіць. І цяпер камісар Казловіч жыве ў памяці народнай.

* * *

Я скончыў мастацкую акадэмію. Лаўрэат некалькіх прэмій, рэспубліканскіх і ўсесаюзных. Аднак жа ўсяго гэтага мала чалавеку. Жывая памяць, якая ўзнімае і бунтуе ў чалавеку страсці пазнання і ўдасканалення, павінна весці яго як пуцяводны маяк.

Кожны раз, пасля таго як паказаў мне Кузьма Іванавіч знаходку, калі мне даводзіцца глядзець і глядзець на яе, я дзіўлюся: адкуль у мяне, непісьменнага вясковага

хлапчука, знайшлося тады столькі пачуццяў, каб простым сталярскім алоўкам, не ведаючы ні законаў перспектывы, ні светаценяў, так верна перадаць жывыя рысы Ільіча. Мабыць, юначае тады сэрца падказала мне, як і што рабіць. А мо мая тады яшчэ дзіцячая любоў да роднага Ільіча была такая, што яна сама трымала ў руках той аловак, якім я маляваў партрэт.

— А ты ведаеш, чаму я яго знайшоў? — спытаў у мяне дырэктар.

— Не!

— Гэта ж, як перабіралася наша кантора з таго кулацкага гнязда ў новы будынак, мне чамусьці захацелася злазіць на гарышча, нібы я там што забыў. Залез, пачаў калупацца ў старых паперах і дакументах, і раптам як стрэліла мне ў памяць. Пасля таго як пахавалі камісара, як выехаў з Баршчоўкі атрад, Багалаз хацеў сарваць са сцяны намаляваны табою партрэт. Ты кінуўся затуляць яго сабою. Багалаз быў дужы, як бык. Бачу, што ён дасць рады. Я хуценька падбег да сцяны, схапіў партрэт, скруціў яго ў трубачку і схаваў на гарышчы пад лежаком. Бачыш, колькі ён год праляжаў, і цэленькі.

Я слухаў Кузьму Іванавіча і поўніўся шчыраю ўдзячнасцю да гэтага чалавека. Ён больш чым схаваў маю работу. Ён, здаецца, затуліў сабою маё жыццё.

Я цяпер зразумеў: адтуль, з таго малюнка сталярскім алоўкам пачалася мая дарога, пачалося маё жыццё. Мы часта гаворым у сваім асяроддзі аб прафесіяналізме. Дакараем адзін аднаго і самі сябе, што ў нас яго часам бракуе. Але калі няма пачуцця — няма і прафесіяналізму. Я гэта добра ведаю на сваім прыкладзе.

— Дык ты не шкадуеш, што прыехаў да нас? — запытаў мяне Кузьма Іванавіч.

— Дружа, дай я цябе абніму і пацалую на вечную шчырасць,— кінуўся я з абдымкамі да Шыльца.

Ён не адхіляў маіх абдымкаў. Гэтак абняўшыся, мы і стаялі на людным шляху перад помнікам таму чалавеку, якога мы ўсе павінны славіць.

— Я прывязу, абавязкова прывязу ў ваш саўгас сваю выстаўку. Адкрываць яе будзе той партрэт, які ты ўхаваў, дружа. Дзякуй табе.

Баршчоўцы глядзелі на нас абодвух і, відаць, думалі: «От дзівакі, чаго яны цалуюцца!»

1970

# СПАТКАННЕ

Лаўрэнава ліпа! Хто пад ёй ні сядзеў у Гарнастаеўцы! Яна акурат пасярод вёскі. Зялёнае голле ліпы густое-густое, як шацёр. Парэпаным тоўстым камлём яна як бы абаперлася на шчыльны стары паркан. Да паркана яшчэ, мусіць, старым Лаўрэнам прыстромлена абшмыленая да бляску лавачка. На гэтай лавачцы нават у будні дзень, не кажучы што ў святы, заўсёды хто-небудзь сядзіць — ці стары, ці малы. Колькі пад Лаўрэнавай ліпай станцавана танцаў, расказана казак і быляў, колькі выказана маладых гарачых пачуццяў! Гэта немагчыма ні падлічыць, ні нават уявіць сабе, бо ліпа ўжо стаіць мо пад сотню год. Старога Лаўрэна даўно ўжо няма на свеце. І мо каб не гэтая ліпа, дык і імя чалавека забылася б, а так, калі зойдзе гаворка пра ліпу, дык заўсёды памянуць краўца Лаўрэна.

Усяго два дні як я прыехаў у Гарнастаеўку. У праўленні калгаса, гаворачы з людзьмі, я натрапіў, як мне здавалася, на вельмі цікавага чалавека — Хведара Саладыша.

— Гэта наш гарнастаеўскі дэмакрат,— сказаў пра Хведара сухарлявы дзядок.

— Ён у нас на ласкавым хлебе жыве,— дадаў маладзейшы мужчына.

— На якім ласкавым хлебе? — націкавіўся я.

— Дзяржава яму добрую пенсію дае, от на якім,— адказаў той жа мужчына.

— О, наш Хведар — гэта, брат, чалавек!

— Можна сказаць, чалавек не зломак, агні і воды ды царскія астрогі прайшоў, а цяпер яшчэ і ў калгасе завіхаецца не горш за маладога.

— Па сваёй ахвоце!

Адзін за адным дадавалі да характарыстыкі дзядзькі Хведара што-небудзь новае калгаснікі. У словах кожнага, у тым тоне, якім яны былі сказаны, я адчуў любасць да чалавека, нават крышачку гонару за тое, што Хведар Саладыш жыве іменна ў Гарнастаеўцы, а не ў якой-небудзь іншай вёсцы. І я зацікавіўся дзядзькам Хведарам. Калі я запытаўся, дзе можна пабачыць Хведара Саладыша, амаль наперабой адказалі мне:

— Ідзіце пад Лаўрэнаву ліпу. Гэта яго бацьку Лаўрэнам звалі. Ён там сёння абавязкова будзе. Яго наш настаўнік папрасіў, каб ён расказаў вучням пра мінулае.

— Любіць стары расказваць пра ўсё тое, што было.

— І нават пра тое, чаго не было,— кпліва нехта ўставіў, але на яго цыкнулі, і ён змоўк.

Мяне гэта яшчэ больш зацікавіла. Выходзячы з праўлення калгаса, я ўжо амаль усё ведаў пра Хведара Саладыша. Ведаў, што ў юнацтве гэты чалавек пакінуў быў сваю Гарнастаеўку і падаўся ў свет шчасця і долі шукаць. У Хведаравага бацькі, Лаўрэна, не было зямлі. Ён працаваў па хатах, шыў людзям кажухі і світкі. Жыў, як той казаў, з іголкі ды з ніткі. У Лаўрэна былі тры сыны. Ён таксама хацеў іх наламаць на краўцоўства, але яны ні блізка. Хведар дык дзесь аж на шахты трапіў. Старыя яшчэ і цяпер памятаюць, як ён часам улетку наязджаў у Гарнастаеўку. Спявун быў найлепшы. Бывала, з гармонікам праз усю вёску ідзе і выспеўвае нейкія нетутэйшыя песні. Дзяўчаты дык аж млелі. Гэтак хораша ён спяваў, што за душу брала. У дванаццатым годзе Хведар Саладыш быў у Сібіры за тое, што расклейваў на гарадскіх парканах бальшавіцкія лістоўкі.

Мне паведамілі, што Хведар Саладыш ніколі не жаніўся, бо ў тыя гады, калі якраз яму трэба было жаніцца, яго па астрогах ды па ссылках марнавалі. Але ж ён не бессямейны. Адразу ж пасля рэвалюцыі, калі шчэ жыла яго маці, ён прывёз у Гарнастаеўку дзяўчынку Любу і сказаў, каб старая гадавала яе як ягоную дачку. Гарнастаеўцы думалі, што і сапраўды ў Хведара знайшлася дачка, але потым уведалі, што Любка не роднае яго дзіця, а сіротка — дачка Хведаравага таварыша па ссылцы, які загінуў недзе ў Сібіры.

І па праўдзе сказаць, ён быў Любцы лепшы за другога роднага бацьку. Цяпер ужо Люба замужняя, і Хведар мае ўнукаў, якія любяць і шануюць яго, як лепшага ў Гарнастаеўцы дзеда.

Лаўрэнава ліпа! Была акурат тая пара, калі пчолы бралі гаючы ліпавы мёд, калі хлапчукі-падшывальцы, чапляючыся рукамі за парэпіны кары, залазілі ў самую гушчэчу і абабіралі цвет, каб у выпадку якой прастуды іх маці маглі заварыць яго ў гарнушку і лячыць ад кашлю грудзі. Але сёння на ліпе не было ніводнага хлапчука. Яны ўсе — і большыя і малыя — абселі дзеда Хведара, хто на прыстрэмленай да паркана лавачцы, хто на вытаўчанай далоўцы. Я падышоў, мусіць, якраз у разгар Хведарава расказу, бо ніхто на мяне не звярнуў асаблівай увагі. Гэта і добра, інакш бы Хведар перапыніў свой рас-

каз. Ідучы да Лаўрэнавай ліпы, я стараўся па тым, што пачуў у канцылярыі, уявіць сабе знешняе аблічча Хведара. Мне здавалася, што я ўбачу сівога, нядошлага, прыгорбленага чалавека. Але маё ўяўленне было вельмі далёкім ад таго, што я ўбачыў. На лавачцы сядзеў з дзіцём на каленях, праўда, стары ўжо, але яшчэ моцны, відаць, цягавіты чалавек. Цёмныя радкаватыя валасы, расчэсаныя на прабор пасярэдзіне, як бы аздаблялі яго трошачкі вастраватую галаву. На загарэлым, спаласаваным маршчынамі твары блукала цёплая-цёплая, як гэты чэрвеньскі дзень, усмешка. Чорныя глыбокія вочы былі крыху прыжмураны. Не, яны не смяяліся. У іх, здаецца, перакочвалася кругленькая, як гарошынка, смяшынка, і ад гэтага яны здаваліся вельмі ласкавымі і прывабнымі.

Мне думалася, што я ўжо ўсё ведаў з расказаў людзей пра дзядзьку Хведара, і прыйшоў сюды, пад Лаўрэнаву ліпу, каб толькі зірнуць на чалавека і такім чынам захаваць у сваёй памяці вобраз таго, пра каго трэба не толькі слухаць, але і расказваць. Але я ведаў яшчэ далёка не ўсё пра старога Хведара Саладыша.

Гэта, можа, і добра, што захопленыя яго апавяданнем вучні Гарнастаеўскай школы не звярнулі на мяне аніякай увагі.

Я прысеў на краёчку лаўкі і таксама заслухаўся. І вось чаго я не ведаў пра дзядзьку Хведара, пра яго маці, можа, самага галоўнага, таго, што будзе хвалявапь, узрушаць яшчэ не адно пакаленне. І юнакі, якія так захоплена слухаюць дзеда Хведара, калі дажывуць да год старасці, будуць сваім унукам, можа, ужо не пад гэтай Лаўрэнавай ліпай, а пад той, якая яшчэ вырасце, расказваць і пераказваць па-свойму тое, што зараз чуюць з вуснаў гэтага старога чалавека...

Цётка Хадора за апошнія гады звыкла жыць адна ў хаце, як той цвыркун у запечку. Яшчэ калі сыны былі маладыя, дык то бойку пачнуць, то загалосяць адзін перад адным. А яна дык не вельмі і ўшчувала іх. Няхай паб'юцца, няхай пагалосяць. Ведама ж, малыя — дурныя. Але вось колькі год і іх ужо ніводнага няма ў хаце. Большы, Хведар, як толькі стаў на свае ногі, падаўся некуды ў белы свет. Аж недзе ў шахты падаўся. Хто яго ведае, што ён там нарабіў, але Лаўрэн з Хадорай дачуліся праз людскую пагалоску, што іх большага сына ў Сібір па этапе загналі. Пасля гэтага ў Гарнастаеўцы іх нягеглую хату пачалі зваць дэмакратавай. Не вельмі і разумела Хадора

сэнс гэтага слова, але ўжо так да яго звыкла, што калі хто абзываўся да яе: «Куды гэта ты, дэмакраціха, ідзеш?», дык яна адказвала на запытанне. І меншыя хлопцы — Казік з Андрэйкам — таксама прывыклі былі да такой мянушкі. Адно Лаўрэн вельмі злаваў, калі яго гэтак хто называў. І людзі хіба толькі за вочы казалі: «Лаўрэн-дэмакрат», а ў вочы баяліся. Лаўрэн жа быў на ўсю Гарнастаеўку адзіным майстрам, які не шыў, а як бы вылiваў кажухі і світкі. Злаваць яго ніхто не хацеў, бо ён мог гэтак прышыць рукаў, што пакуль не зносіцца адзежына, будзеш у ёй хадзіць, як пудзіла якое. Паспрабуй тады ўпікнуць Лаўрэна, што ён сапсаваў кажух, дык ён скажа:

— Аўчыны ў цябе былі, як луб, дык што я мог з іх зрабіць?

І меншых сваіх сыноў Казіка і Андрэйку Лаўрэн пачаў наломваць на краўцоўства, і Хадора была рада гэтаму: утрох жа як возьмуцца шыць, дык вунь як іх жыццё параскашнее. Але Хадоры так і не давялося дачакацца, каб параскашнела жыццё. На свеце ўсхадзілася гэтакая калатнеча, завіруха. Цар Мікалай з царом Вільгельмам за чубкі ўзяліся, а ў Лаўрэнавых сыноў ілбы затрашчалі. Неўзабаве, як толькі пачалася вайна, Казіка і Андрэйку забралі па мабілізацыі, а праз які год прыйшла ў Гарнастаеўку вестка, што абодва яны пад нейкім Пярэмышлем склалі галовы «за цара і ацечаства». Пасля гэтай весткі Лаўрэн зусім зблажэў, нават ужо і шытва не хацеў браць. Аднойчы нешта кальнула яму ў грудзях, і ён, як нежывы, асеў, а на другі дзень і цела чалавекава ахаладзела. На гэтым белым свеце сярод калатнечы і засталася адна, як былінка ў полі, старая Хадора, хочучы хутчэй дажыць свайго веку, бо на лепшае што спадзявацца ўжо не было як...

Шараватае святло асенняй раніцы прабілася праз замураваныя шыбы маленькіх акон Хадорынай хаты. Старая даўно ўжо не спала. Нешта думалася, чаўплося ў галаве. Калі б хто спытаў у Хадоры, што яна думае, дык і адказаць не магла б. У апошні час на душы быў нейкі неспакой. Калі б яшчэ гады два назад, тады, як Хадора засталася адна, дык зразумела было б. А цяпер душэўны боль неяк ушчуўся, і Хадора жыла ўжо так, як жывецца, ні на што асабліва не спадзеючыся, нічога не чакаючы. Хіба мо таго толькі чакала яна, каб пайсці туды, у родную зямельку, да сыноў і Лаўрэна. Але якая б ні была ў чалавека безнадзейнасць, усё роўна, пакуль жывы, ён

не можа не думаць пра жыццё. І Хадора думала пра Хведара: «Хто яго ведае, можа, ён яшчэ дзе і жывы, можа, ён яшчэ і прыб'ецца дадому, каб адно па-людску пахаваць маці». І от якраз у гэты час, калі шараватае святло раніцы апала ўжо на палок, на якім ляжала з расплюшчанымі вачыма Хадора, нехта моцна пагрукаў у дзверы. «Хто б то мог?» — падумала старая і, злезшы з палка, пайшла ў сенцы. Шарганулася засаўка, і Хадора ўбачыла на парозе стражніка. Чырвонае, як альховы карэц, мурло з маленькімі калючымі вочкамі, якія, здавалася, каб трошкі цямней было ў хаце, засвяціліся б, спынілася ў дзвярах і спытала:

— Гэта ты будзеш Хадора Саладыш?

— Я, галубчык, я,— спалохалася старая. А потым спахапілася і прапанавала:

— Праходзьце ў хату, праходзьце.

— Па прадпісанню яго сакароддзя я павінен цябе даставіць у воласць,— гаварыў, як біў у бубен, стражнік.

— Завошта, чым жа я правінілася? — загаласіла Хадора.

— Не велена знаць. Загадана жывую ці мёртвую даставіць.

Хадора з перапуду кідалася па хаце. Яна накінула на плечы падраную світку і ў тым, у чым спала, памкнулася да дзвярэй, каб ісці ўжо. Але стражнік яе затрымаў:

— Куды ты гэтак? Хіба ў цябе няма чаго лепшага надзець?

— Ёсць, галубчык, ёсць. Дык, можа ж, хуценька трэба?

— Прыбярыся хоць трохі,— сказаў стражнік, стоячы ля дзвярэй, амаль засланіўшы іх сваімі шырокімі плячыма. Хадора кінулася да куфра, які стаяў ля сцяны паміж крывабокім сталом і палком. Адчыніла века і выняла той андарак у чырвоныя і зялёныя клеткі, у якім яна хадзіла пад вянец з Лаўрэнам. Дастала з-пад палка лапці, беленькія, як паркалёвыя, анучкі і, затуліўшыся за куфар, пачала пераапранацца. Стражнік косым вокам кідаў на старую. Ён бачыў, як яна скідала зрэбную падраную спадніцу і цераз галаву надзела андарак, а потым, прысеўшы на краёчак услона, закручвала анучкі да самых каленяў, забэрсвала аборы. Яму здалося, што старая збіраецца не ў воласць да пристава, а ў царкву, да абедні, і ён яе не падганяў, хоць яна і вельмі бавілася. Толькі калі Хадора пачала завязваць чорную з чырвонымі кветкамі хустку не

пад бараду, а на ражкі, якія тырчалі над ілбом, стражнік не змаўчаў:

— Ды хутчэй бо ты,— бомкнуў ён ад парога.

Але Хадора не вельмі спяшалася. Яна як бы хацела развітацца з усім, як бы хацела наглядзецца на ўсё, што тут ёсць у хаце. Доўга шукала ў падгалоўі крыху навейшую Лаўрэнаву світку, увязвала ў вузельчык акрайчык хлеба з агурком. Нарэшце жанчына перахрысцілася на абразы, і тады стражнік адышоў ад дзвярэй і даў ёй дарогу. Выйшаўшы следам за Хадорай, стражнік як бы гнаў яе перад сабой праз вёску, а потым па грэблі. Яна ішла спатыкаючыся. Разы са два за дарогу разбэрсалася абора, і Хадора нагіналася, каб завязаць яе. Ці то ад хвалявання, ці ад чаго, падранцвелі яе пальцы, і яна ніяк не магла добра завязаць. Стражнік яе не падганяў. Ён толькі глядзеў на жанчыну і бачыў перад сабой хударлявую, згорбленую жыццём спіну старой. Яму, мусіць, рабілася крыху шкада яе, бо ён і сам не ведаў, навошта і за што гоніць перад сабой гэтую нядошлую старую жанчыну.

У воласці прыстаў даў стражніку ў рукі нейкі пакет з чырвонымі сургучнымі пячаткамі і загадаў: гэты самы пакет і жанчыну здаць з рук у рукі жандарскаму ротмістру, прозвішча якога было напісана на пакеце.

На стыках рэек колы вагонаў грукалі, і Хадора палохалася. Старой здавалася, што вось-вось абернецца гэтая хата на колах. У купэ вагона яны сядзелі ўдваіх са стражнікам. Пасажыры, мусіць, баяліся заходзіць, бачачы стражніка. Можа, думалі, што ён вязе якую арыштантку. А Хадора першы раз у жыцці ехала на цягніку і баялася грукату колаў, палохалася той невядомасці, у якую яна едзе з гэтым стражнікам. Яна глядзела на расшпіленую кабуру, на шаблю, што ён заціснуў між каленяў, і не магла даўмецца, навошта і куды яе вязуць. Спрабавала пытаць у стражніка, але той у адказ адно чоўп:

— Не велена знаць, бабуля. Там сама пабачыш.

З вакзала амаль праз увесь горад стражнік таксама гнаў перад сабой па люднай вуліцы Хадору. Ён нават не глядзеў на яе, а толькі бачыў перад сабой чырвоныя ўпераможку з зялёнымі клеткі андарака, ногі ў белых анучах і лыкавых лапцях і вельмі баяўся, каб хоць тут, на гэтай вуліцы, не разбэрсалася абора. Людзі саступалі дарогу Хадоры са стражнікам, як бы яны баяліся, каб і іх не пагнаў вось гэтак жа гэты гладкі і чырвоны, як аль-

ховы карэц, чалавек у дзяржаўным мундзіры, пры шаблі і рэвальверы.

За паваротам вуліцы неспадзявана з-за густой зелянiны сквера вынырнуў вялікі трохпавярховы дом. Дзверы яго, што выходзілі на вуліцу, раз-пораз адчыняліся і вельмі стукалі, бо спружына, якая зачыняла іх, была, мусіць, дужа моцная. Яны, гэтыя дзверы, як бы праглынулі Хадору са стражнікам. Апынуўшыся ў гэтай панурай будыніне, старая не адразу агледзелася, што няма ўжо каля яе таго стражніка. Агледзелася і спалохалася: як жа яна адна адсюль выберацца, куды яна адсюль пойдзе па гэтым каменным лесе, хто ёй дасць якой рады? Але ў гэты момант яна пачула:

— Хадора Саладыш?

— Я, галубчык.

— Следуйце за мной.

Кабінет жандарскага ротмістра Гнілякова быў вялікі і таксамаануры. Вокны ў ім былі пазавешаны, мусіць, каб нічыё чужое вока не падгледзела чаго. Хадора як увайшла, дык не адразу ўбачыла за сталом чалавека з трошачкі лысаватай ужо галавой. Чалавек крутнуўся на крэсле, потым устаў і пайшоў ёй насустрач. На левай грудзіне блішчалі крыжы, пазваньвалі тоненька медалі. Хадора спалохалася гэтай велічы пакоя, гэтага чалавека, але ў наступны момант яна пачула:

— Гэта вы Хадора Саладыш?

Запытанне было выказана, як здалося Хадоры, мякка, ласкава, і яна нават падумала: «Вядома, вучоны чалавек, не тое што той гугнявы стражнік». Таму і Хадора як мага ласкавей адказала:

— Але ж, мой саколік, я.

— Сядайце ў нас, будзьце як дома...

Хадора разгубілася і не ведала, куды сядаць, але ротмістр узяў яе лёгенька абедзвюма рукамі за плечы, падвёў да крэсла, што стаяла ля стала, і пасадзіў.

— Стаміліся, матуля, мабыць?

— Ды ўжо ж, сыночак. Старасць — не радасць.

— Разумею, разумею,— сядаючы за стол у крэсла, гаварыў, як мёдам мазаў, Гнілякоў.— Вы, мусіць, не ведаеце, чаго мы вас сюды выклікалі? Вам не казалі?

— Ды ўжо ж не ведаю, саколік мой. Няхай яго так сарочка не ведае, як я не ведаю,— думаючы пра стражніка, які нібы ва ўсім быў вінаваты, казала Хадора.

— Завошта вы, матуля, так узлаваліся на яго? — яшчэ лагадней спытаў ротмістр.— Ён жа на службе.

— Вы ж таксама на службе, а, мусіць жа, скажаце, навошта мяне выклікалі?

— Скажу, матуля, скажу. Толькі трэба, каб і вы ўсю праўду сказалі.

— А ён жа, колькі ні дапытвалася, дык адно чаўпе, як той ёлупень: «Не велена знаць»,— зусім акрыяла, асмялела старая.— Я ж нікому ніколі ніякай няпраўды не казала. Хай мяне пярун заб'е, калі я каму што схлусіла. Няпраўдай, як той казаў, свет пройдзеш, а назад не вернешся,— адказвала на патрабаванне жандара Хадора.

— То-та ж, правільна. З разумным чалавекам дык і гаворка вяжацца,— падрабляючыся пад простую сялянскую мову, падбадзёрваў старую Хадору ротмістр Гнілякоў. Нарэшце, відаць, выпытаўшы, што ўжо канчаткова дабраўся да душы гэтай жанчыны, спытаў:

— А вы хочаце пабачыцца з сынам?

— З якім сынам? — сумелася і спалохалася Хадора.— Нам жа, яшчэ як Лаўрэн быў жывы, вестку прыслалі, што два сыны пад нейкім Пярэмышлем загінулі.

— Дык то ж меншыя. А са старэйшым, Хведарам?

Хадора здзівілася: адкуль гэты чужы чалавек ведае, як завуць усіх сыноў, і ад гэтага насцярожылася.

— Хто яго ведае, мусіць, і таго ўжо на свеце няма, бо каб жывы быў, дык аказаўся б дзе-небудзь.

— А калі я вам пакажу яго, дык ці пазнаеце?

— Чаму ж не? Хіба ж каторая маці не пазнае свайго сына? Якая ж яна маці? Я ж кожную радзімку на ім ведаю, кожны валасок яго ў пальцах перамацала.

— Дзіва што. Вядома, маці. Мяне таксама мая старая гадоў з дзесяць не бачыла, а як прыехаў дадому, дык не вачыма, а сэрцам пазнала. Калі вы свайго Хведара пазнаеце, дык разам і дадому паедзеце.

— То ж бо што пазнаю, калі мне яго пакажаце,— казала Хадора, а сама думала: калі тут яе Хведар, дык чаму яны яго дадому не пусцілі, навошта яе сюды, як арыштантку якую, прывялі?

Ротмістр Гнілякоў тым часам зазваніў у званок, што стаяў на стале, і ў кабінет увайшоў стражнік, толькі не той, які яе сюды прывёз, а іншы.

— Прывядзіце да мяне арыштаванага Сініцкага Івана. З пятай камеры,— загадаў Гнілякоў.

— Ёсць прывесці арыштаванага Сініцкага з пятай ка-

меры,— ляпнуў абцасамі і, крутануўшыся на адным месцы, знік за дзвярыма стражнік.

— От я зараз вам і спатканне з сынам зраблю,— корпаючыся ў паперах, сказаў зноў ласкава Гнілякоў.

Хадора хацела сказаць, што прозвішча яе сына не Сініцкі, а Саладыш, але падумала, што, можа, гэты пан афіцэр выклікае каго-небудзь іншага. Аднак жа праз нейкі момант расчыніліся дзверы, і Хадора ўбачыла высокага, у расхлістаным старым шынялі, з завязанымі назад рукамі чалавека. Шчацінілася рудаватая барада па змардаваным худым твары. Але што гэта: крышачку вышэй правага брыва кругленькая, як гарошынка, радзімка. Гэта ж Хведарава радзімка! Чаго ж ён глядзіць гэтак на яе чужымі вачыма? Хіба не пазнаў маці? Яна памкнулася ўстаць і кінуцца да сына, але ў нагах, ва ўсім целе было нейкае здранцвенне, а ў сярэдзіне нібы што абарвалася. Нейкі пякучы боль скалануў сэрца, і яна не магла зрушыцца з месца. Хацелася крыкнуць, але перахапіла дых, і адно толькі варухнуліся губы, а слоў ніякіх не атрымалася. Ротмістр Гнілякоў кідаў вачыма то на арыштанта, то на старую і як бы казаў: чаго ты сядзіш, чаму ты не кідаешся яму на шыю, гэта ж твой родны сын, якога ты не бачыла столькі год?

— Хіба не пазналі адно аднаго? — сурова ўжо спытаў жандар.— Хведар Саладыш, хіба ты не пазнаў маці?

— Я не ведаю гэтай жанчыны. Навошта вы, пане жандар, гэты спектакль тут наладжваеце. Тут жа не тэатр, а жандарская ўправа, а я — не Саладыш, а Іван Сініцкі.

— А ты, старая, хіба сына не пазнала? — са злосцю звярнуўся да Хадоры яшчэ нядаўна гэтакі ласкавы Гнілякоў.

— Не, галубчык, гэта не мой Хведзя. Мой быў меншы ростам, спраўнейшы, не такі худы. А гэтага чалавека я першы раз у вочы бачу,— хлусіла Хадора. А на сэрцы ў яе быў вялікі чалавечы боль: гэта ж трэба, каб родны сын не пазнаў. Адзін ён застаўся, і той выракся. І ці то на злосць сыну, ці на злосць гэтаму ласкаваму жандару яна так і сказала, што ў вочы ніколі не бачыла арыштанта. Яна хацела ўстаць, але здранцвенне не праходзіла. Нейкае забыццё апанавала ўсю яе істоту. Раптам жандар крыкнуў на ўсю сілу:

— Выведзіце гэтага разбойніка адсюль!

Хадора схамянулася, як бы апрытомнела і сама сабе падумала: «Няўжо ж гэта яе Хведар разбойнікам стаў?

Добра, што не прызналіся адно да аднаго. Можа, на яго руках людская кроў, бо за што б яго аж у Сібір саслалі, а цяпер зноў тут трымаюць у астрозе са звязанымі рукамі. А можа, гэта не ён, не яе Хведар? Хіба мала ў каго такія радзімкі бываюць?» Яна, апанаваная одумам, сядзела, як сама не свая, нічога не чуючы і не бачачы перад сабой.

Жандар крыкнуў:

— Марш адсюль, ведзьма старая!

Яна ўсхапілася з крэсла і подбегам кінулася да дзвярэй. Але ў гэты час разбэрсалася абора. Хадора наступіла на яе і наўзніч грымнулася на бліштчастую паркетную падлогу. Клуначак з ядой, які яна ўвесь час трымала ў руках, адляцеў у бок да сцяны. Намагалася ўстаць, але ногі былі як чужыя. Зноў нервова зазваніў званок, і ў кабінет убеглі два стражнікі.

— Выкіньце адсюль гэтую поскудзь старую! — крычаў, аж заходзіўся, жандар.

Стражнікі падхапілі пад пахі Хадору і гэтак павалаклі ў калідор. Злосны Гнілякоў захадзіў сюд-туд па кабінеце. На вока яму трапіўся Хадорын клуначак, які ляжаў на падлозе. Ротмістр адчыніў дзверы і падноскам наваксаванага бота на ўсю сілу выцяў па клуначку, аж шпора зазвінела. Клуначак з акрайчыкам хлеба і агурком паляцеў у калідор услед за Хадорай.

— От як яно, дзеткі мае, было калісь. Маці дзяцей сваіх родных не пазнавалі,— парынаючы думкай у далёкае мінулае, гаварыў Хведар Саладыш.— Я вельмі баяўся тады за маці. Бо каб яна прызналася да мяне, дык не мінаваць бы мне ваенна-палявога суда, можа, нават і шыбеніцы. Не сядзеў бы я цяпер з вамі тут, галубы мае, і не расказваў бы пра тое страшнае мінулае. Сэрца, мусіць, падказала старой.

— А што вы, дзедка, зрабілі тады, што вас у астрог запраторылі? — пытаў жвавы русявы хлапчук, які сядзеў на лавачцы побач з дзедам Хведарам.

— Што я зрабіў, пытаеш, хлопча? Гэта, брат, вялікая казань. Цару і ўсім яго паслугачам гэтак насаліў, што яны жыўцом мяне з'елі б або на горкай асіне засілілі б. Я тады арол арлом быў. Партыя загадала мне, каб я з ссылкі ўцёк і пад чужым імем на фронт да салдат у акопы пайшоў і праўдзівым словам, як расой, вочы ім прамыў, каб яны ўбачылі, нашто і за каго яны ваююць. Я гэтак і

зрабіў. З Сібіры аж на Заходні фронт дапяў. Салдатам па акопах лістоўкі падсоўваў, бальшавіцкую «Акопную праўду» ўпотай чытаў. Ды не ўпільнаваўся.

— Злавілі вас? — з трывогай у голасе спытала дзяўчынка.

— Злавілі, трасца іх галаве. Падлюга адзін выказаў.

— І ў астрог забралі?

— У астрог, дзеткі. Ім хацелася даказаць, што я не салдат Іван Сініцкі, як па дакументах відаць было, а ссыльны Хведар Саладыш. Тады б яны мяне пад ваеннапалявы суд і, можа б, на той свет адправілі. Час тады суровы быў, сакаляты мае. Дык яны і старую маці з Гарнастаеўкі ў горад прывезлі, каб яна пазнала мяне.

Мяккія вячэрнія змрокі слаліся па зямлі. Ужо імгненна пазалаціліся вокны гарнастаеўскіх хат — запрацавала калгасная электрастанцыя. Аднак ніхто і не думаў разыходзіцца з-пад Лаўрэнавай ліпы. Але вось з-за паркана пачуўся жаночы, падобны на песню, голас:

— Тата, вячэраць ідзіце!

— Зараз, дачухна,— азваўся Хведар Саладыш на покліч Любы, ягонай прыёмнай дачкі, якая цяпер ужо сама стала маці.

Стары падхапіў з калень слаўнае малое дзіця і сказаў на развітанне сваім юным слухачам:

— Дабранач вам, дзеткі. Другім разам я яшчэ не тое раскажу.

— Дабранач, дзедка,— дружным хорам адказалі вучні і пайшлі кожны ў свой бок з-пад Лаўрэнавай ліпы.

[1958]

# НЯВЫКАНАНАЕ ЗАДАННЕ

Была тая пара года, калі на дрэвах палопаліся пупышкі і выпырснулася свежая, яшчэ кволая зяляніна вясны. Невялічкі наш аўтобус кідала па калдобістай гразкаватай дарозе. Седзячы ля адчыненага акна, я ўдыхаў на ўсе грудзі парнаватае вясновае паветра. Лёгка, добра было на душы, і калі б не клопат, выкліканы тым незвычайным заданнем, якое я атрымаў, можна было б цалкам аддацца сузіранню таго, як хораша шугала ў прасторах маладая вясна. Гэтае заданне я атрымаў ад рэдактара нечакана і таму дома не паспеў нават як мае быць падумаць. Давялось думаць у дарозе. Заданне было — не жартачкі. Рэдактар наш, Мацвей Рыгоравіч, так і сказаў:

— Такое заданне толькі табе, бадай, аднаму ў нашай рэдакцыі па сіле. Спадзяюся, што ты ў яго ўсю душу ўкладзеш.

Гэта быў вялікі давер мне, і я гатовы быў не толькі душу, а ўсяго сябе ўкласці, абы толькі добра зрабіць. Мы любілі свайго Мацвея Рыгоравіча за яго вельмі шчырую душу, чалавечую прастату, за нейкую бацькоўскую патрабавальнасць, і калі хто непасрэдна ад яго атрымліваў якое заданне, дык гатовы быў, здаецца, не піць, не есці, не спаць, а зрабіць так, каб ён сказаў сваё скупое «добра». І вось я, трасучыся ў невялічкім аўтобусе, прыкідваю ў думках, з чаго пачну і чым скончу свой рэпартаж. Хоць і ведаю, што тое, з чым мне давядзецца сустрэцца, пачуць, убачыць, наўрад ці будзе падобным на тую схему, якую я прыдумваю, але ўсё ж я яе прыдумваю.

Аўтобус спыніўся якраз каля Перасвяцкага раённага Дома культуры. Усюды відаць быў жвавы рух. У Дом культуры чародкамі ішлі дзяўчаты, па адным ці па два крочылі больш сталыя людзі. Відаць, інтарэс да выступлення акадэміка быў немалы. Ды і чаму не быць яму вялікім? Не часта ж такія людзі наведваюць. Перасвяты. І, можа, перасвяцкая моладзь ды і людзі больш сталага веку падзякуюць райкому камсамола за тое, што ён арганізаваў гэтую сустрэчу са старым бальшавіком, праслаўленым акадэмікам Сяргеем Трахімавічам Гаўрылюком.

Людзей набілася столькі, што, як той казаў, і яблыку наўрад ці было б дзе ўпасці. Я прымасціўся непадалёку ад сцэны, каб усё добра было відно і чутно. Я заўсёды любіў так прыехаць на які-небудзь сход ці нараду, прымасціцца дзе-небудзь у куточку і, нікому лішне не паказ-

ваючыся, наглядаць і слухаць. Бо звычайна, калі ўведаюць, што прысутнічае карэспандэнт, дык будуць раз-пораз кідаць на цябе вокам, як бы незаўважна падглядаць, што ты там запісваеш у блакнот. На гэты раз, вядома, ніхто б не падглядаў, што я запісваю, ніхто б не баяўся, што магу напісаць не вельмі пахвальнае пра раён. Мне трэба было не толькі слухаць акадэміка, але і бліжэй быць да тых, каму ён будзе расказваць.

У зале пакуль стаяла такая гамана, што цяжка было пачуць якое-небудзь асобнае слова. Усё злівалася ў адзін працяглы шум, ад якога аж глухлі вушы. Позіркі людзей былі скіраваны на сцэну, пасярод якой стаяў невялікі стол, накрыты цёмна-чырвоным сукном, а ўзбоч, ля самай аксамітавай заслоны,— невялікая трыбуна, на беражку якой — з аднаго боку поўная шклянка вады, а з другога — няўключаная настольная лямпа.

Я заглядзеўся на залу і не заўважыў, калі з-за куліс выйшлі на сцэну акадэмік і рухавая, вельмі вёрткая дзяўчына з камсамольскім значком на грудзях. Я гэта адчуў па тым, як раптам абарвалася гамана і людзі дружна запляскалі ў далоні. Калі ўлегліся воплескі, дзяўчына звонкім, нават крыху прарэзлівым голасам абвясціла:

— Слова, таварышы, мае наш дарагі госць — Сяргей Трахімавіч Гаўрылюк.

Камлюкаватая акадэмікава постаць не па гадах была рухавая. Венчык сівых валасоў акаймоўваў яго лысую галаву. Верхняе святло сцэны падала на акуляры ў залатой аправе, і яны, здавалася, гарэлі. Сяргей Трахімавіч зірнуў на залу з такой усмешкай, што невядома было, чаму людзі запляскалі ў далоні — ці гэтай усмешцы, ці таму, што ён пачаў гаварыць.

Роўны, трошачкі сіплаваты голас прамоўцы ліўся ў людскую гушчыню. Людзі баяліся кашлянуць, каб не заглушыць ніводнага слова акадэміка.

Не, Сяргей Трахімавіч не быў тым прамоўцам, які, узлакаціўшыся на трыбуну, кідаў адтуль вычытаныя з паперкі словы. Ён сюд-туд хадзіў па беражку сцэны і расказваў, відаць, тое, што сам перажыў. Зрэдку ён падыходзіў да трыбуны, і тады вочы яго выпраменьвалі нейкі асаблівы бляск. Нават калі б чалавек не гаварыў, дык толькі па адных вачах можна было б чытаць яго думкі. Больш жа за ўсё Сяргей Трахімавіч пахаджаў і спакойна, нават трошачкі манатонна расказваў пра тое, як у далёкі дарэвалюцыйны час ён, сын беларускага чыгуначніка, стаў рэ-

валюцыянерам, як арганізоўваў забастоўкі, распаўсюджваў бальшавіцкія газеты, як трапіў у далёкую сібірскую ссылку.

— Э, голубы мае,— зрабіў адступленне ад расказу акадэмік,— тады Сібір была не тое, што цяпер. Цяпер вунь колькі такіх, як вы, едуць туды будаваць заводы і фабрыкі, гарады і пасёлкі, падымаць цаліну. Цяпер там колькі рамантыкі, колькі шчасця чалавечага! А тады...— прамоўца на момант задумаўся, нібы шукаючы прыдатнага слова.— А тады гэта быў край холаду, край кайданнага звону. Вы ж, мусіць, чулі песню пра калоднікаў...

Здавалася, што вось-вось акадэмік заспявае сваім грудным голасам:

Дзінь-бом, дзінь-бом —
Калоднікі ідуць.
То нашага таварыша
На катаргу вядуць.

— Мы ніколі не трацілі веры ў перамогу рэвалюцыі. На сібірскім марозе, як на агні, гартавалі сваю рэвалюцыйную мужнасць, каб не сагнуцца, не ўпасці нават пад самымі цяжкімі ўдарамі лёсу.

Я слухаў і запісваў у блакнот. У галаве ўжо выспяваў рэпартаж. Але вось прамоўца загаварыў, як ён пасля рэвалюцыі вярнуўся на Беларусь, пачаў расказваць пра змаганне на франтах грамадзянскай вайны, пра Першую конную армію, пра арганізацыю партызанскай барацьбы ў тыле белапольскіх войск, якія акупіравалі Беларусь.

— А гэта вось мяне пачаставалі белапалякі,— акадэмік паказаў рукой на рубец, які ледзь прыкметна сінеў крыху вышэй левага брыва.

Дагэтуль я і, можа, нават ніхто не заўважаў таго сіняватага пісяга. Акадэмікаў твар свяціўся такой яснай, іскрыстай усмешкай, святло якой паглынала ўсё. І хіба каму прыйшло б у галаву прыглядацца, што там ёсць на твары ў чалавека. Да таго ж, толькі цяпер я ўбачыў на левым штрыфлі сіняга бастонавага пінжака ярка-чырвоны сцяжок дэпутацкага значка.

Але пра што гэта гаворыць прамоўца? Я яго слухаю і, ужо нічога не запісваючы ў блакнот, з галавой парынаю ў мінулае. А памяць, карціну за карцінай, узнаўляе маё маленства. Нішто так не астаецца ў памяці, як тое, што цябе ўразіла, узрушыла ў дзіцячыя гады. Каб чалавек пражыў два жыцці і чаго б ён толькі ні пабачыў на бясконца доўгім шляху, усё роўна тое, што ўпершыню яго

ўразіла, астанецца самым яркім, самым выразным успамінам. Ёсць нейкая мяжа маленства, пераступіўшы якую, чалавек інакш усё бачыць, успрымае. І вось гэтае першае асэнсаванае ўражанне ідзе з чалавекам, можа, праз усё яго жыццё. Чаго потым мне ні даводзілася перажыць, перабачыць за гады юнацтва, сталасці, аднак многае, што ў свой час было значным, уражлівым, нават вельмі балючым, паступова сцьмянела, саступіла месца больш новаму. Чалавечая ж памяць — не тое сховішча, дзе калекцыяніруецца ўсё без разбору. Аднак уражанні маленства могуць праляжаць на дне памяці некранутымі, і варта толькі шмаргануць за нейкую невідочную нітачку, як яны ажывуць яркімі, незабыўнымі карцінамі. А сёння прамоўца якраз і шмаргануў тую нітачку, і я ўжо, здаецца, не слухаю яго, а ўспамінаю сваё далёкае.

...Пасярод нашага Заліп'я праходзіла выгараджаная плотам вулачка. Адным канцом яна выходзіла ў поле і там разгаліноўвалася ў тры дарогі, другі ж канец выходзіў на выган. Па гэтым другім ніколі не ездзілі, бо не было ніякай патрэбы. Яго выгарадзілі толькі для таго, каб не гнаць статак праз ўсё сяло на грэблю, а каб жывёла адразу блізкай дарогаю ішла на пашу. Хто яго ведае, калі выгарадзілі гэтую вулачку, мусіць, яшчэ за дзядамі. Аднак па адзін бок яе быў Лукашоў двор, а па другі наш.

Лукашоў двор быў як цацка... Сядзіба шырокая-шырокая. На вуліцу трыма вокнамі весела глядзеў мураваны, пад бляхаю дом, ад якога пачынаўся шчыльны шалёвачны паркан. Ля самага паркана расла раскідзістая ралаватая ліпа з бусліным гняздом. Ад вулачкі двор таксама быў адгароджаны парканам, але ўжо не з габляваных шалёўчын, далей стаяў вялізны свіран, а там адрына і хлявы, якія абгіналі ўвесь двор і ўтваралі замкнёны з усіх бакоў прастакутнік. Што там рабілася ў двары, нават паглядзець было цяжка — усё гэтак было зроблена, што нідзе ні шчылінкі. Адно ў двор можна было прайсці праз вароты ці брамку, але яны былі амаль заўсёды замкнёныя. Калі каму трэба было чаго, дык ён грукаў у брамку. Спачатку заходзіўся брэхам сабака, шморгаючы ланцугом па дроце, працягненым ад ганка хаты да дзвярэй свірна, а потым ужо выходзіў хто-небудзь з Лукашовых, каб адчыніць.

Толькі як у Заліп'е ўвайшлі палякі, дык Лукаш не чакаў, каб яму хто пагрукаў у брамку. Не зважаючы на холад, ён выйшаў без шапкі на вуліцу. На выцягнутых руках Лукаш трымаў вышываны ручнік, а на ім — бохан хлеба

і шчапоць солі. Халодны вецер варушыў яго рэдкія, пасечаныя часам валасы. Ён стаяў да таго часу, пакуль да яго не пад'ехаў, мусіць, самы старшы начальнік. Тады Лукаш падняў галаву і сказаў з павагай, на якую ён быў не вельмі здатны, гаворачы з усімі іншымі:

— Прошам, пане, дахаты!

Гэтак і асталяваўся ў Лукашовай хаце белапольскі афіцэр, камандзір коннікаў, а ва ўсіх іншых заліпскіх хатах было набіта салдатні. Усю зіму прастаялі ў вёсцы картнікі. Яны некуды на час выязджалі і часта прывозілі з сабой нейкіх людзей. За вёскай ля старых могілак палякі расстралялі нікому не знаёмых трох хлопцаў.

Лукашоў пастаялец рэдка выходзіў на вуліцу, а калі і выходзіў, дык, нібы той звяруга, злосна пазіраў на заліпскіх людзей. Адно з Лукашом пасвойтаўся. Нават казалі, быццам ён спаў з Лукашовай дачкой Аксінняй. Ды і чаму было не пасвойтацца афіцэру з Лукашом — гэта ж быў самы багаты ў Заліп'і гаспадар. Меў тры валокі зямлі, вятрак, сукнавалку. На яго дзень і ноч працавалі парабкі. Балюе панскае афіцэрства ў Лукашовай хаце. Жаўнеры для тых баляў-гуляў перадавілі ўсіх курэй, пастралялі нямала добрых вепрукоў на кілбасы ды на смажаніну. А Лукаш адно знае — гнаць самагонку ды насіць на закусь слоікі мёду. А які ж ён смачны з хрумсткімі агуркамі! За гэты мёд ды за агуркі яго, можа, і солтысам зрабілі.

Аднак у апошні час нешта неспакойна стала не толькі ў Лукашовай хаце, а ўсюды, можа, на ўсім свеце. Неспакой гэты плыў адтуль, з Сялявіч. І нават не з Сялявіч, бо ў Сялявічах яшчэ сядзелі паны і падпанкі. Неспакой плыў здаля, адтуль, з-за Прыпяці. Мы яго ўсе чулі, бачылі. Басаногай чародкай заліпскія хлапчукі, а вядома, і я з імі, выбягалі за платы агародаў. Хто-небудзь з нас прыпадаў вухам да зямлі і слухаў, як яна стогне.

— Макарка, паслухай, як енчыць зямля,— казаў каторы з хлапчукоў мне. І я, ссунуўшы на патыліцу старую аблавухую бацькаву шапку, лажыўся на мураву і слухаў зямлю. А яна сапраўды гудзела, стагнала. Увечары я расказаў бацьку пра зямны стогн. Ён мяне выслухаў і, таямніча ўсміхнуўшыся, сказаў:

— То, сынку, радасны стогн зямлі. То наша воля гэтак гулка ідзе з Усходу.

А на другі вечар мы бачылі ўжо чырвоныя водбліскі гарматных стрэлаў. Яны на момант узнікалі, як крывавыя плямы, па небасхіле. Ды і палякі ўжо заварушыліся.

З усіх вёсак яны выганялі людзей у абоз. Сяляне пазаводзілі коней з вазамі ў лес. Адно мой бацька не баяўся абозу. Наш гняды хадзіў на выгане з павытырклымі праз аблезлую скуру, як абручы, рэбрамі, і ніхто на яго не квапіўся.

На самым світанні мы, хлапчукі, выбеглі на выган. Грэбля, па якой яшчэ нядаўна рэдка праязджала якая фурманка, сёння лескатала коламі, курылася пылам, што падымаўся з-пад колаў і з-пад ног тых, хто ішоў пехатой. А ішло і ехала процьма. Па ўсім ужо відаць было, што падыходзіць канец панскай уладзе. Аднак карнікі, якія стаялі ў Заліп'і, яшчэ ліпелі па хатах, нібы і не збіраліся выязджаць. Яны толькі больш пачалі рабаваць абабраных ужо да ніткі сялян.

Затуліўшы далоняй ад яркага ранішняга сонца вочы, я ўглядаўся на грэблю. Што гэта? З грэблі на выган павярнулі два коннікі і ў пары едуць паўз платы. А паміж коньмі ці то чалавек, ці што? Чаго б то ён, як толькі коннікі паедуць рыссю, бегам бяжыць, падае, нават цягнецца па зямлі? Толькі тады, як коннікі пад'ехалі да канавы, якая перасякае наш выган, і коні па чэрава ўвайшлі ў ваду, мы выразна ўбачылі, што чалавек прывязаны вяроўкаю да сёдлаў, а тыя, што сядзяць у сёдлах, сякуць яго зверху бізунамі. Мы пахаваліся за плот, каб лепш убачыць, што гэта за дзіва такое. Чалавек быў увесь мокры, скрываўлены. Ён ужо не ішоў, а на вяроўцы цягнуўся паміж коньмі.

...Усё гэта, як жывое, паўстала цяпер у маёй памяці. Ды не толькі ў памяці. Заплюшчыўшы вочы, я яго бачыў, я чуў на свае вушы. А голас Сяргея Цімафеевіча як бы наліваўся гневам, і мне здалося, што ў тых, хто яго слухаў, сціскаліся сэрцы ад болю, а кулакі — ад нянавісці. У зале было ціха-ціха, адно толькі чутно было, як людзі глыбока ўздыхалі...

Скалечанага, скрываўленага, збітага нашчэнт чалавека коннікі ўцягнулі ў Лукашоў двор. Мы назіркам пабеглі з балота ў вёску. Хацелася чым-небудзь памагчы небараку. Брамка двара была не зачынена. Мы бачылі, як з хаты выйшаў той самы старшы афіцэр, падышоў да чалавека, які распластаны ляжаў на зямлі, і ўзяўся сам дапытваць яго. Колькі ён ні біў, колькі ні здзекаваўся з палонніка, той адно адказваў:

— Я майстар з Сялявіч, у мяне дрыль нават быў з са-

бою. Запытайцеся, паночку, у іх,— чалавек кінуў вачыма на тых, што прывалаклі яго сюды.

— Галган, пся крэў,— крычаў афіцэр,— брэшаш, бальшавіцкі сабака. Ты ў мяне мусіш мувіць, хто цябе паслаў сюды.

— Вы ў людзей спытайце, яны каторыя ведаюць мяне,— прастагнаў чалавек.

Чалавек паківаў пальцам Лукашу, які выйшаў з хаты, каб пацікавіцца, што дзеецца на яго двары.

— Ты ведаеш гэтага галгана? — спытаў афіцэр у гаспадара.

Лукаш абышоў, агледзеў чалавека, чамусьці пачухаў запатыліцу, нібы думаючы, што адказаць на афіцэрава запытанне, і не афіцэру, а як бы самому чалавеку сказаў:

— Нешта не бачыў я цябе, хлопча, ніколі.

Афіцэр загадаў пагукаць на двор сялян, каб спытаць у іх, можа, яны ведаюць, што гэта за ён. Усё ж такі, мусіць, яму хацелася дашукацца нейкай ісціны. У момант найшло амаль поўны двор мужчын і жанчын. Мы, падшыванцы, шнырылі пад нагамі ў людзей, прабіваючыся наперад, каб хоць зірнуць на чалавека. Усе баязліва туліліся да адрыны. У жанчын на вачах закіпалі слёзы, мужчыны маўкліва каўталі камячкі нянавісці, панура пазіраючы то на афіцэра, то на чалавека. Афіцэр кінуў на людзей суровы позірк і спытаў:

— Хто з вас яго ведае? Казаць толькі праўду, інакш будзе тое, што яму.

Мужчыны яшчэ цясней схіліліся адзін да аднаго, нібы рыхтуючыся адбіваць афіцэравы ўдары. Адно мой бацька выйшаў наперад, нагнуўся над чалавекам і доўга ўглядаўся яму ў твар:

— Хто яго ведае, хіба ж пазнаеш. Гэтак змясілі,— і, крыху падумаўшы, дадаў:— Мусіць жа, гэта той, што з дрылем ходзіць. Перчык той, як яго ў нас дражняць.

Людзі з палёгкай уздыхнулі, нібы скінулі з сябе найвялікшы цяжар. Трэба ж было каму-небудзь адважыцца, каб узваліць на сябе ўсю рызыку і сказаць тое, у што ён сам ні кропелькі не верыў. Гэта зрабіў мой бацька. А следам за ім і людзі пасмялелі.

— Ён жа ў мяне летась чыгунец лапіў,— крыкнула з натоўпу жанчына.— Я яшчэ здорам яму плаціла.

— А мне казан палудзіў. Медны казан быў, ды палуда ўся аблезла. Нельга было ўжо варыць. Дык ён, дзяка-

ваць яму, палудзіў, ды так жа добра,— падтрымаў выказанае бацькам другі жаночы голас.

Аднак усе з трывогай глядзелі на Лукаша, мусіць, баючыся, што той зараз жа абвергне ўсё гэта. Тым больш што абвергнуць лёгка было. Чалавека, які, падплыўшы крывёю, ляжаў на зямлі, у сапраўднасці ніхто не ведаў. Таго майстра, які хадзіў з дрылем па вёсках, лапіў чыгункі ды лудзіў казаны, ведалі бадай што ўсе. Я таксама, нават заплюшчыўшы вочы, мог пазнаць яго. Мы, хлапчукі, кожны раз, калі ён хадзіў па вёсцы, крычучы: «Каму чыгуны, казаны, паяю і луджу», пахаваўшыся за плот ці за вугал хаты, крычалі ўслед: «Перчык-ерчык, чыгунец». Ён не любіў гэтай мянушкі і аднаго разу так улёг за мной, дык я думаў, што дагоніць і дрылем тым між плеч адходзіць... Я добра ведаў таго Перчыка, а гэта быў не ён, і я зразумеў, што бацька сказаў для таго, каб хоць трохі памагчы чалавеку ў яго бядзе. Адно баяўся я, ды, мусіць, і ўсе, хто быў у двары, што Лукаш возьме дый скажа, што гэта ніякі не Перчык. Але наўздзіў усім Лукаш яшчэ раз абышоў знявечанага чалавека, нагнуўся над ім, штосьці памацаў рукой і сказаў:

— Мусіць, я не пазнаў. Можа, гэта і ён, хто яго ведае.

У афіцэра злосцю наліліся вочы, і ён парывіста махнуў рукой: маўляў, марш усе адсюль. Усе рынуліся на вуліцу, а мне не цярпелася, хацелася ўведаць, што тут яшчэ будзе, і я стрымгалоў пераскочыў цераз паркончык і затуліўся за вугал свірна, адкуль было добра відаць усё, што робіцца на двары.

Афіцэр не адчапіўся ад чалавека. Ён на ўсю сілу крыкнуў:

— Устань, хам!

Той паспрабаваў падняцца на ногі, але яны падламіліся.

— Прыкідваешся, хам бальшавіцкі!

Мне відно было, як афіцэр выцягнуў з ножнаў крывую бліскучую шаблю і замахнуўся ёю. Я спалохаўся: вось зараз рассячэ напал. Але афіцэр ударыў плашмя... Далей ён гэтак біў бесперапынку, і нельга было разабраць, ці то стагнаў палоннік, ці так глуха аддаваліся ўдары. Толькі тады, як афіцэр секануў тупым бокам шаблі па галаве, са стогнам даляцелі да мяне словы:

— Кацюга, гад пракляты...

Ні слова, ні паўслова чалавек не сказаў, хто ён і адкуль. Ён толькі глуха стагнаў, нават не прасіў літасці. Не

дамогшыся нічога ад палоннага, афіцэр закамандаваў замкнуць яго ў Лукашову адрыну.

Тры дні ён праляжаў там. Ні каліва хлеба, ні расінкі вады ў роце не было. Ён не спадзяваўся ні на які цуд.

...Лукашова адрына, якая глухой сцяной выходзіла ў вулачку, была збудавана так, што ў сценах ніводнай шчылінкі не знойдзеш. Чортаў кулак на нешта паслаў у адрыне падлогу, зрабіў з жэрдак вышкі. Камар носа, здаецца, не ўтачыў бы туды. Але мы такі падтачыліся былі пад кулацкую адрыну. Лукаш аднойчы ссыпаў увосень на падлогу мерак з пяць груш-дзічак, якіх ён натрос з таго дрэва, што расло на ўзмежку ягонага гарода. Зялёныя дзічкі былі цвёрдыя, як каменне, і іх ніхто не абіваў з дрэва. Але калі яны ўлежваліся, дык рабіліся віно-віном. Цэлымі днямі тупалі мы ля Лукашовай адрыны, удыхаючы мядовы пах дзічак. Аднак жа далезлі да іх. Падкапаліся пад сцяну адрыны, выламалі крайнюю маснічыну і такі падлаз зрабілі, што больш за палавіну выцягалі тых дзічак. Лукаш даўмецца не мог, дзе дзелася столькі гнілак. Мусіць, думаў, што пацукі якія расцягалі. А падкоп мы зрабілі гэтак хітра, што Лукаш хадзіў, тупаў каля тае ямкі і не ўбачыў яе.

— От небарака, даканаюць яго гады,— паспачуваў бацька палонніку.— Голадам замучаць чалавека.

— Тата, а што калі я яму есці занясу? — спытаў таямніча я.

— Ды як ты занясеш. Там жа вартавы, як слуп, стаіць.

— Я ведаю адну шчыліну,— не выдаючы цалкам свайго сакрэту, паведаміў я бацьку.

— То занясі, шкада ж чалавека. Ды глядзі не пападзіся, а то і з цябе, як з яго, скуру спусцяць.

— Не спусцяць,— запэўніў бацьку я.

Доўга шпацыраваў я па вулачцы, правярыў, ці не заваліў хто таго падлаза, заходзіў у двор паглядзець, што робіць вартавы. Ён сапраўды стаяў, як слуп, нібы пільнаваў адно тое жалезнае пута, якім былі замкнуты дзверы адрыны. Я асмеліўся падысці зусім блізка да вартавога і загаварыць з ім, але ён на мяне гэтак цыкнуў, што я кінуўся на ўцёкі.

— ...Цяжка глядзець у вочы смерці, асабліва калі ты ведаеш, што не ўсё яшчэ зрабіў на белым свеце,— гаварыў з нейкім болем за тое мінулае Сяргей Трахімавіч.— Галава ўжо ў мяне была як не свая. Вось-вось, здавалася, страчу прытомнасць і палячу ў нейкую бездань... Цем-

радзь нейкая страшная завалакла адрыну. Я чакаў, што зараз адамкнуць дзверы, павядуць мяне туды, адкуль ніхто і ніколі не вяртаецца. Я быў гатовы ўжо да ўсяго, абы толькі скончыліся пакуты...

...Раптам нешта зашамацела, але не ў дзвярах, а ля задняй сцяны. Я прыўзняўся і, сумеўшыся, слухаю: што б то магло быць? Вядома, ніякай надзеі на ратунак не меў. Сабраў усю сваю сілу, каб апошні раз зірнуць у вочы смерці і не выказаць страху. Няхай ворагі не падумаюць, што камуністы баязліўцы. Але тое, што я пачуў з-пад сцяны, дайшло да маёй свядомасці як надзея на ратунак,— працягваў свой расказ Гаўрылюк.

...Я прасадзіў ужо галаву праз цесны падлаз і запытаў:

— Дзядзька, дзе вы? Я вам есці прынёс, калі хочаце.

Я прасунуўся па самыя грудзі ў адрыну. Не адразу пачуў адказ на свой шэпт. Спалохаўся, думаў, што чалавек зайшоўся ад болю і голаду. Нейкая хвіліна здалася мне бясконца доўгай. Нарэшце пачуліся прыглушаныя словы:

— Хто ты? Як ты сюды ўлез?

— Я Макарка, Васілёў сын. Есці вам прынёс, калі хочаце.

Стогнучы ад болю, чалавек папоўз на мой голас. Я думаў, што ён з голаду кінецца на яду, і працягваў яму руку з шапкай, у якой былі хлеб і сала. Але чалавек спытаў:

— Як ты сюды ўлез?

— Во як улез! — выгукнуў я, амаль забыўшыся, дзе мы.

— Цішэй, хлопчык,— прастагнаў чалавек..

— Як улез? — здзівіўся я.— Праз гэты падлаз мы па Лукашовыя гнілкі лазілі. Ён такі, што нават вы можаце пралезці.

— Дзе ён, той падлаз? — як мне здалося, радасна запытаўся чалавек.

— Давайце руку і паўзіце за мной,— прапанаваў я.

І я задам пачаў выкоўзвацца ў вулачку, цягнучы за сабой чалавека. Праз які момант мы былі ўжо на волі. Вясновая ноч была ціхая, недзе толькі ў канаве заходзіліся жабы, ды з грэблі чуўся лёскат колаў. Гэта ішлі дзень і ноч на захад белапольскія абозы.

— Ты пакажы мне, як тут прабрацца дзе ў які лес,— папрасіў чалавек.

Мы хуценька пайшлі вулачкай на выган. Чалавеку, відаць, было цяжка, балюча ісці, і ён раз-пораз абапіраўся на маё дзіцячае плячо. Мы выйшлі за платы агародаў і

там, спадзеючыся, што з вуліцы нас ніхто не ўбачыць, прыселі на мураве адпачыць. Я падаў чалавеку хлеб з салам, і ён пачаў есці, але з'еў не ўсё, што я прынёс.

— Няхай гэта будзе на дарогу,— запіхваючы ў кішэню пінжака невялічкую лусту хлеба і скрылёк сала, сказаў ён мне.— А цяпер гайда, хлопча, у дарогу. Пакажы, куды мне ісці, каб хутчэй у лес трапіць.

Я павёў чалавека сцяжынкай, якая вяла да кладкі цераз канаву. Дарогай я асмеліўся спытаць:

— Скажыце, дзядзька, хто вы? Я ж ведаю, што вы не Перчык-ерчык. Мой бацька так сказаў, каб вас не білі.

— Э, хлопча,— ласкава адказаў мне дзядзька.— Твой тата добры, сапраўдны чалавек. Я — бальшавік. А як жа цябе, хлопча, завуць? — нечакана запытаў чалавек.

— Макарка Васілёў.

— Як жывы буду, век не забуду,— прамовіў чалавек, развітваючыся са мной на кладцы. Слабымі рукамі ён ласкава абхапіў маю галаву і два разы пацалаваў у лоб.

— Як вырасцеш, хлопча, дык і ты будзеш бальшавіком.

— Буду! — амаль крыкнуў я ўслед чалавеку.

Я яшчэ доўга стаяў ля тае кладкі і глядзеў, як сцяжынкай па росным поплаве пайшоў чужы і родны мне чалавек. Удалечыні ўжо сінела сцяна лесу. Вось-вось павінен быў пачацца вясновы дзень. А я ўсё глядзеў і глядзеў, пакуль чалавека зусім ужо не стала відно. Я думаў сабе: «Каб хоць тыя чэрці не агледзеліся, хай бы ён хоць у лес увайшоў, а там няхай шукаюць, трасцу знойдуць...»

Блізка сарака год прайшло з таго часу. Многа перажыта, многа перабачана. У часе Вялікай Айчыннай вайны я і сам не раз хадзіў у разведку, трапляў у такія пераплёты, што цяпер нават цяжка ўявіць, як я з іх выкручваўся. Шмат што пачало ўжо знікаць з памяці. І цяпер перад вачыма, мабыць, той самы знявечаны чалавек. Адно над левым брывом сінее след даўняе раны.

А Сяргей Трахімавіч гаворыць і гаворыць:

— Памяць мая не зберагла ні назвы тае вёскі, ні імя таго хлапчука, які мяне ўратаваў. Можа, я з ім цяпер дзе і сустракаўся, бачыўся.

Я слухаю гэта, і мне хочацца крыкнуць па-дзіцячаму:

— Я тут, дзядзька Сяргей!

Але я маўчу, даслухоўваючы чалавечую споведзь. Ён ужо расказвае пра тое, як яго партыя паслала вучыцца, як ён стаў вучоным, над якімі праблемамі цяпер працуе.

Мне гэта чамусьці ўжо не цікава слухаць. Гэта як бы чужое. Я чакаў канца, каб пагаварыць з акадэмікам. Вось ён ужо скончыў расказ, і я пайшоў за кулісы. Але ў гэты момант пачалі задаваць пытанні. Мне здалося, што акадэмік вельмі доўга адказвае на іх. Нецярплівасць разбірала мяне: той гэта чалавек ці не той? А можа, і не той? Хіба мала бывае такога ў жыцці?

* * *

У рэдакцыю я вярнуўся на чацвёрты дзень, і, як толькі пераступіў парог рэдактарскага кабінета, Мацвей Рыгоравіч, дакараючы мяне, спытаў:

— Што з табой, Макар Васільевіч, здарылася? Гэта так на цябе не падобна, каб ты дзе-небудзь загуляў і сарваў выкананне задання. Дзе твой рэпартаж? Мы планавалі яго на нядзелю, а сёння ўжо аўторак.

— Так, Мацвей Рыгоравіч, ніколі са мной такога не было. Такое рэдка з кім здараецца. На гэты раз я рэпартажу не напісаў.

— Што здарылася? — нецярпліва пытаў рэдактар, відаць, думаючы, што мяне напаткала якая бяда.

— Нічога страшнага. Наадварот. Вось наце прачытайце, я напісаў апавяданне.

Мацвей Рыгоравіч пачаў чытаць. Па меры таго як вочы яго далей і далей беглі па радках, я бачыў, як разгаралася яго цікавасць. Я стаяў і сачыў за яго выразам твару, за кожным адценнем на ім. Нарэшце рэдактар вымавіў:

— Цікавую гісторыю выдумаў.

— Не выдумаў, Мацвей Рыгоравіч. Усё, што тут напісана, было са мной і акадэмікам Гаўрылюком. Гэта чыстая праўда.

Мацвей Рыгоравіч яшчэ больш здзіўлена зірнуў, нібы ён дагэтуль мяне зусім не ведаў, узяў чырвоны алавак і напісаў на левым ражку першай старонкі майго апавядання: «У набор».

[1957]

# ПІЛА-КАТАЛІЧКА

— Шабаш, хлопцы, перакур! — крыкнуў дзядзька Костусь Калодка, брыгадзір будаўнічай брыгады калгаса «Прыдуброўка». Ён толькі што вельмі добра прыпусціў пазы чыстага вугла, і ў яго быў, відаць, адменны настрой. Бо ў кожнага ж чалавека, калі яму што ўдасца добра зрабіць, задаволенасць выклікае і адпаведны настрой. Костусь Калодка не быў выключэннем. За свой немалы век ён гэтулькі ўжо наставіў хат, свірнаў, калгасных абор, што куды б ён ні ішоў па Прыдуброўскай ды і па вуліцах іншых вёсак, усюды бачыў сляды сваёй работы. Гэта радавала старога. Ён сабе і брыгаднікаў падабраў такіх, што каб не толькі сякерамі ляскалі, а ўмелі як мае быць склюдаваць, габляваць, самшыць сцяну. Праўда, прыпускаць вуглы хат ён давяраў толькі самому сабе і крыху маладзейшаму за яго, але спрактыкаванаму Ігнату Асцюку. Яны ўдвох і лічыліся ў прыдуброўскім калгасе самымі адменнымі майстрамі. Нядаўна на праўленні калгаса парашылі былі паставіць хату ўдаве Мікалаісе, мужык якой не вярнуўся з вайны, і яна сама, абсыпаная дзецьмі, ніяк не магла агораць сабе добрага жытла. Зруб ужо быў выведзены амаль пад самыя кроквы, і Костусь, седзячы на вугле, не раз казаў:

— От жытка цяпер настала. Мікалаіха, мусіць, і не сніла, што ёй хату хто паставіць. А тут неспадзявана, нечакана, без клопатаў і згрызот, на табе святліцу. Перацягвай з катуха ўсе свае мэтлахі і жыві сабе анігадкі.

— Канечне, жытка цяпер не тая, што калісь пры панах была. Цяпер чалавек не жыве, а красуецца,— устаўляў сваё ў падтрымку брыгадзіра Ігнат Асцюк, стараючыся прыпусціць так вугал, каб нідзе ні шчылінкі ў ім не было, каб ніякі ні сівер, ні мароз не маглі пракараскацца ў хату.

Мужчыны паўцюквалі сякеры ў бярвенні, расклалі цяпельца з сухіх смолкіх трэсак і абселі яго вакол, хто на бярвенні, а хто і проста на корпушках. Тым часам пазлазілі з вуглоў дзядзька Костусь і Ігнат. Ігнат дастаў з кішэні вышываны, хоць ужо і ладна зашмальцаваны, але ўсё яшчэ прыгожы, у кветачках, капшук з тытунём.

— Закурвай, хлопцы.

Будаўнікі пацягнуліся шчыпоцямі да Ігнатавага капшука. Адно толькі дзядзька Костусь бавіўся: не аддзіраў паперкі, не цягнуўся да капшука.

— Дык чаму ты, Костусь, не закурыш? — спытаў Ігнат.

— Ды от думаю адвыкнуць як ад гэтага чортавага зелля. Нешта ў грудзях цісне, а ўранку, як прачнешся, дык быццам гармонік грае ў іх. Пажыць цяпер хочацца, пакрасавацца, а гэтае зелле можа чалавеку веку ўкараціць.

— Не ўкароціць, брат, нашы грудзі як кавальскія мяхі. Нічога ім не стане ад гэтага дыму,— уставіў сваё Асцюк,— а мультан у мяне як чай. Закуры, Костусь!

— Дык, кажаш, не ўкароціць? — перапытаў для пэўнасці Костусь.

— Ды не! Закуры. Ты такого мультану яшчэ ніколі не курыў. Гэта мне, брат, папушы са дзве прыслаў сваяк з Залесся, дзякаваць яму. А там можаш сабе кідаць, ніхто цябе не няволіць.

Дзядзька Костусь пацягнуўся да паперы. Адарваў роўненькі акраечак газеты, дастаў добрую шчопаць жоўтага ліставога тытуню, парэзанага на тоненькія, як нітачкі, пасачкі, і пачаў згортваць цыгарку.

— Кажаш, як чай тытунь?

— Лепшы за чай.

Костусь зацягнуўся, сіпла кашлянуў гэтак, што аж у грудзях нешта зарыпела, і, аддыхваючыся, адсопваючыся ад дыму, прамовіў:

— От жа і мацунак, ліха яго галаве.

Мужчыны курылі, хвалілі залескі тытунь, а дзядзька Костусь усё не мог уседзець на месцы — ён чагосьці шукаў вачыма па бярвенні, па трэсках, устаў, абышоў вакол зруб і, толькі вярнуўшыся да цяпельца, спытаў у мужчын:

— А дзе гэта мая піла? Куды вы яе запраторылі?

— Хто яе ведае,— па-змоўніцку ўсміхнуўся маладаваты яшчэ, з расхлістанай загарэлай грудзінай цясляр Антось.— Хіба то піла ў вас, то ж абмылак нейкі. Дык мы яе занеслі ды ў раўчак кінулі, каб яна і вачэй нам не муліла.

— Я цябе кіну, я цябе кіну, каб цябе кінула ды не ўзняло,— зазлаваў дзядзька Костусь.— Кепікі са старога чалавека строіць.— У гневе ён, зацягнуўшыся раз-другі цыгаркай, кінуў яе ў агонь, шматануў рукамі на галаве шапку так, што яна аж на вочы налезла.

— Я ў цябе не жартам пытаю, дзе піла,— наступаў на Антося брыгадзір.

— Я ж вам кажу, што кінулі ў раўчак... Хіба вам не хапае добрых калгасных піл. Вунь жа новенькая ля сцяны стаіць, дык вам, канечне, трэба ваш абмылак, тупы, як

падвосак,— усё яшчэ не здаваўся, не зважаючы на брыгадзіраў гнеў, Антось.

— Добра, што ў цябе язык востры. Дык я табе яго трохі затуплю.

Мужчыны глядзелі то на дзядзьку Костуся, то на Антося. Яны сапраўды не разумелі, чаго іх брыгадзір ніколі не расставаўся са сваёй пілой, як той Антось кажа, з абмылкам. Дык хоць бы яна вострая была, а то ж у ёй ні добрага зуба, ні добрага звону, відаць, яшчэ і тады, калі яна была новая, дык і то была не піла, а лапатуха. І чаго яе так пільнуе дзядзька Костусь?

— Ат, ліха з ёй, калі і прапала дзе, дык невялікі ўрон,— умяшаўся ў гаворку Ігнат.

— Невялікі ўрон! Невялікі ўрон! Добра ты кажаш. Табе невялікі ўрон. А мне гэта піла вунь якая. Яна мяне ледзь у астрог не запраторыла, яна мяне і выратавала, з мяне яе і цяпер ксёндз патрабуе. Яна яго парафіянка.

— Ого, гэта цікава,— азваўся Антось.— Як жа гэта, раскажыце, дзядзька Костусь.

— Гэта піла не простая, можна сказаць, а піла-каталічка.

— Якая каталічка? — не зразумелі мужчыны. Яны ведалі адно, што Костусь калісь пры панах выхрысціўся з праваслаўных у каталіка. За гэта яму і мянушку далі — выхрыст. Але прычым тут старая, зрэзаная нашчэнт, можа, разоў з дзесяць назубленая піла, якую, каб на добры лад, трэба было ўжо выкінуць на сметнік...

— Гэта ж вы самі выхрысціліся ў каталіка, дык мы ведаем,— уставілі маладзейшыя мужчыны, якія паважалі Костуся не толькі за тое, што ён старэйшы, але і за яго цяслярскі спрыт.

— Ведаеце вы, ды не ўсё. Я сам такі католік, як вы мусульмане.

— Не кажы ты, Костусь. Я ж сам калісь не раз бачыў, як ты да клябаніі тупаў. Ты ж, кажуць, і цяпер яшчэ жагнаешся па-каталіцку, не складваючы пальцы ў бога, айца, сына і духа святога, а ўсёй пяцярнёй, як граблямі, ды ружанцы перабіраеш...

— Жагнаешся! Перабіраеш... Калі ты хочаш ведаць, дык я і тады, як толькі выхрысціўся, дома па-праваслаўнаму маліўся. А ў клябанію хадзіў для прыліку, каб пробашч не гневаўся. Бо ён, брат, мяне ўзяў тады на заметку. Ды што я перад вамі тут спавядаюся,— як бы апамятаўся дзядзька Костусь.— Я перад пробашчам так не

спавядаўся! Дзе піла, я ў цябе пытаюся,— наступаў на Антося дзядзька Костусь.— Мне ж сёння яе трэба пробашчу аддаць.

— Я ж вам кажу, што мы ўкінулі ў раўчак, каб яе і вочы людскія не бачылі. Сорамна, калі хто чужы пабачыць, якімі піламі калгасныя цеслі працуюць.

— Я тут брыгадзір, а не ты. Няхай мне будзе і сорамна... Давай пілу!

Антось бачыў, што дзядзька Костусь сапраўды ўзлаваўся і далей дражніцца ўжо не было як, і таму ён прапанаваў брыгадзіру, каб той расказаў, чаму гэта яго пілазмылак каталічка.— Гэта ж вы самі каталік, а не піла ваша.

— Я, брат, такі каталік, што каб усе такія, дык папа рымскі даўно б у жабракі пайшоў. Яшчэ да трыццаць дзевятага года дык сяк-так дома хоць па-свойму маліўся. Ды як там маліўся — жагнаўся пасля снедання ці абеду, а як прыйшлі Саветы, ды як пайшоў у вайну ў партызаны, дык з тых пор крыжа ні каталіцкага, ні праваслаўнага на мне не было... Мана ўсё гэта, дый годзе. Дзе піла? — пытаю ў цябе.

— Не злуйце, дзядзька Костусь. Раскажыце, як гэты ваш змылак каталічкай стаў, дык прынясу. Дастану з раўчака.

— Гэта, брат, доўгая казань... Ідзі нясі, дык, можа, і раскажу.

— Антось, ды прынясі ты пілу, няхай дзядзька раскажа,— амаль у адзін голас абазваліся цесляры.

Антось устаў, зацягнуўся мультаном і пайшоў у расцяроб лесу, які падступаў да самых хат вёскі. Неўзабаве ён дастаў з-пад ядлоўцавага куста вузкую, як салдацкая папруга, з кароценькім, ужо закругленым зуб'ем пілу.

— Наце ваш гэты набытак ды не злуйце. Толькі я ёю больш пілаваць не буду, яна тупая.

— Дык не пілуй, хіба канечне табе ёю пілаваць. А я звык да яе, і калі іду на работу, дык не магу без яе, мне здаецца, што без рук застаўся.

— Дзіва што, без такой рэчы, вядома, будзеш як без рук,— пакепліваў Ігнат.

Костусь узяў ад Антося пілу, сагнуў яе і пусціў, яна аж свіснула.

— А калісь была добрая, сталь на ёй гартаваная, не тое што цяперашняя. А звон які быў.

— Не казаў бы то піла-каталічка! — уставіў Антось.— Толькі чаму яна каталічка, раскажыце, дзядзька.

— Я ж кажу, што гэта доўгая казань. Няхай, можа, другім разам.

— Другім разам вы забудзецеся,— не здаваліся мужчыны.

— Ого, забудуся. Ды гэтага я праз усё жыццё не забудуся.

— На от закуры, Костусь,— працягнуў капшук з мультаном Ігнат,— няхай трохі горла прачысціцца, каб лацвей гаварыць.

Костусь зноў адарваў кавалачак газеты, набраў шчыпоць мультану і згарнуў цыгарку. Разам з пахучым тытунёвым дымам ён як бы і не казаў, а выдыхаў словы:

— Гэта было, можа, калі каторыя з вас яшчэ на свет белы не глядзелі, а каторыя пеша пад стол хадзілі.

— Ты ўжо не вельмі, Костусь, ганарыся, што ты самы старэйшы,— перабіў гаворку Ігнат.— Я не багата за цябе маладзейшы.

— Я ж пра цябе не кажу. Ды ты не перабівай. Сам саб'юся. Дык вось гэта было сама тады, калі паны ўзяліся апалячваць нашых людзей.

— Акалпачваць,— уставіў Антось.

— Гэта ўсё адно — апалячваць ці акалпачваць. Ці пнём аб саву, ці савой аб пень — усё роўна саве баліць. Сама тады я на аддзел ад бацькі ды ад братоў пайшоў. Цесць, дзякаваць яму, даў у пасаг за Аксінню новы зруб. Я яго абладзіў, абгледзеў, і хата выйшла, як той казаў, сюды глядзі. А сядзібу мне адвялі на самым буі... Не раўнуючы, як тая дуля на талерцы, хата мая стаяла на ўзгорку. Тады яшчэ там, дзе я жыву, самы край вёскі быў... Трэба было думаць, як хлявы паставіць, як і чым абгарадзіцца. Сёе-тое ў мяне было — бацька стары хляўчук аддаў, аполкаў на паркан агораў, жэрдзя, каб гарод выгарадзіць, таксама дастаў. Але бяда, дый годзе, ні адной шулы няма. Хоць бы табе якая дубовая плашка.

— А хіба ў лесе іх не было? — спытаў адзін з будаўнікоў.

— Чаму не было? Лес ад маёй хаты быў рукой падаць. Але ён быў не наскі, а панскі, ягаду ў ім сапчыкнеш ці грыба якога падымеш, дык табе штрафу такога ўпякуць, што год будзеш чухацца. Пан Грымжак не даваў нашаму брату спуску. Не так пан, як падпанкі. Ляснік у яго быў, панок Сурвінта. Той мог з цябе дзесяць скур спусціць,

абы пану дагадзіць. Але, як казаў мой нябожчык бацька, хто ў лесе не ўкрадзе, той не гаспадар.

— Аднаго разу бачыў я, што ў грымжакоўскіх палацах цэлы баль быў... Паноў наз'язджалася, як гругання на падлу. Увесь дзень музыка грымела, аж рэхам аддавалася ў лесе. Бачыў я, што і Сурвінта ля паноў аціраецца, як той сабака з-пад чужога стала косці хапае. Ну, думаю, трасцу вы мяне зловіце, у вас на раніцу галовы будуць як чыгуны.

— Чаму ж вы на той баль не зайшлі? — спытаў са смехам Антось.

— Табе жартачкі. А мне не да жартаў тады было. Шулы во як патрэбны былі,— і дзядзька Костусь, каб паказаць, як сапраўды яму патрэбны былі шулы, правёў рабром далоні па загарэлай шыі.

— Дык я, значыцца, яшчэ ні свет ні зара запрог каня і — у лес. Паехаў не бітай дарогай, а цянькамі. Кругу, праўда, добрага даў, але ехаў так, што ніводнае чужое вока не бачыла. А дубы я ўжо сабе быў аблюбаваў: яны стаялі на самым краі густога-густога, як шчэць, лесу. Я выехаў на груд, распусціў калёсы. Каня не выпрагаў. І давай шастаць пілой. А яна ў мяне была вострая, як агонь. Адзін дуб ужо спляжыўся, ціхенька сабе ўпаў. Абсек голле і пацягнуў у гушчар, каб і знаку не было, што тут дуб стаяў. А пень імхом прыслаў. Два ладныя камлюкі паклаў ужо на роспускі. Каб тое знаццё, дык трэба было з тымі двума бярвеннямі і ехаць, акурат было б чатыры шулы. Дык дзе там — вока ж чалавечае ненажэрнае. Бачу, яшчэ ладнейшы, яшчэ спраўнейшы дуб. Я і таго давай шастаць. А тым часам ужо дзень нахапіўся. Сонца выбліснула. Піла мая не рэжа, а як бы шэпчацца з дубам. Толькі я да палавіны камлюка дапілаваўся, як раптам з гушчара два сабакі. Панскія харты. Сэрца ў мяне ў пяткі. Выхапіў пілу. Хацеў на воз ды ходу. Аж бачу на груду Сурвінта са стрэльбай сунецца.

— Стой! — крычыць.

— Ды стаю. Хіба ж я бягу. Гэтыя ж чэрці горла могуць перагрызці.

— І перагрызуць. І трэба было, каб перагрызлі зладзюгу такому.

Гэтак мы аскірзаемся адзін з адным. Аж бачу, на груд выходзіць цэлая капэла ўвешаных стрэльбамі, патранташамі паноў. Сярод іх і пан Грымжак. Убачыў мяне і да гасцей сваіх:

— Панове, глядзіце, якую мае харты дзічыну ўпалявалі.

Сурвінта бегае вакол паноў, быццам не ведае, што са мной рабіць. Пан Грымжак яму нешта маргнуў, і ён, як зглядзець вокам, пачаў скідаць бярвенне з роспускаў. Браў, браў, крактаў, крактаў і ніяк не мог даць рады... А я сабе стаю, як збоку прыпёку, гляджу, што будзе, нібыта то і воз не мой, і я ні ў чым невінаваты. Тады Сурвінта ўжо як бы і не злосна да мяне:

— Ды дапамажы ты, галган...

А я сабе думаю: «Скідай адзін, хоць ты кілу нарві, ліха з табой, не гэтак бегаць будзеш за людзьмі»,— і не з месца. Толькі тады, як пан крыкнуў ужо: «Пся крэў, руш да возу!» — я падышоў і памог Сурвінту скінуць тыя два камлюкі. Зачапіў за перадок шворнам воз, паклаў трайню, пілу і сякеру на воз і чакаю, што будзе далей. А Сурвінта шась за маю пілу і сякеру і камандуе:

— Едзь за панам, галган...

Я паехаў. Бачу, на дарозе брычка панская стаіць, цугам, аж трыма стаеннікамі запрэжаная. Сурвінта паклаў у перадок брычкі пілу з сякерай. Паны паселі на сядзенне, а Сурвінта на мой воз мосціцца. Гэта, мусіць, каб я не адстаў ад паноў. От гэтак і паехалі дарогай на фальварак. А пілы мне шкада было: новая яна тады была, вострая, як агонь. Сякера — дык ліха з ёй. Сякера — тупіца. Дый дома яшчэ другая была.

Еду за панамі і не ведаю, што са мной будзе: можа, у астрог засадзяць, а можа, і перніка дадуць. Перніка-то, канечне, не дадуць — дулю пакажуць. Абы толькі ў астрог не засадзілі. Ды вельмі ж і пілы шкада. А ад іх ніяк не выкруціцца. Еду я і гэтак думаю: «Няхай што будзе, тое і будзе...» Аж раптам цераз дарогу нейкі звяруга... Можа, рысь якая, а можа, воўк? Паны пасаскоквалі з брычкі.

— Цюга, цюга! — закрычалі на ўвесь лес.

Мой сядок таксама не ўседзеў — рынуўся за панамі. Страляніны такой нарабілі, што нібыта яны вайну з немцамі пачалі. Тады я хуценька да панскай брычкі, схапіў сваю пілу і па кані. Ну, думаю, от і выратаваўся. Аж дзе там...

— А што, зноў злавілі? — спытаў Антось.

— Трасцу яны злавілі... Але на трэці дзень прыходзіць да мяне солтыс і кажа: «Костусь, пробашч цябе патрабуе».

Думаю, што я яму, таму пробашчу, вінен? Але калі

патрабуе, трэба ісці, бо яны — паны і падпанкі, паліцыянты і ксяндзы — усе з аднаго цеста спечаныя.

Аж у свае пакоі дапусціў мяне. Сядзіць за сталом. Галава лысая, як калена. А на самай бліскучай макаўцы вялізная чорная муха паўзе. А ён нібы і не чуе, што яна там поўзае. Значыць, скура тоўстая, як на юхтовых ботах.

— Я да вас, пане ксёнжа,— даю аб сабе знаць, цалюючы гаварыць па-польску.

— Сядай, сядай!

Доўга маўчыць, нешта думае, перабірае ружанцы... А потым кажа такое, што ў мяне аж вочы на лоб лезуць. Маўляў, што я ледзь не дзяржаўны злачынца... І толькі ўсю тую маю «віну» можна выкупіць, калі стаць каталікам. Я ж казаў, што гэта было акурат тады, калі паны ўсіх нас, беларусаў, у палякаў хацелі перавярнуць. А інакш не мінаваць табе картуз-бярозаўскай кашы. Колькі разоў цягалі мяне ў паліцыю, да ксяндза. І ўсё аднаго дамагаліся, каб я, канечне, каталікам стаў.

— Дык вы і не ўтрымаліся? — перабіў Костуся нехта з мужчын.

— А чаго там утрымацца: лепш адзін раз стукнуць ілбом у касцельную падлогу, чым гадамі ляскаць рэбрамі на картуз-бярозаўскіх нарах.

Гэтак я і стаў праз гэтую вось пілу каталікам.

Ды я яе таксама выхрысціў.

— Як гэта?

— Гэта, браткі, іншая казань.

— Якая казань?

— А от якая. Як сапраўдны каталік, я кожны раз да касцёла хадзіў на малебствы. Кантычкі займеў, хоць і глядзеў на іх, як баран на новыя вароты. Аднаго разу думаю: як жа гэта мая піла, праз якую я каталікам стаў, нехрышчоная. Увечары малебства было нейкае важнае. Я гэтак, не апранаючыся ў святочнае, нібы я толькі што з работы, узяўшы ў рукі пілу, падаўся ў клябанію. На мяне там паглядзелі, як на нейкага дзівака прыдуркаватага. А я сабе, не зважаючы ні на што, прайшоў бліжэй да амбона, праціснуўся на лаўку і сеў, паставіўшы пілу пры боку. На хорах гарланіў арган і заходзіліся пеўчыя. А я, разгарнуўшы кантычку, мармытаў сабе пад нос тое, што траплялася мне на язык. Раптам усё змоўкла: арган і пеўчыя. Пробашч падняўся па прыступках на бакавы амбон. Лысіна яго блішчала пры святле свечак. Я прыглядаўся, ці няма на лысіне той мухі, якую я тады бачыў.

Ксёндз пачаў казань. Усе сціхлі, прыніклі. Гэтак колькі хвілін стаяла маўклівасць. Ксёндз вымавіў:

— Аман!

І ўсе між лавак укленчылі. Я таксама. А мая піла, якая стаяла пры боку, прыхіненая да лаўкі, таксама, мусіць, хочучы ўкленчыць, бразнулася на далоўку і гэтакага звону нарабіла, што ўсе аж паўсхопліваліся. Мусіць, перапалохаліся. Я тады хуценька схапіў яе ды айда з касцёла, далей ад граху. От як яно, браткі, было. Так што піла мая таксама каталічка. Вось мне яна цяпер дома і спатрэбілася.

— Навошта гэта? — спытаў Антось.

— Маўчы ты... Гэта ж надоечы ўвечары прыходзіць бугэты, ужо цяперашні ксёндз, дый кажа: «Вялікі грэх дзе табе, Костусь, ад бога». Завошта? — пытаю. «А за тое,— кажа,— што ты выракся веры. Табе ж,— кажа,— як католіку трэба не толькі самому маліцца, а і другіх настаўляць».

— На што настаўляць? — спытаў Ігнат.

— А ліха яго ведае. Можа, на тое, каб і цябе, скажам, зрабіць каталікам.

— Ну, на мне то ён не вельмі паедзе. Дзе сядзе, там і злезе.

— Ды і на мне не вельмі акрэпіцца,— апраўдваўся Костусь.

— Як не вельмі? Ты ж яму не паказаў, дзе бог, а дзе парог?

— Ён яшчэ сёння ўвечары меўся прыйсці, дык я яму і пакажу. Як толькі ён на мой парог, дык я за пілу, як за піроґ, і да яго: «Маўляў, пан пробашч, вось яна ваша парафіянка, бярыце, няхай яна вам і кленчыць, а я цяпер недурны. Цяпер не той свет настаў, каб вы людзям галовы чмурылі. Бяры сваю пілу каталіцкую і вон з хаты»,— вось што я яму скажу,— выгукнуў Костусь.— Піла ўжо ўсё роўна нікуды не варта, як ты кажаш, змылак. Няхай бярэ яе ў каталіцтва, ліха з ёй.

[1959]

# ПАД АДНЫМ ШЫНЯЛЁМ

Салдат быў стомлены. Стомлены вайной, заўсёдным страхам смерці. Як сувязіст, ён кожны раз павінен быў знаходзіцца там, дзе асабліва лютавала смерць. За тры месяцы, якія іх рота знаходзіцца на перадавой, радавому Пракапчуку не раз даводзілася быць з вока на вока з кашчавай старой. Узаранае і выпаленае снарадамі і мінамі поле вайны мела зладвесна жахлівы выгляд. Калі вайна недзе таілася ў зямлі — у акопах і бліндажах — гэтае поле здавалася неабжытай, не ходжанай чалавекам пустэльняй. Але як толькі прачынаўся, нібы пасля доўгага сну, бой,— яно стагнала, енчыла, калацілася. З ім калаціліся і людзі, якія прыпадалі да зямлі, як да паратунку.

Радавы Пракапчук ужо колькі разоў быў на валаску ад смерці. І дзіва-дзіўнае — ён не баяўся яе. Аднаго разу салдату трэба было працягнуць сувязь да КП камандзіра палка. Заданне было адказнае, і з Пракапчуком пайшоў лейтэнант — камандзір узвода. Калі ўжо сувязісты вылезлі з траншэі і працягнулі провад праз прагалак да бліндажа, застагнала зямля ад выбухаў снарадаў, заскуголілі міны. Адна з іх пляснулася непадалёку ад таго месца, дзе ляжалі Пракапчук з лейтэнантам. Агнём паласнула ў вочы. Пракапчук нават абмацаў сябе: ці жывы... Ён быў жывы... А от лейтэнант, які ўпаў ніцма на зямлю, не падняўся з яе. Нават не войкнуў. Пракапчук думаў: з лейтэнантам што-небудзь здарылася з перапуду, бо нідзе не было відаць ні крыві, нічога. Паспрабаваў будзіць, падымаць чалавека, але ніякіх адзнак жыцця не заўважыў. Тады ён пашукаў, дзе ж тая рана, і знайшоў пад шынялём, якраз ля левага саска грудзей, маленькую, як бы прапечаную чым гарачым, дзірачку. З яе нават кроў не ішла, а чалавек быў нежывы. Пракапчук зняў шапку, пастаяў на каленях, развітваючыся са сваім камандзірам, прыкрыў цела шынялём і папоўз далей з катушкай проваду. Як бы там ні было, а сувязь камандзіру палка трэба было наладзіць. Ён ведаў, што такое сувязь,— гэта, можа, палавіна, калі не ўвесь поспех бою. А бой меўся быць зацяты. Гэта, можа; фашысты пранюхалі, што нашы збіраюцца наступаць на вышыню 145, дык загадзя агнявым налётам, які толькі што скончыўся, хацелі папярэдзіць удар. Праз гадзіну якую провад быў дацягнуты да палкавога КП. Пракапчук ад стомленасці, ад перажытага ледзь не зваліўся на парозе бліндажа. Але трэба было яшчэ паспрабаваць, ці працуе

лінія. Пачаў круціць ручку апарата, аднак ніводнай адзнакі таго, што там, на другім канцы правадў, ёсць жывыя людзі, якія з табою могуць гаварыць, могуць цябе слухаць. Яны як бы вымерлі ўсе там. Камандзір палка зірнуў на сувязіста пахмурным, як гэты асенні дзень, позіркам і сказаў:

— Сувязь павінна быць неадкладна.

У Пракапчука ўсё дваілася ў вачах, усё мітусілася ў галаве. Ён хацеў далажыць падпалкоўніку, што па дарозе загінуў лейтэнант, але сам сабе падумаў: «Навошта, хіба мала тут людзей гіне»,— і па-салдацку коратка і выразна адказаў:

— Ёсць даць сувязь.

Поўз, трымаючыся рукой за провад, прыпадаючы да зямлі, шукаючы абрыву. Не адчуваў ні стомы, ні біцця сэрца, увесь быў лёгкі і пругкі, як спружына... Уласна кажучы, яго самога быццам і не было, быў нейкі механізм, які завялі, каб ён поўз і шукаў таго абрыву. Бо каб гэта ён сам быў, дык ён бы і пра што-небудзь думаў, чаго-небудзь баяўся, а то ж нічога: перад вачыма толькі было поле, ускапанае вайной, была расквашаная асенняй слатой зямля, і ён пластаваў па ёй. А бой вось-вось павінен быў грымнуць. Можа, ён і не пачынаўся толькі таму, што Пракапчук не мог знайсці абрыву і камандзіру палка не было як перадаць каманды. А ўжо світала, ужо бралася на дзень, хоць у такую пару і цяжка было адрозніць, дзе канчаецца ноч і пачынаецца дзень. Пракапчук дапоўз да неглыбокай, відаць, ад міны, варонкі. Яна яшчэ была цёплая. Дно яе курылася смуродлівым дымам. Тулава яго было ўжо на адным краі варонкі, а ногі — на другім, і тут рукі намацалі абрыў. Хацеў злучыць, звязаць провад, але рукі неяк не слухаліся... Яны адзеравянелі... Пачалося такое, чаго даўно не бачылі на гэтым зацішным участку абароны. Зямля і неба, здавалася, скалануліся ад выбухаў. Пракапчук толькі паспеў схапіць у зубы абодва канцы праваду, як поблізу ад яго нешта нема вухнула, страсянула, нібы схапіўшы загрудкі зямлю, і яна застагнала. Пракапчук таксама застагнаў і як праваліўся скрозь зямлю. Ён не чуў і не бачыў ні вогненнага феерверку, ні пякельнага зарыва выбухаў, ні стракатання кулямётаў, ні скуголення мін, ні салдацкага наступальнага «ўра». Ён ляжаў ніцма ў неглыбокай варонцы з заціснутымі ў зубах канцамі праваду... Праз яго цела, праз яго мозг ішлі тыя каманды, якія ўзнялі ўсю гэтую калатнечу на нядаўна яшчэ

ціхай і нібы вымерлай зямлі. Апрытомнеў толькі тады, калі другія, гэтакія ж, як ён, сувязісты, вырвалі з яго зубоў канцы праваду, каб пацягнуць яго далей, туды, куды магутна пакрочыў у наступ нястрымны, ненажэрны бой... Апрытомнеў і спытаў:

— Хто гэта?

Хапіўся за аўтамат, каб страляць у тых, хто адабраў ад яго провад, але разгледзеў: гэта былі свае, салдаты з аднае роты, і ніяк не мог даўмецца, што з ім сталася. Салдаты нешта варушылі губамі, але ён нічога не чуў і думаў сабе: «От, дзівакі нейкія, не могуць па-людску сказаць слова».

Майстравалі ўжо насілкі, каб аднесці Пракапчука туды, куды зносілі ўсіх параненых, але нечакана ён стаў на ногі. Пахістаўся, як п'яны. Галава шумела, кружылася, нешта быццам маленькім малаточкам стукала ў скроні, і гэты стук аддаваўся болем ва ўсім целе. Паспрабаваў ісці сам, шукаць свае роты, але ногі падломваліся. Нейкія вельмі цяжкія, як алавяныя, былі яны. Пайшоў толькі тады, калі два салдаты-санітары ўзялі пад рукі і павялі, як на пагулянцы. Павялі не ў роту, а ў палявы шпіталь, які знаходзіўся не вельмі далёка на ўзлессі. Толькі тыдні праз два Пракапчук прыйшоў да ладу. Пачаў чуць цяпер ужо далёкія грымоты бою, чалавечую гаворку. Адно яшчэ балела, шумела галава, хоць у скроні ўжо не стукалі тыя надакучлівыя малаточкі.

Калі Пракапчук выпісаўся са шпіталя, яму нядоўга давялося шукаць роты. Заняўшы вышыню 145, нашы войскі акапаліся. Цяпер зрэдку толькі былі перастрэлкі, пошукі начных патрулёў. Салдат далажыў аб сваім вяртанні ў строй... Камандзір роты здзівіўся, нібы ён сустрэўся з тым, хто вярнуўся з таго свету. Адразу ж паведаміў па тэлефоне падпалкоўніку. Той выклікаў Пракапчука да сябе. Салдат ішоў да камандзіра палка і не ведаў, што там будзе. Баяўся, што, можа, чаго нарабіў такога, за што падпалкоўнік будзе прабіраць.

Далажыў, што радавы Пракапчук па загаду прыбыў. Падпалкоўнік павітаўся за руку, усміхнуўся і сказаў:

— Сядайце, таварыш Пракапчук. Вам, мусіць, цяжка яшчэ стаяць.

— Нічога, ужо ногі трымаюць,— асмялеў салдат, бачачы, што ніякага наганяю не будзе.

А падпалкоўнік гаварыў:

— За ўзорнае выкананне баявога задання камандзір

дывізіі вас ўзнагародзіў ордэнам Вялікай Айчыннай вайны.

— Служу Савецкаму Саюзу! — падхапіўся на ногі Пракапчук.

— Сядайце, сядайце,— ласкава стрымліваў Пракапчука падпалкоўнік.— Вы, мусіць, з Беларусі?

— Так точна, таварыш падпалкоўнік,— зноў усхопліваўся на ногі Пракапчук.

— Сядайце, сядайце! Даўно вызвалілі вашу мясцовасць?

— Не вельмі даўно.

— Ведаеце, што дома робіцца? Жывыя ўсе?

— Так точна, таварыш падпалкоўнік,— неяк аўтаматычна выпаліў Пракапчук, не ведаючы, для чаго гэта ўсё пытае камандзір палка.— Нядаўна ліст атрымаў з дому. Папалілі толькі гады ўсё, абрабавалі да ніткі.

— Так, так,— у роздуме сказаў падпалкоўнік.— Маіх старых таксама абрабавалі. Можа, хочаце дома пабыць? — нечакана для Пракапчука спытаў падпалкоўнік.

— Так точна, таварыш падпалкоўнік.

— Ды што вы ўсё «так точна»? Хочаце пабачыцца з бацькамі?

— Хачу, таварыш падпалкоўнік. Вельмі хачу...

Да таго часу, пакуль Пракапчук не ўзваліў на плечы рэчавы мяшок з правіянтам на дарогу і не выйшаў туды, дзе ўжо не так шалела вайна, ён не верыў, што пабудзе дома, пабачыцца са сваімі. Наогул яму часам здавалася, што ўжо няма нідзе на свеце ні таго дому, ні тых блізкіх і родных людзей, з якімі жыў з маленства. Здавалася, што цяпер ужо на ўвесь век толькі і будзе перад вачыма гэтае спуставанае поле вайны. Пракапчук ніяк не мог прыйсці ў нармальны чалавечы стан. Выняў з кішэні гімнасцёркі ліст-трохкутнічак. З тыдзень таму назад ён атрымаў яго з дому. Бацькі не скардзіліся ні на што. Яны, відаць, перажылі такое страшэннае, што цяперашняе жыццё ў зямлянцы здавалася ім раем. Адно паведамлялі, што яго, Пракапчукову, нарачоную Змітракову Зоську яшчэ ў залеташнім годзе фашысты звезлі некуды ў Германію і што адтуль пра яе ніякае, хоць маленькае, чуткі няма... Там, на перадавой, усё гэта неяк адыходзіла з думак, а тут, на хлюпкай асенняй дарозе, усё яно прыхлынула ў думкі. Пракапчуку ўспомнілася, як яны з Зосяй мілаваліся. Яна казала яму:

— Я цябе, Хведзя, ніколі, ніколі не разлюблю. Ніщто нас не разлучыць, хіба толькі адна зямля.

І Зосін голас, пявучы, ласкавы, якім, здавалася, можна ўшчуваць боль, лячыць раны, зазвінеў у глухаватых яшчэ Пракапчуковых вушах. Ён нічога не чуў, акрамя хлюпання пад нагамі асенняй густой гразі, якая спыніла на дарозе машыны; апрача немага ўздыхання вайны, якая адыходзіла ўсё далей і далей па меры таго, як Пракапчук адыходзіў ад яе. Не чуў таго і голасу, але ён звінеў, пераліваўся цяплом і ласкай у салдатавых думках. Пракапчук прыспешваў хаду. Здавалася, як толькі ён прыйдзе ў свае Даўляды — гэтак звалася яго вёска,— дык усё вернецца назад; усё тое, што з самага дзяцінства носіць ён у сабе, як чалавечы скарб-набытак. Вернецца і тая школа, у якой яны разам з Зосяй вучыліся, вернецца і тая ліпа з буславым гняздом, пад якой яны не адзін вечар прасядзелі, часам нават моўчкі. Ім не было патрэбы гаварыць; яны адчувалі адно аднаго, і ў гэтым адчуванні, больш чым у словах, была радасць блізкасці, была нязгаснасць пачуццяў.

Пракапчук ідзе па абочыне гасцінца, які вядзе да чыгуначнай станцыі. Сцежка пад нагамі цвердаватая, а вось пасярэдзіне, там, дзе ходзяць машыны,— пекла-пеклам, каб мо стаў туды, дык і ног бы не выцягнуў. У другі час салдат не ішоў бы пеша, яго б падвезла спадарожная машына. А цяпер гасцінец як вымер. Зрэдку толькі па ім крочаць салдаты-пешаходы. Ужо і змярканне падкрадаецца з-за лесу, які падступае да гасцінца са сваім таямнічым і сумным асеннім шумам. Пракапчук шырыць крок, каб хоць завідна дабрацца да станцыі. А там, можа, трапіцца які поезд, дык заўтра к вечару мо і дома будзе. Ён ужо думкай дома, думкай з Зосяй. Яму ніяк не верыцца, што яе няма ў Даўлядах. Дастае з гімнасцёрачнай кішэнькі пісьмо-трохкутнік і зноў чытае, ужо каторы раз па памяці: «Змітракову Зоську яшчэ ў залеташнім годзе фашысты звезлі некуды ў Германію». І ўжо нельга не даць веры, нельга думаць, што гэта прытрызнілася табе... Салдат запавольвае крок, і яго жаданне двоіцца: адно — хутчэй дадому, дадому; другое — вярнуцца туды, дзе бой, і прабівацца з аўтаматам праз пякельны агонь вайны туды, у Германію, дзе Зося. Можа, яна яшчэ жывая, можа, яна напрамілы бог просіць, каб ён хутчэй ішоў да яе. А можа, яе зусім ужо няма? Хіба ж мала цяпер зямля — і наша, і

чужая — усмактала ў сябе чалавечай крыві?.. Але ён ідзе, не бачачы перад сабой нічога, апрача аднае сцежкі.

З-за густога хвойніку нечакана, неспадзявана паказалася станцыя. А можа, гэта была і не станцыя: толькі чхалі белай парай паравозы, грукалі на стыках колы вагонаў, падслепавата мігалі семафоры. А станцыі такой, як уяўляў сабе Пракапчук, не было. Праз дашчаны пераезд перайшоў рэйкі і ўбачыў прыземісты, як бы прыплюснуты да зямлі барак. З расчыненых дзвярэй валіла пара і чулася людская гамана. Увайшоў туды і Пракапчук. У бараку, як у цвілым падзямеллі, пахла людскім потам, салдацкімі анучамі і яшчэ хто яго ведае чым. Увайшоўшаму са свежага паветра цяжка было дыхаць, цяжка было штонебудзь разгледзець у гэтай чалавечай гушчыні. У правым кутку пад самай столлю калаціўся дрыготкі язычок агню зробленай з дробнакаліберната снарада газоўкі... Ён то ўспыхваў, то выхопліваў з цемры твары людзей, то зусім занепадаў, і густая цемра, здавалася, аж калацілася ад людскога гоману. Пракапчук сослепу прабіваўся ў тоўшчы людзей. Ён нічога не мог ні разгледзець, ні пачуць. Адно ведаў, што гэты барак поўны гэтакім жа, як ён, шэрапынельным людам. Прабіўся ў самы куток, скінуў з плячэй рэчавы мяшок і ўздыхнуў з палёгкай. Ушыўся ў гурт людзей, каб што-небудзь пачуць пра поезд. Але нічога пэўнага не ўведаў: адны казалі, што сёння яшчэ будзе поезд у той бок, куды трэба было ехаць Пракапчуку. Другія, менш аптымістычныя людзі, даводзілі, што не раней, як заўтра раніцай, а, можа, нават і пад вечар заўтра будзе поезд. Хадзіла чутка, што недзе «юнкерсы» разбамбілі пуць і немаведама калі яго папpавяць. Пракапчук пераканаўся, што ні адны, ні другія нічога пэўнага не ведаюць, а кожны гаворыць і сцвярджае так, як яму хочацца. Хацеў ужо ісці шукаць якога дзяжурнага па станцыі ці камендата і даведацца як мае быць, а потым ужо вызначыць, што рабіць, як раптам непадалёк ад яго пачуўся жаночы голас:

— Таварыш дзяжурны, ці будзе сёння на Мінск поезд, ці не? — дапытвалася жанчына.

Пачуўшы жаночы голас, Пракапчук аж здрыгануўся: Зосьчын голас. Ён хуценька пачаў рукамі ў цемры пракладваць сабе дарогу між людской гушчыні да таго голасу. Чуліся ўедлівыя, узлаваныя словы:

— Куды цябе нясе як апантанага? Чаму табе не сядзіцца? Людзям ногі адтоптваеш.

Але Пракапчук быццам нічога гэтага і не чуў, ён ішоў на родны, гэткі блізкі і дарагі голас... Сустрэўся амаль усутыч з жанчынай і ледзь не крыкнуў:

— Зося, любая, гэта ты?

— Якая вам Зося? Я не Зося, а Марына,— азвалася на Пракапчукоў покліч жанчына.

— Адкуль жа вы? — ужо не ведаючы, што яму рабіць, што пытаць, запытаў Пракапчук.

— З Беларусі.

— Я таксама з Беларусі... Дык хадземце туды, дзе мае рэчы. Хадземце, раскажыце мне ўсё, усё...

— Што я вам буду расказваць, навошта я вам буду расказваць? Мне няма часу. Трэба дапытвацца ды ехаць хутчэй дадому.

— Мне таксама трэба, разам паедзем,— цягнучы за рукаў Марыну да свайго месца, гаварыў Пракапчук. Яму ўсё яшчэ не верылася, што гэта не Зося. Не можа быць. Голас жа яе. Можа, яна з якое-небудзь прычыны не хоча прызнавацца. Каб хоць святло было, а то ж зусім патухла, і хоць вока выкалі — нічога не ўбачыш.

Жанчына не вельмі супраціўлялася, яна праціскалася следам за Пракапчуком туды, куды ён яе вёў.

Яны сяк-так паселі проста на падлозе, там, дзе ляжаў рэчавы мяшок Пракапчука. Ён усё не верыў, што гэта не Зося: абмацваў рукамі яе ватоўку, як бы знячэўку дакрануўся да галавы. Ён бы пазнаў нават дотыкам рукі Зосіны валасы, але на жанчыне была хустка.

Марына не магла даўмецца, чаго хоча ад яе гэты салдат. У яе была адна думка, адна надзея, што ён таксама з Беларусі і разам з ім лягчэй будзе сесці на поезд, лягчэй дабрацца да Мінска.

— Дык, можа, ты есці хочаш? Можа, ты галодная? — дапытваўся Пракапчук.

Марына не ведала, што адказаць: як жа гэта чужому чалавеку адразу сказаць, што яна хоча есці, папрасіць у яго. І замест таго, каб прызнацца, што ў яе роце амаль двое сутак і макавага зярнятка не было, Марына пачала расказваць доўгую гісторыю пра тое, як яе забралі фашысты, як кінулі за калючы дрот і каб мо не падаспела Савецкая Армія, дык наўрад ці вытрымала б яна голад, холад, здзекі і катаванні. Пракапчук у цемрадзі не бачыў слёз на вачах жанчыны, але адчуваў, што яны, гарачыя, пякучыя, дрыжаць недзе ў куточках глыбокіх і сумных ад знясілення вачэй. Як бы незнарок ён правёў рукою па

Марыніным твары, і гаручая сляза апякла яе. Тады салдат, быццам спахапіўшыся, штосьці ўспомніўшы, аж крыкнуў сам сабе:

— Дык чаго ж я, дурны сяджу, дык чаго ж я слухаю?

Марына не магла зразумець: завошта сябе ўпікае чалавек? Можа, яму куды хутка трэба бегчы, спяшацца, а яна тут яму гора сваё слязьмі вылівае?

— Ідзіце, куды вам трэба, я ж не трымаю вас,— сказала яна.

— Нікуды мне не трэба. Я сяджу, як дурны, слухаю.

Пракапчук пачаў корпацца ля свайго рэчавага мяшка, а праз момант ужо працягваў Марыне сухар і скрылёк сала.

— Дзякую. Нашто гэта вы, вам жа мо самім трэба на дарогу?.. Дарога ж немалая...

— Няма чаго дзякаваць, бярыце вунь... Трэба дзе якога вару знайсці ды чайку выпіць.

Марына адгаварыла Пракапчука шукаць вару, бо ўсё адно нідзе не знойдзе. Яна ў душы, мусіць, баялася, каб гэты добры чалавек не адбіўся ад яе, усё ж такі свой, з аднаго краю. Яна ўсё яшчэ бавілася, не брала пачастунку, хоць самой хацелася есці немаведама як.

— Вы ж самі галодны будзеце, дзе ж вы ў дарозе возьмеце?

— Ешце, не буду галодны. У мяне атэстат ёсць.

Марына ўзяла... Яна старалася есці так, каб не паказаць галоднай прагавітасці. Сухар паціхеньку хрумсцеў на зубах. Гэта Пракапчук чуў. А каб ён бачыў Марыніны вочы, ён заўважыў бы ў іх слязу і бляск радасці, што вось нарэшце чалавеку пашанцавала пад'есці.

— Дык вы б самі елі. Чаму ж вы не ясце?

— Нічога, я не галодны, я нядаўна еў,— хлусіў Пракапчук, бо ў яго таксама з таго часу, як выправіўся ў дарогу, нічога не было ў роце.

Марына ела доўга і са смакам. Пракапчук дастаў яшчэ бляшанку кансерваў, і тых не стала. Пракапчук не шкадаваў прыпасаў: калі што, дык ён і так даедзе дадому, салдату не прывыкаць. Цешыла думка, што калі ён і не Зосю накарміў, дык гэткую ж, як яна.

Тым часам жанчына пад'ела, і ці то ад перажытага ўзрушэння, ці ад чалавечай стомленасці, яна, як нежывая, павалілася на Пракапчукоў рэчавы мяшок і заснула. Ён не ведаў, што з ёй рабіць. А што калі зараз аб'явяць, што ідзе поезд у бок Мінска, дык ці дабудзіцца ён яе? Аднак

яго сумненне, трывогу развеяў глухі, нібы сонны, голас дзяжурнага па вакзалу:

— Грамадзяне, поезд на Мінск будзе толькі заўтра раніцай.

Пракапчука самога хіліла да сну: як-ніяк давала сябе знаць здарожанасць. Усе, хто быў у гэтай цёмнай стадоле-бараку, пераважна вайскоўцы, пачалі шукаць, дзе б прылегчы. Салдацкі сон усюды салодкі. Пракапчук пачаў прыдумваць, як і дзе легчы. Падлога ўжо ўся была занята людзьмі. Была яшчэ сякая-такая прагаліна там, дзе сядзеў Пракапчук. Але ж тут спала жанчына... Яна кідалася, мармытала, кагосьці праклінала, да кагосьці хінулася ў сне. Пракапчук не ведаў, што рабіць. Ён спрабаваў супакоіць жанчыну сваімі няўмелымі салдацкімі пяшчотамі, гладзіў яе твар, ціхенька паводзіў агрубелымі пальцамі па брывах. Яна нічым не адказвала. Потым пачала зябка курчыцца, шукаючы чалавечага цяпла. І тады Пракапчук скінуў шынель, распрастаў яго і накрыў жанчыну. Праз колькі часу ён адчуў, як за каўнер гімнасцёркі прабіраліся дрыжыкі. Нядоўга думаючы, каб уратавацца ад холаду, Пракапчук выцягнуўся і лёг побач з жанчынай.

Ноч была доўгая-доўгая. За сценамі барака яна хлюпала асенняй імжакай. Нельга было ніяк сагрэцца ў адной гімнасцёрцы, і Пракапчук вымушаны быў хінуцца да жанчыны, пад свой шынель. Пачало віднець, і толькі тады, змораны бессанню і думкамі, Пракапчук заснуў. Яму снілася тая варонка, у якой ён страціў прытомнасць, снілася Зося, якая нібыта знайшла яго і абудзіла ад беспрытомнасці. Якраз у гэты момант нехта ласкавымі штуршкамі пачаў будзіць яго:

— Уставайце, уставайце. Ужо поезд прыйшоў.

Зосін голас. Адкуль гэта ён? Пракапчук прахапіўся. Поруч з ім сядзела ў сіняй пашарпанай ватоўцы сярэдніх год жанчына. Твар яе быў спаласаваны зморшчкамі, вочы ўваліліся, пад імі сінюга. Жанчына была знясіленая, спакутаваная. Сама яна і па гадах і па ўсім вельмі падобна на цётку Гарпіну — малодшую матчыну сястру...

— Хуценька збірайцеся ды паедзем. Вунь і поезд стаіць. Паравоз прычапілі.

Пракапчук прыслухаўся — сапраўды, за сценамі барака чмыхаў, нібы цяжка адсопваючыся, паравоз. Ускочыў на ногі, схапіў развязаны рэчавы мяшок і пабег. Жанчына за ім. Дабегшы да вагона-цяплушкі, ён падсадзіў жан-

чыну. А сам стаў у нерашучасці, не ведаючы, што рабіць. Ужо гукнуў адпраўленне паравоз, а ён усё стаяў.

— Хуценька сядайце,— прасіла жанчына, працягваючы з дзвярэй вагона рукі, нібы хочучы падхапіць імі і пасадзіць салдата, як малое дзіця. Пракапчук, спяшаючыся, шарыў рукамі ў рэчавым мяшку. Ён дастаў увесь свой запас сухароў, бляшанку кансерваў і ўжо на хаду, бегучы за вагонам, падаў усё гэта жанчыне:

— Наце вам на дарогу...

...А праз хвілін дзесяць Пракапчук ішоў па тым жа гасцінцы, па якім ён прыйшоў учора сюды... Перад вачыма ў яго стаяла Зося ў сіняй пашарпанай ватоўцы за калючым дротам. Салдат вяртаўся ў сваю часць з той рашучасцю, перад якой не магло ўстаяць нішто.

1956

# ПА СЦЕЖКАХ МАЛАДОСЦІ

Пятро злез з цягніка на світанні на маленькай чыгуначнай станцыі. Людзей там амаль не было. Пахаджвала толькі адна дзяўчына ў адзенні чыгуначніцы. Ёй, мабыць, сумна было ў гэтай нічым не кранутай цішыні і адзіноце. Яна, прайшоўшыся сюд-туд па вытаптанай каля самай чыгуначнай каляі, аблямаванай зялёнай муравой сцяжынцы, спынілася насупраць дзвярэй прысадзістага муравага будынка станцыі, зірнула цікаўным позіркам на Пятра, на яго павешанае на руку габардзінавае паліто, на невялікі blішчасты карычневы чамадан і, нібы нічым гэтым не ўражаная, пайшла да дзвярэй станцыі. Ужо ўзялася за ручку, каб адчыніць дзверы, як Пятро спытаў:

— Будзьце ласкавы, скажыце, ці бываюць тут машыны на Завідаўку?

Дзяўчына адняла руку ад дзвярэй, адступіла які крок і, можа, таму, што за ўсю гэтую раніцу сустрэўся чалавек, з якім можна перакінуцца словам, ветліва адказала:

— Як калі. Часам калгас прыязджае вось па гэтую соль, — і дзяўчына паказала на бурт мінеральнага ўгнаення, ссыпанага ля станцыйнай паветкі.— Але ўсе гэтыя дні не было ніводнай. Сеяць, мусіць, узяліся, дык няма калі,— выказала сваё меркаванне дзяўчына.

— А як вы думаеце, цераз Гарэлы поплаў можна будзе прайсці? — спытаў Пятро.

Дзяўчына з яшчэ большай цікавасцю зірнула на незнаёмага чалавека, відаць, сумеўшыся: адкуль ён ведае той Гарэлы поплаў.

— А хіба вы тутэйшы, што ведаеце наш Гарэлы поплаў? — замест адказу спытала сама.

— Як вам сказаць — і тутэйшы, і нетутэйшы. Калісьці ў маленстве жыў тут, дык от успамінаю.

— А дзе ж вы жылі?

— У Завідаўцы.

— Дык чаму ж я вас не ведаю?

— А вы самі адкуль будзеце?

— Са Змеяўцоў. Гэта ж цяпер адзін калгас.

— Чыя?

— Усё адно вы, мусіць, не будзеце ведаць,— сказала дзяўчына і засмуцілася. Відаць было, што Пятро гэтым сваім запытаннем уразіў яшчэ незагоеную рану.

— Няма майго таты — загінуў. Каб тата жывы быў, дык хіба...

Дзяўчына недаказала: праз адчыненае акно яе нехта паклікаў, і яна хуценька знікла за дзвярыма. Гаворка Пятра з дзяўчынай абудзіла ў ім жаданне даведацца як мага больш пра родную вёску. Але дзяўчыны ўжо не было, а ён у нерашучасці, як бы не ведаючы, што рабіць, стаяў адзін. Неяк знянацку на ружовы край неба, яшчэ мутнаватага ад начных змрокаў, выкацілася вогненна-чырвонае кола вясновага сонца. І ўсё наваколле: чысты далягляд, што прасціраўся на ўсход ад маленькай станцыі, і хмызнякі, якімі парос край Гарэлага поплава, што з заходу падступаў амаль да самай станцыі,— зазіхацела ў сонечнай пазалоце. Пятро бачыў перад сабой знаёмыя з дзяцінства краявіды, і ні то радасць сустрэчы, ні то смутак успамінаў аж распіралі, вярэдзілі сэрца. Яшчэ хлопчыкам ён не раз быў тут. Праўда, станцыя была тады не такая: драўляны дамок, ашаляваны знадворку, ліпеў тады тут. Уваччу стаіць той звон, што вісеў пры дзвярах з аднаго боку, а з другога — закураны ліхтар з газоўкай. Яны так і ўрэзаліся ў памяць на ўсё жыццё. І цяпер, калі ён злез з цягніка і пабачыў густы штыкетнік, клумбы з кветкамі па абодва бакі дамка, прысады маладых лапушыстых клёнікаў, ён першы момант нават не паверыў, што гэта яго станцыя. Не было ж ні таго звона, ні таго мурзатага ліхтара. А ён іх помніць з таго часу, калі яго бацьку, Якіма, і яшчэ некалькіх гэткіх жа, як ён, сялян гналі паліцыянты на станцыю. Тады яны з маці ішлі назіркам узбоч дарогі, каб іх не бачылі паліцыянты. Маці ўсю дарогу ціхенька галасіла, а калі на змярканні запалілі той ліхтар і падышоў цягнік, паліцыянты ўвапхнулі бацьку ў вагон. Бомкнуў звон, і рушыў цягнік, маці нема закрычала. З тае пары той матчын крык і звон на станцыі, здаецца, і цяпер стаяць увушшу. Пятро тады стаяў, трымаючыся за матчыну спадніцу, і таксама ціхенька галасіў, расціраючы кулаком слёзы. Ён не разумеў тады ўсёй трагедыі. Зразумеў ён ужо праз колькі год, калі прыйшло паведамленне, што бацька яго загінуў у Картуз-Бярозе.

Цяпер усё гэта ўспамінамі нахлынула на чалавека. Бывае ж так, што часам і старая рана, на якую ўжо забыўся чалавек, возьме дый заные. Заныла яна і ў Пятра. Дый не адна...

Вось ён ідзе між чэзлага альшэўніку. Постаць яго пакалыхваецца ў такт хадзе. Адышоўся ўжо мо крокаў з дзвесце, азірнуўся і ўбачыў, што за ім сочыць тая дзяўчына. Ён адчуў сябе нядобра: чаму не пачакаў, яна ж,

відаць, хацела яшчэ пагаварыць. Але вяртацца ўжо не было як, і ён зняў белы саламяны капялюш і памахаў ім на развітанне. Сцяжынка была вузенькая, з абодвух бакоў зарослая густым альшэўнікам. Расхінаючы яго рукамі, Пятро прыспешваў хаду. Але вось і мінуўся альшэўнік: перад вачыма рассцілаўся зялёным прасціradлам Гарэлы поплаў. Чаму яго празвалі гарэлым, гэтага ніхто добра і не ведаў — тарфянікаў тут зусім не было, і поплаў гарэць не мог. На поплаве ўжо густа ўзяўся дзяцельнік ды кудраваты хвошч. Трава тут, як памятае Пятро, радзіла добра. Мурог, сухі і пахучы, як чай, скідалі ў стагі.

Як толькі Пятро выйшаў з альшэўніку, за ім увязалася белагрудая кігаўка. Яна ледзь крыламі не дакраналася капелюша і ўжо не кігікала, а крычала. «Адводзіць ад гнязда»,— падумаў Пятро, і яму, як у маленстве, захацелася абавязкова знайсці тое кігаўчына гняздо. Успомнілася, як яны, хлапчукі, разбрыдуцца, бывала, па поплаве. Кігаўкі аж заходзяцца ад крыку, і ўжо калі каторы знойдзе гняздо, колькі было тае радасці.

— Хлопцы, знайшоў! — закрычыць на ўвесь свет, і хлопцы бягуць да шчасліўчыка. Усе рукамі перамацаюць рабенькія шылаватыя яечкі. Хто-небудзь з зайздрасці скажа, што яны нясвежыя, тады ўсчнуцца спрэчкі. Той, хто знайшоў, аж пнецца, каб давесці, што свежыя. А другія прыводзяць усе доказы, што кігаўка ўжо даўно сядзіць на іх і вось-вось павінны выклюнуцца птушаняты. Канчалася ўсё гэта тым, што гаспадар яечак разбіваў адно і, пераканаўшыся, што свежыя, выпіваў яго, падкрэсліваючы сваю перавагу перад другімі. Астатнія клаў за пазуху, і хлопцы зноў разбрыдаліся па поплаве шукаць тых шчаслівых купінак, на якіх у неглыбокай ямачцы, як у місачцы, ляжаць носікамі адно да аднаго рабенькія шылаватыя кігаўчыны яечкі.

Пятро міжвольна збочыў са сцяжынкі і пайшоў па роснай маладой мураве. Над ім ужо кігікала не адна, а цэлы гурт кігавак. Яны адводзілі ўсё далей і далей ад сцежкі. Пятро зірнуў пад ногі і ўбачыў на маленькай купінцы чатыры яечкі. Ён неяк разгубіўся і аж прысеў на кукішкі. Хацелася памацаць рукамі і пакласці іх за пазуху. А кігаўкі ўжо не кігікалі, а, здавалася, журботліва галасілі. Яму стала іх шкада. Ён з хвіліну пасядзеў над гняздом і, не дакрануўшыся рукамі яечак, устаў і пайшоў на сцежку. Пятру яшчэ жывей прыгадалася дзяцінства. Ён на момант адчуў сябе такім, якім быў гадоў з дваццаць назад...

* * *

Малая Марылька вельмі ж падобна на маці. Валасы ў яе цёмныя, вочы вялікія, круглыя, твар смуглы, нібы яна і ўзімку загарала. Дзяўчынцы ішоў дванаццаты год, а яна вунь якая ўжо: прысадзістая, мажная і з першага погляду можна падумаць, што яна перарасла самую сябе. Смуглы, круглаваты твар, ледзь прыкметны кірпаты нос — надавалі сталасці дзяўчынцы. Радасць апаноўвала Гашу, як зірне на дачку, што яна не падобна на таго няўклюднага, высокага, як жардзіна, Амельку. Нават старыя жанчыны, як стрэнуцца дзе з Марылькай, абавязкова скажуць:

— Глядзі ба ты, вылітая Гаша, і крошкі пабрала.

Але куды тое дзіця дзявалася, сышло недзе і матцы нават слова не сказала.

У Марылькі быў свой дзіцячы клопат: заўтра пачыналіся экзамены ў школе, і яны, усе дзяўчаткі, дамовіліся папрыносіць букеты. Добра тым, у каго пад вокнамі расце бэз, наламаў сабе і анігадкі. А іх жа хата стаіць у самым канцы вёскі, і нават некаторыя завуць яе маці Гаша канцавая. Хата новая, і пры ёй ні садка, ні гародчыка. А ісці да дзеда Архіпа наламаць бэзу Марыльцы не хацелася: яна чамусьці недалюблівала таго дзеда, хоць ён часам і прыносіў ёй сякія-такія гасцінцы. Гэтая нелюбоў ішла, мусіць, ад маці, якая ніколі не хадзіла да дзеда і нават не казала пра яго добрага слова. Марылька вырашыла збегаць употай ад маці, а то яна, можа, яшчэ і не пусціць на Гусіны брод, гэта што на Гарэлым поплаве, нарваць там лотаці. Яна ж там такая лапушыстая, і расце столькі, што за якую паўгадзіны цэлае бярэмя можна нарваць.

Гаша збіралася ўжо ісці на поле. Яна села перад люстэркам, пастаўленым на стол, заплятаць косы. Зірнула на свой твар, і ёй зрабілася балюча за гэтыя вось маршчынкі, што спаласавалі яе лоб, веерчыкамі разбегліся ад вачэй па твары, за тое, што вочы яе, калісьці цёмна-сінія, як у Марылькі, цяпер злінялі, засціліся смуткам. Жанчыне не хацелася старэць ад гора, і яна суцяшалася тым, што ні тых маршчакоў, ні тых рэдкіх сівых валасоў, якія пракідаюцца ў цёмна-каштанавых косах, здалёк не відаць. А хто ж яе зблізку будзе разглядаць?

Гашын одум развеяла Марылька, якая, нібы вясновы вецер, уляцела ў хату. Дзяўчынка засаплася, яна была ўсхваляваная, устрывожаная і ніяк не магла вымавіць слова.

— Мамачка, мамачка! Тата наш ідзе.

— Які тата? — не разумела Гаша.

— Наш. На Гусіным бродзе сама бачыла.

— Ты, мусіць, дачушка, трызніш. Можа, у цябе галоўка баліць? — Гаша памацала рукой Марыльчын лобік, але жары ў ім не адчувалася.

— Тата твой ніколі не прыйдзе. З таго свету людзі не прыходзяць,— упершыню Гаша адкрыта сказала дачцэ пра Марыльчынага бацьку Амельку. Ёй самой ніколі не хацелася ўспамінаць пра яго. І калі Марылька часам дапытвалася, дзе яе тата, Гаша старалася так гаварыць, каб дзіця нічога не зразумела. Навошта раніць чулае дзіцячае сэрца! Цяпер маці, відаць, вырашыла, што дачка дайшла ўжо да таго ўзросту, калі ёй можна і трэба расказаць пра ўсё. Няхай лепш адзін раз боль скалане сэрца, дык затое яно не будзе ўсё жыццё балець ад невядомасці. І Гаша са слязьмі на вачах расказала Марыльцы ўсё пра яе нягодніка бацьку: і тое, што яна яго ніколі не кахала, і як Амелька, якога фашысты паставілі солтысам, здзекаваўся з людзей, выказала сваю крыўду на дзеда Архіпа, які сілком яе вытурыў замуж за Амельку.

Гаша расказвала ўсё гэта дачцэ, а ў самой на душы было балюча, прыкра, нібы яна дакранадася да чаго брыдкага. За гэтыя гады яна пачынала ўжо забывацца на таго Амельку, які, як страшэнны прывід, уварваўся ў яе жыццё. Ёй нават часам здавалася, што Марылька не дачка Амелькі. Асабліва ён спрацівеў Гашы тады, як яна даведалася, што Амелька вывіжоўвае сярод людзей і даносіць фашыстам. Аднаго разу да старой Якімчыхі, Пятровай маці, з лесу прыйшлі партызаны. Хлеба ў іх, мусіць, не было. Дык Амелька, як чорны прывід, туляўся па падваконні, а потым такі матануў у Змеяўцы, дзе стаяў гарнізон, і прывёў немчуру. Праз якую гадзіну Якімчыхіну хату акружылі немцы. Тры партызаны гадзіны дзве адбіваліся з аўтаматаў ад фашыстаў. Двух гадаў такі ўпляжылі. Толькі тады, як немцы падпалілі хату, партызаны пасаскоквалі з гарышча і праз гароды кінуліся ў лес, адстрэльваючыся ад фашыстаў. Кастуся з Марымонавай Рудні напаткала-такі, небараку, нямецкая куля. Старая Якімчыха з галашэннем выбегла на вуліцу. А на другі дзень немцы павесілі яе на пляцы перад школай. Сагналі тады ўсіх завідаўцаў, каб яны пабачылі, як будзе ў пакутах канаць старая Якімчыха.

Канечне, малая Марылька нічога гэтага не ведала. Яе

тады яшчэ і на свеце не было. Не ведала яна і таго, як людзі ўпотай выпялі з пятлі старую жанчыну і пахавалі на могілках побач з забітым партызанам. Была тады на могілках і Гаша. Слёзы душылі яе: надта балюча было глядзець на знявечаны труп жанчыны, якая была ёй як родная маці.

Вярнуўшыся з могілак дахаты, Гаша праз расчыненае акно ўбачыла за сталом бацьку і яшчэ некага. Спішыўшыся каля акна, дзяўчына пачула:

— Дык вы, дзядзька Архіп, цяпер не таго, не бойцеся,— пазнала яна п'яны Амелькаў голас.— Цяпер іхняга котлішча паганага не будзе. Адзін толькі смурод ад яго застаўся, дык і той хутка вецер разгоніць. А мы з вамі, як пасвойтаемся, дык будзем жыць сабе прыпяваючы.

— Дык я ёй, пане-браце Амелька, яшчэ і тады, даўней казаў выкінуць з галавы таго вісельніка Пятра. А яны, як злюбіліся, дык вадой не разальеш, нібы зеллем якім ён прывярнуў яе да сябе. Спрабаваў намочанымі лейцамі хадзіць па яе спіне, дык дзе там.

Гаша чула ўсё гэта і аж калацілася ад злосці. Яна як сама не свая ўляцела ў хату і стала перад сталом, на якім была пляшка гарэлкі і корч зялёнай цыбулі на закусь.

— А вось і мая любая,— з п'янай лагоднасцю выгукнуў Амелька.— Сядай з намі, вып'ем па чарцы.

— Ты ўжо людской крыві напіўся, дык навошта табе тую чарку піць. Гад ты печаны, паслугач нямецкі! — крычала Гаша.

— Ты не вельмі расходзься, а то і сама туды пойдзеш, куды праводзіла Якімчыху,— занадта спакойна, як здалося Гашы, сказаў Амелька.— Пайду ў камендатуру ды заяўлю, што заадно з тым бальшавіком, дык і на цябе вяроўка знойдзецца.

Гашына сэрца сціснулася ад злосці, але яна гэтага не паказала. Дзяўчына вырашыла выведаць, можа, ён што пэўнае знае пра Пятра, бо недарма ж намякае на яго.

— А хіба ён у партызанах? — спытала яна.

— А дзе ж ён можа быць? Калі не тут, дык там дзенебудзь на Усходзе. У такіх, як ён, дарога адна...

— Выкінь ты з галавы таго вісельніка, яго, можа, ужо даўно на свеце няма,— лагодна параіў стары Архіп.

— Каб я ведаў, што ён тут, ды каб трапіўся дзе мне ў рукі, дык я б яго,— і Амелька сціснуў гэтак кулакі, што аж пальцы пасінелі.

— Я ведаю, што ты на гэта здатны.

— А я і на іншае здацен,— і Амелька выскачыў з-за стала, ашчаперыў доўгімі касцістымі рукамі Гашу і пачаў цалаваць. Яна вырывалася, адбівалася. А стары Архіп лыпаў на іх асалавелымі вачыма і прыказваў:

— Цалуйцеся, мілуйцеся, мае дзеткі, як тыя галубкі.

Гаша, нарэшце вырваўшыся з Амелькавых рук, пабегла на гарод да маці.

— Мамачка, родная мая, не аддавайце мяне за гэтага азіята, не губіце маю маладосць, а то я на сябе рукі налажу.

— Ціха, мая донечка, ціха. Няхай людзі не чуюць і не ведаюць нашай бяды. Што ж ты зробіш, калі бацька наважыў? Свет жа цяпер такі стаў, што з чужое волі ўсё робіцца.

— Не пайду я, дый годзе. Лепш на горкай асіне павісну, чым усё жыццё паневярацца з гадам печаным,— ціха прычытала ўжо Гаша.

— Дык як жа той бацька можа цябе не аддаць, калі ён яго вунь як у шоры ўзяў. Немцамі палохае.

— Палохае, палохае! Яшчэ тады, калі немцаў тых і духу не было, бацьку завідкі бралі на тыя дзве валокі зямлі. А мне лепш тры аршыны, чым тыя дзве валокі.

— Свет такі цяпер пайшоў, дачушка, што трэба паневярацца.

Такімі былі Гашыны заручыны з Амелькам. А праз тыдні два адбылося вяселле.

Гаша глядзіць на Марыльку, і ёй успамінаецца, як яе сілком завезлі ў Амелькаву хату. Здаецца, і зараз увушшу стаіць тое Амелькава хрыпенне, калі ён п'яны ў першую шлюбную ноч лёг з ёю спаць у клеці. Яна ніяк не магла заснуць, усю ноч праплакала.

Цяпер усё гэта было далёкім і здавалася няпраўдзівым. Як добра, што Марылька і крошкі не ўзяла ад Амелькі. Яна б была вечным напамінкам яе, Гашынай, ганьбы. Гаша з замілаваннем зірнула на дачушку і ўжо з нейкім гонарам праказала:

— Няма ў цябе, дачушка, таты. Гэта і лепш, што яго няма.

І ва ўяўленні Гашы паўстала карціна: яна з маленькай Марылькай на руках, пасля таго, як у Завідаўку прыйшлі савецкія воіны, пайшла ў лес паглядзець на тое месца, дзе, як казалі людзі, адбыўся бой паміж партызанамі і паліцэйскімі ўцекачамі. Там яна і апазнала Амельку. Ляжаў ён апруцянелы, з раскінутымі рукамі, пасінелы, агідны, як і

ўсё яго жыццё. Гашу павяло ў той лес не пачуццё спагады, жалю,— ёй проста хацелася пераканацца, пабачыць на свае вочы, ці сапраўды Амелька развязаў ёй белы свет.

— Няма ў цябе, дачушка, таты і не будзе,— ужо каторы раз паўтарыла Гаша.

— Мамачка, а чаго ж той дзядзька паглядзеў на мяне і сказаў «дачушка мая»? Якая ж я яму дачушка, калі ты кажаш, што няма ў мяне таты?

— А хто яго ведае, што там за дзядзька. Можа, які п'яны?

— Ды не, мама. Ён не п'яны. Ён вельмі прыстойны, як наш Іван Міхайлавіч,— выказала сваю думку Марылька і заспяшалася ў школу.

— Ідзі хутчэй, а то яшчэ спознішся,— спакойна параіла Гаша, а сама ўсё ж такі думала: «Што ж там за чалавек такі?»

* * *

Як толькі Пятро, зняўшы чаравікі і падкасаўшы калошы штаноў, перайшоў Гусіны брод, ён пабачыў дзяўчынку, якая рвала ў вадзе лотаць. Ён хацеў нешта запытаць, але ўгледзеўся ў твар яе і сумеўся: да чаго ж яна была падобна на Гашу. Дзяўчо, відаць, здзівілася: чаго гэтак чужы, незнаёмы дзядзька глядзіць на яе. Яна нават крыху спалохалася. Але Пятро гаварыў з ёй лагодна, і ў дзяўчынкі адлягло ад сэрца.

— Адкуль жа ты будзеш, дзяўчынка?

— З Завідаўкі.

— Навошта табе гэтых кветак столькі? — запытаў Пятро, хоць і разумеў недарэчнасць свайго запытання. Але Пятру хацелася яшчэ раз пачуць голас дзяўчынкі. Вельмі ж усё ў ёй: і голас, і твар, і пастава — усё гэтак нагадвае Гашу. Ну от вылітая яна, дый годзе. Яму ўспомнілася, як яны з Гашай сядзелі на адной парце ў пачатковай школе. А Марылька бачыла, як у чалавека перасмыкнуўся твар, і яна аж сумелася: хто яго ведае, што сабе чалавек думае. Але тым часам, стараючыся як мага спакайней гаварыць, Марылька адказала:

— У нас сёння экзамены пачынаюцца, дык мы настаўніку свайму, Івану Міхайлавічу, букеты збіраем.

— Добра, добра! Малайцы. Шануеце, відаць, свайго настаўніка?

— А як жа! Ён у нас добры такі.

— А як жа ты вучышся, дачушка мая? — спытаў Пятро.

Марыльку ўразіла гэтае незнаёмае ў мужчынскім вымаўленні слова. Яна нервова перабірала ў руках пук лотаці, апусціла ў зямлю вочы, мусіць, каб не глядзець на чалавека, які без дай прычыны назваў яе «дачушкай».

— А вы, можа, да нас у школу? — спытала Марылька.

— А чыя ж ты будзеш, дачушка? — як бы не хочучы адказваць на Марыльчына запытанне, запытаў Пятро.

— Вы ўсё адно не ведаеце. Удавы Гашы дачка.

Дзяўчынка бачыла, як збялеў твар чалавека, як уся яго постаць сцепанулася, і ён, мусіць, хацеў кінуцца да дзяўчынкі, але яна хуценька адскочыла і, ужо бегучы, крычала:

— Бывайце, дзядзечка, а то я спазнюся на экзамены.

— Пастой крыху, пачакай! — крыкнуў ужо наўздагон Пятро, але ўдалечыні мільгацела толькі ґалоўка ў жоўценькім вяночку з лотаці. А Пятру здавалася, што то ўцякала ягоная маладосць, якую ён сустрэў ненарокам на старых сцежках жыцця. На сэрцы зрабілася горка, і, можа, цяпер ён толькі пашкадаваў, што ў абкоме партыі, калі яму прапанавалі выбіраць, куды паехаць працаваць, ён выбраў сваю родную Завідаўку. Пятро даўно, яшчэ тады, як скончыў сельскагаспадарчую акадэмію, думаў пайсці на «жывую работу», як казалі студэнты. Але пры размеркаванні яму прапанавалі пасаду агранома абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі. Ён, хоць і не з вялікай ахвотай, згадзіўся. Праўда, тыя два гады, праседжаныя за канторскім сталом, нічога яму не далі, акрамя хіба толькі таго, што навучыўся складаць па-майстэрску цыркуляры. Затое цяпер як яго вабіў прастор! Але ці правільна ён зрабіў, што выбраў свой родны калгас: ён жа гэтулькі тут перажыў гора і амаль не памятае радасці. Яе ўсяго толькі і было — у юначых сустрэчах з Гашай. Дык і Гаша ж цяпер — не тая ўжо. Яна, мусіць, і з сэрца выкінула яго. Ён з той пары, як даведаўся, што немцы забілі маці, хоць і цураўся Завідаўкі, але часамі ў сяго-таго распытваў пра ўсіх і асабліва пра Гашу. Бо, як ён ні стараўся, не мог быць абыякавым да яе.

І вось, выйшаўшы цяпер на сцяжынку, Пятро крочыць поплавам на Завідаўку. Вунь ужо відаць і бярозавы гай. У той час, калі ён пакінуў Завідаўку, бярозы былі яшчэ невялікімі, а цяпер дрэвы вунь якія выносістыя. А там,

у іх засені, недзе і матчына магіла. Пра смерць маці Пятру напісаў дзядзька Сцяпан пасля вызвалення Беларусі. Той ліст-трохкутнічак быў поўны гора і пакуты. Тады Пятро і наважыў ніколі не вяртацца ў Завідаўку.

Але вось ён падыходзіць ужо да вёскі. Вунь ужо відаць гумны, гароды.

«Гэтых абор тады не было,— заўважыў сабе Пятро.— Мусіць, калгасныя фермы. А вунь і стары ясакар. За ім — Архіпава хата. Тады яна была нейкая вялікая, а цяпер нібы ўгрузла ў зямлю. Час, як ён усё змяняе!» Пятру здалося, што ён чуе поўныя пяшчоты і замілавання словы: «Петрусёк мой родненькі, на векі вечныя мы будзем разам». Але хто ж прамовіў гэтыя словы? Ды гэта ж яна, Гаша, васемнаццаць гадоў назад сказала іх. Чаго ж яны, як жывыя, цяпер стаяць у вушах? Гэта, можа, той майскі парны вечар вярнуўся, калі Гаша не паскупілася на свой першы, гарачы, як агонь, дзявочы пацалунак?

Не, вечар той не вернецца ніколі, не трэба і думаць пра гэта. Пятро глядзіць на поплаў, на ясакар, і перад вачыма ў яго трапечацца, як жывы, чырвоны сцяг. Тады ў лесе сабраліся маладыя, яшчэ малавопытныя рэвалюцыянеры і вырашылі на злосць паліцыянтам вывесіць на Першае мая чырвоны сцяг. Пятро падахвоціўся зрабіць гэта сам. Ды хіба ён мог не падахвоціцца? Ён глядзеў на чырвоны сцяг, і яму здавалася, што на ім гарыць бацькава кроў. Але ніхто, мабыць, тады з хлопцаў не ведаў, што іх вывіжоўвае Амелька.

А вечар быў той ціхі, парны. У Гусіным бродзе жабы ладзілі свой вясновы канцэрт. Пятро з Гашай хадзілі тады далёка на поплаў. У яго за пазухай быў загорнуты чырвоны сцяг. Гаша такі тады заўважыла незвычайную хлопцаву заклапочанасць.

— Ты нешта сёння як сам не свой, Пятрок,— заўважыла яна.

— Ды што ты, любая! Такі, як і заўсёды,— адказаў Пятро.

Ён па-ранейшаму развітаўся з Гашай, але не стаў яе затрымліваць ля веснічак. Гаша бачыла, Пятрок пайшоў ад яе чамусьці не ў бок сваёй хаты, а зусім у другі.

А назаўтра, як толькі завідаўцы выйшлі выганяць кароў на пашу, яны пабачылі на самай верхавінцы старога дрэва чырвоны сцяг, які біўся, трапятаўся на майскім ветры.

А як толькі добра развіднела, са Змеяўцоў папрыбягалі

паліцыянты. Сам пан начальнік паліцыі прыехаў. Ён загадаў перш за ўсё пазаганяць у хаты завідаўцаў, каб яны не бачылі таго чырвонага сцяга. Калі паліцыянты сышліся ўсе пад ясакар, начальнік звярнуўся да іх:

— Ну хто, паны, з вас асмеліцца палезці і зняць крамолу?

Смельчакоў не знайшлося. Паліцыянты пазіралі адзін на аднаго, і ніхто не выказаў жадання выконваць начальнікаву просьбу. А той ужо добра такі ўзлаваўся на служак Рэчы Паспалітай і, мабыць, прыняў бы рашучыя меры да іх, калі б не падбег Амелька. Уся яго постаць выказвала пакору і гатоўнасць служыць пану.

— Я, паночку, здыму гэтую крамолу.

Пан начальнік зірнуў на яго, змераў позіркам з ног да галавы і, хоць злосць яшчэ не адлегла ад сэрца, выгукнуў:

— Малайчына! — і да паліцыянтаў: — Вучыцеся, як трэба служыць Рэчы Паспалітай!

Тыя вінавата перакідваліся позіркамі, як бы дакараючы адзін аднаго. А Амелька ўжо шнураваў каленямі па тоўстым камлі ясакара, чапляючыся рукамі за шурпатую кару. Далез да развілак, пасядзеў, адпачыў і падаўся вышэй. Завідаўцы, хто з акна, хто выйшаўшы на прыступкі ганка, здалёк назіралі за гэтым. Дзядзька Сцяпан такі не змоўчаў тады:

— От гад печаны! Няхай бы самі канарыкі лезлі. Дык не ж, гад печаны знайшоўся!

А Амелька ўжо аддаваў у рукі самога пана начальніка паліцыі чырвонае палотнішча. Той сваімі пухлымі ручкамі, нібы баючыся, каб не апячы пальчыкаў, дакрануўся да яго. Потым Амелька, пацягнуўшыся ўсім сваім няўклюдным целам да чырвонага, як альховы карэц, солтысавага вуха, нешта горача зашаптаў яму. Начальнік кінуў маленькімі, праніклівымі вочкамі на завідаўскую вуліцу, на людзей, якія сям-там трапляліся яго зроку, а потым, відаць, у знак удзячнасці паціснуў сухарлявую Амелькаву руку.

Пятро не спадзяваўся, што, акрамя хлопцаў, якія былі ў лесе, ведае хто, што ён павесіў сцяг, і таму адчуваў сябе спакойна. Аднак на ўсякі выпадак, тыя кніжкі, якія яму ўчора перадаў таварыш з Баранавіч, прыхаваў крыху далей.

Увечары, як і заўсёды, Пятро сустрэўся з Гашай. Яны пайшлі далей ад Архіпавага вока. Вельмі ж ён, стары, чамусьці не любіў Пятра. Вунь ужо і завідаўскія могілкі

з маладымі бярозамі. Яны падышлі і паселі на здзірванелай абочыне канавы...

— Петрусёк мой,— горача зашаптала Гаша,— мы ніколі з табой не разлучымся. Праўда?

— Чаму табе прыйшло ў галаву пытаць? — і Пятро замест адказу прыгарнуў Гашу да сябе.

— Я тут баюся сядзець. Тут мерцвякі,— вырваўшыся з Пятровых абдымкаў, гаварыла Гаша.

— Дзівачка ты,— супакойваў Пятро дзяўчыну.— Яны спяць, хіба ім да нас.

Потым яны глядзелі на зорнае веснавое неба, і ў абаіх была на душы радасць. Закукарэкаў адзін, потым другі певень, а потым уся вёска агаласілася спяваннем пеўняў, і яны як бы абудзілі Гашу.

— Хадзем, Петрусёк, дахаты. Вельмі ж я баюся таты, сварыцца будзе.

Вось ужо бразнула клямка ў сенечных дзвярах, вось ужо рыпнулі хатнія, і Пятро праз адчыненае акно пачуў словы старога Архіпа:

— Каб ты на вяроўцы гуляла. Гэта ж злюбілася з гэтым вісельнікам, дык вадой не разальеш.

Гаша агрызнулася. Пятро не чуў, што яна там сказала бацьку, але ў наступны момант ён пачуў:

— От я цябе правучу, начніца ты!

Галашэнне Гашы запоўніла хату.

— Я люблю Петруся і ніколі яго не выракуся.

— Пабойся ты бога, Архіп,— ледзь не галасіла Гашына маці.— Сярод ночы гэткі вэрхал падымаць.

— Калі любіш, дык і выбірайся да яго, каб цябе тут і звання не было.

— І пайду,— са злосцю кінула Гаша і выбегла з хаты.

Але Пятро ўжо ля хаты не было і блізка. Як толькі ён выйшаў з Архіпавых веснічак, у шэрані веснавой ночы пабачыў постаць чалавека. Яна хутка рушыла да яго. А калі чалавек падышоў бліжэй, Пятро пазнаў у ім дзядзьку Сцяпана.

— А я цябе шукаю, а я цябе шукаю! — усхвалявана гаварыў той.— Калі хочаш галаву знасіць, дык уцякай, хлопча, куды вочы глядзяць. Дэфензіўшчыкі ўсю вашу хату перавярнулі, кніжкі нейкія знайшлі. З наручнікамі прыехалі па цябе. Так што ратуйся, хлопча.

— Дзякуй вам, дзядзька. Цяпер няхай ловяць у полі вецер,— сказаў Пятро і адразу ж кінуўся праз агароды

ў лес. З тае пары і аж дагэтуль Пятра і не бачылі людзі ў Завідаўцы.

Пятро ўзышоў на вуліцу. Усё было ў Завідаўцы і тое, і не тое. Ён сустракаў людзей і не пазнаваў іх. Ды і хаты, нават тыя, у якіх ён быў не раз, нейкімі інакшымі сталі. Стрэхі пазарасталі мохам. Часам сярод старых, прысадзістых, з маленькімі вокнамі, траплялiся новыя, на мураваных падмурках, пад гонтавым і нават бляшаным дахам, з празрыста-светлымі вокнамі. Бацькава хата стаяла калісь акурат пасярэдзіне вёскі. Цяпер Пятро нават не мог пазнаць свайго роднага котлішча. І калі пазнаў яго, дык толькі таму, што апынуўся ля хаты дзядзькі Сцяпана. Яна была доўгая, з трохсценкам, з трыма вокнамі ў двор і двума на вуліцу. Пад вулічнымі вокнамі за штыкетам рос куст бэзу. А бацькавага котлішча і знаку не было. Толькі вунь на прыгуменні стаіць той стары граб ды пры ім высокая бяроза. Пятро добра памятае тую бярозу. Яна тады была яшчэ маленькая, а цяпер глядзі! — перарасла граб. Пятро пастаяў ля бацькавага котлішча, пакуль на вочы не набегла сляза, а потым нерашуча прычыніў дзверы дзядзькавай хаты. Цётка Харціна, якая завіхалася ля печы, утаропілася на незнаёмага чалавека. Яна трохі ўжо недабачвала.

— Каго вам трэба? — спыталася яна, калі Пятро, прывітаўшыся, пайшоў да стала, каб прысесці з дарогі.

— Дык хіба вы мяне не пазналі, цётка Харціна?

— Ды не ж бо. Хто ж вас ведае, хто вы такія?

— Эх, цётка, цётка, свайго пляменніка Пятра не пазнала.

— А божачка ж мой! — усплеснула рукамі Харціна.— Дык хіба ж гэта ты, Пятрок?

— Ды ўжо ж я.

Цётка Харціна, мусіць, такі расплакалася б, калі б у хату не ўвайшоў Сцяпан. Дзядзька доўга ўглядаўся ў чалавека. Харціна хацела сказаць мужу, хто гэта такі, але Пятро ўсміхаўся і моргаў, каб маўчала.

— А ці не Пятро гэта?

— І вы, дзядзька, не пазналі мяне?

— Ды чаму не. Толькі от прыглядаюся, каб не памыліцца,— і дзядзька Сцяпан па-мужчынску ашчаперыў Пятра, і яны пацалаваліся.

— Якім жа гэта ветрам цябе занесла на бацькава котлішча?

— Спадарожным, дзядзька Сцяпан. І, мусіць, надоўга. От думаю аграномам тут папрацаваць.

Сцяпан доўга яшчэ аглядаў з усіх бакоў Пятра, нібы хочучы канчаткова пераканацца, што гэта ён, а не хто іншы. Старая Харціна ў нерашучасці стаяла пасярод хаты і глядзела на госця, аж пакуль Сцяпан не азваўся:

— Дык чаго ж ты стаіш? Гэтакі госць у хату трапіўся, а ты стаіш.

У момант стол быў застаўлены ядой, і на сярэдзіне яго стаяла бутэлька.

— Сядай, пляменнічак, сядай, ды от па кроплі з дарогі возьмем. Я, братка, не грашуся ёю, але калі такі госць трапіўся, дык нельга ж не выпіць,— як бы апраўдваўся Сцяпан, наліваючы чаркі. Яны ўзапар кульнулі чарак па тры. Нават старая Харціна і тая губы памачыла ў кілішку. І гаворка адразу пайшла больш жвава. Знікла тая насцярожанасць, што была выклікана доўгай растанню. Пляменнік расказваў аб сваім жыцці праз усе тыя доўгія гады. Дзядзька даведаўся, што ў тую ноч, як ён папярэдзіў, Пятро перайшоў граніцу і апынуўся ў Савецкім Саюзе. Ён там працаваў у саўгасе, а ў часе вайны быў у арміі і ў апошнія гады вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі.

— А чаму ж ты хоць адным вокам на бацькаўшчыну не зазірнуў? — з дакорам спытаў Сцяпан.

— Балела душа. Маці загінула. Дык што мяне магло сюды цягнуць.

— А хіба я табе не дзядзька? Хоць бы не на жытку, дык у госці прыехаў.

— Не мог я, дзядзька, гэтага зрабіць. Зноў жа Гаша,— Пятру не хацелася пра яе гаварыць, але яна, бадай, была галоўнай прычынай таго, што ён не прыязджаў у Завідаўку.

— А што Гаша? — спытаў дзядзька і на сваё пытанне сам адказаў: — Яна, небарака, гора сербанула з-за свайго бацькі. Людзі нашы ўсе яе шкадавалі. Гэта цяпер яна крыху акрыяла, а пры тым гадзе печаным была хоць у труну кладзі.

— Дык хіба яна не сама за яго пайшла? — з адценнем радасці спытаў Пятро.

— Каб жа сама, а то хіба яе воля была.

Гаворка тады зацягнулася была надоўга.

Некалькі дзён Пятро хадзіў па Завідаўцы, пабываў у Змеяўцах, абхадзіў усе палеткі, схадзіў у МТС параіцца, з чаго яму пачынаць. Там яго прынялі не вельмі прыязна,

і гэта ўзрушыла чалавека. Таму ён адразу ж зайшоў да першага сакратара райкома таварыша Дылёва. Той рады быў новаму чалавеку. Пятро расказаў яму пра свае планы, паводле якіх ён меўся аддаць асноўную ўвагу льнаводству, як галіне, якая хутчэй за ўсё дапаможа ўзняць грамадскую гаспадарку калгаса. Сакратар спагадліва паставіўся да Пятровых намераў і на развітанне сказаў:

— Калі там у вас што не так будзе, дык вы заходзьце. І наогул заходзьце параіцца.

Пятро выйшаў з райкома акрыленым і падбадзёраным. Ён вырашыў адразу ж правесці гутарку ў ільнаводчых звеннях і расказаць пра вопыт ільнаводаў суседняга раёна.

Першая такая гутарка адбылася ў Гашыным звяне. Пятру даўно хацелася сустрэцца з Гашай. Аднаго разу ён убачыў яе на вуліцы. І толькі хацеў дагнаць, як яна азірнулася і, разгадаўшы яго намер, прыспешыла крок. Ён упэўніўся, што Гаша не хоча з ім сустракацца. І вось цяпер, надвячоркам, па распараджэнню старшыні калгаса пачалі збірацца ў хаце-чытальні члены яе звяна. Чамусьці прыйшла і тая дзяўчына, якую Пятро сустрэў тады на чыгуначнай станцыі. Яна павіталася з ім і пачала разглядаць павешаныя на сцяне плакаты.

— І вы хочаце паслухаць пра лён? — спытаў Пятро ў дзяўчыны.

— А як жа. Цікава ж.

— Хіба на чыгунцы будзеце сеяць?

— Чаму на чыгунцы — на полі. Я ўжо з чыгункай квіта.

— Дык чаму ж гэта вы?

— Надакучыла з венікам важдацца. Хочацца бачыць плады свае працы. Цяпер я ў Гашыным звяне.

— Што вы кажаце? — здзівіўся Пятро.— Малайчына.

Дзяўчына зірнула ў акно:

— А вунь і сама звеннявая ідзе.

Пятро таксама прыпаў да акна. Ён бачыў Гашу. Яна ішла з Марылькай і з дзяўчатамі свайго звяна. Гаша была апранута па-святочнаму. Светлы сарафан у кветкі быў ёй да твару і зграбна аблягаў постаць. Яна была такая прыгожая, што нельга было адарваць позірку. Гаша была цяпер якраз у той пары жаночай сталасці, калі ўсё ў ёй гарманіравала, вабіла сваёй стройнасцю, харастам. Гэтага не мог не заўважыць Пятро. Таму ён з асаблівым хваляваннем чакаў, калі Гаша пераступіць парог хаты-

чытальні. А яна зайшла, павіталася і села ў куток, прыціхлая і маўклівая. З гадзіну Пятро расказваў пра тое, як трэба даглядаць лён, як яго давесці да ладу. Ён паведаміў, што ў суседнім раёне, у калгасе «Новае жыццё», кожны гектар пасеву даў летась калгасу каля трыццаці тысяч рублёў прыбытку. У жанчын аж вочы заіскрыліся нейкай ні то зайздрасцю, ні то радасцю. На нараду прыйшоў і дзядзька Сцяпан. Ён усе гэтыя дні, як прыехаў пляменнік, заўсёды стараўся быць паблізу яго. Зірнуўшы з дзвярэй на Пятра, а потым на Гашу, Сцяпан моўчкі прысеў на ўслон. А Гаша маўчала, хоць бы яна слова ці паўслова. Маўчала яна і тады, калі астатнія жанчыны гаварылі, уносілі прапановы. Гэта так не было падобна на Гашу, гаваркую, гаспадарлівую жанчыну. Члены звяна здзівіліся: што б то магло значыць?

Сцяпан, паслухаўшы Пятра, жанчын, выйшаў на сярэдзіну пакоя і пачаў:

— Я, канечне, у вялікую гаворку ўкідацца не буду. Адно скажу, каб у нас летась быў лад з гэтым ільном, дык мы б азалаціліся. А то ж Гаша вунь які лён вырасціла, дык ён — што пагніў на поплаве, а што парахнее пад паветкаю. І выйшла, што з нашай працы ні дзяржаве, ні калгасу, ні вам самім тае карысці і на ломаны грош няма. А ўсё таму, што ўправіцеля добрага не было. А цяпер от ён ёсць,— і дзядзька Сцяпан вачыма кінуў на Пятра.— Дык вы пільнуйцеся, глядзіце.

Дзядзька Сцяпан чамусьці гэтак паглядзеў на Гашу, што тая аж сумелася. А малая Марылька, пакінуўшы маці, круцілася каля Пятра. Гаша паклікала яе, але яна ні блізка. Як толькі Гаша ўбачыла, што нарада канчаецца, яна прамовіла:

— Марылька, хадзем дадому,— і, узяўшы дачку за руку, першай выйшла з хаты-чытальні і знікла ў шэрані летняга вечара.

Усе здзівіліся з такіх паводзін звеннявой. Больш за ўсіх быў здзіўлены Пятро. Ён не разумеў Гашы. Дахаты Пятро ішоў з дзядзькам Сцяпанам. Ён чамусьці адчуваў нейкую незвычайную адзіноту, хоць і быў сярод сваіх людзей.

Увесь гэты час пасля нарады Пятро цэлымі днямі быў на полі — у брыгадах, у звеннях. Буланага жарэбчыка ён аж заездзіў. Хіба ж жартачкі — калгас вунь які, аж пяць брыгад. І ў кожнай трэба было пабыць. Аднаго разу, пад восень ужо, надумаўся Пятро пад'ехаць у Доўгую Шыю.

Там па яго ініцыятыве была арганізавана загонная пасьба жывёлы. Ён пад'ехаў акурат, калі каровы пасля начной пашы былі загнаны ў стойла. Росная раніца была гэткая свежая, прыгожая, што, здавалася, у грудзі жывымі струменямі ўлівалася маладосць. Стары дзядзька Саўка, якога Пятро такі ўламаў, каб ён стаў за пастуха, падышоў да паветкі, дзе адпачывалі пастухі і даяркі.

Павітаўшыся з дзядзькам Саўкам, Пятро спытаў:

— Ну як, старына, каровы падбавілі трохі малака?

— Даяркі кажуць, што літраў па два падбавілі. А зрэшты хто яго ведае.

— То-та! А вы не хацелі ў лагер ісці.

— Яно, як той казаў, мы не папрывыкалі да такой моды.

Дзядзька Саўка зняў з левага плечука пугу, якая вужакаю цягнулася за ім па роснай траве, і пачаў яе намотваць на руку. Пятро глядзеў на дзядзькаў занятак і не змоўчаў.

— Калгаснаму пастуху ці патрэбна гэтая прылада,— кіўнуўшы на пугу, сказаў Пятро.— Малако ў каровы на языку, а не на канцы пугі.

— Яно тым часам, мажа, і так, але ж які я пастух буду без пугі. Гэта ж от як ляснеш, дык каровы такімі паслухмянымі робяцца.

— Бо, мусіць, сячэш па сцёгнах?

— Крый божа. Што ты, чалавеча,— нібы апраўдваўся дзядзька Саўка.— Пуга гэта так, для прыклёпу. А ты, мабыць, за пастуха і не змог бы быць?

— Чаму ж гэта так? — здзівіўся дзядзькаваму вываду Пятро.

— Бо пугай не ўмееш ляскаць.

— Чаму ж гэта не ўмею.

— Дык на лясні,— і дзядзька Саўка распусціў пугу.

Пятро ўзяў у рукі выслізганае дзядзькавай рукой арэшкавае пугаўё і, раскруціўшы над галавой пугу, з сілай ляснуў, але стрэлу не атрымалася. Пуга сцебанула яго па нагах. Ён аж паморшчыўся ад болю і са злосцю кінуў дзядзькаву канаплянку.

— А ты кажаш, пастухом можаш быць. Не, брат, гэта табе не жарты. Тут трэба таксама спрыт мець,— беручы з зямлі і змотваючы пугу, гаварыў пастух. Ён глядзеў на Пятра, на тое, як ад болю перасмыкнуўся яго твар, і, як бы што ўспомніўшы, сказаў:

— А ты ведаеш, якое на Гнілой прорве здарэнне адбылося?

— Якое?

— Ды от яшчэ прыцемкам Гаша са сваім звяном прывезла туды лён мачыць, пад самы вір.

— Ну і што? — не цярпелася Пятру, калі ён пачуў імя Гашы.

— А тое, што яна не адзержалася і боўтнулася з берага. Калі б не Аміля, дык залілася б, кажуць. Плавае ж яна як той камень. Насілу выцягнула яе Аміля. Можа, з гадзіну якую адхайвалі.

Саўка бачыў, як Пятро змяніўся з твару: то ён бялеў, то чырванеў. Не развітаўшыся з Саўкам, не перакінуўшыся і паўсловам з даяркамі, якія падышлі акурат з поўнымі вёдрамі малака да паветкі, Пятро ўскочыў на буланчыка і памчаўся да Гнілой прорвы.

Там ён нікога не застаў. Ляжала толькі коп дзве лёну ды на беразе рачулкі была вытаўчаная трава. Пятро здагадаўся, што тут адхайвалі Гашу. Буланчык, як здавалася Пятру, бег вельмі павольна, і ён яго тоўк пад бакі абцасамі, шморгаў паводдзе. Пятро адчуваў сябе вінаватым у гэтым здарэнні. Гэта ж ён параіў на праўленні замачыць частку лёну і пастарацца раней іншых калгасаў здаць дзяржаве валакно.

Упершыню за ўсе гэтыя месяцы Пятро зайшоў у Гашыну хату. Калі ён пераступіў парог, сэрца гэтак затрапяталася ў грудзях, што ён, здаецца, чуў яго. У хаце быў вэрхал. На драўляным ложку ляжала яна, раскінуўшы рукі. Твар яе быў чырвоны. Ля ложка сядзела Аміля і, відаць, не ведала, што ёй рабіць. У галавах сядзела заплаканая Марылька. Аміля, як толькі ўбачыла Пятра, узрадавана кінулася да яго.

— От добра, што вы прыйшлі, а то я не ведаю, што рабіць. Яна ж, як агнём, гарыць уся.

Пятро падышоў да Гашы, паклаў на лоб руку. І, можа, ад таго, што рука яго знадворку была халаднаватая, Гаша расплюшчыла вочы і як не сваім голасам закрычала:

— Ратуйце!

Пятро спалохаўся. Але Аміля яго супакоіла:

— Яна трызніць. Гарачка ў яе вялікая.

— От што, Аміля, хуценька збегайце да дзядзькі Сцяпана. Няхай запражэ каня, ды ў бальніцу адвязём. А я тут пасяджу.

— Не трэба, дзядзечка, у бальніцу. Не трэба! — загаласіла Марылька.

— Ціха, дзетка, там маме лепш будзе,— супакойваў Пятро дзіця.

— А з кім жа я буду тут?

Галашэнне Марылькі, мусіць, прывяло на момант у прытомнасць Гашу. Яна вялікімі ад здзіўлення вачыма зірнула на Пятра.

— Чаго вы тут, Пятро Якімавіч? Не трэба вам тут быць, не трэба,— сказала яна ды зноў страціла прытомнасць. Але дзіўна, Пятро ў гэтых словах, у тым, як яны былі сказаны, не адчуў ні злосці, ні нянавісці, хутчэй ён адчуў вінаватасць жанчыны перад ім. Але ж хіба яна вінавата? Пасля таго як дзядзька Сцяпан расказаў яму ўсё пра Гашу, ён больш за ўсё адчуваў сябе вінаватым перад ёй. Пятро не адыходзіў ад ложка. Ён трымаў руку па гарачым, як жар, Гашыным ілбе. Яму здавалася, што ёй ад гэтага павінна стаць лягчэй. А жанчына ўсё стагнала, кідалася ў непрытомнасці.

У бальніцу Гашу прывезлі пад вечар. З Пятром былі дзядзька Сцяпан, Марылька і Аміля, якая і на крок не хацела адступаць ад сваёй звеннявой. У бальніцы не было месца, і ўзрушаны Пятро збегаў на кватэру да загадчыка раённага аддзела аховы здароўя. Той распарадзіўся пакласці Гашу пакуль у калідоры. Пятро згадзіўся на гэта з тым, што дні праз два-тры яе перанясуць у палату.

У Завідаўку вярнуліся позна ўночы. Пятро быў усхваляваны, ён сышоў з фурманкі як сам не свой. Усю ноч прахадзіў па вёсцы. Доўга стаяў на бацькавым котлішчы. Пад раніцу падняўся вецер, і Пятро бачыў, як бяроза сваімі доўгімі зялёнымі каснікамі хінулася да дужага граба. Дзядзька Сцяпан колькі разоў выходзіў з хаты і ласкава гаварыў Пятру:

— Ды ідзі ты, хлопча, у хату. Чаго ты нудзішся?

І ўсе наступныя дні Пятро не мог знайсці раўнавагі. Дзядзька Сцяпан заўважыў:

— Дык што з табой?

— Ды от усё неяк не куецца, а плешчацца.

— Чаму гэта? Здаецца ж, усё добра ідзе.

— Ды дзе яно добра. Бачыце ж, які дождж учора ўліў, а мы малацьбу распачалі, сцірты паадкрывалі.

— От бяды тае. Сонца ж не за гарамі, выблісне і абсушыць,— нібы хочучы супакоіць Пятра, гаварыў дзядзь-

ка, хоць ён добра ведаў, што не ад таго дажджу заныла сэрца ў чалавека.

— Ты б от запрог каня ды ў бальніцу з'ездзіў,— як бы незнарок сказаў дзядзька Сцяпан.

А Пятру толькі і трэба было гэтай парады, як нейкага маральнага абгрунтавання яго ўчынку. І апоўдні, калі ўжо добра выпагадзілася, ён сеў на буланчыка і паехаў у раён. У раённым гастраноме Пятро купіў каробку цукерак «Вішня». І, несучы іх у руцэ, увайшоў у палату. Гаша сумелася, убачыўшы Пятра. Яна не чакала яго тут, хоць у глыбіні душы і была нейкая няясная надзея. Гаша, седзячы на бальнічным ложку, перакідвалася словамі з хворымі жанчынамі. Яна ні то ўзрадавалася, ні то спалохалася прыходу Пятра, замітусілася, захінула бальнічны халат на грудзях. Пятро даў «добры дзень», але збянтэжаная Гаша нават не адказала. Яна толькі глядзела і глядзела на гэтага, калісьці роднага, а цяпер хто яго ведае якога чалавека. З чым ён прыйшоў да яе? А гэты ласунак, які падаў у руку Гашы,— што ён можа значыць? Спагаду, спачуванне яе няшчасцю, а можа, проста маральны абавязак? Гаша на момант заплюшчыла вочы, і ў памяці імкліва праляцела ўсё яе нядоўгае, але поўнае горычы маладое жыццё. Яна зірнула на Пятра і ўбачыла, што ён быў у незвычайнай узрушанасці і не ведаў, што рабіць, што казаць. І Гаша расплакалася. Яна ўспомніла Марыльчыны словы пра тое, як Пятро назваў яе дачушкай, і толькі цяпер зразумела іх таямнічы сэнс. Узяла каробку цукерак і падумала сабе: «Гэта я аддам ёй гасцінец ад таты. Ёй жа ніхто ніколі гэтакіх гасцінцаў не прыносіў».

А ў дзвярах палаты стаялі Аміля з Марылькай. Яны радасна ўсміхаліся.

[1957]

## ЗОЛАТАМ ПА МАРМУРЫ

Доўгі час яму, нават мёртваму, нібы шкадавалі славы. Чалавек знік са свету, нібы праваліўся ў бездань часу. Ужо колькі год пра яго нідзе ні весткі, ні чуткі. Не вярнуўся Алесь Алішэвец з вайны. А я, як толькі ступіў адной нагою на родныя абшары, успомніў усё дазвання.

Мне ёсць што расказаць пра Алеся Алішэўца, бо калі я буду расказваць пра яго, дык гэта нібы і пра мяне. Пра наша з ім дзяцінства, пра наша юнацтва.

Было гэта ў сярэдзіне зімы. Маразяка выскрыпаўся гэтакі, што рэдка калі і бываюць такія. Мы з Алесем першы год хадзілі ў Брагініцкую школу. У нашай Пяціхатцы не было пятага класа, а вучыцца мы хацелі, каб пасля падацца куды, хоць свету пабачыць. І бацькі спрыялі нашаму жаданню. Дык мы і паступілі ў Брагініцкую школу, якая тады на ўвесь раён славілася як найлепшая.

Абшара паміж нашай Пяціхаткай і Брагінічамі кожнае зімы залівалася вадою і, калі ціскаў мароз, пакрывалася лёдам. Гэтак спрэс ад Пяціхаткі да Брагініч і сінеў, аж бліпічаў на сонцы лёд. І навошта нам было хадзіць пехам па гасцінцы, калі можна было на каньках за адзін мэнт быць у Брагінічах. А дзе-ж іх узяць? У мяне ды і ў Алеся грошай ні капейкі. Местачкоўцы недзе, мабыць, дападалі іх у гарадах. Дык мы з Алесем і вырашылі парабіць канькі самі. У Алесевай павеці стаяў ладны кругляк з уваткнутай у яго сякерай-тупіцай. На ёй мы і дамовіліся пляскаць дрот, бо нельга ездзіць на двух каньках з круглым дротам.

Алесь мне сказаў:

— Ты ведаеш, якая пад нашай павеццю чакуха?

— Якая?.. Чакуха як чакуха. Старая тупіца,— выказаў я сваё.

— Ды не, незвычайная. У ёй настаўлены абух. Бацька на ёй касу клепле. Чым хочаш па ім сячы, чым хочаш бі, ён не ўвагнецца, не ўклеплецца.

Абух сапраўды быў добры. Мы ў мэнт распляскалі даўжэзны таўставаты дрот і асадзілі аж чатыры канькі, дзеравяшкі якіх я парабіў яшчэ ўчора: павыстругваў і шылам папрапекваў дзірачкі для аборак. Не хапала толькі добрых канапляных абор, і можна было б падвязваць канькі на ногі.

Аборы мы самі не вілі. Віць іх — гэта доўгая песня. Павыборсвалі з лапцяў. А надоечы раніцай я перакалаціўся: бацька збіраўся па дровы. Маразяка быў люты, дык

стары надумаў абуць на суконкі лапці, каб нагам было цяплей. І лапці ў яго былі адменныя: сплеценыя з адцяплей. І лапці ў яго былі адменныя: сплеценыя з адмысловых дубовых паскаў, якія ён драў з маладых дрэўцаў, распарыўшы іх перад сопухай. Як толькі пачалася зіма, мачаха зняла тыя лапці з гарышча і кінула пад палок, куды скідалі ўсякую непатрэбшчыну. Лапці тыя ўсохліся, і я думаў, што калі іх і можна на чыю нагу абуваць, дык на каціную. А аборы ў іх былі моцныя, хоць чарцей на іх вешай: адна столка канапляная, а другая з валасні, навыцепванай з конскага хваста. Бацька шукаў, шукаў, так лапцяў і не знайшоў. Пабурчаў сам сабе пад нос і абуў боты.

Колькі гадоў служылі ў мароз гэтыя лапці бацьку, і зносу ім не відно было. Дык от я і павыцягваў тыя канапляныя з конскай валаснёй аборы. Мы з Алесем прыкідвалі, меркавалі, каб стала гэтых абор на дзве пары. Але як ні вымяркоўвалі, як ні мералі, усё ж не хапіла. Тады Алесь выцягнуў з хамутоў дзве сураўчаныя супоні. Мы прыладзілі і іх да канькоў.

Акурат насталі зімовыя канікулы. Гэта і добра — мы здолеем налаўчыцца катацца на двух каньках. На трэці ці на чацвёрты дзень канікулаў, акурат на вадохрышча, нават я добра не паснедаў, бо спяшаўся, мы з Алесем выскачылі на лёд. Алесь хлопец быў высакаваты, гнуткі, як стусіна. Ногі ў яго былі роўныя і доўгія. Мне, прысадзістаму, каржакаватаму, нават у першы раз цяжка было дагнаць яго. Ды ён жа і фізкультурнік быў вунь які: на турніку рабіў «сонца», скакаў цераз «кабылу». Увосень у гарадкі, як казалі ў нашай школе ў «краглі», лепш за ўсіх гуляў. Я зайздросціў Алесеваму ўмельству, а ён на мяне глядзеў, як на целяпня.

І вось мы на каньках. Абодва яшчэ не ўмеем катацца. Станавіцца на два канькі ні Алесю, ні мне не даводзілася. Адно што з зайздрасцю глядзелі на брагініцкіх хлопцаў, у якіх пад нагамі аж гудзеў рачны лёд.

Перад намі распасціралася, як засланая абрусам, роўнядзь. Зрэдку толькі відненіся шчыткі хмызняку на ледзяной паверхні. Ад Пяціхаткі да самых Брагініч спрэс была сіняватая роўнядзь. Яна ўяўлялася часам вялізным, трохі падсіненым кужэльным прасцірадлам.

Пакідаючы за сабою белыя пісягі, мы з Алесем стараліся абагнаць адзін аднаго. Як вецер, насіліся па бяскрайнім прасторы. За якія дні два гэтак налаўчыліся, што, гле-

дзячы збоку на нас, можна было падумаць, што ўсё жыццё мы стаім на каньках.

Вярталіся ў Алесеву хату кожны раз пад самы вечар. Маці, сустракаючы нас, заўсёды ўсплёсквала рукамі.

— Гэта ж трэба, цэлы дзень не стыкаліся. Мо хто за вамі гнаўся? — зірнуўшы на пашу спатнеласць, пытала цётка Арына і расшпільвала Алесеў пінжак. Кідала вачыма на мяне, каб і я расшпільваўся. Цётка казала далей:

— На такім марозе можна за адзін момант прастыць і ў пасцель зваліцца.

Аднак мы не прастывалі ні за адзін, ні за два моманты. Праз усе канікулы, не стыкаючыся, гойсалі па лёдзе. Абодва добра разумелі, што катанне апроч гульні, забавы мае для нас і практычны сэнс: да Брагініч, калі летнікам ісці, добрых кіламетраў пяць, і самае мала пройдзеш гадзіну, а то і паўтары, калі, ідучы, выдумляць якія забаўкі. А на каньках наўпрасткі да школы мы далятalі за нейкі момант.

Зімою раніца наступае марудна, як бы нехаця. У нашай школе заняткі пачыналіся яшчэ цёмначы. На першых уроках настаўнікі нам стараліся тлумачыць тое, што не трэба было сачыць па кніжках.

Каб не пазніцца з Пяціхаткі на ранні ўрок, мы з Алесем уставалі мо з трэцімі пеўнямі. Зімовымі начамі спалі разам у Алесевай хаце, бо мачаха мая скоса глядзела на нас з Алесем, калі мы заходзілі пасядзець у нашу хату. Бацькі звычайна зімою не было дома: яшчэ зацемна ён выпраўляўся на работу і вяртаўся дадому пасля змяркання. Мачаха цэлы дзень гаспадарыла ў хаце адна з малымі.

Зімою я стараўся, каб не заседжвацца дома. Калі прыходзіў са школы, кідаў на лаўку торбу з кніжкамі, на хаду чаго перакусваў і вобмельгам з хаты. Бег да Алеся. Ягоная маці Арына была добрай душы спагадлівая жанчына, бо калі чым смачным намазвала Алесю які кусень, не мінала і мяне. І мне часам нават здавалася, што і я сын гэтай добрай жанчыны. Русявыя валасы яе, якія кудзеркамі выбіваліся з-пад завязанай пад бараду хусткі, здаваліся мне сваімі і роднымі. Прыемны голас яе гучаў у маіх вушах як песня.

Калі мы з Алесем дзе бавіліся, маці крычала з ганка, і звычайна я першы чуў яе голас.

— Алесь! Алесь! — звярталася спачатку яна да сына, а потым ужо пытала ў дваіх нас: — Дзе вы падзеліся?

І мне гэтак прыемна, аж соладка рабілася ў грудзях.

слухаць гэтае матчына гуканне. Я першы, а следам за мной і Алесь беглі на матчын покліч. Як толькі згледжвала нас цётка Арына, яна зачыняла сенечныя дзверы і ішла ў хату наліваць абед. І калі мы прыбягалі ў хату, на старым рыпучым стале дымілася парай міска з баршчом ці якім іншым наедкам. У хаце я, як укапаны, станавіўся ў парозе чакаць, пакуль Алесь падсілкуецца. Але стаяць доўга мне не даводзілася: Алесева маці як не за руку цягнула мяне за стол. Для прыліку я ўпінаўся нагамі, быццам от толькі што адваліўся ад яды.

— Чаго ты ўпінаешся? Ты ж, мабыць, не абедаў? — пытала цётка Арына.

Я не мог хлусіць цётцы і прызнаваўся, што галодны, і ішоў следам за ёю. Елася нам заўсёды смачна, добра і спорна. Маці глядзела на нас і, мусіць, любавалася нашай упраўнасцю. Мо ўсе маці радуюцца, калі іх дзеці добра ядуць. Пасля абеду мы разам рыхтавалі ўрокі. Гэтак да самай апоўначы я і не стыкаўся дадому. Бацька мо і бачыў, што мяне не вельмі што і вабіць у сваю хату. Ён ніколі не сварыўся на мяне. Мабыць, яму падабалася маё таварышаванне з Алесем. Нават за тыя аборы, што я выбарсаў тады з лапцяў, ён не насварыўся на мяне.

Гэтак мы вучыліся і таварышавалі з Алесем праз доўгія гады. На лета, праўда, мы трохі адбіваліся адзін ад аднаго. Затое на зіму сыходзіліся як самыя лепшыя сябрукі ці браты.

А гады імчаліся быццам і неўпрыкметку. Я, ды, мабыць, і ўсе ў маладосці, не заўважаў, як хутка бяжыць час. Здавалася, што жыццё вечна. І калі перакінуць сюдытуды які тыдзень ці месяц, дык гэта не мае аніякага значэння. І мы з Алесем не шкадавалі ні тыдняў, ні гадоў, і на другую зіму, калі добра ўмярзаў наш поплаў, мы былі анігадкі. Мы гэтак навучыліся ездзіць, што хоць канькі і самаробныя былі, наўрад ці хто мог дагнаць нас. Праўда, леташнюю зіму бацькі скоса глядзелі на нашы канькабежныя практыкаванні, а сёлета, мабыць, зразумелі, што мы без канькоў, як птушкі без крылаў, і нават сяды-тады на людзях і падхвальвалі нас. Алесеў бацька абяцаў хлопцу купіць сапраўдныя канькі...

Дзень выдаўся такі марозны, што нейкі своеасаблівы туман вісеў у паветры. Чырванаватае, як медзяны пятак, сонца, здаецца, ніяк не магло пралупіцца, каб зірнуць на зямлю. Яна ўся была заткана снегам. А сонца, здавалася, і само ніяк не магло сагрэцца. Пад полагам туману яно

не тое што не грэла, дык і не свяціла як мае быць. На некалькі гадзін выкочвалася на неба і хуценька хавалася за небасхіл, як за плот.

Заняткі ў школе цягнуліся як не да самага змяркання. Мы выходзілі на прагалу лёду, калі ўжо навокал слалася туманнае мроіва вечара. У нас з Алесем быў ужо і свой парадак язды. Спачатку Алесь выскакваў наперад, а потым я паднатужваўся і абганяў яго і ўжо як бы вёў за сабою, баючыся, каб ён дзе не збочыў і не заблудзіў. І на гэты раз ля самых умерзлых хмызнякоў я абагнаў таварыша. Я вырваўся на сіняватую разлегласць лёду, і тут ужо мой сябрук ні дагнаць, ні перагнаць мяне не мог. Я ляцеў, як апантаны, прастуючы на іх агарод. Там у снезе была пратаптана сцяжынка, і, пад'ехаўшы да яе, мы адвязвалі канькі і ішлі дадому.

На гэты раз я ляцеў так, што перад сабою, апроч лёду, нічога не бачыў. І раптам мяне як апякло холадам, нібы хто абгарнуў па самую шыю халоднай-халоднай анучай. Потым мне здалося, што я знянацку ўляцеў у агонь. Нічога не мог напачатку даўмецца, зразумець. Толькі калі пад'ехаў Алесь і кінуўся на падмогу, я зразумеў, што з разгону ўляцеў у пельку, якая была прасечана сёння. Нейкая жанчына, мабыць, мыла бялізну. Пад вечар пельку нават трохі зацягнула лёдам. У гэтым месцы канава адмяжоўвала наш пяціхатаўскі выган ад поплаву.

— А, братачка ты мой! А як жа гэта ты? — скуголіў Алесь нада мною. Я з усёй сілы чапляўся рукамі за краі палонкі. Рукі скаўзаліся, і я не мог ніяк зачапіцца імі і рынаў у ваду.

— Давай руку! Давай руку! — крычаў я Алесю, не пападаючы зуб на зуб.

Алесь кінуўся падаваць мне руку і ледзь сам не ўляцеў у палонку.

Хлопец не ведаў, што рабіць. Ён бегаў вакол палонкі і як не ламаў рукі. Нарэшце, мабыць, раптоўна даўмеўся хлопец: хуценька адвязаў канькі, упёрся нагамі, відаць, у тое месца, дзе, мабыць, нядаўна на лёдзе ляжала бялізна, кінуў мне канцы аборы. Я аберуч ухапіўся за іх, як за ратунак, і Алесь на ўсю сілу пацягнуў мяне на сябе. Я сяк-так каленямі стаў на лёд.

— Давай хутчэй! Давай дадому! — закрычаў Алесь.

А мароз ужо браўся лубяніць маю вопратку, і я на ўсю сілу дарожкай праз агарод кінуўся да Алесевай хаты. Дзіва, дый годзе. Калі я быў у палонцы і вось-вось мог за-

хлынуцца, я ніколечкі не спалохаўся. Перапуд прыйшоў тады, калі я ўжо бег па агародзе. Толькі тут прыйшло мне ў галаву, што я адной нагою стаяў на краі магілы.

Цётку Арыну я ледзь не зваліў з ног. Яна, як угледзела мяне, спалохалася мо больш, чым я сам.

— Дзе Алесь? Дзе Алесь? — пытала яна як з-пад вады.

Спачатку я не мог разабраць, што яна пытае, і нічога не адказваў жанчыне.

— Дзе Алесь? — як не загаласіла цётка Арына.

— Вунь ідзе! — паказаў я на размаляванае марознымі ўзорамі акно.

— Дзе?

— Вунь там! — зноў я паказаў рукою на двор, і гэта, мусіць, пераканала яе, што з хлопцам нічога не здарылася.

Ляпнулі дзверы хаты, і Алесь спалохана стаў на парозе. Разгублена ён глядзеў то на мяне, то на маці. А цётка Арына як не крыкнула на мяне:

— Скідай гэтае макроцце ды на печ!

Яна хуценька расшпільвала пінжак, здзірала з мяне ўсё і амаль голага падсаджвала мяне на печ, на чаране якой я потым праляжаў аж два тыдні.

* * *

Было ўсё гэта даўно, ой як даўно. Мо каб на чыю іншую памяць, дык можна б і забыцца на ўсё гэта. А я, мабыць, ніколі на ўсё гэта не забудуся.

Пасля сканчэння Брагініцкай школы я змушаны быў шукаць свайго хлеба. Аляксеевы бацькі хацелі вучыць хлопца на настаўніка ці доктара, але яго ўзялі па прызыву ў армію. Яшчэ да мабілізацыі Алесь падаўся ў лётнае вучылішча. Я, яшчэ калі ў школу хадзілі, прыкмеціў, што хлопец, як угледзіць самалёт, дык гатовы сам ляцець за ім.

Адным словам, як гэта часта здараецца, на парозе сталага веку нашы дарогі з Алесем разышліся. І хоць мы не дзяліліся, не сварыліся, адзін аднаго згубілі. І калі што і засталося ў нас агульнага, дык гэта ўспаміны маленства і юнацтва. Праз доўгія гады я калі што і даведаўся пра Алеся, дык праз няпэўныя чуткі. У сталасці мы нібы ленаваліся адзін аднаму хоць зрэдку ліст напісаць. Адно ведаў я, што перад самай вайною Алесь працаваў у палярнай авіяцыі. А я пасля доўгіх пошукаў свае дарогі выбраў сабе не вельмі спакойную прафесію — журналістыку. Праз

усе мірныя перадваенныя гады-ды і ў вайну стараўся словам, як куляй, біць у цэль.

І от праз дзесяцігоддзі прыехаў у родную Пяціхатку. Можа, хто падумае, што я бесклапотны, нават на радзіму не мог ніяк выбрацца. Не! Пяціхатка сядзела ў маім сэрцы, як стрэмка, як самая балючая незагойная рана. І хоць я не бачыў на сваё вочы таго попелу, што на пяціхацкіх сядзібах пакінулі фашысты, ён усё роўна стукаў мне ў грудзі. У тыя страшныя гады акупанты сагналі ўсіх пяціхатцаў у Альшэўцава гумно і падпалілі яго. Ні адна жывая душа адтуль не выбралася. Там загінулі і нашы з Алесем сем'і.

І як мне праз доўгія гады ні карцела ступіць хоць адной нагою на пяціхацкую зямлю, я гэтага не рабіў, каб не верадзіць старую, вельмі балючую рану. Колькі разоў мне прапаноўвалі паехаць у камандзіроўку на радзіму, я ні блізка.

І толькі от цяпер, спадзеючыся, што рубец шрама зацягнуў нашчэнт старую рану, я іду прамой, як страла, пяціхацкай вуліцай. Вёскі не пазнаю: яна стала вялікая, як гарадскі пасёлак. Маладыя сады аж зямлю рвуць. Толькі зрэдку сям-там пракінецца старое дрэва — ліпа з буслянкаю ці ясакар. Астатняе ўсё новае, маладое. Нават вераб'і, што купаюцца ў размолатым калясьмі пыле, таксама, мне здаецца, не такія, як некалі былі.

А вунь і тая сядзіба, дзе калісь ліпела хата Алесевых бацькоў. Яе пазнаў здалёк я па старой ралаватай ліпе. І дрэва ўжо зусім абнемаглося. Быццам хто яго абшчыпаў. Пад самай хатай, якая была акурат на тым месцы, дзе стаяла хата Алесевых бацькоў, нешта ладавалі людзі. Майстры былі гэтак уруплены, што не заўважылі, як я падышоў да іх.

Хата была зрублена ў чысты вугал з круглага бярвення. Я ўгледзеў, што адзін з майстроў на сцяне хаты ля самага вугла вычэсвае пляшыну: счэсвае на бярвенні закругленыя мясціны і робіць іх плоскімі.

— Што гэта вы тут майструеце, дзядзька? — здзіўлена пытаю.

— А вы што за спрос? — адвярнуўся той, што вычэсваў пляшыну, паглядзеў на мяне.— Хіба вы не ведаеце? — ужо лагодней спытаў ён.— Цяпер мо ўвесь свет ведае гэтую хату.

— А што я павінен ведаць? — пытаю для большай пэўнасці.

— А тое, што мо ўвесь свет цяпер ведае, хто ў гэтай хаце калісь нарадзіўся і вырас. Не ў гэтай самай хаце,— паправіў сябе чалавек,— на гэтым падворку нарадзіўся і вырас вунь які чалавек. Дагэтуль мы і не ведалі, што ён за такі быў. Толькі нядаўна Міністэрства абароны раскапала ў архівах, што ён з Пяціхаткі.

— Дык хто ж ён, гэты чалавек?

— Вунь адсланіце ад сцяны дошку ды прачытайце, там золатам напісана,— параіў мне майстар.

І от я чытаю: «У гэтай хаце нарадзіўся і вырас Герой Савецкага Саюза Аляксандр Яўцехавіч Алішэвец, які загінуў смерцю храбрых у гады Вялікай Айчыннай вайны».

Я зірнуў на барэльеф, угледзеў, што Алесь як жывы, падобны на сябе, і ў вачах аж слёзы паявіліся.

Майстар, які прыладжваў мемарыяльную дошку, здзіўлена зірнуў на мяне. Мо падумаў: «Конча яму плакаць па чужым чалавеку». Я яшчэ раз зірнуў на майстра і сам сабе сказаў, мусіць, так, каб і ён пачуў:

— Я і не ведаў.

У гэтым «я і не ведаў» быў дакор самому сабе і горкі смутак. Была абяцанка ўзяцца, абавязкова ўзяцца за пяро і расказаць людзям пра яго.

[1968]

# АЎТОГРАФ

У зале было столькі людзей, што не прабіцца. Сем дзён мы падарожнічалі па прасторах нашай суседкі Латвіі. Пабывалі на ўзбярэжжы Рыжскай затокі, пакаталіся на рыбалавецкім катэры, адведалі гасціннасці рыбакоў, паглядзелі танцы, паслухалі песні Латгаліі, пахадзілі па руінах старажытнага замка ў Цэсісе.

Латвія! Якая ты любая, ласкавая і пяшчотная сястрыца нашай Беларусі! Я цябе зведаў, я цябе схадзіў салдацкімі нагамі ў часы навалы і ліхалецця. Тады ты мне здалася не такой вясёлай, жыццярадаснай, а трошкі сумнай, суровай і маўклівай. Гэта мо таму, што ў грудзях тваіх таіўся гнеў, пад чарапічнымі дахамі тваіх хутарскіх асад палала нянавісць да ворагаў, і табе не было як усміхацца. Гэтакай ты і асталася ў маёй памяці. Гэтакай я і насіў цябе ў сэрцы праз усе гады, што не бачыўся з табою. Перад вачыма і цяпер стаіць невялічкая латгальская вёска Аудрыні: попел яе сядзіб і гарачая кроў людзей, якой тады была шчодра напоена зямля.

Бачу! Усё бачу ў думках, і смутак-жаль гарачым камячком падкочваецца пад сэрца, а словы, якія мне хочацца сказаць гэтым добрым шчырым людзям, што прыйшлі на сустрэчу з намі, беларусамі, неяк даўка перасядаюць у горле, і іх цяжка-цяжка вымавіць. І я сілюся, сілюся, нельга ж маўчаць перад такой аўдыторыяй сяброў. Можа, тысячы вачэй глядзяць на мяне, тысячы вушэй гатовы лавіць маё кожнае слова, якога я ў першы момант не магу ніяк вымавіць. Нарэшце праглынаецца даўкі камячок, і мне становіцца лёгка.

— Дарагія таварышы! Браты, сёстры, суседзі! Мне дарага ваша зямля, як і мая родная, беларуская. Я прайшоў яе з аўтаматам, я праліў кроў за вызваленне яе ад фашыстоўскай погані...

Гаварыў я доўга, хоць таварышы мае, якія сядзелі ў прэзідыуме, міргалі, ківалі мне: маўляў, не парушай рэгламенту — у нас было распісана, колькі каму і што гаварыць, колькі чытаць. Але я не мог утрымацца, каб у гэтай зале латгальскага гарадка не выказаць усяго таго, што было ў мяне на душы. І я гаварыў, мабыць, завельмі доўга, мо няскладна. Але мяне слухалі, і тая насцярожаная цішыня, у якой толькі зрэдку чуўся пошапак, неяк бадзёрыла мяне. Потым я чытаў вершы пра Латгалію, пра вёску Аудрыні, пра маладую латгалку, што гаіла мае раны, паіла

крынічнай вадою. І дзіва: хоць я чытаў на чужой для гэтых людзей мове, мяне разумелі.

Вечар зацягнууўся да позняга. Яшчэ выступалі мае таварышы. Потым хор латгалак спяваў песні. У нацыянальным адзенні дзяўчаты былі такія прыгожыя, што ад іх нельга было адарваць вока.

Потым нехта з латышскіх сяброў-пісьменнікаў абвясціў, што мы будзем даваць аўтографы.

У вестыбюлі Палаца культуры было людна, зырка ўспыхвалі бліцы. Кожнага з нас акружылі дзяўчаты, працягваючы рукі з кніжкамі. І да мяне падбегла смуглявае, з глыбокімі, як бездань, вачыма дзеўчанё гадоў дванаццаці. У латышскім нацыянальным адзенні яно было падобна на маладую вясну, якою яе малююць мастакі на карцінках. Дзе бачыў я гэтае дзеўчанё? Вельмі ж мне знаёмыя вочы дзяўчынкі, глыбокія, праніклівыя. Яны, здаецца, аж свяціліся нейкім невідочным святлом радасці. Пявучым галаском дзяўчынка сказала:

— Дзядзька Сяргей, мама прасіла, каб вы напісалі ёй аўтограф,— і, мусіць, каб я не дапытваўся, адкуль яна ведае маё імя, дзяўчынка працягнула мне складзены ўчацвёра лісток паперы з вучнёўскага сшытка ў клетку.

Відаць было, што гэты лісток недзе доўга хаваўся і перахоўваўся, а можа, яго насілі за пазухай пад сэрцам, бо на канціках папера аж прашмылялася. Я разгарнуў лісток і ...

* * *

Наша часць на світанні асядлала невялічкую вілюжную шашу і мела далейшую задачу з ходу ўварвацца ў латышскі гарадок Вараклані. Світанне было яснае, і гарадок з яго чарапічнымі дахамі, з высокім гатычным шпілем касцёла нам быў відзён, як на далоні. Трошкі ўзбоч па правую руку ад пазіцый нашага батальёна сінеў лес. Здавалася, што нам трэба было толькі падаць рукой, і гарадок будзе наш. Але на вайне заўсёды столькі нечаканасцей, што нават самы таленавіты стратэг не можа іх прадбачыць. Здавалася, у гітлераўцаў не было ніякай падставы чапляцца за гэты гарадок. Ні ў стратэгічных, ні ў тактычных, ні ў якіх іншых адносінах ён не мае асаблівага значэння. Гітлераўцы, відаць, меркавалі інакш, бо як толькі мы выйшлі на рубеж высотак, што віднеліся за той роў-

няддзю, якую заняла наша часць, ціхія і, здавалася, мёртвыя гарбылі поля гэтак сыпанулі агнём, што мы вымушаны былі залегчы і акапацца на не вельмі зручным для нас рубяжы. Адтуль, з узгоркаў, праглядаліся навылёт нашы пазіцыі, і гітлераўцы безупынна малацілі па іх з мінамётаў і кулямётаў, прыціскаючы нас шчыльней да зямлі. Але і адыходзіць нам нельга на больш зручны рубеж, бо нашы суседзі пайшлі далей, і нам не было як бавіцца. На падмогу была выклікана артылерыя. Яна больш гадзіны абстрэльвала ўзгоркі. І ўсе ўжо думалі, што там і жывога нічога не засталося. Але як толькі мы падняліся для атакі, гарбылі поля зноў ажылі агнём. Прыйшлі танкі, і мы следам за імі рушылі ў наступленне. Аднак жа гітлераўцы як бы з-пад зямлі вылазілі. Яны адсеклі нас ад баявых машын і прымусілі адкаціцца на зыходны рубеж. Некалькі машын запалала, а астатнія вярнуліся назад. Дзённыя атакі захлынуліся. Надвячоркам былі выкліканы штурмавікі. Здалёк здавалася, што цяжкія Ілы поўзаюць па зямлі і знішчаюць на ёй усё жывое. Як толькі вярнуліся самалёты, мы зноў падняліся ў атаку. Дайшлі да высотак, тыя зноў ажылі, азваліся агнём, праўда, ужо не такім інтэнсіўным, як раніцай. Аднак агонь быў яшчэ даволі моцны, і мы і на гэты раз вымушаны былі адысці на свае пазіцыі, пачаць іх умацоўваць, баючыся, што праціўнік не толькі будзе адбіваць нашы атакі, але і сам пачне атакаваць. Камандаванне наша ніяк не магло разгадаць намеры гітлераўцаў, і таму камдыў вырашыў умацаваць пазіцыі, правесці глыбокую і дасканалую разведку, дакладна ўведаць сілы праціўніка і паставіць канкрэтную задачу кожнаму падраздзяленню. Без разведкі не было чаго лезці на ражон і марна траціць жывую сілу і тэхніку, тым больш што ў наступленні мы неслі немалыя страты.

Увечары мяне выклікалі на камандны пункт камандзіра батальёна капітана Казярожца. У зробленым наспех бліндажы цьмяна свяцілася змайстраваная з гільзы газоўка. У бліндажы я ўгледзеў яшчэ двух салдат з першай і другой рот — Алеся Сеўрука і Генадзя Мілецкага. Гэта былі дужыя і абстраляныя салдаты. Капітан дапытлівым позіркам змераў мяне з ног да галавы, быццам упершыню ўбачыў, і сказаў:

— Сядайце, таварыш баец. Я вось чаго ўсіх вас паклікаў. Не думайце, што чай піць. Ёсць больш важная задача, для выканання якой трэба мець спрыт і, галоўнае, адвагу. Вы ўсе камуністы, і спадзяюся, што ў вас гэтыя

якасці ёсць. Як вы сабе хочаце, а языка павінны дастаць мне. Але я вас папярэджваю: гэта справа выключна добраахвотная.

— Ёсць, таварыш капітан, дастаць языка! — дружна адказалі мы.

Капітан яшчэ доўга нам тлумачыў, паказваў на карцы, дзе і як прайсці. Была аблюбавана для пераходу перадавой лініі мясціна ля самага лесу па правым флангу абароны батальёна. На карцы было відно заштрыхаванае зялёным і засеянае рабаціннем двукосся невялічкае балотца. На думку капітана, тут не так густа сядзіць праціўнік, бо адтуль і ўдзень і ўначы не гэтак актыўна вёўся агонь. Потым мы здавалі дакументы, узбройваліся фінскімі нажамі, гранатамі і вяроўкамі, каб, калі трапіць нам язык, дык звязаць яго. Загадзя зрабілі кляп, якім меліся заткнуць рот, каб «язык» не лямантаваў.

Паўз самы лес імшарынай мы дзе ішлі, дзе паўзлі, баючыся, каб ні зброя, нішто нідзе не бразнула і не выявіла нас. Ішлі мы доўга, а мо толькі так нам здавалася, мо толькі для нас цёгся, бавіўся час. Недзе залапатаў аўтамат кароткай чаргой, недзе гэхнуў выбух гранаты. У неба агністаю пражай узвілася ракета. Адна, потым другая, і на момант стала так светла, што мы бачылі перад сабой сіваваты мох імшарыны. Мы думалі, што немцы заўважылі нас. Аж не! У начным небе чуўся трэск матораў нашых У-2. Яны падымаліся высока над пазіцыямі праціўніка, выключалі маторы і, плануючы, сыпалі, як гарох, невялічкія бомбы, і тыя, ірвучыся ў начной наструненай цішыні, здаецца, бралі загрудкі зямлю і калацілі яе.

А мы, затачыўшыся ў мох, ляжалі, не варушачыся, амаль не дыхаючы. Нарэшце, як той казаў, на паляўнічага звер сам бяжыць: ціха гергечучы, ішлі проста на нас два гітлераўцы. Мы яшчэ шчыльней прыціснуліся да зямлі. Алесь Сяўрук выняў фінскі нож. Нам загадаў ён напасць удвух на пярэдняга: вязаць яго, затыкаць у рот кляп і цягнуць, а ён адзін дасць рады другому. Толькі, барані божа, не страляць, нават не бразнуць зброяй. Гітлераўцы, не прадчуваючы небяспекі, ішлі спакойна, быццам на пагулянцы, нават нечага пасмейваліся.

Быццам віхура падхапіла нас з зямлі. Мы ўдвух з Мілецкім наваліліся на пярэдняга, вырвалі аўтамат, закруцілі яму назад рукі, але кляпа ніяк не маглі ўваткнуць у рот. Немец крычаў, роў, як той вяпрук, якога калолі і ніяк не маглі патрапіць у сэрца. І ў Сеўрука, мусіць, не ўсё

ладна выйшла, бо ў валтузні мы пачулі два стрэлы, а потым немае вухканне чалавека і крык у перадсмяротнай агоніі. Неўзабаве мы з Генадзем усё ж далі рады свайму: звязалі назад рукі, заткнулі рот і ўзялі на плечы — Генадзь за галаву, я за ногі,— каб несці. Але ў гэты самы момант, мусіць, пачуўшы валтузню і стрэлы, немцы з акопаў пачалі прашываць ракетамі начную цемрадзь. Узнялася страшэнная страляніна: трасіруючыя кулі бліскучымі пункцірамі распісвалі чарнату ночы. Трасы куль былі скіраваны ў наш бок: значыць, нас выявілі. Заскуголілі міны, застракаталі кулямёты, нават недзе вухнула гармата. Бесперапынку ў неба ўзляталі ракеты, пакідаючы на ім агністыя прошвы. Не адстрэльваючыся, мы цягнулі свой цяжкі груз. І раптам — што гэта: як бы нехта з-за вугла нечым цяжкім аглушыў мяне па баку. Нешта ліпкае, гарачае разлілося па целе, і рукі, якія трымалі ногі гітлераўца, самі расчапіліся, ногі мае падламаліся, і я асеў на зямлю.

— Сяргей, што з табой? — спалохаўся Алесь Сяўрук, які, даўшы рады свайму гітлераўцу, падбег на дапамогу.

— Я, мабыць, паранены.

— То давай я хуценька перавяжу ды вазьму цябе на плечы.

Сяўрук фінкай распароў маю гімнасцёрку і цесна абвязаў рану бінтам з індывідуальнага пакета. Ён строіўся ўжо ўзяць мяне на плечы, але я зашаптаў:

— Не трэба, не трэба. Я сам дапаўзу. Вы нясіце яго. Ён вельмі патрэбен камандаванню. А я сам.

Я баяўся не за сябе, а за тое, што хлопцы не выканаюць заданне камандзіра і з-за мяне самі могуць трапіць у бяду.

— Хутчэй выбірайцеся адсюль, а я сам дапаўзу,— прастагнаў я.

— Паўзі пакуль за намі, а мы аднясём гэтага недавярка і прыйдзем па цябе. Абавязкова прыйдзем,— сказаў Алесь і кінуўся на падмогу Мілецкаму.

Я бачыў, як хлопцы паўзлі, валаклі на сабе гітлераўца, і стараўся з усяе сілы паўзці следам за імі. Потым іх ужо не было відно зусім.

А боль усё глыбей і глыбей працінаў цела. Здаецца, на мне не было ўжо ніводнай жывой мясціны. Чапляючыся рукамі за зямлю, беручыся за чубкі травы, я поўз і поўз, нават не ведаючы куды. Пада мною трашчалі сухія галінкі. Я натыкаўся на дрэвы, як на глухую сцяну, але не

здаваўся, поўз і поўз. Каб дзе якой вады: смага агнём паліла нутро, вусны перасмяглі, аж патрэскаліся.

Ранняе ліпеньскае світанне, якое нахапілася неяк знянацку, заспела мяне ў густым ляшчэўніку. І ці то ад болю, ці ад яркага сонца я прыжмурыў вочы і як скрозь зямлю праваліўся.

...Сіні туман пакрысе сплываў з вачэй. Нечыя цёплыя-цёплыя рукі вывелі мяне з непрытомнасці.

— Маўчыце, маўчыце,— шапталі нечыя вусны.

На момант здалося, што вярнулася маё дзяцінства і нада мною схілілася маці, быццам мяне ўкрывае і ўгаворвае, каб я не жахаўся ў сне, а спакойна сабе спаў.

— Не бойся, не бойся,таварыш, я свая. Вас ніхто тут не знойдзе. Немцы пайшлі адсюль. Я ўжо два дні вас пільную.

А бой нема чуўся далёка, у тым баку, адкуль ішлі нашы. Значыць, немцы пацяснілі нашых, і цяпер ніхто не прыйдзе па мяне.

— Хто вы?

— Я ніхто, я тутэйшая, з мызы пана Смілгаса. Вунь пад самым лесам яна. Адсюль відна.

— З якой мызы? — не разумеючы, дапытваўся я.

— Піце, піце,— гаворыць жанчына і лье мне ў рот нешта цёплае. Здаецца, само здароўе ўліваецца ў цела, і я спрабую павярнуцца, але няшчадны боль зноў скаланае душу і стогнам зрываецца з вуснаў.

— Ціха, ціха, таварыш. Як змеркнецца, я перанясу вас на мызу, схаваю, пакуль прыйдуць нашы.

— Хто вы? — зноў пытаюся я.

— Я ніхто. Я парабчанка пана Смілгаса. Пан з паняй уцяклі ад вайны, а мяне пакінулі вартаваць гаспадарку.

Я ніяк не мог зразумець, хто ж такая яна. Як у сне, бачыліся Сяўрук, Мілецкі, здаравенны немец з кляпам у роце.

— Дзе яны?

— Хто?

— Хлопцы нашы.

— Тут ніякіх хлопцаў не было. Як аціх бой, я выйшла з мызы ў лес і знайшла вас тут. Вы не бойцеся, я свая.

Абмацваю, ці ёсць у мяне зброя, але аўтамата няма. Неспакой, балючая трывога б'юць у сэрца: што ж я буду рабіць, калі сюды натрапяць фашысты, адбіцца няма чым, астаецца ў лапы смерці лезці.

— Дзе мой аўтамат? — трывожна дапытваюся ў дзяўчыны.

— Не ведаю, не бачыла вашага аўтамата. Ціха, ціха, от няхай толькі змеркнецца, я вас схаваю ад варожага вока.

Кволыя дзявочыя рукі сцягвалі з мяне ашмоцце гімнасцёркі, аддзіралі закарэлыя бінты, і хоць дзяўчына рабіла ўсё асцярожна, мне здавалася, што яна здзірала не бінты, а жывую скуру. Я войкаў і нават ускрыкваў.

— Пацярпі, пацярпі,— казала дзяўчына, але я не мог выцерпець боль. І яна дакарала: — А яшчэ мужчына.

Змярканне надышло не адразу. Спачатку на зямлю мякка апала сінявата смуга, а потым высыпалі на небе зоры, і запанавала такая сцішанасць, што я, здаецца, аж аглух ад яе. Можна было падумаць, што на свеце нідзе няма ніякай вайны, адно от толькі мы з дзяўчынай ды гэты нясцерпны пякучы боль. Здавалася, што баліць не толькі мне, але і ёй, але яна больш цярплівая, ні на што не скардзіцца, не наракае. Тым часам дзяўчына аберуч падымала мяне пад пахі, ставіла на ногі, мусіць, хочучы, каб я пайшоў сам. Але цела маё было цяжкае-цяжкае, яго не маглі ўтрымаць ногі. Тады яна, паднатужыўшыся, неяк вельмі ж спрытна ўзваліла мяне на плечы.

На вышках, куды прынесла мяне дзяўчына, была намошчана з духмянага сена пасцель. Зыгмунта — гэтак звалі дзяўчыну — прыносіла мне есці. Яна перабінтоўвала мне рану, прамывала яе, немаведама дзе даставала лякарствы. Аднаго разу Зыгмунта прывяла на вышкі нейкага пажылога мужчыну і сказала мне:

— Не бойцеся, гэта наш доктар. Ён свой чалавек.

Доктар вельмі ўважліва, але маўкліва агледзеў мяне і сказаў на ломанай мове:

— Нічога страшнага не знаходжу, адно што толькі асколкі сядзяць, і тут іх не вымеш, ды крыві многа страчана.

Доктар пакінуў Зыгмунце бінты, ёд і яшчэ нейкае лякарства. На развітанне сказаў:

— Трэба, каб ён добра харчаваўся, гэта яго падтрымае.

Харч у мяне сапраўды быў добры, пакуль не вярнуліся на сядзібу Смілгасы. Зыгмунта папярэдзіла мяне, каб я быў асцярожны і нічым не выдаў сябе. Дзяўчына радзей пачала паяўляцца на вышках, а калі і прыходзіла, дык вечарамі, як гаспадары клаліся спаць. А неяк мы ўсю ноч прасядзелі, і яна расказала мне ўсё пра сваё жыццё.

Калі Зыгмунта была яшчэ зусім маленькая, яе бацьку, Віліса Канзаса, рабочага аднаго з рыжскіх заводаў, забрала ульманісаўская паліцыя. Яго высачылі агенты, калі ён раздаваў рабочым камуністычныя лістоўкі. Бацьку тады запраторылі ў турму, а маці, не маючы сродкаў на існаванне, забрала Зыгмунту і з'ехала сюды, на Смілгасаву мызу, і нанялася парабчанкай. Працавала яна зацята, не лічылася ні з часам, ні з сілаю, абы пракарміцца. На рабоце падарвала здароўе і аднаго разу не вярнулася з поля, гэтак на рабоце і памерла. Зыгмунта засталася адна. Яшчэ зусім падлеткам дзяўчына наганяла крывавыя мазалі на гаспадаровай рабоце, баючыся, каб гаспадар хоць не выгнаў, клапоцячыся, каб хоць перападаў ёй які кавалак хлеба.

Адно і пажыла, параскашавалася Зыгмунта, калі ў саракавым годзе прыйшла была Савецкая ўлада. Потым зноў беспрасветны морак. Гаспадар Смілгас стаў яшчэ люцейшы, ён як бы хацеў спагнаць з Зыгмунты за тое, што былі абрэзалі яго зямлю і параздавалі батракам, быццам гэта рабіла не Савецкая ўлада, а яна, Зыгмунта. Мужчыны-парабкі, як толькі навалакліся фашысты, паразбягаліся хто куды, а ёй не было куды дзецца, і яна засталася на гаспадаровай рабоце. Потым неяк пазней ужо, на другім годзе акупацыі, да яе з'явіўся сувязны з партызанскага атрада. Ён параіў Зыгмунце быць перад гаспадаром рахманай, пакорнай, каб ён паверыў, што яна па сваёй жаночай пакладзістасці і бездапаможнасці спрыяе яму. А тым часам яна, Зыгмунта, павінна прыглядацца да ўсяго, дзе што робіцца ў фашыстаў, і пераказваць партызанам. Гэтак Зыгмунта стала працаваць на партызан. Перад гаспадаром яна была ніжэй травы і цішэй вады — ніколі ні ў чым не пярэчыла яму, рабіла за траіх і ўвайшла ў такі давер у Смілгаса, што той на яе спадзяваўся, можа, больш, як на самога сябе, відаць, думаючы: «А што ёй рабіць, небарацы, асталася яна бяздомкам, няма да каго прыгарнуцца ні целам, ні душой, дык яна і горнецца да мяне».

Смілгас быў мужчына стараваты ўжо, азызлы ад цельпухаватасці. Але аднаго разу, падпільнаваўшы, калі Зыгмунта была адна ў аборы, падкраўся ззаду і спрытна кульнуў дзяўчыну на зляжалае леташняе сена. Неспадзявана для Смілгаса ў Зыгмунты знайшлося столькі сілы, што ад яе штуршка стары юрлівец адляцеў, як мех, бразнуўся вобзем і аж заенчыў. Гаспадар, мусіць, думаў, што дзяўчы-

на наробіць гвалту, і вельмі баяўся, што пачуе жонка, тады ён не абярэцца бяды. Здзіўленымі, спалоханымі вачыма глядзеў на парабчанку і чакаў ад яе ўсяго, толькі не таго, што пачуў:

— Даруйце, гаспадар, я, мабыць, вас трошкі выцяла. Але ж вы самі вінаваты. Не трэба цяпер, не той час. На свеце гэтакая калатнеча, а вы з любошчамі. Няхай другім разам, лепшым часам.

Смілгас, лыпаючы вачыма, як той кот, што з'еў чужое сала, глядзеў на Зыгмунту: значыць, усё абышлося добра, значыцца, ёсць надзея, што яе дзявочае хараство не міне яго рук.

Зыгмунта сама не ведала, як гэты недарэчны канфлікт з гаспадаром пойдзе ёй на карысць: ці то тым, што яна напалохала Смілгаса сваёй рашучай непадатлівасцю, ці мо той спадзяванкай, якую яна знарок кінула тады, каб гаспадар не стаў да яе воўкам. Дзяўчына гэтак узяла пад сваю ўладу Смілгаса, што магла рабіць з ім усё, што б толькі ёй ні захацелася. Аднак Зыгмунта не скарыстоўвала гэтай сваёй улады, яна, як і раней, ціхмана, рахмана рабіла тое, што ёй трэба было не толькі па гаспадарцы, але і для тых, пра каго гаспадар нічагусенькі не ведаў.

Гэтак Зыгмунта і жыла: з аднаго боку ў паняверцы, а з другога, маючы нікім не дадзеную ёй, а ўзятую толькі жаночай прынаднасцю ўладу над гаспадаром. Але цяпер з-за таго, што я ляжаў тут, на вышках, яна баялася гаспадара. Баялася не так за сябе, як за мяне, бо каб Смілгас даведаўся, то пэўне пабег бы да фашыстаў, і тады б не знасіць ні мне, ні маёй апякунцы галавы.

А бою нешта не было чуваць. Ён як аддаліўся ў тую ноч, калі мяне абязвечыла, дык і не чуўся больш ні грымотамі выбухаў, ні траскатнёй аўтаматаў. Зыгмунта старалася даведацца, што дзеецца на гэтым участку фронту, але нічога пэўнага нідзе не дачулася і нічым не магла ні падбадзёрыць, ні ўсцешыць мяне. Адно хіба сваёй дзявочай ласкаю, шчырасцю, клопатам. Кожнае ночы амаль да самай поўначы яна праседжвала на вышках. Я дык ужо казаў Зыгмунце, каб яна не хадзіла сюды, але дзяўчына сказала мне:

— Цябе я не магу пакінуць, Сярожа, ты мне гэтакі дарагі стаў.

Зыгмунта нахілілася да мяне, гарачая сляза ўпала на маю шчаку. Я не сціраў яе, і мне здалося, што яна трымціць, перакочваецца, як жывое срэбра.

— Любая, супакойся, не трэба плакаць, не трэба.

Зыгмунта як бы і не слухала, яна прыпадала гарачымі вуснамі да майго твару, аблівала слязой шчаціннe барады, казытала валасамі грудзі і шаптала на сваёй латышскай мове. У гэты час пад адрынай застракатаў аўтамат і пачулася ў самой ужо адрыне:

— Хэндэ хох! Хэндэ хох! Ёсць хто жывы?

— Мы свае, таварышы! Мы тут жывыя! — апантана закрычала Зыгмунта і кулем кінулася з вышак. — Як мы доўга вас чакалі, таварышы,— чулася ўжо ўнізе.— Там, на вышках, ваш паранены.

Салдаты насцярожана, трымаючы перад сабой аўтаматы, лезлі па драбінах. Я, як толькі ўгледзеў сваіх салдат, закрычаў як сам не свой:

— Таварышы, родныя мае!

Памкнуўся быў устаць, але тупы боль скалануў цела, і я цяжка асунуўся на пасцель, на якой, не ўстаючы, праляжаў больш за два тыдні. А на дварэ была такая ясная раніца, якой мо даўно не бачыў свет: праз шчыліны чарапічнага даху па гарышчы снавалася залацістая сонечная пража. І я пачуў сябе так, як некалі ў маленстве ў дзень найвялікшага свята, калі чакаеш нечага незвычайнага і прымаеш звыклае за выключнае.

Салдаты паглядзелі на мяне, папыталі сёе-тое. На іх запытанні больш адказвала Зыгмунта, не даючы мне вымавіць слова. Калі салдаты злазілі па драбінах з вышак, у адрыну надышоў гаспадар Смілгас. Ён узлез на вышкі і ваўкавата глядзеў то на мяне, то на Зыгмунту. Я зірнуў на яго ваўкаватасць і падумаў: каб гэта было ўчора ці заўчора, ён бы паказаў сваю сілу і ўладу. А сёння ён ніца пачораў на шчаслівую ўсмешку Зыгмунты, на маю ўзрушанасць. Зыгмунта, мусіць, знарок, каб выклікаць у гаспадара шаленства, пацалавала мяне. Смілгас плюнуў сабе пад ногі, аж расцёр, і моўчкі, як ваўкалак, пасунуўся ўніз.

— От і апошні дзень нашага шчасця,— задуменна вымавіла Зыгмунта.

— Чаму апошні? Гэта ж мо першы, Зыгмунтка, любая.

— Апошні,— зноў вымавіла яна.— Цябе забяруць адсюль, і мы з табой больш ніколі не пабачымся.

— Пабачымся, любая, я ачуняю ў шпіталі, кончыцца вайна, тады мы з табой не раз сустрэнемся.

— Ты нават і не падумаеш пра мяне.

— Любая мая, я ўвесь час думаў пра цябе. Ты такая харошая, што пра цябе нельга не думаць.

Я дастаў з-пад галавы планшэцік і выняў з яго вучнёўскі сшытак у клетачку.

— На от прачытай, пераканайся, што думаў пра цябе.

Зыгмунце цяжка было чытаць на чужой мове, і хоць яна не разумела ўсіх слоў, вочы дзяўчыны свяціліся радасцю.

— Ты не разумееш, я табе растлумачу.

Я чытаў уголас складзены мною верш пра латгалку, якой салдат гатовы пазаўсёды аддаць сваё сэрца, і Зыгмунта слухала, як зачараваная. На яе круглых глыбокіх вачах трымцела слязінка радасці.

Потым прыйшлі з насілкамі салдаты, узвалілі мяне на іх. Зыгмунта памагала ім. Моршчачыся ад болю, я глядзеў на дзяўчыну і бачыў, як перасмыкнуўся яе твар. Ёй таксама, мабыць, было балюча, бо дзве слязінкі блішчалі ў куточках вачэй.

* * *

На збуцвелым ад часу аркушыку паперы ў клетку, які мне падала дзяўчынка ў латышскім адзенні, я ўгледзеў аўтограф таго самага верша, які я чытаў апошнім на гэтым вечары сустрэчы. І я здагадаўся, што тая дзяўчынка была не хто іншая, як дачка Зыгмунты. На яе твары было відаць падабенства з Зыгмунтай: праніклівыя глыбокія вочы на трошачкі прадаўгаватым твары, русявыя кучары валасоў, колер якіх ніяк не пасаваў са смугласцю твару.

— Як цябе завуць? А дзе мама?

— Наталі. А мама з татам вунь там, ля кніжнага кіёска, чакаюць вас.

Дзяўчынка праз людны вестыбюль павяла мяне да сваіх бацькоў. А я ў думках на момант угледзеў тыя слязінкі, якія тады трымцелі, як жывое срэбра, на вачах Зыгмунты. Мне стала чамусьці балюча, што другая наша сустрэча адбылася не тады, адразу ж пасля вайны, а адбудзецца цяпер, больш як праз шаснаццаць год. Але жыццё ёсць жыццё.

1961

# АПОШНІ СЛЕД

Усю дарогу з далёкай поўначы да маленькай станцыі перад самым Мінскам Міхед Крыварот адчуваў сябе добра. Купэ вагона, у якім ён ехаў, было занята гэтакімі ж, як ён, вызваленымі па амністыі. Каторыя з іх пазлазілі, не даязджаючы Смаленска, а каторыя — перад самым Мінскам. Да Мінска Міхед раскашаваўся адзін, а ў Мінску ў купэ зайшлі мужчына з дзвюма жанчынамі, з выгляду калгаснікі. Мужчына падазрона зірнуў на Міхеда, пераглянуўся з жанчынамі і пачаў хаваць чым далей рэчы. Ён падняў века ніжняй лаўкі, саставіў у скрынку чамаданы, зачыніў яе і сеў. Жанчыны пазалазілі на верхнія лаўкі. Тая, што ляжала насупраць Міхеда, раз-пораз паглядала ўніз пільным вокам на яго ватоўку, на неахайна пастрыжаную пад машынку галаву. Міхед паспрабаваў загаварыць з мужчынам, але той у адказ — хоць бы слова ці паўслова. «Няўжо яны здагадаліся, хто я такі?» — падумаў Міхед.

Ад Мінска да станцыі Дылеўка, на якой Міхеду трэба злазіць, засталося гадзіны са тры язды. Ён прыкінуў, што цягнік прыйдзе туды пад адзінаццатую гадзіну. Таму стары падбіў, як падушку, свой лагерны бушлат і лёг уніз тварам, каб не глядзець ні на што. Паляжаў якіх хвілін з дваццаць, але яго апанаваў такі одум, што нельга было ўлежаць чалавеку. Каб гэта было ўдзень, дык ён бы глядзеў у акно: столькі ж гадоў не быў у знаёмых мясцінах, яму цікава было б пабачыць, як яны перамяніліся. Цяпер жа Міхед паспрабаваў глядзець у акно — там відаць была толькі разасланая па зямлі снежная бель, а ўсё астатняе завалок густы калматы туман. Каб не гэты снег, то наогул можна было б падумаць, што цягнік ідзе пад зямлёю. Каб чым-небудзь заняць час, Міхед расшпіліў сарочку і дастаў з-за пазухі паперы. Каторы ўжо раз прабег вачыма пасведчанне, выдадзенае яму пры вызваленні, у якім было напісана, што, згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, ён, Міхед Крыварот, амнісціруецца, што яму аднаўляюцца ўсе правы грамадзяніна. І хоць гэтыя людзі, што зараз едуць у купэ, цураюцца гаварыць з ім, усё адно ён цяпер чысты, як той голуб. Міхеду хочацца заспяваць, і ён нешта сам сабе мармыча ціхенька так, каб ніхто не пачуў. Навошта ім, чужым людзям, чуць яго радасць!

Міхед, па-буслінаму выцягнуўшы шыю, глядзіцца ў

люстэрка, устаўленае насупраць яго пад сярэдняй лаўкай. Ён бачыць крыху шылаватую сваю галаву, на якой пайшла ўжо ў рост сівая атава валасоў; бачыць увесь у маршчынах твар, вочы, з мяшкамі сінюгі навокал. І не пазнае, ці ўсё гэта яго, ці чужое. Адно толькі што і засталося нязменным, дык гэта вусы. Праўда, і яны цяпер не такія, як былі раней, тыя кончыкі, што калісь па-казацку звісалі, цяпер паабразаны. Так што і ў вусах цяпер і знаку няма той вялікасці, якую яны калісь надавалі чалавеку.

Не, Міхед не любуецца сабою — гэтая пара даўно ўжо ў яго прайшла — ён глядзіцца ў люстэрка і думае, ці пазнаюць яго дочкі. Каб старая яго была жыва, то канечне б пазнала, але ж ёй не суджана адчуць радасць сустрэчы з чалавекам, з якім яна пражыла разам столькі год. Шкада, яе залетась пахавалі. Пра гэта напісала яму ў лагер большая дачка, Гэля. А меншая, Алена, дык тая і сама наўрад ці памятае бацьку. Ёй тады, як яго забралі, было гадоў якіх з восем. Ды чаму ж яны, лайдачкі, не пісалі яму нічога пасля смерці старой? Можа, і яны выцураліся?

Міхед ніколі асабліва не задумваўся над сэнсам жыцця. Ён адно ведаў: грэбці пад сябе там, дзе граблося, і абыходзіць заўсёды тое месца, дзе можна пакаўзнуцца і ўпасці. Гэтак ён і ў гады, калі польскія ўлады праводзілі пацыфікацыю, выселіўся з вёскі на хутар, спадзеючыся прыкупіць яшчэ гектараў колькі зямлі. Думаў, калі ў яго знойдзецца сын-наследнік, пакінуць яму такую гаспадарку, каб ён праз усё жыццё ўспамінаў яго добрым словам. Зноў жа такі, калі сын не народзіцца, дык бог з ім: ён Гэлю аддасць замуж, адрэзаўшы ў пасаг ёй кавалак зямлі, і няхай жыве сабе на здароўе, а да Алены возьме прымака. Трапляюцца ж часам і прымакі, лепшыя за родных сыноў.

Аднак жыццё скіравалася іначшаю каляінай. У трыццаць дзевятым годзе прыйшлі Саветы. Нельга сказаць, каб Міхед сустрэў новую ўладу варожа. Не! Ён нават з хлебам ды соллю выходзіў, як і ўсе людзі, на дзядзінец сустракаць савецкіх салдат. Але ж усе тыя месяцы, аж да самай вайны з фашыстамі, ён прыглядаўся, прыкідваў, што з яе будзе, з гэтай новай улады. Чалавек ён быў такі, што ўсе жыццёвыя з'явы ацэньваў па тым, якую карысць прынеслі яны яму самому, што яны далі ў яго кішэню. Няхай сабе тады, як польская ўлада праводзіла пацыфікацыю, людзі бунтавалі супраць яе. А чаго яму было бунтаваць: ён адхапіў сабе гэтакі хутар, на якім жылося яму прыпяваючы.

Радаваліся вельмі людзі Саветам. А чаго яму было радавацца: яны ж, тыя Саветы, яму ні сват ні брат. У гаспадарку яны нічога не дадалі. Наадварот, калі ў саракавым годзе ў Заброддзі арганізаваўся калгас, дык яго, Міхедаў, хутар абрэзалі, як той кажаў, па самае нельга, а яму ўзамен далі тры гектары пясчанай няўдобіцы, ды дзе — у чорта на кулічках. Дык як жа мог чалавек радавацца Савецкай уладзе ў той час, калі ў яго была глыбокая да бяздоння крыўда на яе. І таму, калі ў сорак першым прыйшлі немцы і Міхед захапіў не толькі сваю зямлю, а яшчэ заадно і чужога трохі прыхапіў, ён акрыяў, адчуў сябе гаспадаром не толькі хутара, але, як яму здавалася, і ўсяго свету. Ён ахвотна і як бы з чыстай душой пайшоў на паклон да новых гаспадароў жыцця. Яму прапаноўвалі стаць солтысам, начальнікам паліцыі, аднак ён, спасылаючыся на невялікую сваю пісьменнасць, ад усяго гэтага адмовіўся. Ён згадзіўся сім-тым памагаць спадцішка, каб не надта кідацца людзям у вочы. Неяк месяцы праз тры ці чатыры гестапаўскі афіцэр сказаў Міхеду:

— Як ты гэтак будзеш і далей на нас працаваць, будзь пэўны, мы табе маёнтак цэлы дадзім. Вось толькі скончыцца вайна.

І Міхед чакаў хуткага канца вайны. Ён ужо ўяўляў сябе невялікім фальваркоўцам. Калі яшчэ дагэтуль яго часам мучыла тое, што ён памагае гестапаўцам адпраўляць на той свет людзей, вінаватых толькі ў тым, што яны не могуць зносіць чорнай навалы, то пасля афіцэравай абяцанкі Міхед зусім страціў пачуццё ганьбы. Ён вельмі часта думаў: «Урэшце ж кожны чалавек так ці інакш ідзе да свайго шчасця праз няшчасце другіх». Такая філасофія яго цалкам задавальняла, і ён стараўся ў меру сваіх сіл і спрыту дагадзіць фашыстам, вядома, не трапляючыся на чужое вока, бо ў яго ўсё-такі недзе ў глыбіні свядомасці варушылася, жыла тая думка, што мо і гэтыя немцы не на векі вечныя тут. Ён жа на сваім вяку вунь колькі перабачыў тых парадкаў: нарадзіўся і рос за царом, а пасталеў, увабраўся, як кажуць, у чалавечую сілу за панамі. Зноў жа такі і за апошнія гады другая ўлада мяняецца. Так што не вельмі трэба выплываць на паверхню, лепш плысці за падводнай плынню, толькі часам паказваючы руку. Міхед гэтак і рабіў. Ён для выгляду не зусім цураўся гітлераўцаў. Узімку, калі фашысты дубянелі пад Масквой на нашым марозе, ён хадзіў з солтысам па забродскіх хатах збіраць цёплыя рэчы. Каб паказаць прыклад, ён аддаў свой

стары дублены кажушок, які, палатаўшы, яшчэ можна было насіць з гора зімы са дзве. І калі каторая з забродскіх жанчын вельмі ўжо ўпіралася, ён казаў:

— Дурная ты. Я ж вунь свой кажух аддаў. Яно, калі трэба, дык трэба, нічога ж не зробіш — улада патрабуе.

Аднак, мусіць, ніхто з забродаўцаў не ведаў, што на другое лета па гестапаўскаму заданню Міхед Крыварот цэлыя тры дні і тры ночы цікаваў за Гарасімам Кухаронкам, калі той прыйшоў з партызанскага атрада разведаць пра нямецкія гарнізоны. Пад вечар Гарасім Кухаронак пайшоў з Заброддзя на свой хутар,— мусіць, чалавеку захацелася паглядзець сям'ю. Тут яго і вывіжаваў Міхед Крыварот. Уночы наляцелі карнікі, забралі Гарасіма з жонкаю і на другі дзень абаіх павесілі на пляцы перад забродскай школай.

Вядома, каб тады, як судзіў Міхеда Ваенны трыбунал, хто ведаў пра тое, што на душы яго ляжыць гэтакі грэх, то наўрад ці ехаў бы ён, Міхед, цяпер дадому. А хто ж бо то мог ведаць? Тады, калі Міхед навёў на Гарасімаў хутар карнікаў, ён сам нават і ў хату не зайшоў, а ціхенька сабе стаяў пры сенечных дзвярах. Хто яго ведае, мог жа тады той Гарасім і ўцячы як-небудзь, і калі б ён заўважыў яго, то наўрад ці знасіць бы яму галаву. А так хіба толькі тое хлапчанё, што цудам выскачыла тады з хаты, можа што сказаць на яго. Ён, як цяпер помніць, навёў тады на хлопчыка пучок святла электрычнага ліхтарыка і хацеў злавіць яго за руку, але, як яму здалося, у хлопчыка ў руках быў пісталет, і Міхед пастараўся хутчэй стуліцца за вуглом хаты — ліха з ім, з тым хлапчанём. Ён сам сабе падумаў тады: «От бандзюкова кодла, яшчэ штаноў другое не навучылася падцягваць, а ўжо з пісталетам бегае».

Гэтак і засталося нікому невядомым, хто навёў на партызанскага сувязнога Гарасіма Кухаронка гестапаўцаў. Пакрысе ўсё ўсталявалася, забылася, і калі Міхеда Крыварота і яшчэ колькіх гэтакіх, як ён, судзіў Ваенны трыбунал, дык ён, Міхед, быў апошняй спіцай у коле. Знайшліся большыя злачынцы. Яго абвінавачвалі толькі ў тым, што ён быў фашысцкім паслугачом — збіраў цёплыя рэчы для адубелых на нашым марозе гітлераўцаў ды часамі падпрагаўся да солтыса і памагаў яму спаганяць падаткі. Міхед нават прыгавор выслухаў з прыхаваным задавальненнем. Усё-такі жыць, як бы яно там ні было, лепш, чым парыць зямлю.

— Грамадзяне, каму на Дылеўцы злазіць, падрыхтуйцеся,— пачуўся хрыплаваты голас праваднiка.

Міхед хуценька сцягнуў з верхняй лаўкі мех, у якім былі сякія-такія падарункі дочкам, надзеў бушлат, нацягнуў амаль на самыя вочы шапку-вушанку і, не развітаўшыся з суседзямі па купэ, выйшаў у тамбур. Ён задыхаўся ад радасці, што зноў трапіў у родныя мясціны. Але ў тым, што ён прыехаў дадому, была не толькі адна чыстая радасць. Недзе глыбока ў таямніцах душы былі боль і баязлівасць. Міхед бачыў перад сабою тыя малыя, поўныя страху вочы хлопчыка. Цяпер бы ён не пазнаў таго хлопчыка, ды і ён, хлопчык, наўрад ці пазнаў бы яго, Міхеда. Праўда, Міхед чуў у лагеры, што ў момант страху чалавечыя вочы падобны на фотапласцінку, і тое, што яны тады ўбачаць і адлюструюць, назаўсёды застаецца ў чалавечай памяці. І Міхед цяпер гэтага баяўся.

Міхед саскочыў з прыступкі на зямлю, па якой ён так даўно не хадзіў, зірнуў услед цягніку, які адразу ж адышоў, і акінуў вачыма станцыю. Ён думаў, што тут і цяпер пустка, як тады, пасля выгнання фашыстаў. Але вось убачыў высокую вадакачку, вялікі мураваны дом вакзала, шчыкет, якім былі адгароджаны пуці ад пасёлка. Воддаль, на ўскраі пасёлка, віднеўся двухпавярховы дом. І галоўнае — усё гэта было заліта электрычным святлом. «Значыць, жыццё тут бурліць»,— падумаў Міхед. А ён жа праз усе тыя гады, што быў у лагеры, уяўляў гэта месца пусткай.

Міхед узваліў на плечы мех і падаўся ў бок пасёлка. У першы момант ён нават разгубіўся, не ведаў, куды ісці, аднак добра агледзеўшыся, ён знайшоў дарогу на свой хутар. Яна ішла паўз той двухпавярховы мураваны дом школы, потым выходзіла ў поле і ўжо вілася, як тая вяроўка, непадалёк ад рэчкі Сіважары аж да самага Міхедавага хутара, да якога было кіламетраў дзесяць з гакам.

Насустрач па дарозе Міхеду сям-там трапляліся людзі, і што было дзіўным для самога Міхеда, дык гэта тое, што ён іх чамусьці баяўся. Санная дарога была пракладзена па летняй, і толькі ў некаторых месцах, дзе ўлетку былі выбіты глыбокія калдобіны, яна крыху збочвала на раўнейшае. Аднак Міхед, каб не трапляцца людзям на вочы, сышоў з дарогі і пасягаў па цаліку. Ісці было лёгка: снег быў яшчэ неглыбокі, зямля пад ім добра ўмерзла. І ён ішоў і ішоў, не азіраючыся нават назад, несучы сваю радасць і крыўду. Месца тут было роўнае, не лясістае, толькі

сям-там паўз рэчку трапляліся хмызнякі ды расцяробы. Аднак іх у цемры ночы не бачыў Міхед. Яму віднелася недзе далёка, відаць, пад Заброддзем, белаватае зарыва. Ён здагадаўся, што гэта ад электрычных агнёў.

Гадзіны са тры крочыў па цаліку Міхед. Ён толькі блізка падышоў да дарогі ў тым месцы, дзе калісь стаяў Кухаронкаў хутар. Там ніякіх адзнак жылля не было, і гэта крыху заспакоіла Міхеда. «Мабыць, той хлопец, калі жывы, дык сышоў куды-небудзь, што яму тут аднаму рабіць, як жыць»,— прыкінуў сабе ён і ўжо стараўся больш пра гэта не думаць, а толькі несці ў сабе радасць звароту на радзіму, сустрэчы з дзецьмі.

Міхед не спадзяваўся пабачыць такі парадак на сваім хутары. Ён яшчэ здалёк убачыў пазалочаныя электрычным святлом вокны. Яны, здаецца, радаваліся яго звароту. А адтуль, з Заброддзя, да яго слыху далятала песня, чуўся гармонік, і ён, ужо зусім паспакайнеўшы, падышоў пад акно хаты. Падумаў сабе: «Чаму яны, лайдачкі, сабаку добрага не завялі. Гэтак жа можа і злодзей падысці, і ніхто яго не пачуе». Міхед зірнуў у акно і праз тонкую марлевую фіраначку ўбачыў дзве постаці — дзяўчыны і хлопца. Ён глядзеў на дзяўчыну і здагадваўся, што гэта меншая, Алена, так вырасла, пасталела. «А хто ж бо то за ён сядзіць з Аленай? Гэты, мусіць, і будзе за прымака ў мяне»,— думаў Міхед. Праз момант ён пастукаў у шыбу. Да акна прыпалі тварамі абое, але са святла яны добра не бачылі. Міхед ужо з дзвярэй чуў звонкі, прыемны, гэтакі ж, як калісь быў у маладой жонкі, голас:

— Хто там? — пытаўся той голас.

— Гэта я, дачушка.

— Хто? — здзіўлена перапытала Алена.

— Я, твой тата,— амаль на ўсю сілу крыкнуў Міхед і спалохаўся свайго голасу, бо ён быў нейкім чужым.

Шмарганулася засаўка дзвярэй, і дзяўчына прапусціла ў сенцы чалавека, а потым яна забегла наперад і, каб чалавек не шукаў у цемры дзвярэй, хуценька адчыніла іх і прапусціла яго ў хату. Міхед цяжка скінуў з пляча свой мех ля парога. Кінуўся да дзяўчыны з абдымкамі, не гаворачы, а крычучы:

— А дачушка ж мая, а рыбачка ж мая!

Алена неяк нерашуча рукамі адштурхнула яго, падазрона зірнула і спытала:

— Хто вы такі? Я вас не ведаю.

І ўжо ў наступны момант Міхед заліўся слязьмі. Ён плакаў, прычытаючы, як па нябожчыку:

— Увесь свет выракся мяне. Нават родная дачка не прызнаецца.

Алена кідала вачыма то на хлопца, то на незнаёмага чалавека і не ведала, што ёй рабіць. Угледзеўшыся, яна такі пазнала, што гэта быў яе бацька. Аднак яна не знаходзіла ў сабе таго пачуцця, якое б расхінула яе рукі і падказала б ёй: «Абдымі, пацалуйся з гэтым родным табе чалавекам». Таму яна ў нерашучасці стаяла пасярод хаты і глядзела больш на Віктара, чым на бацьку. А Віктар таксама не ведаў, што яму рабіць. Ён мімаволі апынуўся сведкам нявыспеўшай чужой радасці. Таму ён памкнуўся да дзвярэй і ўжо з парога кінуў Алене:

— Дык я пайду дадому. Заўтра мо пабачымся.

А ўжо за дзвярыма ён пачуў:

— А дзе ж Гэля, што ты адна дома?

— А хіба вы не ведаеце, што Гэля яшчэ летась пайшла замуж у Заброддзе і там жыве?

Больш нічога Віктар не чуў. Ён шпарка крочыў на агні МТС, у свой халасцяцкі пакой у інтэрнаце.

Два гады працуе трактарыстам Забродскай МТС Віктар. Але тая дарога, якою ён сюды прыйшоў, была вельмі пакручастая і цяжкая. Віктар часам забываецца на ўсё тое перажытае: не век жа свой насіць у сабе такія цяжкія ўспаміны дзяцінства. Чалавеку ж заўсёды хочацца радасці, акрыленасці, надзей, і калі ён не будзе ў думках сігаць уперад, а заўсёды азірацца толькі назад, дык наўрад ці ён адчуе ўсю паўнату чалавечай радасці. На рабоце справы ў Віктара ішлі вельмі добра. Ужо ў першы год пасля сканчэння школы механізацыі ён выканаў план мяккага ворыва. І калі на яго ўвесну глядзелі, як на маладога, зялёнага, дык увосень яго імя занесена было ўжо на эмтээсаўскую Дошку гонару. А ўзімку на рамонце машын ён паказаў сябе як лепшы знаўца трактара, як майстра, у якога ў руках усё аж гарыць.

Сёлетняй вясной, акурат пад Першае мая, Віктар сустрэў на полі Алену. Дзяўчына нічым асаблівым не вылучалася сярод іншых. Але гэтак толькі здавалася некаторым. Віктар жа, як зірнуў на Алену, дык адразу адчуў нейкае незвычайнае ўзрушэнне, яго нібы нешта апякло. Глыбока ўсхвалявалася хлапечае сэрца. Дагэтуль у Віктa-

ра ніякая дзяўчына не выклікала такога пачуцця. У дзіцячым доме, дзе ён выхоўваўся пасля вайны, у сямігодцы, у якой ён вучыўся, у школе механізацыі таксама было нямала дзяўчат. Ён з імі сябраваў, аднак ні да адной з іх так не гарнулася яго сэрца, як да Алены.

Віктар не любіў расказваць пра сваё мінулае, пра тую страшную летнюю ноч на бацькавым хутары. Калі яна, тая ноч, прыходзіла на памяць, ён стараўся адагнаць успамін, неяк забыцца, бо старая ж уражаная рана баліць, бадай, яшчэ большым болем, чым свежая.

Віктар шукаў неўтрапёнай радасці жыцця, і яна прыходзіла да яго ў тым, што за якія два гады працы ў МТС ён выйшаў амаль што на першае месца сярод трактарыстаў станцыі. Пра яго пісалі ў газетах, нават партрэт змясцілі. Яна, тая радасць, была і ў гэтай вясновай сустрэчы з Аленай. «Такіх дзяўчат, як Алена, і блізка не знойдзеш»,— думаў сабе Віктар пасля таго, як яны ўпершыню сустрэліся на полі. Яму спадабалася ў ёй усё: і крыху кірпаты нос на шырокім, ледзь пасыпаным вяснушкамі твары (ён нават аднаго разу хацеў жартам спытаць у дзяўчыны, навошта яна ластавак спорвала і набралася вяснушак, аднак не асмеліўся), і не вельмі высокі рост дзяўчыны, стройная постаць, і тая стрыманая ўсмешка, якая часам, як сонечны прамень, асвятляла яе твар. У той вясновы вечар Віктар, які вельмі рэдка хадзіў у Заброддзе на танцы, быў там сярод моладзі. На ўтаптанай пад старой раскідзістай ліпай пляцоўцы не адзін танец станцаваў ён з Аленай, а потым праводзіў яе на хутар. Ён нават рады быў, што дзяўчына жыве не ў вёсцы, а воддаль ад яе, і можна будзе пабыць адным, не баючыся, што якое чужое вока будзе глядзець на іх першае каханне.

А ўлетку механізатары Забродскай МТС пагаворвалі ўжо, што ў Віктара з Аленай неўзабаве будзе вяселле і што ён перабярэцца жыць на Міхедаў хутар. Ды Віктар і сам пра гэта падумваў ужо. Праўда, ён Алене яшчэ нічога не казаў. Ды хіба пра ўсё трэба казаць? Яна і сама гэта добра ведала, бо ўжо не ўяўляла, як можа жыць без Віктара.

Аднойчы ўвечары, гуляючы на беразе Сіважары, Віктар расказаў Алене пра сваіх бацькоў, пра тую жахлівую летнюю ноч. Алена слухала, і слёзы блішчалі ў яе на вачах. Яна прыхінулася да хлопца і раптам сама яго пацалавала, мусіць, хочучы пацалункам зменшыць яго боль.

— Вось мо за тое, што ў дзяцінстве ты быў такім няшчасным, я цябе гэтак і кахаю,— сказала яна.— Ды і маё не лепшае жыццё,— прамовіла далей Алена.— Маці памерла, а бацька...— Алена раптам зрабілася задумлівай, твар спахмурнеў.— З немцамі злыгаўся, паслугачом быў...

Віктар выслухаў усё і спахмурнеў. Ён сёе-тое чуў пра Аленінага бацьку, але не надаваў значэння. Навошта яму быў Аленін бацька. Яна сама была ўсім для яго. Зараз жа тое, што ён пачуў з вуснаў дзяўчыны, нейк уразіла Віктара. Ён асцярожна зірнуў на Алену, твар яго балюча перасмыкнуўся. Дзяўчына аж спалохалася.

— Ты не злуй на мяне, Віця, я ж невінавата, што ў мяне такі бацька.

Разышліся яны ў той вечар кожны са сваімі думкамі. Віктар думаў, што вось яно як бывае: у жыцці чалавека, які табе даражэй за ўсё на свеце, раптам адкрываеш нешта новае, чаго ты не спадзяваўся і ніколі не думаў бачыць. Віктару зноў успомнілася ва ўсіх драбніцах, якія захавала яго памяць, летняя ноч на бацькавым хутары. Пяць фашыстаў гэтак неспадзявана ўварваліся ў хату, што бацьку не было ўжо як кінуцца наўцёкі. Віктар сам тады даўмеўся схапіць з-пад падушкі бацькаў пісталет і, сунуўшы яго за пазуху, неўзаметку выскачыць у сенцы. У сенцах ён выняў пісталет і падумаў: калі яго будуць лавіць на двары, то ён жывым у рукі фашыстаў не дасца, а будзе страляць у іх. На двары немцаў не было. Пры сенечных дзвярах Віктар убачыў незнаёмага яму чалавека, які чамусьці сам спалохаўся яго, хлапчука. Віктар адбег тады ад хаты за старую грушу, схаваўся за яе тоўсты камель і адтуль наглядаў, што робіцца дома. Ён бачыў, як немцы вывелі з хаты бацьку і маці, як адзін з іх пстрыкнуў запальнічкаю і страха занялася. У водбісках пажару ён бачыў і таго чалавека, што схаваўся быў за вугал. Немцы пачакалі, пакуль хата добра ўгарэлася, і павялі бацьку і маці па дарозе на Заброддзе. Ён чуў матчына галашэнне, як па нябожчыку. Яно і цяпер стаіць у яго ў вушах. А чалавек той, развітаўшыся з немцамі, пайшоў у другі бок. Віктар хацеў кінуцца за ім следам, дагнаць і стрэліць яму ў спіну, але пабаяўся, што і яго зловяць. У тую ж ноч ён панёс сваё цяжкае дзіцячае гора ў Верамеічы, дзе жыла ягоная цётка — бацькава сястра.

Усё гэта прыйшло на памяць Віктару ў той момант, ка-

лі ён убачыў Аленінага бацьку, які гэтак неспадзявана ўваліўся ў хату. Віктару здалося, што ён і тады з-за грушы бачыў гэтага чалавека. Аднак ён адганяў ад сябе гэтую настырлівую думку. Алена ж казала, што яе бацька толькі памагаў немцам збіраць цёплыя рэчы ды спаганяць падаткі і не вельмі-то віпаваты,— заспакойваў ён сябе. А тая думка пра забойства бацькоў прыйшла, мусіць, таму, што ён наогул усіх, хто так ці інакш супрацоўнічаў з немцамі, ненавідзеў лютай нянавісцю.

Ні назаўтра, ні на трэці дзень, ні нават праз тыдзень Віктар не пайшоў да Алены. Ён за гэтыя дні схадзіў на магілу бацькоў, прыбраў той грудок, на які пасля вайны была пакладзена цяжкая надмагільная пліта. Ён быў поўны невыказнага смутку і не хацеў яго несці людзям напаказ. Хадзіў толькі ў майстэрні, дзе ішоў рамонт трактароў, працаваў так, каб працай заглушыць цяжкія думкі. А ўвечары сядзеў дома і чытаў кніжкі. Але дзіўна, што б ён ні чытаў, у памяці ў яго нічога не заставалася.

Алена пачала ўжо непакоіцца: што сталася з Віктарам. Разы са два вечарамі прыходзіла яна ў забродскі клуб, спадзеючыся сустрэць там Віктара. Аднак яго там не было. Дзяўчына хацела ісці ўжо да яго на кватэру, пагледзець, можа, захварэў хлопец, але пабаялася, каб не ўбачылі людзі і не падумалі чаго дрэннага. Алене нават здалося, што Віктар знарок не хоча сустракацца з ёй, і яна пакутавала ад гэтага. Нават стары Міхед, які пасля таго, як вярнуўся дадому, зрабіўся нейкім абыякавым да ўсяго, і той заўважыў і не змоўчаў:

— Дык чаго ты гэта ходзіш, як сама не свая?

— Нічога. Так сабе.

— Бачу, што не так сабе. А хто гэта за ён такі, гэты твой кавалер, што быў тады, як я прыйшоў? — спытаў бацька.

— Сын таго Кухаронка, што фашысты калісь павесілі.

Алена ўважліва зірнула ў той момант на бацьку і ўбачыла, як балюча перасмыкнуўся яго твар, як стары адразу збялеў і грузна асунуўся на лаву, нібы што ў яго забалела.

— Тата, што гэта вы?

— Ды так, нешта нездаровіцца.

Алена глядзела на бацьку, і ёй рабілася шкода старога. Хоць яна і адвыкла ўжо ад бацькі, але недзе ў глыбіні душы варушылася, пякло пачуццё жалю. «Стары, небара-

ка, столькі яму давялося пераўжыць»,— падумала яна сабе, а ўголас сказала:

— Тата, дык вы ляжце на ложак.

Яна хуценька раскінула падушкі, і стары Міхед, паслухаўшыся дачкі, пайшоў да ложка.

Стары сказаў дачцэ няпраўду: яго дацінаў не фізічны боль,— балела душа, і пякучы боль яе быў выклікаНЫ тым, што яна, Алена, яго апошняя надзея, мусіць, кахае таго, чыйго бацьку ён сваімі рукамі аддаў на згубу. Ён і рады быў, што ўсе тыя дні Віктар не прыходзіў, бо баяўся, што той былы хлопчык можа цяпер пазнаць яго, а як пазнае, то не даруе яму. І калі ўвечары што-небудзь шкрабала ў сенцах, Міхед палохаўся. Яму здавалася, што вось зараз Віктар пераступіць парог хаты і крыкне на ўсю сілу: «Забойца, ты паслаў на той свет маіх бацькоў!» Яму думалася, што ўжо ўсё Заброддзе ведае пра яго таямніцу. Міхед з тыдзень не паказваўся на людзях. Толькі тады ён супакоіўся, калі, падумаўшы, чаму быць, таго не мінеш, схадзіў у праўленне калгаса. Там было нямала людзей. Быў сярод іх і Віктар. Аднак ніхто яго там ні ў чым не ўпікнуў. Наадварот, усе абыходліва з ім гаварылі, распытвалі, дзе ён быў і як жыў праз усе гэтыя гады. А ў яго дык нібы мову адняло. Ён адказваў неахвотна і скупа:

— Ат, як жыў, так і жыў.

Потым людзі бачылі, як стары Міхед хадзіў на калгасную работу. Ён падрадзіўся віць вяроўкі і цэлымі днямі не выходзіў з вялізнай стадолы. Міхед нават радаваўся, калі да яго ніхто не заходзіў. Яму не трэба было хаваць вачэй і рабіць выгляд, што ён рады чалавеку ў той час, калі ён баяўся людзей, іх пільных позіркаў, іх смеху, іх весялосці і радасці. У гэтай стадоле яму і прыйшла думка перабрацца да старэйшай дачкі Гэлі. Там ён пражыў дні са тры, але заспакаення не знайшоў. Наадварот, тое, што Гэля жыла ў вёсцы і што кожны раз увечары хто-небудзь прыходзіў у хату пагуляць, мучыла Міхеда. Яму хацелася глухой бязлюднай адзіноты. І ён шукаў яе, але нідзе не знаходзіў.

Усе гэтыя тры вечары, як старога не было дома, Віктар прыходзіў да Алены. За той час, што прабыў дома адзін, ён шмат чаго перадумаў. Урэшце прыйшоў да вываду — хіба мала чаго можа прыйсці ў галаву,— разважыў і нават знайшоў заспакаенне: не можа быць, каб Аленін бацька быў з такіх. Яна ж вунь якая добрая, сардэчная. Відаць жа, і бацька яе такі. А тое, што стары

заблытаўся, дык хіба мала хто заблытваўся, блудзіў па гэтакім раздарожжы. Да яго вярнуўся ранейшы настрой, і ён у гэты вечар канчаткова вырашыў пасватаць Алену. Гэта, можа, нават і добра, што бацька яе вярнуўся: усё ж такі стары чалавек, усяму дасць лад, не тое што яны, маладыя, зялёныя.

— А дзе гэта бацька твой? — спытаў Віктар у Алены.

— У Гэлі гасцюе. Яму цяпер толькі гасцяваць. А навошта ён табе?

— Я так мяркую, калі ўжо ў нас што якое будзе, дык і ў яго ж трэба спытаць. Не чужы ж ён табе, ды і мне, мусіць!

— Віктар, які ты харошы ў мяне! А я думала, што бацьку майго будзеш ненавідзець за сваіх бацькоў,— сказала Алена і гэтак ласкава зірнула на Віктара, а потым абняла і пацалавала. Ім абаім здавалася, што яны цяпер самыя шчаслівыя на свеце і што ніхто-ніхто не зможа заплямiць чым-небудзь іх гэтае вялікае чалавечае шчасце.

Зарыпеў пад акном снег ад чалавечай хады. Віктар з Аленай кінуліся да акна. Алена пазнала бацьку па кажуху. А стары колькі хвілін стаяў пад акном, глядзеў на Віктара з Аленай, на іх маладое шчасце і думаў сабе: ці ісці яму ў хату, ці вярнуцца назад да Гэлі. Аднак пасля таго як яго заўважылі, варочацца ўжо не было як. І ён пайшоў у хату. Алена ўзрадавалася бацькаваму прыходу. Ды і Віктар сёння неяк адменна шчыра павітаўся з Міхедам. Ён нават усміхнуўся старому, і Міхед заўважыў у гэтай усмешцы і радасць, і збянтэжанасць.

— От добра, тата, што вы прыйшлі,— сказала Алена.

— Вельмі добра, тата,— паўтарыў за ёй Віктар.

Міхед здагадаўся, што паміж імі перад гэтым адбылася сур'ёзная гаворка і што, мусіць, яны дамовіліся аб усім і цяпер чакаюць толькі яго, бацькавага, благаславення. Але гэтае «тата», пачутае з Віктаравых вуснаў, нібы нажом разанула Міхеда. Яно, здаецца, напоўніла галаву такім шумам, звонам, што цяпер ён нічога больш і не чуе, апрача гэтага «тата». Але Міхед мімаволі не сказаў, а нібы выціснуў з сябе:

— Дык бярыцеся ўжо ды жывіце шчасліва, калі яно так выйшла.

Казаў гэта Міхед і хаваў ад Віктара свае выцвілыя вочы. Але Віктар гэтага не бачыў: ён быў ахоплены невыказным шчасцем, не адыходзіў ад Алены, ужо не саромеўся бацькі. А Міхед баяўся глядзець на іх блізкасць.

Цэлы тыдзень займаў чарэнь печы Міхед. Алена ўжо занепакоілася, што гэта робіцца з бацькам. Яна хацела схадзіць па доктара, але бацька сказаў:

— Не трэба, дачухна, пройдзе.

Аднак Міхедава хвароба не праходзіла. Прыступы таго душэўнага болю, які нявечыў яго, былі асабліва моцнымі тады, калі ў хаце быў Віктар, калі ён, нібы родны сын, звяртаючыся да старога, зваў яго татам. Перад Міхедавымі вачыма адразу паўставаў Кухаронкаў хутар і той хлопчык, які выскачыў тады з дзвярэй. Міхед часам ціхенька плакаў. Былі нават хвіліны, калі яму хацелася ўдушыцца гэтым плачам. Але наставала і прасвятленне: гэта тады, калі Міхед думаў, што ніхто пра тое жудаснае мінулае не ўведае, абы толькі ён, Віктар, не пазнаў яго. Цяпер-то Міхед быў упэўнены, што час сцёр з Віктаравай памяці той жахлівы малюнак.

Аднак Міхед усё не злазіў з печы. Алена з Віктарам не ведалі, што рабіць. На нядзелю было ўжо наказана гасцям, каб прыходзілі на вяселле. Але як яго было гуляць, тое вяселле, калі ў хаце хворы чалавек. Віктар неспадзявана для старога Міхеда прывёў доктара. Той абстукаў, абслухаў хворага і сказаў:

— Нічога я ў вашага старога не знаходжу. Відаць, нервы трохі гуляюць. Яму трэба супакоіцца.

І Алена з Віктарам стараліся даваць старому супакаенне: яны яго лішне не турбавалі ні роспытамі, ні назойлівым даглядам, і гэта Міхеда яшчэ больш мучыла. Яму здавалася, што і дачка, і будучы зяць здагадваюцца пра яго страшэнную таямніцу, але маўчаць толькі таму, што кахаюць адно аднаго. Неяк, калі Алена адна была ў хаце, стары, заварушыўшыся, высунуў галаву з-за коміна і сказаў:

— Можа б ты, Алена, пачакала на іншага чалавека.

Алена здзівілася: адкуль гэта бацьку такое магло прыйсці ў галаву?

— Хіба ён, тата, вам не падабаецца? — спытала яна.

— Я ж не кажу, што ён не падабаецца мне, але тым часам...

І гэтае «тым часам» так і засталося недасказаным.

Пад нядзелю стары ссунуўся з печы. Пачаў сёе-тое рабіць па гаспадарцы. У суботу надвячоркам прыйшла Гэля памагаць сястры рыхтавацца да прыёму гасцей.

Гасцей сабралася-такі парадкам: з МТС папрыходзілі трактарысты, дырэктар. Брыгадзір Віктаравай брыгады

Андрэй Рогач быў за свата. З Віктаравых сваякоў прыйшла верамеіцкая цётка Марына, бо родных больш не было. З Аленінага боку прыйшла сястра Гэля з мужам ды яшчэ сёй-той з Алениных сяброўак. Андрэй Рогач, павязаны Аленіным вышываным ручніком, распараджаўся за сталом. Ён вельмі стараўся, каб усіх участаваць. Раз-пораз гаварыў тосты. Усім было весела, толькі Міхед сядзеў як на памінках. Праўда, ён чаркі са дзве выпіў гарэлкі, але яна пайшла, як вада. Каб крыху затуманіла галаву, можа б, чалавеку лягчэй стала. Алена заўважыла, што з бацькам робіцца нешта няладнае. Яна нахілілася да яго і шэптам спытала:

— Тата, дык чаго гэта вы?

— Не глядзі ты на мяне. Нездаровіцца мне,— адказаў ён нехаця.

А сват не ўнімаўся. Ён то крычаў: «Горка, нельга піць», і Алена з Віктарам цалаваліся, то прыставаў да дырэктара МТС выпіць, і той не мог адкруціцца. Нарэшце дайшла чарга і да старога Міхеда.

— А цяпер, таварышы, я прапаную тост за таго, хто выгадаваў гэтакую дзяўчыну і хто з сённяшняга дня будзе за роднага бацьку нашаму лепшаму трактарысту Віктару Кухаронку.

Услед за тостам усе чаркі пацягнуліся да Міхедавай, якую ён падняў і з якое праз беражкі выліваецца пітво, бо рука ж вельмі калацілася. Ён злёгку чокнуўся з дачкою і зяцем і каўтнуў гарэлку. Аднак яна не пайшла. Яму здалося, што ён выпіў не гарэлкі, а гарачай смалы. Гэтак запякло ўсярэдзіне. А тут яшчэ Андрэй Рогач крыкнуў, як несамавіты: «Горка! Горка!», і ўсе паглядзелі на Міхеда і Віктара. Ён зразумеў, што яму трэба было пацалавацца з зяцем; але ён ніяк не мог гэтага зрабіць. Віктар, адхінуўшы Алену, нахіліўся і пацалаваў цесця. Той увесь пачырванеў, твар яго перасмыкнуўся балючай грымасай. Людзі думалі, што гэта ад выпітай гарэлкі. Але тут жа Міхед папрасіў прабачэння ў гасцей і вылез з-за стала. Алена, каб апраўдаць бацькаў учынак, сказала:

— Тату ўвесь гэты тыдзень нездаровіцца.

Ні Алена, ні Віктар, ні тым больш госці не ведалі, што ў бацькі за хвароба. Міхед залез на гарачы чарэнь печы, ушыўся галавой у мяккую падушку і думаў сваю думу. Яму здавалася: за тым бяседным сталом ён піў з чаркі не гарэлку, а немаведама што. Перад ім мільганула цень знявечанага Гарасіма Кухаронка, з якога ручаінкай цякла

кроў. І колькі ён, Міхед, ні намагаўся пераступіць тую ручаінку, нага ніяк не можа перасігнуць яе. Стары не мог дачакацца канца вяселля. Музыка не кранала яго сваёй весялосцю. Яна нібы пілавала, рэзала нутро.

Ды каб толькі Міхеду адно вяселле перабыць, а то ж усё жыццё давядзецца жыць з Віктарам у адной хаце, хадзіць па адных сцежках і заўсёды перад сабою бачыць тую крывавую ручаінку. Яму было балюча думаць пра гэта. Міхед на момант задрамаў, але сну спакойнага не было. Яму снілася, што нечыя, усе ў крывавых мазалях, рукі, як абцугі, цягнуліся да яго шыі. Ён хоча крыкнуць, але голас яго толькі сіпіць... Калі ён прачнуўся, дык халодны пот выступіў у яго на лбе.

На другі дзень, пад вечар, калі ўжо хата апусцела ад гасцей, а дачка з зяцем пайшлі ў пярэзвы да Гэлі, Міхед злез з печы, адшукаў добрую торбу з почапкамі, каб можна было зачапіць яе за плечы, паклаў ладны бохан хлеба, кавалак сала. Сеў на зэдлік, абуў на ногі тыя валёнкі, якія сам нядаўна падшыў халявамі старых ботаў, потым дастаў з шуфлядкі стала сшытак, выдраў адтуль лісток у касую лінейку і такім каравым, як і ўсё яго жыццё, почыркам напісаў: «Бывай, дачухна. Не ўздумайце мяне шукаць, бо нідзе не знойдзеце. А з вамі разам жыць не магу. Навошта вам хворы чалавек?»

А на світанні Алена з Віктарам пайшлі шукаць бацьку. Непадалёк ад дарогі на чыстым свежым снезе яны знайшлі не замецены яшчэ след. Ён быў не вытаптаны, а як бы ўмяты, і Алена пазнала, што гэта след ад тых валёнак, якія нядаўна бацька сам падшываў. Але дзіўна, чаму ён не ішоў па дарозе? Яны пайшлі па следу аж да самае Дылеўкі. Заўважылі, што там, дзе калісь стаяла хата Віктаравага бацькі, след збочыў амаль да самага берага Сіважары. У Дылеўцы яны не знайшлі старога, ды і след яго зусім згубіўся.

Калі Віктар з Аленаю вярталіся назад з Дылеўкі, паднялася завіруха. З рэчкі, як белая смуга, слаўся па зямлі дробны снег. Ён замёў і тыя сляды Міхеда, якія яны бачылі, ідучы ў Дылеўку.

1955

# МЕЗЕНЫ ПАЛЕЦ

Урочышча Гарэлае гала было за свет ад сядзібы дронькаўскага калгаса «Пяцігодка». Мужчыны ведалі, што ў канцы чэрвеня ці ў пачатку ліпеня трэба добра адклёпваць косы, напакоўваць торбы правіянтам і выпраўляцца як бы ўпрочкі ад жонак, ад матак і каханак з панядзелкавай раніцы да самага суботняга вечара. Калісь, як яшчэ жылі пры аднаасобніцтве, ды і ў першыя гады пры калгасе, звычайна ў панядзелак на світанні з Дронек выязджаў цуг фурманак. На сонцы срэбрам паблісквалі добра адклёпаныя косы, у прасторы луналі песні, і нейкая малайцаватая зухаватасць захапляла нават старых дронькаўскіх мужчын. Гэта было як бы якое свята, асабліва для тых малых падшывальцаў, якія падвозілі мужчын да Міхнаўскага пералазу, адкуль яны ўжо ішлі пеша па балоце, несучы на сабе торбы, косы, граблі і насілы, бо далей ніяк нельга было ехаць — коні грузлі ў балоце па самае чэрава. А малыя падвозчыкі вярталіся адны без мужчын, гонячы коней навыперадкі адзін перад адным. Пазаганяюць, бывала, коней так, што тыя ўжо ў мыле ледзь дацягваліся да Дронек. Цяпер гэтага ўжо няма. Дронькаўскі калгас асушыў за Міхнаўскім пералазам балота, і машыны ідуць па ім, як па асфальце, аж да самага Гарэлага гала. Але завядзёнка выязджаць на сенажаць на цэлы тыдзень асталася і цяпер.

Думалі, што новы старшыня «Пяцігодкі» Спірыдон Цукровік, чалавек вельмі сталы, разважлівы і сур'ёзны, палічыць непатрэбным выбірацца лагерам на цэлы тыдзень і скасуе гэтую даўно ўсталяваную звычку. Асабліва баяўся Анісім Корчык, гэта той самы хлопец, які яшчэ нядаўна быў першым завадатарам гульні ў перагонкі, а цяпер падрос ужо і стаў добрым касцом. Але ў ім яшчэ жыла хлапечая зухаватасць, і ён як бы баяўся страціць яе, нібы з гэтай самай зухаватасцю ён траціў і юнацтва, з якім заўсёды і кожнаму цяжка развітвацца.

Корчык чамусьці недалюбліваў новага старшыню, можа, за яго сур'ёзнасць, праз якую яму нельга было пасушыць зубы са старшынёй і пры яго воку нельга было пацвеліцца з дзяўчатамі. Анісім нават мянушку яму прыдумаў: сухар чэрствы. Старэйшыя людзі то, канечне, не маглі гэтак казаць на свайго старшыню. Ён заўсёды быў з імі ў полі, а цяпер от прыехаў на сенажаць. Адным словам, відно было, што гэта гаспадар, а не які лайдачына,

і людзі нават з першага часу пачалі паважаць і шанаваць у Цукровіку гэтую яго добрую якасць. А што ён там не вельмі гаваркі, дык клопат вялікі, абы вока гаспадарскае меў. Адно от гэты Апісім Корчык, смяюн і забіяка, нешта мае да старшыні, кпіць за вочы і часцяком нават прабуе ў вочы. З тым ранейшым дык ён запанібрата быў. Разам самагонку жлукцілі, а з гэтым ніяк не можа пабратацца.

Звечарэла, і касцы сабраліся на Піліпаў груд да вогнішча, на якім варылася ў вялізным казане вячэра — прэў у густым крупніку цэлы баран. Зачаліся розныя гаворкі, розныя гісторыі, і найбольш іх расказваў Апісім Корчык. У яго гэта выходзіла як па пісаным. Ён любіў пакепліваць нават над старымі мужчынамі, і цяпер, ці то хочучы выказаць сваю дасціпнасць перад старшынёй, Корчык пачаў ужо ў каторы раз менціць язык аб куцапалы мезенец дзядзькі Адама. Гісторыя гэтага пальца далёкая і вялікая: дзядзька вярнуўся без яго яшчэ з грамадзянскай вайны. Але Корчык пра ўсё гэта расказваў па-свойму.

— А от пра мезены палец аднаго чалавека вы, мусіць, і не чулі яшчэ? — пачаў Корчык, хітравата зірнуўшы на дзядзьку Адама, так, што той здагадаўся, пра каго будзе ісці гаворка.— Нябожчыца Ёўга, як яшчэ была маладая, адхапіла яго, ну, не раўнуючы, як пілой. Ён, значыцца, прыйшоў дадому пад добрай мухай і з п'янага глузду ўсчаў у хаце калатнечу. А нябожчыца Ёўга была такая, што не кладзі ёй палец у рот. Толькі гэта ён узяў дзяжку і джыгануў ёй жонку, яна на яго асой паляцела і джыг зубамі за палец, і мезенца як і не было, нібы ён і не рос у чалавека.

Мужчыны цыкалі на Корчыка, каб ён не вельмі разбрэхваўся, шморгалі яго за крыссе каптана, але не такі Корчык чалавек, каб змоўкнуць, недакончыўшы таго, што пачаў. Ды, праўду сказаць, і мужчынам каторым цікава было паслухаць, паглядзець, як дзядзька Адам усхопіцца і счубіцца з Корчыкам за несусветную брахню. Але па гэты раз дзядзька Адам патупіў вочы і зрабіў выгляд, што нібы і не пра яго ідзе гаворка. Ён толькі адно буркнуў:

— Ат, мялі, Корчык, язык у цябе без касці, а галава без розуму.

— Ён заўсёды з сваім языком улезе і менціць немаведама што,— умяшаўся ў размову каржакаваты, немалады ўжо мужчына Піліп Здаравец.

— Дык, можа, і пра вас гэта брэшуць? — перакінуўся з дзядзькі Адама на Піліпа Здараўца Корчык.

— І пра мяне ўсё, што ты ні скажаш, брахня.

— Людзі добрыя, вы чуеце? — звярнуўся да мужчын Корчык.— Дзядзька Піліп кажа — брахня, што ён калісь, як быў яшчэ аднаасобнікам, не меў крошкі сала.

— А не вельмі-то і меў. Сала ж не лыка, з ліпкі не падзярэш яго. А свіней гадаваць хіба было чым?

— Я ж і кажу. А вы ж на гэтым самым грудзе калісь варылі сабе юшку з цыбуляй, а каторыя з салам, і ўсё сваю бабку Марфачку лаялі, што яна салам запаскудзіла казан. А таго сала ў вас і звання не было. Хацелі толькі пафанабэрыцца, што і вы ад багачоў недалёка адскочылі.

— Няпраўда, нічым не фанабэрыўся я. Брэшаш, Анісім, цябе ж яшчэ тады і на свеце не было,— дабрадушна ўшчуваў манюку Піліп Здаравец.

— Мяне не было, дык другія былі. Старыя людзі добра ведаюць вашу завядзёнку фанабэрыцца нават тым, чаго вы ніколі не мелі. Яны і мне ўсё гэта пераказалі, а я цяпер старшыні ўсё гэта кажу, няхай і ён ведае, які вы стары манюка і фанабэра.

— Дык мне цяпер такі і ёсць чым фанабэрыцца, жыву сабе як той пан, хоць на мне і сялянскі жупан.

Цукровік чамусьці не звярнуў увагі на казань пра Піліпаў скаромны казан, мо таму, што Корчык не вельмі ўдала расказваў. Старшыні больш рупіла гісторыя пра Адамаў мезены палец, і ён, як толькі настаў перапынак у перастрэлцы словамі паміж Корчыкам і Піліпам Здараўцом, уставіў сваё:

— Дык ты, таварыш Корчык, ведаеш адну гісторыю пра мезены палец, а я ведаю другую, зусім іншую, і не брахню, а чыстую праўду. Ты кажаш, жонка адкусіла палец? Добрая, відаць, у вас, дзядзька Адам, джыгалка была?

— Брэша, дый годзе, гэты Корчык. Ён пра каго хочаце можа збрахаць так, што веры дасі,— уставіў як у апраўданне і сваё і дзядзькі Адама Піліп Здаравец.

— Раскажыце нам, таварыш старшыня, пра той палец,— папрасілі мужчыны.

— Няхай, можа, другім разам, бо гэта доўгая і страшная казань. Проці ночы расказваць не хочацца.

— Мы не пужлівыя, мы таксама сёе-тое бачылі,— азвалася разам некалькі мужчын.

— Ну то калі не вельмі баіцеся, дык, можа, і раскажу.

Вечар быў ціхі-ціхі. Над сонным балотам яшчэ сям-там абзываўся які-небудзь начны птах. Цішыня цадзілася,

здаецца, з высокага цёмнага летняга неба, на якім рэдка-рэдка выступалі зоркі, з навакольнага лесу, што абгінаў цёмнай падковай Гарэлае гала. Толькі час ад часу ў рэчцы плюхала хваля, мо падскоквала якая рыбіна. Ціха было і ля вогнішча. Адно патрэсквала сухое ламачча на агні, і ад гэтага рабілася неяк дамавіта і незвычайна казачна. Спірыдон Цукровік прыпаліў ужо ад галавешкі трэцюю папяросу. Сяды-тады ён закашліваўся, і мужчыны чакалі, калі пройдзе той кашаль. Анісім Корчык, які спачатку быў далекавата ад вогнішча, уюном пралез праз увесь гурт да старшыні, прылёг, успершыся шчакой на правую руку, і глядзеў старшыні ў рот, нібы ён хацеў не толькі чуць, але і бачыць кожнае слова. І як яму ні карцела перабіць старшыню, перапытаць у яго што-небудзь, ён не асмельваўся ўставіць сваё слова. А гаворка лілася і лілася, як вясновы ручай. Мужчыны каторыя ўздыхалі, каторыя, старэйшыя, божкалі, спачуваючы таму, пра каго расказваў Цукровік.

...Уся пушча ў партызанскіх руках была, немцам туды паткнуцца не давалі. У лесавых вёсках як была Савецкая ўлада, так і засталася. А на бліжэйшыя ад пушчы гарнізоны брыгада дзядзькі Тамаша таксама наводзіла жах. Колькі перабіла яна, пераламіла, як тых сонных курэй, эсэсаўцаў, паліцаяў, колькі папаўзрывала рэек і, мусіць, ужо такі даняла фашыстаў, што яны аж з фронту знялі дывізію і пусцілі, каб партызан у блакаду ўзяць.

— Цэлы тыдзень вяла брыгада няроўны бой. Не пускала фашыстаў у лес, а яны наважылі, як бы там ні было, разбіць брыгаду. Самалётаў напусцілі, танкаў. Цэлы дзень бамбілі партызанскі лагер, усе буданы паразбівалі, а потым пайшлі ўжо атакаю. Партызаны залеглі на ўскраі пушчы і чакалі, каб не пусціць фашыстаў у сярэдзіну лесу. Ды трэба сказаць, немцы і самі не вельмі патыкаліся ў лес. Перад невялічкай палянкай, непадалёк ад рачулкі-балацянкі завязаўся бой. Трымаў абарону там наш адзін атрад. Пяць атак адбіў ён, а ў шостую сам пайшоў. І вось тады і здарылася: нямецкая куля прабіла камандзіру нагу вышэй калена. Трэба весці атаку, а ён не можа. Паспрабаваў бегчы і ўпаў потырч. Фашысты бачаць, што ў партызан нявыкрутка, усім гамузам кінуліся. Колькі на той палянцы наклалі іх, як снапоў абмалочаных, але ж і нашы не ўтрымаліся. Нехта з партызан падбег да камандзіра, каб мо ўзваліць на плечы і панесці яго, але непададлёк і сам упаў, як падкошаны. Камандзір хацеў ужо жыццця рашыць сябе, пусціць кулю ў лоб, але не паспеў. Ба-

чыць ён, аж ля трупаў ходзіць даўганогі, худы-худы, як трэска, эсэсавец. Хацеў як-небудзь злажыцца ды з пісталета кулю пусціць у фашыста. Але ніводнага патрона ў абойме не асталося. А той ходзіць каля забітых, каля параненых,— хто яшчэ жывы, таго дастрэльвае. Не толькі нашых, нават сваіх. Гэтакі гад, мусіць, быў. Падышоў да камандзіра. Бачыць, той ляжыць, падплыўшы крывёю. Абшнырыў кішэні, забраў пісталет. А камандзір і не дыхае, пласт-пластом ляжыць. Немец навёў на грудзі пісталет, хацеў, мабыць, стрэліць, але і ў яго, відаць, выйшлі патроны. А чалавек ужо не мог трываць, каб не застагнаць ад болю, не задыхаць, бо ўжо колькі часу ляжаў, не дыхаючы. Як на тое ліха ў камандзіра на мезеным пальцы быў залаты пярсцёнак. Яшчэ да вайны абмяняліся з дзяўчынай — ён свой даў вялікі, а яна свой маленькі, і ён як надзеў яго на мезенец, дык колькі ні спрабаваў зняць, гэтак і не зняў, аж, здавалася, у мяса ўрос... А фашыст усё падазрона глядзіць, мусіць, гад, скмеціў той падарунак. А потым камандзір бачыць, немец нож дастае. Ну, думае, канцы. З белым светам у думках развітваецца. За якую мінуту ўсё жыццё ад самага маленства ўспомнілася яму, прабегла ў памяці, як самае дарагое і беззваротнае. Нават тыя скрухі, якія часам былі, здаліся нечым харошым-харошым. Успомнілася маці, яе развітальныя словы: «Ты ж беражы, шануй сябе, сынок, пад кулю не лезь». Дык от жа пад кулю не падлез, дык пад нож, як той баран. Трэба было ж як-небудзь адпаўзаць, не зважаючы на боль. Паддаўся болю, дык цяпер не бойся смерці. Глядзі ёй у вочы і не маргні. Інакш убачаць, што ты жывы, тады пакуты ў палоне. А так хоць адразу смерць. А эсэсавец стаіць, глядзіць на акрываўленага чалавека. Потым падышоў, узяў левую руку, паспрабаваў зняць пярсцёнак, але ён не здымаўся. Тады ён узяў дый адхапіў нажом мезены палец.

У Корчыка падламілася рука, якой была падперта галава.

— Як жа ён вытрываў такі боль? — зжахнуўся Корчык.

— Жыць хацелася, жыць трэба было, дык і вытрываў. І ты вытрываў бы, каб давялося.

— Не кажыце, не вытрываў бы ён. Ён толькі каля дзевак маладзец ды кепікі строіць майстар,— уставіў сваё дзядзька Адам.

— ...А камандзір, сцяўшы зубы, змоўчаў, як бы і сапраўды нежывы быў. Ні адзін мускул не здрыгануўся, ні адзін волас не варухнуўся. Яму і голас нешта перахапіла, хоць бы ён і хацеў крыкнуць, дык голасу не было. Ён ужо сам, мусіць, не мог зразумець, ці жывы ён, ці мёртвы. Думаў, можа, гэта смерць такая. Ніхто ж не ведае, як яно пасля смерці бывае. А фашыст адрэзаў мезенец, садраў пярсцёнак, а палец кінуў у траву.

Бой ужо грымеў недзе далёка па ўсім лесе, і нельга было зразумець, дзе нашы, а дзе фашысты. Неўзабаве немцы падагналі фурманку і пагрузілі на яе чалавек з дзесяць забітых карнікаў, навысякалі бярозавых комлікаў, мусіць, на крыжы і паехалі. У густой траве асталося толькі трупаў пяць нашых. Камандзір расплюшчыў вочы і пабачыў вакол сябе забітага напавал Рыгора Комліка, свайго смелага разведчыка і лепшага сябра, які кінуўся быў ратаваць ад смерці камандзіра.

Бралася ўжо на вечар. Туман клубамі каціўся па лясных лагчынах, па палянках. Патыхала вільгаццю ад недалёкай рачулкі. Параненая нага ў камандзіра была як калода. Паспрабаваў павярнуць яе, і нечалавечы боль аж у мозг стрэльнуў. Кроў, хоць крыху і запяклася, але ўсё ж не спынялася. Трэба было чым-небудзь раны перавязаць. Але чым? Як? Трэба было і адпаўзці куды-небудзь, а то яшчэ адумаюцца і вернуцца назад немцы, бо непадалёк чулася іх швэргатанне, чуліся рэдкія стрэлы. Відаць былі вогнішчы. Значыць, карнікі не збіраліся пакідаць лесу. Мусіць, думалі і пазаўтра весці бой на поўнае знішчэнне партызан.

— А чаму ж партызаны не прыйшлі па свайго камандзіра? — спытаў нецярпліва Корчык.

— Яны думалі, што камандзір мёртвы, а пасылаць людзей па труп на верную смерць не разумна было б. Канечне, каб яны ведалі, што камандзір толькі паранены, знайшлі б які спосаб выручыць яго.

— От жа, брат, чалавеку далося гора пакаштаваць,— паспачуваў камандзіру Піліп Здаравец.

— Не кажы ты, па вайне яшчэ і не такое бывае. Гэта ж як мне тады ў грамадзянскую вайну палец адбіла,— умяшаўся ў гаворку дзядзька Адам, мусіць, хочучы ўсё-такі абвергнуць перад старшынёй Корчыкаву хлусню пра яго мезенец і ў каторы раз расказаць даўно вядомую гісторыю. Але мужчыны не далі Адаму гаварыць, і ён, нездаволена чмыхнуўшы, змоўк.

— А як жа ён, небарака, выбраўся з таго пекла ці, можа, загінуў? — спытаў нехта з касцоў.

— Выбраўся і не загінуў,— гаварыў далей Цукровік.— Як толькі добра ўцямнела, дык ён, беручыся здаровай рукой за траву, за ядлоўцы, папоўз да ракі. Возьмецца гэтак рукой, падцягнецца і адпачне крыху. Немцы ўжо заціхлі. Чутно было, хадзілі толькі вартавыя ды дазорцы. Яны таксама баяліся. Баяліся партызан, баяліся лесу, баяліся нашай зямлі, нашага неба, бо ўсё яно чужое і варожае было для іх. А камандзір поўз па роднай зямлі, прыпадаючы да яе, як да ратунку. Сяк-так дацягнуўся да рэчкі, напіўся вады, і яму зрабілася лягчэй, як бы ён гаючага чаго выпіў. Зняў сарочку і цесна-цесна закруціў рану па назе. Але боль не ўнімаўся. Ён, здавалася, пранізваў навылет усё цела. Чалавек ужо ніяк і нічым не мог змагацца ні супраць таго болю, ні супраць той абыякавасці, якая паволі апаноўвала яго. Хоць ён і ўсведамляў, што абыякавасць — гэта смерць, але што ён мог зрабіць, калі не было сілы ні ўстаць, ні пайсці, ні хоць бы папаўзці. Здавалася, на тое, каб дапаўзці да рэчкі, ён страціў увесь запас энергіі. Ён ужо не мог нічога ні думаць, ні спадзявацца на што, апроч смерці, бо толькі яна адна магла вырваць яго з пакуты, заглушыць боль, навекі ўціхамірыць сэрца, думкі, кінуць чалавека ў небыццё. І як ні дзіва, у яго ўжо не было ні страху, ні жалю. Хацелася адно — хоць дачакацца відна і яшчэ хоць раз зірнуць па белы свет, развітацца з ім. Але ён не дачакаўся раніцы: усё — і лес, і рэчка, і ён сам, і зямля, і неба — як бы праваліліся ў бездань.

— Дык ён памёр? — нецярпелася Корчыку.

— Можа б, і памёр, калі б не выбухі гранат, не страляніна, якая ўсчалася там. Яна яго абудзіла. Ён апрытомнеў і ўбачыў над сабой камандзіра брыгады, адчуў, як брыгадны доктар нечым націраў яму скроні, нешта даваў нюхаць пад нос.

— Значыцца, нашы падаспелі? — спытаў дзядзька Адам.

— У час падаспелі. Адзін з байцоў атрада выказаў думку, што, можа, жывы іх камандзір, што, можа, яго забралі ў палон і мучаць там. Камандзір брыгады прыняў рашэнне: перагрупаваць сілы і кінуць брыгаду на выручку таварышу. Заспелі немцаў знянацку і гэтакага пытлю ім далі, што яны адцураліся і сваіх мінамётаў, і кулямётаў,

а той даўгавязы карнік, які адрэзаў палец, сам застаўся нашую зямлю парыць.

— Малайцы нашы хлопцы, нашы свайго ў крыўду не папусцяць,— выказаў сваё захапленне Піліп Здаравец.

— А камандзір, як толькі апрытомнеў,— расказваў далей Цукровік,— папрасіў, каб яму той немцаў нож прынеслі.

— Навошта ён яму спатрэбіўся?

— Такая памятка. Можа, думаў, што яшчэ давядзецца паваяваць, дык адпомсціць каторым. Канечне, не пальцы адразаць, як той немец. Камандзір жа не звер быў. У чэсным баі хацеў пaквітацца з фашыстамі. Ды не давялося. Пакуль ён вылечыўся — аж у Маскву яго былі завезлі на самалёце,— а потым, калі ён ужо вярнуўся, дык немцаў і звання не было на Беларусі. Іх ужо дамалочвалі пад Берлінам. А партыя яго пакінула тут аднаўляць жыццё, ставіць на ногі гаспадарку.

— Гэта, мусіць, ваш камандзір быў, што вы ўсё гэтак добра пра яго ведаеце? — запытаў дзядзька Адам.

— Так, я добра яго ведаю, у нас з ім не шапачнае знаёмства было.

— А дзе ён цяпер? — хацелася хутчэй уведаць Корчыку.

— Ён цяпер? — старшыня неяк дабрадушна і як бы па-змоўніцку ўсміхнуўся, акінуў вачыма ўсіх мужчын, што сядзелі наўкола вогнішча і, відно было, чакалі яго адказу, пабавіўся крышку і сказаў:

— А ён тут з вамі нядаўна сёрбаў крупнік з баранінай.

Усе міжволі паглядзелі адзін на аднаго, потым на дзядзьку Адама, на яго адцяты палец.

— Дык гэта вы, мусіць, самі? — заглядваючы на левую старшынёву руку, пытаў Корчык.

— Так, таварышы, гэта я трапіў быў у самыя лапы фашыстаў.

Усе паглядзелі на свайго старшыню, як бы от толькі што той эсэсавец адхапіў нажом мезены палец.

— А ты, Корчык, смяешся з майго мезенца, кажаш, мне яго Ёўга зубамі адхапіла. Чуеш, якія праявы бывалі з мезенцамі,— сказаў сваё дзядзька Адам, нібы і яму не хто іншы, як той самы эсэсавец, адрэзаў нажом палец, і нібы ён нават не войкнуў ад болю.

— Ты ўжо са сваім мезенцам, дзядзька Адам, не лезь сюды,— падсоўваючыся бліжэй да старшыні, сказаў Кор-

чык. І сапраўды, ён толькі цяпер заўважыў, што ў старшыні на левай руцэ няма мезенага пальца.

Назаўтра ўжо, калі старшыня хадзіў па пакошы, усе заўважылі, што ён сапраўды трохі накульгвае на правую нагу. Анісім Корчык зусім іншымі вачыма паглядзеў на старшыню і сумеўся, нібы ён сёння яго ўпершыню ўбачыў, і ў думках сам сябе пашкаляў, што часам строіў з чалавека кепікі. Цяпер Корчык стараўся падкруціцца так, каб быць бліжэй да старшыні, параіць яму што-небудзь.

— Калі ж вы ўжо сваю сям'ю прывязеце? — спытаў аднойчы ў старшыні Корчык.

— Баюся, скажаш, што і мне жонка адкусіла палец.

— Ды не, таварыш старшыня. Гэта я так, блазнаваў. Я ж ведаю, што і Адаму не жонка адкусіла, але ў нас завядзёнка такая — смяяцца з таго, хто злуе, асабліва ўвечары на сенажаці.

Людзі тады працавалі гэтак дружна, што да суботы Гарэлае гала як надмялі, а Корчык ехаў з сенажаці на адным возе са старшынёй.

З таго часу вось ужо чатыры гады Корчык не разлучаецца з Цукровікам. Ён у калгасе стаў лепшым брыгадзірам, а «Пяцігодка» іх стала калгасам тройчы мільянерам, і дронькаўцы не нарадуюцца са свайго старшыні.

[1959]

# ПАСЫНАК

Даўно не быў Міτрафан у Навасёлках. Неяк адразу пасля вайны, дэмабілізаваўшыся з арміі, заехаў ён на бацькава котлішча — пацягнула зірнуць, чым стала родная вёска. Сэрца крывёю аблілося, калі ён яшчэ ад ветракоў угледзеў спуставанне: абапал шляху стаялі абгарэлыя каміны, ды на вогнішчах вецер закручваў віхурчыкі попелу. Гнаныя ад Дняпра фашысты падпалілі Навасёлкі. Праўда, другога канца Навасёлкаў, дзе жыў Міτрафанаў бацька Нічыпар, партызаны не далі спаліць. Гэтак турнулі падпальшчыкаў, што тыя аж зубоў не пазбіралі.

Праз ўсе гэтыя пасляваенныя гады Міτрафан Равуцкі насіў у памяці карціны спусташэння родных Навасёлкаў. Дадому ён не вельмі ездзіў, і калі праўду казаць, дык яго не дужа і цягнула туды. Яшчэ з малых год хлопец выбраўся з вёскі: то вучыўся, то працаваў у горадзе і гэтак да яго прыкіпеў душой, што наўрад ці знайшлася б такая сіла, якая б магла адарваць яго. Зноў жа такі, каб не крывіць душой, дык Міτрафан недалюбліваў дамоўку. З ёю ў яго было звязана столькі крыўдных і балючых успамінаў, што нават яны адны, калі ўсплывалі ў памяці, ранілі сэрца. Міτрафанава маці памерла, як толькі хлопчык стаў на ногі. Неўзабаве бацька прывёў у хату чужую жанчыну і сказаў, каб Міτрафан зваў яе мамай. Язык не паварочваўся ў хлопчыка вымавіць гэтае слова, і калі ўжо была нявыкрутка і абавязкова трэба было сказаць яго, дык хлопчык гугнявіў у нос: «Мам», як бы пратэстуючы тым, што праглынаў апошнюю літару.

Ды і не дзіва, што хлопчык ніяк не мог прывыкнуць да новай маці: яна ніколі на яго ласкава не зірнула, ладна не абазвалася. Міτрафану на ўсё жыццё застаўся ў памяці той дзень, калі спраўлялі бацькава вяселле. На яго нібы ўсе забыліся. Госці пілі і елі, гулялі і весяліліся, а яму ніхто нічога ў руку не даў. Бацька і той нават як бы выкінуў з галавы, што ён, Міτрафанка, яго родны сынок. Адно цётка Аксіння, суседка і матчына сяброўка, якая памагала рыхтавацца да вяселля, падышла да яго, пакрыўджанага няўвагай, і спытала:

— Ці ты хоць ела, дзіцятка, што ці не? Ніхто цябе, сіротку, і не дагледзеў і не прыбраў. Гэтак мурзаты і ходзіш на бацькавым вяселлі.

Яна вывела Міτрафанку ў сенцы, абмыла над цэбрам твар, умурзаны ў вішні, прыгладзіла шорсткай далоняй

старчакаваты віхор і сунула ў рукі пасыпаны цукрам хрумсткі хрушчык. На тым і загавеў хлопчык на бацькавым вяселлі. А цётка Аксіння, ні то дакараючы за вочы бацьку, ні то хочучы ўцешыць хлопчыка, казала:

— Як маці памерла, дык бацька аслеп.

«А гэта мо і праўда?» — падумаў тады Мітрафанка. Такі няйначай, бацька аслеп. Хіба ж ён не бачыць, што Анісся — гэтак звалі Мітрафанкаву мачыху — ужо не раз давала хлопчыку без дай прычыны грымакоў між плеч, апярэзвала вілачнікам нават пры бацьку. А ён дык нібы нічога гэтага і не бачыць. Мітрафану нават здавалася, што бацька знарок адварочваўся, каб не бачыць. І хлопчык плакаў горкімі слязьмі не так ад таго болю, як ад крыўды, чакаючы, што бацька такі не змоўчыць. Аднак жа Нічыпар, замест таго, каб уціхамірыць жонку, накінуўся на сына:

— Ды ціха ты, разрумзаўся, як вадзяны вол.

Такімі сваімі адносінамі бацька як бы даваў патачку Анісі, і яна часта без дай прычыны перыла пасынка. Асабліва не стала ў Мітрафанкі змогі цярпець, калі ў мачыхі спачатку знайшоўся Гараська, а потым і Міхальчык. На добры лад хлопчыку самому яшчэ патрэбна была нянька, а Мітрафанка ўжо не толькі калыхаў у лубяной калысцы дзіця, але і насіў яго перад сабой на руках. Ніколі не забудзецца, як аднаго разу ўлетку, акурат у жніво, мачыха не ўзяла калыску пад постаць, а нажавала суслу, наліла ў пляшку з гумавай соскай паранага малака і загадала Мітрафану глядзець дзіця, папярэдзіўшы, каб яно, барані бог, не парвала пупка крычучы. Смаркатая нянька доўга калыхала дзіця, але тое, каб заснуць, дык ні блізка. Ці ў яго што балела, ці яно так прындзілася, хто яго ведае, дзіця ж не скажа. Аж пот праняў няньку. Мітрафанка даваў дзіцяці суслу, падносіў пляшачку з соскай смактаць. Пакуль яно смактала, дык толькі ціха і ляжала, быццам і спала ўжо, але адно Мітрафанка забіраў суслу ці соску, і Гараська заходзіўся як рэзаны. Дзень да абеду сцёгся няньцы за год. А тут яшчэ акурат у іх пад вакннем хлопцы-падшыванцы, з якімі Мітрафанка таварышаваў, пачалі гульню ў коні. Яны бегалі то паркамі, то выбрыквалі па адным, як стаеннікі, і, нібы на здзек, крычалі:

— Мітрафан, дай таму байбусу ў рот суслу, а сам бяжы сюды!

А Мітрафанку і сапраўды вельмі ж захацелася выскачыць на вуліцу, як таму капю, што застаяўся доўга ў хля-

ве, брыкануць парэпанымі лыткамі і прыпусціцца на ўсю сілу ўздоўж вуліцы. Але што рабіць з гэтым Гараськам? Хлопчык спрабаваў насіць дзіця на руках, спяваць калыханку. Пакуль носіць, здаецца, і спіць і вочы заплюшчаныя, а як толькі пакладзе ў калыску, дык узніме гэтакі гвалт, што хоць ты вушы затыкай. Нарэшце ўсё-такі ці то дзіця змаглося, ці мо перастаў яму жыватоκ балець, Гараська заснуў. Мітрафанка яшчэ з момант пабавіўся ля калыскі, паслухаў, як дзіцятка і ў сне яшчэ хліпала, а потым матануў з хаты. На вуліцы ён адразу ўпрогся карэннікам у Андрэйкаву тройку і гэтак са свежымі сіламі рвануў, што ажно пяткі паблісквалі. Дзіцячая зухаватасць, заўзятасць гульні адагналі Андрэйкаву тройку далёка ад Нічыпаравай хаты. А фурман яшчэ пакрыкваў:

— Гэй, стаеннікі, каб вас ваўкі дралі.

І стаеннікі, асабліва карэннік Мітрафанка, аж са скуры вылузваліся, пудзіліся, намагаючыся выкінуць з вазка фурмана. Мітрафанка нават не заўважыў, як тройка апынулася аж на шляху. Тут толькі хлопчыку цюкнула ў галаву: а што калі там Гараська прачнуўся ды выкуліўся з калыскі. Ён хуценька выпрагся з тройкі і на ўсю сілу прыпусціўся бегчы дадому. Яшчэ не дабегшы да двара, угледзеў расчыненыя сенечныя дзверы. Значыць, мачыха, а мо і бацька, дома? Ужо на панадворку пачуў сіпаваты плач Гараські і мачышын лямант:

— Каб ты сам так учарнеў, як ты счарніў гэтае дзіцятка.

Мітрафанка здагадаўся, што з Гараськам нешта адбылося. Хацеў кінуцца ў адрыну, затачыцца ў сена і перабыць там ліхую гадзіну, дачакацца, пакуль прыйдзе бацька, і мо пры ім Анісся не гэтак будзе перыць яго. Але, прыслухаўшыся, хлопчык пачуў бацькаў голас:

— І дакуль яму ў галаве, трасца яго матары, будуць тыя гульні, каб ён на вяроўцы гуляў. Я яму пакажу, байбусу.

У Мітрафанкі з'явілася яшчэ большая рашучасць схавацца куды-небудзь так, каб ніхто яго не знайшоў, і не аказвацца доўга-доўга, няхай бы яго папашукалі, няхай бы нават думалі, што ён дзе памёр. Хлопчыку вельмі захацелася, каб яго хоць хто пашкадаваў, паспагадаў яму. І толькі гэта ён хацеў кінуцца ў адрыну, каб затачыцца ў сена, як праз расчыненае акно яго ўгледзеў бацька.

— Ідзі, ідзі сюды, каб ты па свеце не хадзіў.

Мітрафанка, шморгаючы носам, калоцячыся і загадзя

плачучы, пераступіў парог хаты. Ужо ў дзвярах яму нешта гэтак дало па галаве, што аж іскры з вачэй пасыпаліся, і ён паваліўся на падлогу. А мачыха падноскамі біла пад бакі, давала кулакамі грымакоў між плеч. Можа б, яна яго зусім знявечыла, калі б не абазваўся бацька:

— Годзе табе, маладзіца, ты ж гэтак хлопца на той свет загоніш,— і бацька схапіў Анісю за руку і жывасілам адцёг ад хлопца.

— Ты таксама такі, як ён,— ускінулася раз'ятраная Анісся на бацьку.— З аднаго балота чэрці. Бач, яму гэтага шкада стала, а таго, што лабок расквасіла, дык і не шкада.

— Мне ўсіх іх шкада,— буркнуў бацька,— мне яны абодва родныя.

А Мітрафанка нават не плакаў уголас, ён толькі нема хліпаў, глытаючы палыновыя слёзы.

— Трэба от так біць,— сказаў бацька і, зняўшы з кручка, убітага ў вушак дзвярэй, раменную пугу, секануў Мітрафанку.

Як бы хто агнём абпёк хлопчыкаву спіну, але ён, сцяўшы зубы, маўчаў. Каб мо ён загаласіў, дык бацькава сэрца, пэўне што, адышло б, але Мітрафанка зацята маўчаў, і гэта яшчэ больш злавала Нічыпара. І ён ссек сына на горкае яблыка. Больш тыдня хлопчык не мог ні сесці, ні легчы без болю.

Гэтая бойка запомнілася Мітрафану на ўсё жыццё. Запомнілася і тое, што Анісся заўсёды як бы шкадавала яму кавалачка хлеба. Сваім дык яна і малака спарыць і хрушчыка спячэ, дык усё ім ды ім. А Мітрафанку, калі ён зайздрослівымі вачамі глядзеў на тое, што елі меншыя, Анісся падносіла пад самы нос дулю, кажучы:

— На добры лад дык табе і хлеба шкада. Гульма гуляеш, на бацькавым карку сядзіш, як той смоўж.

А хіба ж Мітрафанка сядзеў на бацькавым карку? Як толькі трохі падняўся, дык бацька пасылаў яго і за плугам, ён ужо і касу браў і, хоць сілы тае і не выстарчала, усё роўна гнаў пракос, хоць трошкі і вузейшы за бацькавы. На яго ўжо брыгадзір і працадні запісваў. А насіў хлопец абы-што, латанае і пералатанае, ношанае і пераношанае. Гэтая паняверка, можа, і выклікала ў хлопца настырную думку сысці ў свет, куды вочы глядзяць. І от неяк пад канец вясны хлопца не стала ў Навасёлках. Анісся агледзела ўсю хату і адно толькі недалічылася свежага бохана хлеба, кавалка сала ў кублe ды новай торбы. Бацька папахадзіў па Навасёлках, шукаючы, можа, сын

дзе схаваўся. Схадзіў нават у раёп і заявіў у міліцыю. Там склалі пратакол, запісалі прыкметы і сказалі, што калі дзе знойдзецца, дык дадуць знаць у Навасёлкі. І Анісся ўсхадзілася была шукаць хлопца. Ёй не так ужо і шкада было пасынка, адно па свеце погалас пайшоў, што Мітрафанка не вытрымаў здзекаў і ўцёк з бацькавай хаты. А людзі ж не на Нічыпара, а на яе пальцамі будуць паказваць: маўляў, яна давяла пасынка, што той усё кінуў-рынуў ды ў прочкі пайшоў.

Доўгія гады Мітрафанка не аказваўся. У Навасёлках некаторыя пачалі забывацца, што ў Нічыпара Рамо нават каторыя пачалі забывацца, што ў Нічыпара Рамуцкага быў большы сын. Падраслі меншыя. Не ведаючы ніякай прынукі, Гараська і Міхалёк раслі, аж буялі. Потым Гараська скончыў школу і з'ехаў вучыцца ў горад. А Міхалка пасля школы застаўся пры бацьках.

Незадоўга да вайны аказаўся і Мітрафан. Не мог, мабыць, чалавек, маючы бацьку, маючы родны кут, пазбыцца яго ў памяці. Мітрафан напісаў бацьку вялізны ліст, як ён праз усе гэтыя гады жыў-быў. Ліст быў напісаны шчыра, у ім нават і намёку не было на тое, што Мітрафан злаваў на бацьку. А Нічыпар, мабыць, хацеў апраўдацца перад аднавяскоўцамі, што ён і богу душой не вінен у тым, што яго большы сын сышоў з дому, чытаў той ліст кожнаму, каго толькі сустракаў. У бацькі нават нейкі гонар за сына паявіўся.

— А яно, каб сядзеў у Навасёлках, дык што б ён тут выседзеў. Петваўся б, як той чорны вол, на гэтай нашай рабоце, а так чалавекам стаў, па інжынера выйшаў.

У Навасёлках ужо ўсе ведалі, што пасля таго, як Мітрафан уцёк з дому, гады чатыры пабыў ён у дзіцячым доме, а потым працаваў на заводзе, вучыўся ў школе. Затым скончыў інстытут і выйшаў на інжынера. Ажаніўся, і Нічыпар ужо мае ўнукаў. Нічыпар не мог нарадавацца, што аб'явіўся сын. Усё ж, як ні кажы, свая кроў. І хоць пры Анісі Нічыпар і стараўся рабіць выгляд, што першая жонка, Мітрафанкава маці, была для яго як бы і не жонкай, што яе быццам і наогул не было ў яго, аднак жа сам сабе чалавек ведаў, што першая яго Мар'я была жанчына не абы-якая, а з добрай, чулай душой, мела мяккі, пакладзісты характар, і ён вунь як шкадаваў, што не давялося з ёй пражыць жыццё. Вядома, каб жыва была Мар'я, дык нічога б гэтага і з Мітрафанам не адбылося. А так колькі ён сораму набраўся. Праўда, цяпер той сорам абярнуўся гонарам, і дзе на мужчынах Нічыпар возьме ды і скажа:

— Яно мо і праўду кажацца: няма ліха без дабра. Здаецца, мой Мітрафан вунь якое ліха зрабіў, а яно куды павярнула.

Нічыпар ужо колькі разоў пісаў Мітрафану, каб той прыехаў хоць пагасцяваць на бацькава котлішча, хоць паказацца бацьку і людзям, які ён стаў, паказаць жонку і дзяцей. Мітрафан чамусьці ўсё аднекваўся, спасылаўся на тое, што не можа ніяк выбраць вольнага часу. Нічыпар чытаў гэтыя аднекванні і не вельмі верыў сыну. Бацьку ўсё здавалася, што ў Мітрафана, хоць ён і піша цяпер да іх, а часам і грошай сотню падашле, не ўсё добра, не ўсё шчыра на душы. Мусібыць, ён усё-такі гневаецца, калі не на яго, бацьку, дык на Анісю, бо ні ў адным лісце добрым словам не абазваўся да яе. Але ж і родныя сыны не вельмі абзываюцца да маткі, хоць яна іх вунь як глядзела, хрысцілася і малілася на іх, дагаджала і выстарчала ім. Гарасім дык той хоць гады ў рады прышле які ліст, Міхалка пасля таго, як ажаніўся, колькі разоў браўся з маткай за чубкі. Ды і нявестка не раз калашмаціла старую. Гады два назад Міхалка пайшоў на аддзел і цяпер рэдка калі і нос паказвае ў бацькаву хату.

* * *

Мітрафан Равуцкі трасецца ў аўтобусе. Летняя раніца шчодра разлівае духмянасць. Сонца залоціць вершаліны соснаў, рассыпае бліскучыя лапікі на працярэбленых прасеках, на палянках. Колісь па гэтай дарозе ад Хвойнага да Навасёлкаў Мітрафан ведаў не толькі кожны дом, дык мо кожнае дрэва абапал. Але за гэтыя пятнаццаць год, якія Мітрафан не быў у родных краях, усё зыначылася. Раней па дарозе людзі адно калясьмі малолі і перамолвалі пясок. Цяпер аўтобус ідзе па высыпанай гравійцы. Абапал цыбата стаяць з белымі чашачкамі ізалятараў слупы, на якія напята вунь колькі правадоў, і вёскі прыдарожныя зусім іншымі сталі. От жа па выездзе з лесу Храпаўка. Колісь тут на самай паваротцы дарогі, вытыркнуўшы вуглом, стаяла старая адрына. Мітрафан добра памятае тую адрыну пад замшэлай страхой. Аднаго разу яны з бацькам везлі кладзь на станцыю Хвойнае, і хлопчык не ўпільнаваў, як вось воза ўчапілася за вугол. Воз быў цяжкі, і колькі ні сапалі яны з бацькам, каб адкінуць яго, не далі рады. Давялося падважваць дручкамі. Цяпер ні той адры-

ны, ні той паваротki няма. Гравійка цалюе наўпрасткі, і абапал яе разрослася гэтакі вішаннік, што і хат не відаць. Адно непадалёку ад дарогі ў прагаліне вішанніку разлёгся вялізны драўляны будынак пад бляшаным дахам. Гэта храпаўскі Дом культуры.

Мітрафана гэтыя відавочныя змены радавалі, але ў той жа час і засмучалі. Неяк у штодзённым бегу жыцця, у сузіранні звыклага наваколля чалавек і не заўважае таго, як ён сам старэе. Малюнкі ж даўно бачанага, калі яны зноў паўстаюць перад вачыма, прымушаюць чалавека паглядзець на сябе як бы збоку і здалёку, а гэта заўсёды выклікае ціхі смутак. Карціны, малюнкі свайго дзяцінства чалавек заўсёды носіць у памяці, у сэрцы, як часцінку свайго жыцця, як самога сябе.

Відны ўжо і Навасёлкі: купчасты гай пры шляху, непадалёку металічныя карункі ветравога рухавіка, муравания прысадзістыя будынкі гаражоў і свірнаў. Мітрафан гэтага яшчэ ні разу не бачыў, і ён мог бы падумаць, што гэта і не Навасёлкі. Але ж поле ён ведаў гэтак, што кожны ўзгорак на ім, кожны ярок былі як бы часцінкай яго самога. Каб мо тут зусім нічога не было, Мітрафан і тады б пазнаў, што гэта не чыё іншае, як навасёлкаўскае поле. Аднак жа за гэтыя гады Навасёлкі вунь як вышугалі: на шляху вырасла зусім новая вуліца. Ды і старая, што адным канцом упіралася ў шлях, стала зусім іншай: на ёй новыя яшчэ смольныя дамы пад чарапіцай і шыферам, і дрэвы, што тады, як Мітрафан заязджаў пасля вайны, стаялі абсмаленыя пажарам, цяпер шырока і радасна лапушыліся густой і яркай зелянінай. Толькі той канец, дзе жыў Мітрафанаў бацька і які ўцалеў у час пажару, можна было пазнаць, што ён стары. Але і там паміж старых будынін было ўжо настаўлена нямала новых хат.

Ці то ад сустрэчы з мінулым, ці ад чаго іншага сэрца Мітрафана соладка забілася. Яму на момант здалося, што ён і цяпер яшчэ падшыванец і от зараз прыпусціцца, як у маленстве, уздоўж вуліцы. Але не толькі цяжкі чамадан і груз гадоў змушалі Мітрафана ісці павольна і пільна ўглядацца ў кожную хату, у кожнага стрэчнага чалавека. Ён шмат каго ўжо не пазнаваў, а каторыя і яго не пазнавалі. Дзіва што: хіба ж лёгка пазнаць у мажной постаці інтэлігентнага чалавека ў гарадскім адзенні Нічыпаравага Мітрафанку!

А вось і бацькава хата. Яна як бы трошкі ўгрузла ў зямлю. Бацькава хата цяпер не канцавая. Густы аль-

шэўнік адступіўся ад вуліцы і даў месца яшчэ тром хатам. Двор абнесены парканам, і тая таполя, што калісь дубчыкам тырчала пры вугле хаты, цяпер разраслася, разгалінавалася. Вершаліна яе вышэй за комін, і хоць у паветры не адчувалася нават подыху ветру, лісце на таполі калацілася.

Мітрафан паляпаў слісаком, пагрукаў у фортку, але яна была замкнёна. На грук яго ніхто з двара не выйшаў. Паставіў чамадан пры паркане, а сам зняможана, як бы ён прайшоў якіх кіламетраў з паўсотні, прысеў на лавачку. У момант збеглася цэлая чародка мурзатых дзяцей. Яны цікаўна разглядалі гарадскога чалавека. Мітрафан паспрабаваў загаварыць з імі, папытаць, чые яны, але не так лёгка было знайсці агульную мову з вясковымі дзецьмі. Яму на момант здалося, што ён ужо страціў усё тое, што колісь радніла яго з такімі ж, як гэтыя хлапчукі. Дастаў кулёк цукерак і даў па адной дзецям. Нават цукеркі нясмела бралі яны з незнаёмых рук. Нарэшце адзін з хлопчыкаў у насунутай на лоб аблавушцы асмеліўся і спытаў:

— Дзядзька, вы, мабыць, прыехалі ў госці да дзеда Нічыпара?

— Так, да дзеда Нічыпара.

— То яго няма дома. Ён паехаў па торф. А баба Анісся на канаве. Я хуценька збегаю па яе,— сказаў хлопчык і прыпусціўся бегчы.

Мітрафан госцем сядзіць за старым рыпучым сталом, засланым абрусам у віленскую клетачку. Ён дастаў з чамадана ладны кавалак прыгожага штапелю на сукенку і хустачку-кашміраўку і даў Анісі, цёмна-шэры гарнітур, разы са два надзеты ім і цеснаваты ў плячах, падарыў бацьку. Выняў з бакавой патайной кішэні тры соценныя і ўсё гэта аддаў мачысе. Анісся, беручы, чамусьці заплакала.

— Чаго гэта вы, мама? Хіба якое няшчасце ў хаце? — спагадліва спытаў Мітрафан.

— Ды не, сынку,— сказала Анісся так, што ў гэтым «сынку» сапраўды пачулася Мітрафану і матчына ласка, і любасць. На момант яму нават здалося, што паміж гэтай жанчынай і ім у яго юнацтве не было ніякіх ні згрызот, ні сварак.

— Дык чаго ж вы ўсё-такі, мама? — перапытаў як мага ласкавей Мітрафан.

— Маўчы ты, сынку, як жа мне не заплакаць. Родныя ні пацалунка, ні падарунка ні разу не паднеслі, а ты...

Мітрафан не ведаў, што і сказаць гэтай старой ужо і, відаць, не вельмі шчаслівай ад сваіх дзяцей жанчыне.

— Дык ці патраплю я табе і есці смачна згатаваць,— ставячы на стол наварысты шчаўевы боршч, пытала мачыха і як незнарок расказвала пра тое, як былі ў гасцях Гарасім і яго жонка Раіса і яна ніяк не магла згатаваць так, каб ім спадабалася.

— Ото ж мы і цябе тады чакалі. Думалі, што прыедзеш і ты. А ты і не прыехаў.

— Я не мог, мама, работа.

— Ото ж бо яно так і дзеецца: то работа, то турбота, а да бацькавай хаты дык каторыя і дарогу забываюцца. Міхалка вунь і тут жыве, а ўжо каторы год парога бацькавага не пераступіў.

— Дык чаго гэта ён так?

— А бог яго ведае,— махнула рукой Анісся.— Еш, мо яно і не смачнае,— перавяла гаворку жанчына зусім на другое, і Мітрафан зразумеў, што пра родных сыноў яна не хоча больш гаварыць.

— Я ем, мама, хіба ж вы не бачыце, што аж нос ходарам ходзіць. Гэтакае смачнае ўсё.

— Ты бо ўжо не смейся, які там смак з нашай яды.

А Мітрафану сапраўды падабаліся і шчаўе і пшонная каша. Здавалася, што з паліванай місы ён сёрбаў не шчаўе, а піў жыватворны сок свайго юнацтва. Ён еў і хваліў яду: хваліў Анісю за ўмельства згатаваць такі боршч, хваліў мо за тое, што сядзеў за бацькавым сталом і яго ўпершыню тут прымалі як роднага сына. Чалавек толькі дзівіўся: адкуль і чаму ў мачыхі паявілася такая шчырасць да яго? Сляпіцаю лезлі ў галаву ўспаміны дзяцінства, тыя здзекі, якіх ён нацярпеўся ў гэтай хаце. І хоць ён быў чалавек цвярозага розуму, усё ж ніяк не мог зразумець тых змен, якія адбыліся ў Анісі ў адносінах да яго.

Мітрафан быў чалавек не вельмі патрабавальны да свайго камфорту: спаў ён у адрыне на вышках, затачыўшыся ў пахучае сена, еў тое, што ставілі на стол, нават кінуў мачысе дакор, што яна зарэзала спецыяльна для яго курчо. А Анісся старалася, вунь як старалася дагадзіць пасынку. Ды і бацька хадзіў каля сына, не ведаючы, дзе яго пасадзіць. Колькі разоў Нічыпар зваў сына на вуліцу пасядзець на лавачцы, і Мітрафан разумеў, што гэта рабілася для таго, каб навасяльчане бачылі, які ў яго, Нічыпара, сын, разумны ды прыгожы. А Мітрафан і сапраўды быў чалавек разумны: ён глыбока ведаў і разумеў ся-

лянскую душу, таму і рабіў усё так, каб не ўкрыўдзіць яе. Нават паехаў на балота грузіць торф. Там на адзіноце з бацькам выпадкова і высветлілася прычына такога ветлага прыёму мачыхай колішняга нялюбага пасынка.

— От ты ж, бач, чалавек як чалавек, хоць і вучаны,— казаў бацька.

— А хіба вучаны павінен быць не чалавекам? Наадварот, вучаны павінен быць чалавекам.

— Ат, не кажы так. Катораму тая навука — як свінні рогі. Тыдні за тры перад тваім прыездам тут жа Гарасім з жонкай гасцявалі. Дык што яны вады папаварылі з маткі. Яна выжыльвалася, старалася як смачней згатаваць, а яны сядуць за стол і насы паадварочваюць. Старая дык аж плакала ад тых гасцей, як ад напасці якой. А летась паехала яна да іх у горад. Ведама, якія нашы сялянскія ўборы ды строі. А ў іхняй хаце бліщчасты паркет, дык яна сваімі гумавымі падэшвамі пісягоў нарабіла на паркеце. То яе як пасадзілі ў пярэднім пакоі ля дзвярэй, дык яна цэлы тыдзень і прасядзела там. Хоць бы да яе хто добрым словам абазваўся.

— Не ўсе ж такія, тата, у кожнага свая завядзёнка,— сказаў Мітрафан.— Справа не ў тым, што чалавек вучаны. Я, тата, на сваім вяку зазнаў нямала гора, дык таму і ведаю, што такое радасць.

Пасля гэтых сынавых слоў Нічыпар неяк спахмурнеў. Мо яму здалося, што сын яго ўпікае за мінулае. Аднак жа Мітрафан і не думаў упікаць бацьку. Ён разумеў прычыну таго, чаму Гарасім так абыходзіцца з маці. З маленства чалавек прывык, каб за ім бегалі, выстачалі яму. Але растлумачваць бацьку гэта Мітрафан не хацеў, каб той не падумаў, што ён яго папракае.

Два тыдні Мітрафан прагасцяваў у бацькі. Памагаў бацьку працаваць у гаспадарцы, ды і мачысе то вады прынясе, то расколе якое паленца дроў. Хадзіў ён і з касой на калгасную сенажаць, але панабіваў такія мазалі-крываўкі, што рук не мог сцяць. Анісся дык не ведала, дзе пасадзіць пасынка, чым яго пачаставаць.

Праводзячы Мітрафана, Анісся выцірала скупую слязу:

— На другое лета прыязджай, сынок; з Марынай, з дзеткамі, я ж бо на іх яшчэ не наглядзелася.

— Прыеду, прыедзем. Але раней вы з татам да нас прыязджайце.

[1962]

# А Ў ПОЛІ, ПОЛІ...

Валянцін здаў свайму напарніку Міколу Календу трактар і паціху пайшоў дахаты. Рукі і ногі ў яго былі як не свае. Такі добра чалавек натаміўся. Бадзёрыла толькі вясновая светлая, цёплая раніца. У старых прысадах пры дарозе, якая вяла на сядзібу Завейнаўскай МТС, ціліўкала, шчабятала рознае птаства, і ад гэтага на душы рабілася лагодна і радасна. Хацелася спяваць. І ён словамі, а не толькі ў думках паўтараў знаёмы матыў песенькі: «А ў полі, полі раслі дзве таполі». Трактарыст азірнуўся на ўзараныя ім гоні і ўбачыў, што яны ляжалі роўным аркушам, спісаным радкамі-барознамі. Але адкуль узялася Анэля? Як з-пад зямлі яна вырасла! Высокая, стройная, з усмешкай, ад якой аж зіхацелі яе белыя зубы, яна раптам стала перад ім.

— Ніштаваты кавалак ты за ноч узараў,— сказала дзяўчына.

— Не хвалі надта...

Не ўпершыню сустракаецца Валянцін з Анэляй. З тае пары, як у іх з Насцяй нарадзіўся Васілёк і Насця не хадзіла на поле,— не было на каго пакінуць сына,— Анэля стала за звенявую. І кожны раз чамусьці гэтак выпадала, што Валянціну даводзілася араць ці дыскаваць акурат на ўчастку яе льнаводчага звяна. Надоечы ён сваім трактарам цягаў радковыя льняныя сеялкі, і Анэля не адыходзіла ад тых сеялак. Магла ж яна прыпаручыць гэта каму-небудзь з жанчын. Дык не! Сама праўцом стаяла на прыступцы сеялкі — правярала, кажа, нормы высеву. Валянцін стараўся не азірацца назад, але на паваротках ён ужо ніяк не мог не аглянуцца. Тады іх позіркі сустракаліся. Ён бачыў Анэліну ўсмешку, ад якой яму рабілася неяк нават млосна. А цяпер зноў жа такі трэба ёй падцэліць прыйсці на поле якраз тады, як ён скончыў змену і ішоў дахаты. Валянцін зірнуў на сваю зашмальцаваную ватоўку, на замазучаныя рукі, і яму захацелася схаваць іх куды-небудзь. Стаіць сабе, наском басаножкі зямлю калупае і гаворыць, гаворыць як па пісаным. Ды хоць бы яна пра Насцю спытала, яны ж такі, здаецца, таварышкавалі, як разам у звяне былі, і толькі адно пад канец, бы ненарокам, кінула:

— Ну, як табе жывецца з Насцяй?

— Нішто сабе,— адказаў ён і зірнуў у Анэліны вочы. Зірнуў і заўважыў у іх нейкі адмысловы бляск. Яны, зда-

ецца, так і казалі яму: «Дзівак ты, навошта табе тая Насця была? Глядзі, якая я. Я ж лепшая». Потым ён адвёў позірк ад Анэлі і ўбачыў, што непадалёку ад прысад, полем, нацянькі, да МТС ішла Параска, якую ў звяне ўсе звалі лапатухай. Ён ведаў: калі Параска пабачыла яго з Анэляй, то адразу ж будзе ведаць пра ўсё Насця. Яна, гэтая Параска, такая, што ў яе на языку нішто не затрымаецца. Валянцін адчуў сябе ніякавата і таму заспяшаўся:

— Я пайду хутчэй снедаць.

— Ідзі, ідзі, а то абое, мабыць, выгаладаліся,— з нейкім дакорам сказала Анэля і, не развітаўшыся, пайшла ў поле.

* * *

А ён ішоў дарогай у засені старых прысад і нёс у сабе нейкую дваістасць: «А можа, і праўда я дрэнна зрабіў, што тады не пасябраваў з Анэляй?» Па дарозе да яго прыйшло нейкае нядобрае прадчуванне, ад якога, здаецца, аж зашчымела ўсярэдзіне. Не тое, каб быў які боль. Не, болю не было,— адно была нейкая прыкрасць. І як толькі ён увайшоў у хату, з адценнем жарту спытаў:

— Чым смачным, жонка, пачастуеш мужыка?

— Такога мужа вілачнікам варта частаваць,— адказала Насця, дастаючы з печы патэльню, на якой аж дыміўся падгарэлы зверху блінец. Валянцін адразу зразумеў, што да Насці паспела ўжо забегчы Параска, і ён стараўся перавесці гаворку, у якой адчувалася ўжо сварка, на жарт:

— Завошта ж гэта яго вілачнікам? — і Валянцін зірнуў на тыя вілкі, дзяржанку якіх нядаўна выстругаў сам. Тады яму тая дзяржанка здалася гладкай, і толькі цяпер ён заўважыў, што выстругаў дрэнна.

— Хіба ўжо вельмі выгаладаўся?

— Каб ты ўсю ноч працавала, дык, пэўна, таксама выгаладалася б.

Насця не спяшалася падаваць снеданне. Яна корпалася ля печы, а маленькі Васілёк поўзаў каля яе ног. Яна, відаць, злавала, бо цыкнула на хлопчыка. Васілёк, галосячы, папоўз убок, дапоўз да ўслона і, узяўшыся аберуч за яго, стаў на ножкі. Зірнуўшы на бацьку, які ў нерашучасці стаяў пасярод хаты, хлопчык хуценька затопаў ад услона. Смешна было глядзець, як ён бег. Нібы тое кача-

нё, перавальваўся з боку на бок, размахваючы рукамі, як крыльцамі. Не дайшоўшы да бацькі, Васілёк зачапіўся ножкай за ўзадраную маснічыну падлогі і пляснуўся. Дзіцячым галашэннем напоўнілася хата. Валянцін кінуўся да сына, але першай падхапіла Васілька на рукі Насця. Яна гушкала хлопчыка:

— Не плач, дзіцятка маё. За гэтакім бацькам ты, мабыць, веку сабе ўкароціш.

Валянцін кідаў вачыма то на жонку, то на сына, хоць і не ведаў, у чым яго віна. Тым часам у печы задыміўся блінец.

— Чаго стаіш, як той ёлуп, хіба не бачыш, што блінец гарыць?

Валянцін моўчкі выцягнуў з печы патэльню. Есці яму ўжо перахацелася. Адно хацелася сказаць Насці штонебудзь такое, каб яна адчула і яго сілу, і яго ўладу тут над усім. Чамусьці зноў прыйшла на думку Анэля: яна, мусіць, не такая. Ён схапіў з услона шапку і рынуўся з хаты. Услед ён пачуў Насціны словы:

— Бяжы, бяжы, каб цябе зямля не насіла, гаспадара такога. Ведаю, што табе нямілай дамоўка стала.

* * *

Валянціну хацелася ісці немаведама куды. Ён ішоў і ў думках перабіраў усё сваё жыццё за гэтыя тры гады, як яны з Насцяй пажаніліся.

А яно вось як пачалося: на загон, дзе Валянцін працаваў тады, падышла Насця. Трактар у хлопца быў стары, у ім нешта сапсавалася, і ён стаў акурат вунь ля таго каменя. Валянцін падлез пад машыну і, дагары лежачы, корпаўся. Ён нават не бачыў, калі Насця падышла і села на камень і неяк ні то жартам, ні то з кпінамі сказала, як праспявала:

— Рассохся, ці што?

Ён тады падцягнуўся на локцях, вылез з-пад трактара, зірнуў на дзяўчыну і збянтэжыўся. З русявымі, крыху кучаравымі валасамі, яна сядзела на камені і светлымі, мяккімі-мяккімі вачыма, здавалася, у душу зазірала. Неяк падсвядома ён паправіў шапку, якая насунулася была на лоб, і гэтак сядзеў маўклівы, задуменны, не ведаючы, што сказаць. Нарэшце ён авалодаў сабою і спытаў:

— А вы хто такая будзеце?

— Хіба вы мяне не ведаеце? — адказала яна пытаннем на пытанне.— Тут маё звяно лён будзе сеяць вясной, дык я прыйшла паглядзець, ці добра вы ўрабляеце зямлю.

— Тады іншая справа. Значыць, вы гаспадыня, а я нібы ваш парабак,— асмялеў Валянцін.

— Добры парабак. Такога б парабка і за гаспадара не блага мець.

Валянцін не надаў ніякага значэння жарту дзяўчыны, ён нават не заўважыў, што яна неяк асабліва глядзела на яго. Але калі дзяўчына, развітаўшыся, пайшла, ён доўга глядзеў услед, нават падышоў да каменя, пастаяў ля яго, як бы там штосьці забыў. А ўвечары, вярнуўшыся з поля на сядзібу МТС, Валянцін, падпільнаваўшы, калі яго напарнік Мікола Календа быў адзін, падышоў да яго і ўпаўголаса спытаў:

— Ты не ведаеш, што за цаца да мяне на поле прыходзіла?

— Адкуль жа я ведаю, я ж не бачыў.

— Белабрысая такая, фанабэрлівая з выгляду, казала, што звеннявая.

— То, мусіць, Насця. Пра яе ў газетах вунь колькі напісана. Прачуханца мо добрага дала? Яна, брат, такая, што спуску не дасць, калі што не гэтак робіш.

— Не. Адно пасядзела ля трактара на камені. Папрасіла, каб добра араў,— лён, казала, будзе сеяць.

— Табе проста пашанцавала, хлопча.

А тым часам, хто яго ведае, чаго гэта яму, Валянціну, так захацелася схадзіць у клуб «Чырвонага аратага». Мусіць жа, вельмі яна яго зацікавіла, і ён не стаў заглушаць гэтага свайго жадання, і на другі дзень, акурат пад нядзелю, пайшоў туды. Адчыніў дзверы і стаў ля вушака. А хлопцы з дзяўчатамі полечку гоцалі, аж падлога стагнала. Кінуўся ў вочы гарманіст: маленькі хлопчык гэтак цяжка расцягваў мяхі гармоніка, што вось-вось, здавалася, яго рукі ўпадуць на калені ад стомы, гармонік на паўтоне захліпнецца і замоўкне. Але гармонік не змаўкаў — ён то па-птушынаму ціліўкаў, то басавіта ўздыхаў, то голасна смяяўся. Толькі тады, калі ўжо танцоры добра такі напацелі, маленькі гарманіст неяк раптоўна адарваў пальцы ад гузікаў гармоніка, і на момант усталявалася цішыня. Хлопцы пацiскалі рукі дзяўчатам і ішлі, каторыя па адным, каторыя ў пары з дзяўчатамі, да ўслонаў, каб крыху адпачыць перад другім танцам. Валянцін убачыў Насцю: яна ветла ўсміхалася свайму кавалеру, які пацiс-

каў ёй руку. Расчырванелая Насця здалася Валянціну самай прыгожай сярод дзяўчат. Але чаму ж яна хоць адным вокам не кіне на яго? А хлопец той, Насцін кавалер, высокі, і вайсковая вопратка гэтак прыгожа на ім сядзіць, надае ягонай постаці стройнасць і прывабнасць. Валянцін у думках стаў поруч з ім, і ад гэтага параўнанне яму зрабілася ніякавата: ва ўсякім разе ён сам быў меншага росту і не гэтакі ўвішны.

Валянцін пазірае ад вушака дзвярэй, які ён падпёр плечуком, на Насцю з тым хлопцам. Яму захацелася падысці да іх, ды так, каб ім здалося, што ненарокам, і сказаць ці зрабіць нешта такое, што б прымусіла Насцю звярнуць на яго ўвагу. Ён ужо нават падумаў, як толькі зайграе музыка, узяць на танец Анэлю, з якой ён ужо быў крыху знаёмы, і танцаваць так, каб Насця бачыла. У момант гэтага роздуму Анэля сама падышла да яго.

— І вы да нас на му́зыку прыйшлі? — з нейкай лагоднасцю спытала яна. І, мабыць, заўважыўшы, што Валянцін не спускае вачэй з Насці і з таго хлопца, як бы хочучы растлумачыць, што за ён, той у вайсковым, працягвала:

— Гэта Ігнась Міранчукоў. З арміі толькі што прыйшоў. Хлопец, во! Толькі наўрад ці застанецца ў Мілавідах. У Мінск збіраецца ехаць на працу.

Анэля падміргнула Валянціну. Але ў гэтым, здавалася, бесклапотным падміргванні Валянцін заўважыў нейкую балючую грымасу. Ён улавіў тое, чаго, можа, ніхто не пабачыў: Анэлі, відаць, балюча было, што Ігнась не з ёю. Валянцін акінуў Насцю доўгім і ўважлівым позіркам, і яна заўважыла гэта. У адказ усміхнулася. Кавалер жа таксама бліснуў вачыма на Валяціна з Анэляй. Анэля прыкмеціла гэта і як бы расцвіла ўсмешкай. Валянціну здалося: Насця поглядам просіць прабачэння, што на гэты вечар занята. Яна ж, пэўна, ведала, што калі ён і прыйшоў у клуб, дык толькі дзеля яе. Але гэта, мусіць, толькі здалося, бо ўжо ў наступны момант, колькі ён і Анэля ні глядзелі на Насцю з Ігнасем, тыя і вокам не кінулі на іх. Анэля знарок, так каб было чутно Насці з Ігнасем, прапанавала:

— Пойдзем, Валя, пагуляем на двары,— і яна, узяўшы пад руку, павяла Валянціна з клуба. Валянцін разумеў, што Анэля гэта робіць для таго, каб укалоць Ігнася. Але ён не пярэчыў дзявочаму жаданню. Яму і самому хацелася паказаць Насці, што не на ёй свет клінам сышоўся.

Пасля таго вечара ў клубе Валянціну шмат дзён не

даводзілася сустракацца ні з Насцяй, ні з Анэляй. У МТС падваліла шмат работы: яму далі новы трактар «Беларусь», дык ён яго абходжваў, як маладога жарабка. Потым са школы механізацыі прыехалі маладыя трактарысты. З імі трэба было яшчэ добра паваждацца, каб прывучыць іх да самастойнай працы. Хоць Валянцін быў і сам яшчэ не стары трактарыст, але яму прыпаручылі маладых, і ён гэтым крыху нават ганарыўся. Яны з дзядзькам Пілiпам, брыгадзірам іхняй трактарнай брыгады, з якім у Валянціна адразу ж усталявалася дружба, не адыходзілі ад машын. Валянцін раз-пораз садзіўся то з адным, то з другім трактарыстам за руль, паказваў, як лепш пераключаць хуткасць, як кранаць з месца, як эканамічна працаваць, каб узараць больш, а гаручага спаліць менш.

Дзядзька Піліп глядзеў на Валянціна і радаваўся: яшчэ ж нядаўна ён сам быў такім падшывальцам, а зараз зірні ты на яго — сапраўдны інструктар!

Аднаго разу на ўчастак поля, якое Валянцін з маладымі трактарыстамі араў на зябліва, пад вечар прыйшоў дзядзька Піліп. Валянцін спрытна саскочыў на хаду з трактара і пакрочыў да брыгадзіра. Ён быў поўны замілавання да гэтага старога чалавека, але не ведаў, чым і як выказаць гэта. Можа б, ён і надумаўся, што сказаць брыгадзіру, калі б з-за бярозавага гайка, абсыпанага ўжо золатам асенняга лісця, не паказалася постаць дзяўчыны. Яна ішла проста да трактарыстаў. У шэрані асенняга змяркання нельга было здалёк пазнаць, хто гэта ідзе, і толькі калі постаць наблізілася, Валянцін пазнаў Насцю. Ён ні то спалохаўся, ні то ўзрадаваўся гэтай сустрэчы. І, можа, Валянцін быў вельмі ўдзячны, што дзядзька Піліп акурат тады, як падышла Насця, крыкнуў хлопцам:

— Шабаш! Сёння хопіць з вас. Ганіце машыны на сядзібу.

Сказаўшы гэта, брыгадзір кінуў хітраваты позірк на Валянціна з Насцяй, даў ім на развітанне «дабранач» і пайшоў на дарогу, якая прысадамі вяла ў МТС. Валянцін з Насцяй засталіся адны. Нейкі момант яны стаялі моўчкі, толькі глядзелі адно на аднаго. Першай парушыла маўчанне Насця:

— Вы, кажуць, добры трактарыст?

— Хто яго ведае. Я толькі першы год працую. А вы, кажуць, добрая звеннявая?

— Хто яго ведае, можа, і добрая,— стараючыся падла-

дзіцца пад тон Валянцінавага адказу, гаварыла Насця, як бы хочучы гэтым сказаць, што не пра гэта варта ім гаварыць зараз. Потым яны моўчкі ішлі аж да самае тае дарогі, што вядзе ў Мілавіды. Была тая вячэрняя сцішанасць, калі ў чалавека, хоць і стомленага дзённай працай, робіцца гэтак хораша на душы.

— Дзе вы былі, Насця? — спытаў Валянцін.

— Да цёткі хадзіла ў Беражное.

— У госці?

— Не. Справа была пільная,— сказала Насця і перавяла гаворку на другое: — Хадзем паглядзім, як вы ўзаралі мой загон.

— Добра ўзараў, як па знаёмству для вас.

Але гаворка паміж Насцяй і Валянцінам не магла ніяк натрапіць на тую сцяжынку, па якой бы ёй было ісці лёгка і цікава. Нарэшце Насця, нібы між іншым, спытала Валянціна:

— А вы позна тады гулялі з Анэляй?

— Мабыць, не пазней, чым вы з Ігнасем,— адпарыраваў Валянцін.

— Дык то ж я на злосць Анэлі. Няхай не дзярэ свайго кірпатага носа.

— На злосць, кажаце? — узрадаваўся Валянцін.— А я думаў...

— Што ты думаў? — неўзаметку перайшла на «ты» Насця.

— А я думаў, што ты сур'ёзна з ім.

— То-та ж, не трэба думаць, калі не ведаеш. Ён жа на другі дзень паехаў у Мінск, працаваць на трактарны,— заспакоіла Насця Валянціна і ўзяла яго пад руку. Гэтак яны ішлі палявой дарогай. Валянціну нават здавалася, што ён чуе, як тахкае Насціна сэрца, і ад гэтага яму рабілася прыемна. А вунь ужо і той камень. Насця спынілася, вызваліла руку і села на шэры камень, які немаведама з якіх часоў ляжыць тут на нечай былой мяжы. Валянцін таксама пачаў прыладжвацца, каб сесці поплеч.

— Масціся, будзем глядзець, ці не нарабіў агрэхаў.

— Не нарабіў, не думай, што я ўжо такі няўмека.

А месячнае святло лілося і лілося, засціляючы ўвесь прастор. Валянцін нават цяпер добра ўявіць не можа, як яно тады атрымалася: рукі неяк мімаволі пацягнуліся, і Насця, маленькая, шчупленькая Насця, апынулася ў яго дужых хлапечых руках. А вусны ўжо шукалі вуснаў. Здаецца, і цяпер ён яшчэ чуе, як Насця тады сказала:

— Не трэба гэтак адразу.

Але вусны і рукі нічога не слухалі, яны падпарадкоўваліся толькі пачуццю. Апоўначы яны ішлі ад таго каменя, як п'яныя.

Гэтак месяцы са тры Валянцін утоптваў сцежку ад Завейнага да Мілавідаў. Кожны раз ён яшчэ здалёк бачыў Насціну хату, якая стаяла пасярод вёскі, і яна здавалася яму самай прыгожай, хоць хата была як хата.

Пасля новага года згулялі вяселле. А якое вяселле было! Дырэктар МТС даў маладым сваю легкавую машыну, і на ёй яны ездзілі ў загс. Тры дні аж ходарам хадзіла ад песень ды скокаў сядзіба МТС. Валянцін нават крыху ганарыўся перад хлопцамі, што ўзяў сабе за жонку дзяўчыну, да якой, як казалі ў вёсцы, нікому подступу не было.

Валянціну зараз успомніўся тост дзядзькі Піліпа, які быў за пасажонага бацьку.

— Каб вам век дружна жылося і каб у вас дабро вялося.

...І дзе ж яно, тое дабро, якога жадаў дзядзька Піліп? Замест яго ў хаце часта калатня, сварка, ад якое бегма б бег немаведама куды.

— Я цябе не няволю, калі разлюбіў,— здаецца, Валянцін чуе Насціны словы.

А хіба ж ён яе разлюбіў? Не! От адышоўся які кіламетр ад дому, а сэрца ные і ные, хоць у ім ужо і няма таго пачуцця, якое было ў першыя месяцы. Валянцін падумаў, ці не зайсці да Анэлі. Спыніўся, пастаяў. А знаёмая сцяжынка ўецца ў поле, да таго каменя. Колькі ён разоў ужо хадзіў па гэтай сцяжынцы! Тады нагам ступаць было лёгка-лёгка, здавалася, яны самі адскоквалі ад зямлі і рабілі крок за крокам. Чаму ж цяпер ногі як бы прыкіпаюць да зямлі? А вунь і паваротка на Мілавіды. А вунь і той камень. «Эх, наваліўся ты ўсім сваім цяжарам на маё жыццё»,— падумаў сабе Валянцін. Яму ўспомнілася, як у тое першае лета іх сумеснага жыцця яны з Насцяй хадзілі глядзець ільняны палетак. А як хораша цвіў тады лён! «Лепш не было б тае радасці,— думае Валянцін,— не быў бы такім бяздонна глыбокім і смутак».

Валянцін у знямозе прысеў на камень, агледзеўся вакол. Недзе ўдалечыні чахкае трактар. То яго напарнік, Мікола Календа, робіць культывацыю пад лён на Анэліным участку. Пэўна ж, што ён, бо нічыя машына не чахкае гэтак, як іх. А ён, Валянцін, вось не ведае, што рабіць. Балюча, дый годзе, чалавеку.

Валянцін устаў, яшчэ крыху пастаяў каля каменя, паглядзеў на яго і толькі цяпер заўважыў, што з паўночнага боку камень замшэў. Яму прыйшло ў галаву параўнанне: вось так і чалавек без святла дружбы, без пачуццяў пакрываецца цвіллю, абрастае чэзлым імхом абыякавасці. Валянцін павярнуўся ад каменя і нацянькі пайшоў туды, адкуль чулася рытмічнае чахканне трактара.

* * *

Пасля таго як адзначылі нараджэнне Васілька, Валянцін сказаў Насці, каб яна і не думала больш быць за звеннявую.

— Гэта ж цэлымі днямі будзеш прападаць на полі, а дзіця будзе знаходзіцца ў тых яслях. Нам хопіць і таго, што я зарабляю.

Насця тады падумала, што, можа, і добра будзе ёй крыху адпачыць ад нялёгкай працы. Зірнула на свае парэпаныя, шурпатыя рукі, і ёй захацелася, каб сышлі хоць гэтыя парэпіны. Валянцін сам хадзіў да старшыні калгаса і дамовіўся, каб на які год за звеннявую паставілі Анэлю, а Насця няхай дзіця падгадуе. Старшыні не хацелася згаджацца з гэтым, аднак ён сам сабе падумаў, што Насця не такая, каб доўга ўседзець дома без работы. Васілёк у іх нарадзіўся ўвосень, і зімою Насця ўжо не хадзіла на апрацоўку льну. Усю халадэчу яна прасядзела ў цёплай хаце. Гэта, можа, ёй крыху і падабалася. Але ішоў час, і Насця ўсё больш маркоцілася. Два сваіх пакойчыкі, якія яны занялі ў невялічкім доміку МТС, яна дагледзела, прыбрала, як ляльку. Зірне Насця на канапу, якую яны адразу ж, як ажаніліся, купілі ў раймагу,— чаго толькі там няма: вунь ляжыць футравы мядзведзік,— гэта яго для Васілька пашыла сама Насця. З тыдзень які сядзела жанчына над тым мядзведзікам, Васілёк гуляў на канапе поруч з маці і перабіраў нешта ручкамі. А яна шыла мядзведзіка і шчабятала над хлопчыкам, як птушка. Спачатку мядзведзік выйшаў не вельмі зграбны — поўсць на ім была вельмі доўгая, пакручастая, і Васілёк палохаўся цацкі. Насця ўзяла нажніцы і падстрыгла авечую воўну, прычапіла пад лобікам мядзведзіку два вялікія каралыкі. Мядзведзік стаў як сапраўдны, і Васілёк яго ўжо не палохаўся, а, наадварот, як толькі дзе мядзведзік губляўся, хлопчык крычаў на ўсю сілу:

— Мама, дзе дзедзік...

Гэта забаўляла і заспакойвала Насцю. Яна брала на рукі хлопчыка і, песцячы, гаварыла яму:

— Вось падрасцеш, сынку, тады мы з табой на поле ўдваіх будзем на гэтым мядзведзіку ездзіць. А там тата павозіць цябе на трактары.

Але дзе той тата? Нешта ён пачаў вельмі доўга бавіцца ў полі. Некаторы дзень нават абедаць не прыходзіць. Насця аднаго разу ўвязала ў трапкачык посуд з абедам, узяла на рукі Васілька і панесла Валянціну ў поле абед. Ёй здалося, што Валянцін не вельмі рады быў гэтаму. Ён моўчкі сеў пад трактар у цянёк і еў абед. І хоць бы слова якое шчырае сказаў. А як толькі паабедаў, выцер губы тыльным бокам рукі, нібы ў яго і хустачкі ў кішэні няма, сказаў, як нехаця, «дзякуй». Хіба толькі што з Васільком пагуляў крыху — пападкідваў яго на руках, пагушкаў, пасадзіў у кабіну на сваё месца. А потым абыякава сказаў:

— Дык ідзіце ўжо дадому. У мяне шмат яшчэ работы.

Хоць бы ён правёў іх ад трактара на сцяжынку. Дык не. Адразу ж завёў матор... А той матор як застукаў, дык Насці здалося, што гэта яе малаткамі якімі б'юць. З некаторага часу яна нават пачала не любіць трактар. Ёй здаецца, што з-за трактара Валянцін да яе стаў абыякавым. Аднойчы яна, узяўшы на рукі Васілька, пайшла ў Мілавіды да маці, каб параіцца са старой. Маці выслухала скаргу дачкі і сказала сваё:

— Я ніколі не прыглядалася да бацькі, як ён на мяне зірне. А ты сядзіш, як тая пані, дома, дык хіба мала чаго ў галаву прыйдзе. Эт, дачушка, перамелецца ўсё гэта, і мука будзе,— заключыла старая.

— Каб жа так,— згадзілася Насця і пашкадавала, што расказала маці: не зразумела яе старая.

Насця рабіла хатнюю работу. Васілёк поўзаў, тупаў па падлозе, а яна на пяльцах вышывала падушачку на канапу... Як гэта будзе прыгожа! Крыжыкам вышыты ўзор. Яна ўзяла яго з нейкага часопіса: дзве птушкі-шчабятушкі мілуюцца на галінцы дрэва. Вунь адна ўжо, як жывая, сядзіць на галінцы, а другой яшчэ толькі палавіна. А і яна ж хутка будзе з чарвяком у дзюбцы. Як гэта хораша: большая птушка корміць меншую. Ёй адразу ўявіўся Валянцін. Але што гэта з ім робіцца? Можа, ён разлюбіў яе? Насця ўстала з канапы і пайшла ў другі пакой да стала, на якім стаяла люстэрка. Села на зэдлік і ўгледзелася

на самую сябе. Твар яе быў белы, як вымачаны. Ды і вочы... Што з імі сталася? Яны ж былі сінія, як васількі. А на яе з люстра глядзелі нейкія выцвілыя. У расчыненае акно лагодна глядзела жнівеньскае сонца... Настоеную на мурагах і зжатай збажыне цішыню лета адно парушала недалёкае басавітае чахканне трактара і стракатанне льноцерабілкі. То, мусіць, працаваў Валянцін. Насці адразу ўявілася Анэля. Яна ж, пэўна, аціраецца там, ля льноцерабілкі? Хоць, можа, і рабіць не вельмі-то робіць, але ад церабілкі не адыходзіць, камандуе. Яна любіць камандаваць. Яшчэ тады, калі яна, Насця, была за звеннявую, Анэля часта ўтыкала нос не туды, куды трэба, але тая асаджвала яе. Анэля часта злавала па звеннявую. А цяпер яна сама сабе гаспадыня. А лён які вупь парос! Яшчэ як ён цвіў, Насця схадзіла на палетак, вырвала жменьку, перавязала чырвоным каснічком і паставіла на покуць. Бач які, ледзь не да столі!..

Усё гэта радавала і злавала Насцю. Яна ўявіла сабе Анэлю, яе крыху кірпаты нос на загарэлым да карычневага бляску твары, быстрыя вялікія шэрыя вочы, дужую, пажаночаму прыгожую постаць, дзве тоўстыя касы, закручаныя ў куксу... І Насці нібыта пачуліся тыя словы, якія Анэля калісь сказала Валянціну ў клубе: «Хадзем, Валя, пагуляем на двары». А з люстэрка на Насцю глядзеў уласны цень. Ён здаўся ёй вельмі ж нейкім кволым: твар быў белы, вочы выцвілыя, русявая чупрына нейкай прылізанай. Насця сама сябе не пазнала. Ёй страшэнна захацелася быць прыгажэйшай за Анэлю. Яна ўспомніла, што яшчэ калі хадзіла цяжарнай Васількам, Валянцін прывёз з горада нейкую баначку крэму і аловак губной памады.

— На, сяды-тады падмажашся, каб не было відаць гэтых рудых плям,— параіў ён.

Значыць, і яму хочацца, каб яна была заўсёды прыгожая. Насця хуценька дастала з прыскрынка крэм і той чырвоны аловак, села перад люстрам, пачала націраць крэмам шчокі. Але яны рабіліся яшчэ бялейшымі. Тады жанчына набрала на палец губной памады і расцерла па шчоках. Твар крыху паружавеў. Насця аж усміхнулася сама сабе. Потым яна старанна ўзялася фарбаваць губы. Верхняя губа ўжо была нафарбавана, калі паштальён у расчыненае акно кінуў газету. Насця на момант адарвалася ад занятку і разгарнула газету. Яна не паверыла вачам: на здымку, уверстаным у падвал, ля трактара з ільноцерабілкай, як ёй здалося, стаялі Валянцін з Анэ-

ляй. Яны ўсміхаліся адно аднаму. Насця працерла вочы, каб лепш разгледзець. Вядома ж, ён, і трактар яго, а вунь непадалёку відаць і камень той. Насця кінула вачыма на загаловак падвала і прачытала: «Садружнасць». І чым далей яна чытала нарыс, тым больш рабілася сама не свая. Карэспандэнт апісваў не толькі дружную працу льноцерабільшчыка Валянціна Якімчука са звеннявой Анэляй. Насця чытала далей: «А ў вольныя гадзіны трактарыст і звеннявая любяць пагуляць у засені старых прысад і пагаварыць пра самае запаветнае альбо проста памарыць. І хоць яны яшчэ ніколі не выказалі адно аднаму таго, што ў іх у думках, але пачуцці іх ужо разам. Гэта відаць па вачах, якія аж іскрацца ад захаплення».

Насця кінула вобземлю газету, схапіла са стала крэм і губную памаду, шыбанула іх са злосцю ў куток за скрыню і заплакала. Гарачыя горкія слёзы зняважанай маладосці каціліся па яе твары. Яны змывалі на шчоках фарбу і пакідалі рудаватыя брудныя падцёкі. Насця нават не чула, што ў мыцельніку плакаў, аж ледзь не разрываўся, маленькі Васілёк. Ён абярнуў на сябе чыгун з халоднай вадою. Ёй было не да Васілька.

Валянцін адчыніў дзверы хаты і ўбачыў такое, чаго ён ніколі не спадзяваўся пабачыць у сваёй хаце: Васілёк, мокры па вушы, аж знямогся ад плачу, а Насця, уткнуўшыся тварам у падушку, ляжала па ложку, плечы яе ўздрыгвалі. Ён узяў Васілька на рукі, прыгалубіў, суцешыў, і той перастаў плакаць. Валянцін падышоў да Насці, пакратаў за плячо:

— Што гэта ў цябе тут здарылася?

Насця маўчала, толькі плечы яе сталі яшчэ больш уздрыгваць, чуліся прыглушаныя падушкай усхліпванні.

— Дык чаго гэта ты плачаш? — спытаў у другі раз Валянцін.

— Тут не толькі заплачаш, нема заравеш ад такой жыткі,— крыкнула яна, не ўстаючы з пасцелі.

Валянціну не ўпершыню было чуць буркатню жонкі, але такога ніколі яшчэ не было. Ён асцярожна паставіў на ножкі Васіля і хацеў падняць з пасцелі Насцю, каб хоць паглядзець, што з ёй. Як толькі ён дакрануўся рукамі, яна амаль істэрычна закрычала:

— Не чапай мяне... Ідзі Анэлю галуб. Яна табе мілей.

— Не разумею, чаго ты ўсхадзілася?

— Не разумееш? Дурнем прыкідваешся?

Насця ўсхапілася з ложка, падняла газету і тыцнула яе мужу амаль пад самы нос.

— На, паглядзі, дык зразумееш. Усе людзі цяпер паверaць, што ты завязаў мне свет, а сам да яе горнешся.

Валянцін толькі цяпер заўважыў Насціну нафарбаваную верхнюю губу і рудаватыя падцёкі ад слёз. Але яму было не да таго, каб смяяцца з яе блазенства. Ён хутчэй упіўся вачыма ў газету. Чым далей ён чытаў, тым больш акругляліся ад здзіўлення ягоныя вочы. Ён жа нічога гэтага, што тут напісана, не казаў тым двум у саламяных капелюшах, якія дзён колькі назад прыходзілі на поле. Калі адзін з іх запытаў, ці дружаць яны, механізатары, з ільнаводамі, Валянцін, паказваючы на Анэлю, жартам яму адказаў:

— Хіба можна з гэткай дзяўчынай не дружыць... Тут не толькі падружыш, а ў прысады пойдзеш слухаць салаўёў.

А яно вунь як выйшла.

— Дык гэта ж хлусня ўсё, дурная ты,— хацеў заспакоіць жонку Валянцін.

— Добрая хлусня, калі ўвесь свет цяпер ведае, што ты з ёй у прысады ходзіш.

— Дай лепш пад'есці,— нібы хочучы перавесці на другое гаворку, папрасіў Валянцін.

— Ідзі да яе, няхай яна табе і есці дае, а не толькі ў прысады водзіць.

— Не хадзіў я з ёй ніколі ў прысады,— злосна ўжо агрызнуўся Валянцін.— Няма мне часу хадзіць у іх.

— Табе няма часу дадому ісці. Ты днюеш і начуеш на полі, а хто цябе ведае, з кім ты начуеш.

— З глузду ты з'ехала, маладзіца, от што я табе скажу,— ужо зусім раззлаваны крыкнуў Валянцін.

— А ты часам не з'ехаў? Чаму ж ты мне і слова не сказаў, што з рэдакцыі былі карэспандэнты?

— Абавязкова табе ўсё расказваць. Хіба мала іх бывае на полі. Кожны дзень цягаюцца, то з раёна, то з вобласці. А гэтых я і не ведаў, што яны з рэдакцыі: прыйшлі два ў саламяных брылях — адзін з фотаапаратам. Той, што з фотаапаратам, паставіў нас з Анэляй ля трактара з церабілкай, загадаў, каб мы ўсміхаліся адно аднаму, і пстрыкнуў разы са тры. А другі запытаў у мяне, ці дружна мы працуем з ільнаводамі, дастаў з кішэні кніжачку і нешта запісаў. Яны ўсяго і пабылі каля мяне хвілін якіх

з дзесяць. А потым нешта з Анэляй гаварылі. Дык хіба табе пра гэта расказваць трэба было...

Насця глядзела на мужа і, здавалася, гэтым сваім позіркам вывучала, ці праўду ён кажа. Сэрца яе аж разрывалася ад болю, ад пачуцця рэўнасці, якую яна зведала яшчэ ў той вечар у клубе. «Праўду такі Параска-лапатуха казала, а я, дурная, верыла і не верыла»,— падумала Насця.

— Дык дай пад'есці,— папрасіў зноў Валянцін.

— Няма ў мяне для цябе нічога. Ідзі да Анэлі.

Каб гэта сапраўды так было, як думае Насця, дык, можа б, Валянцін і не зазлаваўся б. Анэля яму падабалася, яе спрыт, яе голас, яе ўсмешка вабілі яго. Але ў яго ніколі і ў думках не было, каб кінуць Насцю, хоць яна і звадлівая, зацятая ў сваіх намерах. Насця яму ўсё-такі больш падабалася за Анэлю. Ён яе кахаў, і, толькі дзякуючы гэтаму пачуццю, ён зносіў тыя згрызоты, якія былі ў сям'і. Яму думалася, што яны ідуць ад Насцінага настырлівага характару, ад яе маладосці. А вось яна трохі пасталее, памудрэе, тады гэты налёт легкадумнасці зляціць, як ад ветру пылок красавання. А зараз Валянцін, не адчуваючы ніякай сваёй віны перад жонкай, быў сам не свой. Узлаваўся ён на яе не на жарт. А Насця ўжо не гаварыла, а крычала:

— Ты, можа, мяне хочаш зусім замкнуць у хаце, завязаць белы свет, як той нявольніцы, каб самому цягацца за другімі?! Ніколі гэтага не будзе.

Каб не сварыцца з жонкай, Валянцін, не адказаўшы на яе словы, хуценька выбег з хаты і пайшоў у інтэрнат, дзе жылі маладыя трактарысты, якіх ён калісь вучыў. Хлопцы ладзіліся спаць, і прыход Валянціна разагнаў іх сон. Яны паважалі старэйшага трактарыста як свайго інструктара. Хлопцы нешта пашапталіся, і неўзабаве на стале стаяла бутэлька, і закуска потым заявілася. Да самай поўначы частаваліся трактарысты. Валянцін такі добра насцябаўся і, калі выйшаў з інтэрната, не павярнуў дадому, а, плетучы нетрывалымі нагамі след па роснай траве задзірванелага двара, зводдаль абышоў сваю хату і выйшаў на мілавідаўскую дарогу. Ён і сам не ведаў, куды і чаго ідзе. А вунь ужо і Мілавіды непадалёку. Шэрыя стрэхі хат у перадранішнім тумане здаюцца нейкімі страшыдламі. Густыя малачаістыя туманы, як суцэльная сцяна, стаялі над рэчкай, якая бяжыць між хмызнякоў за мілавідаўскімі сядзібамі. Пад раніцу стала халаднавата,

і Валянціну захацелася цеплыні, але ён не ведаў, дзе яе шукаць. Успомніліся выпадкова падслуханыя Анэліны словы: «Я, дзяўчаткі, усё лета сплю ў клеці, а як добра там». І яго пацягнула да тае клеці. А вунь жа і яна, клець, адной сцяной і прыстрэшкам выходзіць на вуліцу. А пад сцяной ляжыць тоўстая, акораная, абшмальваная доўгім сядзеннем калода. Кожны выхадны дзень, ды і вечарамі, на гэтай калодзе сядзяць дзяўчаты з хлопцамі, песні спяваюць. І ў той вечар, калі яны з Анэляй пайшлі з клуба, гадзіны са дзве прасядзелі на калодзе. І цяпер Валянціну захацелася прысесці на ёй. Ён сеў, ціхенька пад нос сабе памармытаў, а потым ледзь не крыкнуў:

— Анэля, ты спіш?

Сказаў і спалохаўся. Аднак з клеці не чулася ніякага жывога голасу. А на ўсходзе ўжо ружавеў край неба. У тым месцы, адкуль павінна выкаціцца сонца, плавала алавяная хмара, і промні сонца, як бы стараючыся пранізаць яе, зрабілі хмару барвовай са светла-блакітнымі краямі. Валянцін загледзеўся на хмару. І ці то ад таго, што нахапіўся дзень, ці ад ранішняга халадку, раптам працверазеў і толькі цяпер зразумеў недарэчнасць таго, што ён робіць. Устаў з калоды і шпарка пакрочыў вуліцай у бок Завейнава. Перад ім стаяў маленькі Васілёк з заплаканымі вачыма, і Валянцін падумаў сам сабе: «Добра, што хоць ніхто не бачыў мяне тут».

Дахаты Валянцін прыйшоў, калі ўжо добра развіднела. Насця ўсю ноч не спала. Каб не дзіця, дык, напэўна, яна пабегла б шукаць яго. І цяпер, як толькі муж пераступіў парог, Насця з лютай злосцю, не так за тое, што ён не начаваў дома, як за сваю бездапаможнасць, накінулася на яго:

— Вісус ты несусветны, не хачу, каб твая нага была тут. Бяры от свае транты і ідзі куды хочаш.

Валянцін нейк машынальна схапіў чамаданчык, памкнуўся да калыскі, у якой спаў Васілёк, з момант які пастаяў у нерашучасці, потым сігануў за дзверы. Насці адразу крыху шкада яго стала.

Яна хацела ўжо выбегчы ўслед і паклікаць назад у хату, але не магла ўтаймаваць свайго жаночага ўзрушэння, а таму, толькі высунуўшы галаву за сенечныя дзверы, глядзела, куды ён пойдзе.

А Валянцін бегма бег. Ён наважыў прасіць дырэктара адпусціць яго куды-небудзь у іншае месца. Але дырэктара ў канторы яшчэ не было, і Валянцін з чамаданчыкам

пайшоў у поле, туды, дзе ў ранішняй змене павінен быў працаваць яго напарнік. Дзяўчаты з Анэлінага звяна рана прыйшлі на поле. Яны вязалі ў снапкі і ставілі ў кучкі выцерабленым машынай лён. Анэля адна працавала на самым краі загона. Яна хутчэй адчула, чым пачула набліжэнне Валянціна.

— Добрай раніцы, Анэля,— суха павітаўся ён.

— Добрай раніцы,— адказала Анэля і гэтак ласкава зірнула на Валянціна, што ў таго сэрца ёкнула.

— Чаго гэта ты напляла тым карэспандэнтам, што яны на ўсю вобласць абняславілі мяне?

— Нічога я не напляла, я праўду сказала. Хіба ты не ведаеш, што я цябе кахаю даўно ўжо.

— А навошта мне тваё каханне? Ты мне жыццё разбіваеш.

— І добра, калі разбіваю. Няхай твая Насця не дзярэ носа,— сказала кпліва Анэля.

Хто яго ведае, чаго б Валянцін нагаварыў Анэлі,— ён такі добра ўзлаваўся на яе,— калі б не падышоў дзядзька Піліп.

— Чаго гэта ты прыцягнуўся з гэтым чамаданам? Можа, да яе ўжо, як у той газеце напісана?

— Не трэба яна мне.

— А ён мне трэба! Усё роўна адаб'ю ад тае задавакі,— з нейкім самаўпэўненым выклікам сказала Анэля.

— От мелеш языком,— кінуў спакойна дзядзька Піліп Анэлі, а потым да Валянціна:

— Добра, хлопча, што ты прыйшоў. Мікола нешта захварэў, дык я думаў па цябе сам ісці, а ты як ведаў. Толькі чаго гэта з чамаданам?

— Жыцця дома няма.

— Ты што, у прочкі? То калі што, дык і ў мяне хата не малая, а зараз пастаў гэтае сваё багацце ды — на трактар.

За тонкай шалёвачнай перагародкай, якая з паўметра не даставала да столі, у невялічкім пакойчыку-бакоўцы Валянцін усталяваў сваё жыццё. Дзядзька Піліп загадзя, мусіць, тады, як прыходзіў на абед, паставіў пры сцяне лёгкі жалезны ложак з драцяной сеткаю. У Валянціна не было нічагусенькі — ні падушкі, ні коўдры, у чамаданчык Насця паклала толькі святочны касцюм ды камбінезон. Прыйшоўшы ўвечары на новую кватэру, ён кінуў пад ло-

жак чамаданчык і знясілены апусціўся на сеннічок: аж зарыпела драцяная сетка. За перагародкай уходжвалася ля печы цётка Мальвіна. Яна была адна ў хаце. Дзядзька Піліп, відаць, недзе забавіўся ў МТС. У печы сквірчэла сала, і, удыхнуўшы пах смажаніны, Валянцін адчуў, які ён галодны. Ды і не дзіва: з учарашняга дня чалавек нічога ў рот не браў. Праўду казаць, яно, можа б, і не палезла. Крыўда і злосць заглушалі голад. Толькі вось цяпер, крыху супакоіўшыся, Валянцін адчуў, як яму хацелася есці.

Рыпнулі дзверы, і ў хату ўвайшоў дзядзька Піліп. Валянцін чуў, як ён пырскаўся вадою ў мыцельніку. Ён нават паглядзеў на свае рукі — яны былі зашмальцаваныя, яму зрабілася сорамна трохі. Валянцін чуў, як дзядзька садзіўся за стол, хоць і рабіў ён усё гэта моўчкі. Відаць, у іх з цёткай Мальвінай нешта не ладзілася, інакш чаго б яны маўчалі? Дзядзька ж Піліп гаваркі. А можа, ён гэта толькі на людзях, а дома зацяты маўчун? Нарэшце Валянцін пачуў:

— А кватарант прыйшоў да нас?

— Ды ўжо ж прыйшоў,— адказала, як здалося Валянціну, са злосцю цётка Мальвіна. Яму нават падумалася, што гэта яна злуе на дзядзьку Піліпа за тое, што ён пусціў яго ў гэтую баковачку.

— Дык няхай бы ішоў вячэраць з намі. Жонка ж яму не нагатуе,— і, павярнуўшы галаву ў бок пакойчыка, гукнуў: — Ідзі, хлопча, падсілкуйся трохі.

— Дзякую, дзядзька Піліп, мне нешта не хочацца.

— Ды чаго там не хочацца. Ідзі, калі запрашаем, а пачнём біць, дык будзеш уцякаць. Сварка, хлопча, сваркай, а скварка скваркай, яе цурацца нельга. Падсілкуешся, дык і сэрца палагаднее.

Валянцін адмовіўся наадрэз ісці вячэраць. Яму здавалася, што калі ён сядзе за стол, дык цётка Мальвіна косым вокам будзе глядзець на яго: бач, нахлебнік яшчэ мне знайшоўся.

— Ды села б ты, старая, у нагах праўды не дашукаешся,— пачулася Валянціну з-за перагародкі.

— Сядзі крукам, калі сядзіш,— буркнула цётка Мальвіна.

Дзядзька Піліп кракгануў, чмыхнуў і, як здалося Валянціну, ужо з адценнем злосці працягваў:

— Усе вы, бабы, на адзін капыл. Чаго на цябе, як які нячысцік уссеў. Ну, забавіўся я ў канторы, дык на гэта ж

прычыны ёсць: у «казла» гулялі, а потым зайшлі ў чайную ды па чарцы выпілі. Дык хіба за гэта чалавеку трэба на галаве струп нагрызці? Я ж ціхенька прыйшоў, ціхенька лёг сабе, думаў, перасплю тую тваю злосць. Дык дзе там! Няхай-то маладыя, а ты ж старая ўжо. Можа, і ты мяне яшчэ раўнуеш?

— Еш, калі ясі, і языком не мялі,— ужо мякчэйшым галасам сказала цётка Мальвіна.

— А што, калі я не магу злосць тваю з'есці, не пракаўтну. Яна, як тая костка, упоперак горла становіцца.

Валянцін чуў, як пад дзядзькам трэснула крэсла, як ён, відаць, локцем бухнуў у шалёвачную перагародку. А ў наступны момант ён пачуў словы цёткі Мальвіны:

— Ды кінь ты, стары, з гэтымі любошчамі, з гэтымі сваімі абдымкамі. На цябе нібы і старасці няма,— і ўжо зусім лагодна: — Як жа мне на цябе не злаваць? Прыцягнуўся сярод ночы п'яны.

— Дык ты злавала б сабе ціхенька і не сварылася б,— сказаў дабрадушна дзядзька Пiлiп.— А то ж захадзілася, дык хоць ты вушы затыкай ды ўцякай немаведама куды.

— Не ўцёк жа, тым часам.

— Каб я пасля кожнай тваёй сваркі ды ў прочкі хадзіў, дык ліха яго ведае, да чаго б дахадзіўся.

Валянцін чуў усю гэту гаворку, і твар яго залівала гарачая чырвань. Ён ужо не мог улежаць, але каб старыя не здагадаліся, што ён слухае іх, Валянцін прыкінуўся, што спіць. Ён стараўся не варочацца, каб пад ім не рыпела, не енчыла драцяная сетка. Старыя, павячэраўшы і, відаць, ужо зусім памірыўшыся, пайшлі спаць. Валянцін, пачуўшы, што дзядзька Піліп захроп, дастаў з-пад ложка свой чамаданчык і ціхенька выйшаў на вуліцу. З неба лілося срабрыстае месячнае святло. Тыя хмаркі, што вандравалі па небе надвячоркам, недзе сплылі за небасхіл, і неба было чыстае-чыстае. Начную цішыню будзіла песня, што далятала да Валянцінавага слыху з Завейнава, з сядзібы МТС. Ён услухаўся і разабраў словы: «А ў полі, полі раслі дзве таполі».

[1957]

# ГОСЦЬ

Тэлеграму прынеслі позна ўвечары. Яна была лаканічная і канкрэтная: «Сустракай. Прыязджаю рыжскім. Тата». Даніла аж разгубіўся. Ён не чакаў ні гэтай тэлеграмы, ні гэтага прыезду. Стары бацька яго Назар жыў пры самай меншай дачцэ Мальвіне. Жыў у вёсцы, дзе нарадзіўся, дзе ўсё жыццё гаспадарыў і дажыў да таго веку, калі трэба ўжо сядзець без клопату на ласкавым хлебе. Назар, відаць, і мог бы знайсці такі ласкавы хлеб, калі б захацеў. Ён паставіў на добрыя трывалыя ногі трох сыноў і дзвюх дачок. Сыны, як гэта цяпер часцяком бывае, не адзержаліся на бацькавым котлішчы, а, як тыя птушкі, што саматугам пааперваліся, вылецелі з роднага гнязда, і цяпер, калі каторы наязджае ў Перкі, дык толькі на кароткі які месяц адпачынку. Назар нават не паспее наглядзецца, нагаварыцца з каторым, а ён ужо аглоблі назад паварочвае.

Усе сыны, асабліва старэйшы Даніла, напрамілы бог прасілі старога, каб ён кінуў свае Перкі і пераязджаў у горад. Але ён ні блізка. От так і жыве стары пры меншай дачцэ Мальвіне ды пры прымаку Рыгору. Ніколі, мабыць, не думаў чалавек, што, маючы трох сыноў, давядзецца веку дажываць з прымаком. Праўда, прымак Рыгор — чалавек не з бядою. З такім жыць можна. Але ж адна толькі пагалоска, што стары жыве на прымачым хлебе, на пачатку раніла сэрца. Цяпер Назар прыцёрся ўжо каля зяця, і, здаецца, яму і на свеце больш нічога не трэба. На запрашэнне сыноў пераехаць да каторага ў горад Назар не адказваў ні адмовай, ні згодай.

Даніла думаў, што ў бацькавым сэрцы крываточыць яшчэ тая рана, што засталася пасля цяжкай хваробы і смерці маці, і стары баіцца яшчэ больш яе ўразіць. Але з цягам часу і гэтая, здавалася б незагойная, рана зацягнецца. Ніводная, нават самая глыбокая, рана не можа век крываточыць — такі закон жыцця. Інакш бы людзі не жылі, а век бы свой марнелі, адно што бедавалі б, ніколі не ведаючы і не бачачы прасвету ад болю, ад гора і нэндзы. Радасць чалавечая ўсё ж такі мацней за скруху і беспатольнае гора. Дык Даніла, мусіць, і чакаў таго часу, калі мінецца бацькава гора, і тады стары, можа, сам папросіцца пад яго, сынаву, цёплую апеку.

І от гэтая тэлеграма. Даніла каторы раз чытае яе. Нават на прасвет паглядзеў. Быццам гэты бланк прынес-

лі яму проста з бацькавых рук і на ім можна не тое што прачытаць, дык адчуць па нечым няўлоўным і невідочным самога бацьку. Сталася так, што гады тры пасля смерці маці Данілу не давялося бываць у Перках: то не выстачала часу — ад работы ніяк нельга было адкараскацца, то кароткі месячны адпачынак хацелася пабыць дзе-небудзь на пяшчотным поўдні, каб цябе пахвасталі ласкавыя чарнаморскія хвалі. Як ні кажы, а яны, здаецца, гаючыя, тыя чарнаморскія хвалі. Даніла ўжо немаладзён, і яму патрабуецца тая адмысловая пяшчота, якая быццам улівае ў цела мляўкую дужасць. Больш за пяцьдзесят гадоў пражыў Даніла на свеце, але яму не часта даводзілася падстаўляць спіну пад гаючыя промні паўднёвага сонца. Часцей за ўсё на гэтую спіну навальваўся цяжар жыцця, і яна аж угіналася. Жылося Данілу не заўсёды ў дастатку: то былі малыя дзеці, то работа была такая, што не вельмі давала нажытку, і ён кожны свой адпачынак ці ездзіў у Перкі, ці марнаваўся ў горадзе, памагаючы Серафіме ўпраўляцца з гаспадаркай. Толькі цяпер, калі дзеці пайшлі ўжо на свой хлеб, а ён на рабоце падняўся на самую высокую службовую прыступку, з'явілася магчымасць часам пацешыцца жыццём, хоць бы на тым таямніча-прывабным поўдні.

Як прынеслі тэлеграму, Даніла ніяк не мог заснуць. Заплюшчваў вочы, а перад ім паўставаў бацька. Маленькі, хударлявы, з завостраным носам, з выцвілымі вачыма і з сівымі, не вельмі густымі і пышнымі вусамі, якія ён нерэдка калі падроўніваў, і яны выдавалі нечым лішнім, непатрэбным. Перад сынавай памяццю паўставаў бацька з таго часу, як толькі ён помніць яго: то ён быў мажны, дужы, чырванатвары, то твар мяняўся — дробненькімі пісюжынамі кладзіся на яго зморшчыкі, і скура на ім была карычневай, ці то ад загару, ці то ад старасці. Большала і лысіна, і тады галава выдавалася круглейшай і нібы чужой. Даніла хацеў адбіцца ад гэтага наслання думак і заснуць. Раніцай паедзе ж на вакзал і ўбачыць, які цяпер бацька. Сэрца чамусьці заходзілася ад шкадобы, быццам ён чакаў не сустрэчы, а развітання з бацькам. Нават калі, змогшыся, заснуў, нейкі недарэчны набрыдлы сон не даў спакою.

Даніла прахапіўся, як толькі зардзеўся на ўсходзе малады вясновы ранак. Пачаў хуценька апранацца, баючыся спазніцца.

— Данік, куды гэтак рана? — прачнулася Серафіма.

— На вакзал жа трэба, Сімачка!

— Яшчэ ж дзве гадзіны да цягніка. Дапаўзці можна, не тое што дайсці,— зірнула на гадзіннік Серафіма.— Вунь ляж ды паспі яшчэ трохі.

Даніла не лёг. Апранаўся, як па трывозе. Потым выйшаў на кухню. Курыў цыгарэту за цыгарэтай у нейкім незразумелым нават для яго самога ўзрушэнні. Кідаў вокам раз-пораз на ручны гадзіннік, на якім, здавалася, стрэлкі папрымярзалі і не рухаліся, хоць гадзіннік цікаў. Падумаў, што гадзіннік стаяў уночы і позніцца. Пазваніў па тэлефоне, набраўшы намар праверкі часу. Адказаў механічны голас аўтамата. Яго наручны гадзіннік не пазніўся, не забягаў наперад.

А Серафіма заснула зноў. Даніла нават на момант зазлаваў на яе абыякавасць. Выкурыў на кухні яшчэ дзве цыгарэты і ціхенька, не стукнуўшы дзвярыма, выйшаў. На вуліцы ўжо было відно. Прачыналася ў скверы птаства. І людзі многія выйшлі на вуліцы ўжо. Пайшлі тралейбусы і трамваі. Чутно было, як воддаль на вакзале чахкаюць цягнікі. Ход аднаго чуўся вельмі выразна. Данілу падумалася, што гэта, мабыць, той, якім павінен прыехаць бацька. Зірнуў на гадзіннік, але яшчэ заставалася амаль гадзіна да прыходу рыжскага. Даніла збочыў на прывакзальны скверык, каб лішне не шпацыраваць па пероне. Няма большай нуды, чым чакаць адыходу ці прыходу цягніка. Кожная хвіліна здаецца гадзінаю. Са скверыка Даніла бачыць, як пачынае віраваць жыццё горада. На момант становіцца шкада, што кожны дзень ён прачынаецца позна і не бачыць гэтага ранішняга руху. Наглядаючы яго, быццам сам маладзееш. Даніла бачыць, як палівальная машына апырсквае пасаджаныя звечара на клумбах кветкі, і яны таксама нібы прачыналіся пасля ночы. Неяк хораша стала на душы. З галавы вылецелі настырныя згадкі мінулага, і ён ледзь не забыўся, чаго прыйшоў сюды. Зірнуў на гадзіннік і аж падскочыў: вось-вось павінен прычахкаць цягнік. Як не подбегам кінуўся на перон. Там была процьма сустракаючых.

Даніла не ведаў, у якім вагоне едзе бацька. Недзе далекавата гукнуў паравоз і пачуўся быццам абвальны шум. Цягнік спыніўся. Заляскалі толькі буферы. Апускаліся падножкі вагонаў. Правадніцы прытыкалі нумары ля дзвярэй. Даніла агледзеўся, што ён акурат пасярэдзіне саставу. У які бок бегчы? Падумалася, што бацька паві-

нен ехаць у канцы саставу. Падаўся туды. Спыняўся ля кожнага вагона, глядзеў, як выходзілі пасажыры, але бацькі не бачыў. Падаваўся далей. Каля трох вагонаў гэтак пастаяў Даніла. Старога нідзе не відно было. Папытаўся ў правадніцы апошняга вагона, ці не заўважыла яна старога. Ён у словах намаляваў, як мог, бацькаў вобраз. Правадніца зірнула на яго, як на дзівака, усміхнулася і сказала:

— Я на маладых заглядалася. Навошта мне стары?

Даніла аж зазлаваў на правадніцу, на яе маладую весялосць і з усіх ног кінуўся ў галаву саставу. Цяпер яму чамусьці здалося, што бацька павінен быў ехаць іменна ў першым вагоне. Засопшыся, Даніла дабег да дзвярэй першага вагона. Адтуль ужо выйшлі пасажыры, што злазілі ў Мінску. Правадніца строілася падымаць сходцы.

— Скажыце, будзьце ласкавы, ці не ехаў у вашым вагоне стары? — як ласкавей папытаў Даніла і пачаў расказваць, які з выгляду бацька.

Правадніца на момант адхінулася ад работы і ўважліва выслухала Данілу. Яму здалося, што от зараз жа гэтая чулая жанчына скажа, дзе яго бацька. А яна бавілася, нібы старалася ўспомніць.

— А хто ж яго ведае,— нарэшце вымавіла правадніца,— каторы ваш бацька. Старыя ехалі ў маім вагоне, але ж я не ведаю, ці ехаў ваш.

Цягнік адпускаў ужо тармазы: вось-вось рушыць. Нібы падымаючы неймаверны цяжар, уздыхнуў паравоз і рвануў з месца. На пероне пасвятлела. Даніла раз-другі прайшоў сюд-туд, пільна ўглядаючыся ў твар кожнага чалавека, але старога нідзе не было. Ён подбегам пашыбаваў на прывакзальную плошчу. Там таксама было поўна людзей. Яны тоўпіліся на трамвайных і аўтобусных прыпынках. Ля самага вакзала выстраілася чарга на таксі. Даніла падумаў, што бацька на таксі не сядзе — пашкадуе грошай. Нацянькі цераз плошчу пабег да тралейбуса. І там стаяла немаленькая чарга. Як не кожнаму чалавеку, асабліва старому, ён зазірнуў у вочы. Падышоў тралейбус, і чарга ўмясцілася ў яго. Даніла таксама зайшоў у тралейбус, акінуў вокам пасажыраў. Бацькі не было. Засталася адна надзея, што стары зайшоў у вакзал. Пайшоў туды. Пахадзіў паміж лавак у людской гушчэчы па ўсіх залах. Старога нідзе не было. Прыйшла думка, можа, ён якім іншым цягнікам едзе. Папытаў у даведачным бюро, ці хутка будзе з Гомеля які іншы цягнік. Адказалі,

што праз сорак хвілін павінен прыйсці нейкі луганскі, які ідзе праз Гомель.

«Пачакаю,— падумаў Даніла,— можа, стары ў тэлеграме памыліўся. Калі б прыехаў, пэўне, што ён мяне шукаў бы. На новай кватэры ён у нас не быў і наўрад ці адважыцца адзін ехаць шукаць яе».

На сквер не пайшоў. У тым, што ён не знайшоў бацьку, здавалася, было прычынай тое, што засядзеўся на скверы. Купіў у кіёску газету, прыхінуўся да нейкай будкі з намерам пачытаць. Але тое, што ён чытаў, не ішло ў галаву. Хапіўся за цыгарэты. З зацяжкай дыму прыходзіла нейкае прывіднае заспакаенне. А стрэлкі гадзінніка быццам былі прывязаны. Страсянуў рукою. Паднёс да вуха. Гадзіннік ішоў мінута ў мінуту з тым, што на будынку вакзала. Здалося, што ўсё змовілася супраць яго — і час, і людзі, і цягнікі, і гадзіннікі.

Сустракаць другі цягнік Даніла на перон не пайшоў. Стаў узбоч ля варот, на якіх было напісана «Выхад у горад». Прачытаў і кінуў сабе дакор: «Дурны, не даўмеўся тады стаць ля гэтых варот, пэўне не прапусціў бы». Паток пасажыраў з луганскага цягніка адразу валам рынуў у вароты. Даніла нават не паспяваў акідаць усіх позіркам. Аж вочы ад напружання забалелі. Старога не было.

Зусім panылы, Даніла пахадзіў яшчэ па плошчы, выйшаў на перон, нырнуў, як у стаячую ваду, у вакзальны тлум і сам сабе сказаў: «Значыцца, не прыехаў стары. Мусіць, нешта здарылася». Заклапочаны, узрушаным крокам пайшоў да тралейбуса.

Ліфт з раніцы не быў яшчэ ўключаны. Гупаючы па сходцах нагамі, Даніла цяжка падымаўся на свой восьмы паверх. Ён быў на ўсё цяпер злы — на тое, што далі яму кватэру на такой верхатуры, нават на французскі замок, у вузкую шчыліну якога чамусьці не трапляў ключ.

Серафіма пачула, што нехта шкрабецца, і адчыніла дзверы. Яна здзіўлена паглядзела на разгубленага мужа і ўсміхнулася. Яе ўсмешка злавала яго.

— Дзе ж твой госць?

— Хто ж яго ведае. Мабыць, не прыехаў. Мо якое няшчасце здарылася,— прамовіў усхвалявана Даніла.

А Серафіма стрымана смяялася, кідаючы вачыма на вешалку ў прыхожай. Калі б і Даніла зірнуў на вешалку, ён пэўна б угледзеў сваё былое дэмісезоннае паліто, якое гадоў колькі аддаў бацьку. Але Даніла хуценька скінуў

плашч, павесіў яго як не поруч з бацькавым паліто і ўзрушана спытаў:

— Што ж са старым? Мабыць, не сеў на цягнік?

Серафіма, бачачы мужаву ўзрушанасць, усміхнулася, нібы яна і рада была, што бацька не прыехаў. Ён хацеў сказаць ёй што-небудзь крыўднае, колкае, але стрымаўся.

— Хадзем снедаць, на работу спознішся,— весела запрасіла яна.

Даніла зірнуў на гадзіннік, і яму здалося, што цяпер ужо стрэлкі яго бягуць, спяшаюцца.

— Есці нешта не хочацца. Хіба толькі чаю вып'ю,— сказаў ён і заспяшаўся на кухню. У дзвярах яе Даніла спыніўся як укапаны. Ён глядзеў і вачам сваім не даваў веры: за сталом сядзеў бацька і са сподачка піў чай.

— Тата! — аж крыкнуў Даніла.

Стары паставіў недапіты сподачак, павольна ўстаў з-за стала і пайшоў насустрач сыну. Данілу ён здаваўся вельмі маленькім, шчупленькім, і, калі ён схапіў аберуч і аж падняў, каб пацалаваць, бацька здаўся і вельмі лёгенькім, як тая пушынка.

— Дык як жа гэта мы размінуліся? — цалуючы, пытаў Даніла.

— Не ведаю, сынку, дзе ты якіх варон страляў,— адказаў бацька.— А я тым часам паглядзеў, што цябе нідзе не відно, пайшоў з адным добрым чалавекам. З ім я ў дарозе пазнаёміўся. Дык ён мне і кажа: «Давай, бацця, сядзем на таксі, і я дастаўлю цябе да самых дзвярэй сынавай хаты». То я і сеў.

— А я шукаў цябе, аж галава забалела.

Бацька з сынам ніяк не маглі нагаварыцца. Можа б, сын забыўся і на работу, калі б Серафіма не нагадала:

— Данік, ты ж позьнішся.

— Мы з табою, тата, яшчэ нагаворымся. Цяпер у нас часу хопіць,— нагадаў сын бацьку, што ён прыехаў сюды, калі не назаўсёды, дык надоўга.

— Але ж, нагаворымся, сынок.

Першы дзень гасцей здаўся старому годам. Ён і спаў, і выходзіў на балкон. Глядзеў да галавакружэння ўніз. Садзіўся за сынаў пісьмовы стол. Слепячыся, чытаў кніжкі, а дню і канца не было відно. Недзе забавіўся і Даніла. Асабліва маркотна было, калі і Серафіма пайшла ў магазін. Даніла пазваніў дадому і сказаў жонцы, каб яна згатавала добры абед, бо ён з выпадку прыезду бацькі прыйдзе з таварышам. Мелася прыйсці і дачка з унучкай

Ліпачкай. Серафіма ў магазіне забавілася. Стары ў другі раз лёг на тахту, намагаючыся заснуць. Але не даў рады.

Добра, што прыйшла нявестка. Назар перабраўся на кухню. Серафіма завіхалася ля газавай пліты: варыла, парыла, смажыла. Седзячы за сталом, стары наглядаў за кожным рухам нявесткі.

— Тата, можа, вы ўжо есці хочаце? — папытала нявестка.

— Дзякую, лежачы не вычухаўся.

Гаспадыня ўзялася пячы піражкі з капустай. Стары пільна наглядаў за яе работай. Серафіме чамусьці здалося, што позірк у яго прагавіты, як у галоднага. Яна хуценька падала старому румяны піражок на талерачцы.

— Паспытайце, ці смачна.

Стары доўга разглядаў піражок, нібы не мог налюбавацца ім. Потым укусіў.

— Глядзі бо якая смаката! Не казаў бы то па-гарадскому гатуеш! І капуста ж нейкая не такая, як наша. Смачная ж дужа.

— Гэта вы, мабыць, выгаладаліся, дык і смачная.

— Не выгаладаўся я. От бо не казаў бы то гарадскія людзі: яны да ўсяго хібет маюць. Не тое што нашы дзеравенскія гаспадыні: возьме найлепшы прадукт ды як скуёўдзіць яго, дык у рот хоць таўкачом запіхай.

— Няпраўда, тата,— нібы хочучы абараніць вясковых гаспадынь, сказала Серафіма.— Я і цяпер памятаю, якія смачныя блінцы пякла мама. Яшчэ да вайны мы з Данікам елі, а я не забылася таго смаку. А салонікі з салам!

— Мая нябожчыца, як толькі ёй выстачала часу, магла згатаваць, што пальчыкі абліжаш. А другая ж каторая спячэ булку, нібы цэглу. Прадукт толькі сапсуе.

Седзячы за сталом у кухні, стары да ўсяго, што рабіла гаспадыня, вельмі ж пільна прыглядаўся. Дапытваўся, колькі і ў якую страву трэба класці якое прыправы. Не вытрымаўшы роспытаў старога, Серафіма спытала:

— Мо, тата, вы на старасць хочаце за кухара навучыцца?

— А яно так, мая галубка, тое, што ведаеш, не муліць плячэй. Насіць яго не цяжка. Можа, тым часам і спатрэбіцца калі. Маладую сваю гаспадыню падвучу.

— Якую гаспадыню?

— Мальвіну!

— Дык вы ж назаўсёды прыехалі...

— Яно тым часам хто яго ведае,— прызнаўся стары

ў тым, што яшчэ канчаткова не вырашыў, з кім і дзе яму жыць.

Серафіме думалася, што стары тырчыць тут на кухні ад нудоты, нават замінае ёй сваімі роспытамі. Ёй хацелася згатаваць абед як найлепш, тым больш што будуць госці. А кожнай гаспадыні перад чужымі людзьмі хочацца паказаць свой кухарскі спрыт. Яна прапанавала старому схадзіць пагуляць у парк, але на двары быў дождж. А стары ўжо, седзячы за сталом, як не кляваў носам.

— Тата, вы, можа б, прылеглі? Я пасцялю вам у зале на канапе. У вас жа вочы зліпаюцца.

— Ат, гэты сон сляпіцаю лезе. Здаецца ж, і выспаўся ў вагоне, а ён вот лезе.— І стары ўлёгся на канапе.

* * *

— О, наш госць спіць як муку прадаўшы,— пачуўся жартоўны Данілаў голас.

— От толькі што ўклала. Цэлы дзень крукам сядзеў пры мне на кухні. Няхай яшчэ трошкі паспіць. Ціхаце,— прасіла Серафіма Данілу і мужчыну, што з ім прыйшоў. Адно гаспадыня не магла ўціхамірыць маленькую Ліпачку, якая толькі што прыехала з мамай, Назаравай унучкай Эльвірай. Малая ўкацілася ў пакой і не магла даўмецца, хто гэта спіць на тахце. Падышла да тахты і ўтрапёна паглядзела на сівыя вусы, на лысую галаву. Аж дакранулася ручкай да яе. Баба Сіма сказала, каб Ліпачка не будзіла дзеда. Яе ж дзед — Даніла. Вунь які ён прыгожы, яе дзед. У яго вунь і валасы якія густыя. Яна не раз учэплівалася сваімі ручанятамі ў іх. Дзіця доўга стаяла ў нерашучасці перад тахтой. Ступіла крок-другі і адважылася пальчыкамі пакратаць сівыя вусы. Назар праплюшчыў трошкі вочы, і, мусіць, яму здалося, што ён нешта важнае праспаў. Усхапіўся на ногі і хуценька пачаў абуваць чаравікі, быццам і яму трэ было спяшацца на работу. Расплюшчыў шырэй вочы, угледзеў малую і, разняўшы рукі, загукаў:

— Ліпачка, дзетка, хадзі да мяне. На вот табе цукерку,— дастаў ён з кішэні нешта мурзатае.— На, дзетка, гэта я з Перак табе прывёз.

Але дзіця не ішло на прынаду. Яно стаяла ў нерашучасці і нібы раздумвала — ісці яму ці не. Потым ступіла крок-другі, падняло ручку і дакранулася да вусоў:

— Што гэта ў цябе, дзедка?
— Гэта — вусы.
— А навошта яны табе?
— Каб табе было за што цягаць.
— А валосікі яшчэ ў цябе не выраслі? Баба мне казала, што калі я была зусім маленькая, дык і ў мяне была галоўка босая. А цяпер во глядзі якія! — Ліпачка пачапала пальчыкамі свае валосікі. Зірнула на дзедаву лысую галаву і сказала: — І ў цябе вырастуць, ты не бойся.
— Вырастуць, пэўне, што вырастуць.
Даніла і яго сябар пачулі, што прачнуўся стары, і заспяшаліся да яго.
— Дзень добры, баця. З прыездам,— азваўся да старога Данілаў сябар Міхал Міронавіч.— Будзем знаёмыя,— падаў ён руку.— Я вас прыблізна такім і ўяўляў. Ваш Даніла і крошкі вашы пабраў.
— У мяне ўсе дзеці крошкі мае пабралі, а сам цяпер дык нібы і без крошак застаўся.
— Як гэта? — насцярожыўся Міхал Міронавіч. У словах старога яму пачулася скарга на дзяцей.
Даніла таксама з дакорам зірнуў на бацьку, не зразумеўшы таго схаванага сэнсу, які меў на ўвазе стары. Ён жа, Даніла, як не штомесяц пасылаў бацьку грошы. Вядома, не столькі, каб можна было раскашавацца на іх. А што старому трэба? Навошта яму тая раскоша! Даніла яшчэ раз дапытліва зірнуў на старога і заўважыў, што ён нечым незадаволены. З прыемнасцю падумаў, што цяпер стары асядзе ў яго назаўсёды і няхай пабачыць, што і яны тут не вельмі раскашуюцца. А можа, ён нічога асаблівага і не думаў, вымаўляючы гэтыя словы? Гаспадар гукнуў на кухню:
— Сіма, падавай хутчэй абед! З голаду можна зайсціся, чакаючы твайго абеду.
— Зараз, зараз! Пачакайце трохі,— азвалася Серафіма.— Больш выгаладаецеся, абед смачнейшы будзе.
У наступны момант, як у той казцы, стол нібы сам накрыўся, уставіўся наедкамі і напіткамі. Іх было як на добрым вяселлі, а Сіма з Эльвірай усё насілі і насілі, нібы хацелі паказаць старому Назару, што яны не скупыя.
Даніла сеў поруч з бацькам. Першую чарку Даніла наліў каньяком. Серафіма паклала старому вінегрэту, кілбасы і сваёй работы кансерваваных маладых грыбочкаў. Першы тост быў за прыезд старога. Бацька, не рас-

смакоўваючы доўга, кульнуў як за сябе велікаватую чарку. Папярхнуўся, аж дых захапіла.

— От, не кажы ты, мацунак. А я ж думаў, што гэта так сабе нейкі салодзенькі квасок. А ён аж у горле перасеў.

— Гэта квас во які,— сказаў Міхал Міронавіч.— Ад дзвюх-трох чарак можна зусім акасець.

Пасля першай чаркі нейкі момант елі моўчкі. Стары прабаваў усяго патрошку. І ўсё было такое смачнае, што за вушы, здаецца б, не адцягнуў ад такой смакаты.

— Тата, можа, яшчэ чаго падкласці? — папытала Серафіма.

— Падкладзі бо яшчэ трошкі. Я ж кажу — гэта не тое што нашы вясковыя няўмеліцы гатуюць. Адно толькі правіянт псуюць.

— Гэта няпраўда, тата,— умяшаўся Даніла.— Мы ж павыгадоўваліся на тым сапсаваным правіянце. Ды, здаецца, не зломкамі і павырасталі.

— Парода такая,— адказаў бацька.— І нябожчыкі дзед твой і прадзед, ды і я, дзякаваць богу, не зломкамі былі. Калі б на такім правіянце, як вы тут ясце, дык з нас бы асілкі павыходзілі.

— Давайце вып'ем за вясковых асілкаў,— наліўшы чаркі, прапанаваў тост Міхал Міронавіч.

Стары адсунуў келіх з каньяком і папрасіў наліць яму чаго слабейшага. Даніла наліў у большы келіх «Мукузані». Стары выпіў, скрывіўся. Мабыць, віно яму здалося няёмачным. Ён паглядзеў на чарку, на бутэльку, на Данілу, быццам пытаючы, чаго яму налілі...

— Тата, гэта найлепшае віно,— зразумеў бацькаў позірк Даніла.— Яго толькі арыстакраты і п'юць.

— Хто, хто?

— Арыстакраты! Ну, паны, па-твойму. Яно вельмі карыснае.

— Хіба тыя паны дурныя такую дрэнь кіслую піць...

Усе зарагаталі. Стары не зразумеў рогату. Але больш не падстаўляў келіх пад віно. Сын яму наліваў «сталічную».

Бяседа ўжо ўвайшла ў тую каляіну, калі хмель развязвае языкі нават маўклівым людзям.

— Дык як усё-такі, баця, жывецца цяпер у калгасах? — пытаў Міхал Міронавіч.— Мусіць, цяпер добрую палёгку далі сялянам?

— Дык яно, як вам сказаць, палёгку то далі. Але ў

нашай сялянскай жытцы заўсёды што-небудзь не куецца, а плешчацца. Як той казаў, адно надточыш, глядзіш — другое парвалася. От жа здавалася, усё ўжо добра, дык на табе — кароўка сцяралася. А ў вясковай жытцы без кароўкі — як у вас без магазіна.

— Як гэта ў вас кароўка сцяралася? — дапытваўся Міхал Міронавіч.

— Неяк увосень пайшла ў чараду. А там, пастух кажа, учапілася ў нейкі плот і нагу зламала.

— А чаму ж пастух недагледзеў? — нібы кінуў дакор пастуху Міхал.

— Ат, цяперашнія пастухі! Яму што, сядзіць сабе пад плотам, ды кніжку чытае. Калгасную чараду дык яны глядзяць як мае быць. Там калі што, дык старшыня дасць такога пытлю, што не да кніжак будзе. А то яшчэ і працадні выверне. А собскіх кароў дык ім і не карціць глядзець. Ты ж, мабыць, Даніла ведаеш таго Кадзю Паяркова. Дык у яго карова як азіят які рагаты. Угналася за нашай Лыскай, а яна, ратуючыся, скочыла цераз плот і ўшчаміла нагу. Гэтак напал нага і хруснула па жывому. На другі дзень мы сваю Лыску і дарэзалі. А карова ж была дабрэнная. Малако давала, як смятану.

— Шкада, шкада,— паспачуваў Міхал Міронавіч.— То вам трэба было з таго Паяркова ды з пастуха і спагнаць.

— Што ты з іх спагоніш? На іх, як на таго нядошлага каня, дзе сядзеш, там і злезеш. А тут от яшчэ ў дочкі дзіцятка неўзабаве павінна знайсціся, дык кароўка трэба, як піць даць.

— Вядома, без каровы, ведаеце, як без рук.

Даніла ўжо ведаў гэтую гісторыю з каровай, і яму не вельмі хацелася слухаць яе. Але ён падумаў, што калі чалавеку што балючае карціць, то яму трэба даць выгаварыцца, і яно тады не так баліць. Людская спагада заўсёды ўтаймоўвае боль.

Тым часам з другога пакоя, дзе гуляла Ліпачка, пачуўся дзіцячы плач. Серафіма пабегла да ўнучкі і прывяла яе да застолля. Дзіця, не доўга думаючы, каўзанулася на калені старому. Можа, вусы вельмі вабілі яе. Стары падчукнуў яе на калене, і яна зусім асмялела. Стала на ножкі і ўчапілася ручкамі ў дзедавы вусы.

— От жа хіба гэтае дзіцятка выгадуеш без малака?

— То вы, дзядзька Назар, купілі б сабе другую кароўку,— прапанаваў Міхал.

— Яно-то чаму б не купілі. Але купіла хвост залупіла. А каровы цяпер гэтак у цане падняліся, што не падступіцца. Вы ж, мабыць, ведаеце, што правіцельства наша ўсім дазволіла трымаць кароў, што цяпер не толькі калгаснікі, дык каторыя і службоўцы хочуць за хвасты трымацца. Гэтак паднялі цану, што за якую-небудзь пярэдайку сухарэбрую лупяць, што аж кіпцюры знаць. А калгасніку ж грошы самі не сыплюцца. Заехаў ■ да меншага свайго, Міколы. Хацеў у яго трохі папрасіць. Дык дзе там! У яго ў самога іх кот наплакаў. Мусіць, во ў рыльца гэтай пасудзіны часцяком заглядае,— паказаў стары на бутэльку.

— Канечне, без каровы — дзела дрэнь, баця,— паспагадаў старому Міхал і прапанаваў:— Давайце вып'ем за тое, каб у добрых людзей каровы заўсёды вяліся.

Стары больш не піў і не еў, хоць Серафіма падкладала яму ўсё новыя наедкі, пытаючы:

— Тата, гэта будзеце есці?

— Пакладзі, маладзічка,— не адмаўляўся стары.

Стары Назар увачавідкі здаваў форс. Яго павекі нібы сталі цяжкія-цяжкія, і вочы самі заплюшчваліся. Сын узяў яго пад пахі і адвёў на тахту. Даніла з Міхалам сядзелі за сталом, пакуль не дагледзеліся дна ў бутэльках. У Міхала ўжо не так, як трэба, варочаўся язык. Ён плёў немаведама што. Госця трэба было выпраўляць з хаты. Даніла памог яму апрануцца. Правёў і пасадзіў у ліфт. Хацеў ужо зачыніць дзверы, як Міхал раптам нібы апамятаўся:

— Пачакай, Даніла Назаравіч, я табе нешта хачу сказаць.

— Ну, кажы!

— Ты ж не пашкадуй бацьку грошай на кароўку. Раскашэлься. Ён жа па гэтыя грошы прыехаў. Хіба ты не бачыш!

Данілу крыўдна было, што бацька сам не папрасіў. Ён аж зазлаваў на старога. Зазлаваў і на Міхала: чаго ён суне носам у чужое проса.

— Ну, бывай,— развітаўся ён і аж дзвярыма ляснуў. Даніла пастаяў ля ліфта і аж паглядзеў праз сетку, ці апусціўся ён уніз.

* * *

А вясна ўсё-такі была нялюдская. Нібы і не вясна: ліў дождж. Ды не вясновы дождж, а нейкая асенняя імжака, і часам здавалася, што гэта не вясна, а леташняя восень. Вясна ж, падбіўшы ногі, недзе забавілася ў дарозе. Толькі калі выблісквала сонца, відно было, што вясна: разлівалася пяшчотная ласкавая цеплыня, і свет станавіўся нейкім утульным і харошым. А стары Назар усё-такі ніяк не мог ушалопаць, што гэта ўжо вясна. Ён нават не вылазіў на вуліцу. Мусіць, вельмі падабалася яму сядзець у кватэры. Вясковы чалавек не так, як гарадскі, цэніць выхады на прыроду. Ды гэта і натуральна: тое, што чалавеку лёгка даецца, не заўсёды цэніцца на поўную цану. Стары, здаецца, рады быў гэтаму бесклапотнаму сядзенню ў кватэры. Часам турбавала яго адна думка — як там у калгасе сеюць, ці далі Мальвіне каня апратаць агарод.

Серафіма не раз ужо казала старому:

— Чаго вы, тата, турбуецеся, наш агарод заўсёды ўзараны і засеяны.

— Добра вам,— адказваў стары.

— Дык і вам жа добра. Я ж не думаю, каб вы зноў паехалі ў Перкі. Вы ж да нас назаўсёды.

Стары нічога не адказаў. Ён выйшаў на балкон і з вышыні восьмага паверха глядзеў на горад. Бачыў, як сюды-туд снавалі машыны, як няспынна ішлі людзі. Назару здавалася, што людзі, якія ходзяць па вуліцах,— гэта ўсё дармаеды: нічога не робяць, толькі ядуць. Стары наогул лічыў сапраўднай працай толькі тую, што патрабавала фізічнай сілы, а праца ва ўстановах — гэта ўсё дармаедства. Немаведама за што толькі людзям грошы плацяць, у тым ліку і яго сыну Данілу.

— Тата, выйшлі б вы ды пагулялі на вуліцы, а, можа б, і ў парк зайшлі,— прапанавала нявестка свёкру.

— Нахадзіўся, натупаўся за свой век, дык цяпер хоць спакойна пасяджу ў вас. У вашай жа хаце чалавек быццам і не на зямлі жыве, а на небе, як той святы. Гэткая вышыня, зірнеш — дык аж галава закружыцца,— глядзеў з балкона ўніз стары Назар.

— Мы папрывыкалі ўжо, дык у нас і галовы не кружацца,— сказала Серафіма.

Яна бачыла, што стары вельмі нудзіцца, нібы яму муляе што. Надаставала цікавых кніжак і дала свёкру, каб

чытаў. Стары слібізаваў па літары, але вочы яго, мабыць, ужо не вельмі добра бачылі, і ён адклаў тое чытанне. З нецярплівасцю чакаў, калі прыйдзе з работы сын. З ім ён знаходзіў агульную гаворку пра старых перкаўскіх людзей, якіх добра ведаў і Даніла. Калі ж Даніла затрымліваўся, стары не знаходзіў сабе месца.

— Дзе бо гэта ён? — пытаў у Серафімы.

— Хіба мала дзе можа затрымацца. Мо на якім пасяджэнні ці сходзе.

Серафіма папрасіла Данілу, каб ён, калі па якой прычыне затрымліваецца, званіў дадому. Данілу ў нейкай меры радавала тое, што бацька яго гэтак чакае, але ў той жа час і засмучала: старому нудна, сумна ў іх.

Неяк у выхадны дзень Даніла пайшоў з бацькам у парк. Знарок зрабіў гэта: няхай стары ўведае дарогу, дык мо і сам, калі занудзіцца, сходзіць туды. На алеях парку было людна. Маладосць спявала, весялілася. Усюды лунаў смех. Стары аж разгубіўся. Ён раз-пораз спыняўся і азіраўся, нібы патрапіў немаведама куды. Даніла ўзяў яго за руку. Баяўся, каб не згубіўся ў людской гушчэчы.

— Ну, як табе, тата, падабаецца тут? — папытаў сын.

— Ат, лішняе ўсё гэта,— махнуў рукою стары.

— Што лішняе? — не зразумеў Даніла.

— Ды гэтыя ж гулі-балі. Усё ад няма чаго рабіць. Каб яны напрацаваліся, як нашынец у полі, то ім бы не закарцела швэндацца.

— Чалавеку ж трэба і адпачыць,— не згадзіўся сын.

— Які ж гэта адпачынак. Таўкуцца, як у ступе.

— Гэта і ёсць адпачынак.

— Дзіва што!

Даніла павёў старога ў летні кінатэатр. Там яму спадабалася, і сын быў рады, што хоць адным дагадзіў бацьку. Данілу хацелася як найхутчэй прывучыць бацьку, каб ён не сумаваў па вясковай цішыні. Фільм, праўда, для Данілы быў нецікавы, але бог з ім. Абы бацьку тут спадабалася.

Ідучы з кіно, стары зноў пачаў бедаваць пра тую карову. Данілу хацелася сказаць, каб бацька не вельмі бедаваў: учора ён паслаў Мальвіне грошы. Але не сказаў. Яму цікава было наглядаць бацькаў рупеск. Сказаў адно толькі:

— Вялікі табе клопат пра тую карову. Купяць, як захочуць. Хоць тут спакойна пажыві.

Гэтымі сваімі словамі Даніла нібы вару ўзліў на бацьку. Аж закіпеў стары.

— А каму ж клопат? Мне няма клопату, табе няма, дык а хто ж пра яе падбае? А там жа дзіцятка от будзе. Дык чым яна яго напоіць? Бярозавікам хіба?

— Не маленькія, знойдуць чым напаіць дзіцятка.

— Для бацькі дзеці заўсёды маленькія, калі ім што баліць.

Даніла ўжо як не сказаў, што грошы ён паслаў, аднак ён чамусьці прыкусіў язык і на гэты раз. Пра тое, што паслаў грошы, ён не сказаў нават Серафіме. Гэта была яго невялічкая тайна. Данілу прыемна было наглядаць бацькаў клопат пра Мальвіну. Прыемна і ў той жа час крышку крыўдна. Яму здавалася, што, калі ён быў яшчэ не апераны, бацька пра яго так не клапаціўся.

Але ад гэтай запозненай крыўды Даніла адмахваўся рукою.

А са старым рабілася нешта няладнае: ён увачавідкі ўныў. За які месяц, здавалася, усё яму абрыдла. Даніла аднойчы запытаў:

— Тата, ты чаго такі панылы?

— Ат, нічога,— адмахнуўся той.— Няма от за што ў цябе рукі зачапіць. Каб хоць якіх дроў накалоць ці вады прынесці, дык яно б і весялей было.

— Не накалоўся, не нанасіўся яшчэ за свой век,— аж зарагатаў Даніла.— Вунь сядзі; гуляй, пакуль гуляецца.

— Нашынцу гульня тая колам стаіць. Каб от, здаецца, за якую работу зачапіць рукі, і весялей было б. А там жа ў нас цяпер работы хоць ты адбаўляй.

— Нашто тая работа табе? Цяпер от добрыя дні насталі, дык ты хоць бы ў парк схадзіў, на людзей паглядзеў і сябе паказаў.

— Няма чаго паказваць ужо.

Даніла дастаў з шафы свой падношаны трохі касцюм і падаў бацьку.

— На от апраніся і хадзі сабе, як пан.

— З мужыка пана не зробіш, не той матэрыял. Хоць ты на яго аксаміт надзень, усё роўна яго да зямлі цягне.

Даніла тым часам нікнуў за шафу і дастаў адтуль вельмі ж хвацкую кавеньку. Неяк трапілася яму быць у Сігулдзе на экскурсіі, і ён купіў яе як сувенір.

— На от табе яшчэ і гэтую штуку. З ёю пэўне ж панам станеш.

Данілу здалося, што нічому так стары не ўзрадаваўся,

як гэтай кавеньцы. Круціў яе ў руках, разглядаў выпаленыя на ёй узоры.

Як толькі сын пайшоў на работу, стары, мабыць, каб не надакучаць нявестцы, выйшаў таксама з кватэры. Ён ужо добра ведаў дарогу ў бліжэйшы парк.

Серафіма аж занепакоілася: дзе гэта так забавіўся свёкар. Узялася за тэлефонную трубку, набрала першыя лічбы Данілавага тэлефона — хацела паведаміць Данілу, што бацька недзе прапаў,— як над дзвярыма закугакаў званок. Хуценька адчыніла і ўгледзела на парозе свёкра. Аж узрадавалася. Твар старога быў нейкі свежы, азораны незвычайнай усмешкай.

— Тата, дзе гэта вы так доўга?

— Загуляўся, дзетка мая. Добрага кампаньёна сабе знайшоў, дык загаварыўся з ім.

— Якога кампаньёна?

— Добрага! Такі гаваркі чалавек, дзякаваць яму. От аж дагэтуль прасядзелі з ім на лавачцы. Ён — пенсіянер, і мне няма чаго рабіць, дык мы і грэліся сабе на сонейку, балакаючы.

— Пра што ж вы там балакалі, калі не сакрэт?

— Пра жытку! Пра цяперашнюю і пра даўнейшую.

Серафіма сама сабе парадавалася за старога. Падумала: можа, і асвойтаецца тут у іх і не гэтак карцець будуць Перкі.

Даніла з работы прыйшоў як звычайна. Ён таксама заўважыў адменнасць у бацькавым настроі.

— Нешта ты сёння веселаваты, тата?

— Сябрука сабе знайшоў тут, ды і добрага,— пахваліўся стары.

— А хто ён за такі?

— Маіх гадоў чалавек. Пенсіянер, кажа. На ласкавым хлебе сядзіць. Заўтра таксама пайду да яго. Старому са старым дык і пагаварыць ёсць пра што.

— Вы дамовіліся сустрэцца?

— Нічога мы не дамаўляліся. Пайду на тую лавачку — і сустрэнемся. Яму, мусіць, як і мне, няма чаго рабіць.

Даніла амаль быў упэўнены, што той стары ў другі раз не прыйдзе на тую аблюбаваную лавачку, але ён не хацеў разбураць бацькаву ўпэўненасць, азмрочваць яго вясёлы настрой, а таму сказаў:

— От і добра, што знайшоў сабе сябрука. З таварышам заўсёды весялей і лацвей.

Але ні на другі, ні на трэці дзень Назар не знайшоў свайго сябрука на аблюбаванай лавачцы, хоць і хадзіў туды акурат у той час, што і ў дзень першай сустрэчы.

— Дзе бо ён дзеўся? — дапытваўся Назар у сына.

— Хто ж яго ведае. Гэта ж табе не ў Перках. Там кожны чалавек на вуліцы відзён. А тут ведаеш колькі вуліц, колькі людзей. Тут можна пражыць дзесяць гадоў і не сустрэцца са знаёмым чалавекам.

* * *

Ад Мальвіны прыйшоў з Перак ліст. Першым прачытаў яго Даніла. Мальвіна не таіла сваёй сялянскай радасці. Купілі карову. Сястра пісала пра ўсё: і якой масці карова, і якога росту, і якія ў яе рогі. Паведамляла, што скаціна вельмі рахманая — дзіця падаіць можа, што малако ў яе густое, як масла. Данілу прыемна было чытаць пра сястрыну радасць, і ён усміхаўся, думаючы: як мала, аказваецца, чалавеку трэба для радасці.

А ў старога настрой быў панылы. Падышоўшы да бацькі, Даніла як не выгукнуў:

— Тата, танцуй!

— Хіба я з глузду з'ехаў? Змалада не вельмі ў танцы кідаўся, а чаго гэта я ў цябе тут буду танцаваць?

— Танцуй, кажу табе. Ліст ад Мальвіны прыйшоў. На от чытай,— падаў старому канверт Даніла.

Назар слібізаваў па літары не вельмі выразнае Мальвініна пісанне. Па меры таго як учытваўся, твар яго весялеў, праясняўся.

— Карову купіла! — аж крыкнуў стары.— За што ж яна яе купіла? Грошай жа ў яе мала было.

— Значыць, знайшліся, калі купіла,— хітравата ўсміхаўся Даніла.

Назар чытаў ліст далей, і толькі калі дачытаўся: «Дзякую табе, родны братка, што ты не пашкадаваў грошай і выручыў нас», зірнуў на сына ні то з дакорам, ні то з любасцю. На твар яго ўзбегла ўсмешка, і ён нібы памаладзеў. На лысіне ўспыхнулі ружовыя плямы. Вочы хітравата прыжмурыліся, і ён сказаў:

— Дык я ж у цябе не прасіў грошай.

— У мяне не прасіў, кажаш? Дык у Міколы прасіў.

— То чаму ж ты мне адразу не даў грошай, я паехаў бы і сам купіў карову. А то хто яго ведае, што яны там купілі. Можа, якую здыхляціну?

— Чаго ты будзеш ездзіць, катацца сюд-туд. Ты ж да нас назаўсёды прыехаў.

Назар неяк адменна, з затоенай іроніяй усміхнуўся:

— Тым часам паглядзім, назаўсёды ці як.

— Як, не назаўсёды? — аж ускіпеў Даніла.

— Як той сляпы казаў, тым часам пабачым...

Данілу трэба было спяшацца на работу. Ён зірнуў на гадзіннік і бразнуў дзвярыма, не развітаўшыся з бацькам.

Стары выйшаў на балкон. Ён бачыў, як з-за даху суседняга дома выпаўзла яшчэ трохі чырванаватае сонца. Дзень абяцаў быць ясным і цёплым. Толькі дзе-нідзе сінечу неба плямілі белаватыя аблачыны. Кідаліся сюд-туд апраметныя ластаўкі. Пастаяўшы даўгавата такі на балконе, стары вярнуўся ў пакой і пачаў апранацца.

— Тата, куды вы? — запытала Серафіма.

— Пайду пагуляю тым часам. Маркотна неяк стала седнем сядзець у хаце. Каб у цябе хоць работа якая: ці дроў накалоць, ці вады прынесці. Дык табе ж гэтае нішто не трэба. Ляжы тут, як тая калода, завала.

— Дык і адпачывалі б на старасці.

— Яно як каму гэты адпачынак. Мне дык ён бокам выходзіць. Як нічога не робіш, дык быццам і не жывеш.

Назар апрануўся, стаў перад трумо, быццам ён, як маладзён, збіраўся на спатканне. Відно было, што старому нечага не хапае, і ён вачыма шукаў і не знаходзіў.

— Чаго вы шукаеце, тата? — спытала Серафіма.

— Дзе бо тая кавенька?

— Я за шафу паставіла. Дастаньце там самі.

Стары ўзяў кавеньку, апёрся на яе, быццам хацеў праверыць, ці моцная яна. Потым зухавата ўзмахнуў ёю і бразнуў дзвярыма.

З пагулянкі Назар вярнуўся зноў пахмуры.

— Тата, дык чаго гэта вы не ў гуморы? — спытала нявестка.

— Ат,— махнуў стары рукою,— зноў хадзіў шукаць таго чалавека, хацеў пахваліцца, што дачка карову купіла, дык не знайшоў.

— Ну і бог з ім,— падладжваючыся пад гаворку старога, сказала Серафіма.

А апошнія дні стары нешта зусім занудзіўся. Даніла не паспеў яшчэ мо дайсці да работы, сесці за рабочы стол, а стары ўжо чакаў яго дома. Здавалася, што без сына Назар не знаходзіў сабе месца. Серафіма старалася развесяліць яго чым-небудзь, але ў яе нічога не выходзіла. Ды і

калі Даніла быў дома, стары сябе трымаў так, быццам ён што згубіў і не можа ніяк знайсці яго.

Аднаго разу Даніла спытаў:

— Тата, што з табою? Можа, табе што баліць?

Здзіўленымі вачыма бацька зірнуў на сына і сумеўся, што той быццам прачытаў яго думкі, яго клопат.

— А такі баліць, сынку. Месца сабе тут не знайду, бо яно, тое месца, не тут, а там, на сваім котлішчы. Там я карэннем урос у зямлю. А тут што! За гэты ваш асфальт і корань не возьмецца. Вазьмі ты мне, сынку, білет ды адпраў мяне.

— Што табе не падабаецца ў нас? А мо за што пакрыўдзіўся?

— Вунь бо што ён кажа! Дык чаму не падабаецца. Толькі вот карэннем ніяк не магу ўрасці. Зноў жа такі, хіба ж яны там без мяне дагледзяць тую скаціну? Ды і хачу паглядзець на яе. Можа, якую сухарэбрыну купілі. Шкада, што ты мне не даў грошай. Я-то купіў бы добрую. За свой век навучыўся кароў выбіраць. Ды Рыгору, як мне здаецца, і гаспадарка тая не рупіць. Ён як бы і не туды глядзіць.

— Усім, тата, рупіць свой клопат. Гэта табе так здаецца, што не рупіць.

— Зноў жа такі, я ў вас тут як тая завала. Дома дык я знайду сабе работу, пакуль ногі носяць, пакуль рукі трымаюць. Дык купі, сынку, білет. Я заўтра ж і паеду.

Данілу, ды, мабыць, і Серафіме, шкада было адпраўляць бацьку. Яны былі ўжо настроіліся, што стары прыехаў да іх назаўсёды. Дык дзе там! Вырванае з роднае зямлі карэнне не хацела прымацца на гарадскім асфальце.

1965

# ДАРОГА

Яўген Шкадарук думаў, што пасля выпускнога вечара ён абавязкова паедзе ў свой абласны цэнтр: там часцей можна сустрэць людзей з Мяжэвіч, і, калі якая нявыкрутка, яны і памогуць. Ды і дадому бліжэй. Так думаў Шкадарук, але пры размеркаванні яму сказалі, каб ён і не збіраўся нікуды ехаць. Намякнулі на яго талент, якім і тут, у сталіцы, не кідаюцца. У інстытуце Яўген займаўся графікай. Але яго вабіў і станковы жывапіс. Думалася папрацаваць маслам, намаляваць тое, што з дзяцінства сядзіць у яго сэрцы, як стрэмка. Аднак жа і перспектыва застацца, абжыцца ў сталіцы вабіла яго. Абдумаўшы, Яўген не толькі згадзіўся, але і выказаў радасць. Яму паабяцалі неўзабаве даць і кватэру, і мансарду пад майстэрню. Спадзеючыся на гэтую плошчу, Шкадарук наняў прыватны пакойчык-баковачку на ўскраіне горада. Там у яго было жытло, і ён, малюючы, заседжваўся за поўнач.

Пакуль хлопец жыў адзін, дык здавалася, што ў гэтым пакойчыку многа месца. Аднак Яўген не збіраўся заставацца бабылём. Яшчэ ў інстытуце ён пазнаёміўся з дзяўчынай. Звалі яе Гера. Яны ўжо сур'ёзна гаварылі аб тым, як і калі іх дарогі сыдуцца. Дамовіліся, што Гера пакуль што паедзе ў абласны цэнтр, папрацуе там адна. А ён тут расстараецца кватэру і тады яе забярэ.

— Тады заўсёды будзеш поруч са мною,— гаварыў Яўген.

— А калі я не захачу? Калі мне захочацца абагнаць цябе? — жартавала Гера.

— Ну і што, абганяй,— згаджаўся Яўген.

Першы год самастойнай работы. У выдавецтве, дзе стаў працаваць Шкадарук, было столькі абавязкаў, што хоць дні надточвай. На першым часе ён не адмаўляўся нават ад нялюбых заказаў. І стараўся зрабіць усё як лепш, нібы хацеў даказаць, што недарма яго столькі год вучылі ў інстытуце, што не так сабе хадзіў пехам па зімовай дарозе аж у Марытонавічы і глядзеў, як на дзіва, на копію васняцоўскай карціны, што вісела над буфетам, над самай галавой буфетчыцы.

А галоўны мастак выдавецтва падсоўваў хлопцу тое, чаго ніхто не браў. Але аднаго разу Шкадарук сказаў яму:

— Пятро Іванавіч, гэтага я не зраблю.

— Як? — аж здзівіўся Пятро Іванавіч.— Гэта ж зусім проста.

— Але гэта мне не падабаецца,— упершыню сказаў Шкадарук.

— Прабач, прабач, а мне здавалася, што табе ўсё роўна.

І Шкадарук прыняў гэта як абразу. Няможна, каб у чалавека аднолькава да ўсяго ляжала душа. Ён тады ці абыякавы рамеснік, ці безнадзейны халтуршчык.

Яўген упершыню не ўзяўся рабіць нецікавую вокладку. І гэта было нечакана нават для яго самога, хоць і раней часам заказы яму вунь як не падабаліся. Але ён ніколі не адмаўляўся ад іх. Нават у рэдакцыі можна было пачуць наўмысны шэпт.

— Гэты лопае ўсё,— кпілі іншыя мастакі. Хоць у вочы ўсе хвалілі за шырыню творчага дыяпазону.

Шкадарук і сам добра разумеў, што рабіў не тое. Перад яго вачыма зноў уставала Марытонавіцкая дарога, і карцела намаляваць яе так, каб нават чуцен быў подых зімовага ранку. Але дзе возьмешся за вялікую работу? Пакойчык цесны, няма куды нават мальберт паставіць. Ды і думкі пра Геру не давалі Яўгену спакою. Амаль у кожным лісце яна пісала, каб ён ехаў да яе. Удваіх яны атрымаюць большую кватэру, і яны будуць жыць анігадкі.

Яму падумвалася ўжо, што мо і сапраўды Гера мае рацыю. На ліха яму трымацца ў гэтай сталіцы за няпэўную абяцанку. Неяк ён пайшоў ужо быў на гарадскую станцыю купляць білет. Можа б, і купіў тады, ды там была такая чарга, што хлопец не адважыўся стаць у яе і вярнуўся дадому.

Яўген страх як не любіў чаргі. Аднаго разу, яшчэ ў інстытуце, ён падрыхтаваў залік па анатоміі, ведаў усё назубок, але, прастояўшы мінут дзесяць у чарзе і нагледзеўшыся, як некаторыя дачытвалі кнігі ці растыкалі па кішэнях шпаргалкі, пайшоў сабе ў майстэрню. Толькі ўвосень, калі прызначалі стыпендыю, Яўген успомніў пра свой «хвост» па анатоміі і, не рыхтуючыся, здаў выкладчыку залік.

З чыгуначнай станцыі Яўген вяртаўся акурат тады, калі людзі валілі з работы. І хлопец пазайздросціў, што кожны з гэтых людзей мае нейкі пэўны абавязак. Яму захацелася штодзень хадзіць разам з імі на завод. З гэткім пачуццём ён адчыніў брамку, за якой басам гаўкаў прыпяты на ланцуг вялізны Рэкс.

Гаспадар Яўгенавай кватэры яшчэ не так даўно жыў у мястэчку пад Мінскам. Спрадаўшы ўсё лішняе, ён па-

будаваўся на ўскраіне горада, у новым пасёлку. Шкада-руку падабалася тут жыць. У пасёлку было яшчэ нямала вясковага быту. Колькі там гадоў хлопец павучыўся ў горадзе. Дык хіба можна за такі час вырачыся ўсяго таго, што ўвабраў у сябе з матчыным малаком. А тут было нямала гарадскога, але ж і вясковае, сялянскае лезла з кожнай шчыліны.

Яўген адразу ўгледзеў гаспадара. Неяк незвычайна той расставіў ногі, быццам на ўсю сілу ўпіраўся ў зямлю. Сінімі выцвілымі вачыма ён асалавела глядзеў з-пад калматых броваў на хлопца. Дзядзька неяк дзіўна мыляў вуснамі. Відно было, што ён нешта гаворыць, але ніводнага слова нельга было разабраць. Потым гаспадароў рот разявіўся шырэй, і ўжо можна было пачуць:

— А, штукар наш ідзе! Ды які з цябе штукар? От у Жылічах быў штукар дык штукар. Той, бывала, як вычаша з альхі якую жывёліну, то як жывая. І жыў сабе як пан. З усяе акругі везлі яму ў Жылічы хто збажыну, хто сала, а хто яйкі.

— За што ж яму везлі?

— За тыя штукарствы. А яшчэ ён абразы маляваў. Хрыстос на іх быў як жывы. А ты хоць бы свайго гаспадара выштукаваў на паперы.

Відно было, што чалавек п'яны.

— Ты, калі табе трэба што маляваць, займай маю залу. Хіба мне шкада яе?

— Дзякую! — узрадаваўся Яўген гаспадаровай шчодрасці.

У выхадны дзень Яўген пасадзіў перад мальбертам гаспадара. Вугалем накідаў партрэт старога. Асабліва ўдалася барада. Гаспадар адыходзіў ад мальберта, прыкладваў да лба казырком руку, прыжмурваў вочы. Заходзіў справа, злева, цмокаў губамі.

— Ды, мабыць жа, трохі і падобны,— выказаў ён задавальненне.— Ты б, Яўген, мог жыць прыпяваючы, маючы ў руках такое дзела. На нашым пасёлку многія б хацелі, каб ты іх намаляваў. Заўсёды быў бы з салам, з макам і пад'еў бы ўсмак.

— Не, дзядзька, не трэба мне тых грошай, тых ласункаў. Не для таго мяне вучылі маляваць.

Яўген асабліва радаваўся гаспадароваму дазволу працаваць у вялікім пакоі. Там было прасторна, светла, цёпла. Можна будзе ўзяцца і за карціну, якая не выходзіць з галавы. Можна, нарэшце, напісаць і Геры, каб ехала

сюды. Працаваць яны будуць у зале, а пераспаць хопіць месца і ў бакавушцы. Не можа ж так доўга быць, каб яго ўвесь час абыходзілі з кватэрай. Хутка вось скончаць новы дом, дык яму там канча дадуць.

Як толькі гаспадар дазволіў працаваць у зале, на другі ж дзень Яўген перацягнуў туды мальберт.

...Школа калісьці стаяла на краі сяла. Трошачкі нават наводшыбе. Мо таму і ўцалела тады, калі Мяжэвічы выгаліла пажарам. Збудавалі школу гады за чатыры да вайны. У час акупацыі немцы занялі яе пад гарнізон. Выцерабілі сад, накапалі акопаў, нагналі салдат, быццам рыхталіся тут даць бой. Пасля вайны школу зноў густа абсадзілі вішаннікам. Адно што для дзяцей выгарадзілі дарожку.

Межавічане гадоў за чатыры ці пяць адбудаваліся. Пакуль не паставілі хат, жылі хто ў зямлянках, хто ў буданах. Яўген з бацькам жыў ва ўкапаным у зямлю бункеры, зробленым з бярвення нечай хаты. У бункеры было заўсёды цёмна. Прыйшоўшы са школы, хлопец зашываўся ў куток і маляваў. Пакуль ён быў малы, бацька вельмі не прыглядаўся, што там крамзоліць дзіця. А калі перабраліся ў новую хату, ён неяк прыгледзеўся, што робіць Яўген, і сказаў:

— Э не, хлопча, кінь ты гэтыя штучкі-дручкі. З гэтага яшчэ ніхто хлеба не наеўся. І ты не наясіся.

— Гэта, тата, для насценгазеты.

— Хіба што,— пагадзіўся стары.— Ты, брат, на матэматыку налягай. Цяпер без яе і кроку не ступіш.

Яўген хацеў расказаць бацьку, што ён вельмі любіць маляваць, што ён нібы ўсё навылёт бачыць. Але так і не сказаў нічога.

Неяк Яўгенаў сусед па парце Генка Галубец паглядзеў на малюнак у насценгазеце і сказаў:

— От каб ты пабачыў у марытонавіцкай чайной сапраўдную карціну! Коні на ёй як жывыя.

— А хто яе намаляваў? — папытаў Яўген.

— Хіба я ведаю. Над буфетам вісіць. Мы ўчора з татам былі ў чайной, дык я бачыў.

— Дык а хто ж яе намаляваў? — дапытваўся Яўген, быццам Генка не хацеў сказаць яму.

— Я ж кажу, што не ведаю. Купленая, мабыць. Каб ты толькі зірнуў на яе, вачэй не адвёў бы. Коні як жывыя. У коннікаў у руках булавы.

— Дзе ж яе ўзялі?

— Не ведаю.

...Дарога! У мроіве позняга зімовага світання яна нібы казачная. Утрамбаваны снег быццам трошкі сінняваты. А яна бяжыць, выкаўзаная саньмі да бляску. Бяжыць праз поплаў на Марытонавічы. Бяжыць, спяшаецца. Конскія сляды, што былі ўмяты адліжнымі днямі ў дарогу, нібы значаць яе. Сведчаць, што дарога незакінутая, незабытая.

Раніцай узяўся марозік. Ды і добры. Шчыкае за шчокі. Мо ўночы з зараснікаў, якія падступаюць да самага зімніка, выбягаў на дарогу воўк. Мо абнюхваў, разглядаў яе бліскучымі вачыма, пільнуючы, ці не відно дзе блізка конскага мяса. Самая піліпаўка, калі ноч як год, а дзень — і азірнуцца няма калі. Толькі што было світанне, а глядзіш — ужо сцелюцца цёмныя прасціradлы на сінняваты прастор палеткаў. Ужо далёкія агеньчыкі бліскаюць, як воўчыя вочы. І хоць ведаеш, што там нехта пыхкае цыгаркай, усё роўна, калі адзін, валасы становяцца дыбка.

Яўген стараўся нічога гэтага не бачыць. Як толькі ён павярнуў з мяжэвіцкай вуліцы на зімнік, нешта ўсярэдзіне як абарвалася. Стала боязна. Падумалася: добра было б, каб хто яго дагнаў на возе. Толькі не мяжэвіцкі, а той, хто яго не ведае. Мяжэвіцкі будзе дапытвацца, распытваць. Не скажа ж ён, што ідзе ў марытонавіцкую чайную, каб паглядзець карціну.

У Яўгенавай шарачковай торбачцы ляжаць не толькі адны кнігі ды сшыткі. Туды ён паклаў акрайчык хлеба ды скрылік ёлкага сала, якога ён учора ўкрадне ад маці ўрэзаў у каморы. Калі вельмі вычухаецца ў тых Марытонавічах, дык будзе што ўзяць на зуб.

А дарога бяжыць, спяшаецца. Вунь чырванагрудыя снегіры нешта капошацца на самай дарозе. Кожная істота шукае сабе пажывы. А вунь і ўзлобак, на якім вялізны ўхаб, і, калі сані без падрэзаў, іх можа кінуць так, што і не адзержышся. Непадалёк ад узлобка — густая купка галашчокага, не вельмі рослага бярэзніку. На самым большым дрэве, на вяршаліне яго, сядзіць вялізная варона і, разявіўшы дзюбу, на ўсю сілу дзярэцца, аж страшна робіцца ад яе каркання.

Зусім развіднела ў палавіне дарогі. У Яўгена забалелі ногі, і ён раз-пораз спатыкаецца, коўзаецца. Снег зрабіўся, як жарства. Ступіш на яго, а ён рассоўваецца. І ад таго, што пад нагамі ўсё распаўзаецца, яны зрабіліся цяжкія, як не свае. Ці данясе іх хлопец да Марытонавіч?

Каб мо не марозная смуга, дык яны б, тыя Марытонавічы, мо ўжо і відны былі. Хлопец успамінае, як некалі яны з бацькам, калі ён яшчэ быў зусім малы, ездзілі ў Марытонавічы. Толькі не гэтай дарогай ехалі. Летнікам. Ля самых Марытонавіч зелянеў, лапушыўся калгасны сад. Казалі, калісь там быў панскі маёнтак. Цяпер жа нічога не відно. Усё тоне ў марознай смузе і тумане. Адна толькі бель навокал. А калі што і ўгледзіш, дык гэта з снегу тырчыць вербалоззе.

А ці ідзе зімнік паўз сад? А мо дзе іншым месцам? Зімой жа дарозе прастор. Дзе хочуць, там яе і праторацць людзі. Мароз пазамуроўваў лугі і балоты, гаці і палі. Зімнік, як пракладуць яго людзі па першым снезе, за зіму так утрамбуецца, што чарнее і вясной, як не да самага майскага свята.

Са смугі ўжо вынырнула макаўка марытонавіцкай старой, як свет, царквы, у якой да часу месціўся раённы клуб. Побач з клубам — чайная. А там тая карціна.

Зімнік уварваўся ў марытонавіцкую вуліцу і як бы ўзбег на парог раённай чайной.

У чайной было тлумна, шумна і дымна. Яўген тут ніколі раней не быў. Спачатку ён нават спалохаўся людна-сці. Здавалася, што ўсе сталаўнікі, стараючыся адзін перад адным, завіхаюцца лыжкамі. Вачыма ён шукаў на сценах карціну. І нідзе яе не мог знайсці. Падумаў ужо, што Генка яму нахлусіў. І раптам над самым буфетам, ля якога кольцам завіваецца людская чарга, на сцяне быццам ветрык варушыць патлатыя конскія грывы. У кожнага конніка ў руцэ булава. Ці то ад таго, што кожная булава бязмерна цяжкая, ці ад таго, што седакі сапраўдныя асілкі, ажно конскія спіны ўгінаюцца. Здаецца, угінаецца пад коньмі сама зямля.

Яўген падкруціўся пад самы буфет. Жанчына-буфетчыца зірнула на яго і, відаць, падумала, няўжо такі малы сам прыйшоў у чайную. Сумелася і спытала:

— Чаго табе тут?

Толькі цяпер хлопчык апрытомнеў і ўспомніў, што ў ягонай кішэні ні капейкі грошай.

— Не, нічога! — спалохаўся ён і выскачыў з чаргі.

Усюды чуўся п'яны вэрхал сталаўнікоў. Хлопец набраўся смеласці і сеў за стол непадалёк ад буфета. Угледзеўся так, што вакол сябе нічога не чуў і не бачыў. Яўгену здавалася, што ён бачыць, як вецер расчэсвае конскія грывы, чуе, як гавораць паміж сабой коннікі. І чым больш,

чым пільней углядаўся хлопец у карціну, тым больш здавалася, што яна жывая.

Мімалётна зірнуўшы на вокны, Яўген заўважыў, што на дварэ ўжо змярканне. Вопрамеццю ён кінуўся на вуліцу, і яму стала страшна. З усіх ног хлопец імчаўся дадому. Дастаўшы з торбачкі, на хаду жаваў хлеб з ёлкім салам.

Узмакрэлы, спатнелы, Яўген прыбег дадому позна ўвечары. У хаце быў перапуд. Маці як не ламала рукі.

— А дзе ж ты быў, шаленец ты гэтакі?! — узрадавалася яна сыну.

— У школе,— зманіў Яўген.

— Настаўніца казала, што сёння твайго і духу там не было. Бацька пайшоў шукаць цябе.

Чакаючы бацьку, Яўген быў ні жывы ні мёртвы. Ён добра ведаў бацькаў нораў: той, калі што не так, можа даць добрай лупцоўкі. Але на гэты раз бацька чамусьці не сварыўся. Раз-пораз ён уважліва пазіраў на сына, і відно было: ён рады, што бачыць яго жывога. І Яўген прызнаўся, што хадзіў у раённую чайную.

— От дурное, дык дурное. Ты б мне сказаў, я запрог бы каня і пад'ехалі б. Дык ён пеша...

— Тата, а коні тыя як жывыя. Быццам яны і не на карціне.

— Дурны ты яшчэ, хлопчык. На свеце столькі цудаў, што за ўсё жыццё іх не перагледзіш. У вайну я, як па Нямеччыне ішлі, дык нагледзеўся на ўсялякія карціны.

— А такое ж і не бачыў, тата?

— Як не бачыў! Гэта ж у чайной і не сама карціна. Гэта ж копія. Нехта з марытонавіцкіх перамаляваў.

— Каб я гэтак умеў! — пазайздросціў Яўген.

— Навучышся,— упэўнена сказаў бацька.— Толькі ў другі раз адзін не хадзі нікуды ўночы. Ваўкі разарвуць. Самая піліпаўка.

...Шкадарук, як толькі гаспадары выходзілі з хаты, садзіўся за мальберт і пісаў карціну. Тая дарога, якая ўзнікала ў памяці, бегла і бегла перад вачыма. Яму трэ было толькі пэндзлем лавіць яе. Вунь відаць на снезе ці то воўчы, ці то чый іншы след. Ланцужком ён размотваецца, пляцецца па шэрані. А вунь і глыбокі, мо да самай зямлі, след ад конскага капыта, вунь той узлобак. Раскоўзаная дарога на ім кожны раз кідае на ўхаб.

На небасхіле ў мутнай туманнай далечыні ледзь відно пракалелае на марозе голле. Віднеюцца саламяныя шэрыя

стрэхі. Сінее макаўка царквы без крыжа. Гэта ўсё на другім плане. А на першым — цяжка крочыць хлопец-падлетак. Пад нагамі рассоўваецца снег. А ў твары, ва ўсёй постаці малога — рашучасць прамераць сваімі нагамі гэтую дарогу. І ён мерае. Глядзіш і не верыш, што ён дойдзе да таго калгаснага саду, што ледзь-ледзь віднеецца ўдалечыні.

Звечарэла ўжо. Гаспадар вярнуўся з работы. Ён утаропіўся вачыма ў палатно і глядзеў не міргаючы.

— Недзе гэткую дарогу бачыў я,— гаварыў гаспадар.— Нават быццам ішоў па ёй. І гэтага хлопчыка, здаецца, бачыў.

— Дзе ж вы яго маглі бачыць, дзядзька? — дапытваўся Яўген.

Перад тым як пакласці апошні мазок, ён адышоў як далей ад мальберта. Прыжмурыўшы вочы, доўга ўглядаўся ў палатно. То яму здавалася, што яго работа, ля якой ён завіхаўся ўсю зіму, нікуды не варта. То карцела зноў пайсці той дарогаю, якою ў дзяцінстве хадзіў у раённую чайную глядзець карціну. То... ён і сам не ведаў, чаго яму хацелася, што яму карцела.

Яўген хуценька пабег у сваю бакоўку, схапіў са стала аркуш чыстай паперы і ўжо ў зале напісаў: «Мілая Гера, хутчэй прыязджай!»

[1968]

# АДАМ-ПЕРАСМЕШНІК

Хто яго ведае, што ў чалавека на душы, што ў яго чаўпецца ў галаве. Старшыня калгаса Сілівон Гарнастай даўно прыглядаецца да Адама Свірыдзёнка і ніяк не можа зразумець, што ён за чалавек. Адам амаль ужо веку дажывае, дзвюх жонак паражыў, сямёра дзяцей на свет пусціў, а сам застаўся блазан блазнам.

Хата Адама стаіць акурат пасярэдзіне вёскі. Яна мае трысцен, двое дзвярэй і тры коміны. Гэта яшчэ тады, як меншы Адамаў брат жыў тут у вёсцы і браты, не могучы паставіць новай хаты, прарубілі другія дзверы ў старой і падзяліліся: Адам застаўся ў трысценніку, а Андрэй заняў другую палавіну самой хаты. Але Андрэя даўно ўжо няма ў вёсцы — ён некуды з'ехаў, а з цягам часу забраў і сям'ю. Па Лубянічах ходзіць чутка, што ён там выбіўся ў людзі — недзе стаў за старшыню калгаса. Ды гэта і не дзіва — Андрэй хлопец кемлівы, разважлівы, разумны. Усе казалі, што ён крошкі пабраў ад маткі, жанчыны душэўнай, добрай, з ясным розумам. Такім чынам Адам і астаўся паўнаўладным гаспадаром на двое дзвярэй, на дзве печы і нават на тую старую ліпу, якая немаведама калі пачала сваё жыццё на іхнім панадворку і на якой, як помняць старыя людзі, заўсёды вяліся буслы...

Другіх дзвярэй Адам не забіваў і печы не раскідваў. Нейкі разлік у чалавека быў. З ранейшымі жонкамі ён жыў не вельмі ладна: бадай кожны тыдзень яны сварыліся, і звычайна пасля кожнай такой сваркі Адам дзяліў хатняе начынне, дзяцей і адыходзіў у другую палавіну хаты. Калі ішоў дымок з другога коміна, лубянічане ведалі, што Адам на аддзеле ад жонкі. Але праз дні тры ці які тыдзень, гэта залежала ад таго, якой запятай была сварка, яны зноў сыходзіліся ў адзін сямейны гурт. Аднак жа сыходзіліся, мусіць, толькі для таго, каб неўзабаве паўтарыць хатні спектакль. Праўда, з апошняй, трэцяй жонкай, Кузёмкавай Варай, Адам жыве, як кажуць, душа ў душу. Гэтая неяк апратала, улагодзіла яго, і нават яе двое дзяцей ад першага мужыка, якіх яна прывяла ў Адамаву хату, нібы і не замінаюць гаспадару. Ды і не дзіва: сама Вара — жанчына цягавітая, працавітая, памяркоўная. Яна б магла і без Адама пражыць прыпяваючы, але ж быць удавою жанчыне не вельмі зручна. А мужык, які б ён там ні быў, усё ж такі мужык. Адным словам, Вара прыйшлася па натуры Адаму, і ён як бы акрыяў, выпра-

стаўся. Нават сяды-тады, асабліва перад святамі, падстрыгае сваю рудую калматую бараду і наводзіць парадак на галаве, каб не скочваліся лямцам яшчэ не зусім сівыя, а толькі нібы абсыпаныя попелам валасы. Большыя Адамавы хлопцы і дзяўчаты ад першай жонкі паразыходзіліся. Трэба сказаць, што дзеці ў Адама паглядныя, прыгожыя. Як толькі дзяўчаты падрасталі, па-людску апраналіся, хлопцы ад іх вачэй не адводзілі. З Адамам засталіся дзве меншыя дзяўчынкі ад другой жонкі і двое Варыных дзяцей — хлопчык і дзяўчынка. Як Вара ні старалася апранаць дзяцей, каб яны былі як людскія, усё-такі ёй не ўдавалася. Улетку яны хадзілі зусім галапузымі, а ўвосень у школу бегалі ў нейкіх чужых апорках, у ношаных і пераношаных матчыных і бацькавых пінжаках і кабатах. У Лубянічах гэта ўжо было і дзівам, бо людзі тут жылі вунь як — мелі што добрае з'есці і знасіць. І Сілівон Гарнастай не раз казаў Адаму:

— Што гэта ў цябе дзеці бегаюць як жабрачыя. Хіба табе не сорамна, ты ж такі гаспадар, а не заткала ў коміне.

— Дзе ты на ўсё выстарчыш, дзе ты на ўсё набярэшся... Няхай пабегаюць. Я сам калісь з рапяхоў вырас і, як той казаў, нібы камень-дзічак,— адказваў у такім разе піскнявым галаском Адам Свірыдзёнак, хаваючыся за сваю бесклапотную ўсмешку, якая ніколі не сыходзіла з яго твару.

Старшыня даўно прыглядаецца да Адама Свірыдзёнка. Ён у калгасе амаль што адзін як той пухір на здаровым месцы... Усе людзі як людзі: робяць зацята, цягавіта. А гэтага куды ні пастаў, куды ні ткні, дык адна з яго карысць. У Адамавых руках было добрае рамяство. Бадай што ўсе саламяныя стрэхі лубянічанскіх хат накрыты яго рукамі. Ён не проста крыў, а як бы выліваў кожную страху. Калі яна была навенькая, дык на сонцы як бы золатам адсвечвала. Крытыя пад грабёнку лубянічанскія хаты вылучаліся на ўвесь раён сваёй зграбнасцю. Адама часцяком запрашалі ў іншыя вёскі, і ён часам адмаўляў, а калі ўжо браў у рукі грабёнку, пучок дубцоў-вітак, якія ён сам адмыслова высякаў у Бярэзавіку — гэтак завецца лубянічанскі поплаў за канаваю, на якім растуць сям-там кусты вербалоззя,— то ішоў на адыходны заработак. Гэтак і жыў чалавек. А ў сваім калгасе не маглі Адама да чаго-небудзь аднаго прыстроіць, і ён толькі працаваў да мінімуму, каб на праўленнях ды на сходах не называліся людзі, не лезлі ў вочы, што ён гультай гультаём. Затое Вара шчырава-

ла — дзень пры дні яна хадзіла на свінарнік і рабіла там не так, як яе мужык, а зацята, добра. Яна ўжо колькі разоў ездзіла на нарады перадавікоў, і ў хаце між шматлікіх фотаздымкаў, поруч з люстэркам, на самым відным месцы вісіць у рамачцы, якую зрабіў сам Адам, дыплом абласной сельскагаспадарчай выстаўкі. Свірыдзёнак часта стаіць перад гэтым дыпломам і любуецца немаведама чым — ці рамачкай, якую ён гэтак удала зрабіў, ці жончыным дыпломам. Затое Вары няма калі любавацца: яшчэ і не ўднее добра, як яна бяжыць на свінарнік, а часам там і ноч таўчэцца — то якая свінаматка захварэла, а то апарос, дык не адступішся ж, не адыдзеш. У такія дні Адам і дзяцей гадуе, і ў хаце збольшага прыбірае, як бы хочучы тым самым давесці, што і ён чалавек не апошні, сёе-тое робіць на гэтым белым свеце...

Аднак жа, калі гаварыць шчыра, Адам Свірыдзёнак не быў ужо такім прапашчым гультаём. Гэта быў чалавек своеасаблівай натуры. Ён мог толькі рабіць тады, калі яго хто падхвальваў; рабіць тое, што яму да душы. Старыя людзі кажуць, што нават тады, калі Адам яшчэ быў аднаасобнікам і выходзіў касіць сваю палоску, варта толькі каму было пажартаваць: «Нячыста ты, Адам, косіш»,— як ён утыкаў касільню ў зямлю і ішоў куды-небудзь пад капу ці пад куст адлежвацца. Адным словам, за ўсё сваё немалое жыццё чалавек ніяк не прынараваўся да кепікаў лубянічан. Ён як бы не разумеў і не хацеў разумець іх.

Сілівон Гарнастай на першым часе, як прыехаў у калгас старшынёй, ніяк не мог падабраць ключоў да такога, як яму здавалася, заржавелага замка, як Адам Свірыдзёнак. Але з цягам часу старшыні ўвялі ў вушы тое, чым можна падахвоціць Адама да працы. І от ён аднаго разу, гэтак пасля жніва, калі ўжо змалацілі і нарабілі добрых кулёў, паклікаў Свірыдзёнка ў праўленне.

— Ведаеце, дзядзька Адам, якое ў нас будаўніцтва ідзе.

— Дык бачу ж, хіба я сляпы,— і пад калматымі брывамі падобнымі на вехціператежанага на дажджы сена, блукліва бегалі ва ўсмешцы борздыя, маленькія Адамавы вочкі, як бы хочучы давесці старшыні, што яны сапраўды не сляпыя, а вунь якія відушчыя — бачаць усё навылет.

— Бачыце, гараж, свіран, аборы — усё ж будуецца. Гараж і свіран будзем крыць чарапіцаю, шыферам. А на

аборы ніяк не выстарчае, дык давядзецца, мусіць, саломай прыкідаць пакуль што.

— Як гэта саломай прыкідаць! — аж ускіпеў Адам.— Пад грабёнку трэба, кулямі, і не іначай.

— Яно б, канечне, добра і кулямі пад грабёнку — не на адзін год, але ў нас жа няма каму...

— Чаму гэта няма каму! — Злосць адчувалася ў Адамавых словах.— А хіба я зломак!

— Я ж не ведаў, што вы можаце крыць пад грабёнку,— хітраваў старшыня...

— Кулі толькі давайце добрыя ды памочнікаў, дык стрэхі параблю як вылітыя.

— А я і не ведаў,— зноў штучна здзівіўся старшыня. Ён выняў з кішэні бліпчасты партабак, пстрыкнуў вечкам і працягнуў Адаму: — Закурвайце, дзядзька.

— Я не вельмі і курэц. Ат, сяды-тады зацягнуся. Але ад гэтай папяросы не магу адмовіцца,— беручы з партабака папяросу, сказаў Адам.

Зацягваўся ён сапраўды смачна, здавалася, прапускаў праз усяго сябе пахучы папяросны дым.

Праз момант старшыня з Адамам ішлі па калгасным панадворку да даўжэзнай аборы, абрашочанай ужо латамі...

— От гэтую і пачынайце, а другую пасля...

Больш за тыдзень Адам са сваімі памочнікамі крыў абору. Хлопцы-падлеткі падавалі яму кулі, паплецiны. Роўнымі радочкамі майстра распускаў кулі на страсе, прыціскаў паплецінай і падвязваў скручанымі дубцамі-віткамі да латаў, спрытна пастукваў грабёнкай, і страха выходзіла роўненькая, як падстрыжаная не нажніцамі, а пад цырульніцкую машынку. Старшыня кожны дзень, управіўшыся з нарадам, заходзіў да аборы, падхвальваў не толькі Адама, але і тых падлеткаў, якія яму памагалі.

— Слаўна, слаўна,— захапляўся ён.— За такую страху, дзядзька Адам, вас і ў перадавікі не шкодзіла б увесці.

На Адамавым загарэлым твары, нават у касмылях барады, у вехцях брывоў, не кажучы пра вочы, блукала задаволеная ўсмешка, і ён адказваў:

— Рад старацца, таварыш старшыня.

І сапраўды, адчувалася ва ўсім — і ў спрытных і дакладных рухах рук, і ва ўсмешцы, што майстар «рад старацца».

Першая абора была ўжо накрыта: вільчык прыкладзены кастрыцай, са страхі спушчана ўсё пазаддзе, і на

асеннім, ледзь чырванаватым сонцы страха як бы льснілася.

Браліся ўжо за другую абору. Паставілі рыштункі, абстрэшылі з абодвух бакоў. На страсе, якая выходзіла на калгасны двор, распусцілі два рады кулёў. Трэба было прычэпліваць жэрдку, бо з рыштункаў рукі не даставалі падбіваць грабёнкай, прывязваць трэці рад. Адам загадаў памочнікам зачапіць за вільчык вяроўкі і ўнізе падвязаць жэрдку, на якую можна было б стаць нагамі і крыць. Хлопцы гэта зрабілі. Як толькі дзядзька Адам стаў на жэрдку і пачаў на ўсю сілу падбіваць, выраўноўваць насланы і прыціснуты паплецінай рад саломы, дык ці таму, што перашмылялася вяроўка, ці таму, што хлопцы нядбайна прывязалі жэрдзіну, яна пасунулася ўніз, і Адам паляцеў спачатку на рыштункі, а потым, ні за што не зачапіўшыся там,— на зямлю. Добра, што якраз у тым месцы былі звалены кулі і Адам упаў у капу кулёў і не вельмі выцяўся, паабдзіраў толькі рукі, спісаў калючай саломай твар. Стары так напалохаўся, што, лежачы ў кулях, не мог вымавіць ні слова. Калі хлопцы падбеглі да Адама і ўзялі яго пад рукі, ён неяк адышоў ад перапуду і крыкнуў як не сваім голасам:

— Няхай ён згарыць з гэтай страхой. Няхай яе чэрці крыюць.

Крыкнуў і пайшоў.

А ўвечары пад нядзелю ў вялікім пакоі, дзе звычайна ў непагодныя дні старшыня збіраў брыгадзіраў на нарад, было поўна мужчын. Яны курылі, расказвалі дасціпныя анекдоты, розныя неверагодныя гісторыі. Дзядзька Адам, прымасціўшыся ў кутку, яшчэ не зусім адышоўшы ад перапуду, курыў і ўслухоўваўся ў гаворку. Яго асабліва зацікавіла тое, што расказваў брыгадзір трэцяй брыгады Рыгор Мялешка.

— Пайшоў я, як звечарэла ўжо, у Бярэзавік стагі аглядаць. Іду сабе, пакурваю, нейкую нават песеньку мармычу... Аж бачу між кустоў вербалозы два агеньчыкі мільгаюць, як бы іх хто выкрэсвае... Думаю, ат хто-небудзь гэтакі ж, як я, тут блукае. Аж не. Прыглядаюся: яшчэ агеньчыкі, ды ўсё бегаюць, мільгаюць. Не можа быць, каб чалавек гэтак выраблаўся з агнём. Я затуліўся за стог, стаіўся і гляджу. А яны ўсё бліжэй і бліжэй. Калі яны наблізіліся, бачу гэта во якія агеньчыкі. Шапка ў мяне на галаве паднялася. Адкуль узяўся той спрыт! Сам не ведаю, як я падскочыў — і на стог. Сяджу, калачуся, а яны

ўжо цахкаюць тут, ляскаюць зубамі. А я ні жывы ні мёртвы, хачу крыкнуць, каб мо хто пачуў, і не магу. Мова адняласся.

— Дык што там такое было? — не ўтрымаўся Адам Свірыдзёнак.

Мужчыны зарагаталі.

— Што? Ваўкі!

— ...Я за гэтую ноч,— працягваў расказваць Мялешка,— так перакалаціўся, што не ведаю, як у мяне сэрца не разарвалася. Можа, валасы ад страху пасівелі.

Мужчыны падыходзілі да Рыгора, глядзелі яго пышную, як капа неўпарадкаванага сена, чуприну. Каторыя казалі:

— Глядзі ты, сапраўды вунь колькі сівых.

Здарэнне з ваўкамі адсунула на задні план Адамаву скруху. Пра тое, што ён упаў з аборы, як бы ўсе і забыліся. Гаворка была скіравана на ваўкоў: чуліся прапановы, што трэба арганізаваць аблаву, а то яны дабяруцца не толькі да авечак, а могуць і да коней, калі іх такая сіла.

— Колькі ж іх там было? — пісклява, нясмела зноў спытаў Свірыдзёнак.

— Няйначай як дзесяць, а мо і пятнаццаць. Цэлая зграя. Да самай раніцы мяне пільнавалі, каб яны падохлі.

Вядома, каб дзядзька Адам больш уважліва прыглядаўся да Мялешкавых вачэй, ён бы заўважыў у іх смяшынку і, можа б, даўмеўся, што той казаў няпраўду. Гэта, можа, усе, апрача Адама, ведалі. А ён, як тое малое дзіця, усяму даваў веры. Выдуманыя Мялешкам ваўкі стаялі ў Адама перад вачыма. Стары нават уявіў сабе, што б гэта было з ім, каб ён, а не Мялешка, апынуўся на тым стозе. Уявіў — і аж пахаладзела ўсё ўсярэдзіне.

Неўзаметку мужчыны адзін за адным разышліся, бо ўжо было позна. Хутка і электрастанцыя перастане працаваць. Адам апошнім выйшаў на ганак, зірнуў на вуліцу ў цемрыва ночы. Рэдка дзе ў якіх хатах гарэлі яшчэ агні. Калгаснікі пасля дзённай працы кладліся спаць. А на вуліцы хоць бы адна дзе жывая душа. Адам ступіў з прыступак ганка на зямлю, і яму здалося, што яна захісталася пад нагамі. Недзе нешта варухнулася, нема вухнула, і перад вачыма нібы забегалі тыя агеньчыкі, пра якія расказваў Мялешка. Не чуючы пад сабою ног, стары ўскочыў на ганак, шмыгнуў у сенцы і замкнуў дзверы. У доме было ціха. Адам чуў, як калацілася, ледзь не выскокваючы

з грудзей, уласнае сэрца. Валасы сталі дыбка. Нечакана нехта пагрукаў у дзверы.

— Хто там замкнуўся? — спытаў начны вартаўнік.

— Авяр'ян, гэта я...— заікаючыся, адказаў Адам.— З-ра-з адамкну...

Рукі яго не маглі намацаць ключа, яны калаціліся, як у ліхаманцы.

— Ды хутчэй ты,— нецярпліва падганяў вартаўнік.

— Зараз.

Нарэшце дзверы адчыніліся, і ў Адама на сэрцы крыху адлягло: усё-такі свой чалавек, ды яшчэ са стрэльбай.

— Чаму ты дадому не ідзеш? — спытаў Авяр'ян.

— Хай ён агнём падымецца той дом.

— Чаму гэта так?

— Ды пасварыўся з недарэкай сваёй.

— За што ты пасварыўся? Ты ж, кажуць, з Варай мірна жывеш.

— Кажуць! Вочы не бачаць, а вушы нічога не чуюць, дык людзям здаецца, што і ў згодзе мы жывём.

— А за што вам сварыцца? Яна ж працавітая, на сябе і на сваіх дзяцей зарабляе.

— Я ж не кажу, што яна гульма гуляе. Але ўедлівая... Як возьмецца, дык можа струп на галаве нагрызці,— маніў ужо да канца Свірыдзёнак. Яму карцела хутчэй адбіцца ад гэтай гаворкі, а то яшчэ Авяр'ян, крый божа, здагадаецца, што ён не пасварыўся з Варай, а проста баіцца ісці дахаты. І Адам, як толькі Авяр'ян запаліў лямпу, зірнуў на стрэльбу і, усміхаючысяаднымі вачыма, сказаў:

— Добрая рэч гэтая стрэльба.

— А якая яна добрая, ат, зломак. Я як і стаў за вартаўніка, дык ні разу з яе не стрэліў. Нашу для прыліку. Можа, яна і зусім не страляе, адно толькі страх наводзіць.

— Няхай бы старшыня дубальтоўку купіў. А то калі ваўкі падбяруцца сюды пад цялятнік ці пад аўчарню, дык хоць сам сябе па калене бі, калі стрэльба не стрэліць.

Авяр'ян то выходзіў на двор, то вяртаўся ў памяшканне, і калі Адам заставаўся адзін, ён калаціўся, кідаўся замыкаць дзверы, але вартаўнік сказаў, каб не замыкаў, бо ён хутка вернецца. Далася ў знакі чалавеку гэтая ноч: ён не заснуў і на волас, і вельмі рад быў, калі за вокнамі павіднела — значыць, нахапілася ўжо раніца.

— Ты б хоць пайшоў дахаты ды паснедаў,—прапанаваў Авяр'ян.

— Я старшыні дачакаюся. Мне ён вельмі патрэбен. Удзень яго не заспееш.

Як толькі Сілівон Гарнастай ступіў у свой кабінет, сеў за стол, каб прагледзець паперы і аддаць распараджэнні бухгалтару і рахункаводам, немаведама адкуль, нібы з-пад зямлі, перад ім вырас Адам Свірыдзёнак. Твар яго быў спакутаваны, на ім выразна віднеўся адбітак бессані і нейкай незвычайнай заклапочанасці.

— Добрай раніцы, таварыш старшыня,— павітаўся Адам.— А я да вас з невялікай турботай.

— З якой, калі не сакрэт,— з адценнем жарту спытаў Гарнастай.

— Вы ж ведаеце, самі мне казалі, што дзеці мае ў школу ходзяць галапузымі. Дык, можа б, выпісалі авансам сякіх там соцень тры ці чатыры грошай. Я адзежыну сякую-такую расстараюся. Хіба мае дзеці горшыя за іншых, каб хадзіць лата на лаце.

— Я ж не кажу, што яны горшыя, можа, яны і лепшыя,— падтрымаў Адама старшыня.

— Выпішыце, Сілівон Макаравіч, я адразу ж пабягу ў раён і куплю ім адзежыну.

— Чаго табе ў той раён, хіба ў нашай краме мала крамніны. Ды і гатовая ж вопратка ёсць,— спачуваў Адаму Сілівон. Адам адчуў, што старшыня спагадліва паставіўся да яго просьбы.

— Кажаце, гатовае купіць. Што яно гатовае, яно ж не моцнае, а на іх жа адзежа аж гарыць. Ім якой чортавай скуры трэба, каб зносу не было.

— Ну-то глядзі сам, табе відней, ты ж бацька, гаспадар.

Старшыня, прыкінуўшы, што Адам Свірыдзёнак пачаў добра рабіць, ён гэта бачыў на свае вочы, як хадзіў да аборы, і, можа, хочучы яшчэ больш падахвоціць чалавека да працы, аддаў распараджэнне бухгалтэрыі выпісаць авансам чалавеку грошай.

Але дзіва, дый годзе. Замест таго каб лепш узяцца за працу і як найхутчэй накрыць другую абору, бо неўзабаве восень, дажджы, Свірыдзёнак зусім не палез на страху. Аднаго разу Гарнастай пайшоў спецыяльна да Свірыдзёнка ў хату:

— Што гэта вы сабе думаеце, дзядзька Адам, распачалі страху і кінулі. Трэба ж было неяк кончыць.

— Хай яе чэрці канчаюць. Я яшчэ жыць хачу.

Старшыня ўбачыў тым разам і дзяцей Адамавых: яны былі такія ж галапузыя, як і даўней. Здзівіўся: грошы браў спецыяльна на адзежу. Можа, прапіў? Але Адама ніхто ніколі не бачыў п'яным. Аднак Гарнастай не спытаў пра грошы: ён быў узлаваны. Ды, зрэшты, чалавек мае свой розум, няхай сам і распараджаецца сваім дабром.

Страху давялося дакрыць навалам саломы, бо бралася на зіму і трэба было ставіць у абору жывёлу.

Усю зіму і вясну Адам Свірыдзёнак прасядзеў дома, адно часам выходзячы з хаты, каб сёе-тое памагчы жонцы на свінарніку. Старшыня атрос ад яго рукі: маўляў, не адзін жа ён у калгасе, каб, канечне, да яго падбіраць ключы.

Лета выдалася не зусім людскае. То дні два ці тры смаліць гарачыня, а то раптам ні з сяго ні з таго такая дажджака ўкінецца, што лье як з вядра. Праўда, на палях расло ўсё добра, аж зямлю рвала, ды і на балоце трава вымахала ў пояс, густая, з падсадаю... Гектараў трыццаць мужчыны ўжо аблажылі, і яна ляжыць у пракосах. Трэба было неяк выхапіць сена ў рэдкія пагодныя дні. Цяжка было яшчэ і таму, што асноўны масіў лубянічанскай сенажаці быў кіламетраў за пятнаццаць. Каб тут пад бокам, дык гэта б што — як толькі сонца прыгрэе, адразу б усіх, нават старых і малых, можна было б выправіць на сенажаць і ўхапіць: згрэбці, скідаць у стагі і няхай стаіць, тады не страшны і дождж. А то ж за свет. Адразу не кінешся туды. Касцы могуць касіць і ў непагадзь, у дождж яшчэ лепш косіцца, асабліва на грудах, дзе ёсць сівец. Яго ж толькі ці ў дождж, ці з расой і падразаць лёгка.

Аднак жа бавіцца з сенам ніяк нельга было.

Звечара сонца закацілася за чысты небасхіл. Значыць, павінна быць пагода. Сілівон Гарнастай сабраў брыгадзіраў і аддаў загад: на світанні выехаць усім, хто толькі здольны трымаць у руках граблі ці вілы, на далёкую сенажаць. Рыгор Мялешка пераказаў і Адаму Свірыдзёнку старшынёвае распараджэнне.

Лубянічане ехалі цэлым абозам, фурманак з дваццаць, на сенажаць. Мужчыны трымалі ў руках граблі, вілы, з кожнага воза тырчалі насілы. Было ўсё прадугледжана для таго, каб за пагодаю схапіць сена, скідаць яго ў стагі і быць анігадкі на ўсю зіму. Старшыня сядзеў на самым пярэднім возе, а Адам Свірыдзёнак на заднім. Ніхто не ведаў, апрача мо аднаго Мялешкі, што стары трымаў у руках між каленяў, седзячы на возе са спушчанымі цераз

драбіны нагамі. Адамава начынне было захавана ў чахол, зроблены са старой мешкавіны. Людзі бачылі, што Свірыдзёнак вязе нешта незвычайнае, але на яго ўсе прывыклі глядзець, як на блазна і выдумшчыка, таму і не дапытваліся, што там, у тым чахле. А стары вельмі акуратна, вельмі дбайна трымаў сваё начынне.

Лагер калгаснікаў размясціўся на грудзе, парослым арэшнікам, каржакаватым невялікім дубняком. Хлопцы, на ўсякі выпадак, каб ухавацца ад дажджу, калі ён пойдзе, парабілі буданы. І дзядзька Адам, каб ні да кога не прасіцца ў падсуседзі, насек таўставатага вербалоззя, паўтыкаў яго камлямі ў зямлю, а верхавінкі пазвязваў, накрыў травой, і выйшаў гэтакі будан, што хоць ты не толькі ў ім начуй, а сяліся жыць. Прынёс ахапак сухога сена пад бок. Торбу з прыпасам і тое, што вёз між каленямі ў чахле [redacted] мешкавіны, акуратненька паклаў і выйшаў. Толькі цяпер Адам агледзеўся, што непадалёку разросся густы куст вербалозу. Суседнім буданом быў той, у якім пасяліўся брыгадзір Мялешка з хлопцамі. Можна было б і Адаму дзе-небудзь прымасціцца з людзьмі, але ён не любіў быць сярод калгаснікаў, бо яны часцяком, ведаючы яго натуру, яго баязлівасць, пакеплівалі з чалавека. Не абышлося б без кепікаў і на гэты раз, асабліва калі б Свірыдзёнак асталяваўся ў адным будане з Мялешкам. Той заўсёды знойдзе якую-небудзь зачэпку, каб пасмяяцца з старога чалавека. Без іх будзе спакайней. Адама непакоіла адно: яго будан быў самы крайні, а тут яшчэ непадалёку гэты чортаў куст вербалозу. Як ён на яго не звярнуў увагі тады, калі засноўваў свой начлег? А цяпер жа не будзеш пераносіцца.

Працавалі дружна: жанчыны зграбалі сена ў валкі, мужчыны складалі ў копы і падносілі іх на насілах да адонкаў. У спякотлівае лета копы можна было падцягваць і коньмі, але сёлета ўліло столькі дажджу, што нават чалавечыя ногі грузлі, і, вядома, копы можна было зносіць адно на насілах. Адама Свірыдзёнка Мялешка паставіў рабіць адонкі. О, ён на гэта быў добры майстар. Ён і стог умеў завяршыць так, як ніхто ў Лубянічах. Стог, скіданы і завершаны ім, мог прастаяць два-тры гады, і хоць бы ён табе зацёк дзе ці папрэў. Гэтую здатнасць старога ведаў брыгадзір і таму паставіў Адама сёння рабіць адонкі, а назаўтра меўся паставіць вяршыць стагі. Свірыдзёнак стараўся, ён скінуў з сябе ўсё лішняе, каб не пацець. Расхлістаная грудзіна, паросла чэзлай рудаватай поўсцю,

засмалілася на сонцы. Адам завіхаўся, як ніколі, ля сваіх адонкаў. Хлопцы не паспявалі секчы і падцягваць лазу. Мялешка пахвальваў старога, і ён яшчэ больш стараўся.

За дзень усё сухое сена было зграблена, паскладзена ў копы і паднесена да адонкаў.

Увечары на грудзе было раскладзена такое вогнішча, што полымя яго, здавалася, шугала пад самае неба. У вялізным катле гатавалася на ўсіх вячэра. Не зважаючы на стомленасць, дзяўчаты і хлопцы галёкалі на ўсё балота песні. Яны адгукваліся рэхам далёка-далёка ў разлегласці. Нават старэйшыя мужчыны не ўтрымаліся, каб не ўзяць на падгалосак і не памагчы маладым у песні, як і ў працы.

Адзін мо толькі Адам Свірыдзёнак сядзеў насуплены, як сыч, і нешта думаў. Гарнастай, бачучы заклапочанасць старога, спытаў:

— Чаго гэта вы, дзядзька Адам, засумавалі, узялі б на падгалосак, памаглі б маладым.

— Ат, з мяне такі спявак, у маім галасе звону, як у чарапку.

— А скажыце вы, дзядзька,— умяшаўся Мялешка,— вы ж, кажуць, калісь добра спявалі.

— Дык то ж як малады быў. А цяпер, чарапок стары, куды мне ў песні лезці.

За вячэрай лубянічане ля кастра завіхаліся з лыжкамі гэтак жа дружна, як на сенажаці з граблямі ды віламі.

Перад тым як класціся спаць, старшыня з брыгадзірамі размяркоўвалі, што каму рабіць заўтра. Мялешка выказаў свой намер:

— Я думаю, што вяршыць паставім дзядзьку Адама. Ён умее рабіць стагі як лялькі.

Адам, як толькі дачуўся, што пра яго ідзе гаворка, крыкнуў на ўсю сілу свайго пісклявага голасу:

— Я не палезу на стог! Не палезу, дый годзе. Няхай маладыя лезуць.

— Вы ж лепш за ўсіх вывершваць умееце,— крыкнуў нехта з гурту мужчын.

— Умею, ды не хачу. Сілы ўжо ў мяне няма ўтоптваць як мае быць.

— Дзядзька Адам баіцца, каб са стога не бразнуцца, як з тае страхі.

Ні старшыні, ні брыгадзіру не ўдалося ўгаварыць

Адама стаць заўтра вяршыць стагі. На праміл бог прасіўся чалавек не ставіць яго на гэтую работу. Ён прыкінуў, што сена на стог будуць падаваць розныя няўмекі ды яшчэ жалезнымі віламі. Пакаўзнешся ды ўпадзеш, не дасвядзі бог, на жалезныя рагі, дык тут табе і канцы.

Адам ніяк не мог заснуць у сваім будане, хоць пад бокам і мякка было. Перад вачыма стаялі тыя ваўкі, пра якіх летась расказваў Мялешка. Ён дастаў з падгалоўя і выняў з чахла дубальтоўку і паклаў пры боку. Адам чуў, як нехта прайшоў паўз яго будан, як нешта шамацела ў кусце вербалозу, але падумаў, што гэта каторы з мужчын пайшоў ад будана па сваёй патрэбе. Яшчэ ж людзі не паснулі.

Ногі і рукі ад стомленасці аж гудзелі, нылі. Сама б цяпер заснуць, і гэтую стому як рукой бы зняло. Але заснуць Адам не можа. Ужо ўсё сціхла, зніякла на ноч, а ён як ні стараецца заплюшчыць вочы і парынуць у сон,— не ўдаецца. Розныя думкі лезуць у галаву. Хацеў ужо ўстаць і пайсці ў брыгадзіраў будан, але пасаромеўся, зноў жа ён будзе смяяцца, кпіць: маўляў, дзядзька Адам баязлівец. Гэтак і ляжаў чалавек дагары, углядаючыся ў цемрыва будана.

Але што гэта: у кусце вербалозу нешта зашамрэла, заварочалася. Свірыдзёнак выразна чуе, што там штосьці шастае, варушыцца. Як ні баяўся, але, узяўшы дубальтоўку, Адам высунуў з будана галаву і ўбачыў у гушчары куста іскаркі, якія нібы нехта выкрэсваў крэсівам. Хацеў крыкнуць:

— Людзі добрыя, уставайце, ратуйцеся — ваўкі!

Але голас нешта перахапіла, рот адно раскрываўся, а слоў ніякіх не чуваць было. Адам нават забыўся быў, што ў яго пры баку стрэльба. На нейкі момант прыйшло ў галаву праясненне, ён скеміў, што пры ім зброя, схапіў дубальтоўку і, не цэлячыся, націснуў на абодва пускавыя кручкі. Іржавая стрэльба грымнула дуплетам. У настоенай густой цішыні ночы двайны стрэл быў падобны па сіле на гарматны. Ва ўсіх буданах людзі паўсхопліваліся на ногі.

Бегалі, мітусіліся, не ведалі, што здарылася. Гарнастай таксама выбег з будана і пытаў на ўсю сілу свайго голасу:

— Хто страляў?

Адно Рыгор Мялешка, пасміхаючыся, стаяў ля свайго

будана, і толькі тады, калі ўстрывожанасць людзей дайшла да самага высокага накалу, ён крыкнуў, каб усе пачулі:

— Ды не хвалюйцеся! Гэта дзядзька Адам усмаліў дуплетам са сваёй дубальтоўкі па ваўках, якія падкраліся да яго будана.

— З якой дубальтоўкі? Па якіх ваўках? Дзе тыя ваўкі? — чуліся непаразуменныя запытанні.

— З тае дубальтоўкі, якую ён прывёз сюды ў чахле і якую летась купіў за тыя грошы, што яму даў старшыня дзецям на адзежу.

Людзі кінуліся да Адамавага будана, і ўсе адразу спалохана адхінуліся. Адам ніцма ляжаў ля лазу, а пры боку ў яго яшчэ дыміліся ствалы старой дубальтоўкі. Зжахнуліся лубянічане, думаючы, што чалавек сам сябе рашыў. Гарнастай нагнуўся над Адамам і пачаў падымаць яго.

Свірыдзёнак быў як нежывы, і толькі тады, калі людзі загаманілі на ўсе галасы, да Адама вярнулася прытомнасць, і ён не сказаў, а прастагнаў:

— Я іх забіў?

— Каго?

— Ды ваўкоў. Падкраліся ж да майго будана.

Падышоў Мялешка і ні то са злосцю, ні то са спагадай сказаў:

— Стары перасмешнік вы, дзядзька Адам. От хто вы. Век зжылі, а свайго ценю баіцеся. З вас ужо куры смяюцца, не то што людзі.

— Няхай смяюцца, і з-пад смеху людзі выходзяць, ды яшчэ якія,— прапішчаў Адам тоненькім галаском, які дрыжаў, іраўся, як гнілая нітка, бо чалавек, відаць, яшчэ не адышоў ад перапуду...— А дзе ж ваўкі? — не здаваўся ён у сваёй упэўненасці, што ў кусце вербалоззя сядзелі не інача ваўкі.

— Нідзе тых ваўкоў і звання не было. Гэта я прывязаў да лазіны галавешку, а за лазіну зачапіў абору і шморгаў яе...

Людзі не тое што смяяліся — рагаталі з баязлівасці дзядзькі Адама. А ён стаяў і лыпаў вачыма, як спуджаны з лагавішча заяц. З маленькіх борздых вачэй яго не сыходзіла ўсмешка, якая немаведама адзнакай чаго была: ці задаволенасці тым, што чалавек ўратаваўся ад ваўкоў, ці проста вочы ўсміхаліся таму, што смяяліся ўсе людзі, а можа, то быў такі нервовы цік, які замест перапуду,

узрушанасці наганяў на Адамаў твар падабенства ўсмешкі.

На другі дзень Адам Свірыдзёнак палез вяршыць стагі і павывяршваў іх так, што яны па пяць гадоў маглі б стаяць. А прыехаўшы дадому, кажуць, Свірыдзёнак прадаў старую ржавую дубальтоўку і купіў дзецям касцюмчыкі. Больш таго — Адам дакрыў страху на другой аборы. Вунь яна здалёк відаць: тры рады счарнелыя, а астатняя страха аж да самага вільчыка як бы іскрыцца пазалотай свежых добрых кулёў. Аднак на ўсё сяло і, можа, на ўсё Адамава жыццё з лёгкага брыгадзіравага языка да Свірыдзёнка прыклеілася мянушка: Адам-перасмешнік. І наўрад ці адклеіш яе цяпер.

[1958]

# ДОЖДЖ

Сонца як не плавілася. Здавалася, з яго, як з распаленага жалеза, не промні ліліся, а сыпаліся іскры-акаліны, быццам па ім білі молатам. Засмяглая зямля, здаецца, прасіла: дажджу, дажджу! Была тая самая пара, калі красавала жыта, калі звычайна лёгкія павевы ветрыку над трошкі парудзелымі палеткамі ўздымаюць жоўты пылок красавання. Сёлета не відно было пылку. Яшчэ пустое калоссе тырчком стаяла і не шапталася, як зазвычай, а ціха, маўкліва, нават зажурана, кожны каласок думаў сваю думку. Спёка... Спёка...

А сонца ўсё лілося і лілося на зямлю, як агонь, як немінучая бяда. Вечарамі па калгасных хатах, на прызбах, на лавачках адно што і было гаворкі, дык гэта пра дождж.

— Бога ўгнявілі, не іначай,— можна было пачуць у гурце.— Гэта ж, скажы ты, два гады запар чэрвень як пекла — ні хмурынкі, ні дажджынкі.

— Мабыць, усё тыя атамы даюць сябе знаць. Зямлю, відаць, зрушылі з месца, дык яна ніяк сілы не набярэцца на дождж,— уставіў Сяргей Сырамалот, рыжы, мажны мужчына.— На яблынях завязь ужо макам села. Як не дасць бог дажджу, дык і ўсё макам сядзе. Зубы на паліцу давядзецца класці.

— Ат, твой бог! Як на ліха пойдзе, дык і бог ліхам стане,— выказаў сваё калгасны брыгадзір, камлюкаваты, з расхлістанай грудзінай Яўсей Каржак.— Пахадзіў сёння ўранні па жытным — балюча глядзець на тое жыта. Здаецца, не расце збажына, а гібее, як той нямоглы чалавек. А з вясны як бралася — густое, ядранае і буйнае, як аер. Пшанічка яшчэ трохі трывае. Каб от цяпер дождж, яшчэ б загула. І бульба яшчэ папраўлілася б. Сёння сонца зайшло за хмару, можа, і збярэцца на дождж,— выказаў як добрую спадзяванку Яўсей.

— Бога ўгнявілі,— працягваў усё той жа Сырамалот.— А што бо твой той хутбаліст кажа? — папытаў ён.— Ці то бо ён надоўга прыехаў?

— А ліха яго ведае,— незадаволена адказаў Яўсей такім голасам, што ў ім адчувалася ні то пагарда да сына, ні то боль за яго.— Якуюсь траўму яму на полі зрабілі, дык, кажа, выбракавалі, як таго нутраца.

— Выбракавалі? — сумеліся мужчыны.— Дык а што ж ён цяперака будзе рабіць?

— А хто яго ведае. Кажа, за нейкага трэнера будзе,— адмахнуўся Яўсей ад гаворкі пра свайго меншага сына.

Відаць было, што старому не вельмі хацелася гаварыць пра Савасцея. Ён яго наогул лічыў адрэзаным пальцам, кукса якога ўжо загаілася і не балела. Большыя яго хлопцы — Андрэй і Алесь — вунь якімі людзьмі сталі: Андрэй — журналістам, а Алесь — авіяцыйным інжынерам. Яўсей часцяком і ў газетах чытае, і па радыё слухае тое, што Андрэй піша пра людзей. Надоечы ж і сам ён гаварыў па радыё. Яўсей недзе быў заняты і не чуў пачатку сынавага выступлення. Але як толькі адчыніў дзверы, яшчэ з парога пазнаў сынаў голас, хоць ён, здаецца, трошкі быў і не такі, як у жывога. Андрэй расказваў пра партызанку, якая ў гады вайны была разведчыцай. Расказваў так, быццам ён сам за ёю ўслед хадзіў і ўсё тое бачыў на свае вочы. Бацька дзівіўся: адкуль яго сын усё тое ведае. Праўда, хлопчык таксама быў разам з ім, Яўсеем, у партызанах, але ж яму было гадкоў усяго якіх пяць ці шэсць.

Перад тым як прыйсці нашым, фашысты быццам пашалелі: палілі вёскі, нішчылі людзей, і Яўсей, каб быць далей ад бяды, забраў Мар'ю з Алесем і Андрэем у лес. Мар'я варыла партызанам ежу, а хлопцы таўкліся пры ёй. Здаецца, і бяды ніякай не было. Але аднаго разу немцы пачалі блакаду. Тады давялося сербануць гора поўнаю лыжкай. Загналі ў балота, і яны там сядзелі галодныя і халодныя. Каб яшчэ трохі працягнулася тая блакада, пазаходзіліся б ад голаду. Добра, што нашы турнулі фашыстаў акурат тады, калі ўжо не было ніякай змогі трываць.

Усё тое даўняе пачало ўжо забывацца. Яўсей часам намагаецца прыгадаць, як яно было тады, але з усяго перажытага прыпамінаецца толькі, як па кладках ён пераносіў хлопцаў на балотную выспу. Нёс ён Андрэя, і ногі неяк знячэўку паслізнуліся на тых кладках, і яны абодва паляцелі ў дрыгву. Па самую шыю ўжо было ўсмактала яго. А хлопца ён падняў на руках над галавою і гэтак трымаў. Добра, што падскочылі людзі, інакш бы ім абодвум былі канцы ў той багне. Гэта Яўсею запомнілася на ўвесь век, і, мабыць, таму, што ён быў не адзін, а з хлоп-

чыкам. Можа, яно і Андрэю запомнілася? Дзіцячая ж памяць учэпістая, глыбокая. Не дзіва, што Андрэй пра партызанку тую расказваў так, быццам сам быў з ёю.

Не нарадуецца Яўсей з большых сваіх хлопцаў. Ён перад усёй грамадою можа з гонарам сказаць: глядзіце, якія мае сыны — не зломкі, не абібокі. Гэта ж як летась Алесь прыязджаў з жонкаю ды дзецьмі, дык яму, Яўсею, кожны раз у свята ці надвячоркам, калі на вуліцы поўна людзей, хацелася прашпацыраваць з сынам, з нявесткаю, каб усе ў сяле паглядзелі на яго ўдачу. Мабыць, кожнаму чалавеку хочацца перад людзьмі пахваліцца, пакрасавацца: у маладосці — сваёй прыгажосцю, а ў старасці — прыгажосцю сваіх дзяцей.

Акурат тады, як быў Алесь дома, касілі поплаў за канаваю. Трава была густая, з падсадаю, і каса ўбівалася ў яе, як у лямец. На гэты раз і самому брыгадзіру хацелася пакасіць. Размеркаваўшы дзялянкі, Яўсей узяўся за кассё. Вострая каса аж уядалася ў густую падсаду, нібы брытва ў добрую бараду. Яўсей мянташыў касу, і яму прыгадвалася маладосць, успаміналася тая добрая слава, якая хадзіла пра яго па ўсім Заліп'і як пра лепшага касца. І ён такі трошкі ганарыўся той добрай славаю і стараўся, каб ніхто яе не адабраў у яго.

Сонца ўжо ўгрэла добра. Ужо на спінах касцоў выступала соль, і тады з Заліп'я адно за адным паказаліся дзеці, старыя жанчыны,— яны неслі касцам сняданак: хто булён у гарлачыку, хто кавалак прываранага сала, а хто і загорнутыя ў ручнік бліны. Мужчыны адзін за адным, несучы на плячах косы, у якіх люстравалася сонца, сыходзіліся да брыгадзіравай дзялянкі на сняданак. Паўтыкаўшы ў зямлю касавільны, садзіліся на грудку на пакошу, як за шырокі бяседны стол. Яўсею яду прынесла не Мар'я, як звычайна, а Алесь.

Елі ўсе гуртам, і зялёны стол да таго быў багаты на стравы, што там можна было пакаштаваць усялякіх сялянскіх наедкаў.

— Можа б, і ты, таварыш інжынер, не даў ганьбы нашаму сялянскаму хлебу з соллю? — запрашаў Алеся Сырамалот.

— Дзякую, дзякую, я от толькі што адваліўся ад матчыных бліноў. Мне б паспрабаваць, ці не забыўся касіць.

— То бяры маю касу ды гані за бацьку пракос. Вунь яна стаіць крайняя,— набіваўся той жа Сырамалот.

— А што твая каса? Змылак благі,— выказаў сваё нехта з мужчын.

— А твая — лапатуха,— пакрыўдзіўся Сырамалот.

— Няхай бярэ бацькаву. З бацькавай касою і спрыт бацькаў возьме.

— Спрыту яму пазычаць не трэба,— уступіўся за сына Яўсей.— Ён яшчэ змалку так касіў, што наступаў мне на пяткі.

Мужчыны елі, утаропіўшы позіркі ў яду. А на тое, як Алесь браў касу, як ён яе мянташыў, як рабіў першы замах, нібы і не глядзелі. Першыя замахі былі няўдалыя: то каса ўразалася ў густую траву адною пяткаю, а носік яе выскокваў напаверх і пад самым радам зразаліся толькі шчыткі травы, то насок касы ўпіваўся ў зямлю і не ставала сілы пацягнуць, і тады ўся падсада заставалася нясцятай. Яўсей ужо хацеў сказаць сыну, каб ён уваткнуў касу. У Сырамалота ўжо вярцелася на языку: «Гэта табе, братка, не пяром касіць, тут трэба на пуп узяць ды не збаяцца і мазаля-крываўкі».

Але за адным, другім, трэцім махам каса як бы асвойталася з травою, з рукамі касца і ўжо не паказвала з травы носіка, а смачна, нават з нейкім сыканнем, уядалася ў густую падсаду і валіла роўны і прыгожы рад. А пракос гнаўся, мабыць, шырэйшы за бацькаў. Алесь гнаў яго нейк лёгка, як бы гуляючы, і здавалася, што ён вось зараз заспявае ў такт посвісту касы. Вунь ён ужо спыніўся, узяў вехцік сакавітай травы, абцёр палатно касы, і яна зазвінела, заспявала пад мянташкаю. Гук чуцён быў роўны, рытмічны і прыемны, як песня. Мужчыны аж заслухаліся.

Пакуль касцы снедалі, курылі, менцілі языкамі, Алесь прагнаў тры доўгія-доўгія, аж на ўсю шырыню поплаву, пракосы.

— Глядзі ты, не забыўся нашае сялянскае працы,— сказаў, як пахваліў, Сырамалот.

— Дзіва, што не забыўся: чаму змалку навучышся, тое век будзеш за плячыма насіць, як набытак,— уставіў нехта з касцоў.

Яўсей ужо хацеў забраць з сынавых рук касу, але той ні блізка.

— Пакашу да вечара, хоць душу адвяду,— сказаў Алесь і пагнаў пракос.

Бацька пачухаў патыліцу, прыгледзеўся да сына і ў замаху касы, у тым, як Алесь, замахваючыся, прысядаў на

правую нагу, пазнаў нешта сваё. Задаволена ўсміхнуўся і пайшоў шукаць сабе другую касу.

З касавіцы вярнуліся ўжо надвячоркам, і Яўсею хацелася расказаць пра тое, як ён не мог дагнаць сына ў касьбе. Чалавеку, відаць, было радасна, хоць Алесь, прыйшоўшы дадому, мачыў у халоднай вадзе рукі: усё-такі мазалі-крываўкі павыступалі і балелі.

Той дзень, калі Алесь касіў з ім, успамінаецца Яўсею як нейкае незвычайнае, яго асабістае свята. Яўсей ведае, каб у меншага сына нага не была павярэджана, ён бы, вядома, не ўседзеў у хаце. Тыя разы, як прыязджаў Савасцей дадому, дык усё бегаў па польных сцежках, выбрыкваў, як той гадавалы лашак: казаў, «лаўчуся ў бегу». А то яшчэ, гайсаючы, вымахваў неяк галавою, нібы хацеў каго баднуць.

Яўсей аднаго разу паглядзеў, як сын бадае галавою паветра, і не сцярпеў:

— Што ў цябе, сынку, матыліцы ў ґалаве завяліся, што ты бадаешся, як тая дурная авечка?

— Гэта я, бацька, удар галавою адшліфоўваю. Часам, ведаеш, на полі так бывае, што толькі галавою можна забіць гол.

— А каб ты спрах з тым сваім голам,— добразычліва сказаў бацька.— Гэта ж заліп'еўцы як угледзяць гэты твой гол, дык смеху будзе на ўсё сяло. Галава ж, мабыць, у добрых людзей сядзіць на шыі для таго, каб думаць ёю, а не забіваць нейкія голы-шмолы.

А Савасцей і вухам не вёў ад таго, што казаў бацька. Яму здавалася, што футбольны мяч — як цэлы свет, вакол якога круціцца ўсё жыццё, і ён стараўся, дзе б ні быў, думаць пра мяч, пра тое, як ён, левы крайні, будзе забіваць галы ў вароты праціўніка. Нават начамі сніўся яму мяч.

А яшчэ снілася, як яго, Савасцея, удзячныя балельшчыкі нясуць на руках і нібы апантаныя крычаць ад захаплення.

— Ты, бацька, нічога не разумееш у гэтай справе. Можна сказаць, адсталы чалавек. Каб ты хоць разок пабываў на вялікім стадыёне, паглядзеў, колькі там людзей збіраецца. Ды яшчэ якіх людзей — ад міністраў і да падлеткаў-хлапчукоў. У дзень матча ўсе балельшчыкі кідаюць працу і навыперадкі спяшаюцца на стадыён. І, галоўнае, ніводнага раўнадушнага.

— Мабыць, тым тваім балельшчыкам няма чаго рабіць, дык яны і спяшаюцца глядзець вашы забавы,— гнуў сваё бацька.

— Няма чаго, няма чаго! — іранічна перадражніў бацьку Савасцей.

— Мабыць, так, як і ты, калі яшчэ быў малы, кінуцьрынуць усю работу і — на гулі-балі. Мо таму і да пуцця ніякага не дайшоў. Вунь Алесь з Андрэем як пільнаваліся работы змалку, дык, бач, якімі людзьмі сталі. А ты?

— А я што? — прыняў за абразу бацькавы словы Савасцей.— Вось паглядзіш, як на другі год пра мяне будуць і радыё, і газеты трубіць.

— Можа, і будуць, калі ў іх лішнія трубы ёсць,— абыякава сказаў бацька і выйшаў з хаты.

У нядзелю, акурат пад абед, у Яўсееву хату прысоўгаўся, як няпрошаны госць-дармаед, Сырамалот. Мар'я ўжо ставіла на стол наварыстае шчаўе, Яўсей накроіў хлеба. Гаспадар маргнуў Мар'і, каб тая пашукала ў шафе якога мацунку. І калі на стале з'явілася пляшка, Яўсей сказаў:

— Проша, куме, за стол.

— Дзякую,— пачаў адмаўляцца для прыліку Сырамалот,— хіба ж я прыйшоў на пачастунак! Захацелася от пабалакаць з хлопцам вашым, усё ж такі ён мой хроснік.

— Ну-то пад чаркаю весялей будзе і балакацца.

— Хіба што,— згадзіўся Сырамалот.

Селі за стол. Чокнуліся. Выпілі. Сырамалот, здаецца, аж смакаваў пітво. Смакаваў і Савасцей. Адзін толькі Яўсей выпіў як нехаця. Ён кідаў косыя позіркі на сына, на кума. Відно было, што яму нешта не даспадобы. А Яўсею і сапраўды не спадабалася тое, як яго меншы, не адстаючы ад свайго хроснага бацькі, куляў чарку за чаркай, як яго падвяселены градусамі язык менціў і менціў. Ды хоць бы што людскае, а то ўсё пра тыя гулі-балі; пра тое, якая радасць бывае на сэрцы, асабліва калі каманда выйграе матч; як яго, Савося, гатовы былі на руках насіць, калі ён забіваў мяч. Яўсей толькі скоса пазіраў на сына і моўчкі сабе думаў: якая няўдаліца гэты яго меншы. Яму здалося, што сын і п'е не па-людску, як не ў сябе. Затое Сырамалот ледзь не кожнае Савасцеева слова лавіў, калі яно толькі вылятала з рота. Захапляўся, быццам што і разумеў у тым яго футболе.

— О, дык ты, брат, не нашынец. Ты вунь які важны

чалавек! — выказаў сваё Сырамалот.— А мы, цемната вясковая, думаем, што гэта тралі-валі якія, а яно вунь што, гэты твой хутбол.

А Савасцей, мусіць, рады, што знайшоў добрага слухача, расказваў і расказваў пра міжнароднае значэнне футбола, што ён як не галоўнае ва ўзаемаразуменні людзей розных краін. Сырамалот, развесіўшы вушы, слухаў, як цікавую казку. Ужо дагледзеліся і дна ў пляшцы, а гаворцы і канца не было відно. Хоць ты другую пляшку стаў. Яўсей хацеў перавесці гаворку на свой клопат, але ніяк не мог уставіць нават слова. Тады ён моўчкі, злосна выйшаў з-за стала і сеў воддаль, даўшы куму і сыну зразумець, што бяседа кончылася. Але тыя нібы і не заўважылі Яўсеевай пахмурнасці. Адна Мар'я згледзела, што нешта не ў парадку ў чалавека. О, яна добра ведала Яўсееву натуру. Падышла да яго і ціхенька спытала:

— Чаго ты, Яўсейка, як усё роўна табе хто на нагу наступіў?

— Не на нагу — на душу наступаюць. Ты толькі паслухай, які клопат у нашага боўдзілы. Вырас на лес гледзячы.

А Савасцей, быццам у пацвярджэнне таго, што ён вырас «на лес гледзячы», расказваў Сырамалоту, што, як толькі хоць трохі паправіцца яго павярэджаная нага, пойдзе да старшыні калгаса і будзе патрабаваць, каб і ў Заліп'і пабудавалі стадыён, а сам ён арганізуе футбольную каманду і, пакуль тут будзе, выведзе яе на першае месца ў раёне.

А спёка над Заліп'ем не сунімалася. Людзі хадзілі як самі не свае. Здаецца, і работа не ішла, а смылела. Кожнага клопат браў: як жа яно будзе далей? Яўсей рэдка стыкаўся дадому: хадзіў па палетках брыгады. Кожны раз браў на спробу каласкі. Жыта ўжо адкрасавала, і, калі не пойдзе цяпер дождж, наўрад ці і нальецца яно. Падоўгу ўглядаўся стары ў небакрай, глядзеў, як заходзіць сонца. Ён не верыў ні ў якія прыкметы, але сёння, угледзеўшы, што рабая іх свіння несла ў хлеў нейкі вехаць, падумаў сабе: «Можа, і праўда жывёліна адчувае перамену на-

двор'я?» Аж на душы павесялела. Ды і ластаўкі нешта нізка над зямлёю пачалі лётаць. Яўсею закарцела, каб як хутчэй ужо тое змярканне: паглядзець, як сонца будзе заходзіць.

У брыгадзіра аж настрой трошкі палепшыўся. Зайшоў у хату палуднаваць. Старая была недзе на агародзе. Савасцей сядзеў у другім пакоі. Стрункая летняя цішыня сялянскай хаты была парушана гарластымі гукамі радыёпрыёмніка.

— Трэба было біць! — аж захлынаўся, крычаў прыёмнік.— Гэтакі шанц не выкарысталі мінчане.

Яўсей прачыніў дзверы пакоя і ўгледзеў, што сын не сядзіць на крэсле, а аж скача. Ля ног яго аціраецца шэрае кацянё сібірскай пароды, Пушок, як яго ахрысціў сам Яўсей. Надоечы ён выпрасіў гэтае кацянё аж на другім канцы вуліцы. Яўсей гэтага коціка неяк палюбіў: то малака яму нальс ў сподак, то мяса з баршчу падкіне крошку. Ды і як яго не палюбіш: ён жа такі ласкавы, гэты коцік. Гэтак і аціраецца ля ног.

Раптам на ўсю хату раўкнуў прыёмнік:

— Гол! Гол!

Яўсей нават не згледзеў, як яго сынок падфутболіў здаровай нагою Пушка, і той адляцеў у другі куток пакоя і жаласна каўкнуў.

— Што ты робіш, нячысцік! — закрычаў Яўсей, быццам балела не коціку, а яму.

— Што? Што, тата? — не мог даўмецца Савасцей. Нічога ж ён не зрабіў, апроч таго, што парадаваўся забітаму голу.— Гол жа нашы забілі.

— Гол! Гол! А ты Пушка ледзь не забіў. Ты ўжо зусім з глузду з'ехаў з гэтым сваім хутболам.

Толькі цяпер дайшло да Савасцея, што ён падфутболіў коціка. Але гэта было не знарок, а ад нейкай наэкзальтаванасці. Бацька ўзяў коціка на рукі, гладзіў і лашчыў яго, скоса пазіраючы на сына.

А радыёкаментатар не сунімаўся: то крычаў на ўсю сілу, то пераходзіў як не на шэпт, і тады Савасцей прынікаў вухам да прыёмніка, баючыся прапусціць хоць адно якое слова.

Раптам каментатар з нейкім жалем, з нейкім унутраным шкадаваннем паведаміў, што над стадыёнам пайшоў заліўны дождж, у момант размачыў поле і футбалістам гуляць стала коўзка. Колькі хвілін Савасцей аж чухаў патыліцу. На момант Савасцею здалося, што, каб ён там быў, не

было б ніякага дажджу. Каментатар тым часам упалым галасам цягнуў:

— А дождж прыпусціўся не на жартачкі. Поле зусім расквасіла. Мяч ацяжэў. Гэта ўжо, уласна, і не мяч, а двухпудовая гіра. Такі мяч вельмі цяжка, а то і зусім немагчыма забіць. Гэта мо і з'явілася прычынай, што наша каманда вымушана была задаволіцца нічыйным лікам, хоць на яе баку былі тактычныя і ўсялякія іншыя перавагі. Яна смела і дзёрзка нападала на вароты праціўніка, але завяршаючыя ўдары не дасягалі мэты. Так і будзем лічыць, што дождж перашкодзіў нашай камандзе выйграць чарговы матч,— скончыў каментатар.

Прагучала ўсім знаёмая музыка «Марш футбалістаў». Савасцей са злосцю выключыў прыёмнік, быццам той быў вінаваты, што наша каманда не выйграла, і выйшаў у пярэдні пакой, дзе палуднаваў бацька. Яго нават злосць узяла на старога: чаму ён такі спакойны.

— Разумееш, баця, якое няшчасце — дождж! — сказаў з нутраным болем Савасцей.

— Дождж — няшчасце?! — узрушана перапытаў бацька і закрычаў:— Ах ты пустадумак! Для ўсіх людзей дождж — шчасце, а для цябе няшчасце! Прэч з маёй хаты, каб і смуроду твайго тут не было!..

— Што ты кажаш? — спалохана перапытаў сын.

— А тое кажу, што прэч з маёй хаты! Дождж яму не трэба!

— Дык то ж там, на стадыёне,— нарэшце ўшалопаў, за што разгневаўся бацька.— Там ён быў зусім непатрэбны.

— Усюды ён патрэбны, пустадумак ты. На ўсю зямлю ён патрэбны!

Савасцей убачыў, што бацька не на жарт разгневаўся. Яму хацелася нечым апраўдацца перад старым, але ён не ведаў як. Хуценька пачаў зладкоўваць чамадан, спадзеючыся, што бацька, заўважыўшы яго зборы, зменіць гнеў на літасць.

У хату зайшла маці. Яна разгублена зірнула на сына, на яго зборы і запытала:

— Куды гэта ты, сынок, ладкуешся?

— Дадому.

— Куды дадому? Ты ж дома.

Зірнула на Яўсея і ўгледзела яго ўтрапёнасць.

— Чаго гэта ты насеў на хлопца? От бо чалавек, і

сыну пагасцяваць не дасць. Завошта ён на цябе вызверыўся? — запытала ўжо ў Савасцея.

— Хто яго ведае. Мабыць, за дождж!..

— За які дождж? Ён жа вунь ужо накрапвае. Можа, дасць бог, і пойдзе.

А дождж такі лінуў. Спорны, густы, цёплы, чаканы. Яўсей выйшаў на ганак пад самы дождж, расхлістаў грудзіну і як не падстаўляў яе пад дажджавыя кроплі. Не баяўся, што прамокне, быццам і яму, як і зямлі, патрэбна была гаючая вільгаць.

Не збаяўся дажджу і сын. Накінуўшы плашч, ён вычыкільгаў на двор, яшчэ больш, як звычайна, прыпадаючы на хворую нагу.

Яўсею на момант стала шкада сына, і ён сказаў ужо без ранейшага гневу:

— Пачакай, заўтра запрагу каня ды адвязу на станцыю.

1965

## ЗАЦІРКА

Можа, нічога так не любіў Міхал Стрынадка, як зацірку. Асабліва калі яна хоць трошачкі была засквараца салам. Ды калі яшчэ сёе-тое перападала пад зацірку. Тады яго б, здаецца, за вушы не адцягнуў ад ласунку. Ён прыпадаў да заціркі, як да гаючай крыніцы.

Адным словам, любіў Міхаіл зацірку, і Кацярына, яго ціхая і рахманая маладзіца, гэта ведала і старалася рабіць усё пад нораў мужу. І яшчэ да аднаго прыстроміўся чалавек — гэта да чаркі. Праўда, тут Кацярына не патакала яму. Наадварот, старалася як-кольвек адвучыць, як ад ліхой напасці. Міхаіл і сам добра не ведаў, чаго ён шукаў на дне той чаркі. Звычайна людзі п'юць ці з вялікага гора, ці з неўтаймоўнай радасці. У Стрынадкаў жа не было ніякага гора, калі не лічыць таго, што яны былі бяздзетныя. Ды і радасцей асаблівых не выстачала. Міхаіл з Кацярынай жылі кожнае само сабе, як бы самапасам. Сам Стрынадка працаваў бухгалтарам-рэвізорам у гаркамунгасе. Кацярына — майстрам на невялікім сушыльным заводзіку.

У Міхаіла часам, асабліва пасля квартальных ці гадавых балансаў, калі ён прыходзіў дадому, уваччу скакалі костачкі лічыльнікаў. Ды не толькі ўваччу. Здавалася, ён чуў, як яны ляскаюць. У такім разе ён мыляў губамі і гаварыў да жонкі:

— Каця, ты ж павінна зразумець, якая гэта работа. Можа б, таго... мазгі трошкі прамыць.

Кацярына скоса зыркала на мужыка. Даставала з жаночай сумкі абавязкова пакамечаную траячку і як не кідала яе Міхалу:

— Схадзі сам, калі табе ўжо абавязкова трэба іх прамываць. Мне сорамна па гэтае зелле хадзіць у магазін. Яшчэ людзі падумаюць, што я знарок табе мазгі затуманьваю.

— Ат, падумаюць. Хай думаюць. На тое ў іх галовы на плячах,— радасна абзываўся на Кацярыніну згоду Стрынадка і як не подбрыкам кідаўся цераз вуліцу ў прадуктовы магазін. З парога ён наказваў:

— Ты ж заціначкі пастаў, мая галубачка.

Але такое было не дужа часта. Кацярына не вельмі раскашэльвалася на пакамечаныя траячкі. Хіба толькі ў вялікія святы ды часам у выхадныя, калі яны выязджалі на летнюю выгоду за горад. У такім разе Кацярыніна сэр-

ца мякчэла, і яна давала згоду і грошы на тое, каб паставіць у куточак гаспадарчай сумкі закаркаваную пляшку. У такіх выпадках Міхал не давяраў нават жонцы трымаць у руках сумку — сам аберагаў яе, не раўнуючы, як той святы фанатык ваду з Іардана.

Сёння ў Стрынадкі быў такі настрой, што толькі выпіць: адбылася баталія з загадчыкам. Той яму не сказаў проста ў вочы, а намякнуў, што ён, Стрынадка, мокне ў гарэлцы і ўвесь інтарэс яго ў ёй, а работа быццам яму не ішла, не ехала. А хіба ж гэта праўда? Дзе ж ён у той гарэлцы мокне? У яго ж ніколі і капейкі за душой няма. Хіба толькі што ў дзень палучкі. Дык і то Кацярына стараецца так падкруціцца, каб яго абавязкова сустрэць на выхадзе з дзвярэй. Ох і хітрая ж, шалапутка! Акурат перад дзвярыма нос у нос стрэнецца.

— Гэта ж я надумала, пакуль ты дадому яшчэ не прыйшоў, збегаць у гастраном. Там, кажуць, нешта смачненькае прадаюць. Але калі я цябе ўжо сустрэла, дык сходзім удваіх.

Як не жывасілам Кацярына цягнула мужа ў магазін. Трымаючы пад руку, яна шчабятала аж да самага парога. А перад дзвярыма як бы спахоплівалася:

— Дык гэта ж у мяне з сабою і грошай кот наплакаў. Ты ж, мабыць, палучыў, то дай мне.

Міхал нехаця лез у кішэню і даставаў грошы. Кацярына аднымі вачыма лепш за яго, бухгалтара, іх пералічвала і, пераканаўшыся, што грошы ўсе, казала:

— Ты тут пастой, а я пабягу ў той аддзел.

І Кацярына раптоўна знікала ў натоўпе пакупнікоў, а Міхал падыходзіў да гастранамічнага аддзела, дзе былі выстаўлены, як напаказ, бутэлькі, спыніўся, нібы ўкапаны. У вочы кідаліся гарэлка, каньяк, віно. Прадаўшчыца пачынала ўжо звяртаць увагу: чаго гэты чалавек тут стаіць і нічога не купляе? Знячэўку падбягала Кацярына і брала яго пад руку.

— Хадзем, хадзем дадому. Чым ты тут так захапіўся?

Міхал кідаў узлаваны позірк на жонку і казаў як не сваім голасам:

— Не даеш выпіць, дык дай хоць на бутэлькі наглядзецца. Можа б, узяла хоць чакушачку? — з апошняй надзеяй прасіў ён жонку.

— З якой гэта нагоды? Што ў цябе сёння — імяніны ці хрысціны?

— Дык палучка ж! — гнеўна бомкаў Стрынадка.

— Палучка! Палучка! — перадражнівала Кацярына.— На гэтую палучку не вельмі разяўляй рот. Няхай другім разам, можа, у выходны.

— А што ты там смачненькае купіла? — пераканаўшыся, што жонка гарэлкі не возьме, пытаў Стрынадка.

— Што я купіла? Дзвесце грамаў халвы. Я ж ведаю, як ты любіш яе,— шчабятала, не даючы вымавіць Міхалу слова, жонка.

З магазіна яны сунуліся моўчкі, нібы пасварыўшыся. Міхал нават адварочваўся ад жонкі. Разглядаў сустрэчных, асабліва мужчын. І калі трапляўся чалавек, якога хістала з нагі на нагу, Стрынадка зайздросціў яму і нібы сам сабе казаў:

— От чалавек добрую жонку мае... Не тое што я.

— Які чалавек?

— А вунь гэты,— паказваў Міхал на п'янага.— Бач, не пашкадавала паршывай траячкі, і мужыку з палучкі весела.

— Вунь ты пра што! Я пашкадавала не траячкі, а цябе, дурнога.

— Шкадобніца знайшлася,— бурчаў у адказ Міхал і праглынаў словы, каб ужо маўчаць да самага дому, а то і да заўтрашняй раніцы.

Сёння ж Міхалу Стрынадку пашэнціла. Пад канец рабочага дня падкруціўся домакіраўнік Хвядос Бычок. Міхал ведаў гэтага Бычка: любіў і той паласавацца малачком з-пад шалёнай кароўкі.

Разам выйшлі з дзвярэй райкамунгаса. Хвядос зладзеявата паазіраўся, памыляў губамі, быццам збіраўся каштаваць што смачнае.

— Дык, Міхал Фёдаравіч, можа, таго...

— Што таго? — злосна буркнуў Стрынадка.

— Ну, таго зробім...— і Хвядос пстрыкнуў сябе па шыі.

Стрынадка зразумеў Бычкову пстрычку і зноў-такі незадаволена адказаў на яе:

— Дык у мяне ж у кішэні дуля, ды і тая на прывязі.

— Затое ў мяне во...— паляпаў сябе па кішэнях Бычок.

— Ну то чаму ж не зрабіць,— згадзіўся Стрынадка і сам сабе падумаў: «Ужо, відаць, недзе ўрваў, чортаў урвіцель».

Стрынадка добра ведаў Бычка: той не прапускаў выпадку, каб не сарваць з каго ці пры абмене кватэры, ці з якой-іншай прычыны. Ведаў, але заўсёды рабіў выгляд, што ён нічога не чуе і не бачыць. І, можа, таму Хвядос

Бычок пры кожным зручным выпадку стараўся аддзячыць бухгалтару-рэвізору.

У магазіне доўга не забавіліся: хапілі, як што гарачае, пляшку, і толькі іх там і бачылі. Але зноў перад дружбакамі ўзнікла праблема: дзе спаражніць пасудзіну? Хвядос пусціўся ў разважанні і наракапні:

— От жа, не кажы ты, завялі парадкі: беднаму чалавеку і пляшку раздавіць няма дзе. Бывала, у кожным ларку можна было прычасціцца. Дык некаму ж гэта замінала. Цяпер хоць за вугал дзе хавайся ды нагбом з рыльца.

— Дык чаго там нагбом. Да мае ж хаты рукой падаць, то і пойдзем.

— А буркатня твая?

— Яе няма дома. На другой змене працуе.

— То іншая справа,— узрадаваўся Бычок.

І вось яны за Стрынадкавым сталом. На стале круглая рыжаватая цыбуліна, зубок часнаку ды акрайчык чэрствага хлеба, а над усім гэтым узвышалася, быццам ганарылася, бутэлька. Яна па чарзе нагіналася то над адной, то над другой гранёнай шклянкай, булькала. А тыя ў сваю чаргу падняліся, стукнуліся, і ў звоне іх быццам чулася: «Будзьма!» — «Будзьма!»

Шклянка за шклянкаю — і бутэлька спаражнілася. Хвядос Бычок сядзеў як на цвіках. Хоць ногі былі і нетрывалыя, яны рваліся ў бег.

— Дык я схаджу цераз вуліцу,— набіваўся ён.

— Скокні, як маеш ахвоту,— згаджаўся гаспадар.

Толькі тады, як Бычок выйшаў, Стрынадка заўважыў, што ў пакоі аблупленыя сцены, і здзівіўся: «Навошта гэта яна?»

Хвядос доўга не забавіўся. На стол стала другая, поўная як вока, пляшка-чырвонагалоўка. Але адкаркоўваць яе Бычок не спяшаўся.

— Дык няўжо твая гаспадыня ніякага прыварку не згатавала?

Гаспадар кінуўся шукаць па ўсіх кутках. Бразгацеў місамі, каструлямі. Нарэшце з радаснай палёгкай выгукнуў:

— Ёсць! Ёсць!

— Што ёсць?

— Самая смачная страва — зацірка. І паставіў на стол вялізную, як не ў калена, мурзатую каструлю.— Дык мо талеркі?..— папытаў ён у госця.

— На ліха яны, і так управімся. Давай лыжкі.

Пад самую смачную страву кульнулі па поўнай, да самых краёчкаў, шклянцы і пачалі нырцаваць вялізнымі алюмініевымі лыжкамі.

— Недасаліла, недасаліла,— наракаў Бычок.

— Салам не засквaрыла. Мабыць, думала, як прыйдзе, то засквaрыць.

— А яна от тут засквaрыцца і даварыцца,— паказаў на жывот Бычок.

Сябры дагледзеліся дна і ў другой бутэльцы, і ў вялізнай замурзанай каструлі. Міхал ужо не памятае, калі ён выпхаў з кватэры Хвядоса Бычка. Не памятае, як ён кулём зваліўся на канапу і захроп.

Прачнуўся ён ад штурхалёў пад бакі і ніяк не мог зразумець, дзе і што ён. Кацярына наляцела на яго, як грозная віхура.

— Дзе клейсцер?!

— Які клейсцер? — не разумеў Стрынадка.

— А во гэты! — паказала на каструлю Кацярына.

— Закусілі. Паелі.

— Каб вас чэрві елі. Я ж там намяшала рознай дрэні, каб клапы не вяліся, рознай халеры, а яны закусілі. Глядзі, каб тая закуска бокам табе не вылезла.

Міхал скоса зірнуў на жонку. Моташна стала пад лыжачкай. У роце адчуваўся смак брыды, і ён не выйшаў, а вылецеў на свежае паветра.

[1966]

# ЗМЕСТ

**Сабаленка Р.**

С 12 Творы. У 2-х т. Т. 1. Аповесць; Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 414 с., 1 л. партр.

У пер.: 1 р. 80 к.

Першы том складаюць аповесць «Незамужняя ўдава» і апавяданні з раней выдадзеных кніг: «Жменя зярнят», «Блакітнае ззянне», «З пройдзеных дарог», «Пад дажджом і сонцам».

С $\frac{4702120200-017}{М302(05)-83}$ 128—82

ББК 8Бел7

Бел2

**Роман Карпович**
**СОБОЛЕНКО**

**Произведения в двух томах**

ТОМ I

*Повесть и рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар *А. Д. Куліш*
Мастак *Р. Ф. Клікушын*
Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*
Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна*
Карэктар *І. М. Паланейчык*

ІБ № 1412

Здадзена ў набор 23.03.82. Падп. да друку 06.12.82. АТ 06611. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,84+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 22,05. Ул.-выд. арк. 24,05. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2495. Цана 1 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.